## ДАРАГІ СЯБАР!



Выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое выпусціла гэтую кнігу, і Беларускае аддзяленне Савецкага дзіцячага фонду прапануюць Вам стаць удзельнікам добрай справы — унесці свой узнос у дапамогу сіротам і дзецям, якія засталіся без бацькоўскага догляду, маленькім інвалідам, кожнаму дзіцяці, якое мае патрэбу ў асаблівай дапамозе грамадства, а значыцца, кожнага з нас.

Цана на гэту кнігу, як Вы бачыце, крыху павялічана. Розніца і будзе пераведзена на канкрэтныя мэты Дзіцячага фонду. Інфармацыю пра тое, куды менавіта накіраваны гэтыя сродкі Фонд абавязваецца публікаваць у друку.

*Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Беларускае аддзяленне Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна.*

ББК 84.4(0)
З-26

Укладанне і прадмова
*С. Саладоўнікава і У. Цяткова*

З французскай, англійскай, італьянскай, японскай, польскай.
Пераклалі А. Асташонак, Г. Шупенька, І. Дабрыян, Л. Каўрус, С. Міхальчук, М. Валошка.

В сборнике публикуются произведения современных писателей-фантастов разных стран в жанре художественного рассказа и роман П. Булля «Планета обезьян».

4703000000—024
З————————148—89
М 302(03)—90

ISBN 5-340-00278-0 (беларус.)

# «ПАСТКІ» ТЭХНАЛАГІЧНАЙ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

Пераклады твораў замежнай літаратуры звычайна ставяць такія мэты, як знаёмства чытача з творчасцю яшчэ незнаёмых нам пісьменнікаў, з жыццём іншых краін, стымуляванне творчых працэсаў у сваёй літаратуры, расстаноўка станоўчых акцэнтаў у культурных сувязях і г. д. Гэты зборнік не з'яўляецца выключэннем наконт мэт, але на першым плане павінна быць усё ж стымуляванне развіцця беларускай навуковай фантастыкі. Разам з тым размова пра навукова-фантастычны жанр азначае роздум пра Чалавека і Чалавецтва.

Герой рэалістычнага твора заўсёды належыць да пэўнай нацыі, краіны, мясцовасці. Калі ж мастак у сілу свайго таленту канцэнтруе ў ім агульначалавечыя рысы, адбываецца абагульненне, і герой, які ператвараецца ў мастацкі тып, робіцца блізкі і зразумелы ва ўсіх кутках Зямлі. Як Габсек і Тарцюф, Лаура і Наташа Растова, Роланд і Ілля Мурамец. У навуковай фантастыцы таксама ёсць сюжэты і вобразы, якія прывязаны да канкрэтных краін, але адначасова яна зрабіла новы крок у мастацкім асэнсаванні свету. Пісьменнікі-фантасты ствараюць агульную карціну жыцця на Зямлі, прычым з разглядам магчымага лёсу будучыні.

Адну такую мадэль будучыні прапануе нам французскі пісьменнік П'ер Буль у рамане «Планета малпаў». Мадэль гэта неадназначная. Яе можна разумець і як парафраз гістарычнага працэсу наогул, калі ў нетрах аднаго грамадскага ладу ўзнікае новая сацыяльная сіла, якая паступова выцясняе былых «уладароў жыцця». Гэты працэс звязаны з маральным адрахленнем такіх «уладароў», стратай тымі рэальнага погляду на свет, няздольнасцю змагацца за «месца пад сонцам». Важнай дэталлю ў рамане, ад якой, дарэчы, яго герою не лягчэй, з'яўляецца поўная аналагічнасць духоўных каштоўнасцей людзей і малпаў. Гэта азначае, што цывілізацыя малпаў таксама без будучыні.

Людзі, паводле Буля, стварылі «цывілізацыю адпачынку». Мысліцельная лянота забіла ў іх усякую здольнасць да дзеянняў, да духоўных намаганняў, цікавасць да жыцця. Дарэчы, зразумела, што часта адпачынак стамляе моцных больш, чым нават вельмі цяжкая работа.

У ролі малпаў, як «змяняючай разумнай расы», у навуковай фантастыцы часта можна сустрэць робатаў, якія створаны для агрэсіўных мэт і выйшлі з-пад кантролю, і наогул працэсы, якія выходзяць з-пад кантролю вучоных, абарочваюцца супраць людзей. Галоўнае, што можна і трэба зразумець з рамана «Планета малпаў», у тым, што чалавеку ніколі нельга даваць сабе паслабленняў, захапляцца няпраўдзівымі, нават і прыгожымі «каштоўнасцямі». Бо тэхналагічны працэс, які ўсё павялічвае абароты, расстаўляе чалавецтву пасткі не толькі ў выглядзе прывіда вальготнага жыцця за кошт працуючых на яго аўтаматаў, але і ў вытворчасці зброі, усё больш магутнай, смяротнай. Мноства тэхнічных вынаходніцтваў ро-

бяць жыццё чалавека ўсё больш лягчэйшым і бесклапотнейшым, а пры аслабленні выхаваўчай работы гэта развівае эгаізм, раўнадушнасць да чужога гора, дробязнасць інтарэсаў. І ці не з'яўляецца з'яўленне СНІДа рэакцыяй прыроды на празмерную эксплуатацыю людзьмі механізма асалоды, які звязаны з палавым актам? Той жа прызначаны ў першую чаргу для прадаўжэння жыцця.

П'ер Буль напісаў раман-перасцярогу. Ён папярэджвае чалавецтва сігналам трывогі. Ці будзе гэты сігнал пачуты?

У «пасткі» тэхналагічнага працэсу ўваходзіць і пэўная інтэлектуальная агрубеласць чалавека, які звязаны з навукай, разрыў сувязей з цеплынёй пачуццяў, шчырасцю, натуральнасцю. Працэс пазнання абсалютызуецца, рацыяналізм падыходу да свету патрабуе ахвяр. Часткова гэта здараецца з-за складанасці працэсаў, якімі ўсё больш займаюцца вучоныя. Патрэбна сканцэнтраванасць, дысцыпліна. І на гэтым шляху губляецца чалавечнасць.

Пра гэта — апавяданні А. Азімава «Выродлівы хлапчук», С. Камацу «Смерць бікуні». І добра, што ў Азімава ёсць гераіня, жанчына, якая можа заступіць дарогу жорсткаму эксперыменту, якая можа ўзяць на сябе адказнасць за дзіця, што трапіла ў гэты эксперымент, які праводзяць прадстаўнікі высокаразвітой цывілізацыі. У апавяданні Камацу нікога няма, хто б пайшоў на такое. І гіне цудоўная жанчына, вечная, як сама прыгажосць.

Асаблівы выгляд «пастак», пра іх піша і П. Буль,— у ажыццяўленні вечнай чалавечай мары, каб многія віды работ рабіліся быццам «самі па сабе»... У казках джыны за адну ноч будуюць палацы, пароль «шчупаковага загаду» прымушае рухацца і сані без коней, і сякера тут сама дровы сячэ, і печ сама едзе. І вось ужо сотні тысяч робатаў паспяхова працуюць у розных краінах свету, а вучоныя ЗША, СССР, Японіі працуюць над стварэннем «штучнага інтэлекту», каб даручыць яму складаныя задачы.

Амерыканскі фантаст Р. Шэклі з'едліва і бязлітасна выкрывае гэту накіраванасць чалавечай культуры. У апавяданні «Бітва» разглядаецца біблейскі сюжэт пра Армагедон, апошнюю бітву паміж сіламі дабра і святла, з аднаго боку, і сіламі зла і цемры — з другога. Супраць полчышчаў сатаны людзі ўводзяць тэлекіруемыя танкі, робаты-знішчальнікі, ракеты... А самі сочаць за бітвай па тэлевізары са зручных і бяспечных сховішчаў. Сатана і яго войска прайграюць, «нячыстая сіла» не можа перамагчы тварэнні чалавека, які прывык ваяваць. Але раптам у сюжэце нечаканы паварот: робаты ажываюць, на іх сыходзіць «дар божы», і яны падымаюцца ў неба. Бог бярэ іх да сябе, у рай. Тады людзі мітусяцца, але што зробіш? Яны ж не ваявалі, яны ў Вялікай Бітве былі толькі гледачамі. Іронія жорсткая, але справядлівая, і яна набліжаецца да прытчы. Так, чалавек павінен браць на сябе самае складанае, самае цяжкае. Бо ён — чалавек. Тэхніка, вядома, можа многае, у будучыні зможа яшчэ больш, але галоўнае ўсё ж — чалавек!

Робат Анель у апавяданні С. Лема «Няшчасны выпадак» прызначаны для выканання шырокай праграмы работ. Ён робіць дзіўны і невытлумачальны на першы погляд учынак: здымае страхавачныя рэактыўныя кабуры, узыходзіць на гару, але выпадкова зрываецца адтуль і разбіваецца. Спецыялістам тут усё зразумела: машына сапсавалася. Аднак Піркс, герой многіх апавяданняў Лема, вопытны касманаўт і думаючы чалавек, робіць другі вывад. Ён параўноўвае дзеянні Анеля з тымі, якія сам хацеў зрабіць. Піркс на гэтай планеце марыў заняцца альпінізмам. Інструкцыі гэта забаранялі. І вось Анель парушыў забароны, якія былі ўкладзены ў яго праграму. Паводле думак Піркса, робату хацелася праверыць сябе. Гэта азначала, што ён стаў больш разумны, чым гэтага хацелася яго стваральнікам. Апавяданне па сутнасці рэалістычнае, бо псіхалагічна

правільнае. Не толькі робаты, але і жывёлы іншы раз робяць свядомыя дзеянні. Аднак робяць гэта тады, калі яны сярод людзей.

Вось мы падышлі і да другой тэмы зборніка: пераадолення «пастак» тэхналагічнай цывілізацыі. Ф. Браўн у апавяданні «Арэна» ідзе ад сітуацыі, якая зразумелая многім: вайна, неабходнасць абароны радзімы. Праўда, маштабы павялічаны, размова тут пра абарону роднай планеты, а вайна — касмічная, з другой цывілізацыяй. У цэнтры апавядання паядынак у духу традыцый старажытнасці, калі перад бітвай сыходзіліся ў смяротнай сутычцы два воіны. Аднак пройгрыш у гэтай сутычцы азначаў не толькі асабістую гібель байца, але і знішчэнне яго цывілізацыі. Тут ужо нельга сказаць, што адзін у полі не воін.

Ва ўмовах паядынку, які арганізаваны нейкім звышрозумам, ёсць штосьці накшталт падказкі — Карсану. Так, па ўмовах перамагчы павінен той, у каго будзе моцная воля да жыцця, больш мужнасці, больш розуму... Звышрозум разумее, што для яго абедзве цывілізацыі роўныя.

Гэтыя якасці сапраўды адыгрываюць важную ролю ў сутычцы, але рашаючае ўсё ж іншае: нейкая тыповая ўласцівасць байцоў, якая адлюстроўвае, магчыма, карэнную асаблівасць кожнага віду разумнага жыцця, прадстаўнікі якіх тут сустрэліся.

Не трэба пераказваць ход сутычкі. Карсан перамагае, таму што ён — *чалавек!* Таму што ён здольны спачуваць іншай істоце, суперажываць чужы боль. Так, вядома, не ва ўсіх людзей развіта гэта пачуццё, але тым не менш, якім бы жорсткім ні быў чалавек да сваіх братоў, ён, толькі калі зусім вырадак і падонак, не праявіць міласэрнасці да хворай ці раненай жывёліны. Пад словам «міласэрнасць» мы тут разумеем тое, што жывёлу проста дабіваюць, каб яна не пamірала ў пакутах. Прышэлец, праціўнік Карсана, не толькі пазбаўлены здольнасці спачуваць, наадварот, ён адчувае незразумелую нянавісць да іншых форм жыцця, напрыклад, здзекуецца з яшчаркі, нават адмаўляецца ад перагавораў з Карсанам. Карсан міласэрна дабівае скалечаную яшчарку: гэтага просіць *чалавечым голасам* другая яшчарка... Як у казцы: праяві, чалавек, дабрыню, і яна да цябе вернецца.

Гэта мадэль зразумелая кожнаму чытачу, нават не аматару навуковай фантастыкі. Але ўнутры тут чыста навукова-фантастычная тэма — тэма кантакту. Паядынак Карсана і Прышэльца — адзін з варыянтаў кантакту чалавека і другога разумнага жыхара космасу, прычым не лепшы варыянт. Жыццё ў космасе, мажа, ёсць у самых розных формах. Людзям яшчэ прывыкаць да гэтага, калі яны высадзяцца на іншых планетах. Фізіка і хімія розных планет, думаем, можа ствараць і такія формы разумнага жыцця, што мы не толькі не знойдзем з імі агульнай мовы, а проста будзем адмаўляць адзін аднаго, як у апавяданні Ф. Браўна.

А чаму б і не? І сярод жа людзей здараецца, калі два дастойныя чалавекі раптам адзін аднаго так ненавідзяць, што самі гэтаму здзіўляюцца, бо падстаў быццам бы і няма. Наогул тэма кантакту вельмі шырокая. Тут і хуткі станоўчы кантакт, калі разумныя істоты «апазнаюць» «братоў па розуму», хутка наладжваюць узаемаразуменне, тут і многа сюжэтаў пра павольнае збліжэнне... І заўсёды вялікую ролю адыгрываюць прыродныя фактары, фізічныя характарыстыкі, гісторыка-культурныя фактары. У Ф. Браўна ёсць цудоўнае апавяданне на тэму кантакту «Лялечны тэатр», дзе разумная істота — вослік, дакладней, істота ў выглядзе зямнога восліка. А што мы звычайна разумеем пад словам «асёл»?

Унутры апавядання «Арэна» ёсць яшчэ адна дэталь, вельмі важная для нас. Там дзейнічае нейкі звышрозум. Зрэшты, гэта не проста звышрозум, а цэлая цывілізацыя, якая дасягнула такога ўзроўню развіцця, што злілася ў адзінае цэлае. Пра яе магчымасці сведчыць сама «арганізацыя» паядынку. Аднак справа ў тым, што чалавечая цывілізацыя, на дум-

ку гэтага звышрозуму, мае перспектывы стаць такой жа формай арганізацыі розуму. Па-філасофску, калі разглядаць будучага чалавека — гэта цудоўная, аптымістычная ідэя, грандыёзная і яркая. Заўважыць, што яна чыста фантастычная,— значыць адмовіцца ад магчымага напрамку развіцця. А калі разгледзець эвалюцыю розуму на Зямлі, паглядзець на чалавека з любоўю і зычлівасцю, але ў той жа час патрабавальна, то ў такім варыянце будучага нашага віду няма нічога звышнатуральнага. Не спынілася ж цячэнне біялагічнай гісторыі на цяперашнім абліччы чалавека! І каб ісці такім шляхам, трэба знішчыць усе «пасткі» тэхналагічнай цывілізацыі ці хоць бы не трапіць у іх.

Правамерна з'яўляецца вельмі складанае пытанне. *Гэта пытанне мэты:* чым можа займацца звышрозум? Не гульнёй жа з самім сабой у шахматы! Трэба думаць, што мэты ён сабе наметціць адпаведныя. Напрыклад, як гэта паказвае Ф. Браўн, падтрымка ачагоў розуму ў Сусвеце, ліквідацыя, праўда, у спецыфічнай форме, ваенных канфліктаў...

Нельга не сказаць пра канцоўку апавядання. Рэдкі чытач не атрымае эмацыянальнага шоку. Карсан перамагае. Ён выратоўвае і сябе,і сваю цывілізацыю. *Але ён нікому і ніколі не зможа расказаць пра свой подзвіг.*

Псіхалагічны нюанс: мы ведаем, што за подзвіг належыць узнагарода. Такія маральныя законы ў людзей. А тут нічога нельга нават патрабаваць. Толькі — вечная тайна і маўчанне.

А можа, ёсць такія подзвігі, якія немагчыма ацаніць? Калі любая ўзнагарода будзе нікчэмнай і дробязнай? Якую ўзнагароду павінен атрымаць чалавек, які выратаваў сваю маці? Або сваіх дзяцей? Або сваіх братоў?

Яшчэ адзін паядынак мадэліруе А. Э. Ван-Вогт у апавяданні «Пачвара». Тут суадносіны сіл: «адзін супраць многіх». Перамагае адзіночка. Такія сюжэты заўсёды цікавыя. Барацьба завяршаецца перамогай чалавека, бяззбройнага і, да таго ж, толькі што ўваскрэшанага. Гэта карціна хуткага «ўваходжання» героя ў сітуацыю, яго імгненная рэакцыя дае не толькі сапраўдную эстэтычную асалоду. Тут мы зноў бачым варыянт кантакту: ваеннае сутыкненне. Тут ёсць і зямная гісторыя з яе войнамі за сусветнае панаванне. Дастаткова ўявіць, што камусьці *гэта* ўдалося, і тады пры імклівым росце насельніцтва, імклівым развіцці тэхнікі экспансія накіруецца ў космас. І тады ў нас будуць сюжэты барацьбы за «жыццёвую прастору» ў космасе.

Гэта ўсё, вядома, спрэчна, а вось вобраз героя апавядання ў вышэйшай ступені аптымістычны. На самай справе, чаму б у будучым не развіцца такім якасцям, як тэлекінез, тэлепатыя, тэлепартацыя, індывідуальнае сілавое поле, уменне перасоўвацца ў касмічнай прасторы без усякай тэхнікі, адной толькі сілай думкі. Нямала ж схавана ў тайніках арганізма чалавека. Адно з двух: ці прырода «беражэ» гэтыя якасці і чакае, калі чалавек пасталее маральна, дарасце да іх і не паверне іх супраць самога сябе. Магчыма і другі шлях: праз вельмі і вельмі развітую тэхніку і навуку чалавек умешваецца ў сваё цела, «падпраўляе» яго, атрымлівае новыя якасці. Дарэчы, і тут на першым месцы — выпрацоўка сапраўднай чалавечнасці і маралі. Толькі на гэтым шляху можна пазбегнуць «пастак» цывілізацыі.

Да апавяданняў Ф. Браўна і Ван-Вогта і прымыкае «Месяц дваццаці рук» італьянскага пісьменніка Л. Альдані. Перад намі зноў экстрэмальная сітуацыя, людзі шукаюць і знаходзяць выхад, даволі арыгінальны. Аднак застаецца і ўнутранае незадавальненне ад апавядання. Магчыма, таму, што лёс урача двайсты: тут і пакуты сумлення — быццам убаку аказаўся, хоць і выканаў ролю футбаліста, з падачы якога забіты ўсе галы ў пераможным матчы. Але тут таксама і пакуты зайздрасці да славы таварышаў.

чаму б і не? Фізічна касманаўты будуць падрыхтаваны цудоўна, як і ў наш час, а вось у маральных адносінах?..

Так, тэхналагічная цывілізацыя пры сваім развіцці робіць чалавечую душу больш сухой, халоднай, грубай, «рацыянальнай». Гэта тым больш дзіўна і непажадана, таму што дзеянні чалавека становяцца больш грандыёзнымі. Вось тут, бадай, знаходзіцца адна з самых небяспечных «пастак» цывілізацыі, таму што яна адносіцца да чалавечай душы.

Пераадолець гэту «пастку» можна толькі мастацтвам. Сапраўдны мастак можа адкрыць людзям вочы на прыгажосць свету, узвысіць чалавека рамантычна, унесці ў яго душу цяпло. Генры Філд у апавяданні Р. Брэдберы «Пра вандраванні вечныя і пра Зямлю» выклікае з мінулага не жывапісца, не кінарэжысёра, не скульптара, а пісьменніка. XXIII стагоддзе, «ракеты, атамныя цуды, вандраванні да чужых планет і двайнога сонца...». І ніхто з пісьменнікаў не можа апісаць гэта. Спрабавалі ўсе, але ні ў кога не атрымалася. І тады з дапамогай спецыяльна пабудаванай «машыны часу» з 1938 года бярэцца Томас Вулф, амерыканскі пісьменнік, празаік з магутным лірычным талентам.

Р. Брэдберы, чый стыль блізкі да стылю Вулфа, напісаў сваё апавяданне пасля таго, як пазнаёміўся з пісьмом Вулфа, якое было напісана 12 жніўня 1938 года, за месяц да смерці Вулфа: «Я зрабіў доўгае падарожжа і пабываў у дзіўнай краіне, і я вельмі блізка бачыў чорнага чалавека (маецца на ўвазе «чорны чалавек», які наведаў Моцарта перад смерцю, цяпер гэты вобраз стаў моцнай і своеасаблівай метафарай.— *С. С. і У. Ц.*)... Я адчуваю сябе так, як калі б скрозь шырокае акно паглядзеў на жыццё, якога не ведаў ніколі раней...»

Пісьменнік-фантаст Р. Брэдберы ўбачыў тайну ў гэтых словах, і з'явілася цудоўнае апавяданне. Вулфа выклікаюць у будучыню, каб ён апісаў XXIII стагоддзе, каб ён адкрыў людзям навакольны свет, напоўніў яго фарбамі, пахамі, рухам, сэнсам. Каб ён паказаў людзям, якое цудоўнае жыццё. І ён напісаў пра космас і пра чалавека, пра міжпланетныя караблі, пах металу, пра нястрымныя захапленні, з якімі адрываешся ад Зямлі і імкнешся да задачы больш цяжкай, да суму больш горкага. Ён апісаў марсіянскія гарады, параўнаў іх з камянямі, якія знесены з горных вяршынь нейкай імклівай, неверагоднай лавінай і застылі нарэшце зззяючымі россыпамі...

Брэдберы ўзяў матыў Вулфа, але сутнасць апавядання аб большым, чым толькі захапленне мастака светам. Тут і вечная праблема адлюстравання і пазнання мастаком сваёй эпохі, і вечнае імкненне паэта расказваць аб велічы чалавека.

Праблема складаная. Сапраўды, Гамер напісаў свае вялікія паэмы праз 300—400 гадоў пасля Траянскай вайны. «Песня пра Нібелунгаў» канчаткова сфарміравалася ў XXII — XXIII стагоддзях і расказвае аб гібелі Бургундскага каралеўства ў V стагоддзі. Рускія быліны складаліся ў XVI — XVIII стагоддзях, але ў іх жа — водгукі на падзеі ў Кіеўскай Русі X — XIII стагоддзяў.

Такім чынам, ёсць нейкая заканамернасць, у адпаведнасці з якой паэтычны матэрыял для буйных літаратурных твораў накопліваўся стагоддзямі, перш чым з'яўляўся геніяльны паэт, які здольны ўвасобіць яго ў цэльны і яркі мастацкі твор.

І пакуль толькі Уладзімір Маякоўскі змог магутна, цэльна, шчыра адлюстраваць і Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю, і вобраз яе правадыра У. І. Леніна. І побач да гэтага часу паставіць няма

каго, а ў сучаснасці яшчэ няма паэта, які быў бы здольны на сапраўды эпічную прапрацоўку вялікага матэрыялу.

Ну, а калі б нам давялося выбіраць, каго з беларускіх пісьменнікаў трэба «выцягнуць у будучыню», каб апісаць яе, мы б узялі Уладзіміра Караткевіча.

Зборнік заканчваецца лірычным апавяданнем Э. Ф. Расела «Неба, неба...». Чалавек выбірае свой шлях, ідзе па ім, робіць намаганні і дабіваецца перамог. Але заўсёды ў ім павінна жыць памяць пра дзяцінства, радзіму. І ўсюды, куды б ні закідаў яго лёс, ён павінен захоўваць у сабе, у сваёй душы сапраўдны пачатак, тое зерне, з якога ён вырас як асоба.

*С. САЛАДОЎНІКАЎ,*
*У. ЦВЯТКОЎ*

# П'ЕР БУЛЬ

# ПЛАНЕТА МАЛПАЎ

*Раман*



## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### Раздзел I

Джын і Філіс бавілі час, вандруючы ў космасе ўдалечыні ад населеных сусветаў.

Міжпланетныя вандроўкі сталі ўжо звычайнай справай, дый міжзорныя пералёты не лічыліся сенсацыйнымі. Зоркалёты рэгулярных ліній дастаўлялі турыстаў у казачныя гарады Сірыуса, а фінансавых тузоў — на знакамітыя біржы Арктура і Альдэбарана[1]. Але Джын і Філіс, гэтая пара нічым не занятых дзетак мультымільянераў, былі вядомыя сваёй эксцэнтрычнасцю і схільнасцю да рамантыкі. Шукаючы задавальнення, яны падарожнічалі ў бязмежнай прасторы пад ветразямі.

Іх касмічная яхта ўяўляла сабою нешта накшталт сферы, знешняя абалонка якой — незвычайна тонкі і лёгкі ветразь — надзімалася пад уздзеяннем светлавых промняў. Калі б гэты міні-карабель застаўся без кіравання непадалёк ад якойсьці зоркі — аднак на дастатковай ад яе адлегласці, там, дзе сіла прыцягнення не надта вялікая,— ён бы памкнуўся назад ад гэтай зоркі па прамой лініі. Але зорная сістэма, жыхарамі якой былі Джын і Філіс, мела не адно, а ажно тры сонцы, даволі блізка адно ад аднаго, таму сонечныя вятры ў ёй дзьмулі з трох бакоў пад рознымі вугламі. І вось Джын прыдумаў сапраўды дзіўны спосаб перамяшчэння. На сферычным ветразі яго карабля было мноства чорных штор, якія згортваліся ці разгортваліся ў залежнасці ад жадання рулявога — пры кожным яго манеўры мянялася здольнасць адбіцця, а адначасова з ёю і накірунак раўнадзейных сіл светлавых патокаў. Апроч таго, эластычная сфера-ветразь магла расцягвацца або ска-

[1] Сірыус, Арктур, Альдэбаран — найярчэйшыя зоркі ў сузор'ях Вялікага Пса, Валапаса, Цяльца.

рачацца, і калі Джын хацеў паскорыць ход, ён павялічваў дыяметр абалонкі да максімуму — тады велізарная плошча ветразя надзімалася пад націскам светлавых патокаў, і яхта імкліва ляцела ў неабсяжнасць з фантастычнай хуткасцю, ад якой у Джына і яго сяброўкі кружылася галава; захопленыя палётам, яны абдымаліся і заміралі, гледзячы ў таемную бездань бязмежных абсягаў, што несліся насустрач ім. Калі ж Джын хацеў запаволіць ход, то націскаў другую кнопку. Сферычны ветразь сціскаўся настолькі, што ў кабіне можна было сядзець, толькі шчыльна прыціснуўшыся адно да аднаго. Ціск светлавых промняў амаль не ўплываў на малюпасенькі шар, і, вольны ў сваім руху, ён быццам павісаў у пустэчы на нябачнай нітцы. Маладую пару забірала салодкае ап'яненне, і яны бавілі доўгія гадзіны ў сваім цесным, створаным толькі для іх маленечкім свеце, які Джын параўноўваў з паруснікам у неабсяжным акіяне, а Філіс — з бурбалкай на павуцінцы вадзянога павука.

Джын выдатна выконваў і іншыя манеўры, нават такія, што лічыліся ў касмічных яхтсменаў найскладанейшымі, напрыклад, паварот оверштаг[1] з выкарыстаннем ценю ад планеты ці якогасьці спадарожніка. Ён вучыў свайму майстэрству і Філіс, і неўзабаве тая магла ўжо кіраваць яхтай не горш за яго, нават была смялейшая. Але варта было ёй узяць у рукі руль, як, захапіўшыся, яна выбірала такі курс, што яхта падыходзіла да самых межаў Сонечнай сістэмы, а там магнітныя буры разбуралі светлавыя патокі, і іх карабель пачынала кідаць, бы арэхавую шкарлупіну. Ужо некалькі разоў Джын, прачнуўшыся ў такую штармавую хвіліну, ускокваў бы ашпараны і вырываў у сяброўкі руль. Іншы раз, каб дабрацца да бліжэйшага порта, яму нават прыходзілася ўключаць дадатковыя ракеты, прадугледжаныя на выпадак крайняй небяспекі.

У той дзень Філіс і Джын бесклапотна ляжалі побач у яхце і загаралі пад промнямі трох сонцаў іх роднай сістэмы. Джын драмаў і думаў пра Філіс і пра сваё да яе каханне. Філіс глядзела ў неабдымны космас, загіпнатызаваная бясконцасцю пустэчы. Гэта быў адзін з любімых яе заняткаў.

Раптам Філіс уздрыгнула і прыўзнялася. Недзе наперадзе бліснула дзіўная іскарка. Прайшло колькі секунд,

---

[1] Оверштаг (гал. overstag) — паварот судна з ветразямі носам да сустрэчнага ветру.

і іскарка бліснула зноў. Філіс адразу ж сказала Джыну, што светлавы прамень сустрэў, напэўна, нейкі зіхоткі прадмет. Інтуіцыя, набытая Філіс у касмічных падарожжах, не магла падмануць яе. Згадзіўся з сяброўкай і Джын, а ён у такіх выпадках не памыляўся. Непадалёк ад яхты — вызначыць адлегласць было цяжка — у космасе плыло нейкае зіхоткае цела. Джын схапіў бінокль і стаў углядацца ў таямнічы прадмет. Філіс нецярпліва прытулілася да пляча свайго прыяцеля.

— Рэч невялікая,— сказаў Джын.— Здаецца, шкляная... Пачакай, дай угледзецца!.. Яна набліжаецца... Хуткасць большая за нашую... Слухай...

На твары ў Джына было здзіўленне. Ён нават выпусціў з рук бінокль, які Філіс адразу ж падхапіла.

— Дарагая, гэта ж бутэлька.

— Бутэлька?

Філіс таксама паглядзела ў бінокль.

— Але, бутэлька... Ну, вядома. Са светлага шкла... Заткнутая: бачу корак. А ўсярэдзіне штосьці белае. Напэўна, папера... Запіска! Джын, трэба яе злавіць!

Джын, відаць, думаў пра тое самае, бо адразу ж пачаў спрытна лавіраваць, каб перахапіць бутэльку. Яму ўдалося амаль імгненна змяніць курс і зменшыць хуткасць — з такім разлікам, каб бутэлька прайшла акурат побач з яхтаю. Пакуль ён манеўраваў, Філіс паспела надзець скафандр і выйсці праз перадабалонкавую камеру на вонкавы бок сферычнага ветразя. Учапіўшыся за трос, з сачком на доўгім дзяржанні ў другой руцэ, яна рыхтавалася да сустрэчы з бутэлькаю.

Філіс і Джын ужо не раз удавалася злавіць сачком у космасе розныя рэчы. Плаваючы паціхеньку альбо амаль нерухома павісаючы ў пустэчы, яны ўбачылі багата дзіўнага і зрабілі цікавыя адкрыцці, якімі не пахваліцца ў звышхуткіх палётах на зоркалёце. Філіс вылоўлівала кавалачкі былых планет, рэшткі метэарытаў з іншых галактык і нават спадарожнікаў, запушчаных яшчэ на самым пачатку касмічнае эры. Яна ганарылася сваёй калекцыяй, але бутэлька, ды яшчэ з рукапісам — а сумненняў у гэтым ужо не было,— сустракалася ўпершыню! Філіс ажно дрыжала ад нецярпення. Пагойдваючыся на тросе, бы павучыха на павуціне, яна аддавала сябру па тэлефоне загады:

— Цішэй, Джын!.. Не, крыху хутчэй, а не то яна нас перагоніць... Левы борт... правы борт... Уперад... Усё, злавіла!

Радасна крыкнуўшы, Філіс вярнулася ў кабіну.

У руках у яе сапраўды была вялікая, дбайна закаркаваная бутэлька. Усярэдзіне можна было разгледзець тоўсты папяровы скрутак.

— Разбі яе, Джын, хутчэй!— ледзь не калацілася Філіс, умольваючы сябра.

Аднак Джын адкалупваў кавалачкі воску спакойна і акуратна. Ды толькі ён адкаркаваў нарэшце бутэльку, як выявілася, што дастаць з яе скрутак зусім немагчыма, такі ўжо тугі ён быў. Тады прыйшлося ўступіць нецярплівым просьбам сяброўкі і разбіць бутэльку малатком. Скрутак адразу ж разгарнуўся сам. Гэта быў стос танюткіх аркушаў, спісаных дробным почыркам. Мова запісаў была зямная — Джын валодаў ёй дасканала, бо некалькі гадоў вучыўся на Зямлі.

Але раптам Джына апанавала незразумелая трывога, і ён ніяк не хацеў пачынаць чытання рукапісу ўголас. І каб не просьбы ўзбуджанай Філіс, якая дрэнна разумела зямную мову і не магла, як ні жадала, прачытаць рукапіс сама, ён, магчыма, так і не адкрыў бы сяброўцы тайну гэтых запісаў, што так выпадкова трапілі ім у рукі.

Джын зменшыў памеры ветразя да мінімуму, каб яхта павісла ў прасторы, упэўніўся, што вакол няма ніякае небяспекі, і, выпрастаўшыся побач з Філіс, пачаў чытаць.

## Раздзел II

«Я давяраю гэты рукапіс космасу не дзеля таго, каб паклікаць некага на дапамогу, а спадзеючыся адно на тое, што змагу прадухіліць жудасную пагрозу, якая навісла над родам чалавечым. Няхай бог злітуецца з нас!..»

— Пагрозу над родам чалавечым?— здзіўлена спыталася Філіс.

— Але, так тут напісана. Не перапыняй мяне больш,— сказаў Джын і пачаў чытаць далей.

«...Што ж да мяне, Уліса Меру, то я са сваёй сям'ёю на борце касмічнага карабля, дзе мы зможам жыць яшчэ доўгія гады. У нас ёсць агарод, сад, жывёла. Мы ні ў чым не адчуваем недахопу. Магчыма, калі-небудзь мы знойдзем якуюсьці гасцінную планету. Але пакуль што гэта толькі мара. А зараз я праўдзіва і падрабязна раскажу ўсё, што са мною здарылася.

У дзве тысячы пяцісотым годзе я падняўся разам з двума маімі старэйшымі таварышамі на борт касмічнага

карабля, каб даляцець да планет, над якімі велічна ззяе звышгіганцкая зорка Бетэльгейзе.

Гэта была смелая задума, самая грандыёзная з усіх, на якія толькі калі-небудзь адважваліся ў космасе зямляне. Зорку Бетэльгейзе, альфу Арыёна, як называюць яе нашы астраномы, аддзяляюць ад нашай планеты амаль трыста светлавых год. Зорка гэтая мае цэлы шэраг асаблівасцей.

Перш за ўсё памеры: дыяметр яе пераўзыходзіць дыяметр нашага сонца ў чатырыста пяцьдзесят разоў, інакш кажучы, калі б яна стала на ягонае месца, то распасцерлася б ажно да Марса.

Па-другое, сіла святла, бо Бетэльгейзе — зорка першага класа, самая яркая ў сузор'і Арыёна, бачная з Зямлі голым вокам, нягледзячы на велізарную адлегласць.

Па-трэцяе, спектр выпраменьвання: ні з чым не параўнальныя ў надзвычайнай сваёй прыгажосці чырвоныя і аранжавыя промні.

І нарэшце, зорка гэтая — пераменнае яркасці. Яна ўвесь час пульсуе, і інтэнсіўнасць свячэння бесперапынна мяняецца ў залежнасці ад змянення яе дыяметра.

Але чаму ўсё ж такі, калі было высветлена, што ўсе планеты Сонечнай сістэмы ненаселеныя, абралі мы мэтаю першага міжзорнага пералёту такую далёкую Бетэльгейзе? Рашэнне гэтае прыняў прафесар Антэль, галоўны арганізатар, кіраўнік і фінансіст экспедыцыі. Ён сам стварыў праект нашага касмічнага карабля, сам назіраў за яго пабудоваю. Свой выбар ён растлумачыў мне ў час палёту.

— Шаноўны Уліс,— сказаў ён,— палёт да Бетэльгейзе, па сутнасці, зусім не цяжэйшы і хіба што крыху далейшы, чым пералёт да любой бліжэйшай зоркі, напрыклад, да Праксімы Цэнтаўра [1].

Але тут я рашуча запратэставаў, пахваліўшыся набытымі нядаўна астранамічнымі ведамі:

— Толькі крыху далейшы?! Да Праксімы Цэнтаўра ўсяго чатыры светлавыя гады, у той час як да Бетэльгейзе...

— ...цэлых трыста,— перапыніў мяне прафесар,— не думайце, што я на гэта забыўся. Аднак да Праксімы Цэнтаўра нам прыйшлося б ляцець амаль столькі ж ці толькі крышачку менш, чым да Бетэльгейзе, куды мы даляцім

---

[1] Цэнтаўр — вялікае сузор'е паўднёвага паўшар'я зорнага неба, у якім знаходзіцца самая блізкая да Зямлі зорка — Праксіма Цэнтаўра.

праз нейкія два гады. Вы не даяце мне веры, бо прывыклі да нашых міжпланетных пералётаў, гэтых блышыных скачкоў, калі дапушчальнае максімальнае паскарэнне доўжыцца ўсяго толькі некалькі хвілін, а крэйсерская хуткасць у параўнанні з нашай смеху вартая... Час ужо, бадай, растлумачыць вам, як рухаецца наш зоркалёт. Дзякуючы ўдасканаленым ракетам, якія мне ўдалося вынайсці, наш касмічны карабель здольны перамяшчацца ў прасторы з найвышэйшай хуткасцю, якую толькі можа набраць матэрыяльнае цела. Па сутнасці, яна амаль роўная хуткасці святла. А калі мы рушым з такой хуткасцю, наш час істотна адрозніваецца ад зямнога, і чым хутчэй мы ляцім, тым большая гэтая розніца. Напрыклад, цяпер вось, пакуль мы гаворым, у нас у зоркалёце прайшло ўсяго толькі некалькі хвілін, а на Зямлі — некалькі месяцаў. Калі ж мы набяром гранічную хуткасць, час для нас амаль спыніцца, хоць мы гэтага і не будзем заўважаць. Тады некалькі секунд для вас і мяне, некалькі ўдараў сэрца для вас і мяне будуць раўняцца многім гадам жыцця на Зямлі.

— Разумею. Менавіта гэта дае нам надзею дабрацца да мэты раней, чым мы памром ад старасці. Але чаму ў такім выпадку нашае падарожжа зойме два гады? Чаму не некалькі дзён ці некалькі гадзін?

— Якраз да гэтага я вас і падводжу. Усё вельмі проста: каб набраць максімальную хуткасць, калі час амаль спыняецца, нам спатрэбіцца каля года, бо наш арганізм проста не вытрымае большага паскарэння. І яшчэ год пойдзе на тармажэнне. Цяпер вы ўяўляеце графік палёту? Год на паскарэнне, год на тармажэнне, а ў сярэдзіне ўсяго толькі некалькі гадзін, але за гэтыя гадзіны мы пройдзем найвялікшую частку нашага маршруту. Думаю, у вас не будзе больш пытанняў, чаму гэта пералёт да Бетэльгейзе зойме ў нас толькі крышачку больш, чым пералёт да Праксімы Цэнтаўра. У апошнім выпадку нам усё роўна прыйшлося б правесці ў зоркалёце год, неабходны на паскарэнне, і яшчэ год — на тармажэнне, хіба што паміж імі было б некалькі хвілін замест некалькіх гадзін, як у нашым палёце. Розніцы ніякай. Я ўжо старэю і наўрад ці змагу калінебудзь яшчэ выправіцца ў такую экспедыцыю, таму і абраў далёкую мэту — спадзяюся адшукаць сусветы, якія вельмі адрозніваюцца ад нашага.

Падобныя гамонкі дапамагалі нам бавіць вольны час, і пасля кожнай з іх мной апаноўвала ўсё большая павага да мудрасці прафесара: не было ў навуцы вобласці, яму незнаёмай, і мне заставалася толькі радавацца, што нашу

рызыкоўную экспедыцыю ўзначальвае гэтакі эрудыт. Як і прадбачыў прафесар Антэль, дарога да Бетэльгейзе заняла два гады нашага ўласнага часу, за якія на Зямлі прайшлі тры з паловай стагоддзі. У гэтай вось акалічнасці і быў адзіны недахоп такой далёкай экспедыцыі: калі нам нават і ўдалося б шчасліва вярнуцца назад, то апынуліся б мы ўжо на планеце, якая пастарэла на семсот — восемсот гадоў. Але пра гэта мы пакуль што не думалі. Падазраю нават, што мажлівасць збегчы ад свайго пакалення зямлян таксама вабіла прафесара. Ён часта прызнаваўся, што стаміўся ад людзей...

За ўвесь палёт у нас не было ніводнай сур'ёзнай непрыемнасці. Стартавалі мы з Месяца. Зямля і ўсе астатнія планеты хутка зніклі з поля зроку. Сонца імкліва змяншалася, пакуль не ператварылася ў аранжавы шар велічынёю з апельсін, потым стала меншае за сліву і нарэшце зрабілася маленькай зіхоткай кропкай, толькі адной з мільярдаў зорак нашай галактыкі, распазнаць якія ўдалечыні мог хіба што эрудыт Антэль.

Так што жылі мы без Сонца, але нічога непрыемнага праз тое не адчувалі: на караблі было штучнае святло, эквівалентнае сонечнаму. Не ведалі мы і нуды. Прафесара можна было слухаць гадзінамі. Чаго толькі я не ўведаў за гэтыя два гады — больш чым за ўсё папярэдняе жыццё! Займеў я і неабходны вопыт у кіраванні зоркалётам. Гэта было досыць проста: давалася заданне электронным прыборам, і яны самі рабілі ўсе разлікі і дакладна вызначалі курс.

Багата радасці прыносіў нам сад, які займаў на караблі шмат месца. Апроч усяго іншага, прафесар Антэль цікавіўся батанікай і сельскай гаспадаркай і імкнуўся праверыць некаторыя свае тэорыі развіцця раслін у касмічных умовах. Вопытным участкам была аранжарэя ў дзесяць кубічных метраў. Дзякуючы шматлікім стэлажам аб'ём нашай аранжарэі выкарыстоўваўся цалкам. Грунт пастаянна абнаўляўся хімічнымі ўгнаеннямі, і ўжо праз два месяцы з дня адлёту на градках пачала спець на нашую радасць усялякая гароднiна, так што мы мелі здаровай свежай ежы колькі было трэба. Клапоцячыся пра карыснае, не забыліся мы і на прыемнае: адвялі адну секцыю аранжарэі пад кветнік — прафесар даглядаў яго асабліва дбайна. Гэты арыгінал захапіў з сабою яшчэ і некалькі птушак, матылькоў і нават адну малпу, маленькага шымпанзэ, якога мы назвалі Гектарам,— гарэза бавіў нас усю дарогу.

Я зразумеў з нашых гаворак, што прафесар досыць скептычна ставіўся да людзей. Ён часта казаў, што людзі — істоты, мякка кажучы, не зусім ідэальныя, і, напэўна, менавіта таму ў велізарным караблі, у якім магла б спакойна размясціцца не адна сям'я, была процьма ўсялякіх раслін, некалькі жывёлін і толькі тры чалавекі: сам Антэль, яго вучань Артур Левэн, малады фізік з вялікай будучыняй, і я, Уліс Меру, малавядомы журналіст — прафесар пазнаёміўся са мною, калі я браў у яго інтэрв'ю. Ён прапанаваў мне прыняць удзел у экспедыцыі, даведаўшыся, што ў мяне няма сям'і і што я добра гуляю ў шахматы. Мне, журналісту-пачаткоўцу, гэта была грандыёзная ўдача. Нават калі б удалося апублікаваць рэпартаж толькі праз восемсот гадоў — а можа, менавіта якраз таму, што праз восемсот гадоў! — мой матэрыял быў бы унікальны. Я з радасцю згадзіўся.

Падарожжа праходзіла без непрадбачаных здарэнняў. Адзінае, што замінала нам, дык гэта павелічэнне цяжару ў час разгону і тармажэння. Прыйшлося прывыкаць да таго, што мы ўжо важылі раза ў паўтара больш, чым на Зямлі. Спачатку стамляліся, аднак хутка асвойталіся і перасталі звяртаць на гэта ўвагу. Паміж перыядамі паскарэння і тармажэння мы былі ў стане поўнай бязважкасці, што спрычыніла розныя смешныя выпадкі, але гэта доўжылася ўсяго толькі некалькі гадзін, так што шкоды мы праз тое не мелі ніякай.

І вось нарэшце пасля доўгіх месяцаў палёту настаў дзень, калі мы з хваляваннем убачылі, як пачала расці на нашых вачах запаветная мэта — зорка Бетэльгейзе.

## Раздзел III

Немагчыма расказаць, якія пачуцці выклікае такое відовішча. Зорка, якая яшчэ ўчора была маленькая зіхоткая кропачка, безыменная для нас, як і вялікае мноства ўсіх астатніх падобных адна на адну кропачак на бязмежным зорным небе, рабілася спакваля ўсё ярчэйшаю, большаю, блізкаю. Спачатку яна была бліскучым арэшкам, пасля ператварылася ў жоўценькі апельсін і, нарэшце, пачырванеўшы, спадобілася нашаму роднаму сонейку перад захадам. Нарадзілася наша новая нябесная маці, і мы ўжо штодня адчувалі яе цяпло і прыцягненне.

У той час зоркалёт ужо дужа знізіў хуткасць. Мы набліжаліся да Бетэльгейзе да тае пары, пакуль зорка не пе-

ракрыла сабою ілюмінатар. Яна была непараўнальна большая за ўсе бачаныя намі раней нябесныя целы — уражанне было проста казачнае. Антэль задаў прыборам новую праграму, і мы пачалі кружыць вакол звышгіганцкай зоркі. Пасля прафесар адрэгуляваў астранамічныя прыборы і пачаў назіранні.

Неўзабаве яму ўдалося адшукаць у сістэме чатыры планеты, вылічыць іх дыяметры і арбіты, па якіх яны круціліся вакол Бетэльгейзе. Адна з гэтых планет, другая ад зоркі, мела арбіту, блізкую да зямной. Яна была прыкладна тых самых памераў, што і Зямля, з атмасферай з кіслароду і азоту, і, плывучы ў трыццаць разоў далей ад Бетэльгейзе, ніж Зямля ад Сонца, атрымлівала прыблізна тую ж колькасць цяпла, што і наша планета: гэта тлумачылася памерамі зоркі і яе параўнальна невысокай тэмператураю.

Мы вырашылі пачаць спярша даследаваць менавіта гэтую планету. Прыборы атрымалі новую праграму, і зоркалёт хутка выйшаў на пастаянную арбіту. Тут, спыніўшы рухавікі, мы маглі добра прыгледзецца да нашай абранніцы. Праз тэлескоп былі бачныя моры і кантыненты.

Наш карабель быў дрэнна прыстасаваны пад пасадкі на планеты. Дзеля гэтага былі прадугледжаны тры маленькія ракетапланы, якія мы называлі катэрамі. У адным з іх мы і размясціліся ўтрох, прыхапіўшы некаторыя вымяральныя прыборы, а таксама Гектара; у шымпанзэ, як і ва ўсіх нас, быў скафандр, да якога ён ужо прызвычаіўся ў час палёту. Што ж да зоркалёта, дык мы пакінулі яго на пастаяннай арбіце непадалёк ад планеты. Там ён быў у большай бяспецы, чым карабель на якарнай стаянцы ў порце, мы ведалі, што аўтаматыка не дасць яму адхіліцца ад арбіты.

Сесці на планету такога тыпу, што мы абралі, было ў нашым катэры зусім нескладана. Толькі мы ўвайшлі ў шчыльныя слаі атмасферы, як прафесар узяў на аналіз пробы паветра. Антэль прыйшоў да высновы, што на гэтай вышыні састаў паветра дакладна адпавядае зямному. Я не паспеў нават усвядоміць усёй важнасці такога цудоўнага супадзення: планета хутка набліжалася, і неўзабаве мы былі ўжо на вышыні не больш пяцідзесяці кіламетраў. Усе манеўры рабіліся аўтаматамі, і мне заставалася адно прыціснуцца тварам да ілюмінатара і назіраць, як імкліва набліжаўся невядомы свет, з хваляваннем прадчуваючы адкрыцці, што чакалі нас у ім.

Планета была проста надзіва падобная на Зямлю. Уражанне гэтае няспынна ўзмацнялася. Цяпер я ўжо на свае вочы бачыў контуры мацерыкоў. Паветра было блакітнае, чыстае, трохі зеленаватае, афарбаванае дзе-нідзе аранжавымі блікамі, як у нас у Правансе на схіле дня. Акіян таксама быў блакітнаваты з зялёным адценнем. Рысы ўзбярэжжа адрозніваліся ад усяго, што бачыў я на Зямлі, хоць я і імкнуўся ўпарта знайсці падабенства, якое так кінулася мне ў вочы ва ўсім астатнім! Ды колькі я ні прыглядаўся, абодва паўшар'і планеты нічым не нагадвалі ні наш Стары, ні Новы Свет.

Нічым? Даруйце. Нагадвалі — і самым галоўным! Планета была населеная. Мы пралятал над горадам, і досыць вялікім, ад якога ва ўсе бакі разбягаліся дарогі з дрэвамі абапал, а па саміх дарогах несліся аўтамабілі. Мне ўдалося ахапіць позіркам агульны план горада. Шырокія вуліцы. Вялікія белыя дамы з прастакутнымі мурамі.

Але нам прыйшлося «прызямліцца» ўдалечыні ад гэтага месца. Спачатку мы ляцелі над уробленымі палямі, пасля над густым, трохі рудаватым лесам, падобным на нашы экватарыяльныя джунглі. Мы ляцелі ўжо нізка. Пад намі з'явіліся плато з даволі вялікімі палянамі, вакол плато распасціралася перасечаная мясцовасць. Прафесар вырашыў нарэшце рызыкнуць і задаў прыборам новую, апошнюю праграму. Запрацавалі ракеты тармажэння. На некалькі імгненняў катэр замёр над палянаю, нібыта чайка, якая цікуе здабычу.

А потым, праз два гады пасля таго, як мы пакінулі Зямлю, наш катэр паціхеньку знізіўся і без адзінага штуршка апусціўся на сярэдзіну плато, зялёная трава якога нагадала мне нашыя нармандскія раўніны.

## Раздзел IV

Апусціўшыся, мы досыць доўга сядзелі моўчкі і нерухома. Гэта, магчыма, дзіўна, але нам трэба было сабрацца з сіламі. Мы пайшлі на справу, у тысячу разоў больш незвычайную, чым падарожжы самых першых зямных мараходаў, і трэба было падрыхтавацца як след да сустрэчы з featureнымі нечаканасцямі, пра якія з пакалення ў пакаленне марылі паэты, што апявалі міжзорныя пералёты.

Неверагодна, але мы адразу ж трапілі на планету, на якой былі, як і ў нас, і акіяны, і горы, і лясы, і палі, і гара-

ды, і, натуральна, іх жыхары. Аднак, улічваючы, што, перш чым апусціцца, наш катэр праляцеў над джунглямі вялікую адлегласць, можна было меркаваць, што цяпер мы далёка ад цывілізаваных раёнаў.

Нарэшце мы вырашылі дзейнічаць. Надзеўшы скафандры, асцярожна прыадчынілі ілюмінатар. Ніводнага подыху ветру. Паміж унутраным і знешнім атмасферным ціскам — аніякае розніцы! Вакол паляны быццам мурамі якойсьці крэпасці ўзвышаўся густы лес, нерухомы, маўклівы — нішто не парушала поўнага спакою, які тут панаваў. Было дужа горача, але можна было цярпець: каля дваццаці пяці градусаў па Цэльсію.

Мы выйшлі з катэра разам з Гектарам. Напачатак прафесар Антэль вырашыў яшчэ раз зрабіць аналіз паветра. Вынік абнадзейваў: састаў паветра зноў быў той самы, што і на Зямлі, хіба што розніліся крыху прапорцыі рэдкіх газаў. Аднак мы вырашылі на ўсякі выпадак пачаць праверку паветра на практыцы з шымпанзэ. Калі з Гектара знялі скафандр, ён быў неверагодна шчаслівы і цудоўна сябе пачуваў. Апынуўшыся на волі, шымпанзэ нібыта ап'янеў. Зрабіўшы колькі скачкоў, ён кінуўся ў лес, узляцеў на дрэва і памчаўся далей, пераскокваючы з галіны на галіну. Неўзабаве ён зусім знік з нашых вачэй, загубіўшыся ў лістоце, нягледзячы на ўсе нашы заклікі.

Тады мы таксама знялі скафандры. Стала, вядома, ямчэй і ісці і перагаворвацца. Але гукі нашых галасоў, пачутыя натуральнымі, а не трансфармаванымі, як у скафандры, усё-такі збянтэжылі нас; мы баязліва ступілі колькі крокаў ля катэра, не асмельваючыся адысці ад яго.

Але сумненняў у тым, што мы апынуліся на планеце, якая даводзілася сястрою-двайняю нашай Зямлі, ужо не было. Расліннасць тут была вельмі пышная: асобныя дрэвы сягалі ў вышыню на сорак метраў і болей. А неўзабаве мы прыкмецілі і першыя жывыя істоты: буйныя чорныя птушкі луналі ў небе, бы каршуны, а іншыя, драбнейшыя, вельмі падобныя на папугаяў, з піскам ганяліся адна за адною.

Яшчэ да пасадкі мы заўважылі прыкметы развітай цывілізацыі. Разумныя істоты — пакуль што мы не асмельваліся называць іх, не ўбачыўшы, людзьмі — змянілі аблічча планеты. Аднак тут, вакол нас, лес здаваўся ненаселеным. Зрэшты, у гэтым не было нічога дзіўнага: калі б мы выпадкова зваліліся з неба ў якім-небудзь закутку азіяцкіх джунгляў, нас бы таксама ўразіла некранутасць мясцін чалавекам.

Перш чым пачаць што-небудзь рабіць, мы далі, параіўшыся, планеце імя. За неверагоднае падабенства з Зямлёю мы назвалі яе Сарора [1].

Пасля, вырашыўшы, не марнуючы часу, пачаць разведку, рушылі ўтрох у глыб лесу па сцяжынцы, пратаптанай, мусіць, звярамі. У мяне і Артура Левэна былі карабіны. Што ж да прафесара, то ён з пагардаю ставіўся да матэрыяльнай зброі, паважаючы толькі інтэлектуальную моц. Ішлі мы надзіва лёгка і хутка, але не таму, што сіла цяжару была тут меншая — нават у гэтым Сарора нічым не адрознівалася ад Зямлі,— проста, набыўшы нармальную вагу пасля палутарнай, да якой прывыклі ўжо на караблі, мы гатовыя былі скакаць, бы козлікі.

Мы ішлі ланцужком, адзін за адным, аклікаючы разпораз Гектара, але той па-ранейшаму не паказваўся. Раптам Левэн, які ішоў наперадзе, спыніўся і даў нам знак прыслухацца. Сапраўды, аднекуль чуўся гук, падобны на шум вадаспада. Мы рушылі ў гэтым кірунку, і неўзабаве гук стаў яснейшы, так што ў нас зніклі сумненні наконт яго паходжання.

Хутка мы ўбачылі гэты вадаспад. Мы доўга дзівіліся прыгажосці відовішча, якім нас сустрэла Сарора. Чысты, празрысты, як нашыя горныя крыніцы, паток пятляў каскадам па схоне і зрываўся ўніз з вяршыні скалы, разбіваючыся непадалёк ад нас аб камяні ў невялічкім возеры, паверхня якога гарэла і пералівалася ўсімі колерамі вясёлкі — гіганцкая Бетэльгейзе дасягнула ў той час свайго зеніту.

Было ўжо так горача, а вада выглядала так спакушальна, што мы з Левэнам адразу ж падумалі пра адно і тое ж. Скінуўшы адзежу, мы хацелі былі нырнуць у возера ўніз галавою, але прафесар сказаў, што, апусціўшыся колькі хвілін назад на невядомую планету, варта дзейнічаць больш асцярожна. А што, калі гэта не вада, а якаясь іншая вадкасць, можа, нават ядавітая? Ён сам наблізіўся да берага, сеў на кукішкі, прыгледзеўся, прынюхаўся і толькі тады акунуў у возера палец. Потым зачарпнуў троху падазронай вадкасці ў далонь і пакаштаваў яе нарэшце на смак кончыкам языка.

— Напэўна, вада,— прамармытаў Антэль.

Ён нахіліўся ўперад, каб яшчэ раз апусціць руку ў возера, і раптам бы скамянеў. Пасля ўскрыкнуў і паказаў пальцам на след на пяску. Большага ўзрушэння я, здаецца,

[1] Сарора — сястра *(лац.)*.

не адчуваў ніколі! Над нашымі галовамі палала агромністая Бетэльгейзе, а на вузкім лапіку сырога пяску абсалютна выразна вымалёўваўся след чалавечай нагі.

## Раздзел V

— След жаночай нагі,— пераканана сказаў Артур Левэн.

Такая рашучая заява дрыготкім ад хвалявання голасам не здзівіла мяне ані. Вытанчанасць і незвычайная прыгажосць адбітку на пяску кідаліся ў вочы. У тым, што гэта след чалавечай нагі, не было ніякіх сумненняў. Мажліва, тут прайшоў юнак або мужчына маленькага росту, але куды больш пэўна можна было сказаць, што след належыць якойсьці прыгажуні.

— Значыцца, Сарора населена людзьмі,— прамармытаў прафесар.

У ягоным голасе прагучала вельмі непрыемная мне нотка расчаравання. Антэль прывычна паціснуў плячыма і стаў аглядаць разам з намі пясчаны бераг возера. Мы знайшлі яшчэ колькі слядоў той самай істоты. Неўзабаве Левэн знайшоў за некалькі метраў ад берага яшчэ адзін след — ужо на сухім пяску, але таксама вільготны.

— Яна была тут сама больш хвілін пяць назад!— сказаў Левэн.— Купалася тут, пачула нашы галасы і ўцякла.

Мы ўсе былі перакананыя, што след належыць жанчыне. Затаіўшы дыханне, пачалі ўзірацца ў лясны гушчар, але там ніводзін сучок не трэснуў.

— У нас яшчэ будзе час пазнаёміцца,— сказаў Антэль, зноў паціснуўшы плячыма.— Але калі тут купаўся чалавек, значыцца, і мы можам асвяжыцца, нічога не баючыся.

Шаноўны прафесар умомант скінуў з сябе адзежу і адразу ж палез у возера. Услед за ім адважыўся і я. Пасля доўгага пералёту вада здалася нам такой свежай, такой прыемнай, што, зайшоўшы ў яе, мы адразу ж забыліся на сваё адкрыццё. Толькі Левэн задумаўся аб нечым і стаяў на месцы бы ўкапаны, усё роўна як і не з намі ён быў, а дзесьці зусім далёка адсюль. Я ўжо хацеў падражніць яго, як раптам убачыў уверсе, над вадаспадам, жанчыну!

Ніколі не забуду гэтага відовішча. Ад казачнай прыгажосці дзяўчына, якая раптам з'явілася перад намі пад вогненна-чырвонымі промнямі Бетэльгейзе, у мяне заняло дух. Дальбог, у зіхоткай вясёлцы пырскаў гэтая дачка Сароры была падобная на багіню. Зусім голая, яна не таіла

сваёй спакуслівай прыгажосці, такой кідкай у неверагодна моцным святле Бетэльгейзе,— за адзіныя строі былі ў яе доўгія, да пояса валасы. І хоць за два гады мы адвыклі ад жанчын і нам не было з кім параўнаць гэтую німфу, ніхто з нас, апісваючы дзяўчыну, не змог бы перабольшыць яе прыгажосці. Незнаёмая, што нерухома, бы статуя на п'едэстале, замерла на скале, мела самую ідэальную фігуру, якую толькі мог уявіць сабе зямлянін. Зачараваныя, мы з Левэнам нават уздыхнуць баяліся. Прафесар Антэль і той, як мне здалося, застыў уражаны.

Дзяўчына стаяла, падаўшыся наперад, з трохі адведзенымі назад рукамі, быццам ныральшчыца, гатовая кінуцца ў ваду. Яна назірала за намі і была збянтэжаная не менш за нас. Я быў такі ўсхваляваны, што нават не ўбачыў, які ў яе твар, хоць і досыць доўга ўзіраўся ў яе,— гэтак загіпнатызавала мяне яе дзіўнае цела. Толькі праз якую хвіліну я адзначыў сам сабе, што яна белая — скура ў яе была хутчэй залацістая, чым смуглявая,— даволі высокая, але не занадта. Пасля разгледзеў бездакорныя рысы чыстага твару, які можа хіба што прысніцца. І ўрэшце стаў узірацца ў вочы.

Тут я ажно ўздрыгнуў, такі нязвыклы для майго зямнога зроку быў у дзяўчыны позірк. Што ж, жыхарка такога далёкага свету павінна была хоць чымсьці адрознівацца ад нас. Але што ў яе вачах было не так, як у нас, я пакуль што, як ні намагаўся, вызначыць не мог. Адчуваў толькі, што позіркі нашыя зусім розныя. І не ў колеры яе вачэй была прычына такога ўражання, хоць іх шэры колер і меў даволі рэдкае на Зямлі адценне. Дзіўны быў выраз гэтых вачэй, дакладней, адсутнасць выразу: яны былі зусім пустыя і нагадвалі мне вочы адной няшчаснай вар'яткі, якую давялося некалі сустрэць.

Толькі ў позірку гэтай німфы над вадаспадам было не вар'яцтва, не!

Калі дзяўчына заўважыла, што за ёй назіраюць, яна раптам імгненна адскочыла, усё роўна як яе апякло ці ўдарыла токам. У гэты момант яна была падобная на спалоханага звярка. І гэта не быў спалох цнатлівай нявінніцы, якую заспелі голай, інакш бы яна не назірала за намі стоячы на адкрытым месцы ў такім выглядзе. Проста яе вочы не маглі або не хацелі вытрымліваць мой позірк. Павярнуўшы галаву ўбок, яна ўпотайкі паглядвала цяпер на нас скосу.

— Я ж казаў вам, што гэта жанчына,— прамармытаў Артур Левэн.

Ён усхвалявана вымавіў гэтыя словы голасам, ледзь чутным і нам самім, амаль шэптам, аднак дзяўчына пачула яго. Левэнавы словы прагучалі для яе, бы пярун: яна зноў адскочыла назад, і так хутка, што зноў нагадала мне спалоханага звярка, які кінецца зараз уцякаць. Але, адступіўшы на два-тры крокі і амаль што поўнасцю схаваўшыся за скалою, яна ўсё ж спынілася. Цяпер я бачыў толькі яе лоб і адно вока, якое пільнавала нас.

Мы нават паварушыцца не смелі, баючыся, што пры першым жа нашым руху яна знікне. І гэта супакоіла яе. Праз нейкі час яна зноў з'явілася на краі абрыву. І тут занадта ўсхваляваны Левэн не стрымаўся.

— Ніколі не бачыў нічога падобнага...— пачаў ён і адразу ж асекся, зразумеўшы сваю неасцярожнасць: дзяўчына зноў адскочыла і схавалася, напалоханая ягонымі словамі.

Тады прафесар даў нам знак змоўкнуць і пачаў плюхацца ў возеры, усё роўна як і не зважаючы на яе. Паглядзеўшы на Антэля, мы сталі рабіць тое ж самае. Тактыка была выбрана ўдала: дзяўчына не толькі зноў наблізілася да нас, але і пачала захоплена назіраць за нашымі заплывамі і ныркамі, што яшчэ больш распаліла нашую цікаўнасць. Вы бачылі калі-небудзь, як паводзіць сябе на пляжы побач з гаспадаром, які купаецца, баязлівае сабачаня? Яму да смерці хочацца ўскочыць у ваду, але яно не асмельваецца. Яно кідаецца ўперад, назад, адбягае ад вады, зноў вяртаецца, атрасаецца. Акурат гэтаксама ж паводзіла сябе дзяўчына.

І тут мы пачулі яе голас! Аднак гукі з яе вуснаў адно ўзмацнілі нашае ўражанне аб ёй, як аб нейкім звярку. У гэты момант яна стаяла ля самага краю абрыву, сваёй, так бы мовіць, курасадні, і, здавалася, была гатовая нырнуць у возера. На нейкае імгненне яна перастала кідацца, бы сабачаня. Разявіла рот. Я стаяў трохі ўбаку і мог назіраць за ёю, застаючыся непрыкметны. Думаў, што цяпер яна скажа нам штосьці, крыкне. Быў гатовы пачуць словы самай прымітыўнай мовы, але толькі не тыя дзіўныя гукі, што вылецелі з яе горла. Але, менавіта з горла, бо ні рот, ні язык не маглі б утварыць пачуты намі віск ці піск, якім дзяўчына перадала сваё захапленне. Радасць звярка. Падобныя гукі можна пачуць у нашых заалагічных садах ад маладых шымпанзэ ў час гульні.

Мы плюхаліся ў возеры, з усяе сілы робячы выгляд, што не звяртаем на яе аніякае ўвагі,— і нарэшце яна рашылася. Прысела і пачала хутка спускацца да нас, чапля-

ючыся рукамі за ледзь прыкметныя выступы. Вытанчанасць яе рухаў была проста неверагодная. Гнуткае залатаскурае цела дзяўчыны скрозь вясёлкавую смугу вадаспада здавалася нам феерычным. Праз некалькі імгненняў яна ўжо была на самым беразе возера. Прысеўшы на камень, дзяўчына нейкі час разглядвала нас, потым нырнула і паплыла да нас.

Мы зразумелі, што яна хоча падурэць з намі, і пачалі плюхацца яшчэ з большым імпэтам, але так, каб не напалохаць яе. Дзяўчына плавала, хутка заграбаючы ваду рукамі і нагамі, як плаваюць сабакі, і яе распушчаныя валасы слаліся за ёю, быццам хвост каметы. І ўрэшце, вельмі хутка, пачалася гульня, ход якой задала незнаёмая. Сапраўды дзіўная забава, якая нагадвала гульні цюленяў у басейне: мы ганяліся адно за адным і нечакана ўцякалі ў той самы момант, калі, здавалася б, павінны былі вось-вось дакрануцца адно да аднаго. Усё гэта было, ведама ж, дзіцячае свавольства, але на якія толькі хітрыкі мы б не пайшлі, каб прыручыць чароўную дзяўчыну! Я заўважыў, што нават прафесар Антэль з непрыхаваным задавальненнем прымаў удзел у нашай гульні.

Нашы водныя забавы працягваліся досыць доўга, мы ўжо трохі стаміліся, калі мяне раптам збянтэжыў дзіўны, недарэчны ў гэтай сітуацыі выраз твару ў дзяўчыны: ён быў абсалютна сур'ёзны. Незнаёмая з відавочным задавальненнем плюхалася з намі, забаўляючыся прапанаванай ёю самою гульнёй, аднак на твары ў яе так і не прамільгнула ўсмешка. Вось ужо некалькі хвілін мне не давала спакою нейкае цяжкае цьмянае пачуццё, і толькі цяпер я зразумеў, што турбавала мяне: дзяўчына не смяялася і не ўсміхалася, хіба што час ад часу з яе горла вырываўся нягучны віск, якім яна, мусіць, перадавала сваё захапленне.

Я вырашыў зрабіць дослед. Калі дзяўчына наблізілася да мяне, я паглядзеў ёй у самыя вочы і, пакуль яна не паспела павярнуць назад, шырока ўсміхнуўся з усёй пяшчотаю і зычлівасцю, на якія толькі быў здольны.

Вынік быў неверагодны. Дзяўчына спынілася, устала нагамі на дно — у гэтым месцы вада даходзіла ёй да пояса — і выставіла наперад скурчаныя пальцы з доўгімі пазногцямі. Яна баранілася ад мяне! Потым адскочыла і кінулася на бераг. Там яна азірнулася і зноў застыла, як і на версе абрыву, насцярожана паглядваючы на мяне, бы звярок, які адчуў небяспеку. Магчыма, яна зноў даверылася б нам, бо, умомант сагнаўшы з твару ўсмешку,

я зноў пачаў плаваць туды і назад з самым нявінным выглядам. Але тут дзяўчыну яшчэ мацней за маю ўсмешку ўстрывожыла новае здарэнне: спачатку мы пачулі ў лясным гушчары нейкі шум, а потым перад намі з'явіўся наш сябар Гектар. Пераскокваючы з галіны на галіну, ён спусціўся на зямлю і зачыкільгаў да возера, радуючыся гаспадарам. І тут твар у дзяўчыны скрывіўся ў звярынай грымасе лютасці і проста неверагоднага жаху! Яна ўся сціснулася, літаральна зліўшыся з каменнем, мускулы яе напружыліся, ногі падагнуліся, быццам для скачка, а пальцы скурчыліся, нібыта яна выпусціла кіпцюры. І ўсё гэта з-за маленькай смешнай малпы, якая спяшалася развесяліць нас сваім крыўляннем!

Усё здарылася імгненна. Калі Гектар, не зважаючы на дзяўчыну, параўняўся з ёю, тая выпрасталася, быццам спружына, і, скокнуўшы да яго, сашчапіла на шыі ў шымпанзэ рукі, а нагамі, бы ціскамі, абхапіла ягонае цельца, так што ён і паварушыцца не мог. Напад быў такі раптоўны, што мы не паспелі ўмяшацца. Гектар слаба тузануўся і застыў. Праз некалькі секунд дзяўчына адкінула яго — ён быў ужо мёртвы. Гэтая боскай прыгажосці істота — у рамантычным парыве я назваў дзяўчыну раней пра сябе Нова, бо з'яўленне яе перад намі можна было параўнаць хіба што з узыходжаннем зоркі на небе — узяла дый задушыла ні з таго ні з сяго бяскрыўднага ручнога звярка.

Калі мы нарэшце апраўіліся ад шоку і кінуліся Гектару на дапамогу, было ўжо позна. Дзяўчына павярнулася да нас і зноў выцягнула рукі, быццам збіралася ўчапіцца цяпер ужо ў нас. Верхняя губа ў яе прыўзнялася, ашчэрыліся зубы. Выгляд у дзяўчыны быў такі люты, што мы замерлі на месцы. Потым яна гучна і працяжна ці то крыкнула, ці то ўзвыла — гук гэты можна было прыняць за кароткую песню перамогі ці папярэджанне,— і кінулася ў гушчар. Праз імгненне яе залацістаскурае цела, мільгануўшы апошні раз паміж кустоў, схавалася ў зарасніку, і мы зноў засталіся адны сярод маўклівага лесу.

## Раздзел VI

— Гэта дзікунка,— сказаў я нарэшце.— Можа, яна з якога-небудзь адсталага племені накшталт тых, што знаходзяць яшчэ ў Новай Гвінеі ці ў лясах Афрыкі?

Зрэшты, я сказаў гэта без асаблівай упэўненасці. І Артур Левэн адразу ж асадзіў мяне.

— У якіх гэта прымітыўных плямёнаў бачыў ты такую дасканаласць формаў і гарманічнасць рухаў?— спытаўся ён ледзь не са злосцю.

Я не знайшоў што і адказаць: Левэн сто разоў меў рацыю.

Прафесар Антэль хоць і быў цяпер надзвычай задуменны, але пачуў усё ж такі нашую размову.

— Нават у самых прымітыўных нашых плямёнаў ёсць мова,— заўважыў ён.— А гэтая дзівачка не ведае ніводнага слова.

Мы абшнырылі ўсё наваколле, але не знайшлі ніякіх слядоў незнаёмай. Тады вярнуліся на паляну, дзе стаяў наш катэр. Прафесар Антэль хацеў адразу ж узляцець, каб апусціцца ў больш цывілізаваным раёне. Аднак Левэн прапанаваў пачакаць яшчэ хоць бы суткі і паспрабаваць наладзіць кантакт з жыхарамі джунгляў. Я падтрымаў яго, і ўрэшце Левэнава прапанова была прынятая і Антэлем. Мы не рашыліся прызнацца адзін аднаму, што нас утрымлівала тут надзея яшчэ раз убачыць незнаёмую.

Дзень закончыўся без новых здарэнняў. Настаў час заходу, і мы залюбаваліся гіганцкай Бетэльгейзе, што знікала спакваля за гарызонтам: зямлянін не можа ўявіць сабе такога фантастычна прыгожага відовішча. І тут мы адчулі, што ў джунглях нешта змянілася: яны напоўніліся таемнымі гукамі і шолахамі. Нам здавалася, што адусюль за намі сочаць скрозь лісце нейкія нябачныя істоты. Аднак ноч прайшла спакойна: мы замкнуліся ў катэры і па чарзе дзяжурылі да раніцы. На золку непрыемнае пачуццё таго, што за намі сочаць, узмацнілася. Мне нават здалося, што з лесу даносяцца кароткія прарэзлівыя крыкі, накшталт тых, што мы чулі напярэдадні ад Новы. У нашым уяўленні лес ужо кішма кішыць невядомымі істотамі, але ніводная так і не з'явілася.

Трохі пазней мы вырашылі яшчэ раз схадзіць да вадаспада. Усю дарогу нас гняло ўсё тое ж непрыемнае пачуццё, што нейкія істоты, ідучы ўслед, неадступна сочаць за намі, не рашаючыся, аднак, паказацца. Але ж яшчэ ўчора Нова выйшла ўсё-такі нарэшце да нас.

— Можа, іх палохае нашая адзежа?— сказаў раптам Артур Левэн.

Мяне, бы маланкай, працяла здагадка! Я дакладна ўспомніў, як Нова, задушыўшы Гектара, кінулася ўцякаць і наткнулася на нашу зваленую ў кучу адзежу. Яна ўмомант шарахнулася ўбок, бы спалоханы конь.

— Зараз паглядзім!— сказаў я.

І вось, раздзеўшыся дагала, мы, як і мінулы раз, кінуліся ў возера і прыняліся дурэць з самым бесклапотным выглядам.

Выпрабаваныя ўжо аднойчы хітрыкі зноў далі чаканы вынік. Праз некалькі хвілін мы заўважылі на абрыве Нову, хоць і не прыкмецілі, як яна туды трапіла. Гэтым разам дзяўчына была не адна. Побач з ёю стаяў зусім голы мужчына, на выгляд звычайны зямлянін, ужо ў гадах. Асобныя яго рысы настолькі нагадвалі твар нашае багіні вадаспада, што я прыняў мужчыну за яе бацьку. Як і яна, ён разглядваў нас з трывогаю і недаўменнем.

Паступова вакол нас пачалі з'яўляцца ўсё новыя і новыя людзі. Мы напусцілі на сябе абыякавы выгляд. Людзі выходзілі з лесу і набліжаліся да возера з усіх бакоў, акружаючы нас. Усе яны, мужчыны і жанчыны, статныя, залацістаскурыя, былі вельмі прыгожыя. Яны ўзбуджана жэстыкулявалі, зрэдку коратка ўскрыкваючы.

Кола сарорцаў самкнулася, і нас ахапіла трывога: эпізод з Гектарам міжволі насцярожыў. Аднак у паводзінах людзей не было анічога пагрозлівага: мусібыць, іх усяго толькі, гэтаксама ж як і Нову, цікавілі нашыя гульні ў вадзе.

Так яно і было! Неўзабаве Нова, якую я ўжо лічыў нашай старой знаёмаю, кінулася ў возера, а за ёй пасля больш-менш доўгіх ваганняў і ўсе астатнія. Мы распачалі нашыя ўчарашнія забавы, ганяючыся адзін за адным, быццам цюлені. Розніца была толькі ў тым, што сёння вакол нас плюхаліся і фыркалі прынамсі два дзесяткі дзіўных істот, чые сур'ёзныя твары надта ўжо не стасаваліся да іх дзіцячых паводзін.

Прайшло хвілін пятнаццаць, і мяне агарнула стома. Няўжо мы імкнуліся да такой далёкай Бетэльгейзе дзеля такіх вось дзіцячых забаў? Мне стала сорамна за сябе. Я засмучана пазіраў на нашага мудраца Антэля, які аддаваўся гэтай наіўнай гульні з відавочным задавальненнем. Але што нам, зрэшты, заставалася яшчэ рабіць? Наўрад ці хто можа ўявіць, як цяжка наладзіць кантакт з істотамі, якія не ўмеюць ні гаварыць, ні нават усміхацца. Аднак я спрабаваў дамагчыся іх разумення. Пачаў жэстыкуляваць, стараючыся ўкласці ў кожны жэст пэўнае значэнне. З самым зычлівым выглядам, на які толькі быў здольны, складваў рукі на грудзях. Кланяўся «па-кітайску». Пасылаў паветраныя пацалункі. Але ўсе мае руплівыя спробы не мелі ніякага поспеху. У вачах у сарорцаў не запалілася аніводнай іскаркі разумення.

Калі мы абмяркоўвалі ў час пералёту магчымасць сустрэчы з невядомымі істотамі, то якіх толькі стварэнняў сабе не ўяўлялі, нават пачвар, зусім непадобных на нас, але заўсёды былі ўпэўненыя, што стварэнні гэтыя абавязкова маюць розум. А тут усё было якраз наадварот: мы натрапілі на людзей, абсалютна ідэнтычных нам фізічна, але, выяўлялася, зусім без прыкмет розуму. Як інакш можна было растлумачыць неверагодна пустыя позіркі Новы і яе супляменнікаў: поўная адсутнасць свядомасці, думкі, душы...

Іх цікавіла толькі гульня. Да таго ж, гульня самая бязглуздая! Надумаўшы трохі яе ўскладніць — толькі крышачку, каб не спудзіць сарорцаў,— мы стварылі кола і, стоячы па пояс у вадзе, завялі нешта накшталт карагода: пачалі падымаць і апускаць рукі, як гэта робяць маленькія дзеці. Але выдумка наша нікога не захапіла. Большасць дзікуноў адплылася далей, а тыя нямногія, што засталіся, утаропіліся на нас такім безнадзейна пустым позіркам, што, разгубіўшыся, мы бяссільна здранцвелі.

Збянтэжанасць наша ледзь не прывяла да катастрофы. Калі нарэшце да нас дайшло, што трое самавітых мужчын, адзін з якіх — вучоны з сусветна вядомым іменем, узяўшыся за рукі, вядуць як дзеці карагод, мы не ўтрымаліся. Мы так доўга намагаліся захаваць сур'ёзнасць, што настала натуральная разрадка. Мы рагаталі як дурні, згінаючыся ад смеху напалам,— і ніяк не маглі супакоіцца.

Гэты міжвольны выбух нашай бязглуздай весялосці нарэшце выклікаў у сарорцаў рэакцыю — толькі зусім нежаданую. Над возерам бы шквал пранёсся! Людзі ў паніцы кінуліся ўцякаць ад нас ва ўсе бакі — убачыў бы хто знянацку такое недарэчнае відовішча на зямлі, аслупянеў бы, не верачы вачам. Праз некалькі імгненняў мы засталіся ў вадзе адны. Дзікуны сабраліся ў натоўп на беразе ў самым далёкім ад нас канцы возера і проста дрыжалі — хто ад страху, хто ад лютасці. Адны спалохана ўскрыквалі, другія пагрозліва размахвалі рукамі. Твары ў іх былі такія скажоныя, што мы з Левэнам устрывожыліся і пачалі падбірацца да зброі. Толькі мудры Антэль захоўваў спакой і шэптам пераканаў нас не толькі не страляць, але нават не хапацца за стрэльбы, пакуль гэтыя людзі трымаюцца ўдалечыні.

Не спускаючы з іх вачэй, мы пачалі таропка адзявацца. Але толькі паспелі нацягнуць штаны і накінуць кашулі, як узбуджанасць дзікуноў перайшла ледзь не ў істэрыку. Выдавала на тое, што яны проста бачыць не маглі без раз-

дражнення адзетых людзей! Некаторыя кінуліся ўцякаць, астатнія наблізіліся да нас, выставіўшы рукі з пагрозліва скручанымі пальцамі. Я схапіўся за карабін. І, як ні дзіўна, гэтыя тупыя істоты зразумелі, напэўна, што гэта мусіць значыць, бо ўмомант зніклі ў лясным гушчары.

Мы спешна вярнуліся да нашага катэра. Усю дарогу назад мяне ні на секунду не пакідала непрыемнае пачуццё, што за мною сочаць — нябачна, нячутна ідуць за намі па пятах.

## Раздзел VII

Напад быў такі нечаканы, што пра абарону думаць не прыйшлося. Мы падыходзілі ўжо да паляны, калі сарорцы з хуткасцю аленяў выскачылі з гушчару і накінуліся на нас раней, чым мы паспелі ўскінуць стрэльбы.

Самае цікаўнае ў гэтым нападзе было тое, што не супраць нас быў ён накіраваны. Я гэта адразу адчуў, і мая здагадка ўмомант пацвердзілася. Нас не чакаў сумны лёс Гектара: сарорцы рабілі замах не на нашае жыццё, а толькі на адзежу і рыштунак. Нас імгненна прыціснулі да зямлі. Дзесяткі рук ліхаманкава адкідвалі як мага далей стрэльбы, патроны, змесціва паходных мяшкоў, здзіралі з нас адзежу і адразу ж ірвалі яе на шматкі. Скеміўшы, што менавіта выклікае лютасць дзікуноў, я перастаў супраціўляцца, і ў выніку мяне толькі крыху падрапалі. Убачыўшы гэта, Антэль і Левэн паводзілі сябе гэтаксама ж, і неўзабаве мы засталіся ў чым маці нарадзіла сярод натоўпу сарорцаў. Тыя адразу ж супакоіліся і пачалі гарэзаваць вакол нас, не дазваляючы, аднак, аддаліцца ад іх ні на крок, каб мы не ўцяклі.

Цяпер на ўзлессі сабралася не менш як паўсотні гэтых дзівакоў. Адны акружылі нас, другія кінуліся да катэра. Дзверы хутка паддаліся іх націску. Сарорцы пачалі спусташаць катэр з той самай лютасцю, з якой толькі што рвалі адзежу. Я з адчаем глядзеў на тое, як яны нявечылі такую неабходную нам апаратуру, але думка мая тым часам не пераставала працаваць, і, здаецца, я ўцяміў галоўнае: гэтых людзей раз'юшвалі прадметы! Усё штучна выробленае выклікала ў іх лютасць і страх адначасна. Ледзь ім трапляўся ў рукі якісьці інструмент, яны ўмомант яго разбівалі, расплюшчвалі або ламалі і адразу ж адкідвалі як мага далей, быццам гэта было распаленае жалеза, а калі і хапалі зноў, дык толькі каб знішчыць канчаткова. Мне

яны нагадвалі мангустаў, якія нападаюць на змей, ці кошак у паядынку з пацукамі: кошкам вялікі пацук, нават паўмёртвы, усё яшчэ можа быць вельмі небяспечны. Я ўжо адзначыў, што яны справіліся з намі голымі рукамі, не карыстаючыся ніякай зброяй, нават палкаю.

Мы ў бяссільным адчаі назіралі за тым, як сарорцы нішчаць катэр. Дзікуны зруйнавалі, разбілі ўсё, што толькі магло быць разбіта і зруйнавана, усе каштоўныя навігацыйныя прыборы, абломкамі якіх была спрэс пакрыта цяпер паляна. Пагром працягваўся досыць доўга. Нарэшце, калі ад катэра застаўся адзін металічны корпус, пагромшчыкі вярнуліся да нас. Падштурхоўваючы і тузаючы за рукі, яны павялі нас у лясны гушчар.

Становішча нашае рабілася ўсё больш безвыходнае. Абяззброеныя, раздзетыя, босыя, мы былі вымушаны ледзь не бегчы разам з усёю зграяю, не маючы магчымасці перакінуцца словам. Любая спроба загаварыць выклікала такую пагрозлівую рэакцыю, што нам прыйшлося ўрэшце тужліва змоўкнуць. А між тым вакол нас былі такія ж людзі, як і мы самі! Былі б яны адзетыя і прычасаныя, дык у нас на Зямлі на іх ніхто б і ўвагі не звярнуў. Праўда, тут кожную жанчыну можна было смела назваць прыгажуняю. Аднак ніводная з іх не магла параўнацца ў прыгляднасці з Новаю, якая бегла цяпер за намі па пятах.

Кожны раз, калі мяне пачыналі падганяць залішне груба і бесцырымонна, я азіраўся ў надзеі ўбачыць на твары ў яе хоць намёк на спагаду, і аднойчы мне здалося, што Нова шкадуе мяне. Але, вядома, я прымаў жаданае за сапраўднае. Толькі мае вочы сустракаліся з яе вачыма, як яна адразу ж адводзіла позірк — па-ранейшаму пусты.

Гэтак мы беглі некалькі гадзін. Я ледзь не падаў ад стомы, ногі мае крываточылі, усё цела было падрапана калючымі галінамі, між якімі сарорцы праслізгвалі, бы змеі, без ніякай шкоды для сябе. Таварышы мае пачувалі сябе не лепш за мяне. Прафесар Антэль спатыкаўся ўжо на кожным кроку, калі мы нарэшце дабраліся да мэты гэтага вар'яцкага забегу.

Лес парадзеў, зарасці кустоўя змяніліся палянамі з невысокаю травою. Тут нашы «праважатыя» пакінулі нас і, нібыта забыўшыся на нашае існаванне, зноў пачалі ганяцца адно за адным паміж дрэвамі — выдавала на тое, што гэта быў галоўны занятак у іх жыцці. Мы ж зваліліся ад стомы на траву і скарысталіся перадышкаю, каб шэптам перагаварыцца.

Левэн, як і я, быў у поўным адчаі, і спатрэбілася мудрасць нашага патрона, які здолеў падбадзёрыць нас. Ужо вечарэла. Мы, вядома, маглі скарыстацца бесклапотнасцю дзікуноў і ўцячы, але куды? Катэр быў зруйнаваны. У нас не было больш разумнага выйсця, чым застацца тут і паспрабаваць улагодзіць гэтых варвараў. Да таго ж, нам страшэнна хацелася есці.

Мы ўсталі і нерашуча пабрылі па лесе. Сарорцы па-ранейшаму бяздумна дурэлі, не звяртаючы на нас ніякае ўвагі. Мабыць, толькі Нова не забылася на нас. Яна пайшла за намі, трымаючыся трохі ззаду, і адварочвала галаву кожны раз, калі мы азіраліся. Паблукаўшы крышку па паляне, мы ўбачылі, што знаходзімся ў чымсьці накшталт стойбішча першабытных людзей, толькі тут замест буданоў былі зладжаны з ламачча — на зямлі ці ў развілках ніжніх галін — нейкія прымітыўныя гнёзды, падобныя на тыя, што робяць буйныя малпы ў нашых афрыканскіх лясах. Некаторыя гнёзды былі занятыя. Мужчыны і жанчыны — не ведаю, як інакш можна назваць сарорцаў рознага полу,— драмалі ў гнёздах, часта парамі, шчыльна прыціснуўшыся адно да аднаго ці скурчыўшыся, бы сабакі ў халоднае надвор'е. У большых гнёздах размяшчаліся цэлыя сем'і: мы прыкмецілі дзяцей, якія спалі ў іх,— яны здаліся нам прыгожымі і дужымі.

Але страўнікі нашы ад усіх назіранняў не папаўнелі. Нарэшце мы заўважылі пад адным дрэвам сям'ю, якая прыступіла да трапезы, але іхняя ежа не магла спакусіць нас. Зубамі і пазногцямі яны раздзіралі на часткі тушу нейкай буйнай жывёліны, падобнай на аленя. Адрываючы крывавыя кавалкі, сарорцы жэрлі іх, выплёўваючы толькі шматкі шкуры. Увогуле мы не знайшлі ва ўсім стойбішчы аніводнага ачага. Нас ванітавала ад аднаго толькі віду такога абеду. Да таго ж, выявілася, што ніхто і не збіраецца нас частаваць. Наадварот, ледзь мы наблізіліся на некалькі крокаў да гэтай сямейкі, як пагрозлівае бурчанне вымусіла нас таропка адступіць.

Але тут нам дапамагла Нова. Магчыма, яна ўрэшце зразумела, што мы галодныя, хоць я ў гэтым і не ўпэўнены. Ці магла яна ўвогуле хоць што-небудзь зразумець? Не ведаю. Проста, хутчэй за ўсё, сама згаладалася. Ва ўсякім разе, наблізіўшыся да высокага дрэва, Нова абхапіла ствол рукамі і нагамі і, хутка падцягваючыся, дабралася да ніжніх галін і знікла ў лістоце. Неўзабаве адтуль градам пасыпаліся плады, падобныя на бананы. Потым Нова спусцілася на зямлю і, скоса паглядаючы на нас, пачала апля-

тацы гэтыя бананы. Пасля нядоўгіх ваганнях мы рызыкнулі пакаштаваць іх. Яны былі смачныя, і нам удалося заглушыць голад. Нічога супраць таго, што мы далучыліся да яе, Нова не мела. Мы напіліся з ручая і вырашылі, што тут і заначуем.

Кожны выбраў сабе месца, дзе можна было б зладзіць такое ж гняздо, як і ў сарорцаў. Нова настолькі зацікавілася нашай работаю, што нават наблізілася да мяне і дапамагла зламаць адну непадатлівую галіну.

Мяне гэта кранула, а маладога Левэна, пэўна, раззлавала, бо ён бухнуўся на траву і павярнуўся да нас спінаю. Што ж прафесара, то ён даўно ўжо спаў, зламаны стомаю.

Я забавіўся, стараючыся лепей уладкавацца. Нова паранейшаму назірала за мной збоку. Калі я нарэшце ўлёгся, яна, павагаўшыся досыць доўгі час, падышла да мяне дробнымі, няўпэўнымі крокамі. Я замёр, баючыся спалохаць яе. Пастаяўшы каля мяне, яна ўлеглася побач. Я ляжаў, не дазваляючы сабе нават паварушыцца. Урэшце яна даверліва прыціснулася да мяне, і цяпер мы ўжо нічым не адрозніваліся ад астатніх парачак гэтага дзіўнага племені. Але, нягледзячы на неверагодную прыгажосць Новы, жанчыны ў ёй я не адчуваў. Яна паводзіла сябе бы ласкавая хатняя жывёліна, якой хочацца сагрэцца побач з гаспадаром. Мне таксама была прыемная цеплыня яе цела, але ніякага жадання яна ўва мне не ўзбуджала. Урэшце я так і заснуў, змарнелы, зусім побач з гэтай надзіва пекнай і неразумнай істотаю. Засынаючы, я паспеў заўважыць у небе начны спадарожнік Сароры — ён быў меншы за наш Месяц, аднак заліваў джунглі досыць яркім жаўтаватым святлом.

## Раздзел VIII

Прачнуўся я, калі неба ў прасветах паміж галінамі налівалася ўжо першымі ранішнімі фарбамі. Нова яшчэ спала. Я доўга разглядваў яе, нічым не выдаючы сябе, што прачнуўся, але, згадаўшы, як жорстка абышлася яна з Гектарам, уздыхнуў. З-за гэтай німфы пачаліся ўсе нашыя няшчасці: гэта ж яна паведаміла пра нас супляменнікам. Але я не мог злаваць на прыгажуню, зачараваны яе павабнасцю.

Тут Нова заварушылася і ўзняла галаву. У вачах у сароркі мільгануў жах, я адчуў, як напружыліся ўсе яе мускулы. Аднак мая нерухомасць супакоіла Нову, і спак-

валя выраз яе твару памякчэў. І ўпершыню ёй удалося на імгненне вытрымаць мой позірк. Я расцаніў гэта як асабістую перамогу і, зусім забыўшыся, якое ўражанне рабіла на яе ўчора маё зямное выяўленне зычлівасці, усміхнуўся.

Але гэтым разам яе рэакцыя была спакайнейшая. Дзяўчына задрыжала, напружылася, нібыта перад скачком, аднак засталася нерухомая. Узбадзёраны поспехам, я ўсміхнуўся яшчэ больш выразна. Яна зноў уздрыгнула, але потым усё ж такі супакоілася. Няўжо мне ўдалося прыручыць дзікунку? Асмялеўшы, я паклаў ёй руку на плячо. Дрыготка прабегла па ўсім яе целе, але яна не варухнулася. Усведамленне поспеху працяла мяне п'янаю радасцю, аднак неўзабаве я прыйшоў яшчэ ў большае захапленне, калі заўважыў, што Нова спрабуе пераймаць мяне.

Гэта было менавіта так! Яна спрабавала ўсміхнуцца! Пра тое, якога гэта каштавала ёй намагання, я здагадаўся, прыкмеціўшы, як сутаргава скарачаюцца мускулы яе чароўнага твару. Яна спрабавала ўсміхнуцца некалькі разоў, але ў выніку змагла толькі вымучыць нейкую хваравітую грымасу. Гэтыя пакутлівыя, марныя высілкі страшэнна мяне ўсхвалявалі. Я адчуў раптам, як душу маю захліснула хваля жалю, быццам перада мною было дзіця-калека. Я ласкава сціснуў яе плячо, схіліўся над ёю і дакрануўся вуснамі да яе вуснаў. У адказ яна пацерлася носам аб мой нос, потым лізнула мяне ў шчаку.

Разгублены, я не ведаў, што і рабіць. На ўсякі выпадак нязграбна паўтарыў яе жэст. Нова здавалася задаволенай, але далей нашае збліжэнне не пайшло. Баючыся, што мае зямныя манеры прывядуць да якойсьці недаравальнай памылкі, я раздумваў, што б яшчэ такое зрабіць, як раптам жудасны грукат і звон прымусілі нас імгненна ўскочыць на ногі.

Ашаломленыя, мы стаялі побач з двума маімі таварышамі, пра якіх я ледзь не забыўся, як самы апошні эгаіст. Нова, нібыта звар'яцеўшы, пачала кідацца з боку ў бок. Хутка я зразумеў, што гэты гвалт быў жахлівай нечаканасцю не толькі для нас, але і для ўсіх лясных жыхароў: людзі выскоквалі з гнёздаў і насіліся па паляне ўзад-уперад. І гэта ўжо было не гульнёю, як учора,— у іх крыках чуўся неверагодны страх.

Ад гэтай какафоніі, што разрывала раптам цішыню джунгляў, ажно кроў у жылах стыла. Але я адчуваў: лясныя людзі выдатна разумеюць, што стаіць за ўсім гэтым гармідарам — іх палохалі не грукат і звон самі па сабе, а набліжэнне зусім пэўнай небяспекі. Гвалт нарастаў. Гэта

была жудасная какафонія, у якой змяшаліся глухі рокат барабанаў, рэзкі ляск і звон, быццам ад удараў у каструлі, крыкі. Больш за ўсё ўразілі нас менавіта крыкі, таму што, хоць мы і не разумелі ні слова невядомай нам мовы, галасы былі, бясспрэчна, чалавечыя.

Відовішча было жахлівае. Мужчыны, жанчыны, дзеці лёталі ва ўсіх напрамках па лясной паляне, натыкаліся адно на аднаго, падалі. Некаторыя караскаліся на дрэвы, бы спрабавалі схавацца там. Аднак неўзабаве некалькі больш пажылых мужчын, саўладаўшы з сабою, спыніліся і пачалі прыслухоўвацца. Гвалт мацнеў досыць павольна. Ён даносіўся з таго боку, дзе лес быў асабліва густы, і, здавалася, спараджалася ўся гэтая какафонія не ў адным месцы, а ў некалькіх, прыблізна аднолькава аддаленых ад нас. Усё гэта згадвала вялікае паляванне, калі загоншчыкі гвалтам і крыкамі палохаюць звяроў.

Відаць, старэйшыны племені прынялі нейкае рашэнне. Адрывіста павіскваючы — што азначала, пэўна, нейкі сігнал або загад,— яны кінуліся бегчы ў другі ад грукату і звону бок. Астатнія рвануліся ўслед за імі, і мы ўбачылі, як усё племя ломіцца скрозь кусты, нібыта статак спалоханых аленяў. Нова таксама кінулася за імі, але раптам спынілася і павярнулася да нас — дакладней, як мне здалося, да мяне. З яе рота вырваўся нейкі адчайны стогн, мусіць, заклік бегчы за ёю, пасля яна скокнула ў гушчар і імгненна знікла ў ім.

Гвалт рабіўся ўсё больш невыносны, і мне ўжо здавалася, што дзесьці зусім непадалёк трашчаць пад цяжкімі ботамі галінкі, сукі. Прызнаюся, я таксама страціў галаву. Розум падказваў мне застацца на месцы і сустрэць новых сарорцаў, якія — з кожнай секундаю я разумеў гэта ўсё больш пэўна — перагукваліся чалавечымі галасамі. Але пасля ўсіх выпрабаванняў, што выпалі на нашу долю, нервы мае былі ўжо нікуды не вартыя. Жах Новы і яе сародзічаў перадаўся і мне. Я не мог ні думаць, ні прымаць рашэнні, а проста імчаўся ўслед за дзікункаю, нават не падумаўшы параіцца з таварышамі.

Гэтак я прабег некалькі сотняў метраў, але дзяўчыну не дагнаў. Тут я заўважыў, што за мною бяжыць толькі Левэн. Відаць, прафесар у яго гадах не мог вытрываць такую шалёную гонку. Левэн, задыхаючыся, параўняўся са мною. Мы зірнулі адзін на аднаго; апроч страху быў у нашых позірках і сорам: як гэта мы так — чалавекі?!. Я ўжо хацеў быў прапанаваць Левэну вярнуцца назад або хоць пачакаць

нашага шэфа, як раптам зусім іншыя гукі прымусілі нас скалануцца.

Памыліцца я не мог. У джунглях грымелі стрэлы — адзін, другі, потым яшчэ і яшчэ з няроўнымі паўзамі, іншы раз адзіночныя, іншы раз здвоеныя і дужа падобныя на дублеты нашых паляўнічых. Стралялі дзесьці наперадзе, перакрываючы ўцекачам дарогу. Але пакуль мы раздумвалі, што рабіць, ланцуг загоншчыкаў наблізіўся амаль да нас — і тут узнікла паніка. Не ведаю чаму, але страляніна здалася мне менш небяспечнаю, ва ўсякім разе, больш знаёмай і не такой страшнай, як гэты, бы ў пекле, вар'яцкі гармідар. Інстынктыўна, стараючыся, аднак, пазбягаць адкрытых месцаў і рухацца як мага цішэй, я зноў кінуўся бегчы. Левэн трымаўся мяне.

Так мы дабеглі да таго месца, адкуль даносіліся стрэлы. Я спыніўся, потым пачаў прабірацца далей яшчэ больш асцярожна, ледзь не паўзком. Мой таварыш не адставаў ад мяне. Мы ўскараскаліся на невысокі пагорак і залеглі амаль на самай яго вяршыні, пераводзячы дух. Наперадзе было ўсяго некалькі дрэваў і палоска кустоўя. Выглянуўшы з кустоў, я здранцвеў бы аглушаны.

Відовішча было задужа неверагоднае, недаступнае асэнсаванню — перад тым, што мы ўбачылі, наш чалавечы розум быў проста бяссільны.

## Раздзел IX

У відовішчы гэтым багата было і дзіўнага і страшнага, але спачатку ўсю маю ўвагу забрала адна істота, якая стаяла нерухома крокаў за трыццаць ад мяне і глядзела ў мой бок.

Я ледзь не ўскрыкнуў, гэтак быў збянтэжаны. Нягледзячы на паніку, нягледзячы на ўвесь трагізм майго становішча — я ж апынуўся паміж загоншчыкамі і стралкамі,— бясконцае здзіўленне заглушыла ўва мне ўсе астатнія пачуцці, калі я ўбачыў, што за стварэнне пільнавала нас, бы якую дзічыну, з засады.

Гэта была малпа. Гарыла вялізнага росту.

Дарма я паўтараў сабе, што, напэўна, звар'яцеў — перада мною быў не міраж. Аднак сустрэча з гарылаю нават на Сароры сама па сабе не ўяўляла б сабою нічога звышнатуральнага. Уразіла мяне тое, што гарыла была прыстойна адзетая, зусім як чалавек на Зямлі, а галоўнае — яна адчувала сябе ў гэтай адзежы свабодна і няз-

мушана. Менавіта гэтая вось натуральнасць і ашаламіла мяне. З першага ж позірку я зразумеў, што малпа не была спецыяльна кімсьці прыбраная. Вопратка была ёй такая ж прывычная, як поўная яе адсутнасць Нове і іншым сарорцам.

Гарыла насіла такі самы касцюм, як мы з вамі, я хачу сказаць, як нашы паляўнічыя, на адной з тых грандыёзных аблаў, што ладзяцца ў нас паслам і іншым важным персонам. Яе карычневая куртка здавалася сшытаю ў лепшым парыжскім атэлье, а пад ёй віднелася кашуля ў буйную клетку,— такія звычайна носяць нашыя спартсмены. Трохі пашыраныя ўнізе брыджы былі запраўлены ў гетры. Тут падабенства канчалася: замест чаравікаў на нагах у гарылы была пара тоўстых чорных пальчатак.

Я паўтараю — вочы мяне не падманвалі!

З каўняра кашулі тырчала зарослая чорнаю поўсцю брыдкая галава: востры чэрап, прыплюснуты нос, велізарная сківіца. Гарыла стаяла, крыху нахіліўшыся ўперад, у тыповай паставе паляўнічага, які пільнуе звера, і яе доўгія рукі сціскалі стрэльбу. Яна затаілася акурат насупраць мяне, на іншым баку шырокай прасекі, да якой набліжаўся ланцуг загоншчыкаў.

Раптам гарыла насцярожылася. Я таксама пачуў у кустах трохі правей сябе лёгкі шоргат. Гарыла павярнула галаву, адначасова ўздымаючы стрэльбу, каб адразу ж прыцэліцца. З вяршыні пагорка я заўважыў, як варушыцца кустоўе, скрозь якое прадзіраўся наўздагад адзін уцякач. Я хацеў крыкнуць, каб засцерагчы яго, настолькі быў мне ясны намер малпы. Але толькі я сабраўся гэта зрабіць, як чалавек выскачыў на адкрытае месца з хуткасцю аленя. Куля трапіла ў яго, калі ён быў на сярэдзіне прасекі. Чалавек падскочыў, упаў, забіўся ў канвульсіях і выпусціў дух.

Але я не адразу звярнуў позірк на забітага — уся мая ўвага была скіраваная на гарылу. Я пільна сачыў за ёю з таго самага моманту, як яна пачула шоргат, і быў дужа ўражаны багаццем яе мімікі: спачатку на мордзе ў гарылы чыталася напружлівае чаканне паляўнічага, які пільнуе дзічыну, потым жорсткая радасць ад удалага стрэлу, а самае дзіўнае ва ўсім гэтым было тое, што малпа выяўляла свае пачуцці гэтаксама ж, як і чалавек. Вось гэта і ўразіла мяне больш за ўсё: у вачах у гэтай жывёлы свяціўся розум, якога зусім не было ў людзей Сароры.

Але пачуццё небяспекі, што пагражала мне самому, хутка адагнала маё здзіўленне. Стрэл прымусіў мяне зноў

глянуць на ахвяру, і я стаў сведкам яе перадсмяротнай агоніі. Потым я з жахам заўважыў, што ўся прасека завалена чалавечымі целамі. Зніклі мае апошнія ілюзіі наконт убачанага. Крокаў за сто ад першай гарылы я заўважыў другую, адзетую гэтаксама ж. Гэта была аблава, фантастычная аблава, у якой паляўнічыя былі малпы, растаўленыя ў ланцуг з аднолькавымі інтэрваламі, а дзічынаю — такія ж, як я, людзі, мужчыны і жанчыны, чые голыя целы, прастрэленыя, скурчаныя, застылыя ў самых дзікіх паставах, валяліся на скрываўленай зямлі. І сам я быў дзічынаю!..

Не вытрымаўшы жудаснага відовішча, я адвёў позірк ад прасекі. Лепш ужо было глядзець на карыкатуру — і я зноў пачаў назіраць за гарылаю, якая перакрывала мне шлях наперад. Яна павярнулася, і я ўбачыў за яе спінаю другую малпу, якая стаяла ззаду, бы слуга каля свайго гаспадара. Гэта быў шымпанзэ, шымпанзэ маленькага росту, відаць, яшчэ малады, але, клянуся, шымпанзэ! Адзеты ён быў праўда, не так вытанчана, як гарыла, а ў простую кашулю і штаны, аднак спрытна спраўляўся са сваімі абавязкамі, якія адразу ж сталі мне зразумелыя, калі гарыла працягнула яму стрэльбу, а ён падаў ёй другую, зараджаную. Потым шымпанзэ хутка дастаў з патранташа на поясе патроны, якія бліснулі ў промнях Бетэльгейзе, і, перазарадзіўшы першую стрэльбу, зноў заняў сваё месца ззаду гарылы.

Усе гэтыя ўражанні абваліліся на мяне ўмомант. Я спрабаваў абдумаць іх, прааналізаваць, але часу на гэта не было. Левэн ляжаў побач са мною, здранцвелы ад страху, і нічым не мог мне дапамагчы. Небяспека ўзрастала з кожнай секундаю. Загоншчыкі набліжаліся. Гвалт і крыкі, усчатыя імі, аглушалі. Нас ахапіла паніка, як дзікіх звяроў, як гэтых няшчасных людзей, што прабягалі міма нас. Племя, як выявілася, было намнога больш люднае, чым я думаў, таму што мужчыны і жанчыны ўсё яшчэ выскоквалі на прасеку, дзе іх чакала жахлівая смерць.

Аднак не ўсіх. Спрабуючы трымаць сябе ў руках, я назіраў з вышыні пагорка за паводзінамі ўцекачоў. Большасць, звар'яцеўшы ад страху, з гвалтам ламілася напрасткі праз кусты, даючы такім чынам знаць пра сябе малпам, якія расстрэльвалі людзей ва ўпор. Але некаторыя паводзілі сябе больш асцярожна, як старыя кабаны-секачы, што пабывалі ўжо ў многіх аблавах і навучыліся ўсялякім хітрыкам. Гэтыя ўцекачы нячутна падбіраліся да прасекі, заміралі, чакаючы, пакуль бліжэйшы паляўнічы

адвернецца — і адразу ж выскоквалі з кустоў, імгненна перасякаючы смертаносную зону. Многім удавалася перабегчы праз усю прасеку і знікнуць у непраглядным зарасніку на другім баку.

Магчыма, гэта быў наш адзіны шанц на ўратаванне. Я зрабіў Левэну знак рушыць услед за мною і папоўз да апошніх кустоў перад прасекаю. Але калі мы дабраліся да іх, мяне ахапіла раптам недарэчнае абурэнне. Як гэта я, чалавек, буду хітрыць, каб падмануць малпу? Каб не абразіць сваёй годнасці, я павінен зараз жа ўстаць і палкаю адлупцаваць жывёл. Аднак жудасны гармідар, які ўсё нарастаў, прагнаў ідыёцкі настрой.

Паляванне канчалася. Грукат стаяў такі, што можна было звар'яцець. Загоншчыкі былі ўжо ў нас за спінаю. Я паспеў разгледзець праз лістоту аднаго з іх. Гэта была вялізная гарыла, якая галасіла і ўлюлюкала ва ўсё горла, стукаючы палкаю па ствалах дрэў. Мне яна здалася яшчэ больш страшнай, чым гарыла-паляўнічы. Левэн увесь затросся, ажно зашчоўкаў зубамі, а я, затаіўшы дыханне, чакаў зручнага моманту, каб кінуцца да гушчару.

І тут мой няшчасны таварыш, сам таго не ўсведамляючы, уратаваў мяне сваёй неасцярожнасцю. Зусім страціўшы галаву, Левэн ускочыў, безразважна кінуўся бегчы і апынуўся на адкрытай прасторы акурат перад дулам бліжэйшага паляўнічага. Адбегчы далёка яму не ўдалося. Стрэл нібыта пераламаў яго напалам, і Левэн зваліўся побач з трупамі астатніх уцекачоў. Мне не было калі аплакваць яго. Сціснуўшыся ў камяк, я вычакаў, калі гарыла аддасць стрэльбу слузе на перазарадку, і, выскачыўшы з кустоў, кінуўся бегчы цераз прасеку. Я бачыў, быццам у сне, як гарыла таропка схапіла зараджаную стрэльбу, але перш чым яна паспела прыцэліцца, я паспеў нырнуць у заraснік. Я пачуў яе крык, мусібыць, яна лаялася, але мне было не да абдумвання гэтай новай недарэчнасці.

Перамога была за мною. Душа мая ганарліва трыумфавала — ува мне зноў загаварыла ўніжанае самалюбства. Я бег з усіх ног далей ад крывавай бойні, і неўзабаве крыкі загоншчыкаў за маёй спінаю змоўклі. Я выратаваўся.

Выратаваўся? На жаль, я недаацаніў злой хітрасці малпаў Сароры. Не прабег я і сто метраў, як спатыкнуўся і адразу ж наляцеў на нейкую перашкоду на маім шляху, схаваную ў зарасніку. Гэта была расцягнутая над зямлёю сетка з буйнымі ячэйкамі і кашалямі, у адным з якіх я і заблытаўся. І не адзін я трапіў у гэтую пастку. Сетка перакрывала досыць шырокую паласу лесу, і ў ёй боўталіся

няўдалыя ўцекачы, якія здолелі ўратавацца ад расстрэлу на прасецы. Адчайныя рыўкі сеткі і злосны віск вакол мяне найлепшым чынам давялі мне ў лічаныя імгненні марнасць іх намаганняў выбрацца на волю.

Калі я адчуў сябе ў пастцы, мною авалодала сляпая, звярыная лютасць, мацнейшая за страх, і я страціў усякую здольнасць разважаць. Наадварот, нібыта звар'яцелы, рабіў якраз тое, што разумнаму чалавеку ніяк было нельга рабіць: кідаўся ў сетцы з боку ў бок, спрабуючы вырвацца, пакуль не заблытаўся канчаткова, так, што ўжо і паварухнуцца не мог. Мне засталося толькі моўчкі чакаць, спадзеючыся на літасць малпаў, якія, я чуў, падыходзілі ўжо да нас.

## Раздзел X

Калі я ўбачыў, што да нас набліжаюцца малпы, мяне ахапіў смяротны жах. Пасля таго, чаму давялося стаць сведкам, здалося, што гэтыя жорсткія стварэнні зараз жа пачнуць знішчаць палонных.

Наперадзе ішлі паляўнічыя, усе гарылы. Я заўважыў, што яны без зброі, і ў душы ў мяне зацеплілася надзея. За стралкамі да нас кіраваліся слугі і загоншчыкі, сярод якіх, апроч гарыл, было прыблізна столькі ж шымпанзэ. Стралкі трымаліся вяльможна, быццам сапраўдныя арыстакраты. Яны былі ў цудоўным гуморы і, відаць, не мелі да нас ніякіх благіх намераў.

Нялёгка мне было прывыкнуць да ўсіх парадоксаў гэтай планеты, каб напісаць падобную фразу, не задумваючыся над яе недарэчнасцю! Толькі ж менавіта так усё і было! Гарылы выглядалі сапраўднымі арыстакратамі. Яны весела перагаворваліся на незразумелай, але досыць выразнай мове, а міміка іх перадавала ўсе адценні чалавечых пачуццяў, сляды якіх я так марна спрабаваў адшукаць на твары ў Новы.

Што да сарорскай прыгажуні, дык я нават не ведаў, што з ёю. Пры адным толькі ўспаміне пра крывавую прасеку мяне праймалі дрыжыкі. Цяпер я ўжо разумеў, чаму так усхвалявалася Нова, убачыўшы нашага шымпанзэ. Тут, мусіць, людзі і малпы люта ненавідзелі адны адных. Я канчаткова ў гэтым пераканаўся, калі ўбачыў, як паводзяць сябе палонныя пры малпах, што набліжаліся да іх. Яны сутаргава тузаліся, падскоквалі на карачках, раз'ю-

шана скрыгаталі зубамі і з пенаю на вуснах грызлі вяроўкі сеткі.

Не зважаючы на ўсю гэтую калатнечу, гарылы-паляўнічыя — я злавіў сябе на тым, што называю іх панамі,— аддавалі загады сваім слугам. На дарозе, дзе была расцягнута сетка, з'явіліся даволі нізкія трактарныя прычэпы, на якіх стаялі клеткі. Вось у гэтыя клеткі нас і кідалі — з разліку тузін на прычэп, і працягвалася гэта досыць доўга, таму што палонныя адчайна адбіваліся. Дзве гарылы-слугі, нацягнуўшы тоўстыя скураныя пальчаткі, якія засцерагалі іх ад укусаў, хапалі людзей аднаго за адным, вызваляючы з сеткі, шпурлялі ў клеткі і хутка засоўвалі дзверцы, а адна гарыла-пан кіравала імі, нязмушана абапёршыся на трысціну.

Калі чарга дайшла да мяне, я хацеў загаварыць, каб прыцягнуць да сябе ўвагу. Але толькі я разявіў рот, як гарыла-слуга груба заціснула мне яго вялізнай лапаю ў пальчатцы, падумаўшы, пэўна, што я збіраюся яе ўкусіць. З заціснутым ротам не пагаворыш! Мяне, быццам якую торбу, кінулі ў клетку, і я апынуўся ў кампаніі дзесятка іншых мужчын і жанчын, яшчэ занадта ўзбуджаных, каб звярнуць на мяне ўвагу.

Нарэшце ўсе палонныя былі пагружаны, гарыла-слуга праверыла засаўкі на клетках і сказала нешта свайму гаспадару. Той махнуў рукою, і лес адразу ж напоўніўся гулам матораў. Прычэпы тузануліся і пакаціліся за машынамі, падобнымі на нашы калёсныя трактары, кіравалі якімі зноў жа малпы. Я добра разледзеў шафёра, які сядзеў за рулём трактара ззаду нашага. Гэта быў шымпанзэ ў сінім кабінезоне. Напэўна, ён быў у выдатным настроі, бо адпускаў раз-пораз нам кплівыя жарты, штосьці напяваючы сам сабе: калі гул матораў заціхаў, да мяне даносіліся абрыўкі томнае мелодыі з даволі прыемным матывам.

Першы этап перавозкі палонных быў настолькі кароткі, што я нават не паспеў сабрацца з думкамі. Праз чвэрць гадзіны язды па вельмі дрэннай дарозе наш караван спыніўся на адкрытай пляцоўцы перад мураваным будынкам. Тут лес канчаўся, далей я ўбачыў толькі палі, засеяныя нейкай збажынаю.

Дом з чырвоным чарапічным дахам, з зялёнымі аканіцамі і шыльдаю над уваходам дужа выдаваў на вялікі шынок. Я хутка скеміў, што гэта месца збору паляўнічых. Тут слугі-шымпанзэ чакалі гаспадароў, якія пад'язджалі на

сваіх машынах, скарыстаўшыся, пэўна, другой дарогаю. Дамы-гарылы сядзелі гуртком у крэслах у цяні высокіх дрэў, якія нагадвалі нашы пальмы, і бестурботна балбаталі. Адна пацягвала праз саломінку нейкі напой.

Калі прычэпы выстраіліся на стаянцы, дамы наблізіліся да іх і пачалі з цікаўнасцю разглядваць здабычу і перш за ўсё дзічыну падстрэленую, якую даставілі сюды на двух вялікіх грузавіках,— слугі-гарылы ў доўгіх фартухах выцягвалі трупы і складвалі іх пад дрэвамі.

Здабыча была адмысловая! Да таго ж, малпы дзейнічалі, прытрымліваючыся строгага парадку. Яны паклалі скрываўленыя целы тварамі ўверх у адзін рад, быццам па лінейцы. А пасля пачалі пад захопленыя воклічы дам усё роўна як аздабляць забітую дзічыну, каб яна выглядала згодна з іх густам як мага больш імпазантна. Яны ўкладвалі рукі ўздоўж тулава, выпроствалі скурчаныя пальцы і паварочвалі далоні ўверх, выцягвалі ногі, размяўшы іх у каленях, паварочвалі гідка скрыўленыя набок галовы. Нарэшце яны клапатліва прычасалі забітых, асабліва жанчын, гэтаксама ж як некаторыя паляўнічыя прычэсваюць поўсць або прыгладжваюць пер'е толькі што забітым звярам ці птушкам.

Баюся, я не змагу перадаць тое, што адчуваў, гледзячы на гэты брыдотны кашмар. Не памятаю, ці казаў я пра знешнасць усіх гэтых гарыл і шымпанзэ, пра спецыфічныя грымасы і жэсты малпаў, калі не лічыць таго, што паведаміў пра чалавечы выраз іх вачэй. Ці не забыўся я згадаць, як дамы-гарылы, таксама адзетыя па-спартыўнаму, але з вялікай вытанчанасцю, мітусіліся і штурхаліся, вышукваючы лепшыя трафеі, і паказвалі на іх пальцамі, віншуючы сваіх кавалераў? Ці ж сказаў што-небудзь пра тую жудасную сцэнку, калі адна дама выняла з сумачкі маленькія нажніцы, нахілілася над трупам, адрэзала некалькі чорных пасмаў і, звіўшы іх у колца, прыкалола шпількаю да свайго капелюша? Усе астатнія дамы, зірнуўшы на яе, адразу ж зрабілі тое самае.

Нарэшце здабычу рассартавалі: усе трупы былі акуратна пакладзены ў тры рады, мужчыны і жанчыны ўперамешку. У небе, заліваючы гэтыю варварскую сцэну нясцерпным святлом, палала Бетэльгейзе. У жаху я адвёў вочы і ўбачыў новую дзейную асобу — малпу с трыножнікам і замацаванай на ім доўгай чорнай скрынкаю. Гэта быў шымпанзэ. Я хутка пазнаў у ім фатографа, які збіраецца зняць пышную карціну багатых вынікаў слаўнага палявання. Фатаграфаванне заняло больш за чвэрць гадзіны. Спа-

чатку гарылы фатаграфаваліся паасобку ў самых рэспектабельных, як яны, мусіць, лічылі, паставах — некаторыя з выглядам пераможцаў ставілі нагу на ахвяру палявання,— потым усім гуртам, абняўшыся за плечы. Пасля гэтага настала чарга самак, і яны таксама доўга выбіралі сабе вытанчаныя, як на іх разуменне, паставы на фоне скрываўленых целаў, гэтак папраўляючы капелюшы з пасмамі прыколатых валасоў, каб тыя відненіся выразна.

Жудаснасць гэтага відовішча нашмат перавышала сілы чалавечага разумення. Нейкі час я стрымліваўся, хоць кроў так і закіпала ў маіх жылах, але калі адна самка ўселася на труп, каб зняцца больш эфектна за сваіх каляжанак, калі я пазнаў рысы забітага, які ляжаў побач з іншымі ахвярамі, юначыя, амаль дзіцячыя рысы майго няшчаснага кампаньёна Артура Левэна, нервы мае здалі, і мае пачуцці зноў выліліся ў форму, такую ж недарэчную, як і гэтая жахлівая сцэна: мяне ахапіла раптам нястрыманая весялосць, і я зарагатаў.

Я і не падумаў пра сваіх суседзяў па клетцы. Я ўвогуле не мог ужо думаць. Але паніка, якая адразу ж узнялася сярод людзей, напомніла, што мне яны, відаць, яшчэ больш небяспечныя, чым нават малпы. Рукі сарорцаў пагрозліва пацягнуліся да мяне з усіх бакоў. Убачыўшы небяспеку, я пастараўся заглушыць смех, схаваўшы твар у далоні. Мяне, мажліва, усё роўна задушылі б ці парвалі на кавалкі, калі б некалькі малпаў, якія пачулі гвалт, не аднавілі парадак уколамі дзідаў. Неўзабаве ўвагу ўсіх забрала новая падзея. У шынку зазвінеў звон, запрашаючы на сняданак. Гарылы, весела перагаворваючыся, рушылі невялікімі гуртамі ў дом, а фатограф, зняўшы некалькі разоў людзей у клетках, пачаў складваць свой апарат.

Аднак і мы, людзі, таксама не былі забытыя. Я не ведаў, які лёс падрыхтавалі нам малпы, але яны вырашылі паклапаціцца пра нас. Перш чым знікнуць у дзвярах шынка, адзін пан аддаў нейкі загад другому самцу-гарыле, які, відаць, быў начальнікам атрада егераў. Той вярнуўся да клетак, паклікаў сваіх падначаленых, і неўзабаве слугі прынеслі нам карыты з ежаю — на выгляд нешта накшталт густой полíўкі — і ваду ў вёдрах. Я не адчуваў голаду, але вырашыў есці разам з усімі, каб захаваць сілу. Наблізіўшыся да карыта, вакол якога ўжо сядзелі на кукішках многія палонныя, я нясмела працягнуў руку. Яны злосна паглядзелі на мяне, але, паколькі полíўкі хапала на ўсіх, адштурхоўваць не сталі. Я даволі ахвотна з'еў некалькі жменяў досыць смачнай рэдкай кашы з нейкіх круп.

Да таго ж, мы атрымалі дзякуючы дабрыні нашых вартаўнікоў яшчэ і сёе-тое на дэсерт. Гэтыя загоншчыкі, якія нядаўна наводзілі на нас жах, пасля палявання ставіліся да нас, можна сказаць, зычліва, калі толькі мы паводзілі сябе пакорліва. Яны прагульваліся перад клеткамі і кідалі нам час ад часу розныя плады, забаўляючыся звалкаю, якая стваралася пасля кожнае іх падачкі. Тут я ўбачыў сцэнку, якая прымусіла мяне задумацца. Маленькая дзяўчынка злавіла на ляту плод, сусед кінуўся да яе, каб адабраць яго, але тут за дзіця заступілася малпа. Яна прасунула дзіду скрозь краты, груба адштурхнула мужчыну, а потым уклала другі плод у руку дзяўчынцы. Я зразумеў, што гэтым істотам бывае ўласцівае і пачуццё жалю.

Калі з ежаю было скончана, начальнік атрада і яго егеры пачалі перасяляць асобных палонных з аднае клеткі ў другую. Здавалася, нас сартуюць, але паводле якога прынцыпу — гэтага я ўцяміць не мог. Апынуўшыся ўрэшце ў адной клетцы з самымі прыгожымі мужчынамі і жанчынамі, я вырашыў, што трапіў у групу выдатных прадстаўнікоў сваёй пароды, і паспрабаваў суцешыцца горкай думкаю, што малпы з першага позірку далучылі мяне да эліты.

Са здзіўленнем і бясконцай радасцю ўбачыў я сярод суседзяў па клетцы Нову. Яна ўратавалася, і я дзякаваў цяпер за гэта нябёсам Бетэльгейзе. Менавіта пра яе я згадваў, уважліва разглядаючы забітых, і пры адной толькі думцы, што сярод груды трупаў можа апынуцца яе цудоўнае цела, мяне прабірала дрыготка. Мне здалося, што я знайшоў дарагога мне чалавека, і вось, забыўшыся раптам на ўсё, я кінуўся да Новы, каб абняць яе. Гэта было сапраўднае вар'яцтва: мой жэст выклікаў у яе жах. Няўжо яна забылася пра мінулую ноч, думаў я. Няўжо ў такім дзівосным целе няма ніякае душы? Я быў проста ў шоку, калі ўбачыў, як Нова сціснулася пры маім набліжэнні ў камяк і выцягнула наперад рукі са скурчанымі пальцамі, быццам збіралася ўчапіцца ў горла, што, напэўна, яна і зрабіла б, калі б я не спыніўся.

Аднак я замёр на месцы, і Нова досыць хутка супакоілася. Неўзабаве яна ўладкавалася ў куце, я ж, ахоплены роспаччу, сеў у іншым. Улегліся і астатнія палонныя. Падаўленыя, зламаныя стомаю, яны, здавалася, скарыліся са сваім лёсам.

А малпы на дварэ рыхтаваліся да ад'езду. На нашую клетку накінулі брызент, які даходзіў да паловы вышыні кратаў, так што святла хапала. Пачуліся загадныя галасы,

загулі маторы. І вось ужо нас некуды везлі з вялікай хуткасцю. Я ляжаў і з трывогаю разважаў, якія яшчэ злыя прыгоды чакаюць мяне на Сароры.

## Раздзел XI

Я адчуваў сябе знішчаным. Падзеі апошніх двух дзён зламалі мяне фізічна і агарнулі душу такім глыбокім адчаем, што я нават не змог ні аплакаць гібель сваіх таварышаў, ні ўявіць сабе да канца, што значыць для мяне разбурэнне нашага катэра. Таму я ўзрадаваўся прыцемкам, а пасля з палёгкаю схаваўся ў цемры — вечар настаў хутка, і нас везлі ўсю ноч. Я абдумваў тое, што адбылося. Трэба было няспынна прымушаць розум працаваць, каб не паддацца вар'яцтву, якое ўжо пільнавала мяне. Я павінен быў гэта рабіць, каб зноў і зноў даводзіць сабе, што я ўсё ж чалавек, зямны чалавек, істота, якая жыве думаючы і прывыкла знаходзіць лагічныя тлумачэнні самым, здавалася б, фантастычным з'явам, а не жывёліна, злоўленая ў пастку высокаразвітымі малпамі.

Я перабіраў усе драбніцы, якія захаваліся ў маёй памяці.

Галоўнае было тое, што ўсе гэтыя малпы, гарылы і шымпанзэ, самцы і самкі, зусім не здаваліся мне недарэчнымі. Я ўжо казаў: яны аніводнага разу не нагадалі мне дрэсіраваных малпаў, накшталт тых, што паказваюць у нашых цырках.

На Зямлі шымпанзэ ў капелюшы для многіх відовішча дужа смешнае, хоць асабіста мяне яно засмучала. А тут не было нічога падобнага. Капелюшы пасавалі малпам, а ўсе іх рухі былі вельмі натуральныя. Самка-гарыла, якая пацягвала праз саломінку халодны напой, выглядала як сапраўдная дама. Адзін з паляўнічых, згадаў я, выняў з кішэні люльку і пачаў нетаропка раскурваць. Ніштo ў гэтай сцэне не насмяшыла мяне, такія натуральныя былі ў малпы рухі.

Я спрабаваў асэнсаваць усе гэтыя дзівосы, доўга круціў сабе галаву і, здаецца, упершыню за ўвесь час палону горка пашкадаваў, што са мною няма прафесара Антэля. Яго мудрасць і веды дапамаглі б знайсці тлумачэнне ўсім парадоксам.

Што сталася з прафесарам, я не ведаў. Сярод застрэленых яго не было — у гэтым я пераканаўся. Можа, ён таксама трапіў у пастку? Гэта было досыць верагодна, бо я не паспеў разгледзець усіх палонных. Спадзявацца ж на тое, што ён здолеў застацца на волі, я не асмельваўся.

Застаўшыся адзін, я стараўся стварыць сваю тэорыю, якая, зрэшты, не надта мяне задавальняла. Магчыма, жыхары гэтае планеты, цывілізаваныя істоты, чые гарады мы бачылі зверху, здолелі так выдрэсіраваць сваіх малпаў, што тыя пасля цярплівага і працяглага адбору, які здзяйсняўся на працягу жыцця не аднаго пакалення, набылі рысы адносна разумных істот. Урэшце, і ў нас на Зямлі некаторыя шымпанзэ могуць паказваць фенаменальныя штукі. І нават той факт, што ў тутэйшых малпаў ёсць свая мова, сам па сабе не такі ўжо і дзіўны, як мне гэта спачатку здалося. Я згадаў адну размову са спецыялістам у гэтай вобласці. Ён паведаміў мне, што сур'ёзныя вучоныя трацяць багата часу, стараючыся навучыць прыматаў размаўляць. Яны сцвярджаюць, што фізічная будова іх гартані гэтаму не замінае. Дагэтуль усе іх спробы заставаліся марныя, але вучоныя не адступаюцца, бо яны ўпэўненыя, што адзіная прычына іх няўдач — усяго толькі нежаданне саміх малпаў загаварыць. Але, можа, на Сароры малпы ўсё-такі загаварылі? І гэта дазволіла гіпатэтычным гаспадарам планеты выкарыстаць іх на розных чорных работах, накшталт гэтага палявання ў джунглях, у час якога я трапіў у пастку?

Адчайна ўчапіўшыся за гэтую тэорыю, я баяўся нават падумаць, што можа існаваць іншае, прасцейшае тлумачэнне. Каб не звар'яцець, мне трэба было верыць, што на гэтай планеце ёсць сапраўдныя разумныя істоты, інакш кажучы, людзі, такія ж людзі, як я сам, з якімі я змагу знайсці агульную мову.

Людзі! Аднак хто ж тады гэтыя стварэнні, якіх забіваюць і ловяць малпы? Дзікуны, што затрымаліся ў сваім развіцці? Дык якая ж тады гэта была нечуваная жорсткасць гаспадароў планеты — дазваляць ці, можа, нават арганізоўваць такія пабоішчы?

Мае горкія развažанні перапыніла няясная постаць, што падпаўзала да мяне на карачках. Гэта была Нова. Астатнія палонныя ляжалі ўжо гуртамі на падлозе. Павагаўшыся трохі, Нова, як і мінулы раз, прыціснулася да мяне. Я зноў паспрабаваў адшукаць у яе позірку хаця б іскрынку сяброўскай спагады — дарэмна. Дзяўчына адвярнулася і неўзабаве заплюшчыла вочы. Нягледзячы на гэта, мне стала неяк спакайней ад адной яе прысутнасці, і ўрэшце я таксама заснуў, стараючыся не думаць пра заўтрашні дзень.

# Раздзел XII

Абарончы рэфлекс дапамог мне пазбавіцца ад залішне роспачных думак, і я заснуў на нейкі час. Праўда, мяне мучылі кашмары, у якіх гарачае цела Новы ўяўлялася мне жудаснаю змяёю, што абвілася вакол мяне. На золку я расплюшчыў вочы. Нова ўжо не спала. Яна сядзела крыху адсунуўшыся ад мяне. У яе насцярожаных вачах бы назаўжды застыла разгубленасць.

Наш фургон запаволіў ход, і я ўбачыў, што мы ўязджаем у горад. Палонныя прыніклі да кратаў. Прысеўшы на кукішкі, яны са страхам выглядалі з-пад брызенту. Я таксама прыціснуўся тварам да кратаў, каб лепш разгледзець першы горад Сароры, у які я трапіў.

Мы ехалі па досыць шырокай вуліцы з тратуарамі паабапал. Я засмучана ўзіраўся ў прахожых: вакол былі адны малпы. Заўважыў гандляра, пэўна, бакалейшчыка, які падымаў металічную штору ў сваёй невялікай краме і з цікаўнасцю азірнуўся на нас,— і гэты быў малпа. Я стараўся разгледзець кожны твар у аўтамабілях, што абганялі нас,— але ж усе, і пасажыры, і шафёры, былі малпы ў чалавечым адзенні.

Знікла мая апошняя надзея сустрэць на Сароры цывілізаваных людзей, і ўсю астатнюю дарогу я праседзеў здранцвелы і змрочны. Неўзабаве наша машына яшчэ раз запаволіла ход. Я адразу ж прыкмеціў, што за ноч караван істотна скараціўся: засталіся толькі два трактарныя прычэпы, астатнія, напэўна, рушылі ў іншым кірунку. Перад намі адчыніліся глухія вароты, і мы ўехалі ў двор. Малпы адразу ж акружылі нас. Палонныя пачалі хвалявацца, і малпам прыйшлося ўтаймоўваць іх дзідамі.

Двор з усіх бакоў замыкаўся шматпавярховым будынкам з радамі аднолькавых вокнаў. Больш за ўсё будынак з яго тэрыторыяй выдаваў на бальніцу, і гэтае ўражанне толькі ўзмацнілася, калі насустрач нашым вартаўнікам выйшлі з будынка новыя малпы. На іх былі белыя халаты і маленькія шапачкі, як у нашых санітараў. Гэта зноў-такі былі малпы.

Але, усе тут былі малпы — гарылы ці шымпанзэ! Разам з вартаўнікамі яны пачалі разгружаць фургоны. Палонных па адным выцягвалі з клетак, засоўвалі ў вялікія мяхі і адносілі ў будынак. Я не стаў супраціўляцца, і неўзабаве дзве вялізныя гарылы ў белых халатах сунулі мяне ў мех. Потым мяне доўга некуды неслі: здавалася, што мы падымаемся па лесвіцы, рушым па калідорах. Нарэшце мяне бес-

цырымонна вытраслі з меха на падлогу і адразу ж сунулі ў другую клетку, на гэты раз стацыянарную, з саламянай падсцілкаю. Агледзеўшыся, я ўбачыў, што ў клетцы суседзяў у мяне няма. Гарыла дбайна зачыніла дзверы на замок.

Памяшканне, у якім я апынуўся, уяўляла сабою залу з мноствам аднолькавых клетак уздоўж сцен і доўгім праходам паміж імі. Амаль ва ўсіх клетках нехта ўжо быў: у адных — мае таварышы па няшчасці, у іншых — мужчыны і жанчыны, якія знаходзіліся тут, відаць, ужо даўно. Гэтых можна было вылучыць па абыякавым выглядзе. Сустракаючы новых суседзяў, яны звярталі нейкую ўвагу хіба што на якога-небудзь няшчаснага, калі той пачынаў жаласна стагнаць. Яшчэ я заўважыў, што ўсіх навічкоў размясцілі паасобку, а старажылы сядзелі ў клетках пераважна парамі. Прыціснуўшыся тварам да кратаў, я ўбачыў у канцы праходу яшчэ адну клетку, большую — з мноствам дзяцей. У адрозненне ад дарослых дзеці рэагавалі на нашае прыбыццё вельмі жыва. Яны размахвалі рукамі, штурхаліся, мітусіліся, рабілі выгляд, што трасуць краты, і сакаталі безупынку, бы маленькія малпачкі-гарэзы.

Зноў з'явіліся з чарговым мехам дзве гарылы. З яго вывалілася мая «сяброўка» Нова. Яе памясцілі ў клетцы насупраць — хоць гэта мяне трохі суцешыла. Нова была раз'юшаная і супраціўлялася як магла, стараючыся падрапаць або ўкусіць гарыл. Калі ж яе нарэшце замкнулі ў клетцы, яна, скрыгочучы зубамі, пачала трэсці краты — сэрца разрывалася, так жудасна яна ўлюлюкала. Праз нейкі час яна заўважыла мяне і замерла, выцягнуўшы шыю, як здзіўлены звярок. Я асцярожна ўсміхнуўся ёй, памахаў рукою. І калі яна нязграбна паспрабавала паўтарыць гэты жэст, душа мая напоўнілася радасцю!

У памяшканне зноў вярнуліся і забралі маю ўвагу дзве гарылы ў белых халатах. Напэўна, разгрузка скончылася, бо нікога больш яны не прынеслі. Затое яны прыкацілі гэтым разам вазок з ежаю і вядзерцамі з пойлам. Пачалася раздача прывезенага, і палонныя супакоіліся.

Неўзабаве чарга дайшла да мяне. Пакуль адна гарыла стаяла на варце, другая ўвайшла ў клетку і паставіла перада мною міску з кашаю, вядзерца з вадою і паклала побач некалькі пладоў. Я ўжо вырашыў любой цаною усталяваць кантакт з малпамі, якія, відаць, былі адзіныя разумныя істоты на гэтай планеце. Гарыла, якая прынесла мне ежы і пойла, выглядала досыць зычлівай. Убачыўшы, што я трымаюся спакойна, яна нават паляпала мяне лапаю па плячы. Я паглядзеў ёй у самыя вочы, пасля паднёс руку

да грудзей і ветліва пакланіўся. Узняўшы галаву, я ўбачыў на твары ў гарылы збянтэжанасць. Тады я ўсміхнуўся малпе, стараючыся ўкласці ва ўсмешку ўсю сваю душу.. Гарыла ўжо збіралася пайсці, але тут раптам замерла на месцы, здзіўлена ўскрыкнуўшы. Нарэшце мяне заўважылі! Жадаючы замацаваць поспех і прадэманстраваць усе мае здольнасці, я вымавіў першае, што прыйшло ў галаву:

— Як вы тут жывяце? Я чалавек з Зямлі. Мы доўга ляцелі, каб дабрацца сюды.

Сэнс таго, што я сказаў, не меў значэння. Дастаткова было проста гаварыць, каб малпа зразумела, з кім мае справу. І я дамогся сваёй мэты. Напэўна, ніколі ні ў якой малпы яшчэ не было такой разгубленай пысы! Гарыла і яе напарнік замерлі з разяўленымі ратамі, у іх ажно дыханне перахапіла. Нарэшце яны пачалі таропка перагаворвацца між сабою, але іх кароткая перамова скончылася зусім не так, як я разлічваў. Падазрона паглядзеўшы на мяне, гарыла хутка выскачыла з клеткі і зачыніла дзверы на замок з асаблівай дбайнасцю. Пасля малпы пераглянуліся — і заліліся раптам безупынным смехам. Напэўна, я быў для іх з'яваю сапраўды унікальнаю, бо яны доўга не маглі супакоіцца. У іх ажно слёзы выступілі на вачах, а адна гарыла нават паставіла на падлогу кацёл з кашаю і палезла ў кішэні па насоўку. Мяне ахапіла такія крыўда і расчараванне, што я ўмомант ледзь не сшалеў. Раз'юшаны, я, гэтаксама ж як і сарорскія дзікуны, трэс прэнты кратаў, скаліў зубы і лаяў малпаў на ўсіх вядомых мне мовах апошнімі словамі. Калі мой запас лаянкі кончыўся, я ўсё яшчэ рыкаў, выкрыкваючы штосьці зусім невыразнае, але тут ужо гарылы адно паціснулі пагардліва плячыма. Аднак мне ўсё-такі ўдалося звярнуць на сябе ўвагу. Перш чым выйсці, гарылы некалькі разоў азірнуліся, уважліва прыглядаючыся да мяне. Калі сілы мае скончыліся і я супакоіўся, адна малпа выняла з кішэні блакнот і нешта занатавала, зірнуўшы папярэдне на замацаваную на маёй клетцы таблічку, напэўна, з нумарам.

Гарылы пайшлі. Палонныя, устрывожаныя маім прыпадкам, супакоіліся і зноў пачалі есці. Мне таксама заставалася толькі паесці ды легчы спаць у чаканні больш плённай магчымасці выявіць сваю высакародную сутнасць. Я паеў усё тае ж крупяной кашы, пасля ўзяўся за сакавітыя плады. А Нова ў клетцы насупраць пераставала часам жаваць і паглядвала цішком у мой бок.

# Раздзел XIII

Да канца дня нас больш не турбавалі. Увечары, пасля другой кармёжкі, гарылы пайшлі, патушыўшы ў памяшканні святло. Гэтую ноч я амаль не спаў, і не таму, што падсцілка была цвёрдая — тоўсты слой саломы быў досыць зручным ложкам,— а таму, што бясконца абдумваў планы, як мне ўсталяваць кантакт з малпамі. Я даў сабе слова, што не паддамся болей сляпой лютасці, а буду цярпліва, нястомна пільнаваць любую магчымасць выявіць свой розум. Вартаўнікі былі, відаць, абмежаваныя тыпы з ніжэйшага персаналу і не маглі ацаніць і зразумець маіх намераў, але ж ёсць, мусіць, і іншыя, культурнейшыя малпы!

Уранку я пераканаўся, што спадзяванні мае не былі марныя. Я не спаў ужо больш за гадзіну. Большасць маіх суседзяў няспынна кружляла па сваіх клетках, як некаторыя звяры ў няволі. Калі я раптам усвядоміў, што даволі ўжо доўга паводжу сябе гэтаксама ж, то быў вельмі засмучаны. Я прымусіў сябе сесці перад кратамі і прыняць як мага больш асэнсаваную паставу чалавека, які задумаўся. У гэты момант дзверы адчыніліся, і ў праходзе з'явілася з вартаўнікамі самка-шымпанзэ. Па тым, як гарылы мітусіліся перад ёю, я адразу ж зразумеў, што яна займае тут досыць высокае становішча.

Вартаўнікі, вядома, далажылі пра мяне, бо шымпанзэ, ледзь толькі ўвайшла ў залу, нешта ў іх запытала, і адна гарыла паказала пальцам на маю клетку. Шымпанзэ адразу ж накіравалася да мяне.

Пакуль яна набліжалася, я паспеў яе разгледзець. На ёй таксама быў белы халат, але больш элегантнага крою, чым у вартаўнікоў,— з пояском і кароткімі рукавамі, з якіх высоўваліся доўгія рухавыя лапы. Аднак больш за ўсё мяне ўразілі яе вочы, надзіва разумныя і жывыя. Я падумаў, што гэта добры знак: у нас павінны ўсталявацца неблагія адносіны. Яна здалася мне зусім маладзенькаю, нягледзячы на тыповыя малпавы маршчынкі вакол яе белай пысачкі. У руцэ ў яе была скураная папка.

Яна спынілася перад маёй клеткаю і пачала ўважліва мяне разглядаць, адначасова вымаючы з папкі сшытак.

— Добры дзень, мадам,— сказаў я, пакланіўшыся.

Я стараўся, каб мой голас прагучаў як мага больш ласкава. На мордачцы ў шымпанзэ з'явілася неверагоднае здзіўленне, але яна захавала сур'ёзнасць і нават прымусіла кароткім жэстам змоўкнуць гарыл, якія зноў пачалі былі хіхікаць.

— Мадам ці мадэмуазель,— узбадзёраны, загаварыў я далей,— на жаль, я вымушаны паўстаць перад вамі ў такім вось становішчы і ў такім выглядзе. Паверце, не ў маёй звычцы...

Я ўсё гаварыў і гаварыў, нёс бог ведае што, клапоцячыся толькі пра тое, каб мае словы адпавядалі пачціваму тону, якога я вырашыў прытрымлівацца. Калі я змоўк, закончыўшы прамову самай абаяльнай усмешкаю, на якую я толькі быў здольны, шымпанзэ ледзь не аслупянела. Вочы ў яе заміргалі, лоб наморшчыўся. Было відаць, як пакутліва намагалася яна вырашыць найцяжэйшую задачу. Нарэшце яна ўсміхнулася мне ў адказ, і я сэрцам адчуў, што яна пачынае бачыць ува мне разумную істоту.

У час гэтай сцэны людзі ў клетках глядзелі на нас без тае злосці, у якую раней прыводзілі іх усе мае спробы загаварыць. Цяпер яны здаваліся нават зацікаўленымі. Адзін за адным людзі пераставалі кружляць па клетках, падыходзілі да кратаў і прыціскаліся тварам да прэнтаў, каб разгледзець нас як мага лепш. Адна толькі Нова раз'юшана кідалася ў клетцы ад сценкі да сценкі.

Шымпанзэ дастала з кішэні халата ручку і пачала нешта занатоўваць у сваім сшытку. Скончыўшы, яна ўзняла галаву і, сустрэўшы мой усхваляваны позірк, зноў усміхнулася. Гэта надало мне смеласці, і я рашыўся зрабіць яшчэ адзін сяброўскі жэст. Прасунуўшы руку скрозь краты, я працягнуў ёй адкрытую далонь. Гарылы кінуліся былі да нас, але шымпанзэ спыніла іх кароткім загадам, хоць спачатку сама ледзь не адскочыла ўбок. Пасля, авалодаўшы сабою, яна, пільна гледзячы мне ў вочы, працягнула лапку — тая дрыжала. Я не варушыўся. Яна ступіла яшчэ адзін крок наперад і паклала сваю лапу з надзвычай доўгімі пальцамі мне на запясце. Я адчуў, як яна ўздрыгнула ад гэтага сутыкнення, і застыў, каб не спалохаць яе якім-небудзь неасцярожным рухам. Тады яна пагладзіла мяне па далоні, потым па ўсёй руцэ і пераможна азірнулася на гарыл.

Я задыхаўся ад радасці: у душы ў мяне мацнела надзея, што яна ўсё ж такі пачынае прызнаваць ува мне разумную істоту. І калі шымпанзэ строга загадала нешта гарылам, у мяне мільганула нават вар'яцкая думка, што зараз вось клетка адчыніцца — і мяне з прабачэннямі выпусцяць з яе! Як я памыліўся! Адзін вартаўнік пакорпаўся ў сябе ў кішэнях, пасля падаў сваёй начальніцы нейкі белы кубік. А тая ў сваю чаргу з чароўнай усмешкаю паклала кубік мне на далонь. Гэта быў кавалачак цукру.

Кавалачак цукру! Я так высока ўзнёсся ў сваіх марах, што расчараванню майму не было мяжы. Нікчэмная падачка здалася мне такой абразлівай, што я ледзь не шпурнуў яе шымпанзэ ў пысу. Але я своечасова ўспомніў пра свае добрыя намеры і стрымаўся. Пакланіўшыся, я ўзяў цукар і пачаў грызці яго з самым разумным выглядам, які толькі мог напусціць на сябе.

Так мы пазнаёміліся. Шымпанзэ, як я неўзабаве даведаўся, звалі Зіра. Яна была загадчыцай аддзялення, у якое мяне памясцілі. Нягледзячы на горкае расчараванне ад яе падачкі, я ацаніў яе розум і ўжо прадчуваў, што ў будучым мне ўсё ж удасца ўсталяваць з ёю кантакт.

Зіра доўга гаманіла з вартаўнікамі. Як я зразумеў, яна давала ім падрабязныя ўказанні адносна мяне. Потым яна накіравалася далей, каб наведаць людзей у іншых клетках.

Шымпанзэ з асаблівай увагаю аглядала кожнага новенькага, рабіла ў сшытку нейкія запісы, нашмат карацейшыя за тыя, што былі звязаны са мною. Яна ні разу не рызыкнула наблізіцца ні да аднаго з дзікуноў. Калі б яна гэта зрабіла, я адчуў бы, напэўна, рэўнасць. Я пачынаў пранікацца гонарам за тое, што я тут — адзіны чалавек, які заслугоўвае асаблівага стаўлення. І калі я ўбачыў, што Зіра, спыніўшыся перад клеткаю з дзецьмі, кідае ім кавалачкі цукру, то ўмомант дайшоў да шалу, які можна параўнаць, бадай, толькі з лютасцю Новы, што, ашчэрыўшыся на шымпанзэ, забілася ў далёкі ад праходу кут клеткі і павярнулася да мяне спінаю.

## Раздзел XIV

Другі дзень прайшоў гэтаксама, як і першы. Малпы не звярталі на нас увагі, толькі прыносілі ежу. Здзіўлены, я спрабаваў угадаць, што гэта за ўстанова, але на трэці дзень нас пачалі выпрабоўваць цэлай серыяй тэстаў, пры ўспаміне аб якіх я й дагэтуль адчуваю ўніжэнне, але ў той час яны мяне хоць трохі забаўлялі.

Першы тэст здаўся мне спачатку проста бязглуздым. Адзін вартаўнік наблізіўся да мяне, а другі заняўся клеткаю насупраць. Мой вартаўнік схаваў адну руку за спінаю, а ў другой у яго быў свісток. Гарыла ўтаропілася на мяне, стараючыся прыцягнуць да сябе маю ўвагу, пасля паднесла свісток да рота і з хвіліну прарэзліва свісцела. Потым яна наўмысна замаруджана выняла з-за спіны другую руку, і я ўбачыў у ёй той самы падобны на банан плод, які так

любілі людзі Сароры. Трымаючы яго перад сабою, вартаўнік пільна назіраў за мною.

Я працягнуў руку, каб узяць банан, але гарыла стаяла надта далёка і набліжацца не збіралася. Здавалася, яна чакала ад мяне іншай рэакцыі і была цяпер расчараваная. Праз нейкі час, стаміўшыся чакаць, яна зноў схавала банан за спінаю і пачала свісцець. Я нерваваўся, не разумеючы сэнсу тэста, і ледзь не выйшаў з сябе, калі вартаўнік пачаў зноў размахваць бананам на такой адлегласці, што да яго немагчыма было дацягнуцца. Мне ўдалося, аднак, захаваць спакой і сабрацца з думкамі, каб угадаць, чаго ж дамагаўся ад мяне вартаўнік, бо здзіўленне яго ўзрастала, нібыта я паводзіў сябе ненармальна. Зрабіўшы тое ж самае шэсць або сем разоў, ён, напэўна, махнуў на мяне рукою і перайшоў да суседняга палоннага.

Я быў проста збянтэжаны, калі ўбачыў, што сусед мой, а пасля і яго сусед пасля першае ж спробы атрымалі бананы. Тады я стаў пільна назіраць за другой гарылаю, якая праводзіла той самы вопыт перад клеткамі процілеглага рада. Вартаўнік якраз дайшоў да Новы, і я ўбачыў, як яна рэагуе. Гарыла свіснула і замахала перад Новай бананам. Дзяўчына захвалявалася, заварушыла сківіцамі і...

Мне ўмомант стала ўсё ясна. Нова, чароўная Нова, пры выглядзе ласунку разявіла рот, і з яго адразу ж пацякла сліна, як у галоднага сабачкі, якому паказалі кавалачак цукру. Менавіта гэтага і чакала гарыла, ва ўсякім разе сёння. Кінуўшы Нове такі жаданы банан, вартаўнік перайшоў да суседняй клеткі.

Я ўсё зразумеў і, можна сказаць, ганарыўся гэтым! Некалі я цікавіўся фізіялогіяй і быў знаёмы з працамі Паўлава. Мне стала ясна, што тут вывучаюць на людзях рэфлексы — гэтаксама як Паўлаў вывучаў іх на сабаках. Якім жа дурнем быў я некалькі хвілін назад! Але цяпер, з маёй культураю і ведамі, я не толькі разумеў значэнне гэтых вопытаў — я ведаў загадзя, што будзе за імі. На працягу многіх дзён малпы, напэўна, будуць рабіць тое ж самае: свісцець у свісток, потым паказваць што-небудзь смачнае, каб выклікаць у падвопытных слінааддзяленне. Праз нейкі час людзі пачнуць пускаць сліну на адзін толькі свісток. У іх, кажучы па-навуковаму, выпрацуецца ўмоўны рэфлекс.

Я віншаваў сябе, радаваўся за сваю здагадлівасць, але трэба было яшчэ паказаць, што я ўсё зразумеў. Калі мой вартаўнік, пакончыўшы са сваім радам клетак, пайшоў назад, я пастараўся ўсімі магчымымі спосабамі звярнуць на

сябе яго ўвагу. Я стукаў па прэнтах клеткі, паказваў на свой рот, размахваючы рукамі, пакуль ён не зрабіў нарэшце ласку і не паўтарыў свой вопыт. І тады, пасля першага ж свісту, яшчэ да таго, як ён паказаў мне банан, я стаў пускаць сліну — з усяе сілы, поўны лютасці і адчаю. Я, Уліс Меру, старанна пускаў сліну, быццам ад гэтага залежала маё жыццё,— гэтак хацелася мне паказаць маю кемлівасць!

Вартаўнік быў вельмі ўражаны. Ён паклікаў напарніка, і яны доўга раіліся, як і ўчора. Няцяжка было здагадацца, пра што гавораць гэтыя тугадумы: вось чалавек, у якога толькі што не было ніякіх рэфлексаў, і раптам адразу ж выпрацаваўся ўмоўны рэфлекс, дзеля замацавання якога ў іншых падвопытных патрабуецца багата часу і цярпення! Мне было шкада гэтых прасцякоў. З іх слабым розумам яны былі проста няздольныя прыйсці да адзіна слушнай высновы: падобны прагрэс можна растлумачыць толькі наяўнасцю ў падвопытнага свядомасці. Я быў упэўнены, што Зіра на іх месцы была б больш здагадлівая.

Аднак уся мая мудрасць і залішняя стараннасць прывялі зусім не да тых вынікаў, на якія я спадзяваўся. Гарылы пайшлі, так і не даўшы мне банана — мой вартаўнік сам зжаваў яго на хаду. Навошта было яму аддаваць яго мне, калі мэта вопыту была ўжо дасягнута і без узнагароды!

Назаўтра гарылы вярнуліся з новымі прыстасаваннямі. Адна несла ў руках званочак, другая каціла перад сабою вазок, на якім быў усталяваны нейкі апарат, падобны з выгляду на магнета. Гэтым разам, загадзя ведаючы, якія вопыты збіраюцца з намі праводзіць, я здагадаўся пра назначэнне гэтых прадметаў яшчэ да таго, як гарылы пусцілі іх у ход.

Пачалі яны з суседа Новы, здаравеннага хлопца з надзіва тупым позіркам. Ён стаяў ля кратаў, схапіўшыся за іх рукамі, як гэта рабілі цяпер усе мы, калі з'яўляліся вартаўнікі. Першая гарыла пачала званіць у званочак, а другая тым часам далучала правады ад магнета да кратаў. Калі званочак прազваніў досыць доўга, другі вартаўнік крутануў ручку магнета. Чалавек адразу ж адскочыў ад кратаў, жаласна галосячы.

Гарылы паўтаралі гэтую аперацыю над адным і тым самым падвопытным шмат разоў, забаўляючы чалавека да кратаў якой-небудзь садавінаю. Мэта вопыту зноў жа

была мне вядомая: выпрацаваць у падвопытнага ўмоўны рэфлекс, каб ён адскокваў ад кратаў, пачуўшы званочак, да таго, як адчуе электрычны ўдар. Але ў той дзень дамагчыся вынікаў ім не ўдалося: псіхіка ў хлопца была вельмі ўжо неразвітая, і ён ніяк не мог адчуць сувязь паміж прычынаю і следствам.

Я чакаў сваёй чаргі, ціха пасмейваючыся сам сабе: мне не цярпелася прадэманстраваць ім розніцу паміж інстынктам і розумам. Ледзь толькі званочак зазвінеў, як я хутка адняў рукі ад кратаў і адступіў у глыбіню клеткі. Пры гэтым я глядзеў на вартаўнікоў і насмешліва падміргваў. Гарылы нахмурыліся. Яны ўжо не смяяліся з мяне. Здавалася, яны ўпершыню пачалі падазраваць, што гэта я смяюся з іх.

Аднак яны ўсё-такі вырашылі працягваць вопыт, як раптам з'явілася група наведнікаў.

## Раздзел XV

Паміж клеткамі ішлі трое: шымпанзэ Зіра і дзве малпы, адна з якіх была, напэўна, высокім начальствам.

Гэта быў самец-арангутан — першы арангутан, убачаны мною на Сароры. Меншы ростам за гарылу, ён быў шмат больш згорблены. У яго былі такія доўгія рукі, што, ідучы, ён часта абапіраўся на костачкі сагнутых пальцаў — іншыя малпы рабілі гэта вельмі рэдка. Стваралася дзіўнае ўражанне, быццам ён крочыць, абапіраючыся на дзве кульбы. Яго ўцягнутая ў плечы галава была ў доўгіх пасмах рыжай поўсці, а на пысу старога педанта быў наўмысна напушчаны глыбакадумны выраз. Усім сваім аблічам гэты арангутан нагадваў старога пачцівага святара. Дый касцюм у яго відавочна адрозніваўся ад тых, у якія былі адзетыя астатнія малпы: на ім быў даўно не чышчаны даўгакрылы рэдынгот чорнага колеру з пурпуроваю зоркай на штрыфлі і такія ж нячышчаныя, усе ў пыле чорныя штаны ў белую палоску. За арангутанам дробненька тупала маленькая самачка-шымпанзэ з тоўстай папкаю. Па яе паводзінах можна было меркаваць, што яна — арангутанава сакратарка.

Я думаю, чытача ўжо не здзіўляе, што я на кожным кроку адзначаю асаблівасці паводзін малпаў і выразы іх твараў. Клянуся, любы разумны чалавек на маім месцы прыняў бы гэтую парачку за высокашаноўнага вучонага і яго сціплую сакратарку. Іх з'яўленне дало мне магчы-

масць лішні раз пераканацца, што сярод малпаў існуе строгая іерархія. Зіра звярталася да свайго патрона з відавочнай павагаю. Вартаўнікі-гарылы, ледзь заўважыўшы арангутана, кінуліся яму насустрач, кланяючыся ці не да самае падлогі. У адказ арангутан зычліва махнуў ім лапаю.

Наведнікі адразу ж накіраваліся да маёй клеткі. Дзіва што: хіба ж я не быў самы цікавы экземпляр з усяе партыі? Я сустрэў высокае начальства найпачцівейшай усмешкаю і звярнуўся да арангутана з напышлівай прамоваю.

— Дарагі арангутан!— сказаў я.— Які ж я шчаслівы, што сустрэў нарэшце істоту, чыё аблічча перапоўнена мудрасцю і праніклівасцю! Я ўпэўнены, што мы зразумеем адзін аднаго.

«Дарагі арангутан» падскочыў пры першых жа гуках майго голасу. Потым пачасаў вуха, з падазрэннем аглядаючы маю клетку, быццам вышукваў якісьці падман. Тады загаварыла Зіра: разгарнуўшы блакнот, яна пачала зачытваць запісы, зробленыя ў сувязі з маімі паводзінамі. Яна спрабавала ў чымсьці пераканаць арангутана, але той і слухаць яе не хацеў. Ён перапыняў яе напышлівымі сентэнцыямі, паціскаў плячыма, круціў галавою, а ўрэшце ўвогуле, заклаўшы рукі за спіну, стаў хадзіць узад і ўперад перад маёй клеткаю, кідаючы на мяне раз-пораз не дужа зычлівыя позіркі. Астатнія малпы чакалі яго рашэння ў пачцівым маўчанні.

Зрэшты, пачцівасць гэтая была, бадай, толькі знешняя: прыкмеціўшы, якімі знакамі абменьваліся ўпотайкі гарылы, я зразумеў, што ў душы яны насміхаюцца са свайго патрона. Паводзіны арангутана не толькі расчаравалі мяне, але і раззлавалі, таму, заўважыўшы стаўленне да яго астатніх малпаў, я вырашыў разыграць маленькую сцэнку, каб пераканаць яго ў маім розуме: таксама пачаў шпацыраваць па клетцы, заклаўшы рукі за спіну, згорбіўшыся і нахмурыўшы бровы з выглядам глыбокае задуменнасці.

Гарылы ледзь не задыхнуліся ад смеху, сакратарка, каб не выдаць сябе, уткнулася пысачкай у раскрытую папку, і нават Зіра не магла захаваць сур'ёзнасці. Я ад душы радаваўся поспеху сваёй імправізацыі, пакуль не скеміў, што яна можа дорага мне абысціся. Убачыўшы мае крыўлянні, арангутан раз'юшыўся. Некалькі сухіх фраз, прамоўленых рэзкім тонам, імгненна аднавілі парадак. Пасля гэтага ён спыніўся перада мною і пачаў дыктаваць сакратарцы свае заўвагі.

Дыктаваў ён досыць доўга, падкрэсліваючы кожны перыяд фразы напышлівымі жэстамі. Хутка мне абрыдла яго саманадзейная тупасць, і я вырашыў яшчэ раз прадэманстраваць свае здольнасці. Працягнуўшы да яго руку, я вымавіў, стараючыся выгаворваць як мага лепш:

— Мі Заюс!

Я заўважыў раней, што ўсе звярталіся да арангутана, пачынаючы з гэтых слоў, а пазней даведаўся, што «Заюс» было іменем педанта, а «мі»— ягоным ганаровым тытулам.

Малпы ажно здранцвелі. Ім стала ўжо не да смеху, асабліва Зіры, якая ўстрывожылася яшчэ больш, калі я ўказаў на яе пальцам і вымавіў:

— Зіра!

Гэтае слова я таксама паспеў тады ўжо запамятаць і быў упэўнены, што яно магло азначаць толькі ўласнае імя шымпанзэ.

Што ж да Заюса, дык ён канчаткова разнерваваўся і зноў забегаў па праходзе паміж клеткамі, недаверліва трасучы галавою. Нарэшце ён супакоіўся і загадаў паўтарыць ужо знаёмыя мне тэсты ў яго прысутнасці. Я ахвотна падпарадкаваўся. Пускаў сліну, толькі пачуўшы свісток. Адскокваў ад кратаў пры самых першых гуках званочка. Гэты другі вопыт Заюс прымусіў гарыл паўтарыць дзесяць разоў і ўвесь час дыктаваў сакратарцы бясконцыя заўвагі.

Нарэшце я дадумаўся, каб уразіць арангутана, да большага, чым рабіў пры гэтым вопыце раней. У тое імгненне, калі адзін з вартаўнікоў-гарыл зазваніў у званочак, я расціснуў кантакт, з дапамогаю якога да кратаў падводзіўся электрычны ток, і адкінуў провад убок. Пасля гэтага я мог спакойна стаяць каля кратаў, трымаючыся за прэнты, хоць другі вартаўнік, які не заўважыў, што я зрабіў, шчыраваў з усяе сілы, круцячы ручку бяскрыўднага цяпер магнета.

Я ганарыўся сваёй вынаходлівасцю, якая кожнаму хоць трохі разумнаму стварэнню была б неабвержным доказам майго інтэлекту. Ва ўсякім разе, на Зіру мой учынак зрабіў вялікае ўражанне. Яна пільна паглядзела на мяне, і яе белая пысачка паружавела, што з'яўляецца ў шымпанзэ, як я пазней даведаўся, прыкметаю хвалявання. Але Заюса нішто не магло пахіснуць. Колькі Зіра ні пераконвала яго, пракляты арангутан пагардліва паціскаў плячыма і круціў галавою. Гэтаму педанту адных голых фактаў было мала. Ён аддаў гарылам загад, і я стаў аб'ектам новага тэсту, які ўяўляў сабою камбінацыю двух першых.

Пра гэты вопыт я таксама ведаў і нават бачыў у лабараторыях, як яго праводзілі на сабаках. Мэтаю эксперы-

менту было збіць з панталыку падвопытную жывёліну і выклікаць у яго нервовае паражэнне, камбінуючы два процілеглыя рэфлексы. Першая гарыла стала свісцець у свісток, абяцаючы ласунак, а другая званіла ў званочак, падаючы сігнал небяспекі. Я ўспомніў высновы аднаго вялікага фізіёлага адносна падобных вопытаў: ён казаў, што яны могуць давесці жывёліну да стану, які дужа нагадвае чалавечы неўроз, і нават да вар'яцтва, калі паўтараць іх досыць часта.

Зрабіўшы выгляд, што я ўважліва прыслухоўваюся спачатку да свістка, потым да звону званочка, я ўсеўся пасярод клеткі, падпёршы падбародак кулаком у традыцыйнай паставе мысліцеля.

Зіра, не ўтрымаўшыся, запляскала ў далоні. Заюс выцягнуў з кішэні насоўку і выцер лоб. Пот каціўся з яго градам, але ўсё роўна нішто не магло пахіснуць яго аслінай упартасці. Я зразумеў гэта па яго грымасах, пакуль ён раз'юшана спрачаўся пра нешта з Зіраю. Прадыктаваўшы яшчэ некалькі заўваг сваёй сакратарцы, арангутан даў Зіры безліч найпадрабязнейшых указанняў, якія тая выслухала незадаволена, і нарэшце выйшаў з памяшкання, кінуўшы на мяне сярдзіты позірк.

Зіра ў сваю чаргу сказала нешта гарылам, і я адразу зразумеў, што яна загадала ім пакінуць мяне ў спакоі, прынамсі, на сённяшні дзень, бо яны ўмомант узялі ўсе прыстасаванні для вопытаў і таксама выйшлі. Застаўшыся са мною сам-насам, калі не лічыць няшчасных дзікуноў у суседніх клетках, і наблізіўшыся да кратаў, шымпанзэ доўга моўчкі глядзела на мяне. Потым яна нечакана працягнула мне па-сяброўску лапу. Я ўсхвалявана пацiснуў яе, ласкава паўтараючы імя «Зіра». Пысачка ў шымпанзэ зноў паружавела, і я зразумеў, што яна была вельмі кранутая.

## Раздзел XVI

Заюс з'явіўся зноў праз некалькі дзён і адразу ж загадаў змяніць увесь распарадак у нашай секцыі. Але спачатку трэба расказаць, як мне ўдалося за гэтыя дні вызначыцца перад малпамі.

Назаўтра пасля першага наведвання арангутана з намі правялі цэлую серыю новых тэстаў. Усё пачалося ў час кармёжкі. Замест таго каб кінуць, як зазвычай, садавіну нам у клеткі, Зарам і Занам — так звалі гарыл — паклалі ежу ў кашы і падцягнулі гэтыя кашы да столі клетак з да-

памогаю спецыяльна прадугледжаных для гэтага блокаў. Пасля ўнеслі ў кожную клетку па чатыры досыць вялікія драўляныя кубы. Урэшце гарылы адышлі на сярэдзіну праходу і пачалі назіраць за намі.

Ва ўсіх маіх суседзяў зрабіліся такія пакутлівыя твары, што на іх было немагчыма глядзець. Яны спрабавалі даскочыць да кашоў, але нікому гэта не ўдавалася. Некаторыя ўзбіраліся да столі па кратах, але і адтуль, колькі яны ні стараліся, ні адзін не мог дацягнуцца да ежы, падвешанай над сярэдзінай клеткі. Я згараў ад сораму за іх тупасць. Я ж, няма чаго і казаць, адразу вырашыў гэтую «задачу». Трэба было паставіць чатыры кубы адзін на другі, узабрацца на гэтую пабудову і зняць кош з крука, што я і зрабіў, схаваўшы пад нязмушаным выглядам свой гонар. Усё было вельмі проста, аднак з усіх людзей толькі я адзін аказаўся досыць кемлівы. Зарам і Занам былі ўражаныя, і гэта кранула мяне да глыбіні душы.

Я пачаў есці, не хаваючы сваёй пагарды да астатніх палонных, якія не маглі зрабіць тое ж самае пасля мяне. Нават Нова не здолела ў той дзень паўтарыць гэтую немудрагелістую аперацыю, хоць я спецыяльна некалькі разоў паказваў ёй усе этапы. Але яна хоць бы старалася зразумець, што ад яе патрабуецца — Нова была, вядома, адна з самых разумных у нашай групе. Яна паспрабавала паставіць адзін куб на другі, але паставіла яго няроўна, і, калі яе пабудова з грукатам развалілася, небарака з перапалоху забілася ў кут клеткі. Дзяўчына была надзіва гнуткая і рухавая, але ў маніпуляцыях з любым прадметам выяўляла тую ж жудасную нязграбнасць, што і ўсе яе супляменнікі. Праўда, да канца другога дня яна ўсё ж навучылася спраўляцца з кубамі.

А ў тую першую раніцу я яе пашкадаваў і кінуў праз краты два сакавітыя плады. За гэта я быў узнагароджаны ласкаю Зіры, якая ўвайшла ў нашую секцыю якраз у гэты момант. Я ледзь не замурлыкаў ад задавальнення, бы кот, калі валасатая лапка паляпала мяне па плячы, але Нове гэта відавочна не спадабалася: яна раз'юшылася, стала кідацца ў клетцы і пранізліва і гучна крычаць.

Я вызначыўся і ў многіх іншых вопытах, але самае галоўнае, мне ўдалося, услухоўваючыся ў гаворку малпаў, вылучыць з яе некалькі найпрасцейшых слоў і зразумець іх значэнне. Я прамаўляў гэтыя словы кожны раз, калі Зіра праходзіла міма маёй клеткі, і шымпанзэ ўсё больш і больш здзіўлялася. Вось тады Заюс і завітаў да нас другі раз.

З ім зноў была сакратарка, але цяпер, акрамя яе, прыйшоў яшчэ адзін арангутан, такі ж важны і з такой самай зоркаю на штрыфлі рэдынгота. Арангутаны размаўлялі паміж сабою, як роўны з роўным, і я зразумеў, што Заюс запрасіў свайго калегу для кансультацыі, каб разабрацца ў складаным выпадку, якім я яму ўяўляўся. Спыніўшыся перад маёй клеткаю, арангутаны пусціліся ў бясконцую дыскусію, у якой прыняла ўдзел і Зіра. Шымпанзэ гаварыла доўга і ўсхвалявана. Я разумеў, што яна мяне бароніць, гаворачы пра маю звышнатуральную кемлівасць, якую ўжо нельга было аспрэчваць. Але ўсе яе доказы выклікалі ў абодвух арангутанаў толькі недаверлівую ўсмешку.

На мне яшчэ раз правялі ўсе тэсты, з якімі я так спрытна раней спраўляўся. У ходзе апошняга я быў павінен адкрыць куфэрак, замкнуты на дзевяць розных замкоў — на засаўку, кручок, шпінгалет, уразны замок, навясны замок і гэтак далей. На Зямлі, я памятаю, аналагічнае прыстасаванне для ацэнкі кемлівасці малпаў прыдумаў Кінаман; гэтая задача лічылася самай складанаю, аднак некаторым падвопытным усё ж удавалася вырашыць яе. Відаць, тут гэтае выпрабаванне расцэньвалася гэтаксама ж.

Зіра сама працягнула мне зачынены куфэрак з такім умольным выглядам, быццам ад майго поспеху залежала яе рэпутацыя. Каб не расчараваць яе, я пастараўся паказаць сябе ва ўсім бляску і ўмомант адчыніў усе дзевяць замкоў адзін за адным. Але гэтым я не абмежаваўся. Дастаўшы з куфэрка пакладзены туды плод, я галантна прапанаваў яго Зіры. Шымпанзэ прыняла мой дар, пачырванеўшы. Пасля гэтага я адразу ж выклаў усё, што паспеў засвоіць у малпавай мове, старанна прамовіўшы вывучаныя словы і паказваючы пальцам на прадметы, якія яны абазначалі.

Мне здавалася, што цяпер ужо ніхто не пасмее ўсумніцца ў маёй сапраўднай прыродзе. На жаль, тады я яшчэ не ведаў, якія ж тупыя арангутаны ў сваёй сляпой саманадзейнасці! На мордах у іх з'явілася ўсё тая ж скептычная ўсмешка, што даводзіла мяне да шаленства. Яны рэзка перапынілі Зіру і зноў пра нешта заспрачаліся між сабою. Калі я гаварыў, яны слухалі мяне, бы людзі папугая. Я адчуваў, што арангутаны сыходзяцца на тым, быццам усе мае таленты можна растлумачыць своеасаблівым інстынктам і высокаразвітымі пераймальнымі здольнасцямі. Відаць, яны прытрымліваліся тае самае дактрыны, якую адзін наш

вучоны, Г. Л. Морган, сфармуляваў наступным чынам: «Мы ні ў якім выпадку не павінны расцэньваць якое-небудзь дзеянне як праяву вышэйшых псіхічных здольнасцей, калі гэтае дзеянне можна растлумачыць праяваю псіхічных здольнасцей ніжэйшага парадку».

Бясспрэчна, менавіта пра нешта падобнае і разважалі цяпер арангутаны на сваім вучоным жаргоне, я ж адно скрыгатаў зубамі ад злосці. Магчыма, я не вытрымаў бы і выбухнуў новым прыступам, калі б не заўважыў своечасова позірк Зіры. Было ясна, што яна нязгодная з арангутанамі і проста саромеецца, што яны вярзуць перада мною такую лухту.

Калі вучоны калега Заюса выйшаў, несумненна, выклаўшы наконт мяне сваю катэгарычную думку, арангутан пачаў новыя доследы. Спачатку ён абышоў усё памяшканне, спыняючыся перад кожнаю клеткаю і ўважліва разглядаючы палонных. Пакуль ён рабіў заўвагі, Зіра іх запісвала. Мяркуючы па выразе яе пысачкі, усіх нас чакалі вялікія перамены. Хутка я здагадаўся, у чым сутнасць Заюсавага плана, і зразумеў сэнс заўваг, якія ён рабіў, параўноўваючы пэўныя якасці тых або іншых мужчын і жанчын.

Я не памыліўся. Зіра перадала ўказанні шэфа гарылам, і тыя прыступілі да іх выканання. Нас рассартавалі па парах. Але які яшчэ д'ябальскі вопыт прадвяшчалі гэтыя падрыхтаванні? Якія яшчэ асаблівасці чалавечай прыроды імкнуліся вывучыць малпы, ахопленыя даследчыцкай гарачкаю? Знаёмства з працаю фізіялагічных лабараторый дапамагло мне хутка знайсці адказ: для любога вучонага, які займаецца вывучэннем інстынктаў і рэфлексаў, полавы інстынкт уяўляў сабою найвялікшую цікавасць.

Але, справа была менавіта ў гэтым! Гэтыя д'яблы хацелі вывучыць на нас, у тым ліку і на мне, раз ужо я па іроніі лёсу апынуўся ў гэтым статку, усе асаблівасці чалавечых любоўных гульняў: паводзіны самца, паводзіны самкі, збліжэнне ў няволі і таму падобнае — можа, дзеля таго, каб параўнаць потым вынікі з папярэднімі назіраннямі, зробленымі над людзьмі на волі.

Разгадаўшы Заюсаву задуму, я пакляўся сабе хутчэй памерці, чым зрабіцца аб'ектам такіх агідных вопытаў. Але, мушу прызнацца, хоць рашучасць мая і заставалася непахісная, мне стала нашмат лягчэй, калі я ўбачыў жанчыну, якую арангутан прызначыў мне ў сяброўкі. Гэта была Нова. За такі выбар я быў гатовы даравацъ старому

балвану нават яго дурасць і саманадзейнасць і не стаў супраціўляцца, калі Зарам і Занам бесцырымонна схапілі мяне і кінулі да ног німфы вадаспада.

## Раздзел XVII

Не буду расказваць пра тое, што адбывалася ў суседніх клетках на працягу наступных тыдняў. Я ўгадаў: малпы вырашылі вывучаць сексуальнае жыццё людзей і ўзяліся за справу з уласцівай ім метадычнасцю. Чаго толькі яны не выдумлялі, каб пары сыходзіліся! Калі ж хто-небудзь упарціўся, то яго хутка прымушалі падпарадкавацца ўколамі пік.

Я і сам пачаў рабіць сякія-такія назіранні, разлічваючы папоўніць імі рэпартаж, які я ўсё яшчэ спадзяваўся надрукаваць пасля свайго вяртання на Зямлю. Але мне гэта хутка надакучыла, бо нічога асабліва пікантнага я так і не заўважыў. Нічога, калі не лічыць дзіўнага спосабу заляцання, якім карыстаўся мужчына, перш чым наблізіцца да жанчыны. Гэта было нешта накшталт танца, вельмі падобнага на шлюбны танец некаторых птушак. Мужчына павольна і няўпэўнена пачынаў хадзіць вакол жанчыны, ступаючы крок уперад, потым назад, пасля ўбок. Гэтак ён кружляў, паступова звужаючы кругі, у цэнтры якіх была нерухомая жанчына — яна толькі паварочвалася на месцы да яго тварам. Я не раз назіраў за гэтай цікаўнай цырыmоніяй: асноўныя фігуры рытуалу заўсёды заставаліся нязменныя, мяняліся зрэдку хіба што дэталі. Што ж датычыць самой блізкасці, то як я ні саромеўся спачатку, міжволі назіраючы за ёю, але праз нейкі час зусім ужо не зважаў на такія сцэны, якія цяпер для мяне нічым не адрозніваліся ад любых іншых. Больш за ўсё ўражвалі мяне ва ўсім гэтым педантызм і скрупулёзнасць малпаў, якія абсалютна спакойна праводзілі назіранні, не забываючыся зафіксаваць у сваіх блакнотах ніводнай падрабязнасці.

Вядома, ад мяне малпы не дачакаліся анічога. Зразумеўшы, што я не збіраюся аддавацца гэтым гульням, нашыя вартаўнікі-гарылы ўзялі сабе ў галаву, што могуць дамагчыся свайго гвалтам, і пачалі падганяць мяне да Новы, паколваючы дзідамі, як звычайную жывёліну,— мяне, Уліса Меру, чалавека, створанага паводле ўзору і падабенства боскага! Я адбіваўся як мог. Але гэтыя жывёлы не адступаліся, і невядома, што б са мною сталася, калі б не з'явілася Зіра, якой яны далажылі пра мае дзіўныя паводзіны.

Шымпанзэ надоўга задумалася, потым падышла да клеткі, паглядзела на мяне сваімі цудоўнымі разумнымі вачыма і загаварыла, пагладжваючы мяне па галаве. Думаю, сэнс яе слоў быў прыблізна такі:

— Бедны смешны чалавечак! Які ж ты дзіўны! Ну хіба нармальныя людзі так сябе паводзяць? Паглядзі на іншых вакол сябе! Зрабі тое, чаго ад цябе чакаюць, і ты будзеш узнагароджаны.

Яна выняла з кішэні кавалачак цукру і працягнула яго мне. Я быў у адчаі! Значыцца, і яна лічыць мяне жывёлінай, хіба што трохі больш кемлівай за астатніх. Я раз'юшана пакруціў галавою і забіўся ў кут клеткі, як мага далей ад Новы, якая глядзела на мяне ў поўным недаўменні.

Думаю, справа тым бы і скончылася, калі б якраз у гэты самы момант не з'явіўся стары Заюс, варожа настроены да любых поглядаў, апроч сваіх, як ніколі. Ён прыйшоў пацікавіцца вынікамі вопытаў і, як зазвычай, спытаўся спачатку пра мяне. Зіра была вымушана далажыць яму пра маю ўпартасць. Раззлаваўшыся, арангутан, заклаўшы рукі за спіну, забегаў перад клеткаю, але праз якую хвіліну загадаў нешта ўладна вартаўнікам. Зарам і Занам адчынілі клетку, вывелі з яе Нову, узамен пасадзіўшы да мяне мажную матрону. Пракляты Заюс з яго тупым педантызмам вырашыў памяняць мне партнёра па эксперыменце.

Але гэта не было яшчэ самае горшае, я нават не паспеў падумаць пра сябе. Я з трывогаю праводзіў вачыма сваю сяброўку. Нарэшце я з жахам убачыў, як Нову ўпіхнулі ў клетку насупраць маёй, да шыракаплечага дзецюка, сапраўднага бамбізы з валасатымі грудзьмі, які адразу ж падскочыў да Новы і пачаў таптацца вакол яе, з імпэтам выконваючы апісаны мною любоўны танец.

Ледзь я ўсвядоміў, чаго хоча гэты варвар, як усе мае мудрыя рашэнні ўмомант вылецелі з галавы. Я страціў галаву і зноў павёў сябе як вар'ят. Проста з глузду з'ехаў, такі быў раз'юшаны! Я рыкаў і ўлюлюкаў не горш за людзей Сароры. Гэтаксама ж, як і яны, кідаўся ў лютасці на краты, з пенаю на вуснах грыз іх, скрыгатаў зубамі — карацей, паводзіў сябе як самая сапраўдная жывёліна.

Але яшчэ больш нечаканы быў вынік майго прыпадку. Убачыўшы мяне такім, Заюс раптам усміхнуўся. Упершыню ён быў задаволены мною. Нарэшце я паводзіў сябе як тыповы чалавек. Заюс акрыяў: яго тэорыя перамагла. Арангутан прыкметна палагоднеў і нават задаволіў просьбу Зіры адмяніць свой загад і даць мне апошні шанц. З маёй клеткі вывелі таўшчэзную матрону, вярнуўшы да мяне Но-

ву, перш чым бамбіза паспеў да яе дакрануцца. Малпы адышлі ад клеткі і пачалі ўважліва назіраць за намі.

Што тут яшчэ сказаць? Усе гэтыя хваляванні зусім зламалі мяне. Я адчуваў, што не змагу бачыць маю німфу ўзятай іншым мужчынам. Заставалася толькі скарыцца перад хітрасцю арангутана, які, пасмейваючыся, святкаваў перамогу. Я зрабіў першае нясмелае па.

Але, я, цар усяго існага, пачаў кружляць вакол маёй прыгажуні! Я, чалавек, вянец тысячагадовае цывілізацыі! Перад усімі гэтымі малпамі, што пажыралі мяне вачыма, перад старым арангутанам, што дыктаваў сакратарцы свае разважанні, перад шымпанзэ, якая задаволена ўсміхалася, перад гарыламі, твары ў якіх так і расплыліся ва ўхмылках! Я апраўдваўся ў душы, што ва ўсім вінаватыя злыя метамарфозы касмічных прыгодаў. Цяпер ужо я пэўна ведаў: ёсць у нябёсах і на планетах багата такога, чаго і не снілася мудрацам! Я, Уліс Меру, таптаўся вакол жанчыны, быццам паўлін, выконваючы любоўны абрад.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Раздзел I

Цяпер я мушу прызнацца, што вельмі лёгка прыстасаваўся да жыцця ў клетцы. З пункту погляду матэрыяльнага мне не было чаго і жадаць: удзень малпы выконвалі любыя мае прыхамаці, уначы я дзяліў падсцілку з адною з прыгажэйшых жанчын сусвету. Я так звыкся са сваім становішчам, што на месяц перастаў заўважаць усю яго недарэчнасць і не рабіў ніякіх спроб пакласці яму канец. Адзінае, што я тады зрабіў, гэта вывучыў яшчэ некалькі слоў малпавай мовы. Я не спрабаваў больш наладзіць кантакт з Зіраю, так што калі раней яна і адчувала ўва мне наяўнасць свядомасці, дык цяпер, напэўна, згадзілася з Заюсам і глядзела на мяне як на чалавека сваёй планеты, інакш кажучы, як на жывёліну, можа, і не бязглуздую, але ж ніяк не адухоўленую.

Мая перавага над астатнімі палоннымі, якой я не выяўляў больш да такой ступені, каб палохаліся вартаўнікі, зрабіла мяне важнаю персонаю. Гэтая акалічнасць, мушу прызнацца, на мой сорам, поўнасцю задавальняла маё са-

малюбства, і нават напаўняла мяне гонарам. Зарам і Занам абыходзіліся са мною па-сяброўску: ім падабалася, калі я ім усміхаўся, рагатаў ці прамаўляў асобныя словы. Пераспрабаваўшы на мне ўсе класічныя тэсты, яны стараліся вынайсці новыя, больш складаныя, і мы разам радаваліся, калі мне ўдавалася вырашыць пастаўленую задачу. Яны ніколі не забываліся прынесці мне які-небудзь ласунак, і я ахвотна дзяліўся ім з Новаю. Мы лічыліся прывілеяванай параю. Аслеплены, я ўяўляў, нібыта мая сяброўка ўсведамляе, што ўсім гэтым яна абавязана маім талентам, і большую частку часу выпінаўся перад ёю.

Але праз некалькі тыдняў мне стала моташна. Можа, вінаватыя былі вочы Новы, якія здаліся мне тады асабліва бязглуздымі, а можа, кавалачак цукру, якім мяне пачаставала Зіра, раптам здаўся горкім? Я пачырванеў ад сораму, усвядоміўшы, што гатовы ўжо быў, апусціўшыся, скарыцца. Што падумае пра мяне прафесар Антэль, калі ён выпадкова ўцалеў і знойдзе мяне ў такім стане? Толькі адна гэтая думка была ўжо мне невыносная, і я цвёрда вырашыў адразу ж, неадкладна, пачаць паводзіць сябе як належыць цывілізаванаму чалавеку.

Пагладжваючы ў знак удзячнасці лапку Зіры, я асцярожна завалодаў яе блакнотам і ручкаю і, не звяртаючы ўвагі на яе ласкавыя папрокі, усеўся на салому і пачаў маляваць Нову. Я няблага некалі маляваў, дый мадэль мяне натхняла, і мне ўдалося зрабіць прыстойны эскіз, які я працягнуў шымпанзэ.

Зіра расхвалявалася: усе яе сумненні на мой конт умомант адрадзіліся. Пысачка ў яе пачырванела, яна не ў сілах была суняць дрыготку. Скарыстаўшы яе разгубленасць, я ўладна працягнуў руку па блакнот, і гэтым разам яна аддала яго мне самахоць. І як гэта я дагэтуль не мог звярнуцца да такога простага спосабу?!

Прыгадаўшы свае школьныя веды, я начарціў трохкутнік з тэарэмы Піфагора. Выбар мой быў невыпадковы. У юнацтве я чытаў адну навукова-фантастычную аповесць, у якой стары вучоны выкарыстоўваў геаметрычныя фігуры, каб усталяваць кантакт з разумнымі істотамі іншага свету. У час пералёту я неяк загаварыў пра гэта з прафесарам Антэлем, і ён нават адобрыў такі метад. Згадваю, ён яшчэ дадаў, што геаметрыя Эўкліда — суцэльная памылка, і менавіта таму яна павінна быць агульнапрынятаю ва ўсіх сусветах.

Так ці інакш, Зіра, убачыўшы мой чарцёж, мала не закалацілася. Яна дзіка ўскрыкнула, пысачка ў яе зрабілася

зусім пурпуровая. Толькі калі ўстрывожаныя Зарам і Занам кінуліся ёй на дапамогу, шымпанзэ здолела авалодаць сабою. І тут Зіра павяла сябе, як мне здалося, дзіўна: кінуўшы на мяне ўпотайкі кароткі позірк, хутка і спрытна схавала мой малюнак і чарцёж, потым сказала нешта гарылам, і тыя выйшлі з памяшкання. Я зразумеў, што яна загадала ім выйсці пад нейкім зручным прэтэкстам. Пасля шымпанзэ паціснула мне руку, і жэст гэты меў зусім іншае значэнне, чым раней, калі яна проста ласкала мяне, як сімпатычнага звера за тое, што ён дагадзіў ёй сваёй кемлівасцю. Нарэшце яна з умольным выглядам працягнула мне блакнот і ручку. Цяпер ужо ёй самой не цярпелася наладзіць са мною кантакт.

Я падзякаваў у глыбіні душы Піфагору і паглыбіўся ў геаметрыю. На адной старонцы я як мага больш старанна начарціў тры канічныя вытворныя з іх вяршынямі і накіравальнымі: эліпс, парабалу і гіпербалу. На другой начарціў конус. Тут я хачу нагадаць, што перасячэнне конуса плоскасцямі ўтварае ў плане менавіта адну з гэтых вытворных, у залежнасці ад вугла перасячэння. Таму я дамаляваў да конуса перасякаючую плоскасць пад пэўным вуглом і, звярнуўшыся да першага чарцяжа, паказаў уражанай шымпанзэ на эліпс, якому адпавядала гэтае сячэнне.

Зіра вырвала блакнот у мяне з рук, начарціла ў сваю чаргу конус, перасечаны плоскасцю пад іншым вуглом, і ўказала мне сваім доўгім пальцам на гіпербалу. Я так расхваляваўся, што на вачах у мяне выступілі слёзы. Я сутаргава сціснуў шымпанзэ руку. Нова, якая адступіла ў глыбіню клеткі, люта заенчыла. Інстынктыўна дзікунка ўлоўлівала сэнс таго, што цяпер адбывалася. Яна не памылялася. Праз пасрэдніцтва геаметрыі паміж мною і Зіраю ўсталяваўся духоўны кантакт. Я меў ад гэтага амаль фізічную асалоду, і адчуваў, што шымпанзэ таксама ўзрадаваная.

Раптам яна вырвала ў мяне сваю лапку і выскачыла з аддзялення. Адсутнічала яна нядоўга, але ўвесь гэты час я правёў бы ў сне, не смеючы ўзняць вачэй на Нову, якая з бурчаннем кружляла вакол мяне: я ўсё-такі адчуваў сябе вінаватым перад ёю.

Калі Зіра вярнулася, я ўбачыў, што яна прынесла мне малявальную дошку з замацаваным на ёй вялікім аркушам паперы. Падумаўшы трохі, я вырашыўся адкрыць Зіры ўсю праўду.

У адным куце аркуша я намаляваў сістэму Бетэльгейзе — такой, як яна ўяўлялася нам з зоркалёта: гіганцкае сонца ў цэнтры, а вакол яго — чатыры планеты. Асабліва старанна намаляваў я Сарору з яе маленькім спадарожнікам, дакладна вызначыўшы месцазнаходжанне планеты ў прасторы. Ткнуўшы пальцам у яе выяву, я паказаў на Зіру. Тая зрабіла знак, што цудоўна ўсё зразумела. Тады ў другім куце аркуша я намаляваў нашую старую добрую Сонечную сістэму з яе асноўнымі планетамі. Пасля паказаў на Зямлю і прыставіў палец да сваіх грудзей.

Тут Зіра завагалася. Паказаўшы ў сваю чаргу на Зямлю, яна ўзняла палец уверх, да неба. Я кіўнуў галавою. Шымпанзэ была ў недаўменні, ніяк не магла паверыць. Тады я з'яднаў Зямлю з Сарораю пункцірнай лініяй і намаляваў на ёй у другім маштабе наш зоркалёт. Гэта быў для шымпанзэ нібыта прамень святла ў цемры! Цяпер ужо Зіра ведала, хто я такі і адкуль. Яна рванулася да мяне, але тут у канцы калідора з'явіўся Заюс: ён ішоў на чарговы агляд падвопытных. Ад страху вочы ў шымпанзэ сталі круглыя. Зіра імгненна згарнула аркуш паперы, сунула ў кішэню блакнот і, пакуль арангутан яшчэ не наблізіўся, паспела ўмольна прыкласці палец да вуснаў: яна раіла мне не адкрывацца перад Заюсам. І я падпарадкаваўся ёй, хоць і не разумеў, навошта ўся гэтая таямнічасць. Але я быў упэўнены, што з гэтага дня Зіра — мая саюзніца, і зноў прыкінуўся разумнай жывёлінай.

## Раздзел II

З таго часу дзякуючы Зіры я пачаў рабіць вялікія поспехі ў вывучэнні малпавай мовы і культуры. Пад выглядам новых, асобых тэстаў Зіра амаль штодня заставалася са мною сам-насам. Яна ўзялася вучыць мяне сваёй мове і ў той самы час засвойвала французскую з дзіўнай лёгкасцю. Менш чым праз два месяцы мы ўжо маглі свабодна размаўляць на самыя розныя тэмы. Патроху перада мною адкрываўся духоўны свет Сароры, яе дзіўная цывілізацыя, якую я паспрабую абмаляваць тут у агульных рысах.

Толькі мы з Зіраю пачалі разумець адно аднаго, як я адразу ж паспяшаўся задаць галоўнае пытанне, што цікавіла мяне:

— Няўжо малпы — адзіныя разумныя істоты, цары прыроды на гэтай планеце?

— Цябе гэта здзіўляе?— сумелася яна.— Вядома, малпа — адзіная істота, якая ўмее думаць, надзелена не толькі целам, але і душою. Самыя зацятыя матэрыялісты з нашых вучоных і тыя прызнаюць асобую сутнасць малпавай душы.

Кожнага разу я ледзь не падскокваў ад падобных выказванняў, хоць, здавалася, можна было б ужо і прывыкнуць.

— Але скажы, Зіра, хто ж тады людзі?

Я ўжо згадваў, што яна хутчэй засвойвала маю мову, чым я іхнюю, таму ў першыя дні мы гаварылі толькі пафранцузску і адразу ж перайшлі інстынктыўна на «ты». Спачатку было цяжка прызвычаіцца да таго, што словы «чалавек» і «малпа» маюць для нас розны сэнс, але гэта хутка перастала нам замінаць. Кожны раз, калі Зіра казала «малпа», я перакладаў сам сабе: вышэйшая істота, вяршыня эвалюцыі. Калі ж яна гаварыла пра людзей, я ведаў, што гаворка ідзе пра жывёл, якія, праўда, надзелены імітацыйным інстынктам і маюць пэўнае анатамічнае падабенства да малпаў, аднак менавіта ўсё ж пра жывёл з прымітыўнай псіхікай і свядомасцю.

— За апошнія сто гадоў,— апавядала мне прафесарскім тонам Зіра,— мы дамагліся адмысловых поспехаў у даследаванні паходжання відаў. Раней лічылася, што віды — нязменныя, што ўсе істоты застаюцца такія, якімі выпусціў іх у свет усемагутны творца. Але цэлая плеяда вялікіх вучоных — усе яны былі шымпанзэ — прымусіла нас поўнасцю перагледзець свае погляды на гэты конт. Цяпер мы ведаем, што ў блізкіх відаў быў, напэўна, агульны продак.

— Значыцца, малпа паходзіць ад чалавека?

— Некаторыя так і лічаць, але на справе ўсё шмат больш складана. Малпа і чалавек на пэўным этапе эвалюцыі стварылі дзве розныя галіны: адна працягвала развівацца і паступова дасягнула вяршынь розуму, другая ж застыла на ўзроўні чалавечага свету. Зрэшты, многія арангутаны ўсё яшчэ адмаўляюць гэтую відавочную ісціну.

— Ты сказала, Зіра... цэлая плеяда вялікіх вучоных — і ўсе шымпанзэ?..

Я перадаю нашыя гутаркі такімі ж спантаннымі, якімі яны і былі: імкнучыся даведацца як найхутчэй пра ўсё, я задаваў самыя розныя пытанні, на якія Зіра падоўгу адказвала.

— Амаль усе вялікія адкрыцці зроблены шымпанзэ,— з запалам пацвердзіла яна.

— У малпаў ёсць касты?

— Існуюць тры групы — ты ўжо гэта, пэўна, заўважыў,— кожная са сваімі ўласцівасцямі: шымпанзэ, гарылы і арангутаны. Расавыя бар'еры, якія былі паміж імі раней, і ўзаемная варожасць, якую яны ўзбуджалі, знішчаны дзякуючы пераважна намаганням шымпанзэ. Сёння ўсе тры расы ў прынцыпе роўныя.

— Але большая частка вялікіх адкрыццяў зроблена ўсё-такі шымпанзэ?

— Натуральна.

— А хто такія гарылы?

— Пажыральнікі мяса,— сказала яна з пагардаю.— Некалі яны былі феадальнымі князькамі, і ў многіх дагэтуль захаваўся смак да ўлады. Яны без памяці любяць арганізоўваць і кіраваць. Сібарыты. Любяць паляванне. А бяднейшыя наймаюцца на працу, якая вымагае вялікай фізічнай сілы.

— А што ты скажаш пра арангутанаў?

Зіра ўважліва паглядзела на мяне, потым зарагатала.

— Іхняя справа — афіцыйная навука. Ты ўжо ў гэтым пераканаўся і, думаю, будзеш мець магчымасць пераканацца яшчэ не раз. Яны ведаюць практычна ўсё, што можна вычытаць з кніг. Усе яны ўшанаваныя рознымі ўзнагародамі. Некаторыя лічацца нават буйнымі знаўцамі ў якой-небудзь вузкай галіне, дзе патрабуецца добрая памяць. Што ж да астатняга...

Тут Зіра пагардліва махнула рукою.

Я не стаў настойваць, вырашыўшы, што мы яшчэ паспеем пагаварыць пра гэта. А пакуль што я вярнуўся да больш агульных пытанняў. Па маёй просьбе Зіра намалявала генеалагічнае дрэва малпаў, як яго ўяўляюць лепшыя спецыялісты. Яно было досыць падобнае на нашыя схемы эвалюцыі відаў. Ад агульнага ствала, пачатак якога губляўся ў невядомасці, аддзяляліся паслядоўна розныя галіны — расліны, аднаклеткавыя арганізмы, кішачнаполасцевыя, ігласкурыя; вышэй размяшчаліся рыбы, рэптыліі і, нарэшце, сысуны. Далей вызначаўся клас, аналагічны класу нашых чалавекападобных. Ад яго адыходзіла галіна чалавека — бакавая і кароткая. Тым часам цэнтральны ствол працягваў расці і разгаліноўвацца на розныя віды дагістарычных малпаў з цяжка прамаўляльнымі назвамі і, нарэшце, заканчваўся відам simie sapiens з трыма вяр-

шынямі эвалюцыі: падвідамі шымпанзэ, гарыл і арангутанаў.

— Мозг малпы,— працягвала Зіра,— развіваўся, ускладняўся і ператвырыўся нарэшце ў орган мыслення, у той час як мозг чалавека не зведаў ніякіх змен.

— Але чаму такога развіцця дасягнуў менавіта мозг малпы?

— Натуральна, галоўную ролю адыграла мова. Але чаму малпы загаварылі, а людзі не? На гэты конт погляды вучоных разыходзяцца. Адны бачаць у гэтым волю творцы, другія сцвярджаюць, што розум у малпаў эвалюцыяніраваў перш за ўсё дзякуючы наяўнасці чатырох рухавых канечнасцяў. Магчыма, што чалавек з яго дзвюма рукамі і кароткімі няспрытнымі пальцамі з самага пачатку апынуўся ў нявыгадным становішчы: ён не мог прагрэсіраваць, набываць дакладнае ўяўленне пра навакольны свет. З гэтае ж прычыны людзі ніколі не ўмелі спрытна карыстацца прыладамі... Урэшце, магчыма, ён і спрабаваў навучыцца гэтаму ў пачатку сваёй эвалюцыі... Выяўлены цікавыя знаходкі. Якраз цяпер у гэтым накірунку вядзецца багата даследаванняў. Калі ты цікавішся гэтым, я пазнаёмлю неяк цябе з Карнэліем. Ён разбіраецца ў гэтых пытаннях лепш за мяне.

— А што за Карнэлій?

— Мой жаніх,— адказала Зіра, пачырванеўшы.— Вялікі, сапраўдны вучоны.

— Шымпанзэ?

— Ну вядома!.. Дык вось, я асабіста ўпэўненая: той факт, што мы — чатырохрукія, адыграў у нашай духоўнай эвалюцыі велізарную ролю. Гэта дазволіла нам спачатку ўзняцца на дрэвы і такім чынам асвойтацца ў трохмернай прасторы, у той час як чалавек, прывязаны да зямлі праз сваю фізічную недасканаласць, чэзнуў на адной плоскасці. Потым мы стварылі розныя прылады, зноў жа таму, што маглі ўдала імі карыстацца. Пачаўся прагрэс, і такім чынам мы дасягнулі вяршынь розуму.

На Зямлі я часта чуў, як абсалютна процілеглыя доказы прыводзілі для тлумачэння перавагі чалавека над астатнімі жывёламі. Аднак, падумаўшы, я вырашыў, што развагі Зіры ні кроплю не менш пераканаўчыя за нашыя.

Я хацеў прадоўжыць гэтую размову, на языку ў мяне круціліся сотні пытанняў, але тут нас перапынілі Зарам і Занам, якія прынеслі ежу для вячэрняй кармёжкі. Зіра шэптам пажадала мне: «Дабранач!»— і пайшла.

Я зноў застаўся ў клетцы сам-насам з Новаю. Мы паелі. Гарылы пайшлі, патушыўшы за сабою ўсе лямпы, апрача начніка над дзвярыма, ад якога лілося цьмянае святло. Я глядзеў на Нову, раздумваючы пра ўсё, што зведаў за гэты дзень. Нова, натуральна, ненавідзела Зіру, і мае гамонкі з шымпанзэ раз'юшвалі яе. Спачатку яна як магла выказвала сваю незадаволенасць, спрабуючы перашкодзіць нам: станавілася паміж мною і Зіраю, скакала па клетцы, вырывала з падсцілкі пучкі саломы і кідала іх у галаву разводніцы. Каб утаймаваць яе, я быў вымушаны выкарыстаць сілу. Атрымаўшы ад мяне некалькі звонкіх плескачоў, Нова нарэшце супакоілася. Я дазволіў сабе такі недалікатны жэст міжволі і пазней шмат з-за гэтага перажываў, аднак Нова, здавалася, не сердавала зусім.

Разумовае напружанне, якога вымагалі ад мяне тэорыі эвалюцыі, распрацаваныя малпамі, забрала ў мяне ўсю сілу. Так што я быў толькі рады, калі ўбачыў, што, наблізіўшыся, Нова пачала лашчыць мяне. Ласкі яе былі паўчалавечыя, паўжывёльныя: за ўвесь гэты час, пераймаючы адно аднаго, мы вынайшлі спосаб любоўных гульняў, які ўвабраў у сябе часткова звычаі цывілізаваных зямлян і дзікуноў Сароры.

## Раздзел III

Для мяне гэта быў асаблівы дзень. Паддаўшыся нарэшце маім просьбам, Зіра згадзілася вывесці мяне з Інстытута вышэйшай фізіялогіі — так называлася наша ўстанова — на прагулку па горадзе.

Яна рашылася на гэта пасля доўгіх ваганняў. Спатрэбілася багата часу, каб яна прывыкла лічыць мяне разумнай істотаю. Пакуль яна заставалася са мною, ёй гэта было няцяжка, але потым Зіру зноў адольвалі сумненні. Паспрабуйце ўявіць сябе на яе месцы! Мае расказы пра людзей, а галоўнае, пра малпаў Зямлі абурылі яе — інакш і быць не магло. Пазней Зіра прызналася, што доўгі час ёй больш хацелася бачыць ува мне чараўніка ці шарлатана, абы толькі не прызнаваць прыведзеныя мною факты. Аднак пад націскам шматлікіх удакладненняў і доказаў яна канчаткова паверыла ў мяне і нават пачала абдумваць планы майго вызвалення, справы, дарэчы, зусім не простай, як яна мне растлумачыла. А пакуль што яна прыйшла за мною неўзабаве пасля поўдня, каб вывесці мяне на шпацыр.

Пры адной толькі думцы, што я зноў убачу неба над галавою, сэрца маё так і закалацілася, але я прыкметна астыў, калі ўбачыў, што Зіра збіраецца весці мяне на ланцужку. Гарылы выцягнулі мяне з клеткі, бразнуўшы дзвярыма перад носам у Новы, і надзелі мне на шыю скураны ашыйнік з прымацаваным да яго надзейным ланцугом. Зіра схапіла свабодны канец ланцуга і павяла мяне да выйсця пад улюлюканне Новы, якое раздзірала мне душу. Ахоплены жалем, я пачаў супакойваць яе сяброўскімі жэстамі, але, заўважыўшы гэта, шымпанзэ засердавала і, надта не цырымонячыся, тузанула за ланцуг. З тае пары як Зіра ўпэўнілася, што ў мяне малпін розум, мая сувязь з гэтай дзяўчынаю шакіравала яе.

Але калі мы засталіся адны ў паўцёмным пустым калідоры, яе дурны настрой прайшоў.

— Напэўна, людзі Зямлі не прывыклі,— спыталася яна, смеючыся,— каб іх вось так прагульвала на павадку малпа?

Я запэўніў яе, што ў нас такога не ўбачыш. Папрасіўшы прабачэння, Зіра растлумачыла, што некаторых прыручаных людзей можна вадзіць па вуліцах, не баючыся скандалу, але будзе спакайней, калі я застануся на ланцугу. Пазней, калі яна пераканаецца ў маёй паслухмянасці, я, магчыма, змагу прагульвацца з ёю і без ланцуга.

Потым яна забылася, хто я такі — з Зіраю гэта здаралася,— і засыпала мяне ідыёцкімі настаўленнямі:

— Не надумайся толькі кідацца на прахожых або скаліць зубы... І божа цябе барані падрапаць якое-небудзь даверлівае дзіця, калі яно захоча пагладзіць цябе. Я не надзела табе намордпік, аднак...

Але тут Зіра з рогатам спынілася.

— О, прабач мне, прабач!— усклікнула яна.— Я ўвесь час забываюся, што ты разумны, як малпа...

Яна па-сяброўску паляпала мяне па плячы, просячы прабачэння. Яе весялосць прыцішыла злосць, якая пачала ўжо закіпаць ува мне. Мне заўсёды было прыемна чуць, як смяялася Зіра. Згадваючы Нову, якая ўсё яшчэ не магла выказваць гэтак сваю радасць, я толькі ўздыхаў. Неўзабаве весялосць шымпанзэ перадалася і мне. У паўзмроку калідора рысы Зіры былі амаль нябачныя — я бачыў толькі яе белую пысачку. Зіра надзела яркую сукенку, а на галаву нацягнула студэнцкі каўпачок, які закрываў яе вушы. На імгненне я нават забыўся, што гэта малпа, і ўзяў яе пад руку. Гэта здалося ёй натуральным, і яна не запярэчыла. Так, прыцiснуўшыся адно да аднаго, мы прайшлі некалькі

метраў. Але ў канцы калідора было бакавое акно, і, спыніўшыся перад ім, Зіра жыва вызваліла руку і адштурхнула мяне. Пасур'ёзнеўшы, яна нацягнула ланцуг.

— Ты не павінен гэтага рабіць,— сумна сказала яна.— Па-першае, я заручаная і...

— Ты заручаная?!

Недарэчнасць гэтай заўвагі, зробленай у сувязі з маім нявінным сяброўскім жэстам, мы адчулі адначасна. Пысачка ў Зіры паружавела, і яна паправілася:

— Я хачу сказаць, што ніхто не павінен падазраваць, якая твая сапраўдная сутнасць. Гэта ў тваіх інтарэсах, павер мне.

Я пакорліва пацягнуўся ўслед за ёй на ланцугу. Мы выйшлі з будынка. Швейцар інстытута, здаравенны самец-гарыла ў мундзіры, ветліва пакланіўшыся Зіры, правёў мяне насмешлівым позіркам. На вуліцы я ажно хістацца пачаў: пасля трох месяцаў зняволення ў мяне ад гарадской мітусні і ззяння Бетэльгейзе кружылася галава. Я з усяе сілы ўдыхаў цёплае паветра, чырванеючы ад сораму за тое, што іду па горадзе голы. У клетцы я прызвычаіўся да поўнай адсутнасці адзежы, але тут, на вачах у прахожых малпаў, якія нязмушана разглядвалі мяне, зноў адчуў непрыстойнасць свайго выгляду. Зіра катэгарычна адмовілася даць мне адзежу, сцвярджаючы, што тады я буду выглядаць яшчэ больш недарэчна, бо буду падобны на дрэсіраванага чалавека, з тых, што паказваюць на кірмашах. І, вядома, яна мела рацыю. Калі прахожыя і азіраліся на мяне, дык не таму, што я быў голы, а таму, што быў чалавек, рэдкае відовішча, якое выклікала такую ж цікаўнасць, якую ў французскім горадзе магло б узбудзіць з'яўленне шымпанзэ. Дарослыя, пасмяяўшыся, ішлі сваёй дарогаю. Некалькі дзяцей, узрадаваных бясплатным прадстаўленнем, паскакалі за намі. Зіра хутка давяла мяне да сваёй машыны, пасадзіла на задняе сядзенне, а сама ўладкавалася за рулём, і мы не спяшаючыся паехалі па вуліцах.

Гэты горад, сталіцу адной з буйнейшых абласцей малпавай дзяржавы, я бачыў толькі з клеткі ў дзень прыбыцця, і цяпер мне даводзілася нанова прывыкаць да таго, што ён населены малпамі-прахожымі, малпамі-шафёрамі, малпамі-гандлярамі, малпамі-дзялкамі, малпамі-паліцэйскімі, аднымі малпамі! Калі б не гэта, горад не ўяўляў бы сабою нічога асаблівага. Дамы былі падобныя на нашыя дамы, вуліцы такія ж бруднаватыя, як і ў нас... Рух быў менш напружлівы за наш. Што ўразіла мяне найболей, дык гэта спосаб, якім пешаходы пераходзілі вуліцы. Замест пеша-

ходных дарожак тут былі паветраныя пераходы з металічнай, з буйнымі ячэйкамі, сеткі, за якую малпы чапляліся ўсімі чатырма лапамі, абутымі ў пальчаткі з тонкай скуры, якія дазвалялі малпам карыстацца ніжнімі канечнасцямі гэтаксама ж свабодна, як і верхнімі.

Павазіўшы мяне трохі па горадзе, каб я мог скласці сабе пра яго агульнае ўяўленне, Зіра спыніла машыну перад высокімі кратамі, скрозь якія віднеліся вялікія паляны ў кветках.

— Гэта парк,— растлумачыла яна.— Тут мы зможам прагуляцца. Я хацела б паказаць табе што-небудзь іншае, напрыклад, нашы выдатныя музеі, але пакуль што гэта немагчыма.

Я запэўніў яе, што буду рады размяць ногі.

— Да таго ж,— дадала яна,— у парку нас не будуць непакоіць. Народу тут мала, а нам час ужо пагаварыць сур'ёзна.

## Раздзел IV

— Ты, мне здаецца, не ўяўляеш, якія небяспекі пагражаюць табе ў нас?— спыталася Зіра.

— Пра некаторыя я ўжо маю ўяўленне. Але мне здаецца, што, калі я адкрыюся — а я магу зрабіць гэта цяпер, прывёўшы неабходныя доказы,— малпы павінны будуць мяне прызнаць, як свайго брата па розуме.

— Тут ты і памыляешся. Слухай мяне...

Мы прагульваліся па парку. Прысады ў ім былі пустынныя, толькі зрэдку сустракаліся закаханыя парачкі, якія амаль не звярталі на мяне ўвагі. Я ж, наадварот, уважліва назіраў за імі, вырашыўшы не ўпускаць ніводнай магчымасці пазнаёміцца са звычаямі малпаў.

Закаханыя гулялі дробнымі крокамі, абняўшы адно аднаго за талію так, што іх доўгія рукі, цесна і мудрагеліста перапляталіся. На паваротках прысадаў яны часта спыняліся, каб пацалавацца. Іншы раз, азірнуўшыся па баках, яны хапаліся за ніжнія галіны і ўзбіраліся на дрэвы. Рабілі яны гэта не раздымаючы абдымкаў — кожны дзейнічаў адной рукою і адной нагою з зайздросным спрытам,— і ўжо праз якое імгненне знікалі ў лістоце.

— Твой касмічны катэр знойдзены,— гаварыла Зіра (я ўжо досыць падрабязна растлумачыў ёй, як мы высадзіліся на планету),— ва ўсякім разе тое, што ад яго засталося пасля пагрому. Рэшткі вывучаюцца цяпер нашымі ву-

чонымі. Яны прызналі, што ён не мог быць пабудаваны на Сароры.

— У вас ёсць аналагічныя апараты?

— Не такія дасканалыя. Мяркуючы па тваіх расказах, мы яшчэ дужа адстаём ад вас. Аднак мы ўжо запусцілі некалькі штучных спадарожнікаў, і апошні з іх быў нават з жывой істотаю на борце — з чалавекам. На жаль, нам прыйшлося ўзарваць спадарожнік у палёце: мы не маглі павярнуць яго назад.

— Разумею,— сказаў я задуменна.— Значыцца, вы выкарыстоўваеце людзей і ў такіх эксперыментах...

— Прыходзіцца... Так што, твой катэр знойдзены.

— А наш карабель, які кружляе вакол Сароры вось ужо два месяцы?

— Пра гэта я нічога не чула. Напэўна, нашыя астраномы яго не засеклі. Толькі не перапыняй мяне на кожным слове! Некаторыя вучоныя сцвярджаюць, што твая ракета прыляцела з другой планеты нашай зорнай сістэмы і што ў ёй былі пасажыры. Далей гэтага яны не пайшлі. Нікому і ў галаву не прыходзіць, што гэтыя разумныя істоты могуць мець аблічча людзей!

— Але ж, Зіра, трэба ім гэта сказаць!— ускрыкнуў я.— Мне абрыдла быць палонным нават у найзручнейшай клетцы, якая толькі ёсць на Сароры, абрыдла, нягледзячы на твой клопат. Чаму ты мяне хаваеш? Чаму не сказаць праўду ўсім?

Зіра спынілася, азірнулася па баках і паклала руку мне на плячо.

— Чаму? Толькі дзеля цябе самога. Ты ведаеш Заюса?

— Пытаешся яшчэ! Нават хацеў з ім пагаварыць. Ну і што?

— Ты заўважыў, як ён успрыняў твае першыя спробы давесці, што ты — разумная істота? Ты ж не ведаеш, я ўжо сто разоў спрабавала праверыць яго ў гэтым ці хацяб намякнуць,— і з якой асцярожнасцю!— што, нягледзячы на знешні выгляд, ты ўсё-такі, магчыма, не жывёліна?

— Я бачыў, што вы часта спрачаліся і, здаецца, так і не прыйшлі да згоды.

— Ён упарты, як баран, і дурны, як чалавек!— выбухнула Зіра.— Але што рабіць? Такія амаль што ўсе арангутаны. Ён аб'явіў раз і назаўжды, што ўсе твае здольнасці тлумачацца высокаразвітым чалавечым інстынктам, і цяпер нішто не прымусіць яго змяніць сваю думку. Да таго ж, ён ужо нават напісаў пра цябе цэлую дысертацыю, у якой да-

водзіць, што ты — вучоны чалавек, гэта значыць чалавек, які пабываў у палоне, быў выдрэсіраваны і здольны цяпер выконваць бессвядома пэўныя трукі.

— Тупая жывёліна!

— Я згодная. Але ўся бяда ў тым, што ён прадстаўляе афіцыйную навуку і вельмі ўплывовы. У інстытуце ён займае адзін з самых высокіх пастоў, таму ўсе мае прапановы праходзяць праз яго. Я ўпэўнена, што калі я паспрабую расказаць пра цябе праўду, як ты хочаш, то Заюс проста абвінаваціць мяне ў навуковай ерасі. Мяне звольняць. Хоць нічога б тут асабліва страшнага не было, але ты...

— А што можа быць больш жахлівага за жыццё ў клетцы?

— Няўдзячны! Ты нават не падазраеш, на якія хітрыкі прыйшлося мне пайсці, каб цябе не перасялілі ў энцэфалічную лабараторыю! Заюс не спыніўся б ні перад чым, калі б ты працягваў даказваць яму, што з'яўляешся разумнаю істотай.

— А што такое энцэфалічная лабараторыя?— спытаўся я ўстрывожана.

— Лабараторыя, дзе мы робім некаторыя тонкія аперацыі на жывым мозгу: перасадкі тканак, пошукі і раздражненне нервовых цэнтраў, частковае і нават поўнае выдаленне мазгавых доляў.

— І вы робіце такія вопыты на людзях?

— Натуральна. Мозг чалавека, як і ўся яго анатомія, найбліжэйшы паводле сваёй пабудовы да нашага. Нам проста пашанцавала, што прырода стварыла жывёліну, на якой мы можам вывучаць сябе. Людзі служаць нам і ў багата якіх іншых вопытах, але пра гэта ты даведаешся пазней. Якраз цяпер мы выконваем надзвычай важныя даследаванні.

— Якія патрабуюць значных папаўненняў чалавечага матэрыялу?

— Але, значных. Гэтым і тлумачацца аблавы, дзякуючы якім мы аднаўляем нашыя запасы. На жаль, аблавы арганізуюць гарылы, і мы не можам пазбавіць іх любімай забавы — палявання. Навука страчвае праз гэта велізарную колькасць матэрыялу.

— Сапраўды, вельмі шкада,— працэдзіў я, сціснуўшы вусны.— Вернемся, аднак, да маёй сціплай асобы...

— Цяпер ты разумееш, чаму я вырашыла захаваць усё ў тайне?

— Дык, значыцца, я асуджаны сядзець да канца сваіх дзён у клетцы?

— Не, калі толькі план, які я задумала, удасца. Але ж ты не павінен раскрывацца, пакуль не настане зручны момант, калі ў нас на руках будуць магутныя козыры. Вось мая прапанова: праз месяц адкрыецца штогодні кангрэс фізіёлагаў. Гэта вялікая падзея. На адкрыцці будзе процьма народу, у тым ліку прадстаўнікі ўсіх буйнейшых газет. А грамадская думка адыгрывае ў нас такую ролю, што з ёю вымушаны лічыцца не толькі Заюс, не толькі ўсе арангутаны, разам узятыя, але і нават гарылы. Вось гэта ты і павінен скарыстаць. Табе трэба адкрыць сваю тайну перад усім кангрэсам, у час пасяджэння, на якое Заюс прывядзе цябе ў якасці экспаната: як я ўжо сказала, ён напісаў даўжэзны опус пра цябе і твой выдатны інстынкт. Але будзе лепш за ўсё, калі ты сам возьмеш слова і ўсё раскажаш. Гэта будзе такая сенсацыя, што Заюс не зможа табе перашкодзіць. Ты павінен гаварыць ясна і дакладна, каб пераканаць вучоных, публіку і журналістаў, як здолеў пераканаць мяне.

— А калі Заюс і іншыя арангутаны заўпарцяцца?

— Гарылы, вымушаныя ўлічваць грамадскую думку, паставяць гэтых ідыётаў на месца. Дарэчы, не ўсе арангутаны такія ж тупыя, як Заюс, і, нарэшце, сярод вучоных ёсць некалькі шымпанзэ, якіх арангутанам прыйшлося прыняць у акадэмікі за іх сенсацыйныя адкрыцці. Адзін з іх — Карнэлій, мой жаніх. Я ўжо гаварыла з ім пра цябе. Толькі з ім. Ён абяцаў выступіць у тваю абарону. Вядома, спачатку ён хоча ўбачыць цябе і праверыць усё, што я яму расказала,— надта ўжо ўсё гэта неверагодна! Дарэчы, я цябе прывяла сюды і дзеля гэтага. Сёння ў нас спатканне, і ён павінен хутка прыйсці.

Карнэлій чакаў нас каля групы гіганцкіх папаратнікаў. Гэта быў сімпатычны шымпанзэ, відавочна старэйшы за Зіру, але ўсё-такі вельмі малады для акадэміка. З першага ж імгнення я быў уражаны глыбінёй яго позірку, надзвычай жывога і праніклівага.

— Як ён табе?— ціхенечка спыталася ў мяне Зіра па-французску.

Мяркуючы па такім пытанні, я, мусіць, канчаткова заваяваў давер гэтай малпачкі. У адказ я, пакуль мы падыходзілі да Карнэлія, прашаптаў некалькі кампліментаў.

Жаніх і нявеста абняліся, як абдымаліся ўсе парачкі. Карнэлій нават не зірнуў у мой бок. Было ясна, што, нягледзячы на ўсе расказы Зіры пра мяне, я быў для яго звы-

чайным ручным зверам. Дый сама Зіра на імгненне забылася пра мяне, і яны доўга цалаваліся. Раптам Зіра ўздрыгнула, хутка адхілілася і вінавата паглядзела ў мой бок.

— Дарагая,— здзівіўся Карнэлій,— мы ж адны!

— Я таксама тут,— з годнасцю сказаў я на самай лепшай малпінай мове, на якую толькі быў здольны.

— Што?! — усклікнуў шымпанзэ, адскокваючы ўбок.

— Я сказаў: я таксама тут. На жаль, вымушаны вам пра гэта напомніць. Вашыя пацалункі мяне не бянтэжаць, але, магчыма, вы самі будзеце пасля дакараць мяне за нясціпласць.

— Ну і ну!— не верыў сваім вачам шымпанзэ.

Насмяяўшыся, Зіра пазнаёміла нас.

— Доктар Карнэлій, акадэмік,— сказала яна.— Уліс Меру, жыхар адной з планет Сонечнай сістэмы, дакладней — жыхар Зямлі.

— Рады пазнаёміцца з вамі,— сказаў я.— Зіра мне пра вас расказвала. У вас надзвычай абаяльная нявеста. Прыміце мае віншаванні.

Я працягнуў яму руку. Карнэлій адскочыў, быццам убачыў перад сабою змяю.

— Дык гэта праўда? — прамармытаў ён, ашалела гледзячы на Зіру.

— Любы, хіба я калі-небудзь маніла табе?

Карнэлій хутка авалодаў сабою. Гэта быў сапраўдны вучоны. Пасля нядоўгіх ваганняў ён паціснуў мне руку.

— Як вам у нас?— спытаўся ён.

— Нядрэнна,— адказаў я.— Яшчэ раз прашу мне прабачыць за такі выгляд.

— Ён толькі пра гэта і думае,— смеючыся, заўважыла Зіра.— Проста комплекс нейкі! Ён нават не ўяўляе, як ён будзе выглядаць тут у адзежы.

— І вы сапраўды прыбылі з гэтай... як яе?..

— З Зямлі, з Сонечнай сістэмы.

Відаць, Карнэлій мала верыў словам Зіры, мяркуючы, што ўсё гэта — нейкая містыфікацыя. Але цяпер ён закідаў мяне пытаннямі. Мы прагульваліся павольна па парку: шымпанзэ ішлі пад руку ўперадзе, а я на ланцугу за імі, каб прахожыя не звярталі на нас увагі. Але мае адказы настолькі ўражвалі Карнэлія, што ён пастаянна спыняўся, кідаў сваю нявесту, і мы пачыналі спрачацца, стоячы адзін перад адным, размахваючы рукамі, рабілі на пяску розныя чарцяжы. Зіра не сердавала на нас. Наадварот, радавалася ад усёй душы, убачыўшы, якое ўражанне зрабіў я на яе жаніха.

Натуральна, Карнэлія больш за ўсё зацікавіла эвалюцыя homo sapiens на Зямлі, і ён мяне прымусіў сто разоў паўтарыць усё, што я пра гэта ведаю. Пасля гэтага ён надоўга задумаўся. Нарэшце ён сказаў, што мая інфармацыя, без усякіх сумненняў, уяўляе велізарную каштоўнасць для навукі ўвогуле і для яго ў прыватнасці, асабліва цяпер, калі ён выконваў надзвычай смелыя даследаванні па праблеме паходжання малпаў. Наколькі я зразумеў, ён зусім не лічыў яе вырашанай і не згаджаўся з агульнапрынятымі тэорыямі. Але калі гаворка зайшла пра яго ўласныя гіпотэзы, ён стаў стрыманы, і ў гэтую першую сустрэчу я так ад яго нічога і не даведаўся. Што б там ні было, я набыў у ягоных вачах каласальную каштоўнасць, і, відаць, ён аддаў бы ўсё сваё багацце, толькі б перавесці мяне да сябе ў лабараторыю.

Потым мы загаварылі пра маё цяперашняе становішча і пра Заюса, чые дурасць і сляпая саманадзейнасць былі Карнэлію добра вядомыя. Ён адобрыў план Зіры. І нават абяцаў падрыхтаваць глебу для майго выступлення, намякнуўшы некаторым сваім калегам, што выпадак мой загадкавы.

Калі мы развіталіся, Карнэлій без ваганняў працягнуў мне руку, праверыўшы, праўда, на ўсякі выпадак, ці няма тут каго паблізу. Потым пацалаваў сваю нявесту і пайшоў, азіраючыся праз плячо, нібыта дзеля таго, каб яшчэ і яшчэ раз упэўніцца, што я не быў галюцынацыяй.

— Які прыемны малады шымпанзэ,— сказаў я Зіры, калі мы вярталіся да машыны.

— І вялікі вучоны,— дадала яна.— Я ўпэўнена, што пры яго падтрымцы ты пераканаеш кангрэс.

— Зіра,— прашаптаў я ёй на вуха, уладкаваўшыся на заднім сядзенні,— я абавязаны табе воляю і жыццём.

Толькі цяпер я зразумеў, як шмат яна для мяне рабіла ў палоне. Без яе мне б ніколі не ўдалося наладзіць кантакт з малпавым светам. Заюс мог бы проста зрабіць мне на мозгу аперацыю, абы толькі давесці, што я не істота, якая можа думаць. Дзякуючы Зіры цяпер у мяне былі саюзнікі, і я мог глядзець у будучыню з пэўным аптымізмам.

— Я рабіла гэта з любові да навукі,— адказала Зіра, чырванеючы.— Твой выпадак унікальны, і я павінна была захаваць цябе любой цаною.

Удзячнасць перапаўняла маё сэрца. Пакораны адухоўленым позіркам Зіры, я ўжо не бачыў яе знешнасці. Рука мая легла на яе доўгую валасатую лапку. Зіра ўздрыгнула, і я прачытаў у яе вачах пяшчоту. Вельмі ўсхваляваныя, мы

не сказалі па дарозе назад ніводнага слова. Калі Зіра прыняла мяне ў клетку, я груба адштурхнуў Нову, якая адразу ж пачала пошла прапаноўваць сябе мне.

## Раздзел V

Зіра ўпотайкі перадала мне электрычны ліхтарык і кнігі, якія я хаваю пад саломаю. Я ўжо досыць хутка чытаю і размаўляю на малпавай мове. Кожную ноч я падоўгу вывучаю цывілізацыю Сароры. Спачатку Нова пратэставала. Скалячы зубы, яна абнюхвала кнігу, быццам небяспечнага звярка. Але дастаткова было накіраваць на яе прамень ліхтара, як яна забівалася ў кут, дрыжала і вішчала. З тае пары як у мяне з'явіўся ліхтарык, я поўны гаспадар у сваёй клетцы і мне ўжо не прыходзіцца выкарыстоўваць для супакаення Новы такія важкія аргументы, як плескачы. Відаць, яна адчувае цяпер перада мною нейкі свяшчэнны жах, дый астатнія палонныя, мяркуючы па некаторых прыкметах, ставяцца да мяне гэтаксама ж. Я маю прэстыж і злоўжываю гэтым. Іншы раз я ні з таго ні з сяго палохаю Нову святлом ліхтарыка. А потым яна ж лашчыцца да мяне, каб я дараваў ёй маю жорсткасць.

Цешу сябе надзеяй, што маю ўжо досыць яснае ўяўленне пра свет малпаў.

У малпаў няма падзелу на нацыі. Усёй планетаю кіруе кабінет міністраў, на чале якога стаіць трыумвірат з аднае гарылы, аднаго арангутана і аднаго шымпанзэ. Акрамя ўрада існуе таксама парламент, які складаецца з трох палат — гарылы, арангутаны і шымпанзэ — і кожная з іх бароніць інтарэсы сваёй расы.

Па сутнасці, гэты падзел на тры расы і з'яўляецца адзіным на Сароры. У прынцыпе прадстаўнікі ўсіх рас валодаюць роўнымі правамі і могуць займаць любы пост. Аднак на справе існуюць абмежаванні, і кожная раса спецыялізуецца ў сваёй вобласці.

У далёкім мінулым гарылы адыгрывалі ролю лідэраў дзякуючы сваёй фізічнай сіле. Яны дагэтуль захавалі смак да ўлады і па-ранейшаму з'яўляюцца самым магутным класам. Яны не змешваюцца з масаю, іх не ўбачыш у натоўпе дэманстрантаў — менавіта гарылы кіруюць з вышэйшых сфер большасцю прадпрыемстваў. Па сутнасці не надта пісьменныя, яны інстынктыўна ўмеюць добра выка-

рыстоўваць веды падначаленых, вызначаць генеральныя лініі і камандаваць іншымі малпамі. Калі які-небудзь спецыяліст робіць цікавае адкрыццё, напрыклад, вынаходзіць новую электрычную лямпу або новае паліва, дык эксплуатуе гэтае вынаходніцтва і мае з яго ўсю магчымую выгаду зазвычай гарыла. Гарылы не вылучаюцца вялікім розумам, але яны ўсё ж нашмат хітрэйшыя за арангутанаў. Спекулюючы на фанабэрыстасці гэтых дурняў, гарылы дамагаюцца ад іх усяго, чаго хочуць. Так, напрыклад, на чале нашай установы над Заюсам, які займае пост навуковага кіраўніка, стаіць гарыла-дырэктар, якога вельмі рэдка бачаць у інстытуце. У нашае аддзяленне ён зайшоў усяго адзін толькі раз. Ён паглядзеў на мяне такім важным позіркам, што я машынальна ледзь не выцягнуўся перад ім па стойцы «смірна». Заюс у прысутнасці дырэктара зрабіўся падобны на яго раба, і нават на Зіру начальніцкі выгляд галоўнага шэфа зрабіў пэўнае ўражанне.

Гарылы, якія не займаюць адказных пасад, звычайна наймаюцца на чорную работу, якая вымагае фізічнай сілы. Так, напрыклад, Зараму і Занаму даручаюць толькі другарадныя справы, а галоўны іх абавязак — наводзіць, калі гэта робіцца неабходным, парадак сярод падвопытных.

І нарэшце, многія гарылы — паляўнічыя. Па сутнасці, гэта іх прывілея. Яны займаюцца адловам дзікіх звяроў, у прыватнасці, людзей. Я ўжо казаў, што эксперыменты малпаў патрабуюць пастаяннага папаўнення чалавечага матэрыялу, які расходуецца ў велізарнай колькасці. Гэтыя эксперыменты займаюць у іх жыцці дужа вялікае месца, і чым больш я даведваюся пра іх, тым больш балюча мне робіцца. Выдае на тое, што ледзь не трэцяя частка малпавага насельніцтва займаецца праблемамі фізіялогіі, але я да гэтай дзіўнай акалічнасці яшчэ вярнуся. Ва ўсякім разе, пастаўкі чалавечага матэрыялу патрабуюць складанай арганізацыі. Шматлікія групы стралкоў, загоншчыкаў, транспартных рабочых і прадаўцоў служаць у паляўнічых фірмах, на чале якіх заўсёды стаяць гарылы. Думаю, што справы гэтых фірм ідуць выдатна, бо людзі тут каштуюць дорага.

Побач з гарыламі — я сказаў бы, ніжэй за гарыл, хоць фармальна такой іерархіі не існуе,— стаяць арангутаны і шымпанзэ. Арангутанаў нашмат менш, а іх ролю Зіра даволі ясна і коратка вызначыла: яны прадстаўляюць афіцыйную навуку.

Але гэта так толькі да пэўнай ступені, бо некаторыя арангутаны займаюцца таксама палітыкай, мастацтвам

і літаратураю. І ў любую галіну прыносяць характэрныя ім рысы. Фанабэрыстыя, пыхлівыя, педантычныя, самаўпэўненыя кансерватары, сляпыя і глухія да ўсяго новага, затое гатовыя з пенаю на вуснах адстойваць любую дапатопную банальшчыну, арангутаны складаюць асноўны кантынгент усіх акадэмій. Маючы выдатную памяць, яны вывучваюць слова ў слова велізарную колькасць кніг. Пасля пішуць свае кнігі, паўтараючы ў іх усё вывучанае раней, і гэтым дамагаюцца прызнання з боку сваіх калег — арангутанаў. Магчыма, у гэтым пытанні я пад уплывам Зіры і яе жаніха, а яны, як і ўсе шымпанзэ, пагарджаюць арангутанамі. Гарылы таксама пагарджаюць гэтымі артадоксамі, здзекуюцца з іх рабалепства, але спрытна выкарыстоўваюць у сваіх інтарэсах. Амаль за кожным арангутанам стаіць гарыла ці савет гарыл, які высоўвае яго на ганаровыя пасады, дапамагае яму атрымліваць розныя годнасці і ордэны, якія арангутаны проста абагаўляюць, але ўсё гэта толькі да тае пары, пакуль падапечны задавальняе апекуноў. Інакш яго неадкладна адпраўляюць у адстаўку і замяняюць другім арангутанам.

Застаюцца яшчэ шымпанзэ. Гэта інтэлектуалы планеты. Зіра недарма хвалілася, калі казала, што ўсе вялікія адкрыцці зроблены шымпанзэ. Магчыма, яна крышачку перабольшыла, бо ёсць і выключэнні, ды ўсё ж большую частку цікавых кніг па самых розных пытаннях пішуць менавіта шымпанзэ. Відаць, у іх вельмі развіты дух пошуку.

Я ўжо казаў, што за працы фабрыкуюць арангутаны. Але самае страшнае, часта скардзіцца мне Зіра, што гэтакім чынам яны складаюць і падручнікі, пашыраючы сярод малпавай моладзі несусветную лухту. Паводле слоў Зіры, яшчэ зусім нядаўна школьныя падручнікі сцвярджалі, нібыта планета Сарора з'яўляецца цэнтрам сусвету, хоць нават сярэдняга розуму малпы даўно ўжо не верылі ў гэтую ахінею, а распаўсюджванне яе стала магчымым толькі таму, што яшчэ тысячагоддзі назад на Сароры жыў арангутан па імені Арыстас, які меў велізарны аўтарытэт і прапаведаваў такія вось тэорыі, якія іншыя арангутаны паўтараюць з тае пары як догмы. Даведаўшыся, што той самы Арыстас сцвярджаў, нібыта душу могуць мець толькі малпы, я пачаў лепш разумець стаўленне Заюса да мяне. На шчасце, у шымпанзэ розум нашмат больш крытычны. Вось ужо некалькі гадоў яны, сцяўшыся, імкнуцца абвергнуць аксіёмы старажытнага ідала.

Што датычыць гарыл, то гэтыя рэдка пішуць кнігі. Затое, калі яны гэта робяць, то іх працы заслугоўваюць уся-

лякай пахвалы — не за змест, дык, ва ўсякім разе, за афармленне. Я прабег вачыма некалькі такіх кніг і запомніў іх назвы: «Навукова-даследчая праца — аснова арганізацыі прадпрыемства», «Перавага грамадскага сектара» або, скажам, «Арганізацыя вялікіх аблаў на людзей на Зялёным кантыненце». У гэтых кнігах даецца зазвычай маса дакументаў, і кожны раздзел піша асобны спецыяліст. У іх шмат дыяграм, табліц фактычных дадзеных і, асабліва, цікавых фатаграфій.

Аб'яднанне ўсяе планеты, адсутнасць войнаў, а значыцца, ваенных выдаткаў — на Сароры няма арміі, ёсць толькі паліцыя,— здавалася б, павінны былі спрыяць хуткаму прагрэсу малпавай цывілізацыі. Але гэтага не здарылася. Хаця Сарора, бадай што, трохі старэйшая за Зямлю, малпы дужа адстаюць ад людзей багата ў якіх галінах жыцця.

У іх ёсць электрастанцыі, прамысловасць, аўтамабілі, самалёты, але ў асваенні космасу малпы ўсё яшчэ на стадыі штучных спадарожнікаў. У тэарэтычных навуках, у пазнанні бясконца вялікага і бясконца малога яны таксама адстаюць ад нас. Магчыма, гэтае адставанне выпадковае, і я не сумняваюся, што калі-небудзь яны нас дагоняць: на карысць гэтага гавораць працаздольнасць і даследчыцкі розум шымпанзэ. Мне здаецца, што ў гісторыі малпаў быў цёмны перыяд застою, вельмі доўгі, нашмат даўжэйшы, чым у нас, і што толькі нядаўна яны ўступілі ў эпоху вялікіх адкрыццяў.

Асноўная частка іх навуковых даследаванняў — я мушу яшчэ раз гэта падкрэсліць — вядзецца ў галіне фізіялогіі і накіравана ў прыватнасці на вывучэнне малпы. У гэтых даследаваннях выкарыстоўваюцца людзі, якія адыгрываюць такім чынам у жыцці малпаў хоць і вартую жалю, ды ўсё ж дужа важную ролю. Добра яшчэ, што на планеце хапае людзей! Я чытаў у адной працы, што людзей тут больш, чым малпаў. Але колькасць малпаў няспынна ўзрастае, тым часам як колькасць людзей скарачаецца, і ўжо цяпер некаторыя вучоныя занепакоеныя праблемаю папаўнення матэрыялу ў сваіх лабараторыях.

Але ўсё гэта не тлумачыць таямніцы ўзнясення малпаў на вяршыню эвалюцыі. Зрэшты, можа, ніякай тайны і няма? Магчыма, іх развіццё адбывалася гэтаксама заканамерна, як і нашае? Аднак я ніяк не магу ў гэта паверыць! А цяпер я яшчэ абсалютна дакладна ведаю, што многія вучоныя-малпы лічаць: пытанне малпавай эвалюцыі зусім яшчэ не высветленае да канца. Сярод іх і Карнэлій, і, на-

колькі мне вядома, яго падтрымліваюць самыя выдатныя даследчыкі. Малпы не ведаюць, адкуль яны ўзяліся і куды ідуць, і, мажліва, пакутуюць ад такой няпэўнасці. Што, калі менавіта гэтае пачуццё і прымушае іх з такім імпэтам весці фізіялагічныя даследаванні і надае асаблівую накіраванасць усёй іх навуковай дзейнасці?

Далей я ў сваіх гіпотэзах у тую ноч не пасунуўся.

## Раздзел VI

Зіра досыць часта выводзіла мяне на прагулку ў парк. Іншы раз мы сустракаліся там з Карнэліем і разам з ім абдумвалі прамову, з якою я павінен быў выступіць на кангрэсе. Дзень яго адкрыцця набліжаўся, і я нерваваўся ўсё болей. Зіра запэўнівала мяне, што ўсё будзе добра. Карнэлію не цярпелася вызваліць мяне, «каб пачаць грунтоўна вывучаць мяне»,— тут ён паправіўся, убачыўшы маю незадаволенасць такой тэрміналогіяй,—«каб супрацоўнічаць са мною».

Аднаго разу Карнэлій не змог прыйсці, і Зіра прапанавала наведаць заалагічны сад побач з паркам. Я, вядома, схадзіў бы лепш у тэатр ці ў музей, але гэтыя ўстановы былі пакуль што яшчэ не для мяне. Праўда, пэўнае ўяўленне пра мастацтва малпаў я ўжо меў, бо прагледзеў некалькі кніг па выяўленчым мастацтве. Мяне вельмі ўразілі рэпрадукцыі класічных карцін — партрэты знакамітых малпаў, вясковыя пейзажы, батальныя сцэны часоў войнаў, са страшнымі гарыламі ў стракатых мундзірах, або сладастрасныя аголеныя самкі, вакол якіх пырхалі крылатыя малпачкі-амуры. Былі ў малпаў і свае імпрэсіяністы, а некаторыя сучасныя мастакі ўзвысіліся нават да абстрактнага жывапісу. З усім гэтым я пазнаёміўся ў сябе ў клетцы пры святле электрычнага ліхтара.

Я не мог з'явіцца ў тэатры ці музеі голы, таму Зіра вадзіла мяне толькі на відовішчы пад адкрытым небам. Так я ўбачыў гульню, якая нагадвала наш футбол, прысутнічаў на жудаснай сустрэчы па боксе паміж дзвюма гарыламі і любаваўся спаборніцтвамі па скачках з шастом, на якіх шымпанзэ ўзляталі на неверагодную вышыню.

Ну што ж, сёння я згадзіўся наведаць заасад. Спачатку я не заўважыў там нічога асаблівага. Жывёліны вельмі нагадвалі нашых зямных звяроў. Тут былі драпежнікі, хобатныя, жвачныя, паўзуны і птушкі. І калі я бачыў трохгорбага вярблюда ці вепрука з казлінымі рагамі, гэта

ніяк не магло мяне здзівіць пасля ўсяго, што я ўжо ўбачыў на Сароры.

Дзівіцца я пачаў, калі мы дайшлі да секцыі людзей. Зіра адразу ж пачала тузаць за ланцуг, каб хутка прайсці далей, бо ўжо шкадавала, гледзячы цяпер на мяне, што выбралася сюды на прагулку, але цікаўнасць мая была такая вялікая, што ўрэшце яна саступіла.

У першай клетцы, каля якой мы спыніліся, сядзела чалавек пяцьдзесят людзей — жанчын, мужчын, дзяцей,— выстаўленых тут напаказ на вялікую радасць малпаў-разявак. Людзі ліхаманкава мітусіліся, скакалі, штурхаліся і выкідвалі розныя фокусы, стараючыся звярнуць на сябе ўвагу. Гэта было сапраўды дзівоснае відовішча! Кожны чалавек імкнуўся заслужыць адабрэнне маленькіх малпачак — тыя час ад часу кідалі ў клетку якую-небудзь садавіну ці кавалкі пiражкоў, купленых ля ўвахода ў заасад у старой шымпанзэ. Калі хто-небудзь з людзей, дзіця або дарослы, рабіў асабліва забаўны трук — узбіраўся па кратах, скакаў на карачках або пачынаў хадзіць на руках,— ён атрымліваў узнагароду. Але толькі ласунак падаў сярод палонных, як адразу ж пачыналася бойка — дзікуны драпаліся і цягалі адно аднаго за валасы з пранізлівымі звярынымі крыкамі.

Некаторыя, больш сталыя людзі не ўдзельнічалі ў гэтай калатнечы. Яны сядзелі ўбаку, бліжэй да кратаў, і, убачыўшы, што якая-небудзь маленькая малпачка суне лапу ў торбачку з пачастункам, умольна працягвалі да яе рукі. Малпачка звычайна спалохана адскоквала, але, калі бацькі або старэйшыя сябры смяяліся з яе, набіралася смеласці і, не могучы яшчэ суняць дрыготку, перадавала ласунак са сваёй лапы ў руку чалавеку.

З'яўленне ў заасадзе чалавека на ланцугу здзівіла як палонных, так і наведнікаў. Людзі на хвіліну перапынілі сваю валтузню і падазрона ўтаропіліся на мяне, але паколькі я трымаўся спакойна і з годнасцю адмаўляўся ад падачак, якія баязліва працягвалі мне малпачкі, то неўзабаве і малпы, і людзі страцілі да мяне цікавасць, я ж атрымаў мажлівасць спакойна назіраць і за тымі, і за другімі. Жывёльныя паводзіны людзей вымушалі мяне чырванець ад сораму: вонкава ж гэтыя дзікуны нічым не адрозніваліся ад мяне.

У іншых клетках я ўбачыў тую ж самую валтузню і бойкі, што так прыніжалі людзей. Ахоплены роспаччу, я ўжо быў гатовы пакорна пайсці ўслед за Зіраю, якая цягнула мяне адсюль за ланцуг, як раптам ледзь утрымаў-

ся, каб не закрычаць: у адной з клетак я ўбачыў у статку людзей майго спадарожніка па касмічнай вандроўцы, яе кіраўніка і душу, знакамітага прафесара Антэля! Мусіць, ён, як і я, трапіў у пастку, але, напэўна, яму пашэнціла менш, чым мне, і яго аддалі ў заасад.

Гэта было такое шчасце — бачыць яго жывога і здаровага, што на вачах у мяне выступілі слёзы. Але я адразу ж падумаў, у якіх жахлівых умовах знаходзіцца гэты вялікі вучоны, і ажно скалануўся. Пачуцці, якія адольвалі мяне, неўзабаве змяніліся здзіўленнем і роспаччу, калі я заўважыў, што паводзіць ён сябе гэтаксама ж, як і іншыя людзі. Гэта было неверагодна, але прыходзілася верыць сваім вачам. Антэль далучыўся да пажылых самцоў, якія не ўдзельнічалі ў бойках, а толькі працягвалі руку, з грымасамі вымольваючы падачку. Я назіраў за тым, як ён гэта рабіў: нішто ў прафесаравых паводзінах не выяўляла ў ім разумнага чалавека. Маленькая малпачка дала яму банан. Прафесар узяў яго, усеўся, скурчыўшы пад сабою ногі, і пачаў таропка жэрці падачку, не зводзячы з тае малпачкі, што дала яму ласунак, прагнага позірку, быццам спадзяваўся атрымаць яшчэ што-небудзь. Пры гэтай сцэне я зноў заплакаў. Я шэптам растлумачыў Зіры прычыну маіх слёз. Я хацеў падысці і загаварыць з прафесарам, але яна катэгарычна мне гэта забараніла. Я нічым не змог бы яму дапамагчы цяпер, а нашае раптоўнае ўсхваляванае спатканне магло б адно прывесці да непажаданага скандалу, які пашкодзіў бы нам абодвум і парушыў бы мае планы.

— Мы зоймемся ім пасля кангрэса,— сказала мне Зіра,— калі ты будзеш прызнаны і прыняты нашым грамадствам, як разумная істота.

Яна мела рацыю, і я з горыччу дазволіў ёй вывесці сябе з заасада. Па дарозе да машыны я растлумачыў Зіры, хто такі прафесар Антэль і якой рэпутацыяй карыстаўся ён на Зямлі і асабліва сярод вучоных. Яна доўга думала і ўрэшце паабяцала вызваліць яго з заасада. Пакуль мы дабіраліся да інстытута, я трохі супакоіўся, але ў час вячэрняй кармёжкі я адмовіўся ад ежы, прынесенай гарыламі.

## Раздзел VII

За тыдзень да кангрэса Заюс часта наведваў мяне. Ён праводзіў на мне самыя недарэчныя выпрабаванні, і яго сакратарка ледзь паспявала запаўняць свой сшытак на-

зіраннямі і заўвагамі, якія тычыліся маёй асобы. Я ж хітрыў і стараўся паводзіць сябе больш прымітыўна, у адпаведнасці з арангутанавымі ўяўленнямі.

Нарэшце доўгачаканы кангрэс пачаўся, але першыя дні былі прысвечаны тэарэтычным дыскусіям, і па мяне прыйшлі толькі на трэці дзень. Аднак увесь гэты час я быў у курсе спраў дзякуючы Зіры. Заюс ужо зачытаў свой даўжэзны опус, у якім паказаў мяне як чалавека з надзіва развітымі інстынктамі, але зусім без розуму. Карнэлій задаў яму некалькі складаных пытанняў, каб дакладчык растлумачыў, як ён ацэньвае тыя ці іншыя асаблівасці маіх паводзін. Гэта распаліла старыя канфлікты, і апошняе пасяджэнне было даволі бурлівае.

Вучоныя раздзяліліся на два лагеры: адны даводзілі, што ў жывёл увогуле не можа быць душы, другія — што пропасці паміж псіхікаю малпаў і жывёлін няма. Вядома, поўнай праўды не ведаў ніхто, апроч Карнэлія і Зіры. Аднак факты, якія прывёў, расказваючы пра мяне, Заюс, былі настолькі неверагодныя — пра што гэты дурань нават не падазраваў,— што многія нейтральныя назіральнікі і некаторыя знакамітыя вучоныя былі ўражаныя і па горадзе пайшла пагалоска пра зусім незвычайнага чалавека.

Выводзячы мяне з клеткі, Зіра шапнула мне на вуха:

· Народу будзе процьма, як на ўрачыстасці, а журналісты ўсе збяруцца. Усе ўсхваляваныя і чакаюць сенсацыі. Гэта выдатна. Будзь мужны!

Яе маральная падтрымка была мне проста неабходная. Я адчуваў, што нервы мае здаюць. Прамову сваю я перачытваў усю ноч. Я ведаў яе слова ў слова, яна павінна была пераканаць любога асталопа, але не давала спакою страшная думка, што мне не дазволяць нават загаварыць.

Гарылы ўпіхнулі мяне ва ўсталяваную на грузавіку клетку, дзе ўжо было некалькі падвопытных людзей, якія заслужылі гонар паўстаць перад вучонаю сходкаю менавіта праз свае асаблівасці. Неўзабаве мы даехалі да велізарнага будынка, завершанага купалам. Вартаўнікі ўвялі нас у вестыбюль каля залы пасяджэнняў. Ля сцен вестыбюля стаялі клеткі, у якіх нам прыйшлося чакаць, пакуль нас збяруцца прадэманстраваць. Раз-пораз напышлівы гарыла ў чорным мундзіры адчыняў дзверы ў вестыбюль і выкрыкваў нумар, пасля чаго вартаўнікі бралі названага чалавека на ланцуг і выводзілі ў залу. Кожны раз, калі ў дзвярах з'яўляўся гэты гарыла, сэрца маё ледзь не выскоквала з грудзей. Праз прачыненыя дзверы з залы па-

сяджэнняў даносіліся цьмяны гул, крыкі, іншы раз апладысменты.

Усіх прадэманстраваных падвопытных адразу ж выводзілі з вестыбюля, і, пакуль я ліхаманкава згадваў асноўныя палажэнні сваёй прамовы, у вестыбюлі не засталося нікога, апроч мяне і вартаўнікоў. Напэўна, мяне пакідалі на канец, як зорку. Нарэшце, расчыніўшы дзверы, гарыла ў чорным выкрыкнуў мой нумар. Я ўскочыў, выхапіў з лап у аслупянелага вартаўніка ланцуг, які ён збіраўся прышпіліць да майго ашыйніка, і зрабіў гэта сам. Потым у суправаджэнні двух вартаўнікоў я цвёрдым крокам увайшоў у залу пасяджэнняў — і адразу ж спыніўся, асьлеплены і разгублены.

З дня майго прыбыцця на планету Сарору я ўбачыў багата недарэчных сцэн. Мне здавалася, што я ўжо прызвычаіўся да малпаў і іх паводзін настолькі, што мяне больш нішто не можа здзівіць. Аднак фантастычнасць і грандыёзнасць убачанага відовішча шакіравалі мяне, і я які ўжо раз спытаўся ў сябе, ці не бачыцца гэта мне нейкі кашмарны сон.

Я апынуўся на дне гіганцкага амфітэатра, які нагадаў мне лейкападобнае Дантава пекла: усе лаўкі вакол мяне і нада мною былі запоўнены малпамі. Тысячамі малпаў! Ніколі ў жыцці не бачыў я яшчэ столькі малпаў у адным месцы — самае вар'яцкае ўяўленне зямнога чалавека не зможа намаляваць сабе падобнага відовішча. Я быў проста раздушаны незлічонай процьмаю малпаў.

Неверагодна кружылася галава, але я ўсё ж такі спрабаваў неяк зарыентавацца ў гэтым натоўпе. Але гарылы адразу ж выцягнулі мяне на сярэдзіну падобнай на цыркавую арэну круглай пляцоўкі з кафедраю для дакладчыка. Я павольна азірнуўся. Рады лавак, запоўненыя малпамі, узносіліся пад самы купал на неверагодную вышыню. На ніжніх лаўках сядзелі члены кангрэса, усе знакамітыя вучоныя, усе ў паласатых штанах і цёмных рэдынготах, усе з ордэнамі на лацканах, усе сталага веку і амаль усе — арангутаны. Я заўважыў сярод іх толькі некалькі гарыл і шымпанзэ. Пашукаў вачыма Карнэлія, але так і не знайшоў.

Ззаду ад удзельнікаў кангрэса былі адведзены рады лавак для іх памочнікаў і супрацоўнікаў. На тым самым узроўні быў і сектар прэсы, запоўнены журналістамі і фатографамі. А вышэй, за другім бар'ерам, сядзелі шматлікія гледачы. Мяркуючы па гуле, якім сустрэлі маё з'яўленне, атмасфера ўжо была вельмі гарачая.

Я паспрабаваў знайсці Зіру, якая павінна была сядзець сярод асістэнтаў. Мяне падтрымаў бы адзін яе позірк. Але і тут я быў расчараваны: у процьме д'ябальскіх пыс не было ніводнай знаёмай мне!

Тады я пачаў разглядаць жрацоў навукі. У адрозненне ад простых смяротных, якія размясціліся на лаўках і крэслах, акадэмікі сядзелі ў чырвоных аксамітавых фатэлях. Усе акадэмікі былі вельмі падобныя на Заюса. Згорбіўшыся, уцягнуўшы галовы ў плечы і сагнуўшы ў локцях доўгія рукі, арангутаны з мудрым выглядам запісвалі нейкія заўвагі, а можа, проста што крэмзалі. У параўнанні з узбуджанымі гледачамі верхніх радоў выгляд у іх быў нейкі тупы. Мне здалося, што толькі маё з'яўленне, пра якое аб'явілі па радыё, трохі абудзіла іх. Дальбог, памятаю, як тры арангутаны літаральна падскочылі і вылупіліся на мяне, нібыта іх вырвалі раптам са сну.

Словам, больш ужо не драмаў ніхто. Відаць, дэманстрацыя мяне Заюсам была гваздом праграмы: тысячы малпавых вачэй, захопленых або проста цікаўных, праціналі мяне з усіх бакоў.

Мае вартаўнікі ўзвялі мяне на ўзвышэнне, у цэнтры якога сядзеў прэзентабельны гарыла. Зіра сказала мне раней, што старшынстваваць на гэтым кангрэсе будзе не акадэмік, як гэта бывала дагэтуль, а адміністратар, таму што на папярэдніх кангрэсах прадстаўленыя самі сабе вучоныя заводзілі бясконцыя дыскусіі і не маглі прыйсці ні да якога рашэння. Злева ад рэспектабельнага старшыні сядзеў яго сакратар-шымпанзэ, які вёў пратакол пасяджэння. Справа стаяў фатэль, да якога па чарзе падыходзілі дакладчыкі. Цяпер у яго пад не дужа багатыя апладысменты ўсеўся Заюс. Дзякуючы сістэме мікрафонаў і моцных пражэктараў нават гледачы самых апошніх радоў цудоўна бачылі і чулі ўсё, што адбывалася на цэнтральнай эстрадзе.

Старшыня-гарыла пазваніў у званочак і, дамогшыся цішыні, аб'явіў, што дае слова шаноўнаму Заюсу, каб той прадэманстраваў чалавека, пра якога ён ужо дакладваў асамблеі. Арангутан устаў, пакланіўся і пачаў сваю прамову. Пакуль ён гаварыў, я стараўся трымацца як мага больш асэнсавана. Напрыклад, калі ён упершыню згадаў пра мяне, я прыклаў руку да грудзей і зрабіў ветлівы паклон, які выклікаў у аўдыторыі гучны смех. Праўда, старшыня хутка перапыніў яго званочкам. А я зразумеў, што не дасягну такім чынам нічога: самыя разумныя мае дзеянні будуць

успрымацца як звычайны вынік выдатнай дрэсіроўкі. Таму я больш не варушыўся да самага канца Заюсавай прамовы.

Нарэшце Заюс падсумаваў зробленыя высновы і аб'явіў, што прадэманструе зараз мае здольнасці — розныя прыстасаванні для яго праклятых эксперыментаў былі ўжо расстаўлены на эстрадзе. На заканчэнне Заюс паведаміў, што, акрамя таго, я здольны, як некаторыя птушкі, паўтараць асобныя словы і што ён спадзяецца прымусіць мяне вытварыць гэтае штукарства і перад асамблеяй. Пасля ён узяў куфэрак са шматлікімі замкамі і працягнуў яго мне. Але замест таго каб хутка справіцца з усімі гэтымі засаўкамі і кручкамі, я зрабіў па-свойму.

Мой час настаў! Я ўзняў руку, ціхенька пацягнуў ланцуг і, наблізіўшыся да мікрафона, звярнуўся да старшыні кангрэса:

— Шаноўны пан старшыня!— пачаў я, стараючыся гаварыць на малпавай мове як мага чысцей.— Я з вялікім задавальненнем адчыню для вас гэты куфэрак і вельмі ахвотна зраблю ўсе нумары праграмы. Але перш чым прыступіць да гэтых занадта лёгкіх мне вопытаў, я прашу дазволу зрабіць заяву, якая, я перакананы, уразіць гэты вялікавучоны сход.

Я выразна прамаўляў кожнае слова, і ўсё, што я сказаў, малпы вельмі добра пачулі. Вынік быў такі, на які я разлічваў. Малпы застылі на сваіх месцах нібыта раздушаныя — запала такая цішыня, што здавалася, усе нават дыхаць перасталі. Журналісты забыліся на свае блакноты, і ніводны фатограф не ачомаўся ў гэтыя першыя імгненні настолькі, каб зрабіць хоць адзін здымак гістарычнага моманту.

Старшыня тупа глядзеў на мяне, нічога не разумеючы. Тым часам Заюс ажно ўзвіўся.

— Пан старшыня!— загаласіў ён.— Я пратэстую...

Але тут ён зноў падавіўся, усвядоміўшы ўсю недарэчнасць спрэчкі з чалавекам. Я гэта скарыстаў і загаварыў зноў:

— Пан старшыня, з вялікай павагай да вас я ўсё-такі настойваю, каб мне далі мажлівасць выступіць. Скончыўшы, я выканаю, клянуся гонарам, усё, што запатрабуе высокашаноўны Заюс.

І тут у зале ўсчалася бура. Публіка звар'яцела! Малпы спляліся ў істэрычны, захоплены натоўп, крычалі «ўра», рагаталі і рыдалі. З усіх бакоў замільгацелі яркія ўспышкі бліцаў — гэта ачомаліся нарэшце рэпарцёры. Гвалт стаяў сама меней хвілін яшчэ з пяць, і ўвесь гэты час старшыня

не зводзіў з мяне вачэй. Нарэшце ён узяў сябе ў рукі і зазваніў у званочак.

— В-в-выбачайце,— пачаў ён, заікаючыся,— н-не ведаю, д-дальбог, як вас называць...

— Проста «пан»,— адказаў я.

— Дык, значыцца, п-п... значыцца, пан, я мяркую, ваш выпадак такі незвычайны, што навуковы кангрэс, які я маю гонар весці, мусіць выслухаць вашую заяву.

Гэтае мудрае рашэнне было сустрэта новай бураю апладысментаў. Большага мне пакуль і не трэба было. Я выступіў на сярэдзіну эстрады, усталяваў мікрафон згодна з маім ростам і зрабіў наступную прамову.

## Раздзел VIII

— Пан старшыня!

Высакародныя гарылы!

Мудрыя арангутаны!

Шаноўныя шымпанзэ!

О малпы!

Дазвольце чалавеку звярнуцца да вас.

Я ведаю, што выгляд у мяне — страшны, цела — недарэчнае, твар — жывёльны, пах — невыносны, колер скуры — агідны. Я ведаю, што мая брыдкая знешнасць абражае ваш зрок, але ведаю я і тое, што звяртаюся да самых славутых, самых мудрых малпаў, чый розум здольны ўзвысіцца над умоўнасцю такіх пачуццяў і распазнаць істоту з развітым мысленнем нават пад такой нікчэмнаю матэрыяльнай абалонкаю...

Такі напышлівы і поўны самаўніжэння пачатак быў прапанаваны мне Зіраю з Карнэліем. Яны сцвярджалі, што гэта будзе прыемна пачуць арангутанам.

— Выслухайце мяне, о малпы, бо размаўляю я свядома, а не як аўтамат ці папугай. Я думаю, гавару і разумею вас гэтаксама ж цудоўна, як вы мяне. Калі я скончу, калі вашыя шаноўныя вучоныя ўзнагародзяць мяне такім гонарам, я з задавальненнем як найлепей адкажу на ўсе іх пытанні.

Але спярша я мушу адкрыць вам самы сэнсацыйны факт: я не проста разумная істота з душою, што, як гэта ні дзіўна, жыве ў недарэчным чалавечым целе,— я прышэлец з далёкага свету з планеты Зямля, планеты, на якой паводле невытлумачальнай фантазіі прыроды менавіта людзі надзеленыя душою і розумам. Я прашу дазволу ўдакладніць месцазнаходжанне маёй роднай планеты, вядома, не

для славутых вучоных, якіх бачу вакол мяне, а для тых нешматлікіх прысутных, якія, мажліва, не зусім знаёмыя з рознымі зорнымі сістэмамі.

Я падышоў да чорнай дошкі і з дапамогаю некалькіх чарцяжоў пастараўся паказаць нашую Сонечную сістэму і яе месца ў Галактыцы. Мае тлумачэнні былі выслуханы як казань у храме. Але калі, скончыўшы з чарцяжамі, я паляпаў далонню аб далонь, каб стрэсці з іх крэйду, гэты просты жэст выклікаў неверагоднае захапленне ў гледачоў верхніх радоў. Павярнуўшыся да аўдыторыі, я гаварыў далей:

— Як я ўжо сказаў, на нашай Зямлі розум дадзены чалавеку. Гэта так, і я не магу тут нічога зрабіць. У нас людзі эвалюцыяніравалі, тым часам як малпы — і гэтым я найбольш уражаны з тае пары, як адкрыў ваш свет, чамусьці засталіся ў дзікім стане. Мозг развіваўся і ўскладняўся ў чалавека. Менавіта людзі авалодалі моваю, навучыліся здабываць агонь, карыстацца прыладамі. Менавіта яны сталі гаспадарамі планеты і змянілі яе аблічча. І нарэшце менавіта людзі стварылі такую высокую цывілізацыю, што многімі сваімі рысамі яна, о малпы, нагадвае вашую!

Тут я пастараўся прывесці шматлікія прыклады нашых найяскравейшых дасягненняў. Я апісваў нашыя гарады, заводы, сродкі камунікацыі, расказваў пра нашыя ўрады, законы, пра тое, у якіх захапленнях бавім мы вольны час. Пасля, звяртаючыся галоўным чынам да вучоных, я паспрабаваў даць ім уяўленне пра нашыя поспехі ў высакародных галінах навукі і мастацтва. Спакваля голас мой рабіўся ўсё больш упэўнены. Я пачынаў адчуваць своеасаблівае ап'яненне, быццам мільянер, які выхваляецца сваімі скарбамі.

Потым я перайшоў да аповяду пра свае прыгоды. Я растлумачыў, як мы даляцелі да сістэмы Бетэльгейзе і Сароры, як я трапіў у палон і апынуўся ў клетцы, як спрабаваў усталяваць кантакт з Заюсам, але ўсе мае намаганні засталіся марныя, вядома, па ўласнай віне, бо я не выявіў вынаходлівасці. Нарэшце я расказаў пра праніклівасць Зіры і пра найкаштоўнейшую дапамогу, якую яна аказала мне разам з доктарам Карнэліем. Скончыў я так:

— Гэта ўсё, што я хацеў вам сказаць, о малпы! Рашайце самі, ці справядліва будзе, калі пасля такіх цяжкіх прыгод мяне зноў пасадзяць у клетку, як неразумную жывёліну, да канца маіх дзён? Мне застаецца дадаць адно: я прыляцеў да вас без якогась варожага намеру — вяла

мяне сюды толькі прага адкрыццяў. З тае пары, як я пачаў зведваць вас, вы мне ўсё больш і больш падабаецеся, і цяпер я проста люблю вас усёй сваёй душою. У мяне ёсць план, пра які я хачу расказаць найвялікшым вучоным планеты. Я магу прынесці вам несумненную карысць сваімі зямнымі ведамі, з другога боку, за некалькі месяцаў, праведзеных у клетцы, я сам зведаў на Сароры больш, чым за ўсё сваё ранейшае жыццё. Дык давайце з'яднаем нашыя намаганні! Усталюем кантакт з Зямлёю! Пойдзем, малпы і людзі, уперад, як паплечнікі, і ніякая сіла ў свеце, ніякія таямніцы космасу не ўстояць перад намі!

Задыхнуўшыся, я скончыў сваю прамову ў абсалютнай цішыні. Я павярнуўся машынальна да стала старшыні, схапіў шклянку з вадою і асушыў яе адным духам. І гэтаксама ж як і тады, калі я стрэсваў крэйду з далоняў, гэты просты жэст зрабіў на малпаў велізарнае ўражанне і стаў сігналам для новай буры. Зала нібыта выбухнула, ахопленая энтузіязмам, якога не апіша ніводнае пяро. Я ведаў, што перамог, але не мог нават уявіць сабе, што якая-небудзь асамблея здольная выказваць свае пачуцці з такім неверагодным гвалтам. Я быў аглушаны, але ўсё ж убачыў прычыны гэтага фантастычнага грукату: эмацыянальныя па сваёй прыродзе малпы, калі відовішча ім падабаецца, апладзіруюць усімі чатырма лапамі! Цяпер вакол мяне шалелі тысячы гэтых д'ябальскіх стварэнняў: ледзь утрымліваючы раўнавагу, яны пляскалі ў свае чатыры далоні, так што здавалася, быццам купал зараз абваліцца,— і ўсё гэта з віскам, з крыкамі, з енкамі, скрозь якія прарываўся толькі глухі роў гарыл. Гэта было адно з апошніх ясных уражанняў ад таго памятнага пасяджэння. Кружылася галава, я адчуў, што вось-вось упаду. З трывогаю азірнуўшыся, я ўбачыў, што разззлаваны Заюс ускочыў з месца і, згорбіўшыся і заклаўшы рукі за спіну, ходзіць па эстрадзе, як хадзіў перад маёй клеткаю. Быццам у сне, я ўбачыў ягоны пусты фатэль і плюхнуўся на яго. Гэта было сустрэта новым выбухам авацый, але тут я страціў свядомасць.

## Раздзел IX

Ачуняў я не вельмі хутка: надта ўжо вялікае перажыў нервовае напружанне. Я ляжаў на ложку ў незнаёмым пакоі. Зіра і Карнэлій завіхаліся ля мяне, пакуль гарылы-па-

ліцэйскія стрымлівалі журналістаў і проста цікаўных, якія спрабавалі прарвацца ў пакой.

— Гэта было выдатна!— шапнула мне Зіра на вуха.— Ты выйграў.

— Уліс,— сказаў мне Карнэлій,— нас з вамі чакаюць вялікія справы!

Ён паведаміў мне, што толькі што скончылася надзвычайнае пасяджэнне Вялікага Савета Сароры, на якім прынялі рашэнне аб маім неадкладным вызваленні.

— Сёй-той спрабаваў пратэставаць,— дадаў ён,— але грамадская думка была на вашым баку, і яны не маглі прыйсці да якогась іншага рашэння.

Ён спытаўся, ці згодны я супрацоўнічаць з ім, і, атрымаўшы маю згоду, загадзя паціраў рукі ад задавальнення пры думцы пра дапамогу, якую я змагу аказаць яму ў яго пошуках.

— Жыць вы будзеце тут,— абвёў рукамі пакой Карнэлій.— Спадзяюся, кватэра вас задаволіць. Мая зусім непадалёк, у гэтым самым крыле інстытута: тут жывуць толькі старшыя навуковыя супрацоўнікі.

Я збянтэжана азіраўся, думаючы, што ўсё гэта мне сніцца. Пакой быў надзіва ўтульны. Пачыналася новая эра ў маім тутэйшым жыцці. Гэтак доўга і пакутліва чакаў я гэтага часу — і тут мяне чамусьці агарнула самота. Вочы мае сустрэліся з вачыма Зіры, і я зразумеў, што праніклівая шымпанзэ ўгадала мае думкі.

— Але,— сказала яна,— тут у цябе Новы не будзе.

Пачырванеўшы, я паціснуў плячыма, прыўзняўся і сеў. Сілы вярнуліся да мяне, і я хацеў як мага хутчэй акунуцца ў новае жыццё.

— Як ты сябе пачуваеш?— спыталася Зіра.— Ты не стомішся ад маленькае вечарыны? Мы запрасілі, каб адзначыць гэты вялікі дзень, некаторых сяброў, адных шымпанзэ.

Я адказаў, што мне гэтая вечарына будзе вельмі прыемная, але я ўжо больш не хачу хадзіць голы. І толькі тут заўважыў, што на мне піжама: Карнэлій пазычыў мне адну са сваіх уласных. Але калі я мог яшчэ неяк нацягнуць на сябе піжаму шымпанзэ, то ў любым з яго касцюмаў выглядаў клоунам.

— Заўтра ў цябе будзе поўны гардэроб, а да сённяшняга вечара табе сшыюць файны касцюм,— супакоіла мяне Зіра.— Вось і кравец.

У пакой увайшоў і пакланіўся мне з вытанчанай пачцівасцю маленькі шымпанзэ. Я даведаўся, што, пакуль быў

у непрытомнасці, лепшыя краўцы аспрэчвалі гонар адзець мяне. Перамог гэты славуты майстар, які шыў на самых знакамітых гарыл сталіцы.

Майстэрства і спрытнасць краўца былі адметныя. Менш чым за дзве гадзіны яму ўдалося сшыць мне прыстойны вячэрні касцюм. Але надзеўшы яго, я адчуў, што мне ўжо няёмка ў адзежы. Зіра ўтаропілася на мяне, вытрашчыўшы вочы. Пакуль майстар падганяў усялякія драбніцы, Карнэлій упусціў у пакой журналістаў, якія даўно ўжо імкнуліся прарвацца да мяне, і я ажно на гадзіну апынуўся ў цэнтры іх увагі: мяне закідвалі пытаннямі, абстрэльвалі ўспышкамі фотаапаратаў, патрабавалі ўсё новых і новых цікавых падрабязнасцей пра Зямлю і жыццё людзей. Я пакорліва даваў інтэрв'ю. Сам журналіст, я разумеў, якой знаходкаю з'яўляюся я для маіх тутэйшых калег, апроч таго, улічваў, што прэса можа забяспечыць мне вялікую падтрымку.

Калі журналісты нарэшце пайшлі, было ўжо досыць позна, і мы пасняшаліся да Карнэлія, дзе нас чакалі яго сябры. Але толькі мы выйшлі з пакоя, нас затрымаў Занам. Напэўна, ён быў у курсе апошніх падзей, бо пакланіўся мне ледзь не да самае падлогі. Занам прыбег сказаць Зіры, што ў аддзяленні не ўсё ў парадку. Раззлаваная маёй доўгай адсутнасцю, Нова ўсчала неверагодны гвалт. Неўзабаве яе шаленства перадалося ўсім астатнім палонным, і цяпер іх не ўтаймаваць ніякімі пікамі.

— Зараз прыйду,— адказала Зіра вартаўніку.— А вы чакайце мяне тут.

Я ўмольна зірнуў на яе. Яна вагалася, але потым пацiснула плячыма.

— Калі хочаш, хадзем са мною,— сказала яна.— Урэшце, ты вольны і, магчыма, здолееш супакоіць яе хутчэй за мяне.

Услед за Зіраю я ўвайшоў у аддзяленне. Прыкмеціўшы мяне, палонныя адразу ж супакоіліся, і гвалт змяніўся напружлівай цішынёю. Яны, несумненна, пазналі мяне, нягледзячы на адзежу, і, здавалася, разумелі, што з'яўляюцца сведкамі нейкай дзівоснай метамарфозы.

Стрымліваючы дрыготку, я накіраваўся да клеткі Новы, да маёй клеткі. Я наблізіўся да яе, усміхнуўся, загаварыў з ёю, на нейкае імгненне ў мяне з'явілася адчуванне, што яна мяне разумее і вось-вось адкажа мне. Але гэта, вядома, было немагчыма. Проста мая прысутнасць супакоіла яе, гэтаксама як і астатніх. Яна ўзяла кавалачак цукру, які

я ёй працягнуў, і ўсё яшчэ грызла яго, калі я з цяжкім сэрцам ішоў да выхаду.

Пра гэтую вечарыну, наладжаную ў модным кабарэ,— Карнэлій вырашыў адразу ж пачаць далучаць мяне да малпінага жыцця, бо цяпер я мусіў кантактаваць пастаянна з малпамі,— у мяне захаваліся ўражанні вельмі цьмяныя і дзіўныя.

Прычынаю іх цьмянасці быў выпіты мною ў пачатку вечара алкаголь, ад якога мой арганізм на Сароры адвык. А дзіўнасць тлумачылася, бадай, асаблівым пачуццём, якое і пасля не раз авалодвала мною: паступовым згасаннем у маёй свядомасці ўяўлення пра ўсіх тых, хто быў вакол мяне, як пра малпаў — я ўсё часцей успрымаў іх у залежнасці ад іх прафесіі ці становішча ў грамадстве. Метрдатэль, напрыклад, які ўгодліва сустрэў нас і правёў да нашага стала, быў для мяне перш за ўсё метрдатэлем і толькі потым самцом-гарылаю. Гідка нафарбаваная арангутанка ў гадах успрымалася мною як старая какетка, а калі я танцаваў з Зіраю, то зусім забываўся, што яна шымпанзэ, адчуваў толькі гнуткую талію партнёркі. Аркестр шымпанзэ быў усяго толькі звычайным аркестрам, і элегантныя малпы, якія жартавалі за нашым сталом, нічым не адрозніваліся ад звычайных свецкіх жартаўнікоў.

Не буду расказваць падрабязна пра тое, якія пачуцці выклікала ў малпаў мая прысутнасць. Скажу толькі, што апынуўся ў цэнтры ўвагі. Мне прыйшлося бясконца раздаваць аўтографы, і два вартаўнікі-гарылы, якіх Карнэлій прадбачліва прывёў з сабою, ледзь баранілі мяне ад нападаў самак усіх узростаў і парод, якія спрачаліся за права выпіць са мною ці патанцаваць.

Заседзеліся мы да глыбокай ночы. Я ўжо быў добра п'яны, як раптам успомніў пра прафесара Антэля. Гэтая думка абудзіла ўва мне самыя горкія згрызоты сумлення. Я ледзь не зароў ад сораму, падумаўшы пра тое, што сяджу вось цяпер тут, баўлю бесклапотна вольны час, п'ю з малпамі, а мой няшчасны таварыш дрыжыць на саломе ў клетцы заасада.

Зіра спыталася, што мяне так засмучае. Я адказаў. Тады Карнэлій паведаміў мне, што ўжо цікавіўся прафесарам і той пачувае сябе добра. Цяпер нішто не перашкаджае яго вызваленню. У адказ я рашуча заявіў, што не магу больш чакаць ні хвіліны і хачу перадаць яму гэтую навіну неадкладна.

— Урэшце,— падумаўшы, згадзіўся Карнэлій,— у такі дзень вам ні ў чым нельга адмовіць. Хадземце! Я знаёмы з дырэктарам заасада.

Мы выйшлі ўтраіх з кабарэ і неўзабаве дабраліся да заалагічнага сада. Разбуджаны дырэктар паспяшаўся нам насустрач. Ён ужо ведаў маю гісторыю. Карнэлій адкрыў яму сапраўднае паходжанне аднаго з людзей, выстаўленых тут у клетцы. Дырэктар не верыў сваім вушам, але таксама не рашыўся адмовіць мне.

— Вядома, прыйдзецца дачакацца дня,— сказаў ён,— каб выканаць сякія-такія фармальнасці, неабходныя для вызвалення вашага прафесара, але нішто не замінае вам пагаварыць з ім хоць цяпер.

Ён абраўся праводзіць нас.

Ужо пачынала світаць, калі мы спыніліся перад клеткаю, у якой небарака-прафесар жыў, нібыта якая жывёліна, разам з паўсотняю іншых мужчын і жанчын. Палонныя яшчэ спалі, уладкаваўшыся парамі ці групамі па чатырыпяць чалавек. Калі дырэктар запаліў у клетцы святло, усе расплюшчылі вочы.

Я нядоўга шукаў майго таварыша па няшчасці. Як і ўсе астатнія, ён ляжаў скурчыўшыся на саломе, і побач з ім была жанчына, як здалося мне, досыць маладая. Убачыўшы прафесара, я здрыгануўся і ледзь не заплакаў ад спагады да старэйшага сябра дый да сябе самога, згадаўшы, што перажыў за гэтыя чатыры месяцы.

Я быў такі ўсхваляваны, што не мог гаварыць. Але разбуджаныя людзі не дзівіліся нам ані кроплі. Яны ўжо былі прыручаныя і добра выдрэсіраваныя, таму адразу ж сталі выконваць свае звычайныя трукі, спадзеючыся атрымаць што-небудзь ва ўзнагароду. Дырэктар кінуў ім жменю пячэння. Адразу ж, як і ўдзень, пачалася штурхатня і калатнеча, а ўмудроныя старыя паспяшаліся ўладкавацца на кукішках перад самымі кратамі, з мальбою працягваючы нам рукі.

Прафесар Антэль далучыўся да папрашаек. Ён прыціснуўся як мага бліжэй да дырэктара і пачаў выпрошваць у яго ласунак. Такія несамавітыя паводзіны спачатку абурылі мяне, але неўзабаве маё горкае пачуццё перайшло ў вялікую занепакоенасць. Я стаяў за тры крокі ад прафесара, ён глядзеў мне ў самы твар — і не пазнаваў. Вочы яго, яшчэ нядаўна такія жывыя і праніклівыя, здаваліся цяпер патухлымі і пустымі, як у іншых палонных,— я не заўважыў у іх аніводнай іскрынкі розуму! Я ўсё больш і больш пераконваўся з жахам, што не выклікаю ў прафе-

сара ніякіх пачуццяў, апроч недаўмення: пры выглядзе чалавека ў адзежы ён паводзіў сябе гэтаксама ж, як і ўсе палонныя.

Я жудасна напружыўся і загаварыў, каб прагнаць нарэшце гэты кашмар:

— Прафесар,— сказаў я,— мэтр, гэта я, Уліс Меру. Мы ўратаваныя. Я прыйшоў, каб паведаміць вам пра гэта...

І тут я змоўк у поўнай збянтэжанасці. Пачуўшы мой голас, прафесар уцягнуў галаву ў плечы і адступіў ад кратаў — зусім як любы яго іншы сусед па клетцы!

— Прафесар, прафесар Антэль!— ледзь ужо не плакаў я ўмольна.— Гэта я, Уліс Меру, ваш спадарожнік па вандроўцы. Я вольны, і праз некалькі гадзін вас таксама вызваляць. Малпы, якіх вы бачыце цяпер — нашы сябры. Яны ведаюць, хто мы такія, і прымаюць нас як братоў.

Ні слова ў адказ. Здавалася, Антэль нічога не зразумеў. Ён толькі зноў адступіў назад, сціснуўшыся, усё роўна як спалоханая жывёліна.

Я быў у бязмерным адчаі, малпы здзіўлена пазіралі на нас. Задуменны Карнэлій хмурыўся. Мне прыйшло ў галаву, што, магчыма, прафесар сімулюе неразуменне, баючыся малпаў. Тады я папрасіў іх адысці куды-небудзь, каб пакінуць нас сам-насам, што яны і зрабілі адразу ж. Калі малпаў не стала, я абышоў клетку, каб быць бліжэй да кута, у які забіўся прафесар, і зноў загаварыў з ім:

— Мэтр,— маліў я яго,— я разумею вашую асцярожнасць. Я ведаю, што пагражае людзям Зямлі на гэтай планеце. Але цяпер мы адны, клянуся вам, і вашыя выпрабаванні мінулі. Гэта я вам кажу, я, ваш спадарожнік, ваш вучань, ваш сябра, я, Уліс Меру!

Ён зноў адскочыў назад, спалохана гледзячы на мяне. Я ўвесь дрыжаў, не ведаючы, якімі ж словамі пераканаць яго. Раптам прафесар разявіў рот.

Божа, мне нарэшце ўдалося пераканаць яго?! Я глядзеў на яго затаіўшы дыханне. Але пачуўшы яго, здранцвеў ад жаху. Так, прафесар разявіў рот, ды гэта не быў свядомы рух чалавека, які збіраецца загаварыць. З ягонага горла вырваўся гук, які выдаюць дзіўныя людзі гэтай планеты, каб выказаць сваю задаволенасць або страх.

Прафесар Антэль стаяў перада мною ў клетцы і, не варушачы вуснамі, злосна ўлюлюкаў. Сэрца маё халадзела.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## Раздзел I

Сон у мяне гэтай ноччу быў неспакойны. Я рана прачнуўся, але доўга круціўся ў ложку і праціраў вочы, пакуль не прыйшоў у сябе. Вось ужо месяц я ўсё яшчэ не мог прызвычаіцца да цывілізаванага жыцця і кожнае раніцы прачынаўся ў трывозе, бо не чуў шаргацення саломы і не адчуваў побач з сабою цёплага цела Новы.

Я займаў у інстытуце адно з найлепшых памяшканняў — малпы ва ўсім надзвычай высакародна ставіліся да мяне. Я меў пакой з асобнаю ваннаю, вопратку, кнігі, тэлевізар. Я чытаў усе газеты, быў вольны, мог выходзіць на вуліцу, гуляць у горадзе, наведваць любыя відовішчы. Маё з'яўленне ў грамадскіх месцах заўсёды выклікала ў малпаў цікаўнасць, але ажыятаж першых дзён пачаў ужо сціхаць.

Цяпер навуковым кіраўніком інстытута быў Карнэлій. Заюса звольнілі, даўшы яму, зрэшты, іншы важны пост і ўзнагародзіўшы яшчэ адным ордэнам, а на яго месца назначылі Зірынага жаніха. У выніку адбылося амаладжэнне навуковых кадраў і істотнае павелічэнне колькасці вучоных-шымпанзэ, што адразу ж узняло актыўнасць ва ўсіх сектарах. Зіра стала вучоным сакратаром новага кіраўніка.

Ну а я цяпер удзельнічаў у работах Карнэлія не як падвопытны трус, а як супрацоўнік. Праўда, Карнэлій дамогся гэтага з вялікай цяжкасцю, зламаўшы супраціўленне Вялікага Савета. Відаць, улады дагэтуль вельмі неахвотна прызнавалі маю сапраўдную сутнасць і паходжанне.

Я хутка адзеўся, выйшаў са свайго пакоя і накіраваўся да будынка інстытута, у якім сам калісь быў палонным, да сектара Зіры, якім яна ўсё яшчэ кіравала, нягледзячы на свае новыя абавязкі. Са згоды Карнэлія я вёў там сістэматычныя назіранні над людзьмі.

І вось я ў зале з клеткамі, спакойна іду па праходзе паміж імі як адзін з гаспадароў гэтае планеты. Ці ж трэба казаць, што я заходжу сюды часта, нашмат часцей, чым гэта неабходна для маіх даследаванняў? Часам акружэнне малпаў пачынае стамляць мяне, і я знаходжу тут своеасаблівы спакойны прыстанак.

Палонныя цяпер выдатна мяне ведаюць і слухаюцца. Ці адрозніваюць яны мяне ад Зіры або вартаўнікоў, якія пры-

носяць ім ежу? Мне хацелася б у гэта верыць, але я сумняваюся. Вось ужо месяц я працую з імі, але мне ўсё яшчэ не ўдаецца навучыць іх хоць нечаму больш складанаму, чым звычайныя трукі, якія можа выконваць любая добра выдрэсіраваная жывёліна. Аднак я інстынктыўна адчуваю, што яны здольныя на большае.

Я хацеў бы навучыць іх гаварыць. Гэта для мяне пытанне гонару. Вядома, пакуль што нічога не выходзіць: толькі некаторым палонным удаецца паўтарыць за мною два-тры аднаскладовыя спалучэнні — гэта ж могуць рабіць і некаторыя зямныя шымпанзэ. Гэта не надта абнадзейвае, але я не адступлюся. Што надае мне веры, дык гэта настойлівасць, з якою палонныя стараюцца цяпер злавіць мой позірк. Вочы ў іх апошнім часам сталі нейкія іншыя, і мне здаецца, я ўлоўліваю ў іх цікаўнасць, якая ідзе спакваля на змену тупому звярынаму недаўменню.

Я павольна абыходжу аддзяленне, спыняюся перад кожнаю клеткаю. Размаўляю з палоннымі — ласкава і цярпліва. Яны ўжо прывыклі патроху да гукаў мовы. Выдае на тое, што яны мяне слухаюць. Спачатку я размаўляю з імі некалькі хвілін, потым прамаўляю асобныя кароткія словы, паўтараю іх шмат разоў, спадзеючыся хоць нешта пачуць у адказ. Вось палонны з цяжкасцю вымаўляе адзін склад, але больш ад яго сёння нічога дамагчыся не ўдаецца. Ён хутка не вытрымлівае напружання і падае на салому, нібыта пасля надзвычай цяжкае працы. Я ўздыхаю і пераходжу да наступнага. Нарэшце дабіраюся да клеткі, у якой марнее самотная Нова. Ва ўсякім разе, мне, чалавеку Зямлі, здаецца, што яна павінна быць самотная, і я намагаюся адшукаць гэтае пачуццё на яе дзівосна прыгожым і невыразным твары. Зіра не падсяліла да яе другога мужчыну, і я ёй за гэта ўдзячны.

Я часта думаю пра Нову. Мне цяжка забыцца на праведзеныя з ёю гадзіны. Але ні разу яшчэ пасля свайго вызвалення я не ўваходзіў да яе ў клетку: стрымлівае пачуццё чалавечае годнасці. Хіба ж яна не жывёліна? Я бываю цяпер у вышэйшых навуковых колах, і падобная сувязь проста немагчымая. Згадваючы нашую нядаўнюю блізкасць, я чырванею. З тае пары, як я змяніў лагер, я нават забараніў сабе быць з ёй больш зычлівым, чым з астатнімі яе сародзічамі.

І ўсё ж такі я вымушаны прызнаць, што яна ўяўляе сабою першакласны экземпляр тутэйшай чалавечай пароды, і гэта радуе мяне. Я дамагаюся з ёю большых поспехаў, чым з астатнімі. Пры маім набліжэнні яна падыходзіць да

кратаў, і твар у яе скажаецца грымасаю, у нечым падобнаю на ўсмешку. Перш чым я паспяваю загаварыць, яна спрабуе вымавіць чатыры-пяць вывучаных ёю складоў. І стараецца зрабіць гэта як мага лепш. Ці азначае гэта, што яна ад прыроды больш здольная за астатніх? Або папярэдні кантакт са мною развіў яе і зрабіў падатлівай на мае ўрокі? Апошняе меркаванне падабаецца мне больш, бо лашчыць трохі маё самалюбства.

Я прамаўляю яе імя, потым сваё, указваючы пальцам то на яе, то на сябе. Яна паўтарае мой жэст. Але раптам я бачу, як твар у яе ўмомант скажаецца злосным выскалам, і ў тое ж самае імгненне чую ў сябе за спінаю ціхі смех.

Гэта Зіра незласліва жартуе з маіх намаганняў, а яе прысутнасць заўсёды раз'юшвае Нову. Разам з Зіраю прыйшоў Карнэлій. Яго дужа займаюць мае спробы, і ён часта наведвае мяне, каб пацікавіцца вынікамі. Але сёння ён з'явіўся з іншаю мэтаю. Выгляд у яго вельмі ўсхваляваны.

— Уліс, а вам не хацелася б зрабіць са мною невялікае падарожжа?

— Падарожжа?

— Гэта досыць далёка, амаль на другім канцы планеты. Археолагі знайшлі там рэшткі старажытных збудаванняў, надзвычай цікавыя, калі верыць іх справаздачам. Але раскопкамі кіруе арангутан, і спадзявацца, што ён здолее зрабіць са знаходак слушныя высновы, не прыходзіцца. Яны сутыкнуліся з загадкаю, якая мяне хвалюе: раскрыццё гэтай таямніцы можа адыграць рашучую ролю ў маіх даследаваннях. Акадэмія пасылае мяне туды ў камандзіроўку, і я мяркую, што вашая прысутнасць будзе там дужа карысная.

Пакуль што я не разумею, у чым я мог бы яму дапамагчы, але згаджаюся з радасцю, бо мне даўно ўжо хацелася ўбачыць іншыя вобласці Сароры. Карнэлій запрашае мяне да сябе ў кабінет пагутарыць сур'ёзна.

Такі паварот справы адразу ж захапляе мяне: не прыйдзецца працягваць абход. А мне трэба было наведаць яшчэ аднаго палоннага — прафесара Антэля. Ён усё яшчэ ў ранейшым стане, што робіць немагчымым яго вызваленне. Аднак па маёй просьбе Антэля змясцілі ў асобнай і досыць утульнай палаце. Наведваць яго — мой цяжкі абавязак. Ён не паддаецца ніякім угаворам і паводзіць сябе як самая сапраўдная жывёліна.

## Раздзел II

Мы адправіліся ў дарогу праз тыдзень. Зіра паляцела з намі, але праз некалькі дзён яна павінна была вярнуцца назад, каб у адсутнасць Карнэлія займацца інстытуцкімі справамі. А сам Карнэлій разлічваў затрымацца на месцы раскопак нашмат больш, калі толькі знаходкі і праўда будуць цікавыя, як ён спадзяецца.

Нам далі спецыяльны самалёт, падобны на нашы першыя рэактыўныя самалёты, але нашмат больш камфартабельны, з асобным маленькім герметычным салонам, дзе можна спакойна размаўляць. Я быў шчаслівы, што адправіўся ў падарожжа. І ўжо гэтак прызвычаіўся да малпаў, што зусім не спалохаўся, калі ўбачыў за штурвалам лайнера шымпанзэ. Значна болей мяне цікавілі пейзажы ўнізе і пекнае відовішча ўсходу Бетэльгейзе. Мы ляцелі на вышыні прыкладна дзесяці тысяч метраў. Паветра было надзіва празрыстае, і гіганцкая зорка ўзнімалася над гарызонтам, як нашае сонца, калі глядзіш на яго ў акулярах. Зіра вачэй не магла адвесці ад гэтае прыгажосці.

— А ці бываюць у вас на Зямлі такія ж цудоўныя ранкі?— пыталася яна.— Тваё сонца такое ж прыгожае, як і нашае?

Я адказаў, што Сонца не такое вялікае і чырвонае, як Бетэльгейзе, але нам яго хапае. Затое наш Месяц нашмат ярчэйшы і большы за спадарожнік Сароры.

Мы весяліліся, быццам школьнікі на вакацыях, і я жартаваў з Зіраю, як з добрай старой знаёмаю. І калі праз некалькі хвілін да нас у салон, дзе мы спачатку былі адны, прыйшоў Карнэлій, я ледзь не пакрыўдзіўся на яго за тое, што ён перашкодзіў нашай размове. Карнэлій быў заклапочаны. Зрэшты, ён увогуле прыкметна нерваваўся апошнім часам. Каб давесці да канца пачатыя ім даследаванні, ён вельмі шмат працаваў і часам прападаў у лабараторыі цэлымі днямі. Пра сваю работу ён па-ранейшаму нікому не казаў, і нават Зіра, як мне здавалася, ведала пра яе не больш за мяне. Мне ж было вядома толькі тое, што гэтыя даследаванні тычыліся паходжання малпаў і што погляды Карнэлія ўсё больш і больш разыходзіліся з традыцыйнымі тэорыямі. У тую раніцу ён упершыню пазнаёміў мяне з некаторымі сваімі меркаваннямі, і я вельмі хутка зразумеў, чаму мая сціплая асоба разумнага чалавека ўяўлялася яму такой вялікаю каштоўнасцю. Пачаў ён з таго, пра што мы ўжо спрачаліся тысячы разоў:

— Вы казалі мне, Уліс, што ў вас на Зямлі малпы — сапраўдныя жывёлы? А людзі, наадварот, дасягнулі такога ўзроўню цывілізацыі, які роўны нашаму, а ўва многім нават... Не бойцеся абразіць мяне: вучонаму ісціна даражэйшая за самалюбства.

— Але, ува многім мы вас абагналі, гэта бясспрэчна. І найлепшы таму доказ — мая прысутнасць на Сароры. Вы, здаецца, знаходзіцеся яшчэ ў гэтых адносінах на стадыі...

— Ведаю, ведаю,— стомлена перапыніў мяне Карнэлій.— Мы пра гэта ўжо гаварылі. Мы толькі пачынаем разгадваць загадкі, якія пераcталі быць для вас тайнаю некалькі стагоддзяў назад... І ў гэтай сувязі мяне трывожаць не адны вашы расказы.— Шымпанзэ ўзнервавана хадзіў узад-уперад па маленькім салоне.— Вось ужо доўгі час мне не дае спакою адна здагадка, якая пацвярджаецца некаторымі канкрэтнымі фактамі... Мне здаецца, што гэтыя тайны светабудовы ўжо былі разгаданы тут, на гэтай планеце, у далёкім мінулым іншымі разумнымі істотамі.

Я мог бы яму адказаць, што гэтае ўражанне, быццам робіш ужо кімсьці зробленае некалі адкрыццё, з'яўлялася ўва многіх вучоных Зямлі. Можа, гэтае пачуццё ўвогуле універсальнае, уласцівае жыхарам і іншых светаў, і, можа, на ім засноўваецца нашае ўяўленне пра існаванне бога. Але я не рашыўся перапыніць яго. Ён быў ва ўладзе яшчэ цьмянай думкі і гаварыў вельмі асцярожна:

— ...Іншымі разумнымі...— паўтарыў ён задуменна.— І, магчыма, гэта былі зусім не...

Раптам ён змоўк. У яго быў пакутніцкі выгляд, як у чалавека, што навобмацак набліжаецца да ісціны, якую яго розум ніяк не можа прыняць.

— Вы казалі мне таксама, што малпы ў вас валодаюць высокаразвітым імітацыйным інстынктам, ці ж не так?

— Яны пераймаюць нас літаральна ва ўсім, я хачу сказаць, ва ўсіх дзеяннях, якія не патрабуюць асэнсаванага падыходу. Гэта ў іх развіта настолькі, што параўнанне з малпаю азначае менавіта ў першую чаргу перайманне.

— Зіра,— змрочна прамармытаў Карнэлій,— ці не здаецца табе, што нам таксама ўласцівы гэты дух пераймання?

І, не даўшы ёй нават слова вымавіць у абарону сародзічаў, Карнэлій стаў усхвалявана развіваць сваю думку:

— Гэта пачынаецца з ранняга дзяцінства. Усё нашае выхаванне заснавана на пераймані.

Гэта ж арангутаны...

— Натуральна, іх роля велізарная: яны выхоўваюць моладзь сваімі кнігамі. Яны прымушаюць дзіцёнка паўтараць усе памылкі нашых продкаў. Гэтым і тлумачыцца замаруджанасць нашага прагрэсу. Вось ужо дзесяць тысяч гадоў, як мы топчамся на месцы!

Тут варта сказаць некалькі слоў пра запаволенае развіццё малпаў. Мяне гэта дужа ўразіла, калі я вывучыў іх гісторыю, і ў гэтым я ўбачыў галоўнае адрозненне нашых цывілізацый. Вядома, і ў нас былі перыяды амаль што поўнага застою. У нас таксама былі свае арангутаны, якія складалі ідыёцкія праграмы, было хлуслівае выхаванне — досыць доўга.

Аднак не так доўга, як у малпаў, а галоўнае, на іншай ступені эвалюцыі. Цёмны перыяд застою, на які скардзіўся шымпанзэ, зацягнуўся тут прыблізна на дзесяць тысячагоддзяў. За гэты час ні ў адной навуцы не быў дасягнуты прагрэс, за вылікам хіба што апошняга паўстагоддзя. Але самае цікавае ва ўсім гэтым было тое, што іх першыя легенды, першыя летапісы, першыя ўспаміны расказваюць пра высокаразвітую цывілізацыю, якая, па сутнасці, небагата чым адрозніваецца ад сучаснай. Дакументы дзесяцітысячагадовай даўнасці сведчаць, што агульная сума ведаў і дасягненні тых часоў — амаль тыя ж самыя, што і сённяшнія. А пра тое, што было яшчэ даўней, не захавалася ніякіх паданняў, нават ніводнага намёку. Словам, ствараецца ўражанне, нібыта малпавая цывілізацыя нейкім дзівосным чынам узнікла ўмомант дзесяць тысяч гадоў назад і з тае пары нібыта законсервавалася, амаль не змяняючыся. Сярэдняя малпа прызвычаілася лічыць гэта нармальным і ні над чым не задумвалася, але дапытлівыя вучоныя, такія, як Карнэлій, пакутліва спрабавалі разгадаць гэтую таямніцу.

— Ёсць жа малпы, здольныя да стваральнай працы,— запярэчыла Зіра.

— Вядома,— згадзіўся Карнэлій,— яны з'явіліся, асабліва ў апошнія гады. З часам думка можа ператварыцца ў дзеянне. Так і павінна быць: натуральны ход эвалюцыі... Але тое, чаго хачу я, Зіра, тое, чаго апантана дамагаюся,— гэта даведацца, як усё пачалося... Сёння мне ўжо не здаецца неверагоднай думка, што ў аснове ўсёй нашай цывілізацыі закладзена простае перайманне.

— Перайманне чаго? Ці каго?

Тут Карнэлій апусціў вочы, быццам шкадаваў, што сказаў залішне шмат.

— Я яшчэ не зрабіў канчатковых высноў,— вымавіў ён нарэшце.— Мне патрэбныя доказы. Можа, мы знойдзем іх у рэштках пахаванага горада. Згодна са справаздачамі ён існаваў не дзесяць тысяч гадоў назад, а шмат-шмат раней, у эпоху, пра якую мы анічога не ведаем.

## Раздзел III

Карнэлій змоўк — здавалася, яму было цяжка гаварыць на гэтую тэму, але і тое нямногае, што я паспеў зразумець з яго разважанняў, усхвалявала мяне надзвычайна.

Археолагі адкрылі ў пустэльні цэлы горад, пахаваны пад пяском. На жаль, ад горада засталіся адны развалiны, але гэтыя рэшткі — я адчуваў — захоўвалі вялікую тайну, і я пакляўся разгадаць яе.

У гэтым не было нічога немагчымага для таго, хто ўмее назіраць і думаць, але арангутан, які кіраваў раскопкамі, на гэта быў няздольны. Ён прыняў Карнэлія з пачцівасцю, адпаведнай высокаму рангу акадэміка-шымпанзэ, але з ледзь прыхаванай пагардаю да яго маладосці і незвычайных ідэй, якія той іншы раз выказваў.

Трэба мець цярпенне мніха, каб весці раскопкі, гразнучы на кожным кроку ў пяску, сярод камення, якое рассыпалася ўшчэнт ад аднаго толькі дотыку. Але мы займаемся гэтым вось ужо месяц. Зіра даўно ўжо пакінула нас, а Карнэлій усё затрымліваецца на гэтых раскопках. Ён такі ж усхваляваны, як і я, і ўпэўнены, што сярод гэтых рэштак даўняй мінуўшчыны знаходзіцца рашэнне вялікіх загадак, якія не даюць яму спакою.

Мяне не перастае здзіўляць дыяпазон яго ведаў. Спярша ён захацеў сам выявіць узрост горада. У такіх выпадках малпы карыстаюцца метадамі, падобнымі на нашыя, параўноўваючы геалагічныя дадзеныя з вынікамі хімічных і структурных аналізаў. Зрабіўшы гэта, Карнэлій згадзіўся з артадоксамі: горад вельмі, вельмі старажытны. Яму шмат больш, чым дзесяць тысяч гадоў, інакш кажучы, гэта унікальны помнік — важкі доказ таго, што сучасная малпавая цывілізацыя не ўзнікла з нічога, якімсьці звышнатуральным чынам.

Штосьці ўжо існавала на Сароры да цяперашняй гістарычнай эпохі. Але што? Прайшоў месяц ліхаманкавых пошукаў, які прынёс нам адно расчараванне. Выдавала на

тое, што нават гэты дагістарычны горад мала чым адрозніваўся ад гарадоў сённяшніх. Мы знайшлі рэшткі дамоў, прамысловых збудаванняў, якія сведчылі пра тое, што ў старажытных жыхароў горада таксама былі аўтамашыны і самалёты. Значыцца, разумнае жыццё зарадзілася раней, чым дзесяць тысяч гадоў назад. Але гэта зусім не тое, чаго чакае Карнэлій — я ведаю,— гэта не тое, на што спадзяюся я.

У тую раніцу Карнэлій выправіўся на раскопкі раней за мяне. Рабочыя адкапалі будынак з асабліва тоўстымі жалезабетоннымі сценамі, які, здаецца, захаваўся лепш за астатнія. Праўда, і ён забіты смеццем і пяском, і археолагі літаральна прасейвалі гэтае смецце скрозь сіта. Учора яны не знайшлі нічога асаблівага: як і ў астатніх дамах, зрэдку траплялiся абломкі труб, хатніх рэчаў, разбіты посуд. Сеўшы ля палаткі, у якой мы размясціліся разам з Карнэліем, я назіраў са свайго месца, як арангутан даваў указанні кіраўніку групы, маладому шымпанзэ с насмешлівым позіркам. Карнэлія не відаць: ён у раскопе разам з рабочымі. Ён сам часта бярэцца за іх справу, баючыся, што рабочыя могуць прапусціць або не ўберагчы каштоўную знаходку.

Нарэшце ён выбіраецца з траншэі, і я адразу ж разумею, што Карнэлій зрабіў нейкае фенаменальнае адкрыццё! У руках у яго якісьці невялічкі прадмет, мне яго з такой адлегласці не відаць. Без залішніх цырымоній адштурхнуўшы старога арангутана, які спрабаваў завалодаць знаходкаю, Карнэлій з вялікай асцярожнасцю апускае яе на пясок. Ён глядзіць у мой бок і энергічна махае рукамі. Падышоўшы, я бачу на твары ў яго неверагоднае хваляванне.

— Уліс, Уліс!— ледзь выціскае ён з сябе.

У такім стане я яго яшчэ ніколі не бачыў. Рабочыя, якія выбраліся за ім з траншэі, збіраюцца вакол знаходкі, і я ўсё яшчэ не магу яе разгледзець. Яны паказваюць на яе пальцамі — відаць, яна ўсяго толькі забаўляе іх. Некаторыя рагочуць. Амаль усе яны — здаравенныя гарылы. Карнэлій загадвае ім адысці.

— Уліс!

— Што там?

Цяпер я таксама бачу нарэшце на пяску знаходку і чую здушаны голас Карнэлія:

— Лялька, Уліс, лялька!

Але, гэта лялька, звычайная фарфоравая лялька. Яна проста цудам гэтак захавалася: відаць нават рэшткі валасоў і лускавінкі каляровай палівы на вачах. Спачатку я ні-

як не магу зразумець хвалявання Карнэлія: ну што тут такога?.. І толькі праз некалькі секунд да мяне даходзіць... Я зразумеў! І адразу ж неверагоднасць таго, што здарылася, працінае мяне і пераварочвае душу. Гэта ж чалавечая лялька — дзяўчынка! Але я не магу паверыць у гэтую хімеру. Перш чым дакляраваць цуд, трэба праверыць усе магчымыя трывіяльныя варыянты. А такі вучоны, як Карнэлій, павінен гэта зрабіць.

У малпінай дзятвы таксама ёсць цацкі, і сярод іх хоць і нячаста, але трапляюцца ўсё-такі фігуркі жывёлін і нават людзей. Значыцца, лялька-дзяўчынка сама па сабе не магла так усхваляваць яго. Але па-першае, у малпаў такіх фігурак не робяць з фарфору, а па-другое, яны ніколі не бываюць адзетыя, ва ўсякім разе, адзетыя, як разумныя істоты. А гэтая лялька, зразумеў нарэшце і я, была адзетая ў такія ж самыя строі, як лялькі ў нас на Зямлі: на целе ў яе захаваліся рэшткі сукеначкі, гарсэціка, ніжняй спаднічкі і штонікаў. Лялька была адзетая з густам, з якім магла ўпрыгожыць дзяўчынка сваю любімую ляльку, з любоўю, з якой магла адзець ляльку-малпачку маленькая малпа, але ніколі, ніколі ні тая і ні другая не сталі б гэтак рупліва адзяваць у паменшаныя копіі сваіх strояў жывёліну! Цяпер я ўсё лепш і лепш разумеў хваляванне майго сябра-шымпанзэ.

Але гэта не ўсё. Знойдзеная лялька мае яшчэ адну вельмі дзіўную асаблівасць, якая развесяліла рабочых-гарыл і нават прымусіла ўсміхнуцца фанабэрыстага арангутана, галоўнага кіраўніка раскопак. Лялька гаворыць. Яна гаворыць як зямны чалавек. Апускаючы яе на пясок, Карнэлій выпадкова націснуў на кнопку ацалелага механізма, і лялька загаварыла. Вядома, сказала яна няшмат. Усяго толькі адно слова з двух аднолькавых складоў: «Та-та»!

«Та-та»,— зноў лапоча фарфоравая дзяўчынка, калі Карнэлій падымае яе і разглядвае з усіх бакоў, абмацваючы чуллівымі пальцамі. Гэтае слова гучыць амаль аднолькава па-французску, на мове сарорскіх малпаў, дый, напэўна, на іншых мовах усіх таямнічых сусветаў і паўсюды мае адно значэнне.

«Та-та»,— паўтарае лялька — маленькі чалавечак, і, відаць, таму морду майго вучонага сябра залівае румянец, менавіта гэта пераварочвае мне ўсю душу, і я з вялікай цяжкасцю стрымліваюся, каб не закрычаць, пакуль Карнэлій адводзіць мяне ўбок, несучы з сабою каштоўную знаходку.

— Ёлупень!— мармыча ён праз нейкі час.

Я ведаю, каго ён мае на ўвазе, і разумею яго абурэнне. Стары арангутан убачыў у гэтай лялькцы звычайную цацку дзіцёнка-малпы, якую дзівак-майстар з далёкай мінуўшчыны надзяліў здольнасцю прамаўляць гэтае слова. Няма ніякага сэнсу тлумачыць яму што-небудзь. Карнэлій і не спрабуе гэтага рабіць. Адзінае лагічнае тлумачэнне, якое прыходзіць у галаву, здаецца яму самому настолькі экстраардынарным, што ён выбірае маўчанне. Нават мне Карнэлій не кажа ні слова. Але ён ведае, што я ўсё зразумеў.

Да канца дня Карнэлій будзе хадзіць задуменны і не загаворыць ні з кім. Мне здаецца, яму страшна працягваць гэтыя даследаванні і ён шкадуе, што, як ні мала, але ўсё ж такі адкрыўся мне. Узбуджэнне ў яго прайшло, і цяпер яму цяжка бачыць мяне сведкам такой знаходкі.

На другі ж дзень мае падазрэнні пацвярджаюцца: Карнэлій шкадуе, што прывёз мяне сюды. Усю ноч ён думаў, а ўранку, пазбягаючы майго позірку, заявіў, што вырашыў адправіць мяне назад у інстытут, дзе мяне чакае больш важная праца. Месца на самалёт мне ўжо заказана. Я вылятаю праз дваццаць чатыры гадзіны.

## Раздзел IV

Дапусцім, разважаў я, што некалі людзі былі паўнаўладныя гаспадары гэтай планеты. Уявім, што больш за дзесяць тысяч гадоў назад на Сароры квітнела чалавечая цывілізацыя, падобная да нашай...

Але цяпер гэта ўжо не проста неабгрунтаваная гіпотэза, у яе прыхільнікаў ёсць доказы. Ледзь сфармуляваўшы сваю думку, я адразу ж адчуў тое асаблівае ўзбуджэнне, якое ахапляе цябе, калі ты знаходзіш у лабірынце заблытаных сцежак адзіную правільную. Упэўнены, менавіта гэты шлях і прывядзе да раскрыцця тайны малпавай эвалюцыі. Недарма ж я заўсёды шукаў падсвядома адказ прыкладна ў гэтым напрамку.

Я вяртаюся самалётам у сталіцу разам з сакратаром Карнэлія, маўклівым шымпанзэ. Але мне і не хочацца гаварыць з ім. У самалёце заўсёды добра падумаць. Дый наўрад ці мне яшчэ выпадзе лепшая магчымасць разабрацца ў сваіх думках.

...Значыцца, дапусцім, што ў векапомныя часы на Сароры існавала цывілізацыя, падобная да нашай. Ці можа так стацца, каб істоты, пазбаўленыя розуму, прадоўжылі

яе шляхам пераймання? Уявіць сабе гэта нялёгка, але чым больш я разважаю, тым больш знаходжу аргументаў, якія робяць дадзеную гіпотэзу не такой ужо і фантастычнай. Думка пра тое, што нас калі-небудзь заступяць удасканаленыя робаты, была на Зямлі, наколькі я памятаю, досыць шырока распаўсюджаная. З ёю згаджаліся не толькі паэты і раманісты, але і прадстаўнікі ўсіх слаёў грамадства. І, можа, менавіта таму, што гэтая ідэя так пашырылася ў масах, яна раздражняла інтэлектуальную эліту. А можа, і таму, што ў ёй была доля горкае праўды. Толькі доля, бо машына заўсёды застанецца машынаю, а самы ўдасканалены робат — робатам. Але што сказаць пра істот, надзеленых, як малпы, хаця б зачаткамі розуму? Істот, што валодаюць, як малпы, высокаразвітым пераймальным інстынктам?..

Я заплюшчваю вочы. Гул матораў закалыхвае мяне. Але мне трэба прааналізаваць усё гэта, каб вызначыць сваю пазіцыю.

Што з'яўляецца распазнавальнай прыкметаю цывілізацыі? Нейкі асабісты дух? Наўрад ці. Хутчэй за ўсё — будзённае жыццё... Ну, добра, прызнаем неабходнасць духоўнасці. Напэўна, яна выявіцца ў мастацтве, у першую чаргу ў літаратуры. Ці ж сапраўды апошняя з'яўляецца сфераю, недаступнаю нашым буйным чалавекападобным малпам, калі, вядома, дапусціць, што яны навучыліся складваць словы? А з чаго складаецца наша літаратура? З шэдэўраў? Каб жа толькі з іх! Калі за адно-два стагоддзі і з'яўляецца арыгінальная кніга, астатнія пісьменнікі так ці інакш яе пераймаюць, інакш кажучы, перапісваюць, і такім чынам у свет выходзяць сотні тысяч новых кніг, з больш-менш рознымі назвамі, але аднаго зместу, данесенага з дапамогаю адносна змененых камбінацый фраз. Відаць, малпы, пераймальнікі па сваёй прыродзе, маглі б ствараць такую літаратуру пры той, вядома, умове, што навучыліся б гаварыць.

Значыцца, адзіным сур'ёзным контраргументам гэтай гіпотэзе з'яўляецца мова. Але будзем асцярожныя! Малпам няма ніякай патрэбы разумець, што менавіта яны перапісваюць, каб скласці на аснове адной кнігі сто тысяч новых тамоў. Гэта ім трэба не больш, чым нам. Як і нам, ім хопіць тут простага паўтору раней пачутых фраз. Увесь астатні літаратурны працэс чыста механічны. І тут думка асобных фізіёлагаў набывае велізарнае значэнне: яны сцвярджаюць, што ніякія анатамічныя асаблівасці не перашкаджаюць малпам загаварыць — было б жаданне!

І можна ўявіць, што аднойчы такое жаданне ў іх узнікла, хаця б у выніку раптоўнай мутацыі.

Значыцца, удзел малпаў, здольных гаварыць, у прадаўжэнні літаратуры, падобнай на нашую, справа зусім магчымая. Уявім сабе, што праз нейкі час некалькі малпаў-літаратараў істотна паразумнелі. Як кажа мой вучоны сябра Карнэлій, думка ўвасабляецца ў дзеянні,— у дадзеным выпадку ў механізме мовы,— і такім чынам, у новым, малпавым свеце маглі з'явіцца арыгінальныя ідэі, хаця б па адной у стагоддзе, як у нас на Зямлі.

Дзёрзка развіваючы гэтую гіпотэзу, я хутка прыйшоў да пераканання, што добра выдрэсіраваныя жывёліны маглі б падобным чынам стварыць карціны і скульптуры, якімі я любаваўся ў музеях Сароры, дый увогуле зрабіцца спецыялістамі ў любой сферы чалавечага мастацтва, у тым ліку і ў нашым кіно.

Разгледзеўшы спачатку вышэйшыя формы дзейнасці розуму, я без цяжкасці праверыў слушнасць сваёй тэорыі ў дачыненні да іншых сфер.

Нашая прамысловасць нядоўга супраціўлялася майму аналізу. Мне было абсалютна ясна, што, каб падтрымліваць яе жыццё на адным і тым самым дасягнутым узроўні, зусім неабавязкова выяўляць асабістую ініцыятыву. У яе аснове ляжыць праца рабочых, якія паўтараюць адны і тыя ж рухі, кіраўнікі ж складаюць адны і тыя ж справаздачы і прамаўляюць у аднолькавых абставінах аднолькавыя словы. І тых, і другіх малпы маглі б замяніць, не пашкодзіўшы справе — дастаткова выпрацаваць патрэбныя ўмоўныя рэфлексы.

Што ж да вышэйшых сфер адміністрацыі, дык там перайманне, як мне здаецца, займае яшчэ большае месца. Каб кіраваць нашай сістэмаю, гарылам трэба было хіба што засвоіць некалькі поз і прамоў, скапіраваўшы іх з аднаго ўзору.

Так я пачаў глядзець новымі вачыма на самыя разнастайныя сферы чалавечай дзейнасці, уяўляючы ў іх замест людзей малпаў. Я з пэўным задавальненнем аддаваўся гульні фантазіі. Уявіў сабе ўсе шматлікія палітычныя сходкі, на якіх прысутнічаў як журналіст. Згадаў штампаваныя адказы тых, у каго давялося браць інтэрв'ю. Асабліва ярка запомніўся славуты ў свой час судовы працэс, апісаны мною за некалькі гадоў да адлёту.

Адвакат быў адзін з прызнаных зуброў юрыспрудэнцыі. Але чаму ж ён бачыўся мне цяпер ганарлівай гарылаю, зрэшты, як і не менш знакаміты пракурор? Чаму пасля-

доўнасць іх прамоў і жэстаў асацыіравалася ў мяне з умоўнымі рэфлексамі, якія выпрацаваліся ў выніку добрай дрэсіроўкі? Чаму старшыня суда зліваўся ў маім усведамленні з важным арангутанам, які механічна прамаўляў завучаныя на памяць фразы, рэфлекторна рэагуючы на тыя ці іншыя словы сведкаў або гоман публікі?..

Да самага канца нашага падарожжа я не мог пазбавіцца ад такіх супастаўленняў. Калі я падумаў пра нашую фінансавую і дзелавую алігархію, у памяці паўстала суцэльна малпавае відовішча, убачанае нядаўна на Сароры: біржа, куды зацягнуў мяне адзін сябар Карнэлія,— яна лічылася знакамітай выдатнасцю сталіцы...

Біржа размяшчалася ў велізарным будынку. Далёка ад яго чуўся густы і няясны гул, які, пакуль мы набліжаліся, ператвараўся спакваля ў аглушальную какафонію. Мы ўвайшлі і адразу ж апынуліся ў цэнтры нейкай неверагоднай калатнечы. Я схаваўся за калону. Я ўжо даўно прывык да асобных малпаў, але ў іх натоўпах усё яшчэ бянтэжыўся. А тут быў такі натоўп, што ў параўнанні з ім нават кангрэс малпаў-фізіёлагаў здаўся мне маленькай сходкаю.

Уявіце сабе каласальных памераў залу, бітком набітую малпамі, якія гарлапанілі, жэстыкулявалі, мітусіліся, кідаліся ў нейкай істэрыі ў розныя бакі, сутыкаліся і разбягаліся не толькі на падлозе, але і на самай столі, на такой вышыні, што ў мяне ажно кружылася галава. Бо паўсюды тут былі зладжаны лесвіцы, трапецыі, канаты, каб малпы маглі перамяшчацца, калі хацелі, у любым кірунку. Такім чынам малпы запаўнялі ўвесь аб'ём залы, якая была падобная на гіганцкую клетку для паказу чацвёрарукіх у нейкім фантасмагарычным цырку.

Малпы літаральна лёталі, заўсёды паспяваючы за штонебудзь зачапіцца ў той самы момант, калі падзенне здавалася непазбежным — і ўсё гэта пасярод пякельнага гвалту воклічаў, пытанняў, адказаў, крыкаў і, нарэшце, проста дзікіх енкаў і стогнаў, якія не мелі нічога агульнага з цывілізаванай моваю. Там былі, напрыклад, малпы, якія брахалі, так, брахалі без усялякай на тое прычыны, пералётваючы на канцы каната з аднаго кута залы ў другі.

— Вы калі-небудзь бачылі штосьці падобнае?— з гонарам спытаўся ў мяне сябар Карнэлія.

Я ахвотна прызнаўся, што не. Але мне прыйшлося доўга ўспамінаць усё добрае, што я дагэтуль зведаў пра малпаў, каб па-ранейшаму ставіцца да іх, як да разумных істот. Любое стварэнне, здольнае мысліць, трапіўшы ў гэты цырк, непазбежна прыйшло б да высновы, што прысутнічае

на шабасы вар'ятаў або шалёных звяроў. У гэтым рої нельга было вылучыць хоць адну непадобную на астатніх малпу, ні ў кім не было і найменшай іскрынкі думкі. Усе былі аднолькава адзетыя, і на ўсіх мордах застыла адна і тая ж вар'яцкая маска.

Згадваючы гэта, я з горыччу адчуваў, як па ўжо выпрацаванай адваротнай сувязі, дзякуючы якой удзельнікі зямных падзей набывалі ў маім усведамленні знешнасць гарылці арангутанаў, цяпер гэты звар'яцелы натоўп малпаў паўставаў перада мною ў чалавечым абліччы. Гэта людзі рыкалі, гаўкалі і хапаліся за канцы вяровак, каб, разгойдаўшыся, найхутчэй дасягнуць другога канца залы. Усё новыя і новыя падрабязнасці гэтае сцэны мільгацелі ў маёй разгарачанай памяці. Згадваю, як пасля доўгіх назіранняў мне ўдалося выявіць некаторыя дэталі, якія падказвалі, што ўся гэтая дзікая мітусня мае ўсё ж дачыненне да разумнай дзейнасці. Сярод звярынага рыку праслізгвала іншы раз зразумелае слова. Самец-гарыла на высачэзным памосце раз-пораз, не перапыняючы істэрычнай жэстыкуляцыі, хапаў нагою кавалак крэйды і пісаў на дошцы лічбу, якая мела, напэўна, нейкае значэнне. Ён таксама згадваўся мне цяпер у чалавечым абліччы.

Мне ўдалося пазбавіцца ад гэтага навязлівага ўспаміну, адно вярнуўшыся да сваёй тэорыі паходжання малпавай цывілізацыі. Відавочнае падабенства фінансістаў Зямлі і Сароры толькі пацвярджала мае меркаванні.

Самалёт пайшоў на пасадку. Я зноў быў у сталіцы. Зіра прыйшла ў аэрапорт сустрэць мяне. Яшчэ здалёк я заўважыў яе студэнцкі, ссунуты на вуха каўпачок і шчыра ўзрадаваўся. І калі пасля ўсякіх таможных фармальнасцей яна апынулася перада мною, я ледзьве стрымаўся, каб не абняць яе.

## Раздзел V

Амаль цэлы месяц пасля вяртання я праваляўся ў ложку, заразіўшыся, напэўна, нечым на раскопках. Хвароба мая выяўлялася ў раптоўных скачках тэмпературы і была падобная на малярыю. Я не адчуваў фізічнага болю, але розум мой быў нібыта ў агні: я бясконца перабіраў у памяці ўсе факты, якія прывялі мяне да разгадкі страшнае тайны. Не заставалася ніякіх сумненняў, што задоўга да малпінай эры на Сароры існавала чалавечая цывілізацыя, і гэтая думка ап'яняла мяне і палохала.

Аднак, колькі я ні разважаў, так і не паставіўся адназначна да гэтага адкрыцця, адчуваючы і гонар, і найглыбейшае прыніжэнне. Гонар — бо малпы ўсё-такі нічога не вынайшлі і апынуліся ўрэшце звычайнымі імітатарамі. Прыніжэнне — бо яны здолелі гэтак лёгка засвоіць чалавечую культуру.

Як жа гэта магло здарыцца? У трызненні я няспынна задаваў сабе гэтае пытанне. Натуральна, усе цывілізацыі, і нашая таксама, ведаем мы даўно, рана ці позна адміраюць, і ўсё ж такое бясследнае знікненне чалавечай цывілізацыі на Сароры прыгнятае розум. Што было прычынаю гэтага знікнення? Раптоўная гібель? Катаклізм? Або павольная дэградацыя людзей і паступовае развіццё малпаў? Я схіляюся да апошняй гіпотэзы і знаходжу надзвычай характэрныя прыкметы такой эвалюцыі ў сучасным жыцці і занятках малпаў.

Узяць хоць бы тое велізарнае значэнне, якое яны надаюць фізіялагічным даследаванням. Дык вось, цяпер я пачынаю разумець, чаму яны гэта робяць! У глыбокай старажытнасці многія малпы служылі чалавеку аб'ектамі доследаў у розных лабараторыях, як і ў нас. І менавіта гэтыя малпы ўзялі ў свае рукі паходню і павялі наперад астатніх, менавіта яны сталі застрэльшчыкамі рэвалюцыі. І яны, натуральна, пачалі з пераймання сваіх гаспадароў, іх жэстаў і ўчынкаў. А былі іхнімі гаспадарамі біёлагі, фізіёлагі, медыкі, санітары, вартаўнікі. Адсюль і такая незвычайная схільнасць да фізіялагічных даследаванняў, якая захавалася да сённяшніх дзён.

А які ж тады быў лёс у людзей?

Хопіць думаць пра малпаў! Вось ужо два месяцы, як я не бачыў маіх былых таварышаў па зняволенні, маіх чалавечых братоў. Сёння я адчуваю сябе лепш. Мяне больш не калоціць ад ліхаманкі. Учора я ўжо сказаў Зіры — яна даглядала мяне ў час хваробы, як родная сястра,— сказаў ёй, што хацеў бы распачаць сваю працу ў аддзяленні. Мне здалося, гэта не надта яе ўзрадавала, але пярэчыць яна не стала.

Час наведаць маіх падапечных.

І вось я зноў у зале з клеткамі. Дзіўнае хваляванне агортвае мяне яшчэ ля дзвярэй. Я бачу цяпер гэтых людзей зусім іншымі вачыма. Перш чым увайсці да іх, я з тугою пытаюся ў сябе: а ці ж пазнáюць яны мяне праз два месяцы? І яны пазналі! Усе позіркі звярнуліся да мяне, як

і раней і нават... з нейкай пачцівасцю, ці што? Мне здаецца, яны глядзяць на мяне па-новаму, зусім не так, як на сваіх вартаўнікоў. Не, напэўна, гэта мне хочацца, каб яны глядзелі так на мяне. І ўсё ж такі я ўжо бачу ў іх вачах іскрынкі цікаўнасці, незвычайнае хваляванне, цені старажытных успамінаў, якія імкнуцца пераадолець жывёльную тупасць, бачу, можа, нават... цьмяны бляск надзеі.

Думаю, апошнім часам я сам абуджаю ў іх міжволі надзею. Гэта прыводзіць мяне ў стан усхваляванай захопленасці. Няўжо мне, менавіта мне, Улісу Меру, закінутаму лёсам на гэтую планету, наканавана стаць тут пачынальнікам адраджэння чалавечага роду?

Вось нарэшце я і зразумеў, што за цьмяная думка мучыла мяне апошні месяц. Пан бог не гуляе ў косці, як казаў калісь адзін фізік. У жыцці не бывае нічога выпадковага. Маё падарожжа на Бетэльгейзе было наканавана мне вышэйшым розумам. І цяпер я павінен спраўдзіць аказаны мне давер і стаць новым Збавіцелем гэтага заняпалага чалавецтва.

Як і раней, я павольна абыходжу ўсю залу. Утрымліваюся, каб не кінуцца бегчы да клеткі, дзе сядзіць Нова. Хіба ж мае права пасланнік лёсу вызначаць абраннікаў? Я звяртаюся да кожнага падапечнага... Няхай не сёння, але яны загавораць, гэтая вера суцяшае мяне. Усё жыццё я аддам гэтай вялікай місіі.

З наўмыснай абыякавасцю крок за крокам набліжаюся да маёй былой клеткі, скоса пазіраючы на яе. Але я не бачу працягнутых мне з-за кратаў рук Новы, не чую яе радасных крыкаў, якімі яна пачала вітаць мяне апошнім часам. Мною авалодвае цяжкае прадчуванне. Я больш ужо не магу стрымліваць сябе, кідаюся наперад...

Клетка пустая...

Уладным тонам, ад якога ўздрыгваюць усе палонныя, я клічу вартаўнікоў. Прыбягае Занам. Яму не надта даспадобы быць маім падначаленым, але Зіра строга загадала выконваць усе мае ўказанні.

— Дзе Нова?— пытаюся я.

Ён змрочна адказвае, што не ведае. Аднойчы яе павялі адсюль, нічога яму не растлумачыўшы. Я настойваю — марна. На шчасце, нарэшце ўваходзіць Зіра. Яна робіць чарговы абход. Заўважыўшы мяне перад пустой клеткаю, яна адразу ж здагадваецца, што так расхвалявала мяне. Але нешта замінае ёй пачаць гаворку з Новы, і яна паведамляе мне:

— Толькі што вярнуўся Карнэлій. Ён хацеў бы бачыць цябе.

У гэты момант мне напляваць на Карнэлія, на ўсіх шымпанзэ, гарыл і іншых пачвар, якія толькі могуць быць на зямлі і ў небе. Я паказваю пальцам на клетку і пытаюся:

— Дзе Нова?

— Яна нездаровая,— адказвае Зіра.— Яе перавялі ў спецыяльнае аддзяленне.

Яна робіць мне знак і вядзе за сабою, далей ад вартаўніка.

— Дырэкцыя ўзяла з мяне слова, што я захаваю гэта ў тайне,— кажа Зіра.— Але я думаю, што ты павінен гэта ведаць.

— Яна хворая?

— Нічога страшнага. Але сама па сабе гэтая падзея досыць значная, каб занепакоіць нашыя ўлады. Нова загрубела.

— Яна... што?

— Я ж сказала: зацяжарала.

Зіра з цікавасцю назірае за мною.

## Раздзел VI

Ад такой навіны я ажно здранцвеў. Я яшчэ быў няздольны ўсвядоміць, да чаго можа прывесці гэтая падзея. Спачатку мяне захліснула хваля розных не дужа рацыянальных пачуццяў, а больш за ўсё ўстрывожыла пытанне: чаму мне дагэтуль нічога не паведамілі? Але Зіра і слова не дала мне сказаць.

— Я сама заўважыла гэта ўсяго два месяцы назад, калі вярнулася з падарожжа. Гарылы нічога не зразумелі. Я патэлефанавала Карнэлію, а ён у сваю чаргу меў доўгую размову з дырэктарам. Яны сышліся на тым, што лепей захаваць усё ў тайне. У курсе справы толькі я ды яны двое. Нову памясцілі ў ізаляваную клетку, і я сама яе даглядаю.

Я ўспрыняў скрытнасць Карнэлія як здраду і адчуў, што Зіры таксама няёмка. Мне здалося, што за маёй спіною пачынаюць рабіць нешта нядобрае.

— Не хвалюйся,— паспрабавала супакоіць мяне Зіра,— яе добра даглядаюць, яна ўсё мае — я за гэтым сачу. Яшчэ ніхто ніколі так не аберагаў цяжарную самку чалавека.

Пад яе насмешлівым позіркам я апусціў вочы, усё роўна як вінаваты шкаляр. Зіра старалася захаваць іранічны тон, але я адчуваў, што яна ўсхваляваная. Вядома, я ведаў, што мая фізічная блізкасць з Новаю стала непрыемная Зіры з таго самага моманту, калі яна зразумела, што я разумная істота, але цяпер убачыў у яе позірку не грэблівасць, а нешта іншае. Ну вядома, яна была занепакоеная! Таямнічасць, з якою гаварыла цяпер Зіра пра Нову, наўрад ці была добраю прыкметаю. Я здагадваўся, што Зіра не сказала мне ўсёй праўды: напэўна, Вялікі Савет таксама быў у курсе справы, і з гэтай нагоды ўжо не раз склікаліся нарады на самым высокім узроўні.

— Калі Нова павінна раджаць?— спытаўся я.

— Праз тры-чатыры месяцы.

І тут я раптам уцяміў нарэшце ўсю трагікамічнасць майго становішча: я стану бацькам у сістэме Бетэльгейзе! У мяне будзе дзіця на планеце Сарора, народжанае жанчынаю, да якой я адчуваю неадольнае фізічнае імкненне, іншы раз жаль, але ў жанчыны гэтай — мазгі жывёліны. Напэўна, ніводная разумная істота ва ўсім сусвеце яшчэ не зведвала такога! Мне хацелася аднachасова і плакаць і смяяцца.

— Зіра, я хачу яе бачыць!

Яна адказала мне прыкрай грымаскаю.

— Я ведала, што ты гэтага захочаш. Я ўжо гаварыла з Карнэліем, і, думаю, ён не будзе пярэчыць. Ён чакае цябе ў сваім кабінеце.

— Карнэлій — здраднік!

— Ты не маеш права гаварыць так. Ён разрываецца паміж любоўю да навукі і сваім малпавым абавязкам. Натуральна, што цяжарнасць Новы вельмі яго палохае...

Пакуль я ішоў услед за Зіраю па калідорах інстытута, трывога мая ўсё ўзрастала. Я здагадваўся, пра што думалі вучоныя-малпы: яны баяліся, што можа ўзнікнуць новая раса, якая... Чорт!.. І тут да мяне дайшло, якім чынам я змагу здзейсніць ускладзеную на мяне лёсам місію!

Карнэлій сустрэў мяне досыць цёпла, але ў нашых адносінах ужо з'явілася напружанасць. Раз-пораз ён употайкі пазіраў на мяне ці не з жахам. Я стрымаў сябе, каб не прыступіць адразу да тэмы, якая хвалявала мяне больш за ўсё. Спачатку спытаўся, як ён даляцеў і як скончыліся раскопкі.

— Вынікі фенаменальныя!— загарэліся ў яго вочы.— У мяне ў руках неабвержныя доказы!

Карнэлій не мог не пахваліцца сваім поспехам. Зіра сказала праўду: Карнэлій і праўда разрываўся паміж любоўю да навукі і малпавым абавязкам. Але цяпер са мною гаварыў вучоны, апантаны даследчык, які вышэй за ўсё цаніў перамогу сваёй гіпотэзы.

— Мы знайшлі шкілеты,— расказваў ён.— Не адзін шкілет, а мноства, і размешчаны яны такім чынам, што гэта, несумненна, могілкі. Ёсць чым пераканаць самых тупагаловых. Але нашы арангутаны, вядома, бачаць у гэтым толькі дзіўнае спалучэнне акалічнасцей.

— І што гэта за шкілеты?

— Шкілеты не малпаў.

— Зразумела.

Мы пaглядзелі адзін аднаму ў вочы. Энтузіязм Карнэлія адразу апаў, і ён гаварыў ужо больш павольна:

— Не буду ўтойваць: вы ўгадалі — гэта чалавечыя шкілеты...

Зіра, пэўна, ужо была ў курсе справы, бо не здзівілася ані кроплі. Мы зноў сустрэліся з Карнэліем позіркамі. Я чакаў. Нарэшце ён рашыўся.

— Цяпер я ўпэўнены,— сказаў Карнэлій,— што некалі на нашай планеце існавала чалавечая раса, надзеленая здольнасцю мысліць, раса людзей, падобных вам і іншым людзям Зямлі. Пасля яна дэградавала, і нашыя людзі ператварыліся ў жывёлін... Да таго ж, вярнуўшыся, я знайшоў тут новыя доказы сваёй гіпотэзы.

— Новыя?

— Але. Іх адкрыў загадчык энцэфалічнага аддзялення, малады шымпанзэ з вялікай будучыняй. Гэта нават геній... Не варта думаць,— з горкай іроніяй усміхнуўся Карнэлій,— што малпы заўсёды былі толькі пераймальнікамі. У некаторых навуках мы зрабілі багата адмысловых адкрыццяў і асабліва вялікіх поспехаў дасягнулі ў вывучэнні мазгавой дзейнасці. Калі змагу, пазнаёмлю вас неяк з вынікамі. Упэўнены, вы будзеце здзіўлены.

У мяне стварылася такое ўражанне, што ён сам стараўся запэўніць сябе ў геніяльнасці малпаў, а таму гаварыў з залішняй гарачнасцю. Але ж я ніколі і не спрабаваў спрачацца з ім на гэтую тэму. Карнэлій сам паскардзіўся якія-небудзь два месяцы назад на адсутнасць у малпаў стваральных здольнасцей. А цяпер з гонарам дэкляраваў:

— Паверце, настане дзень, калі мы пераўзыдзем людзей ва ўсіх сферах. Мы невыпадкова сталі нашчадкамі чалавечай культуры, як вы можаце гэта ўяўляць сабе. Гэта здарылася ў выніку нармальнага ходу эвалюцыі. Эра ра-

зумнага чалавека прайшла, і на змену яму з'явілася больш дасканалая істота, якой было наканавана захоўваць асноўныя дасягненні людзей доўгі перыяд адноснага застою, каб пасля ўзляцець да новых вяршынь.

Такі падыход да гэтай праблемы быў мне новы. Я мог бы адказаць Карнэлію, што многія мысліцелі Зямлі прадчувалі і прадказвалі з'яўленне вышэйшай істоты, якая калі-небудзь заступіць людзей, але ніводзін вучоны, філосаф ці паэт не ўяўляў сабе гэтую звышразвітую істоту ў малпіным абліччы. Але мне не надта хацелася спрачацца пра такія драбніцы. Галоўнае было ў тым, што думка знайшла сабе іншае ўвасабленне ў жывым стварэнні, ці ж не праўда? Цяпер мяне займала іншае, таму я перавёў гамонку на Нову і стан яе здароўя. Карнэлій не сказаў мне нічога новага, але паспрабаваў усцешыць:

— Не хвалюйцеся! Спадзяюся, усё абыдзецца. Напэўна, гэта будзе звычайнае дзіця, такое ж, як і ўсе чалавечыя дзеці Сароры.

— А я спадзяюся, што не. Я ўпэўнены: дзіцёнак загаворыць!

Мне было цяжка схаваць сваё абурэнне. Зіра нахмурылася, каб прымусіць мяне змоўкнуць.

— На вашым месцы я не зычыў бы яму гэтага,— змрочна заўважыў Карнэлій.— Гэта не ў яго і не ў вашых інтарэсах.

І ўжо амаль па-сяброўску дадаў:

— Калі ён загаворыць, не ведаю, ці змагу я бараніць вас далей, як рабіў дагэтуль. Вы, напэўна, не ўсведамляеце, як устрывожыўся Вялікі Савет. Я атрымаў найстражэйшы загад захаваць гэтае нараджэнне ў тайне. Калі ўлады даведаюцца, што вы ў курсе справы, я буду тут жа звольнены, і Зіра таксама, а вы застанецеся адзін на адзін з...

— З ворагамі?

Карнэлій адвёў вочы. Значыцца, я зразумеў правільна: мяне разглядалі як пагрозу малпавай расе. І ўсё ж было радасна, што ў асобе Карнэлія ў мяне ёсць калі не сябар, дык саюзнік. Відаць, Зіра бараніла мяне нашмат больш горача, чым я думаў, а Карнэлій не пасмее пайсці супраць яе ні ў чым. Вось і цяпер ён дазволіў мне наведаць Нову, вядома, употайкі.

Зіра правяла мяне ў маленькую ізаляваную хацінку, ключы ад якой былі толькі ў яе. Мы ўвайшлі ў невялічкі пакой. У ім стаялі тры клеткі, дзве былі пустыя. Трэцюю клетку займала Нова. Яна пачула, як мы ўваходзілі, і інстынктыўна ўгадала, што і я тут, бо, яшчэ не ўбачыўшы

нас, ускочыла і працягнула мне насустрач рукі. Я таксама працягнуў да яе рукі, пацёрся тварам аб яе твар. Зіра пагардліва паціснула плячыма, аднак дала мне ключ ад клеткі, а сама адправілася ў калідор пільнаваць, каб сюды не прыйшоў хто іншы. Якое добрае сэрца ў гэтай шымпанзэ! Нам так трэба было цяпер выказацца адно перад адным!

Выказацца... Я забыўся пра тое, што ўяўляла сабою Нова.

Але ўсё-такі, увайшоўшы ў клетку і абняўшы Нову, я загаварыў з ёю, нібыта яна магла мяне зразумець, як загаварыў бы, напрыклад, з Зіраю.

Няўжо яна нічога не разумела? Няўжо ў яе не было нават прадчування тае вялікае місіі, якая выпала на нашу долю і за якую яна адгэтуль таксама была адказная?

Я расцягнуўся побач з Новаю на саломе, каб асцярожна намацаць дзіця нашага незвычайнага кахання. Мне здалося, што цяжарнасць абудзіла ў Нове пачуццё ўласнае годнасці, сваёй індывідуальнасці, якога ў яе раней не было. Калі я дакрануўся рукою да яе жывата, яна задрыжала. Але, я не памыліўся, погляд яе стаў больш напружаны, асэнсаваны. І раптам яна з цяжкасцю, па складах вымавіла маё імя — значыцца, не забылася на мае ўрокі! Мяне захліснула гарачая хваля радасці. Але вочы Новы адразу ж страцілі сваю жывасць, яна павярнулася да мяне спінаю і пачала ўплятаць прынесеную мною садавіну.

Вярнулася Зіра: нам трэба было ўжо развітвацца. Я выйшаў разам з ёю. Відаць, адчуўшы мой адчай, Зіра вырашыла правесці мяне да маёй кватэры. І тут, у сябе дома, я заплакаў бы хлопчык.

— О Зіра, Зіра!— усхліпваў я.

Яна супакойвала мяне і суцяшала, нібыта маці свайго дзіцёнка, а я жаліўся ёй і гаварыў, гаварыў, нічога не тоячы, адкрываючы ўсе свае пачуцці і думкі, якіх Нова не магла ацаніць.

## Раздзел VII

О цудоўная шымпанзэ! Дзякуючы ёй я апошнім часам мог досыць часта бачыцца з Новаю ўпотайкі ад інстытуцкага кіраўніцтва. Я праседжваў побач з ёю цэлымі гадзінамі, прагна лавіў у яе позірку кожную іскрынку думкі, і гэтак, у чаканні нараджэння дзіцяці праходзілі тыдні.

Аднаго разу Карнэлій усё ж рашыўся паказаць мне энцэфалічнае аддзяленне, пра якое расказваў дзівосы. За-

гадзя папрасіўшы прабачэння, што не зможа суправаджаць мяне з-за тэрміновай працы, ён пазнаёміў мяне з загадчыкам аддзялення, тым самым геніяльным маладым шымпанзэ па імені Гелій.

— Я вярнуся праз гадзіну,— сказаў Карнэлій,— каб паказаць вам самы выдатны з нашых эксперыментаў, той, які дае нам новыя доказы, пра якія я вам казаў. А пакуль што, думаю, вам будзе цікава пазнаёміцца з класічнымі вопытамі.

Гелій павёў мяне за сабою ў вялікую залу з двума радамі клетак, падобную на ўсе аналагічныя памяшканні інстытута. Але толькі я ўвайшоў, як мне адразу ж ударыў у нос рэзкі аптэчны пах — ён нагадаў мне пах хлараформу. Як выявілася, гэта і праўда быў нейкі анестэзійны сродак. Мой гід растлумачыў мне, што цяпер усе хірургічныя аперацыі праводзяцца пад наркозам. Ён падкрэсліваў гэтую дэталь, бо лічыў яе доказам высокага развіцця малпавай цывілізацыі, якая імкнецца пазбавіць ад любых залішніх пакут нават падвопытных людзей. Маўляў, я магу быць спакойны!

Але адчуваў я сябе не надта спакойна. І зусім ужо расхваляваўся, калі на заканчэнне сваіх уводзін Гелій прызнаў, што з гэтага гуманнага правіла ўсё ж робяць выключэнні, каб вывучыць менавіта механізм пакуты і лакалізаваць яе нервовыя цэнтры. Але дэманстраваць мне такія вопыты ў той дзень ён не збіраўся.

Падобнае прызнанне не магло не абвострыць яшчэ больш маю чуллівасць. Я згадаў, як настойліва адгаворвала мяне Зіра ад наведвання гэтага аддзялення, куды яна сама заходзіла толькі ў выпадку неабходнасці. І хацеў ужо быў павярнуць назад пад якімсьці праўдзівым прэтэкстам, але Гелій апярэдзіў мяне.

— Калі хочаце,— прапанаваў ён,— можаце прысутнічаць пры аперацыі. Вы самі пераканаецеся, што падвопытны не адчувае болю. Не хочаце? У такім разе я пакажу вам вынікі эксперыментаў.

І, прайшоўшы зачынены пакой, адкуль даносіўся пах лекаў, ён павёў мяне да клетак. У першай я ўбачыў досыць прыгожага, але неверагодна худога юнака. Ён ляжаў на сваёй падсцілцы. Перад ім, каля самага носа, стаяла міска з салодкай кашай, ласункам сарорскіх людзей. Юнак абыякава, нерухома глядзеў на ежу.

— Глядзіце,— сказаў Гелій,— гэты чалавек галодны: ён не еў ужо суткі. І ўсё ж такі ніяк не рэагуе на сваю любімую ежу. Гэта вынік выдалення часткі лобнай мазгавой

долі. Аперацыя зроблена некалькі месяцаў назад, і з таго часу ён у гэтым стане. Прыходзіцца прымушаць яго есці. Бачыце, які ён змарнелы?

Гелій зрабіў знак санітару, які ўвайшоў у клетку і сунуў юнака носам у міску. Падвопытны пачаў хлябтаць кашу.

— Але гэта звычайны выпадак,— гаварыў далей Гелій.— Вось цікавейшыя. У кожнага з падвопытных былі пашкоджаны розныя ўчасткі кары галаўнога мозгу.

Мы праходзілі міма клетак, дзе сядзелі мужчыны і жанчыны featured рознага ўзросту. Шыльдачкі на дзвярах кожнай клеткі з масай тэхнічных дэталяў паведамлялі, якую аперацыю перанёс чалавек.

— Некаторыя ўчасткі кары забяспечваюць наяўнасць безумоўных рэфлексаў, іншыя — умоўных. Вось, напрыклад, гэты выпадак...

У гэтага «выпадку» аднялі цэлы ўчастак мозгу з патылічнай вобласці. Цяпер ён не ўспрымаў ні формы прадметаў, ні адлегласці паміж імі, што і прадэманстраваў серыяй беспарадкавых рухаў, калі санітар наблізіўся да яго. Ён не мог пераступіць цераз палку на падлозе. А працягнуты няшчаснаму невялікі яблык палохаў яго так, што ў жаху ён спрабаваў уцячы. Чалавек не мог нават учапіцца за краты і хапаўся пальцамі за пустэчу.

— А вось гэты быў раней цудоўным экземплярам,— падмігнуў мне шымпанзэ.— Нам удалося навучыць яго дзівосным трукам. Ён ведаў сваё імя і выконваў некаторыя простыя загады. Спраўляўся ў вопытах з досыць складанымі загадамі і нават умеў карыстацца прымітыўнымі інструментамі. А сёння ён не памятае нічога. Не ведае свайго імя. Нічога не ўмее рабіць. Ён стаў самы тупы з усіх нашых паддоследных. Над ім была праведзена найтанчэйшая аперацыя: выдаленне скроневых доляў.

Ад усіх гэтых жахаў, якія каменціраваў, грымаснічаючы, шымпанзэ, сціскалася сэрца. Перада мною былі людзі, паралізаваныя часткова ці цалкам, пазбаўленыя зроку. Я ўбачыў маладую жанчыну, якая мела, паводле слоў Гелія, вельмі развіты мацярынскі інстынкт — цяпер ён цалкам знік, бо ёй зрабілі аперацыю на аснове паўшар'яў. Яна груба адштурхоўвала сваё дзіця кожны раз, калі тое спрабавала падлезці да яе. Гэта для мяне было ўжо занадта! Я падумаў пра Нову, пра тое, што і яна хутка стане маці, і кулакі мае сціснуліся. На шчасце, Гелій павёў мяне ў іншую залу, і па дарозе я паспеў авалодаць сабою.

— У гэтай зале,— сказаў мне з таямнічым выглядам шымпанзэ,— мы займаемся эксперыментамі шмат больш

складанымі. Тут скальпель саступае месца танчэйшаму інструменту. Мы раздражняем розныя ўчасткі галаўнога мозгу электрычным токам. Нам удалося дасягнуць адмысловых вынікаў. А ў вас на Зямлі ставяць такія вопыты?

— На малпах!— закрычаў я раз’юшана.

Шымпанзэ не пакрыўдзіўся, нават усміхнуўся.

— Ну, вядома. Аднак я не думаю, каб вы дасягнулі такіх самых поспехаў, як і мы. Я маю на ўвазе эксперымент, які доктар Карнэлій хоча паказаць вам сам. А пакуль што прадоўжым знаёмства са звычайнымі вопытамі.

Ён пацягнуў мяне далей міма клетак, у якіх аперыравалі людзей. Тут падвопытныя ляжалі на сталах. Трэпанацыя чэрапа агаляла тыя ці іншыя ўчасткі мозгу. Пакуль адна малпа сачыла за падачаю наркозу, другая прыкладвала да пульсуючага мозгу электроды.

— Бачыце,— заўважыў Гелій,— тут мы таксама праводзім абязбольванне. Праўда, анестэзія даецца неглыбокая, каб не скажаць вынікаў, але аб’ект не адчувае ніякага болю.

У залежнасці ад таго, да якога ўчастка кары дакраналіся электроды, падвопытныя рабілі розныя рухі, і амаль заўсёды на раздражненне рэагавала якая-небудзь адна частка цела. Першы мужчына пры кожным разрадзе электрычнага току згінаў левую нагу і адразу ж яе разгінаў, калі ток перапыняўся. Другі гэтаксама ж згінаў і разгінаў руку ў локці. Трэці пад уздзеяннем току круціў усёй рукою ў плечавым суставе. Трохі далей малпы вывучалі функцыі нервовага цэнтра, які кіруе мускуламі сківіц. Калі ўключалі ток, падвопытны, зусім яшчэ малады хлопец, пачынаў жаваць — няспынна, са скрыгатам на зубах, тым часам цела яго заставалася абсалютна нерухомае.

— Паназірайце, што адбываецца, калі павялічваць працягласць уздзеяння токам,— сказаў Гелій.— Вось эксперымент, даведзены да лагічнага канца.

Аб’ектам эксперыменту была прыгожая дзяўчына, якая нагадвала асобнымі рысамі Нову. Вакол яе голага цела завіхаліся некалькі малпаў, самцоў і самак, у белых халатах. Самка-шымпанзэ з задуменнай мордаю прыладзіла электрод і ўключыла ток. У дзяўчыны адразу ж заварушыліся пальцы левай рукі. Але шымпанзэ не выключыла неўзабаве ток, як у іншых эксперыментах,— вопыт працягваўся. І вось рухі пальцаў паскорыліся, сталі ліхаманкавыя, пасля ўздрыгнула і задрыжала ўся кісць. Яшчэ праз момант рух дайшоў да пляча і пачаў разлівацца ўверх, захопліваючы мускулы твару, і ўніз, па сцяне, ляжцы, галёнцы, пятцы,

пальцах ног. Праз дзесяць хвілін увесь левы бок няшчаснай дзяўчыны калаціўся ад канвульсіўных, усё больш частых і моцных спазмаў — і як жудасна было гэта бачыць!

— Гэта эфект ланцуговай рэакцыі,— спакойна сказаў Гелій.— Ён добра вывучаны і звычайна заканчваецца канвульсіямі, якія бываюць пры эпілептычных прыпадках. Але гэта дзіўная эпілепсія, якая захоплівае толькі палову цела...

— Досыць!— закрычаў я раз'юшана.

Усе малпы падскочылі ад нечаканасці і з неадабрэннем утаропіліся на мяне. І тут увайшоў Карнэлій.

— Разумею,— па-сяброўску паляпаў ён мяне па плячы.— За гэтымі эксперыментамі, пакуль не прывыкнеш, цяжка назіраць. Але падумайце пра тое, што менавіта дзякуючы ім наша медыцына, хірургія зрабілі фенаменальны прагрэс за нейкую чвэрць стагоддзя!

Мяне гэты довад ніяк не пераканаў, як і ўспамін пра падобныя вопыты на шымпанзэ, убачаныя мною ў адной з нашых зямных лабараторый. Карнэлій пацiснуў плячыма і павёў мяне ў вузкі калідор, які злучыў залу, дзе мы цяпер знаходзіліся, з меншым памяшканнем.

— Тут вы ўбачыце нешта дзівоснае і зусім новае,— сказаў ён урачыста.— Сюды маюць доступ толькі тры асобы: Гелій, які асабіста займаецца вопытамі і ўжо дасягнуў выдатных поспехаў, я і адзін санітар-гарыла, выбраны намі з найвялікшай асцярожнасцю. Ён нямы. Мне ён адданы і душою і целам, да таго ж ён яшчэ і дурань з дурняў. Так што вы разумееце, якое значэнне я надаю сакрэтнасці гэтай працы. Але вас я з ёю пазнаёмлю, бо вы, я ўпэўнены, будзеце маўчаць. Гэта ў вашых інтарэсах.

## Раздзел VIII

Увайшоўшы ў залу, я не прыкмеціў спачатку нічога такога, што магло б вытлумачыць дакляраваную таемнасць. Апаратура была падобная на тую, што я ўжо бачыў у папярэдніх памяшканнях: тыя ж генератары, трансфарматары, электроды. Тут былі толькі два паддоследныя: мужчына і жанчына, якія ляжалі на двух пастаўленых паралельна канапах, прывязаныя рамянямі. Толькі мы з'явіліся, яны адразу ж утаропіліся пільнымі позіркамі.

Санітар-гарыла сустрэў нас невыразным бурчаннем. Гелій абмяняўся з ім некалькімі фразамі на мове глуханя-

мых. Гэта было рэдкаснае відовішча: гарыла і шымпанзэ размаўлялі між сабою з дапамогаю мігаў! Не ведаю чаму, але мне гэта здалося настолькі недарэчным, што я ледзь не зарагатаў.

– Усё ў парадку,— сказаў Гелій.— Яны спакойныя. Можна адразу пачынаць дослед.

Вы не можаце ўвесці мяне спачатку ў курс справы?— папрасіў я ўмольна, баючыся, што ўбачу зараз новыя жудасныя эксперыменты.

— Я хацеў бы здзівіць вас,— усміхнуўшыся, адказаў Карнэлій.

Санітар увёў падвопытным наркоз і, калі яны спакойна заснулі, пачаў уключаць розную апаратуру. Гелій наблізіўся да мужчыны, асцярожна разматаў павязку ў яго на галаве і, выбраўшы на чэрапе патрэбную кропку, падвёў да яе электрод. Мужчына па-ранейшаму ляжаў абсалютна нерухомы. Я дапытліва зірнуў на Карнэлія, і тут здарыўся цуд.

Мужчына загаварыў.

Ягоны голас прагучаў у маленькай аперацыйнай зале гэтак раптоўна, што я ажно падскочыў. Карнэлій і Гелій зрабілі мне знак маўчаць і слухаць. Не, гэта не была галюцынацыя: ён гаварыў гучна, заглушаючы брунжанне генератара. І гаварыў на малпавай мове. Гаварыў зусім паўнацэнна, як зямны чалавек або сарорская малпа.

На тварах у абодвух вучоных успыхнула радасць. Яны самазадаволена глядзелі на мяне, адчуваючы асалоду ад маёй збянтэжанасці.

Тое, што казаў мужчына, не мела ніякага сэнсу. Напэўна, ён вельмі доўга знаходзіўся ў інстытуце, таму што цяпер бясконца паўтараў абрыўкі фраз, якія звычайна прамаўляюць вучоныя або санітары. Неўзабаве Карнэлій загадаў спыніць эксперымент.

— Ад гэтага мы нічога больш не даможамся,— сказаў ён.— Але вы чулі галоўнае: ён гаворыць!

— Неверагодна!— прамармытаў я.

— Ну, гэта яшчэ што!— заўважыў Гелій.— Ён гаворыць, як аўтамат ці папугай. А вось ад гэтай самкі мы дамагліся нашмат большага.

Ён паказаў на жанчыну. Тая ціха спала.

– Большага?

— У тысячу разоў большага,— пацвердзіў Карнэлій, такі ж усхваляваны, як і яго калега.— Слухайце мяне ўважліва. Гэтая жанчына таксама гаворыць, і вы яе пачуеце. Але яна не паўтарае фраз, пачутых у палоне. Яе словы

маюць выключнае значэнне. З дапамогаю камбінацыі электрахімічных уздзеянняў на мозг гэтай падвопытнай — я не буду распісваць вам яе,— нашаму маладому генію ўдалося абудзіць не толькі індывідуальную, але і родавую памяць. У ёй пад уздзеяннем току ажываюць успаміны вельмі далёкіх продкаў, ажывае атавістычная памяць пра падзеі тысячагадовай даўнасці. Вы разумеце, Уліс?

Слухаючы гэтыя тлумачэнні, я думаў, што шымпанзэ з'ехаў з глузду, настолькі неверагодным здалося мне тое, што ён сказаў. Дарэчы, сярод малпаў таксама назіраюцца выпадкі вар'яцтва, асабліва сярод інтэлігенцыі. Але пакуль я раздумваў, Гелій падключыў электроды да мозгу жанчыны. Нейкі час яна, як і мужчына, ляжала, не падаючы прыкмет жыцця, потым глыбока ўздыхнула і загаварыла. Яна таксама гаварыла на малпавай мове. Але яе глухаваты голас пастаянна мяняў танальнасць, нібыта належаў розным людзям. Кожнае яе слова ўсё роўна як выгравіравалася ў маёй памяці.

«Малпы, зноў гэтыя малпы,— неспакойна сказала яна.— Апошнім часам яны няспынна размнажаюцца, хаця яшчэ не так даўно здавалася, што яны звядуцца. Калі гэтак пойдзе і далей, іх стане больш за нас... Але справа не толькі ў гэтым. Яны робяцца нахабныя. Яны ўжо вытрымліваюць наш позірк. Мы дарэмна прыручалі іх і давалі ім волю, як слугам. Любімцы сем'яў робяцца самыя дзёрзкія. На днях мяне штурхнуў на вуліцы разносчык-шымпанзэ. Калі я ўзняла руку, ён паглядзеў на мяне з такой пагрозаю, што я не асмелілася ўдарыць яго».

«Ганна, тая, што працуе ў лабараторыі, сказала мне, што ў іх таксама багата чаго змянілася. Яна ўжо не асмельваецца ўваходзіць у клеткі адна. Кажа, што ўвечары так і чуе шушуканне і нават смяшкі. Адна гарыла здзекуецца з доктара, перадражнівае яго цік».

Жанчына змоўкла, некалькі разоў цяжка ўздыхнула, пасля загаварыла зноў:

«Ну вось, дажыліся! Адна малпа навучылася гаварыць. Гэта праўда: я сама чытала ў «Газеце для жанчын». Там была яе фатаграфія. Гэта малады шымпанзэ».

— Шымпанзэ! Першы! Я быў у гэтым упэўнены!— усклікнуў Карнэлій.

«А цяпер з'явіліся іншыя. Газеты штодня паведамляюць пра новых малпаў, якія навучыліся гаварыць. Некаторыя вучоныя лічаць, што гэта вялікае навуковае дасягнен-

не. Няўжо яны не разумеюць, да чаго гэта можа прывесці? Наколькі я ведаю, адзін з гэтых гаваркіх шымпанзэ гідка лаецца. Першае, для чаго яны скарыстоўваюць здольнасць гаварыць, гэта каб адмовіцца слухацца людзей...»

Нейкі час жанчына маўчала, потым зноў загаварыла, але на гэты раз нізкім мужчынскім голасам і стомленым ментарскім тонам:

«Тое, што з намі здарылася, можна было прадбачыць. Намі авалодала мысліцельная лянота. Ніхто больш не чытае: нават дэтэктыўныя раманы вымагаюць задужа вялікага разумовага напружання. Ніхто больш не гуляе ні ў якія інтэлектуальныя гульні — найбольшае, на што мы тут здольныя, гэта пасьянсы. Нават ад дзіцячых фільмаў стамляемся. А малпы тым часам думаюць, думаюць... У гэтых маўклівых адзінокіх разважаннях іх мозг развіваецца — і вось яны ўжо авалодалі моваю! О, вядома, з намі яны амаль не гавораць, хіба што пагардліва агрызаюцца на тых нешматлікіх ганарліўцаў, якія яшчэ асмельваюцца нешта загадваць ім. Але па начах, калі яны застаюцца адны, абменьваюцца ўражаннямі і новымі ведамі».

Настала яшчэ адна паўза, пасля якой падвовытная загаварыла трывожным жаночым голасам:

«Мне было надта страшна. Я больш не магла так жыць і саступіла месца маёй гарыле. Уцякла з уласнага дому. Ён жыў у мяне ўжо некалькі гадоў і верна служыў мне. Але пакрысе пачаў мяняцца. Пачаў хадзіць увечары на іхнія сходкі. Навучыўся гаварыць. А потым адмовіўся ад усялякай працы. Месяц назад загадаў мне заняцца кухняю і мыць посуд. Пачаў есці з маіх талерак, карыстацца маімі відэльцамі і нажамі. А на мінулым тыдні выгнаў мяне з майго пакоя, мне прыйшлося правесці ноч у гасцёўні. Я не асмельвалася больш патрабаваць чаго-небудзь ад яго і паспрабавала падлашчыцца. Але ён толькі смяяўся з мяне і, наадварот, яшчэ больш павялічваў прэтэнзіі. Я адчувала сябе зусім няшчаснаю. І здалася. Знайшла прыстанак у стойбішчы, дзе сабраліся жанчыны, якія трапілі ў такое ж становішча, што і я. Тут ёсць і мужчыны. У многіх цяпер не хапае мужнасці жыць па-старому. Мы ўладкаваліся за межамі горада і, можна сказаць, не жывём, а існуем. Нам сорамна, мы амаль не размаўляем. Першыя дні я раскладвала пасьянсы. Цяпер мне і гэтым няма сілы займацца».

Жанчына змоўкла, потым загаварыла мужчынскім голасам:

«Мне здавалася, я знайшоў сродак супраць рака. Я хацеў выпрабаваць яго, як рабіў гэта з кожным сваім адкрыццём. Я быў асцярожны, але ўжо не такі, як раней. Апошнім часам мае малпы дазвалялі рабіць над сабою вопыты з вялікаю неахвотаю. Таму, перш чым увайсці ў клетку Жоржа, шымпанзэ, я папрасіў двух асістэнтаў звязаць яго як след. Пасля наблізіўся да яго, каб упырснуць яму ўзбуджальнік рака. Я ж усё роўна вылечыў бы яго пасля! У Жоржа быў такі выгляд, быццам ён скарыўся лёсу. Ён зусім не супраціўляўся, але хутка я прыкмеціў, што яго хітрыя вочкі сачылі за тым, што адбывалася ў мяне за спінаю. Спахапіўся я надта позна. Гарылы, шэсць гарыл, якія былі ў мяне ў запасе для вопытаў з чумою, вырваліся на волю. Гэта была змова! Яны схапілі нас. Жорж аддаваў загады на нашай мове. Ён дакладна капіраваў усе мае рухі. Загадаўшы гарылам прывязаць нас да аперацыйных сталоў, а яны зрабілі гэта ўмомант, набраў у шпрыц смяротную вадкасць і ўвёў яе нам у кроў, усім траім. Цяпер у мяне рак. Гэта пэўна: антыракавы сродак яшчэ не правераны, а смяротная сываратка даўно ўжо даказала сваю эфектыўнасць. Упырснуўшы мне поўную дозу, Жорж па-сяброўску паляпаў мяне далонню па шчацэ, як рабіў гэта заўсёды я са сваімі малпамі. Мы ж з імі заўсёды добра абыходзіліся. Я лічыў больш эфектыўным дамагацца свайго не пагрозаю, а ласкаю. Праз некалькі дзён, седзячы ў клетцы, куды мяне замкнулі, я адчуў першыя сімптомы хваробы. Жорж таксама распазнаў іх: я чуў, як ён казаў іншым малпам, што пачне ўжо лячыць мяне. Я ажно пахаладзеў ад жаху. Я ж усё роўна ведаю, што асуджаны на смерць, бо не веру ўжо ў вынайдзены мною сродак. А што, калі я ад яго яшчэ хутчэй памру? Не! Уначы мне ўдалося зламаць краты і ўцячы. Я знайшоў прытулак у стойбішчы за горадам. Наперадзе ў мяне яшчэ два месяцы жыцця. Я гадаю на картах і сплю». Зноў паўза, жаночы голас:

«Я была дрэсіроўшчыцаю. Паказвала нумар з дванаццацю арангутанамі, сапраўды выдатнымі экземплярамі. А цяпер сама сяджу ў клетцы разам з іншымі артыстамі цырка. Але трэба быць справядліваю. Малпы абыходзяцца з намі добра і кормяць нас, як свінняў на ўбой. Калі салома пад намі занадта брудная, мяняюць яе. Яны не жорсткія: караюць толькі тых, хто ўпарціцца і не жадае рабіць трукі, якім арангутаны хочуць нас навучыць. Я, напрыклад, стараюся выканаць усе іх загады не спрачаючыся. Поўзаю на карачках, раблю кульбіты. І яны таксама добра ставяцца да мяне. Няшчаснай я сябе не адчуваю. У мяне цяпер

няма ніякага клопату, ні адказнасці, нішто не засмучвае. Большасць з нас хутка прызвычаіліся да новага жыцця».

Жанчына зноў змоўкла, гэтым разам надоўга. Увесь гэты час Карнэлій пільна ўзіраўся мне ў самыя вочы. Я выдатна разумеў, што ён хацеў мне сказаць. Калі чалавечая раса стала нікчэмная, калі яна так лёгка скарылася, то хіба ж не павінна яна тады саступіць месца больш высакароднай расе? Я пачырванеў і адвёў вочы.

Жанчына зноў загаварыла, яшчэ больш роспачным голасам:

«Цяпер яны захапілі ўвесь горад. Нас засталося ў гэтым прытулку ўсяго некалькі сотняў, і становішча нашае — адчайнае. Гэта апошняе чалавечае паселішча ў гарадскім наваколлі, але малпы ўжо не хочуць, каб мы жылі на волі гэтак блізка ад іх. З іншых стойбішчаў многія ўцяклі далей, у джунглі, астатнія здаліся малпам, каб есці ўволю. А мы засталіся ў стойбішчы праз ляноту. Спім — ніхто і думаць не хоча пра супраціўленне... Гэтага я і баялася! Я чую варварскую какафонію. Быццам нейкая пародыя на ваенны марш... О божа, уратуй! Гэта яны, малпы! Акружаюць нас з усіх бакоў. Вядуць іх на нас вялізныя гарылы. У іх нашы трубы, барабаны, нашы мундзіры, наша зброя, вядома... Але не, зброі ў іх няма. О, якая ганьба, якое страшнае ўніжэнне! Вось на нас насоўваецца армія малпаў, і яны ўзброеныя толькі бізунамі!»

## Раздзел IX

У горадзе ўсё ж пайшла пагалоска пра эксперыменты Гелія. Магчыма, у гэтым быў вінаваты сам шымпанзэ, які не ўтрымаўся, каб не пахваліцца поспехамі. Кажуць, што аднаму даследчыку ўдалося прымусіць людзей загаварыць. Мала таго, пра знаходкі ў пахаваным у пустэльні горадзе пісалі газеты, і, хоць большасць публікацый дужа далёкія ад праўды, некаторыя журналісты падбіраюцца да ісціны. Усё гэта спараджае ў малпах пачуццё няўпэўненасці і трывогі, і ўлады глядзяць цяпер на мяне з асаблівым недаверам, які ўсё ўзрастае.

У Карнэлія багата ворагаў, і ён не асмельваецца дакляраваць сваё адкрыццё. Дый ці хоча ён гэта рабіць, ведаючы, якая рэакцыя будзе ва ўладаў? Клан арангутанаў на чале з Заюсам інтрыгуе супраць яго. Ужо гавораць пра змову супраць малпавай расы, і мяне больш-менш адкрыта аб'яўляюць адным з арганізатараў гэтае змовы. Гарылы

пакуль не прынялі ніякага афіцыйнага рашэння, але яны заўсёды выступаюць супраць усяго, што ўплывае на стабільнасць грамадскага парадку.

Сённяшні дзень я запамятаю на ўсё жыццё. Здарылася такая доўгачаканая падзея! Спачатку мяне перапоўніла радасць, але потым, адумаўшыся, я скалануўся ад прадчування блізкае небяспекі.

Нова нарадзіла хлопчыка.

Цяпер у мяне дзіця, сын ад жанчыны з планеты Сарора. Я яго ўжо бачыў. Гэта было няпроста зрабіць. Імкнучыся захаваць тайну, інстытуцкія ўлады акружылі Нову яшчэ больш строгімі забаронамі, і апошні тыдзень перад родамі мне не ўдалося наведаць яе аніводнага разу. Гэта Зіра паведаміла мне, што я стаў бацькам. Яна ўжо застанецца верным сябрам, што б ні здарылася. Я так расхваляваўся, што Зіра сама вырашыла зладзіць мне спатканне з маёй новай сям'ёю. Але зрабіць гэта ёй удалося толькі праз некалькі дзён, дый тое позна ўначы, бо ўдзень з дзіцяці не зводзяць вачэй.

Які цудоўны хлопчык! Ён ляжаў на саломе побач з маткаю, усё роўна як новы маленькі Хрыстос. Ссаў цыцку ў сваёй маці. Хлопчык падобны на мяне, але адначасна ўзяў усё самае прыгожае ад Новы. Дарэчы, калі я толькі прачыніў дзверы, Нова сустрэла мяне пагрозлівым рыкам. Яна таксама чуе небяспеку. Выставіўшы перад сабою скурчаныя пальцы, яна ўскочыла на ногі, гатовая разадраць ворага, але потым пазнала мяне і супакоілася. Перакананы, што, стаўшы маткаю, Нова адразу ўзнялася на некалькі прыступак эвалюцыі. Цьмяная іскрынка розуму ў яе вачах змянілася нязгасным агнём. Я з захапленнем і пяшчотаю цалаваў свайго сына, стараючыся не думаць пра хмары, што ўжо збіраліся над нашымі галовамі.

Ён вырасце чалавекам, сапраўдным чалавекам — у гэтым я не сумняваюся. Розум свеціцца ў кожнай яго рысачцы, у кожным позірку. Мне ўдалося зноў запаліць у чалавечым родзе гэтай планеты святое полымя думкі. Дзякуючы мне цывілізацыя людзей Сароры адродзіцца і зноў дасягне росквіту. Калі мой сын вырасце, ён стане заснавальнікам цэлага роду...

Калі мой сын вырасце! Мяне пачынае калаціць пры адной толькі думцы пра тое, у якіх умовах ён цяпер знаходзіцца і якія выпрабаванні чакаюць яго яшчэ. Але мы ўтраіх пераможам любыя перашкоды, я ўпэўнены. Так, менавіта

ўтраіх, я не памыліўся, бо Нова цяпер ужо зусім не тая, якая была раней. Каб упэўніцца ў гэтым, досыць паглядзець, як яна любуецца сваім дзіцёнкам. Праўда, яна яго ўсё яшчэ вылізвае, як усе чалавечыя маткі на Сароры, але твар у яе пры гэтым асэнсаваны.

Я паклаў дзіця на салому. Ведама, гэта сапраўдны чалавек. Праўда, ён яшчэ не гаворыць, але... пра што гэта я, яму ўсяго толькі тры дні, але ён загаворыць. Ён ужо плача ціхенька, менавіта плача, як зямное дзіця, а не скуголіць, як звераня. Нова гэта выдатна разумее і не спускае з сына захопленых вачэй.

Зіра таксама бачыць, што гэты маленькі чалавечак незвычайны. Яна наблізілася да нас, яе валасатыя вушы насцярожана ўзняліся,— і моўчкі разглядвае дзіця. Выгляд у яе заклапочаны. Потым дае мне зразумець, што я мушу як мага хутчэй пайсці адсюль. Калі б мяне заспеў тут хто іншы, гэта магло б дрэнна скончыцца для нас усіх. Зіра абяцае паклапаціцца пра майго сына, і я ведаю, што яна стрымае слова. Але я не магу не ведаць і таго, што яе самую ўжо падазраюць у хаўрусніцтве са мною, і дрыжу ад адной думкі, што яе могуць у любы момант звольніць. Не, я не маю права прымушаць яе гэтак рызыкаваць!

Развітаўшыся з Новаю і сынам, я іду да выхаду. Каля дзвярэй азіраюся яшчэ раз і бачу, што шымпанзэ таксама наблізілася да маленькага чалавечка, ціхенька дакранулася вуснамі да яго лобіка і толькі пасля гэтага зачыніла клетку. І Нова нават не пратэстуе! Яна прымае гэтую праяву пяшчоты да яе дзіцяці як натуральную. Памятаючы, з якой нянавісцю сустракала яна Зіру раней, я бачу ў гэтым новы цуд.

Мы выходзім з пакоя. У мяне дрыжаць рукі і ногі, і я заўважаю, што Зіра ўсхваляваная не менш за мяне.

— Уліс!— усклікае яна, выціраючы слёзы.— Часам мне здаецца, што гэта і маё дзіця!

## Раздзел X

Зрэдку я літаральна прымушаю сябе наведваць прафесара Антэля, але з кожным разам гэтыя візіты робяцца ўсё больш пакутлівыя. Прафесар па-ранейшаму ў інстытуце, але яго прыйшлося забраць з камфартабельнага пакоя, у якім яго размясцілі па маёй просьбе. Там Антэль хутка марнеў, да таго ж, у яго пачаліся прыступы дзікай лютасці, у час якіх ён рабіўся небяспечны, кідаўся кусаць санітараў.

Тады Карнэлій вырашыў ужыць да яго іншы рэжым: загадаў пасяліць прафесара ў звычайнай клетцы з саламянаю падсцілкаю і даць яму сяброўку, тую самую жанчыну, з якой прафесар спаў у заалагічным садзе. Антэль сустрэў старую знаёмую з шумнай радасцю шчаслівага звера і адразу ж рэзка змяніў паводзіны — зноў адчуў смак жыцця.

У такой вось кампаніі сустракаюся я з ім цяпер. Выгляд у яго шчаслівы. Ён папаўнеў і памаладзеў. Я з сіл выбіваюся, каб наладзіць з ім кантакт, але марна. Вось і сёння спрабую зноў. Але прафесара цікавяць толькі піражкі, якія я яму прыношу. Спустошыўшы пакет, ён адварочваецца ад мяне, выпростваецца побач са сваёй сяброўкаю, і тая пачынае аблізваць яму твар.

— Вось бачыце, розум можа не толькі развіцца, але і згаснуць,— шэпча нехта за маёй спінаю.

Гэта Карнэлій. Выяўляецца, ён мяне шукаў, але зусім не дзеля таго, каб пагаманіць пра прафесара. У яго да мяне вельмі сур'ёзная справа. Я іду за ім у яго кабінет, дзе нас чакае Зіра. У яе чырвоныя вочы, усё роўна як яна доўга плакала. Мабыць, Карнэлій і Зіра ведаюць важную для мяне навіну, але ні ён, ні яна не рашаюцца паведаміць яе мне.

— Што-небудзь з сынам?— не вытрымліваю я.

— Ён добра сябе адчувае,— таропка адказвае Зіра.

— Вельмі добра,— дадае буркліва Карнэлій.

Я і сам ведаю, што сын у мяне цудоўны, але вось ужо месяц, як я яго не бачыў. Дogляд за ім стаў яшчэ стражэйшы. Зіра апынулася пад падазрэннем інстытуцкага кіраўніцтва, і цяпер сочаць за кожным яе крокам.

— Вельмі-вельмі добра!— паўтарае Карнэлій.— Ён усміхаецца. Плача, як дзіцёнак малпы... І пачынае гаварыць.

— У тры месяцы?!

— О, гэта ўсяго толькі дзіцячы лепет, але ўсё выдае на тое, што хлопчык будзе гаварыць. Да таго ж ён увогуле развіваецца надзвычай хутка.

Я надзімаюся ад гонару. Але Зіру абурае мой шчаслівы выгляд бацькі такога выдатнага дзіцяці.

— Няўжо ты не разумееш, што гэта катастрофа?! Цяпер яго нізашто не выпусцяць на волю!

— Мне стала вядома ад надзейнага чалавека,— кажа Карнэлій,— што праз два тыдні адбудзецца пасяджэнне Вялікага Савета, прысвечанае вашаму дзіцяці, і будзе прынята важнае рашэнне.

— Важнае рашэнне?

— Вельмі важнае. Пра тое, каб знішчыць яго, гаворка не ідзе. Ва ўсякім разе, пакуль што. Але яго адымуць ад маці.

— А я, я змагу яго бачыць?

— А гэта ўжо абсалютна немагчыма!.. Але дазвольце мне дагаварыць,— няўмольна адчаканьвае шымпанзэ.— Мы сабраліся тут не дзеля таго, каб плакаць, а каб дзейнічаць. Дык вось. Першае, што мы ўжо дакладна ведаем, гэта тое, што вашага сына ізалююць і будуць строга захоўваць. Арангутаны. Так, Заюс доўна інтрыгуе і цяпер дасягне сваёй мэты.— Тут Карнэлій гнеўна сціснуў кулакі і прамармытаў скрозь зубы некалькі слоў, прывесці якія тут немагчыма.— Заўважце, Вялікі Савет выдатна разумее, чаго варты гэты крэтын як вучоны, але ўсе робяць выгляд, нібыта вераць, што ён і праўда зможа даследаваць такі унікальны выпадак лепш за мяне. Робяць выгляд, бо гэты выпадак расцэньваецца як пагроза ўсёй нашай расе. Яны разлічваюць, што Заюс здолее ліквідаваць гэтую небяспеку.

Я здранцвеў. Не дай бог, каб мой сын трапіў у лапы да гэтага небяспечнага ідыёта! Але Карнэлій яшчэ не скончыў:

— Самае страшнае, што пагроза навісла не толькі над вашым сынам.

Не могучы вымавіць ні слова, я паглядзеў на Зіру, але тая адно ківае.

— Арангутаны вас ненавідзяць, таму што вы з'яўляецеся жывым доказам памылковасці ўсіх іх тэорый, а гарылы лічаць вас занадта небяспечным, каб пакідаць на волі. Яны баяцца, каб вы не сталі пачынальнікам новай чалавечай расы на нашай планеце. Але нават калі адкінуць такую магчымасць, яны ўсё роўна баяцца, што адна ваша прысутнасць на Сароры ўзбаламуціць нашых людзей. Шэраг назіранняў адзначае незвычайнае ўзбуджэнне сярод паддопытных, з якімі вы кантактуеце.

Але, гэта праўда. У час майго апошняга наведвання залы з клеткамі я сам заўважыў, што паводзіны палонных прыкметна змяніліся. Выдае на тое, што нейкі таямнічы інстынкт папярэдзіў іх пра дзівоснае нараджэнне майго сына. Яны віталі мяне доўгім улюлюканнем.

— Карацей кажучы,— падводзіць рысу Карнэлій,— я вельмі баюся, што праз два тыдні Вялікі Савет прыме рашэнне знішчыць вас... або прынамсі выдаліць частку мозгу пад выглядам навуковага эксперыменту. Што ж датычыць Новы, то думаю, што і яе пастараюцца абясшкодзіць, бо яна надта доўга была побач з вамі.

Не, гэта немагчыма! Я ж ужо паверыў у сваю ледзь не боскую місію — і раптам такое... Умомант я быў скінуты з нябёсаў на зямлю. Мяне агарнуў жудасны адчай.

— Карнэлій правільна зрабіў, што нічога ад цябе не ўтоіў,— сказала Зіра, кладучы мне на плячо руку.— Але ён не сказаў яшчэ, што мы не пакінем цябе. Мы вырашылі ўратаваць вас усіх траіх, і ў гэтым нам дапамогуць некалькі нашых сяброў, мужныя шымпанзэ.

— Але што я магу зрабіць? Я, чалавек сярод малпаў!

— Трэба ўцякаць. Трэба пакінуць Сарору, куды б табе лепей было і зусім не прылятаць. Вяртайся да сябе на Зямлю. Толькі так можна ўратаваць цябе і твайго сына.

Голас у Зіры задрыжаў, здавалася, яна зараз заплача. Усё ж такі яна ставілася да мяне яшчэ лепш, чым я мог падумаць. Смутак яе бы працяў мяне. Невыносна балюча думаць, што, пакінуўшы Сарору, ніколі больш не спаткаюся з Зіраю.

— Але як мне ўцячы з Сароры?

— Зіра мае рацыю,— пачаў адказваць Карнэлій.— Выйсце ў вас адзінае — уцячы з нашай планеты. Я абяцаў дапамагчы вам і стрымаю слова, нават калі гэта загубіць маю кар'еру. Да таго ж, дапамагаючы вам, я выконваю свой абавязак малпы. Калі нам пагражае небяспека, то яе ўжо не стане, як толькі вы пакінеце Сарору... Вы неяк казалі мне, што ваш касмічны карабель не пашкоджаны і што вы змаглі б вярнуцца на ім назад на Зямлю?

— Але,— адказаў я.— У зоркалёце дастаткова паліва, кіслароду і запасаў ежы і пітва, каб дабрацца на ім да любой планеты Галактыкі. Але як дабрацца да яго?

— Ён па-ранейшаму круціцца вакол Сароры. Адзін з маіх сяброў-астраномаў выявіў яго і вылічыў яго арбіту. А як да яго дабрацца... Слухайце! Роўна праз дзесяць дзён мы збіраемся запусціць штучны спадарожнік з жывымі істотамі, натуральна, з людзьмі, на якіх мы хочам вывучыць уплыў некаторых відаў выпраменьванняў... Не перапыняйце мяне! Згодна з праграмаю павінна быць трое падвопытных: мужчына, жанчына і дзіця.

Я адразу ж зразумеў план Карнэлія і ацаніў яго вынаходлівасць. Але колькі перашкод было яшчэ на нашым шляху!

— Некаторыя вучоныя, адказныя за выпуск спадарожніка,— працягваў Карнэлій,— мае блізкія сябры, і я здолеў пераканаць іх дапамагчы вам. Спадарожнік будзе запушчаны на арбіту вашага карабля, акрамя таго, ім можна ў пэўнай ступені кіраваць. Дарослых падвопытных

навучылі выконваць прасцейшыя манеўры: у іх выпрацаваны ўмоўныя рэфлексы. Думаю, што вы будзеце нашмат больш вынаходлівыя за іх... Наш план такі: вы ўтраіх замеціце трох падвопытных. Тут асаблівых цяжкасцей не будзе. Як я ўжо сказаў, у нас верныя саюзнікі, бо забойства агіднае нам, шымпанзэ. А тыя, хто не ў курсе справы, нават не заўважаць падмены.

І праўда, гэта было верагодна. Для большасці малпаў чалавек — проста чалавек, і нічога больш. Яны нават не заўважаюць розніцы паміж асобнымі індывідуумамі.

— Вам прыйдзецца інтэнсіўна трэніравацца ўсе гэтыя дзесяць дзён. Вы ўпэўнены, што здолееце дасягнуць карабля?

Гэта таксама было магчыма. Але ў той момант я не думаў пра цяжкасці і небяспекі, якія чакалі нас наперадзе. Міжволі маёй душою авалодаў глыбокі смутак: мне ж прыйдзецца назаўсёды пакінуць Сарору, развітацца з Зіраю і маімі братамі на гэтай планеце, так, маімі чалавечымі братамі! У дачыненні да сарорскіх людзей я адчуваў сябе дэзерцірам. Аднак спачатку я павінен быў ратаваць майго сына і Нову. Але я яшчэ вярнуся! Так, я вярнуся, пакляўся я перад сабою, згадаўшы палонных людзей у клетках, вярнуся, калі на руках у мяне будуць іншыя козыры!

Я так расхваляваўся, што прамовіў апошнія словы ўголас.

— Праз чатыры-пяць гадоў вашага асабістага часу, смелы касманаўт,— усміхнуўся Карнэлій,— але толькі праз тысячу з лішкам гадоў для нас, дамаседаў. Не забывайце, мы ж таксама распрацавалі тэорыю адноснасці. Карацей... я абмяркоўваў гэтае пытанне з маімі сябрамі-шымпанзэ, і мы вырашылі рызыкнуць.

Неўзабаве мы развіталіся, дамовіўшыся сустрэцца заўтра. Зіра выйшла першая. Затрымаўшыся на хвіліну, я скарыстаўся гэтым, каб горача падзякаваць Карнэлію. Сам сабе я думаў: чаму ён робіць усё гэта? Нібыта прачытаўшы мае думкі, Карнэлій адказаў:

— Дзякуйце Зіры. Гэта ёй вы абавязаны жыццём. Калі б не яна, не ведаю, ці стаў бы я так шчыраваць і рызыкаваць. Але паспрабуй я стаць саўдзельнікам забойства, Зіра не даравала б мне гэтага ніколі... Апроч таго...

Карнэлій замяўся. Пераканаўшыся, што Зіра чакае ў калідоры, адкуль ёй нічога не было чуваць, ён нахіліўся да мяне і хутка і ціха сказаў:

— Апроч таго, і мне і ёй будзе лепш калі вы знікнеце з нашай планеты.

Карнэлій прычыніў за мною дзверы. Мы засталіся з Зіраю адны. Ступіўшы побач з ёю некалькі крокаў па калідоры, я прашаптаў:

— Зіра!

Спыніўшыся, я прытуліў яе да сябе. Яна была ўсхваляваная не менш за мяне. Слёзы каціліся ў яе па пысачцы, пакуль мы стаялі, цесна абняўшыся. О божа, якая мне была справа да гэтай жудаснай цялеснай абалонкі! Душа мая злівалася з яе душою! Я заплюшчыў вочы, каб не бачыць яе жудаснага твару, які ад хвалявання стаў яшчэ больш гідкі. Я адчуваў, як яе цела дрыготка прыціснулася да майго. Прымусіўшы сябе, я прыціснуўся шчакою да яе шчакі. Але ў той самы момант, калі мы ўжо былі гатовыя пацалавацца, як двое закаханых, Зіра раптам інстынктыўна адхінулася і з сілаю адштурхнула мяне.

Ашаломлены, я стаяў, не ведаючы, што і рабіць, а яна, гэтая брыдкая шымпанзэ, схавала сваю пысу ў доўгія валасатыя лапы і з адчаем, рыдаючы, аб'явіла:

— Дарагі мой, гэта немагчыма! Даруй мне, я не магу, не магу! Дальбог, ты занадта брыдкі!

## Раздзел XI

Усё скончана! Я зноў у космасе, на борце нашага зоркалёта, які, быццам камета, імчыцца да Сонечнай сістэмы з хуткасцю, што ўзрастае з кожнай секундаю.

Я не адзін. Са мною Нова і Сірыус, дзіця нашага міжзорнага кахання. Ён умее ўжо гаварыць «тата», «мама» і багата іншых слоў. Апроч таго, у нас на караблі пара курэй, пара трусоў і зерне самай рознай збажыны — усё, што вучоныя Сароры памясцілі ў спадарожнік, каб вывучыць уплыў касмічных прамянёў на розныя арганізмы і расліны. Усё гэта нам спатрэбіцца.

План Карнэлія быў выкананы адмыслова. Ніхто не заўважыў, як мы замянілі тройку паддоследных. Жанчына заняла месца Новы ў інстытуце, дзіця перададуць Заюсу. Гэты дурань хутка давядзе, што чалавечы дзіцёнак не здольны размаўляць, а значыцца, з'яўляецца звычайнай жывёлінай. Можа, пасля гэтага мяне перастануць лічыць небяспечным і пакінуць у жывых мужчыну, які замяніў

мяне і які таксама ніколі не загаворыць. Малаверагодна, што малпы западозраць падмену. Арангутаны, як я ўжо казаў, не могуць адрозніць аднаго чалавека ад другога. Заюс будзе трыумфаваць. Карнэлія, магчыма, чакаюць сякія-такія непрыемнасці, але ўсё хутка забудзецца... Ды што я кажу! Усё ўжо забылася, бо за тыя некалькі месяцаў, што мы ляцім у космасе, на Сароры прайшлі стагоддзі! Нават мае ўспаміны і тыя сціраюцца, пакуль шырыцца пропасць прасторы і часу, што аддзяляе нас ад Бетэльгейзе. Спачатку вялізная зорка стала падобная на мяч, потым на апельсін і нарэшце ператварылася ў адну з маленькіх зіхоткіх кропак на бясконцым, густа ўсеяным такімі ж самымі кропкамі небе. Гэтак і з маімі сарорскімі згадкамі.

Трэба быць вар'ятам, каб пакутаваць на маім месцы ад згрызотаў сумлення. Мне ўдалося выратаваць дарагіх мне людзей. Пра што мне шкадаваць? Зіра? Але, Зіра. Толькі пачуццё, якое звязвала нас, не мае нават назвы — ні на Зямлі, ні на якой іншай планеце. Нашае расстанне было непазбежнае. Напэўна, Зіра неўзабаве знайшла спакой, выйшаўшы замуж за Карнэлія і выхоўваючы дзяцей-шымпанзэ. Прафесар Антэль? Халера з ім, з прафесарам! Я нічым больш не мог дапамагчы яму, а ён, мусібыць, здолеў нарэшце знайсці цікавае яму вырашэнне праблемы шчасця. Толькі сам я часам уздрыгваю ад думкі пра тое, што, каб не Зіра, я ў ягоных умовах таксама мог бы апусціцца гэтак жа нізка.

Стыкоўка спадарожніка з зоркалётам прайшла выдатна. Манеўруючы спадарожнікам, я здолеў наблізіцца паступова да карабля і ўвайсці ў ангар, пакінуты адчыненым, каб туды мог вярнуцца наш катэр. Пасля гэтага робаты зачынілі ангар. Мы апынуліся на борце зоркалёта. А на Сароры нашы сябры аб'явілі, што спадарожнік не выйшаў на зададзеную арбіту і яго давялося ўзарваць.

Па нашым лакальным часе мы ляцім ужо больш як год. Зоркалёт дасягнуў хуткасці святла — у бясконца малым набліжэнні,— пераадолеў за некалькі гадзін фантастычную адлегласць, і цяпер ужо ідзе перыяд тармажэння, які прадоўжыцца яшчэ год. Я не перастаю любавацца маёй слаўнай сям'ёю.

Нова выдатна пераносіць падарожжа. Яна ўсё больш прыкметна разумнее. Мацярынства ператварыла яе да непазнавальнасці. Яна з ціхамірнай усмешкаю гадзінамі ўзіраецца ў нашага сына, які выявіў сябе нашмат лепшым за

мяне педагогам. Словы, якія прамаўляе ён, Нова паўтарае амаль без памылак. Са мною яна яшчэ гаварыць не можа, але мы выпрацавалі сістэму жэстаў, якая дазваляе нам разумець адно аднаго. Мне здаецца, што я ведаў Нову ўсё маё жыццё. Што ж да Сірыуса, дык гэта жамчужына ўсіх сусветаў. Яму ўжо паўтара гады. Нягледзячы на павышаную сілу прыцягнення, ён разгульвае па караблі і бясконца лапоча. Мне не церпіцца паказаць яго людзям Зямлі.

Сёння ўранку я адчуў незвычайнае хваляванне, заўважыўшы, што Сонца стала набываць бачныя абрысы. Цяпер яно падобнае на більярдны шар і спакваля жаўцее. Я паказаў яго Сірыусу і Нове. Тлумачу ім, што гэта — галоўная зорка іх новага свету, і яны мяне разумеюць. Сірыус ужо гаворыць даволі хутка, і Нова амаль гэтаксама. Яны прыйшлі да гэтага амаль адначасна. О цуд мацярынства, цуд, творцам якога стаў я! У мяне не было магчымасці абудзіць усіх людзей Сароры ад жывёльнай апатыі, але вопыт з Новаю ўдаўся бліскуча.

Сонца няспынна павялічваецца. Я ўжо спрабую разгледзець у тэлескоп планеты і даволі лёгка арыентуюся. Вось Юпітэр, Сатурн, Марс... а вось і Зямля. Зямля!

Слёзы льюцца ў мяне з вачэй. Трэба пажыць столькі і так, як я на планеце малпаў, каб зразумець мае пачуцці... Прайшло ўжо семсот гадоў, як я пакінуў Зямлю, і я ведаю, што не ўбачу ўжо ні бацькоў, ні сяброў, але як жа хочацца ўбачыць людзей!

Дапаўшы да ілюмінатараў, мы глядзім на Зямлю, якая ўсё набліжаецца і набліжаецца. Ужо не патрэбен тэлескоп, каб разгледзець мацерыкі. Карабель выходзіць на арбіту.

Цяпер мы круцімся вакол маёй роднай планеты. Бачу, як праплываюць пад намі Аўстралія, Амерыка... і, нарэшце, Францыя. Мы абдымаемся са слязьмі радасці.

Мы ўсаджваемся ў другі катэр, які быў у нас на борце, і пакідаем карабель. Усе разлікі былі зроблены загадзя так, каб мы маглі прызямліцца на маёй радзіме, спадзяюся, непадалёк ад Парыжа.

Мы ўваходзім у атмасферу. Уступаюць у дзеянне тармазныя ракеты. Нова з усмешкаю пазірае на мяне. Яна ўжо даўно ўмее і ўсміхацца і плакаць. Мой сын з зіхоткімі ад захаплення вачыма працягвае свае маленькія ручкі да ілюмінатара. Пад намі Парыж. Я адразу ж пазнаю яго па Эйфелевай вежы.

Пераходжу на ручное кіраванне, каб прызямліцца як мага больш дакладна. О цуд тэхнікі! Праз сем стагоддзяў мне ўдаецца сесці на аэрадроме Арлі — ён не надта змяні-

ўся,— на самым краі поля, досыць далёка ад будынка аэрапорта. Нас павінны былі заўважыць, застаецца толькі яшчэ крыху пачакаць.

Ад будынкаў аэрапорта аддзялілася машына, яна імчыцца да нас. Я поўнасцю выключаю рухавікі. Мяне ажно трасе ад нецярпення. Якое ж уражанне зробяць на маіх зямных братоў мае сарорскія прыгоды! Спачатку, напэўна, яны мне і не павераць. Але ў мяне ёсць доказы — Нова, сын!

Машына вырастае на вачах.

Я, вядома, спадзяваўся на больш урачысты прыём — небагата народу з'явілася нас сустракаць. У машыне, здаецца, усяго толькі два чалавекі. Ну і дурань жа я: адкуль ім ведаць пра маё вяртанне! Дый аэрадром, напэўна, цяпер другарадны: на полі адзін самалёт і той стары.

Так, іх двое. Пакуль што я бачу іх дрэнна: ад шкла машыны адсвечвае сонца, і шкло бруднае. Шафёр і пасажыр — ён у форме, мабыць, афіцэр, бо я разгледзеў бліскучыя нашыўкі.

Машына спыняецца метраў за пяцьдзесят ад нас.

Я бяру сына на рукі і выходжу з катэра, за намі нерашуча ступае на зямлю Нова. Яна трохі баіцца, але страх хутка пройдзе.

З машыны выходзіць шафёр. Ён стаіць спінаю да нас, я не магу разгледзець яго праз высокую траву, што расце на полі паміж машынаю і катэрам. Вось ён адчыняе дзверцы, каб выйшаў пасажыр. Я не памыліўся, гэта афіцэр, не менш як маёр, я выразна бачу, як блішчаць нашыўкі. Ён саскочыў на зямлю. Вось ён ступае некалькі крокаў нам насустрач, выходзіць з высокай травы і паўстае перад намі ва ўвесь свой рост.

З дзікім крыкам Нова вырывае ў мяне з рук сына і імгненна хаваецца з ім у катэры, а я стаю, зусім здранцвелы, і не магу ні паварушыцца, ні вымавіць слова. Дык вось чаму тут адзначаныя мною раней машынальна такія старыя самалёт і машына, якім ужо даўно месца ў музеі...

Перада мною гарыла».

## Раздзел XII

Філіс і Джын адначасова ўзнялі схіленыя над рукапісам галовы і доўга ў маўчанні глядзелі адно на аднаго.

— Прыгожая містыфікацыя! — прагаварыў нарэшце Джын, спрабуючы бесклапотна засмяяцца.

Але Філіс заставалася ў задуменні. Некаторыя фрагменты гісторыі ўсхвалявалі яе — яна адчула ў іх шчырасць. Пра што і сказала сябру.

— Гэта даказвае,— запярэчыў Джын,— што паэты ёсць усюды, у кожным кутку сусвету. І жартаўнікі таксама.

Філіс зноў задумалася. Довад Джына не пераканаў яе. І ўсё ж, уздыхнуўшы, яна згадзілася:

— Ты маеш рацыю, Джын. Я думаю гэтаксама ж. Разумныя людзі? Людзі, надзеленыя мудрасцю? Не, гэта немагчыма: тут аўтар перайшоў усялякія межы. Але шкада іх!

— Цалкам з табою згодны. А цяпер час ужо вяртацца.

Ён распусціў ветразь, падставіўшы ўсю яго паверхню светлавым патокам трох сонцаў. Пасля пачаў перасоўваць шматлікія рычажкі кіравання, спрытна карыстаючыся ўсімі чатырма рукамі. А Філіс энергічна патрэсла валасатымі вушамі, выняла пудраніцу і, паколькі порт быў ужо блізкі, лёгкай ружовай пухоўкаю прыпудрыла пысачку, дбаючы пра сваю прыгажосць шымпанзэ.

# АЙЗЕК АЗІМАЎ

# ВЫРОДЛІВЫ ХЛАПЧУК

Як заўсёды, перш чым адчыніць наглуха зачыненыя дзверы, Эдзіт Фелоўз папраўіла свой рабочы халат і толькі пасля таго пераступіла тую нябачную лінію, што аддзяляла рэальны свет ад свету несапраўднага. Пры ёй былі запісная кніжка і аўтаручка, хоць з пэўнага часу яна не вяла больш сістэматычных запісаў, робячы іх толькі пры пільнай патрэбе.

На гэты раз яна несла з сабою і чамадан. «Гэта гульні хлопчыкам»,— усміхнуўшыся, растлумачыла яна вартаўніку, які даўным-даўно ўжо не задаваў ёй ніякіх пытанняў і толькі махнуў рукою, прапускаючы яе.

Як звычайна, выродлівы хлапчук адразу пачуў яе прыход і, плачучы, кінуўся ёй насустрач.

— Міс Фелоўз, міс Фелоўз,— мармытаў ён, вымаўляючы словы глуха, не зусім выразна, ва ўласцівай аднаму яму манеры.

— Што здарылася, Цімі?— спыталася яна, правёўшы рукою па яго страхалюднай галоўцы, зараслай густымі рудымі кудламі.

— Джэры вернецца, каб зноў гуляць са мной? Мне вельмі сорамна за тое, што адбылося.

— Не думай больш пра гэта, Цімі. З-за гэтага ты і плачаш?

Ён адвярнуўся.

— Не зусім, міс Фелоўз. Проста я зноў бачыў сон.

— Зноў той самы сон?— Міс Фелоўз сцяла зубы.

Вядома ж, гісторыя гэтая з Джэры павінна была выклікаць у Цімі стары сон.

Ён кіўнуў, спрабуючы ўсміхнуцца, і яго шырока расцягнутыя, выкручаныя губы агалілі занадта вялікія зубы.

— Калі ж я, нарэшце, вырасту настолькі, каб выйсці адсюль, міс Фелоўз?

— Хутка,— пяшчотна адказала яна, адчуваючы, як сціскаецца яе сэрца,— хутка.

Міс Фелоўз дазволіла Цімі ўзяць яе за руку і з задавальненнем адчула цёплы дотык грубай сухой скуры яго-най далоні. Ён павёў яе праз пакоі, з якіх складалася Першая Секцыя Стасіса, пакоі, несумненна, даволі камфартабельныя, але якія тым не менш былі для сямігадовага (а ці сямігадовага?) вырадка месцам вечнага зняволення.

Ён падвёў яе да акна, якое выходзіла на зарослую нізкім хмызняком лясістую мясцовасць, схаваную цяпер начной імглою. Не відаць было адсюль і прымацаваных да агароджы аб'яў, якія забаранялі кожнаму, хто б той ні быў, набліжацца сюды без спецыяльнага дазволу.

Прыціснуўшыся носам да шыбы, ён сказаў:

— Я змагу туды выйсці, міс Фелоўз?

— Ты ўбачыш мясціны намнога лепшыя, прыгажэйшыя, чым гэтыя,— журботна адказала яна, гледзячы на няшчасны твар маленькага нявольніка.

На яго нізкі скасабочаны лоб пучкамі звісалі зблытаныя пасмы валасоў. На патыліцы быў вялікі выступ, галава дзіцяці здавалася празмерна цяжкай, хілячыся наперад, яна прымушала яго горбіцца. Ужо пачалі разрастацца, расцягваючы скуру, надброўныя дугі. Яго масіўны рот намнога больш выдаваўся наперад, чым шырокі прыплюснуты нос, а падбародка не было і ў зародзе — толькі сківічная костка, апушчаная ўніз. Як на свой узрост быў ён занадта малы, крываногі і няўклюдны.

Гэта быў неверагодна выродлівы хлопчык, і Эдзіт Фелоўз яго вельмі любіла.

Губы яе задрыжалі — яна магла дазволіць сабе цяпер такое, бо яе твар быў па-за полем зроку дзіцяці.

Не, яны не заб'юць яго. Яна пойдзе на ўсё, каб перашкодзіць гэтаму. На ўсё. Яна адчыніла чамадан і пачала выймаць адтуль адзенне хлопчыку...

* * *

Эдзіт Фелоўз упершыню пераступіла парог акцыянернай кампаніі «Стасіс Інкарпарэйтэд» крыху больш трох гадоў таму назад. Тады ў яе не было ніякусенькага ўяўлення пра тое, што хавалася за гэтаю назваю. Зрэшты, гэтага ў той час не ведаў ніхто, за выключэннем тых, хто там працаваў. І сапраўды, ашаламляльнае паведамленне ўзрушыла свет толькі на другі дзень пасля яе прыходу.

А незадоўга да гэтага яны далі ўсяго толькі лаканічную аб'яву, у якой запрашалі на работу жанчыну, што валодае ведамі ў галіне фізіялогіі, вопытам у медыцынскай хіміі і якая любіць дзяцей. Эдзіт Фелоўз працавала медсястрой у радзільным аддзяленні і таму прыйшла да вываду, што яна адпавядае ўсім гэтым патрабаванням.

Джэральд Хоскінс, доктар фізічных навук, пра што сведчыла замацаваная на яго пісьмовым стале пласцінка з адпаведным запісам, пацёр шчаку вялікім пальцам і пачаў уважліва яе разглядаць.

Інстынктыўна сцяўшыся, міс Фелоўз адчула, што ў яе пачынае торгацца твар.

Сам жа ён зусім не прыгажун, з крыўдаю падумала яна, лысее, паўнее, ды і губы ў яго нейкія панурыя, замкнутыя... Але пакольк і сума, прапанаваная за работу, аказалася намнога вышэйшая за тую, на якую яна разлічвала, міс Фелоўз вырашыла не спяшацца з вывадамі...

— Значыць, вы сапраўды любіце дзяцей?— спытаўся Хоскінс.

— Інакш я не стала б прытварацца.

— А можа быць, вы любіце толькі харошанькіх дзяцей? Гэтакіх прывабных херувімчыкаў з малюсенькімі носікамі?

— Дзеці заўсёды застаюцца дзецьмі, доктар Хоскінс,— адказала міс Фелоўз,— і здараецца, што менавіта непрыгожыя дзеці больш за іншых маюць патрэбу ў падтрымцы.

— Дапусцім, што мы возьмем вас...

— Вы хочаце сказаць, што згодны наняць мяне?

На яго шырокім твары мільганула ўсмешка, надаўшы яму на нейкае імгненне дзіўную прывабнасць.

— Я хутка прымаю рашэнні,— сказаў ён.— Пакуль што я нічога не прапаноўваю вам, і можа стацца, што адпушчу вас ні з чым. А самі вы гатовы прыняць маю прапанову?

Сціснуўшы рукамі сумачку, міс Фелоўз з усёй хуткасцю, на якую яна была здольная, стала падлічваць моўчкі тыя выгоды, якія абяцала ёй новая работа, але, падпарадкоўваючыся раптоўнаму імпульсу, адкінула раптам усе разлікі.

— Так.

— Цудоўна. Сёння вечарам мы збіраемся пусціць Стасіс у ход, і я думаю, што вам неабходна прысутнічаць пры гэтым, каб адразу ж прыступіць да сваіх абавязкаў. Гэта адбудзецца ў восем гадзін вечара, і я спадзяюся, што ўбачу вас тут у сем трыццаць.

— Але, што...

— Добра, добра. Пакуль усё...

Па сігналу ўвайшла сакратарка і, усміхаючыся, правяла яе з кабінета.

Выйшаўшы, міс Фелоўз нейкі час моўчкі глядзела на зачыненыя дзверы, за якімі застаўся містэр Хоскінс. Што такое Стасіс? Якія адносіны да дзяцей мае гэты вялізны, падобны на адрыну, будынак, служачыя з незразумелымі значкамі на адзенні, доўгія калідоры і тая характэрная атмасфера менавіта тэхнічнага прадпрыемства, якую ні з чым нельга зблытаць?

Яна пыталася ў сябе, ці варта вяртацца сюды вечарам, ці не лепш не прыходзіць зусім і тым самым правучыць гэтага чалавека за яго пагардлівую паблажлівасць. Але ў той самы час яна не сумнявалася, што вернецца, хоць бы толькі з незадаволенай цікаўнасці. Яна павінна высветліць, пры чым жа тут усё-такі дзеці.

Калі роўна а палове восьмай яна зноў прыйшла, то адразу звярнула ўвагу на тое, што ёй не спатрэбілася нічога пра сябе паведамляць. Усе, хто трапляўся ёй на дарозе, як мужчыны, так і жанчыны, здавалася, вельмі добра ведалі не толькі тое, хто яна, але і характар яе будучай работы. Яе адразу правялі ў будынак.

Яна ўбачыла доктара Хоскінса, але той, мелькам зірнуўшы на яе і невыразна назваўшы яе імя, нават не запрасіў яе сесці. Яна сама спакойна падсунула да парэнчаў крэсла і села.

Яны былі на балконе, з якога адкрываўся від на вялізную шахту, запоўненую нейкімі прыборамі, падобнымі на штосьці сярэдняе паміж пультам кіравання касмічнага карабля і кантрольнай панеллю электроннай лічыльнай машыны.

У другой частцы шахты ўзвышаліся перагародкі, якія служылі сценамі для кватэры без столі. Гэта быў як бы гіганцкі лялечны домік, унутранае абсталяванне якога праглядвалася як на далоні з таго месца, дзе сядзела міс Фелоўз.

Яна выразна бачыла ў адным з пакояў электронную пліту і халадзільную ўстаноўку, а ў другім — абсталяванне ваннай. А прадмет, які ёй удалося разгледзець у трэцім пакоі, мог быць толькі часткаю ложка, маленькага ложка...

Хоскінс размаўляў з нейкім мужчынам. Хоскінс іх не пазнаёміў, і міс Фелоўз нічога не заставалася, як спадцішка назіраць за ім. Гэта быў худы мужчына сярэдніх гадоў,

даволі прыемнай знешнасці, у яго былі маленькія вусікі і жывыя вочы, якія, здавалася, усё бачаць.

— Я зусім не збіраюся, доктар Хоскінс, рабіць выгляд, што мне ўсё гэта зразумела,— гаварыў ён.— Я хачу сказаць, што разумею сёе-тое ў тых межах, якія даступны дастаткова інтэлігентнаму неспецыялісту. Але, нават улічваючы межы маёй кампетэнцыі, я хачу заўважыць, што адзін бок праблемы мне менш зразумелы, чым другі. Я маю на ўвазе выбарачнасць. Вы здольны прайсці вельмі далёка, дапусцім, гэта можна зразумець. Чым далей вы рухаецеся, тым больш туманныя, расплывістыя робяцца аб'екты, а гэта патрабуе вялікай затраты энергіі. Добра. Але ў той жа час вы не можаце дасягнуць больш блізкага аб'екта. Вось гэта і ёсць загадка для мяне.

— Калі вы дазволіце мне скарыстаць аналогію, Дэвеней, я паспрабую паказаць вам праблему ў такім святле, каб яна здавалася менш парадаксальнай.

Імя незнаёмага, якое прамільгнула ў размове, міжволі зрабіла на міс Фелоўз уражанне, яна адразу здагадалася, хто ён. Гэта, відаць, быў сам Кандзід Дэвеней, які пісаў для тэлевізійных навін нарысы на навуковыя тэмы, той Кандзід Дэвеней, асабістай прысутнасцю якога былі адзначаны ўсе самыя буйныя падзеі ў навуковым свеце. Цяпер ягоны твар здаўся ёй знаёмым. Вядома ж, гэта менавіта яго яна бачыла на экране, калі аб'явілі пра пасадку касмічнага карабля на Марс. А калі гэта сапраўды той самы Дэвеней, то гэта магло азначаць толькі тое, што доктар Хоскінс збіраецца зараз прадэманстраваць нешта вельмі важнае.

— Калі вы лічыце, што гэта дапаможа, то чаму б вам і не выкарыстаць аналогію?— спытаўся Дэвеней.

— Ну, добра. Значыць, так: вы, безумоўна, ведаеце, што вы не зможаце чытаць кнігу з шрыфтам звычайнага кегля, калі кніга гэтая ад вас на адлегласці ў шэсць футаў, але гэта адразу робіцца магчымым, як толькі адлегласць паміж вашымі вачыма і кнігаю скароціцца да фута. Як вы бачыце, у дадзеным выпадку пакуль што дзейнічае правіла — чым бліжэй, тым лепш. Але калі вы наблізіце кнігу настолькі, што паміж ёю і вашымі вачыма застанецца ўсяго адзін толькі дзюйм, вы зноў страціце здольнасць чытаць яе. Адсюль вам павінна быць зразумела, што існуе такая перашкода, як вельмі вялікая блізкасць.

— Хм,— хмыкнуў Дэвеней.

— А вось вам другі прыклад. Адлегласць ад вашага правага пляча да кончыка ўказальнага пальца правай рукі

складае прыкладна трыццаць дзюймаў, і вы можаце свабодна дакрануцца гэтым пальцам да правага пляча. Адлегласць жа ад вашага правага локця да кончыка ўказальнага пальца той жа рукі напалову меншая, і калі кіравацца самай простай логікай, то выходзіць, што дакрануцца правым указальным пальцам да правага локця лягчэй, чым да правага пляча, аднак жа зрабіць вы гэтага не можаце. І зноў перашкаджае тая ж занадта вялікая блізкасць.

— Вы дазволіце скарыстаць гэтыя аналогіі ў маім паведамленні?— спытаў Дэвеней.

— Калі ласка. Я буду толькі рады, я ж даволі доўга чакаў каго-небудзь накшталт вас, хто напісаў бы пра нашу работу. Я дам вам усе неабходныя звесткі. Нарэшце-такі прыйшоў час, калі мы можам дазволіць усяму свету зазірнуць цераз наша плячо. І свет сёе-тое ўбачыць.

Міс Фелоўз злавіла сябе на тым, што насуперак свайму жаданню захапляецца яго спакоем і ўпэўненасцю. У ім адчувалася вялізная сіла.

— Якая мяжа вашых мажлівасцей? — спытаўся Дэвеней.

— Сорак тысяч гадоў.

У міс Фелоўз заняло дыханне.

— Гадоў?!

Здавалася, само паветра застыла ў напружанні. Людзі каля пультаў кіравання амаль не рухаліся. Хтосьці аднастайна кідаў у мікрафон кароткія фразы, сэнсу якіх міс Фелоўз не магла ўлавіць.

Перагнуўшыся цераз парэнчы балкона, Дэвеней уважліва ўзіраўся ў тое, што адбывалася ўнізе.

— Мы ўбачым што-небудзь, доктар Хоскінс? — спытаўся ён.

— Што вы сказалі? Не, мы нічога не ўбачым, пакуль усё не здзейсніцца. Мы выяўляем прадмет толькі ўскосна, як бы па прынцыпе радарнай устаноўкі з той розніцай, што замест электрамагнітных хваль мы аддаём перавагу мезонам. Пры адпаведных умовах мезоны вяртаюцца, прычым пэўная частка з іх адбіваецца ад якіх-небудзь аб'ектаў, і наша задача заключаецца ў даследаванні характару гэтых адбіткаў.

— Мусіць, гэта даволі цяжкая задача.

На твары ў Хоскінса прамільгнула яго звычайная ўсмешка.

— Перад вамі вынік пяцідзесяці гадоў настойлівых пошукаў. Асабіста я заняўся гэтай праблемай дзесяць гадоў таму назад. Так, усё гэта сапраўды вельмі нялёгкае.

Чалавек каля мікрафона падняў руку.

— Ужо некалькі тыдняў мы фіксуем адзін пэўны момант, аддалены ад нас у часе. Папярэдне разлічыўшы свае перамяшчэнні ў часе, мы то спыняем дослед, то ўзнаўляем яго, яшчэ і яшчэ раз правяраючы нашу здольнасць з дастатковай дакладнасцю арыентавацца ў часе. Цяпер гэта павінна спрацаваць бездакорна.

Але лоб у містэра Хоскінса блішчаў ад поту.

Міс Фелоўз раптам заўважыла, што яна машынальна пакінула сваё крэсла і таксама стаіць каля парэнчаў, але глядзець пакуль што не было на што.

— Зараз,— спакойна вымавіў чалавек каля мікрафона.

Наступіла цішыня, якая цягнулася роўна столькі, колькі патрабуецца часу на адзін уздых, і з лялечнага доміка пачуўся прарэзлівы лямант насмерць перапужанага дзіцяці.

— Жах! Невыказны жах!..

Міс Фелоўз павярнула галаву на крык. Яна забылася, што ва ўсё гэта ўблытана дзіця.

А Хоскінс, стукнуўшы кулаком па парэнчах, голасам, які зусім змяніўся і дрыжаў ад трыумфу, прамовіў:

— Атрымалася.

Міс Фелоўз, якую цвёрдаю рукою штурхнуў у спіну, нават не загаварыўшы з ёю, Хоскінс, спусцілася па кароткай вінтавой лесвіцы ў шахту.

Тыя, хто да гэтага моманту быў каля прыбораў, сабраліся цяпер тут. Яны курылі і, усміхаючыся, назіралі за тройцай, што паявілася ў галоўным памяшканні. Ад доміка чулася слабае гудзенне.

— Уваходжанне ў Стасіс не ўяўляе ніякай небяспекі,— звярнуўся Хоскінс да Дэвенея.— Я сам рабіў гэта многа разоў. На нейкае імгненне ў вас з'явіцца дзіўнае адчуванне, якое абсалютна не ўплывае на арганізм.

Нібы хочучы прадэманстраваць слушнасць сваіх слоў, ён увайшоў у адчыненыя дзверы. Напружана ўсміхаючыся і чамусьці зрабіўшы глыбокі ўдых, за ім услед рушыў Дэвеней.

— Хадземце ж сюды, міс Фелоўз!— нецярпліва выгукнуў Хоскінс і павабіў яе пальцам.

Міс Фелоўз кіўнула і нязграбна пераступіла парог. Усё яе цела скаланулі дрыжыкі, але, як толькі яна апынулася ў доме, адчуванне гэтае знікла. У доме пахла свежым дрэвам і вільготнаю глебай.

Цяпер тут было ціха, ва ўсякім выпадку, не чуваць было голасу дзіцяці, але затое аднекуль чуўся шоргат ног і шолах, нібы хтосьці мацаў дрэва. Потым пачуўся стогн.

— Дзе ж ён?— з адчаем усклікнула міс Фелоўз. Няўжо гэтым дурням не рупіць, што там адбываецца?

Хлопчык быў у спальні, ці, дакладней, у пакоі, дзе стаяў ложак.

Ён быў зусім голы, і яго запэцканыя граззю грудзі хадзілі хадуном. Ахапак змяшанай з граззю шорсткай травы рассыпаўся па падлозе каля яго босых рудых ног. Ад гэтае травы ішоў пах зямлі, змешаны з нейкім смуродам.

Хоскінс убачыў відавочны жах у яе вачах і злосна сказаў:

— Не было ніякай мажлівасці, міс Фелоўз, выцягнуць хлопчыка чыстым з такой глыбіні стагоддзяў. Мы вымушаны былі захапіць дзеля яго бяспекі сёе-тое з таго, што было каля яго. Можа, вы палічылі б за лепшае, каб ён з'явіўся сюды без нагі альбо часткі чэрапа?

— Прашу вас, не трэба!— усклікнула міс Фелоўз у знямозе.— Чаму мы бяздзейнічаем? Беднае дзіця спужалася. І яно *бруднае*!

І сапраўды. На хлопчыкавым целе засох бруд і нейкі тлушч, а ўсё сцягно перасякала чырвоная драпіна.

Калі Хоскінс наблізіўся да хлопчыка, якому на выгляд было не больш чым тры гады, той нізка нагнуўся і хуценька адскочыў назад. Яго верхняя губа адтапырылася, і з яго вырваўся нейкі дзіўны гук — нешта сярэдняе паміж бурчаннем і кашачым шыпеннем.

Хоскінс імклівым рухам схапіў за руку дзіця, якое адчайна крычала і выкручвалася, і адарваў яго ад падлогі.

— Трымайце яго так,— сказала міс Фелоўз.— Перш за ўсё яму неабходна цёплая ванна. Яго трэба як след адмыць. У вас ёсць тут усё неабходнае? Калі ёсць, то папрасіце прынесці рэчы сюды і хоць бы напачатку дапамажыце мне з ім справіцца. Апрача таго, дзеля ўсяго святога, дайце загад, каб прыбралі ўвесь гэты бруд і смецце.

Цяпер прыйшла яе пара аддаваць загады, і адчувала яна сябе ў новай ролі цудоўна. А паколькі разгубленая наглядальніца саступіла месца вопытнай медыцынскай сястры, яна зірнула на дзіця ўжо другімі вачыма, з пункту гледжання прафесіянала, і на нейкі міг замерла ад збянтэжанасці. Бруд, яго лямант, яго цела, якое выкручвалася ў марнай барацьбе,— усё гэта кудысьці адступіла. Яна разгледзела само дзіця.

Гэта быў самы выродлівы хлапчук з усіх, якіх ёй даводзілася калі-небудзь бачыць. Ён увесь быў неверагодна пачварны — ад страхалюднай галавы да выгнутых колам ног.

З дапамогаю трох мужчын ёй удалося выкупаць хлопчыка.

Астатнія ў гэты час спрабавалі прыбраць памяшканне. Яна працавала моўчкі, з пачуццём знявагі, раздражнёная крыкамі і супраціўленнем.

Доктар Хоскінс намякаў ёй, што дзіця будзе непрыгожае, але хто ж мог падумаць, што яно акажацца такое пачварнае. І ні мыла, ні вада не маглі да канца перабіць агідны пах, што ішоў ад яго і толькі паступова пачаў крыху слабець.

Ёй раптам невыносна захацелася шпурнуць намыленага хлопчыка Хоскінсу на рукі і пайсці, але яе ўтрымлівала прафесійная гордасць. У рэшце рэшт яна ж сама згадзілася на гэтую работу... Апрача таго, яна ўявіла, якімі вачыма гляне на яе доктар Хоскінс, уявіла яго халодны позірк, у якім яна прачытае непазбежнае пытанне: «Значыць, вы ўсё-такі любіце толькі прыгожых дзяцей, міс Фелоўз?»

Доктар Хоскінс стаяў крыху воддаль і з халоднай усмешкаю назіраў за ёй. Калі яна сустрэлася з ім позіркам, ёй здалося, што пачуццё абражанай годнасці, якое гарэла ў яе душы, яго проста забаўляе.

Яна тут жа вырашыла, што крыху пачакае з адыходам. Цяпер гэта толькі зняважыла б яе.

Калі скура ў дзіцяці набыла нарэшце ніштаватае ружовае адценне і запахла духмяным мылам, яна, нягледзячы на ўсе перажыванні, адчула сябе лепш. Крычаць хлопчык ужо не мог, ён толькі стомлена скуголіў, а яго перапуджаны, насцярожаны позірк перабягаў з аднаго твару на другі, не выпускаючы з-пад увагі нікога ў пакоі. Тое, што ён быў цяпер чысты, толькі падкрэслівала худзізну яго голага цела, якое пасля ванны дрыжэла ад холаду.

— Дайце ж, нарэшце, начную сарочку дзіцяці!— рэзка сказала міс Фелоўз.

У той жа міг аднекуль з'явілася начная сарочка. Здавалася, што ўсё было падрыхтавана загадзя, аднак ніхто не сыходзіў з месца да яе загаду, нібы знарок пакідаючы за ёй права распараджацца і тым самым выпрабоўваць яе.

— Я падтрымаю яго, міс,— падышоўшы да яе, сказаў Дэвеней.— Адна вы не справіцеся.

— Дзякую вам.

Пакуль ім удалося надзець на дзіця сарочку, яны вытрымалі сапраўдную бітву, а калі хлопчык паспрабаваў садраць яе, міс Фелоўз моцна стукнула яго па руцэ.

Дзіця пачырванела, але не заплакала. Яно ўтаропілася на яе, мацаючы няўклюднымі пальцамі фланель сарочкі, нібы даследавала гэты невядомы яму прадмет.

«А цяпер што?»— з адчаем падумала міс Фелоўз.

Усе яны, нават выродлівы хлопчык, замерлі, як бы чакаючы, што яна будзе рабіць далей.

— Вы паклапаціліся пра ежу, пра малако?— рашуча спыталася міс Фелоўз.

Яны прадугледзелі і гэта. У пакой укацілі спецыяльны перасоўны агрэгат, які складаўся з халадзільнага аддзялення, у якім стаялі тры кварты малака, і награвальнага прыстасавання; у ім мелася таксама вялікая колькасць стымулюючых сродкаў: вітамінізаваныя кроплі, медна-кобальтава-жалезісты сіроп і шмат іншых прэпаратаў, разгледзець якія яна не паспела. Апрача таго, там быў набор дзіцячага харчу пастаяннай цеплыні.

Напачатак яна ўзяла адно толькі малако. Электронная ўстаноўка за нейкія дзесяць секунд сагрэла яго да неабходнай тэмпературы і аўтаматычна выключылася. Яна наліла крыху малака ў сподачак, не сумняваючыся ў тым, што ўзровень дзіцяці вельмі нізкі і яно не ўмее карыстацца кубкам.

Міс Фелоўз кіўнула хлопчыку і сказала:

— Пі, ну пі.— Яна жэстам паказала яму, як паднесці сподачак да рота. Вочы дзіцяці сачылі за яе рухамі, але яно не зварухнулася.

Раптам яна наважылася. Схапіўшы хлопчыка за руку вышэй локця, яна апусціла сваю свабодную руку ў малако і правяла ёю хлопчыку па губах — кроплі малака пацяклі па яго шчоках і падбародку.

Ён адчайна залямантаваў, але раптам змоўк і пачаў аблізваць свае вільготныя губы. Міс Фелоўз адступіла назад.

Хлопчык наблізіўся да сподачка, нахіліўся да яго і, хутка азірнуўшыся па баках, нібы выглядаючы стоенага ворага, зноў нагнуўся да малака і пачаў яго прагна хлябтаць, як кошка. Ён нават і не спрабаваў прыпадняць сподак, а з грудзей яго вырываліся нейкія няпэўныя гукі.

Міс Фелоўз, гледзячы на ўсё гэта, не магла да канца скрыць свае пачуцці, якія адбіліся, відаць, у яе на твары, таму што Дэвеней, зірнуўшы на яе, сказаў:

— Доктар Хоскінс, а сястра ў курсе таго, што адбываецца?

— У курсе чаго?— пацікавілася міс Фелоўз.

Дэвеней завагаўся, але Хоскінс, па выразе твару якога можна было западозрыць, што ўсё гэта ў глыбіні душы яго забаўляла, сказаў:

— Ну што ж, можаце ёй сказаць.

— Вы, відаць, нават не здагадваецеся,— звярнуўся Дэвеней да міс Фелоўз,— што выпадкова менавіта вы — першая ў гісторыі цывілізаваная жанчына, якой давялося даглядаць дзіця-неандэртальца.

Стрымліваючы гнеў, міс Фелоўз павярнулася да Хоскінса.

— Вы маглі мяне папярэдзіць загадзя, доктар?

— А навошта? Якая вам розніца?

— Гаворка ж ішла пра дзіця?

— А хіба гэта не дзіця? У вас калі-небудзь былі шчанюк ці кацяня, міс Фелоўз? Хіба ў іх больш чалавечага? А калі б гэта было дзіцянё шымпанзэ, вы адчулі б агіду да яго? Вы медыцынская сястра, міс Фелоўз. Мяркуючы па вашых дакументах, вы працавалі тры гады ў радзільным аддзяленні. Вы калі-небудзь адмаўляліся даглядаць дзіця-вырадка?

— Вы ўсё-такі маглі б сказаць мне гэта раней,— ужо менш рашуча сказала яна.

— Каб вы своечасова маглі адмовіцца ад гэтай работы? Ці не выходзіць, што вы хочаце зрабіць гэта цяпер?

Ён холадна паглядзеў ёй у вочы. З другога канца пакоя за імі назіраў Дэвеней, а маленькі неандэрталец, выпіўшы малако і вылізаўшы начыста сподак, падняў да яе свой мокры твар з шырока расплюшчанымі вачыма, у якіх была нейкая просьба.

Хлопчык жэстам паказаў на малако, і раптам пакой напоўнілі бесперапынныя адны і тыя ж адрывістыя гартанныя гукі ўперамежку з адмысловым прыцмокваннем языком.

— А ён жа гаворыць!— здзіўленна ўсклікнула міс Фелоўз.

— Вядома,— сказаў Хоскінс.— Homo neanderthalis сапраўды з'яўляецца не асобным відам, а хутчэй разнавіднасцю Homo sapiens. Дык чаму б яму не ўмець гаварыць? Зусім магчыма, што ён просіць яшчэ малака.

Міс Фелоўз машынальна пацягнулася да бутэлькі, але Хоскінс схапіў яе за руку.

— А цяпер, міс Фелоўз, перш чым вы зробіце яшчэ хоць адзін крок, вы павінны сказаць, застаяцеся вы ці не.

Міс Фелоўз са злосцю вызваліла руку.

— А калі я пайду, вы што, не будзеце тады карміць яго? Я пабуду з ім... пэўны час.

Яна наліла дзіцяці малака.

— Мы маем намер пакінуць вас тут з хлопчыкам, міс Фелоўз,— сказаў Хоскінс.— Гэта адзіны ўваход у Першую Секцыю Стасіса. Дзверы абавязкова замыкаюцца і ахоўваюцца звонку. Я хацеў бы, каб вы азнаёміліся з сістэмай замка, які будзе, вядома, адпаведна настроены на адбіткі вашых пальцаў, як ён настроены на адбіткі маіх. Тэрыторыя ўгары (ён узняў позірк туды, дзе павінна была быць столь у гэтым лялечным доміку) ахоўваецца таксама, і мы будзем папярэджаны ў любым выпадку, калі тут здарыцца нешта незвычайнае.

— Вы хочаце сказаць, што я ўвесь час буду знаходзіцца пад наглядам?— абурана ўсклікнула міс Фелоўз, раптам успомніўшы, як яна сама разглядала з балкона ўнутраную частку памяшкання.

— Ды не,— сур'ёзна запэўніў яе Хоскінс,— мы гарантуем, што ніводзін староннi назіральнік не будзе сведкам вашага прыватнага жыцця. Усе аб'екты ў выглядзе электронных сімвалаў перадаюцца вылічальнай машыне, і толькі яна будзе мець з імі кантакт. Вам давядзецца правесці з ім гэтую ноч, міс Фелоўз, а таксама ўсе наступныя, да асобага распараджэння. Мы дамо вам некалькі вольных гадзін днём і нават магчымасць самой зрабіць іх расклад паводле вашых асабістых патрэб.

Міс Фелоўз здзіўлена абвяла позіркам лялечны домік.

— А навошта ўсё гэта, доктар Хоскінс? Хіба хлопчык небяспечны?

— Ведаеце, міс Фелоўз, справа ўся тут у энергіі. Ён ніколі не павінен пакідаць гэтага памяшкання. Ніколі. Ні на секунду. Ні з якой нагоды, нават калі ад гэтага будзе залежаць яго жыццё. Нават дзеля таго, каб ўратаваць ваша жыццё, міс Фелоўз. Вы зразумелі мяне?

Міс Фелоўз горда ўскінула галаву.

— Я ведаю, што такое загад, доктар Хоскінс. Медыцынская сястра прывыкла да таго, каб у імя абавязку ахвяраваць сваёй бяспекаю.

— Выдатна. Вы заўсёды зможаце прасігналізаваць, калі вам што-небудзь спатрэбіцца.

І мужчыны пакінулі Стасіс.

* * *

Азірнуўшыся, міс Фелоўз убачыла, што хлопчык, не дакранаючыся да малака, па-ранейшаму не спускае з яе насцярожанага позірку. Яна паспрабавала жэстамі паказаць яму, як падняць сподак да рота. Ён не пераняў яе прыкладу, аднак на гэты раз, калі яна дакранулася да яго, ён ужо не закрычаў.

Яго перапуджаныя вочы ні на секунду не пераставалі сачыць за ёй, ловячы кожны яе рух. Яна раптам заўважыла, што інстынктыўна спрабуе супакоіць яго, паволі набліжаючы руку да яго валасоў, аднак каб рука яе была ўвесь час у полі зроку. Тым самым яна давала яму зразумець, што ў гэтым жэсце не крыецца ніякая небяспека.

І ёй удалося пагладзіць яго па галаве.

— Я хачу паказаць табе, як карыстацца прыбіральняй,— сказала яна.— Як ты лічыш, ты зможаш гэтаму навучыцца?

Гаварыла яна вельмі мякка і асцярожна, вельмі добра ўсведамляючы, што ён не зразумее ніводнага слова, аднак спадзеючыся на тое, што сам гук яе голасу супакоіць яго.

Хлопчык зноў зацмокаў языком.

— Можна ўзяць цябе за руку?— спыталася яна.

Яна працягнула яму абедзве рукі і замерла ў чаканні. Рука дзіцяці паволі пасунулася насустрач яе руцэ.

— Правільна,— крыкнула яна.

Калі рука хлопчыка была ўжо за нейкі дзюйм ад яе рук, смеласць пакінула яго, і ён адхапіў сваю руку назад.

— Ну што ж,— спакойна сказала міс Фелоўз,— пазней мы паспрабуем яшчэ раз. Табе не хочацца пасядзець?— яна паляпала рукою па ложку.

Марудна цягнуўся час, яшчэ больш марудна рухалася выхаванне дзіцяці. Ёй не ўдалося прывучыць яго ні да прыбіральні, ні да ложка. Калі хлопчыку відавочна захацелася спаць, ён апусціўся на голую падлогу і хуценька шмыгануў пад ложак. Яна нагнулася, каб зірнуць на яго, і з цемры на яе ўтаропіліся два агністыя вокі, і яна пачула знаёмае прыцмокванне.

— Ну, добра,— сказала яна,— калі ты адчуваеш сябе там у большай бяспецы, можаш спаць пад ложкам.

Яна прыкрыла дзверы спальні і падалася ў самы вялікі з трох пакояў, дзе ёй быў падрыхтаваны ложак, над якім па яе просьбе нацягнулі часовы тэнт.

«Калі гэтыя дурні хочуць, каб я тут і начавала,— падумала яна,— яны павінны павесіць люстэрка, памяняць шафу на больш ёмістую і абсталяваць асобны туалет».

* * *

Яна ніяк не магла заснуць, міжволі напружвала слых, каб толькі не прапусціць ніводнага гуку з суседняга пакоя. Яна пераконвала сябе, што дзіця не можа само выбрацца з дому, але, нягледзячы на гэта, яе грызла сумненне. Абсалютна гладкія сцены былі, безумоўна, вельмі высокія, але раптам хлопчык лазіць, як малпа. Зрэшты, Хоскінс запэўніў яе, што за ўсім тым, што адбываецца ўнізе, назіраюць спецыяльныя прыборы.

Нечакана ёй прыйшла ў галаву новая думка: а што, калі хлопчык усё-такі небяспечны? Небяспечны ў самым літаральным сэнсе гэтага слова. Не, Хоскінс не стаіў бы гэтага ад яе, не пакінуў бы яе тут адну, калі б...

Яна паспрабавала пераканаць сябе ў адваротным, унутрана смеючыся са свайго страху. Гэта ж было ўсяго толькі трох-чатырохгадовае дзіця. Аднак, нягледзячы на ўсе намаганні, ёй не ўдалося абрэзаць яму пазногці. А што, як ён, калі яна засне, надумаецца напасці на яе, пусціць у ход зубы і пазногці...

У яе пераняло дыханне. Як дзіўна... Яна пакутліва напружыла слых, і на гэты раз ёй удалося пачуць нейкі гук.

Хлопчык плакаў.

Не крычаў ад страху ці злосці, не выў і не скавытаў, а менавіта ціха плакаў, як прыбітае горам, вельмі няшчаснае адзінокае дзіця.

«Нябога»,— падумала міс Фелоўз, і ўпершыню пасля сустрэчы з ім сэрца яе працяў востры жаль.

Гэта ж дзіця, дык якое ж, па сутнасці, значэнне мае форма яго галавы. І гэта не проста дзіця, а дзіця, якое асірацела як ніводнае дзіця за ўсю гісторыю чалавецтва. Тысячы гадоў таму назад не толькі памерлі яго бацькі, але незваротна знікла ўсё, што некалі было яго светам. Груба выхаплены з таго даўняга часу, ён быў цяпер адзінаю ва ўсім свеце істотаю такога роду. Апошняю і адзінаю.

Яна адчула, як яе ўсё больш напаўняе глыбокая спагада і сорам за сваю бессардэчнасць. Старанна паправіўшы начную сарочку так, каб яна па мажлівасці лепш прыкрыла ёй ногі (ловячы адначасна сябе на зусім недарэчнай думцы пра тое, што заўтра ж трэба прынесці сюды халат), яна ўстала з пасцелі і пайшла ў суседні пакой.

— Хлопчык мой, хлопчык!— шэптам паклікала яна. Яна была ўжо наважылася сунуць руку пад ложак, але, сцяміўшы, што ён можа ўкусіць яе, вырашыла гэтага не рабіць. Яна запаліла начнік і адсунула ложак.

Няшчаснае дзіця, прытуліўшы калені да падбародка, скруцілася камячком у кутку, гледзячы на яе заплаканымі, поўнымі страху вачыма.

У змроку яго знешнасць здалася ёй менш агіднай.

— Ах ты, бядак, бядак,— сказала яна, асцярожна гладзячы яго па галаве, адчуваючы, як імгненна напружылася, а потым паступова расслабілася яго цела.— Бедны хлапчук. Можна мне пабыць з табою?

Яна села побач з ім на падлогу і пачала паволі і рытмічна гладзіць яго валасы, шчаку, руку, ціха спяваючы пяшчотную песеньку.

Пачуўшы яе спеў, дзіця падняло галаву, спрабуючы разгледзець пры слабым святле начніка яе губы, як бы зацікавіўшыся гэтым зусім новым для яго гукам.

Скарыстаўшы гэта, яна падцягнула яго бліжэй, і пяшчотным, але рашучым рухам ёй удалося паступова наблізіць яго галаву да свайго пляча. Яна прасунула руку пад яго ногі і не спяшаючыся, плаўна падняла яго сабе на калені. Зноў і зноў паўтараючы ўсё той жа адзін нескладаны куплет і не выпускаючы дзіця з рук, яна паволі гайдалася ўзад і ўперад, люляючы яго. Яна паступова супакоілася, і неўзабаве па яго роўным дыханні яна зразумела, што дзіця заснула.

Вельмі асцярожна, стараючыся не нарабіць шуму, яна падсунула на месца ложак і палажыла на яго дзіця. Накрыўшы соннага, яна паглядзела на яго. У сне ягоны твар здаваўся такім мірным, такім дзіцячым, што і сапраўды яго пачварнасць неяк менш кідалася ў вочы.

Ужо ідучы на дыбачках да дзвярэй, яна раптам падумала: «А што, калі ён раптам прачнецца?»— і пайшла назад.

Пераадолеўшы ўнутранае супраціўленне і авалодаўшы сваімі супярэчлівымі пачуццямі, яна ўздыхнула і паволі апусцілася на ложак побач з дзіцем.

Ложак ёй быў надта малы, і ёй давялося скурчыцца, каб неяк улегчыся на ім. Апрача таго, яна не магла пазбавіцца ад пачуцця няёмкасці, прычынаю якое была адсутнасць над ложкам тэнта. Але рука дзіцяці нясмела каўзанулася ў яе далонь, і праз нейкі час ёй усё-такі ўдалося задрамаць.

* * *

Яна прачнулася як ад раптоўнага штуршка і з цяжкасцю стрымала крык жаху, які ледзь не сарваўся з яе губ. Хлопчык глядзеў шырока расплюшчанымі вачымі ёй проста ў вочы, і ёй спатрэбілася даволі шмат часу, каб успомніць, як яна апынулася тут, на ягоным ложку. Паволі, не адводзячы ад яго позірку, яна спусціла на падлогу спачатку адну, потым другую нагу.

Кінуўшы імклівы спалоханы позірк угору, яна напружыла мускулы на апошні рашучы рывок, намагаючыся ўстаць з ложка.

Але ў той жа момант хлопчык выцягнуў руку, дакрануўся да яе губ сваімі падобнымі на цурбалкі пальцамі і штосьці сказаў.

Гэты дотык прымусіў яе адхіснуцца. Пры дзённым святле ён быў невыносна агідны.

Хлопчык зноў паўтарыў нейкую фразу, а потым, раскрыўшы шырокі рот, рухам рукі спрабаваў паказаць, быццам штосьці выліваецца ў яго з рота.

Міс Фелоўз задумалася, спрабуючы адгадаць значэнне гэтага жэста, і раптам усхвалявана ўсклікнула:

— Ты хочаш, каб я спявала?

Хлопчык маўкліва працягваў глядзець на яе губы.

Крыху фальшывячы ад натугі, міс Фелоўз пачала тую самую песеньку, што спявала яму напярэдадні ноччу, і маленькая пачвара ўсміхнулася, нязграбна гойдаючыся ў такт спеву. Чулася нейкае бульканне, якое можна было палічыць за смех.

Міс Фелоўз неўпрыкмет уздыхнула. Так, правільна кажуць, што музыка ўціхамірвае сэрца дзікуна. Яна можа дапамагчы...

— Пачакай крыху,— сказала яна,— дай мне прывесці сябе ў парадак, гэта зойме не больш хвіліны. А потым я згатую снеданне.

Ні на секунду не забываючыся, што столі тут няма, яна хутка скончыла свае справы. Хлопчык заставаўся ў пасцелі, уважліва сачыў за ёй, калі яна трапляла яму на вочы. І кожны раз яна ўсміхалася і махала яму рукой. Урэшце ён таксама памахаў ёй у адказ, і гэты жэст здаўся ёй проста чароўным.

— Ты хочаш малочнай аўсянкі?— спыталася яна, скончыўшы свае справы.

Згатаваць кашу было справаю некалькіх секунд, і калі ежа была на стале, яна паклікала яго рукой.

Невядома, ці ён зразумеў значэнне яе жэста, ці яго занабіў пах ежы, але хлопчык адразу ж вылез з пасцелі.

Яна спрабавала паказаць яму, як карыстацца лыжкаю, але ён са страхам адхіснуўся. («Нічога, наперадзе ў нас яшчэ шмат часу»,— падумала яна.) Аднак яна ўсё-такі дамаглася таго, што ён рукамі паднёс міску да рота. Ён паслухаўся, але рабіў усё так няўмела, што страшэнна выпэцкаўся, хоць трохі і з'еў.

Гэтым разам яна дала яму малако ў шклянцы, і хлапчук, заўважыўшы, што пасудзіна занадта малая, каб прасунуць у яе твар, жаласна захныкаў. Яна ўзяла яго за руку і, прыціснуўшы яго пальцы да шклянкі, прымусіла яго падняць шклянку да рота.

Зноў усё было абліта і запэцкана, але, як і першы раз, малако ўсё-такі трапіла яму ў рот. А што да бязладдзя, дык яна прывыкла і не да такога.

На яе здзіўленне, асвоіць туалет аказалася задачай больш простай, што вельмі яе задаволіла. На гэты раз ён даволі хутка зразумеў, чаго яна хоча ад яго. Яна злавіла сябе на тым, што гладзіць яго па галаве і прымаўляе:

— Вось гэта слаўны хлопчык, разумны хлопчык!

І дзіця ўсміхалася, прыносячы ёй нечаканае задавальненне. «Калі ўсміхаецца, ён, сапраўды, зусім ніштаваты»,— падумала яна.

У той жа дзень папрыязджалі прадстаўнікі прэсы. Пакуль яны прыладжвалі сваю апаратуру, яна ўзяла хлопчыка на рукі, і ён моцна прытуліўся да яе. Сумятня напужала яго, і ён моцна заплакаў, але нягледзячы на гэта, прайшло не менш за дзесяць хвілін, пакуль ёй дазволілі вынесці дзіця ў суседні пакой.

Яна хутка вярнулася, пачырванеўшы ад абурэння, і першы раз за васемнаццаць гадзін выйшла з доміка, шчыльна зачыніўшы за сабою дзверы.

— Я думаю, што на сёння вам хопіць. Цяпер мне богведама колькі спатрэбіцца часу, каб яго супакоіць. Ідзіце.

— Добра, добра,— сказаў джэнтльмен з «Таймс-Геральд».— А гэта сапраўды неандэрталец ці тут якое-небудзь жульніцтва?

— Запэўніваю вас, што гэта не містыфікацыя,— пачуўся аднекуль ззаду голас Хоскінса.— Дзіця — сапраўды Homo neanderthalis.

— Гэта хлопчык ці дзяўчынка?

— Гэта хлопчык-малпа,— умяшаўся джэнтльмен з «Ньюс».— Нам паказваюць не што іншае, як хлопчыкамалпу. Як ён сябе паводзіць, сястра?

— Ён паводзіць сябе гэтаксама, як і любы іншы маленькі хлопчык,— адрэзала міс Фелоўз. Злосць прымусіла яе стаць на абарону дзіцяці.— І зусім ён не хлопчык-малпа. Яго завуць... Цімаці, Цімі, і ён абсалютна нармальны ў сваіх дзеяннях.

Імя Цімаці было выбрана ёю зусім выпадкова — яно проста першае прыйшло ёй у галаву...

— Цімі — хлопчык-малпа,— рэкнуў джэнтльмен з «Ньюс», і менавіта з гэтай мянушкай дзіця стала потым вядомае ўсяму свету.

— Скажыце, док, што вы думаеце рабіць з гэтаю малпаю?— спытаўся ў Хоскінса джэнтльмен з «Глоба».

Хоскінс паціснуў плячыма.

— Бачыце, мая першапачатковая задача была ў тым, каб даказаць мажлівасць пераносу яго ў наш час. Аднак я лічу, што ён зацікавіць антраполагаў і фізіёлагаў. Перад намі ж істота, якая па сваім развіцці стаіць паміж жывёлаю і чалавекам. Нам даецца мажлівасць даведацца пра многае і ў нас саміх і ў нашых продках.

— Як доўга намераны вы трымаць яго тут?

— Колькі нам спатрэбіцца на яго вывучэнне плюс яшчэ нейкі перыяд пасля заканчэння даследавання. Не выключана, што на гэта спатрэбіцца шмат часу.

— Вы не маглі б вывесці яго з дому? Тады б нам удалося паставіць тэлевізійную апаратуру і зляпаць сапраўднае відовішча.

— Вельмі шкадую, але дзіця не можа пакінуць межаў Стасіса.

— А што такое Стасіс?

— Баюся, джэнтльмены, што тлумачэнне зойме занадта шмат часу.— Хоскінс дазволіў сабе ўсміхнуцца.— А коратка сутнасць справы ў тым, што час, якім уяўляем яго сабе мы, у Стасісе не існуе. Гэтыя пакоі нібы накрытыя нябачнай абалонкай і не з'яўляюцца ў поўным сэнсе часткаю нашага свету. Менавіта дзякуючы гэтаму і ўдалося, так сказаць, выцягнуць дзіця з плыні часу.

— Пачакайце,— перабіў джэнтльмен з «Ньюс», якога відочна не задаволіла тлумачэнне Хоскінса,— што гэта вы тут балбочаце? Сястра ж свабодна ўваходзіць і выходзіць з памяшкання.

— Гэта можа зрабіць кожны з вас,— паблажліва адказаў Хоскінс.— Вы будзеце рухацца паралельна часавым сілавым лініям, і гэта не выкліча якой-небудзь значнай страты альбо прытоку энергіі. Дзіця ж дастаўлена сюды з далёкага мінулага. Яго рух адбываўся ўпоперак сілавых

ліній, і яно набыло часавы патэнцыял. Каб перамясціць яго ў наш свет, у наш час, спатрэбіцца выдаткаваць усю энергію, якую назапасіла наша акцыянерная кампанія, а таксама, мажліва, і ўсе запасы энергіі горада Вашынгтона. Мы павінны былі захаваць дастаўленае сюды разам з хлопчыкам смецце, і нам давядзецца паступова, па крупінках выдаляць яго адсюль.

Пакуль Хоскінс даваў тлумачэнні, карэспандэнты штосьці дзелавіта страчылі ў сваіх блакнотах. З усяго сказанага яны нічагусенькі не зразумелі і былі перакананыя, што тое ж самае будзе і з іх чытачамі: аднак усё гучала вельмі навукова, а менавіта гэта і было патрэбна.

— Вы зможаце сёння вечарам даць інтэрв'ю? — спытаўся прадстаўнік «Таймс-Геральд».— Яно будзе перадавацца па ўсіх каналах.

— Думаю, што змагу,— хутка адказаў Хоскінс, і карэспандэнты пайшлі.

Міс Фелоўз моўчкі глядзела ім услед. Усё, што было сказана пра Стасіс і пра часавыя сілавыя лініі, яна зразумела не лепш, чым карэспандэнты. Але адно яна засвоіла цвёрда: Цімі (яна злавіла сябе на тым, што ўжо думае пра хлопчыка, як пра Цімі) быў сапраўды асуджаны на вечнае зняволенне ў сценах Стасіса, прычым гэта не было простым капрызам Хоскінса. Відаць, і сапраўды немажліва было выпускаць яго адсюль. Ніколі.

Беднае дзіця. Беднае дзіця.

Раптам да яе дайшло, што яно ўсё яшчэ плача, і яна паспяшалася назад, каб супакоіць яго.

* * *

Міс Фелоўз не ўдалося пабачыць выступленне Хоскінса. Хоць ягонае інтэрв'ю перадавалася не толькі ў самых аддаленых куточках Зямлі, а нават на станцыі на Месяцы, яно не пранікла ў маленькую кватэрку, дзе жылі цяпер яна і выродлівы хлапчук.

На раніцу Хоскінс спусціўся да іх, ззяючы ад трыумфу.

— Інтэрв'ю прайшло ўдала?— спыталася міс Фелоўз.

— Выключна ўдала. А як маецца... Цімі?

Пачуўшы, што ён назваў хлопчыка па імю, міс Фелоўз была прыемна здзіўлена.

— Усё ў парадку. Ідзі сюды, Цімі, гэта добры чалавек, ён цябе не пакрыўдзіць.

Але Цімі не захацеў выйсці з другога пакоя, і з-за дзвярэй быў відаць толькі касмыль яго злямцаваных вала-

соў ды час ад часу нясмела паказвалася адно бліскучае вока.

— Хлопчык надзіва хутка прывыкае да новых абставін, што ні кажы, ён даволі кемлівы.

— Вас гэта здзіўляе?

— Так. Баюся, што і я спачатку палічыла яго за дзіця малпы,— секунду павагаўшыся, адказала яна.

— Кім бы ён там ні быў, а пакуль што ён вельмі шмат зрабіў для нас. Ён жа прынёс славу «Стасіс Інкарпарэйтэд». Мы цяпер на кані, так, мы на кані.

Відаць, яму не цярпелася падзяліцца з кім-небудзь сваім трыумфам, хай сабе нават з ёй, з міс Фелоўз.

— Як жа вам удалося гэта зрабіць?— спыталася яна, даючы тым самым Хоскінсу магчымасць выказацца.

Засунуўшы рукі ў кішэні, Хоскінс працягваў:

— Дзесяць гадоў мы працавалі, маючы вельмі абмежаваныя сродкі, дабываючы дзе толькі можна літаральна кожны пенс. Мы былі проста абавязаны стварыць адразу нешта эфектнае, хай сабе дзеля гэтага давялося ўсё паставіць на карту. Запэўніваю вас, гэта была катаржная праца. Спроба выклікаць з глыбінь вякоў гэтага неандэртальца каштавала нам усіх грошай, якія ўдалося назбіраць, дзе пазычаючы, а дзе і крадучы, так, так, крадучы. На здзяйсненне гэтага эксперыменту пайшлі сродкі, асігнаваныя на іншыя мэты. Іх мы скарысталі без дазволу. Калі б вопыт не ўдаўся, са мною было б скончана.

— Таму ў доміку няма столі? — перапыніла яго міс Фелоўз.

— Што вы сказалі?

— Вам не хапіла грошай на столь?

— А! Бачыце, гэта было не адзінай прычынаю. Па праўдзе кажучы, мы не маглі адгадаць дакладны ўзрост неандэртальца. Нашы мажлівасці дакладнага выяўлення асаблівасцей аб'екта, так аддаленага ад нас у часе, пакуль што абмежаваныя, і ён мог аказацца істотаю велізарнага росту, а ў гэтым выпадку нам давялося б мець зносіны з ім на адлегласці, як з пасаджанай у клетку жывёлаю.

— Але паколькі ваша боязь не апраўдалася, вы маглі б цяпер, здаецца мне, наслаць столь.

— Цяпер так. У нас цяпер многа грошай. Усё гэта цудоўна, міс Фелоўз.— Усмешка не сыходзіла з яго шырокага твару, і калі ён павярнуўся, каб пайсці, здавалася, што нават спіна яго ўсміхаецца.

«Ён даволі прыемны чалавек, як забудзецца і скіне маску адлучанага ад усяго зямнога вучонага»,— падумала міс Фелоўз.

Ёй раптам захацелася даведацца, ці жанаты ён, але, спахапіўшыся, яна адагнала ад сябе гэтую думку.

— Цімі,— паклікала яна,— ідзі сюды, Цімі!

* * *

За прайшоўшыя з таго дня месяцы міс Фелоўз усё больш і больш пачынала адчуваць сябе неад'емнай часткай аб'яднанай кампаніі «Стасіс». Ёй быў дадзены асобны невялічкі кабінет, на дзвярах якога красавалася таблічка з яе імем. Кабінет быў даволі блізка ад лялечнага доміка (так яна называла камеру Стасіса, у якой жыў Цімі). Плацілі ёй цяпер намнога больш, чым спачатку, а ў лялечным доміку наслалі, нарэшце, столь і палепшылі ўнутранае абсталяванне: быў зроблены другі туалетны пакой, і, мала таго, яна атрымала ўласную кватэру на тэрыторыі Стасіса, і часам ёй удавалася нават там начаваць. Паміж лялечным домікам і гэтай яе новай кватэраю правялі ўнутраны тэлефон, і Цімі навучыўся ім карыстацца.

Міс Фелоўз прывыкла да Цімі настолькі, што нават менш стала заўважаць яго пачварнасць. Аднойчы на вуліцы яна злавіла сябе на тым, што нейкі хлопчык, што трапіўся ёй на дарозе, здаўся ёй надзвычай непрывабным — у яго быў высокі выпуклы лоб і з рэзкімі абрысамі падбародак. Ёй давялося зрабіць над сабой намаганне, каб пазбыцца гэтага наслання.

Куды больш прыемна было прывыкаць да выпадковых наведванняў Хоскінса. Было зусім відавочна, што ён з задавальненнем расставаўся на нейкі час са сваёй роллю кіраўніка акцыянернай кампаніі «Стасіс», якая яго стамляла, і што дзіця, з паяўленнем якога быў звязаны цяперашні росквіт, абуджала ў ім нешта накшталт сентыментальнасці. Але міс Фелоўз здавалася, што яму было прыемна гутарыць з ёй. (За гэты час яна даведалася, што Хоскінс распрацаваў метад аналізу адбіцця мезоннага промня, які пранікаў у мінулае, яго вынаходніцтвам быў і сам Стасіс. Халоднасць яго была чыста вонкавая, ёю ён спрабаваў замаскіраваць прыродную дабрыню, і — о, так, так — ён быў жанаты.)

Да чаго міс Фелоўз ніяк не магла прывыкнуць, дык гэта да думкі, што яна ўдзельнічае ў навуковым эксперыменце. Нягледзячы на ўсе намаганні, яна ўсё больш адчувала сябе

асабіста далучанай да ўсяго, што адбываецца, і не раз даходзіла да адкрытых сутычак з фізіёлагамі.

Аднойчы, спусціўшыся ўніз, Хоскінс убачыў яе ў такім гневе, што здавалася, яна ў той момант здольная забіць чалавека. Яны не мелі права, яны не мелі права... Нават калі гэта быў неандэрталец, усё роўна гэта быў чалавек, а не жывёла.

Яна сачыла за фізіёлагамі праз адчыненыя дзверы. Ледзь не аслепшы ад гневу, яна прыслухоўвалася да ўсклікаў Цімі. Раптам яна заўважыла побач з сабою Хоскінса.

— Можна ўвайсці?— спытаўся ён.

Злёгку кіўнуўшы, яна заспяшалася да Цімі, які прытуліўся да яе, ашчаперыў яе сваімі маленькімі крывымі і ўсё яшчэ вельмі худымі ножкамі.

— Вы ж ведаеце, што яны не маюць права праводзіць такіх доследаў над *чалавекам,*— сказаў Хоскінс.

— А я рашуча заяўляю, доктар Хоскінс, што яны не маюць права вырабляць гэта і з Цімі. Вы неяк сказалі мне, што з'яўленне Цімі дало жыццё Стасісу. Калі вы адчуваеце хоць кроплю ўдзячнасці, вы павінны ўратаваць бедака ад гэтых людзей, ва ўсякім разе да той пары, пакуль ён не падрасце настолькі, што пачне хоць крыху больш разумець. Пасля іх маніпуляцый ён не можа спаць, яго душаць кашмары. Я папярэджваю вас,— яе раз'юшанасць дасягнула кульмінацыі,— што я іх больш сюды не пушчу!— Да яе свядомасці дайшло, што яна перайшла на крык, але яна ўжо не валодала сабой.— Я ведаю, што ён неандэрталец,— крыху супакоіўшыся, працягвала яна,— але мы іх у многім недаацэньваем. Я чытала пра неандэртальцаў. У іх была свая культура, і некаторыя з найвялікшых чалавечых адкрыццяў, такія, як, напрыклад, прыручэнне жывёл, вынаходніцтва кола і розных тыпаў каменных жорнаў, былі зроблены менавіта ў іх эпоху. У іх, без сумнення, былі нават духоўныя патрэбы. Гэта відаць з таго, што пры пахаванні яны клалі нябожчыку яго асабістыя рэчы — значыць, яны верылі ў тагасветнае жыццё, магчыма, у іх ужо была нейкая рэлігія. Няўжо гэта не дае Цімі права на чалавечныя адносіны?

Яна пяшчотна паляпала хлопчыка па спіне і адправіла яго ў пакой гуляць. Калі дзверы адчыніліся, Хоскінс убачыў вялікае мноства розных цацак.

Ён усміхнуўся.

— Няшчаснае дзіця заслужыла гэтыя цацкі,— спешна заняўшы абаронную пазіцыю, сказала міс Фелоўз.— Гэта

ўсё, што ў яго ёсць, і ён зарабляе іх тымі пакутамі, на якія яго тут асудзілі.

— Не, не, запэўніваю вас, я нічога не маю супраць гэтага. Я толькі падумаў пра тое, як змяніліся вы самі з таго першага дня. Вы ж былі вельмі незадаволены, што я падсунуў вам неандэртальца.

— Мне здаецца, што я не была такая ўжо незадаволеная,— ціха запярэчыла міс Фелоўз, але тут жа змоўкла.

— Як вы лічыце, міс Фелоўз, колькі яму можа быць гадоў?— змяніў тэму Хоскінс.

— Я не магу вам гэтага сказаць з дастатковай дакладнасцю — мы ж не ведаем, як развіваліся неандэртальцы,— адказала міс Фелоўз.— Калі зыходзіць з яго росту, то яму не больш за тры гады, але неандэртальцы ўвогуле нізкарослыя, а калі ўлічыць характар тых доследаў, якія праводзяцца над ім, то ён, можа быць, зусім перастаў расці. А зыходзячы з таго, як ён засвойвае англійскую мову, можна заключыць, што яму больш за чатыры.

— Гэта праўда? Я штосьці не заўважыў у дакладах ні слова пра тое, што ён вучыцца гаварыць.

— Ён не будзе гаварыць ні з кім, апрача мяне, ва ўсякім разе цяпер. Ён усіх страшэнна баіцца, і гэта не дзіўна. Ён можа, напрыклад, папрасіць якой-небудзь пэўнай ежы. Больш таго, ён можа выказаць любое сваё жаданне і разумее амаль усё, што я кажу яму. Зрэшты, не выключана, што яго развіццё спыніцца.

Сказаўшы апошнюю фразу, міс Фелоўз напружана сачыла за выразам яго твару, імкнучыся выявіць, наколькі своечасова закранула яна гэтае пытанне.

— Чаму?

— Кожнаму дзіцяці патрэбна пэўная стымуляцыя, а Цімі жыве тут, як у адзіночным зняволенні. Я раблю яму ўсё, што мне па сіле, але ж я не ўвесь час каля яго, акрамя таго, у мяне няма мажлівасці даць яму ўсё, што яму трэба. Я хачу сказаць, доктар Хоскінс, што яму трэба гуляць з якім-небудзь іншым хлопчыкам.

Хоскінс паволі схіліў галаву.

— На жаль, мы маем усяго толькі аднаго такога хлопчыка. Беднае дзіця!

Пачуўшы гэта, міс Фелоўз адразу памякчэла.

— Вы ж любіце Цімі, праўда? — Было так прыемна ўсведамляць, што яшчэ нехта мае да дзіцяці цёплыя пачуцці.

— Вядома,— адказаў Хоскінс, на секунду страціўшы самакантроль, і за гэты кароткі міг ёй удалося заўважыць у яго вачах стомленасць.

Міс Фелоўз адразу ж адкінула намер давесці свой план да канца.

— Вы выглядаеце вельмі стомленым, доктар Хоскінс,— са шчырым спачуваннем сказала яна.

— Вы так думаеце? Я пастараюся выглядаць больш бадзёра.

— Мне здаецца, што «Стасіс Інкарпарэйтэд» не дае вам ні хвіліны спакою.

Хоскінс паціснуў плячыма.

— Ваша праўда. У аднолькавай ступені ў гэтым вінаватыя жывёла, расліны і мінералы, якія цяпер ёсць у нас. Дарэчы, міс Фелоўз, вы, мабыць, яшчэ не бачылі і нашых экспанатаў.

— Праўду кажучы, не... Але зусім не таму, што мяне гэта не цікавіць. Я ж была вельмі занятая ўвесь гэты час.

— Ну цяпер жа вы ўжо больш свабодная,— падпарадкоўваючыся нейкаму раптоўна прынятаму рашэнню, сказаў Хоскінс.— Я зайду па вас заўтра раніцою ў адзінаццаць і сам усё вам пакажу. Вам гэта падыходзіць?

— Цалкам, доктар Хоскінс, я буду вельмі рада,— усміхнуўшыся, адказала яна.

Ён кіўнуў, усміхнуўся ў адказ і выйшаў.

Увесь астатак дня міс Фелоўз у вольны ад работы час штосьці сама сабе напявала. І сапраўды ж, хоць нават сама думка пра гэта здавалася ёй надзвычай дзіўнай, але ж усё гэта было падобна... амаль падобна на тое, што ён прызначыў ёй спатканне.

* * *

Абаяльны і прыязны, ён з'явіўся на другі дзень дакладна ў назначаны час. Замест звыклага рабочага халата яна надзела на гэты раз сукенку. Дарэчы будзе сказаць, даволі старамоднага крою, але тым не менш ужо многа гадоў яна не адчувала сябе такой прывабнай.

Ён сказаў ёй некалькі стрыманых кампліментаў, і яна прыняла яго ўхвалу ў такой жа стрыманай манеры, падумаўшы, што гэта цудоўны пачатак. Аднак адразу ёй прыйшла ў галаву другая думка: «А ўласна кажучы, пачатак чаго?»

Каб адагнаць ад сябе такія думкі, яна паспяшалася развітацца з Цімі, паабяцаўшы яму, што хутка вернецца.

Хоскінс павёў яе ў новае крыло будынка, дзе яна да гэтага часу ні разу не была. Тут яшчэ захаваўся пах, уласцівы новым, толькі што збудаваным памяшканням. Адне-

куль даносіліся прыглушаныя гукі, якія даволі яскрава сведчылі пра тое, што будаўнічыя работы яшчэ не скончаны.

— Жывёла, расліны і мінералы,— зноў, як і напярэдадні, вымавіў Хоскінс.— Жывёла знаходзіцца тут — гэта найбольш яркі з нашых экспанатаў.

Уся ўнутраная частка будынка была падзелена на некалькі памяшканняў, кожнае з якіх уяўляла сабой асобную камеру Стасіса. Хоскінс падвёў яе да аглядната акна адной з іх, і яна зазірнула ўнутр. Істота, якая паўстала перад яе позіркам, здалася ёй спачатку чымсьці накшталт пакрытай лускою курыцы. Пагойдваючыся на двух худых лапках, істота гэтая бегала па камеры, імкліва паварочваючы з боку на бок зграбную птушыную галаву. На невялікай галаве дзіўнай істоты быў касцяны нарост, падобны на пеўнеў грэбень. Пальцападобныя адросткі кароткіх пярэдніх канечнасцей безупынна сціскаліся і растульваліся.

— Гэта наш дыназаўр,— сказаў Хоскінс.— Ён тут ужо некалькі месяцаў, і я не ведаю, калі мы зможам расстацца з ім.

— Дыназаўр?

— А вы чакалі ўбачыць гіганта?

Яна ўсміхнулася, і на яе шчоках паявіліся ямачкі.

— Мне здаецца, што некаторыя менавіта так іх сабе і ўяўляюць. Я ведаю, што існавалі дыназаўры і невялікіх памераў.

— Паверце, што мы імкнуліся дастаць менавіта маленькага дыназаўра. Звычайна яго ўвесь час вывучаюць, але цяпер, відаць, яму далі перадыхнуць. З яго дапамогай удалося зрабіць сякія-такія адкрыцці. Так, напрыклад, ён не цалкам халаднакроўная жывёліна. Ён валодае здольнасцю, праўда, недасканалай, падтрымліваць унутраную тэмпературу цела вышэй за тэмпературу навакольнага асяроддзя. На жаль, гэта самец. З таго самага часу, як ён паявіўся тут, мы не спыняем спроб зафіксаваць другога дыназаўра, які можа аказацца самкай, але да гэтага часу нам не шанцавала.

— А навошта патрэбна менавіта самка?

У вачах у яго мільганула яўная насмешка.

— У такім выпадку ў нас з'явілася б даволі рэальная магчымасць атрымаць аплодненыя яйкі, а значыць, і дзяцей дыназаўра.

— Ах, так.

Ён павёў яе да аддзялення трылабітаў.

— Перад вамі прафесар Дуйэн з Вашынгтонскага універсітэта,— сказаў Хоскінс.— Ён спецыяліст па ядзернай хіміі. Калі мяне не падводзіць памяць, ён займаецца выяўленнем ізатопнага саставу кіслароднай вады.

— З якою мэтаю?

— Гэта дагістарычная вада. Ва ўсякім выпадку, узрост яе вызначаецца, прынамсі, паўмільярдам гадоў. Ізатопны састаў дазваляе вызначыць тэмпературу акіяна ў тую эпоху. Самога Дуйэна трылабіты не цікавяць, іх анатаміраваннем займаюцца другія вучоныя. Ім пашанцавала: ім патрэбны толькі скальпелі і мікраскопы, тым часам як Дуйэну даводзіцца дзеля кожнага доследу ўстанаўліваць складаны мас-спектрограф.

— Але чаму? Хіба ён не можа?..

— Не, не можа. Яму нічога нельга выносіць з гэтага памяшкання да таго часу, пакуль існуе хоць нейкая магчымасць пазбегнуць гэтага.

Тут былі таксама сабраны ўзоры першабытнай раслінасці і абломкі скал — гэта і былі расліны і мінералы, пра якія раней Хоскінс успамінаў. У кожнага экспаната меўся свой даследчык. Усё гэта нагадвала музей, які ажыў і стаў цэнтрам актыўнай навуковай дзейнасці.

— Усё гэта пад вашым непасрэдным кіраўніцтвам, доктар Хоскінс?

— Ды не, міс Фелоўз, дзякаваць богу, у меня вялікі штат супрацоўнікаў. Мяне цікавіць толькі тэарэтычны бок праблемы: сутнасць Часу, тэхніка мезоннага выяўлення аддаленых у часе аб'ектаў і таму падобнае. Усё гэта я ахвотна памяняў бы на метад выяўлення аб'ектаў, аддаленых у часе менш чым на дзесяць тысяч гадоў. Калі б нам удалося пранікнуць у гістарычную эпоху...

Яго перабіў нейкі шум у адной дальняй камеры, адкуль пачуўся чыйсьці высокі злосны голас. Хоскінс нахмурыўся, на хаду папрасіў прабачэння і паспешліва пайшоў туды. Шпарка, як толькі магла, міс Фелоўз амаль бягом кінулася за ім.

— Няўжо вы не можаце зразумець, што мне неабходна было закончыць вельмі важную частку маіх доследаў?— крыкліва пытаўся пажылы мужчына з рэдзенькай бародкай на чырвоным твары.

Служачы ў форме, на лабараторным халаце якога былі вышыты літары «СІ» («Стасіс Інкарпарэйтэд»), сказаў Хоскінсу:

— Прафесар Адэмеўскі з самага пачатку быў папярэджаны, што гэты экспанат будзе тут толькі два тыдні.

— Я тады яшчэ не ведаў, колькі часу зоймуць мае доследы, я не прарок!— узбуджана выкрыкнуў Адэмеўскі.

— Вы ж разумееце, прафесар, што мы валодаем даволі абмежаванай прастораю,— сказаў Хоскінс.— Таму мы вымушаны час ад часу мяняць свае экспанаты. Гэты абломак халкапірыту павінен вярнуцца туды, адкуль ён да нас прыбыў. Вучоныя чакаюць новых экспанатаў.

— Чаму ж я не магу атрымаць яго ў карыстанне? Дазвольце мне забраць яго адсюль.

— Вы ведаеце, што гэта немажліва.

— Вам шкада аддаць мне кавалак халкапірыту, гэты няшчасны пяцікілаграмовы абломак? Але чаму?

— Нам не па кішэні звязаная з гэтым уцечка інфармацыі,— злосна закрычаў Хоскінс.— І вы гэта вельмі добра ведаеце.

— Справа ў тым, доктар Хоскінс,— перапыніў яго служачы,— што насуперак правілам прафесар спрабаваў вынесці мінерал і ледзь быў не прарваў Стасіс.

На імгненне ўсе змоўклі. Павярнуўшыся да вучонага, Хоскінс холадна спытаўся:

— Гэта праўда, прафесар?

Адэмеўскі няёмка кашлянуў.

— Бачыце, я не думаў, што гэта нясе нейкую шкоду...

Хоскінс працягнуў руку і рвануў за шнур, які свабодна вісеў на вонкавай сцяне камеры, пра якую толькі што гаварылі.

У міс Фелоўз, якая якраз у гэты момант разглядала нічым не прыкметны кавалак каменя, за які ішла такая гарачая спрэчка, ажно дыханне сціснула — у яе на вачах камень імгненна знік. Камера апусцела.

— Мне вельмі шкада, прафесар,— сказаў Хоскінс,— але выдадзены вам дазвол на вывучэнне розных аб'ектаў у Стасісе анулюецца назаўжды.

— Ды пачакайце.

— Паўтараю, мне вельмі шкада. Вы парушылі адно з нашых самых важных правіл.

— Я падам скаргу ў Міжнародную Асацыяцыю...

— Скардзіцеся каму хочаце. Вы толькі пераканаецеся, што ў выпадках, падобных на гэты, ніхто не прымусіць мяне адступіць.

Ён дэманстратыўна адвярнуўся ад прафесара, які ўсё яшчэ пратэставаў, і, яшчэ белы ад гневу, сказаў міс Фелоўз:

— Вы не адмовіцеся паснедаць са мной?

* * *

Ён правёў яе ў тую частку кафетэрыя, якая была адведзена членам адміністрацыі. Ён павітаўся са знаёмымі за столікамі і спакойна адрэкамендаваў ім міс Фелоўз, якая адчувала сябе ў гэты момант страшэнна няёмка. «Што яны падумаюць?»— думка гэтая не давала ёй спакою, і яна з усяе сілы старалася прыняць па магчымасці дзелавы выгляд.

— Доктар Хоскінс, у вас часта здараюцца такія вось непрыемнасці?— спыталася яна, узяўшы відэлец.— Я маю на ўвазе выпадак з прафесарам.

— Не,— з намаганнем адказаў Хоскінс,— такое здарылася ўпершыню. Мне, праўда, часцяком даводзіцца спрачацца з ахвотнікамі вынесці са Стасіса той ці іншы экспанат, але да сённяшняга дня ніхто яшчэ не спрабаваў зрабіць гэтага.

— Мне помніцца, як вы аднойчы казалі, што з гэтым звязаны вялікі расход энергіі.

— Слушна. Мы, вядома, пастараліся ўлічыць такую мажлівасць, бо такія выпадкі яшчэ будуць паўтарацца, і ў нас цяпер маецца спецыяльны запас энергіі, разлічаны на пакрыццё ўцечкі пры непрадугледжаным вынасе са Стасіса якога-небудзь прадмета. Але гэта зусім не азначае, што нам прыемна за паўсекунды страціць гадавы запас энергіі. Шкода ад страты такой колькасці энергіі прымусіла б нас на доўгія гады адкласці далейшае ажыццяўленне планаў пранікнення ў глыбіні часу... Апрача таго, вы можаце сабе ўявіць, што здарылася б, калі б прафесар быў у камеры ў той момант, калі збіраўся прарваць Стасіс?

— А што б з ім адбылося?

— Бачыце, мы эксперыментавалі на жывых прадметах і на мышах — яны бясследна знікаюць. Мы лічым, што яны вяртаюцца назад, у глыбіні часу, іх як бы захопліваюць тыя аб'екты, якія імгненна пераносяцца ў той час, з якога іх мы вынялі. Таму нам даводзіцца як бы на якар ставіць тыя прадметы, знікненне якіх са Стасіса нам непажадана. Што да прафесара, дык ён адправіўся б проста ў пліяцэн разам з кавалкам каменя і апынуўся б там у тым самым часе, з якога мы гэты камень дасталі, плюс тыя два тыдні, што ён быў у нас.

— Як бы гэта было жахліва!

— Запэўніваю вас, што лёс самога прафесара мяне мала трывожыць: калі ён здурнеў на такі ўчынак, дык туды яму і дарога, гэта паслужыла б яму добрым урокам. Але

вы толькі ўявіць сабе, якое ўражанне зрабіла б гэта на публіку, калі б факт яго знікнення стаў шырока вядомы. Дастаткова людзям толькі даведацца, што нашыя доследы настолькі небяспечныя, як нас адразу ж пазбавяць сродкаў.

Хоскінс эфектна пстрыкнуў пальцамі і пачаў панура калупаць відэльцам ежу.

— А вы не маглі б вярнуць яго назад?— спыталася міс Фелоўз.— Такім самым спосабам, якім вы спачатку атрымалі гэты камень.

— Не, таму што, як толькі прадмет адпраўляецца назад, ён ужо больш не фіксуецца, калі толькі далейшая сувязь з ім не прадугледжваецца загадзя, а ў дадзеным выпадку ў нас не было на гэта ніякіх падстаў. Ды і ўвогуле мы ніколі гэтага не рабілі. Каб знайсці прафесара, трэба было б узнавіць першапачатковы кірунак пошукаў, а гэта ўсё роўна што закінуць вудачку ў акіян, каб злавіць адну пэўную рыбіну. О божа, калі я думаю пра ўсе меры перасцярогі, якія мы прымаем, каб уберагчыся ад няшчасных выпадкаў, я вар'яцею. Кожная асобая камера Стасіса мае сваё прыстасаванне для прарыву — без гэтага нельга, бо ўсе яны фіксуюць розныя прадметы і павінны спыняць свае функцыі незалежна. Апрача таго, ні адзін такі прыбор не ўводзіцца ў дзеянне да апошняй хвіліны, прычым мы старанна распрацавалі адзіна мажлівы спосаб прарыву патэнцыяльнага поля Стасіса — дзеля гэтага трэба тарганудь шнур, асцярожна выведзены за дзверы камеры. А каб гэты прыбор спрацаваў, трэба прыкласці значную фізічную сілу, так што тут недастаткова выпадковага руху.

— Скажыце, а... ці не ўплывае на ход гісторыі такое перамяшчэнне аб'ектаў з мінулага ў сёння і наадварот?— спыталася міс Фелоўз.

Хоскінс паціснуў плячыма.

— Калі падыходзіць да гэтага з тэорыі, то на ваша пытанне можна адказаць станоўча, але ў сапраўднасці, калі выключыць надзвычайныя выпадкі, гэта не мае для развіцця гісторыі ніякага значэння. Мы ўвесь час нешта выводзім са Стасіса — малекулы паветра, бактэрыі, пыл. Каля дзесяці працэнтаў энергіі трацішча на кампенсацыю звязанай з гэтым уцечкі. Але нават перамяшчэнне ў часе адносна вялікіх прадметаў выклікае змены, якія сыходзяць на нішто. Вазьміце хоць бы гэты халкапірыт з пліяцэна. За яго двухтыднёвую адсутнасць якое-небудзь насякомае магло застацца без прытулку і загінуць, што, у сваю чаргу, магло пацягнуць за сабой цэлую серыю перамен. Нашы матэма-

тычныя разлікі паказваюць на тое, што гэта самазатухальныя змены, якія з часам робяцца ўсё менш значнымі, і паступова ўсё зноў прыходзіць да нормы.

— Вы хочаце сказаць, што прырода сама запаўняе страты?

— Да пэўнай ступені. Калі вы перанесяце чалавека з другой эпохі ў наш час ці, наадварот, адправіце яго назад у мінулае, то ў апошнім выпадку шкода будзе больш істотная. Калі вы зробіце гэта са звычайным, простым чалавекам, дык рана ўсё-такі можа загаіцца сама. Мы штодзень атрымліваем мноства лістоў з просьбаю перанесці ў наш час Аўраама Лінкальна, ці Магамета, ці Леніна. Гэта, вядома, здзейсніць немажліва. Нават калі б нам удалося іх выявіць, то ў гэтым выпадку перамяшчэнне ў часе аднаго з тварцоў гісторыі чалавецтва нанесла б такую каласальную шкоду рэчаіснасці, якую немагчыма было б нічым кампенсаваць. Існуюць метады, якія дапамагаюць нам рабіць адпаведныя разлікі, якія, у сваю чаргу, вызначаюць, ці не занадта вялікія будуць змены ў развіцці пры перамяшчэнні таго ці іншага аб'екта ў часе, і мы робім усё, каб нават не наблізіцца да гэтае мяжы.

— Значыць, Цімі...— пачала была міс Фелоўз.

— Не, у гэтых адносінах з ім усё добра. Наша рэчаіснасць у поўнай бяспецы. Але...— ён кінуў пранізлівы позірк на яе.— Не, нічога. Учора вы сказалі мне, што яму трэба мець зносіны з дзецьмі.

— Так,— міс Фелоўз радасна ўсміхнулася.— Я не думала, што вы звярнулі ўвагу на маю просьбу.

— Ну чаму ж? У мяне да дзіцяці самыя цёплыя пачуцці, і я цаню вашы да яго адносіны. Усё гэта мяне цікавіць, і я зусім не збіраўся замоўчыць гэтае пытанне, не растлумачыўшы вам, як ідуць справы. Цяпер я выканаў гэтую задачу, вы бачылі, чым мы займаемся, вам вядомыя цяпер да пэўнай ступені тыя цяжкасці, якія нам даводзіцца пераадольваць, і вы павінны зразумець, чаму пры ўсім жаданні мы не можам забяспечыць Цімі кампаніяй яго равеснікаў.

— Не можаце?— разгубіўшыся, усклікнула міс Фелоўз.

— Дык я ж толькі што вам усё растлумачыў. У нас не было ніякай надзеі знайсці другога неандэртальца яго ўзросту, на такую неверагодную ўдачу нават разлічваць няма чаго. А калі б нам і пашанцавала, дык зусім неразумна было б памнажаць рызыку, трымаючы ў Стасісе яшчэ адну чалавечую істоту.

— Але ж вы мяне не так зразумелі, доктар Хоскінс,— адклаўшы ўбок лыжку, рашуча сказала міс Фелоўз.— Я зусім не хачу, каб вы перанеслі ў наш час яшчэ аднаго неандэртальца. Я ведаю, што гэта немагчыма. Але ж можна прывесці ў Стасіс другое дзіця, каб яно гуляла з Цімі.

— Дзіця *чалавека*?— Хоскінс быў ашаломлены.

— *Другое дзіця*,— адрэзала міс Фелоўз, адчуваючы, як імгненна ўся яе прыхільнасць да доктара Хоскінса змянілася варожасцю.— Цімі — чалавек!

— Мне гэта нават у галаву не прыходзіла.

— Чаму? Чаму вы не падумалі менавіта пра гэта? Што ў гэтым кепскага? Вы вырвалі дзіця з яго эпохі, асудзілі яго на вечнае зняволенне, дык няўжо вы не адчуваеце сябе ў даўгу перад ім? Доктар Хоскінс, калі ёсць у гэтым свеце чалавек, які па ўсіх паказчыках, акрамя біялагічнага, можа лічыцца бацькам гэтаму дзіцяці, дык гэта вы. Чаму ж вы не хочаце зрабіць яму такую драбніцу?

— Я — яго *бацька*? — спытаўся Хоскінс, неяк няўклюдна падымаючыся з-за стала.— Калі вы не пярэчыце, міс Фелоўз, я правяду вас назад у Стасіс.

Яны моўчкі вярнуліся ў лялечны домік. Ніхто з іх не сказаў больш ні слова.

* * *

Калі не лічыць выпадковых, мімаходзь кінутых позіркаў, прайшло шмат часу, пакуль ёй зноў удалося сустрэцца з Хоскінсам.

Іншы раз гэта яе засмучала, але калі Цімі бываў асабліва маркотны ці моўчкі па некалькі гадзін стаяў каля акна, за якім амаль нічога не было відаць, яна з абурэннем думала: «Які ж ён дурны, гэты чалавек!»

Цімі гаварыў з кожным днём усё больш свабодна і правільна. Праўда, ён так і не змог цалкам пазбавіцца ад уласцівай яму з самага пачатку некаторай невыразнасці ў вымаўленні, у якой яна знаходзіла нават своеасаблівую прывабнасць. У хвіліны хвалявання ён іншы раз па-ранейшаму прыцмокваў, але і гэта здаралася ўсё радзей. Мабыць, ён паступова забываўся пра тыя далёкія дні, што папярэднічалі яго з'яўленню ў нашым часе.

Па меры таго як Цімі падрастаў, цікавасць да яго фізіёлагаў ішла на спад, затое цяпер ім пачалі больш займацца псіхолагі. Міс Фелоўз не ведала, хто з іх выклікае ў яе найбольшую непрыязнасць. Са шпрыцамі было скончана — уколы і выкачванне з арганізма вадкасці спыніліся, яго пе-

расталі карміць паводле спецыяльнай дыеты. Але затое цяпер Цімі, каб атрымаць ежу і ваду, даводзілася пераадольваць перашкоды. Ён павінен быў падымаць масніцы, адсоўваць знарок пастаўленыя рашоткі, торгаць за шнуры. Удары слабага электрычнага току даводзілі яго да істэрыкі, і гэта прыводзіла яе ў адчай.

Яна не хацела больш звяртацца да Хоскінса — кожны раз, калі яна думала пра яго, перад ёй усплываў яго твар, які ён быў у тую раніцу на снеданні. Вочы ў яе заплывалі слязьмі, і яна зноў не магла ўтрымацца, каб не падумаць: «Дурны, дурны чалавек!»

І вось аднойчы каля лялечнага доміка зусім нечакана пачуўся яго голас — ён клікаў яе.

Папраўляючы на хаду халат, яна няспешна выйшла з дома і, раптам збянтэжыўшыся, спынілася, убачыўшы перад сабой зграбную жанчыну сярэдняга ўзросту. З-за светлых валасоў і бледнага твару незнаёмая выглядала вельмі кволаю. За яе спіною, моцна ўчапіўшыся за спадніцу, стаяў круглатвары, з вялікімі вачыма хлапчук гадоў чатырох.

— Дарагая, гэта міс Фелоўз, сястра, якая даглядае хлопчыка. Міс Фелоўз, пазнаёмцеся з маёй жонкаю.

Няўжо гэта яго жонка? Міс Фелоўз уяўляла яе зусім іншай. Хаця чаму б і не? Такі чалавек, як Хоскінс, дзеля кантрасту мог выбраць сабе ў жонкі кволую істоту. Магчыма, гэта было якраз тое, што яму было трэба...)

Яна прымусіла сябе прыязна ўсміхнуцца.

— Добры дзень, місіс Хоскінс. Гэта ваш... ваш малыш?

(Гэта было ўжо поўнай нечаканасцю. Яна магла ўявіць сабе Хоскінса ў ролі мужа, але не бацькі, за выключэннем, вядома, таго... Яна раптам адчула на сабе змрочны позірк Хоскінса і пачырванела.)

— Так, гэта мой сын Джэры,— сказаў Хоскінс.— Джэры, павітайся з міс Фелоўз.

(Ці не падкрэсліў ён слова «гэта»? Ці не хацеў ён даць зразумець, што *гэта яго сын,* а не...)

Джэры крыху падаўся наперад, не выпускаючы, аднак, матчынай спадніцы, і прамармытаў прывітанне. Місіс Хоскінс відочна спрабавала зазірнуць цераз плячо міс Фелоўз у пакой, як бы чакаючы знайсці там нешта надзвычай цікавае.

— Ну, што ж, зойдзем у Стасіс,— сказаў Хоскінс.— Уваходзь, дарагая. На парозе цябе чакае крыху непрыемнае адчуванне, але гэта хутка пройдзе.

— Вы хочаце, каб Джэры таксама ўвайшоў туды?— спыталася міс Фелоўз.

— Вядома. Ён будзе гуляць з Цімі. Вы ж гаварылі, што Цімі патрэбны таварыш у гульнях. Можа, вы ўжо забыліся пра гэта?

— Але...— у яе позірку адбілася найвялікшае здзіўленне.— Ваш хлопчык?

— А чый жа яшчэ?— са злосцю сказаў Хоскінс.— Хіба не гэтага вы дабіваліся? Хадзем, дарагая. Уваходзь жа.

З відавочным намаганнем падняўшы Джэры на рукі, місіс Хоскінс пераступіла парог. Джэры захныкаў — відаць, яму не спадабалася тое, што ён адчуў пры ўваходзе ў Стасіс.

— Дзе ж тая істота?— тонкім галаском спыталася місіс Хоскінс.— Я не бачу яе.

— Хадзі сюды, Цімі!— паклікала міс Фелоўз.

Цімі выглянуў з-за дзвярэй, утаропіўшыся на нечаканых гасцей. Мускулы на руках у місіс Хоскінс прыкметна напружыліся.

Павярнуўшыся да мужа, яна спыталася:

— Ты ўпэўнены, Джэральд, што ён не небяспечны?

— Калі вы маеце на ўвазе Цімі, дык ніякай небяспекі,— тут жа ўмяшалася міс Фелоўз.— Ён спакойны і паслухмяны хлопчык.

— Але ж ён дзі... дзікун.

(Вось яно што! Гэта вынік усіх газетных гісторый пра хлопчыка-малпу.)

— Зусім ён не дзікун,— з націскам вымавіла міс Фелоўз.— Ён спакойны і разважлівы ў той ступені, у якой гэтага можна чакаць ад пяцігадовага дзіцяці. Вельмі велікадушна з вашага боку, місіс Хоскінс, дазволіць вашаму хлопчыку гуляць з Цімі, і я з усёй адказнасцю прашу вас не трывожыцца.

— Я не ўпэўненая, што згаджуся на гэта,— з раздражненнем сказала місіс Хоскінс.

— Мы ж ужо абмеркавалі гэтае пытанне, дарагая,— сказаў Хоскінс,— і я думаю, нам няварта ўзнаўляць нашу спрэчку. Спусці Джэры на падлогу.

Місіс Хоскінс паслухалася. Хлопчык прытуліўся да яе спінаю і ўтаропіўся на Цімі, які ў сваю чаргу не спускаў з яго вачэй.

— Цімі, хадзем сюды,— паклікала міс Фелоўз,— ідзі, не бойся.

Цімі павалі ўвайшоў у пакой. Хоскінс нахіліўся, каб адчапіць пальцы Джэры ад матчынай спадніцы.

— Адыдзі крыху назад, дарагая, дай дзецям пазнаёміцца.

Хлопчыкі апынуліся тварам у твар. Нягледзячы на тое, што Джэры быў маладзейшы, ён быў вышэйшы за Цімі на цэлы дзюйм, і на фоне яго зграбнай фігуркі і прыгожа пасаджанай прапарцыянальнай галавы гратэскнасць аблічча Цімі раптам кінулася ў вочы, амаль як і ў першыя дні.

У міс Фелоўз задрыжалі губы.

Першы загаварыў маленькі неандэрталец.

— Як цябе завуць?— дыскантам працягнуў ён, хутка наблізіўшы да Джэры свой твар, як бы хочучы лепш разгледзець яго.

Сцепануўшыся ад нечаканасці, Джэры замест адказу даў Цімі моцнага кухталя. Цімі адляцеў назад і, не ўтрымаўшыся на нагах, упаў на падлогу. Абодва голасна зараўлі. Місіс Хоскінс схапіла Джэры на рукі, а міс Фелоўз, пачырванеўшы ад унутранага гневу, падняла Цімі, стараючыся яго супакоіць.

— Яны інстынктыўна неўзлюбілі адзін аднаго,— заявіла місіс Хоскінс.

— Яны інстынктыўна ставяцца адзін да аднаго так, як любыя іншыя дзеці, будзь яны на іх месцы,— стомлена сказаў Хоскінс.— А цяпер апусці Джэры з рук і дай яму прывыкнуць да абставін. Па праўдзе кажучы, нам лепш цяпер выйсці. Міс Фелоўз можа праз нейкі час прывесці Джэры да мяне ў кабінет, і я паклапачуся, каб яго завезлі дахаты.

Доўгі час дзеці ні на хвіліну не выпускалі адзін аднаго з вачэй. Джэры плакаў і клікаў маці, баючыся адысціся ад міс Фелоўз, і толькі праз нейкі час дазволіў, нарэшце, суцешыць сябе ледзянцом. Цімі таксама атрымаў ледзянец, і праз гадзіну міс Фелоўз удалося дабіцца таго, што абодва яны селі гуляць у кубікі, праўда, у розных кутках.

Калі яна павяла ў той дзень Джэры да бацькі, дык да такой ступені была перапоўнена ўдзячнасцю Хоскінсу, што ледзь стрымлівала слёзы.

Міс Фелоўз шукала слоў, каб выказаць свае пачуцці, але падкрэсленая стрыманасць Хоскінса перашкодзіла ёй гэта зрабіць. Можа, ён і да гэтага часу не дараваў ёй таго, што яна прымусіла адчуць жорсткасць яго ных адносін да Цімі. А можа, ён урэшце прывёў свайго сына, каб даказаць ёй, як добра ён ставіцца да Цімі, і адначасна даць зразумець, што ён зусім не яго бацька. Так. Менавіта гэта ён і меў на ўвазе!

Таму яна абмежавалася некалькімі словамі.

— Дзякуй, вялікае дзякуй, доктар Хоскінс.

Яму нічога не заставалася, як адказаць:

— Няма за што, міс Фелоўз. Усё ідзе як трэба.

Паступова гэта ўвайшло ў звычай. Два разы на тыдзень Джэры прыводзілі на гадзіну пагуляць з Цімі, потым гэты тэрмін быў расцягнуты да дзвюх гадзін. Дзеці пазнаёміліся, паступова вывучылі прывычкі адзін аднаго і пачалі гуляць разам.

І цяпер, калі першая хваля ўдзячнасці схлынула, міс Фелоўз заўважыла, што Джэры ёй зусім не падабаецца. Фізічна ён быў намнога мацнейшы за Цімі ды і ўвогуле ва ўсім пераўзыходзіў яго: ён уладарыў над Цімі, адводзячы яму ва ўсім другарадную ролю. З такім становішчам яе мірыла неяк толькі тое, што, нягледзячы ні на што, Цімі ўсё больш нецярпліва чакаў чарговага прыходу свайго таварыша па гульнях.

— Гэта ўсё, што ў яго ёсць у жыцці,— з тугою гаварыла яна сабе.

І аднойчы, назіраючы за імі, яна раптам падумала: «Гэтыя два хлопчыкі — абодва дзеці Хоскінса, адзін ад жонкі, другі — ад Стасіса. У той час як яна сама...»

— О божа,— сціснуўшы кулакамі скроні, з сорамам падумала яна,— гэта ж я раўную!

* * *

— Міс Фелоўз,— спытаўся аднойчы Цімі (яна ніколі не дазваляла яму называць яе інакш),— калі я пайду ў школу?

Яна зірнула ў яго карыя вочы, якія молячы глядзелі на яе, чакаючы адказу, і пяшчотна правяла рукою па яго густых валасах. Гэта была самая неахайная частка яго галавы: яна стрыгла яго сама, а хлопчык заўсёды круціўся пад нажніцамі і перашкаджаў ёй. Яна ніколі не прасіла прыслаць парыкмахера, бо гэтая няўмелая яе стрыжка памагала ўдала маскіраваць нізкі пакаты лоб у дзіцяці і яго празмерна выпуклую патыліцу.

— Адкуль ты даведаўся пра школу?— спыталася яна.

— Джэры ходзіць у школу. У дзіцячы сад,— старанна вымаўляючы склады, адказаў ён.— Джэры бывае ў многіх месцах там, на волі. Калі ж я выйду адсюль на волю, міс Фелоўз?

У яе балюча сціснулася сэрца. Яна, вядома, разумела: нішто не зможа перашкодзіць таму, што Цімі непазбежна

будзе даведвацца ўсё больш і больш пра вонкавы свет, той свет, у які яму ніколі не суджана ўступіць.

Пастараўшыся надаць свайму голасу больш бадзёрасці, яна спыталася:

— А што б ты рабіў у дзіцячым садзе, Цімі?

— Джэры кажа, што яны там гуляюць у розныя гульні, што ім паказваюць стужкі з рухомымі карцінкамі. Ён кажа, што там многа-многа дзяцей. Ён расказвае...— Цімі на імгненне задумаўся, потым урачыста раскінуў рукі з растапыраннымі пальцамі і толькі тады скончыў фразу.— Вось як многа ён расказвае!

— Табе хацелася б паглядзець рухомыя карцінкі?— спыталася міс Фелоўз.— Я прынясу табе гэтыя стужкі і стужкі з запісам музыкі.

Так ёй на нейкі час удалося супакоіць яго.

* * *

У атсутнасць Джэры ён з цікавасцю разглядаў рухомыя карцінкі, а міс Фелоўз гадзінамі чытала яму ўголас кнігі.

У самым прасценькім апавяданні было столькі яму незразумелага, што даводзілася тлумачыць сутнасць самых звычайных рэчаў за межамі трох пакояў Стасіса. Цяпер, калі ў яго думкі ўварваўся навакольны свет, ён усё часцей пачаў бачыць сны.

Яму снілася заўсёды адно і тое ж — той невядомы свет за межамі яго доміка. Ён няўмела спрабаваў расказаць міс Фелоўз змест сваіх сноў, у якіх ён звычайна пераносіўся ў велізарную пустую прастору, дзе, апрача яго, былі яшчэ дзеці і нейкія дзіўныя, незразумелыя прадметы, створаныя яго ўяўленнем на аснове далёка не да канца зразуметых ім кніжных вобразаў. Іншы раз яму сніліся карціны з яго прызабытага далёкага мінулага, калі ён яшчэ жыў сярод неандэртальцаў.

Тыя дзеці і невядомыя яму прадметы, якія ён бачыў у снах, не заўважалі яго. Хоць ён і адчуваў, што знаходзіцца з імі за межамі Стасіса, ён у той самы час разумеў, што не належыць таму свету, і заставаўся заўжды ў страшэннай адзіноце, нібы і не пакідаў свайго пакоя. Прачынаўся ён заўсёды ў слязах.

Спрабуючы супакоіць яго, міс Фелоўз старалася звесці яго расказы на жарты, смяялася з іх, але колькі начэй яна сама праплакала ў сваёй кватэры.

Аднойчы, калі яна чытала ўголас, Цімі працягнуў руку да яе падбародка і, асцярожна прыўзняўшы яе твар ад кнігі, прымусіў яе зірнуць яму ў вочы.

— Міс Фелоўз, адкуль вы ведаеце, што тут трэба гаварыць?

— Ты бачыш гэтыя значкі? Яны-то і кажуць мне пра тое, што я потым ужо расказваю табе. З гэтых значкоў складаюцца словы.

Узяўшы з яе рук кнігу, Цімі доўга з цікаўнасцю разглядаў літары.

— Некаторыя значкі зусім аднолькавыя,— сказаў ён нарэшце.

Яна засмяялася ад радасці, што ён такі кемлівы.

— Правільна. Хочаш, я пакажу табе, як пісаць гэтыя значкі.

— Добра, пакажыце. Гэта будзе цікавая гульня.

Ёй нават у галаву не прыйшло, што ён можа навучыцца чытаць. Да таго самага моманту, калі ён прачытаў ёй уголас кнігу, яна не хацела верыць у гэта. Праз некалькі тыдняў яна раптам асэнсавала ўсю велізарную важнасць гэтай падзеі, і яна была ашаломлена. Седзячы ў яе на каленях, Цімі чытаў ёй уголас дзіцячую кнігу, не прапускаючы ні слова. Ён чытаў!

Узрушаная, яна паднялася з крэсла і сказала:

— Я хутка вярнуся, Цімі. Мне неабходна пабачыць доктара Хоскінса.

Яе ахапіла на мяжы ўтрапёнасці ўзбуджанасць. Ёй здалося, што цяпер ёй удасца, нарэшце, знайсці сродак зрабіць Цімі ў нейкай меры шчаслівым. Калі Цімі нельга ўвайсці ў сучаснае жыццё, то само гэтае жыццё павінна ўвайсці ў яго трохпакаёвую турму, адлюстраванае ў кнігах, фільмах і гуках.

Яму неабходна даць адукацыю, скарыстаўшы ўсе яго прыродныя здольнасці. Гэтым чалавецтва магло б хоць неяк кампенсаваць тое зло, якое яно яму прычыніла.

* * *

І Хоскінс быў у настроі, дзіўна падобным на яе настрой. Уся яго істота выпраменьвала непрыкрытую радасць і трыумф. У праўленні кампаніі панавала незвычайнае ажыўленне, і міс Фелоўз, калі яна разгублена спынілася ў прыёмнай, нават падумала, што ёй не ўдасца сёння пагаварыць з Хоскінсам.

Але ён заўважыў яе, і яго шырокі твар расплыўся ўсмешкай.

— Хадземце сюды, міс Фелоўз,— паклікаў ён.

Ён хуценька дагаварыў штосьці па інтэркому і выключыў яго.

— Вы ўжо чулі? Ну, вядома, вы яшчэ нічога не можаце ведаць. Мы ўсё-такі дабіліся свайго! Мы цяпер можам фіксаваць аб'екты з нядаўняга мінулага.

— Вы хочаце сказаць, што цяпер вы можаце перанесці ў наш час чалавека, які жыў ужо ў гістарычную эпоху?— спыталася міс Фелоўз.

— Вы абсалютна правільна мяне зразумелі. Толькі што мы зафіксавалі аднаго індывідуума, які жыў у чатырнаццатым веку. Вы толькі ўявіце сабе ўсю важнасць гэтае падзеі! Каб вы толькі ведалі, як я буду рады пазбавіцца, нарэшце, ад гэтай канцэнтрацыі ўсіх сіл на мезазойскай эры, якой, здавалася ўжо мне, не будзе канца, якое задавальненне атрымаю я ад замены палеантолагаў гісторыкамі... Вы, здаецца, штосьці хацелі паведаміць мне? Ну, давайце выкладвайце, што ў вас там? Кажыце ж. Вы засталі мяне ў добрым настроі і можаце атрымаць усё, што пажадаеце.

— Я вельмі рада,— міс Фелоўз усміхнулася.— Мяне якраз цікавіць адно пытанне: ці не маглі б вы распрацаваць сістэму адукацыі Цімі?

— Адукацыі? Якой яшчэ адукацыі?

— Ну, агульнай адукацыі. Я маю на ўвазе школу. Трэба даць яму мажлівасць вучыцца.

— Але ці можа ён вучыцца?

— Безумоўна, ён ужо вучыцца.

Ёй падалося, што настрой у Хоскінса раптам рэзка пагоршаў.

— Я нават не ведаю, што вам на гэта і адказаць, міс Фелоўз.

— Але ж вы толькі што паабяцалі, што выканаеце любую маю просьбу...

— Я гэта помню. На жаль, у дадзеным выпадку я зрабіў гэта неабдумана. Я думаю, што вы добра разумееце, міс Фелоўз, што мы не можам працягваць эксперымент з Цімі да бясконцасці.

Ахопленая раптоўным жахам, яна глянула яму ў вочы, яшчэ не ўсвядоміўшы да канца сэнсу сказаных толькі што слоў. Што ён меў на ўвазе пад гэтым «не можам працягваць»? Яе раптам нібы азарыла — яна ўспомніла прафесара Адэмеўскага і мінерал, адасланы назад пасля двух тыдняў яго знаходжання ў Стасісе...

— Але цяпер гаворка ідзе пра хлопчыка, а не пра абломак каменя...

Хоскінсу відавочна было не па сабе.

— У выпадках, падобных на гэты, нават дзіцяці не трэба надаваць занадта вялікай увагі. Цяпер, калі мы спадзяёмся раздабыць людзей, што жылі ў гістарычную эпоху, нам спатрэбяцца ўсе памяшканні Стасіса.

Яна ўсё яшчэ нічога не разумела.

— Але вы не зробіце гэтага. Цімі... Цімі...

— Ну, ну. Не прымайце ўсё так блізка да сэрца, міс Фелоўз. Магчыма, Цімі прабудзе тут яшчэ некалькі месяцаў, і за гэты час мы пастараемся зрабіць яму ўсё, што ў нашых магчымасцях.

Яна ўсё так жа моўчкі глядзела на яго.

— Ці хочаце вы чаго-небудзь выпіць, міс Фелоўз?

— Не,— прашаптала яна.— Мне нічога не трэба.

Ледзь усведамляючы, што робіць, яна з цяжкасцю паднялася на ногі і нібы ў кашмары выйшла з пакоя.

«Ты не памрэш, Цімі,— думала яна.— Ты не памрэш».

* * *

З таго часу яе неадступна мучыла думка пра неабходнасць неяк ухіліць Цімі ад гібелі. Але думаць гэта адно, і зусім другое — ажыццявіць задуманае. Спачатку міс Фелоўз упарта трымалася за надзею, што спроба перанесці каго-небудзь з XIV стагоддзя ў наш час закончыцца поўнай няўдачай. Хоскінс мог дапусціць памылку, з пункту гледжання тэорыі эксперыменту, маглі таксама выявіць пралікі ў метадзе яго ажыццяўлення. І тады ўсё засталося б па-старому.

Астатняя частка чалавецтва спадзявалася, вядома, на супрацьлеглы зыход, і міс Фелоўз насуперак розуму ўзненавідзела за гэта ўвесь свет. Ажыятаж, які ўзняўся вакол «Праекта Сярэднявечча», дасягнуў найвялікшага напалу. Друк і грамадскасць згаладаліся па чым-небудзь надзвычайным. Акцыянерная кампанія «Стасіс Інкарпарэйтэд» даўно ўжо не давала такой сенсацыі. Нейкі там новы камень альбо выкапнёвая рыба ўжо нікога не хвалявалі. А гэта было якраз тое, што трэба.

Чалавек, які жыў ужо ў гістарычную эпоху, дарослы індывід, які гаворыць і на цяпер зразумелай мове, той, хто дапаможа вучоным узнавіць невядомую дасюль старонку гісторыі.

Той вырашальны час набліжаўся, і на гэты раз ужо не толькі трое на балконе павінны стаць сведкамі такое важнае падзеі. Цяпер увесь свет ператвараўся ў велізарную

аўдыторыю, а тэхнічнаму персаналу Стасіса наканавана сыграць сваю ролю на вачах усяго чалавецтва.

Сярод пачуццяў, што бушавалі ў душы ў міс Фелоўз, не было толькі аднаго — яна не паддалася ўсеагульнаму псіхозу радаснага чакання.

Калі Джэры прыйшоў, як звычайна, гуляць з Цімі, яна ледзь пазнала яго. Сакратарка, якая прывяла яго, кіўнула ёй дзеля прыліку галавой і пабегла. Яна спяшалася заняць добрае месца, акуль ёй удасца сачыць за ўвасабленнем у жыццё «Праекта Сярэднявечча». Міс Фелоўз з горыччу падумала: калі б дурненькае дзяўчо прыйшло ў пару, яна таксама ўжо была б там, прытым у яе была больш важкая, чым простая цікаўнасць, прычына прысутнічаць пры доследзе.

— Міс Фелоўз,— збянтэжана сказаў Джэры, няўпэўнена, бачком набліжаючыся да яе і дастаючы з кішэні нейкі абрывак газеты.

— Што там у цябе, Джэры?

— Гэта фотаздымак Цімі.

Міс Фелоўз уважліва паглядзела на Джэры, а потым хуценька вырвала з яго рук шматок газеты. Усеагульнае ўзрушэнне, выклікане «Праектам Сярэднявечча», абудзіла ў друку пэўную цікавасць і да Цімі.

Джэры ўважліва сачыў за яе тварам.

— Тут сказана, што Цімі — хлопчык-малпа. Што гэта значыць, міс Фелоўз?

Яна схапіла яго за руку, з цяжкасцю стрымаўшы жаданне добра страсянуць яго.

— Ніколі не гавары так, Джэры. Ніколі. Ты разумееш гэта? Гэта брыдкае слова, і ты не павінен ужываць яго.

Перапалоханы Джэры адчайна вырываўся з яе рук. Міс Фелоўз раз'юшана рвала газету.

— А цяпер ідзі і гуляй з Цімі.

Нарэшце прыйшла дзяўчына. Міс Фелоўз ніколі не бачыла яе. Ніхто з пастаянных служачых Стасіса, што зрэдку падмянялі яе цяпер, у сувязі з набліжэннем ажыццяўлення праекта, памагчы ёй не мог. Аднак сакратарка Хоскінса абяцала ёй памагчы знайсці якую-небудзь дзяўчынку.

— Вы і ёсць тая дзяўчынка, якую прымацавалі да Першай Секцыі Стасіса?— стараючыся стрымаць дрыжанне ў голасе, спыталася міс Фелоўз.

— Так, гэта я. Завуць мяне Мэндзі Тэрыс. А вы міс Фелоўз?

— Правільна.

— Даруйце, што я крыху спазнілася. Усюды такая сумятня.

— Я ведаю. Я хачу, каб вы...

— Вы ж будзеце глядзець, праўда?— перабіла яе Мэндзі. На яе прыгожанькім, тонкім, але нейкім пустым твары адбілася пякучая зайздрасць.

— Гэта не мае значэння. Я хачу, каб вы пазнаёміліся з Цімі і Джэры. Яны будуць гуляць гадзіны са дзве і не наробяць вам ніякага клопату. Ім пакінута малако, у іх многа цацак. Будзе нават лепш, калі вы не будзеце ім перашкаджаць. А цяпер я пакажу вам, дзе што знаходзіцца і...

— Гэты Цімі — хлопчык-мал...?

— Цімі — дзіця, якое жыве ў Стасісе,— рэзка перапыніла яе міс Фелоўз.

— Я хацела сказаць, што Цімі — гэта той, каму нельга выходзіць з дому. Ці ж не так?

— Так. А цяпер заходзьце, у нас мала часу.

І калі ёй, нарэшце, удалося пайсці, услед ёй пачуўся пранізлівы голас Мэндзі Тэрыс:

— Спадзяюся, вам дастанецца добрае месцейка. Далібог, мне так хочацца, каб дослед удаўся.

Не ўпэўненая ў тым, што, адказваючы Мэндзі, ёй удасца захаваць стрыманасць, міс Фелоўз, нават не азірнуўшыся, яшчэ больш заспяшалася.

* * *

Але з-за таго, што яна затрымалася, ёй не ўдалося заняць добрае месца. Яна з цяжкасцю прабілася толькі да экрана ў Зале сходаў. Калі б ёй пашанцавала апынуцца паблізу ад месца, дзе праводзіцца эксперымент, калі б толькі яна магла падысці да якога-небудзь чуйнага прыбора, калі б яна як-небудзь умудрылася сарваць эксперымент...

Яна знайшла ў сабе сілы авалодаць сабою. Простае ж псаванне прыбора ні да чаго не прывядзе. Яны ўсё роўна наладзяць яго і паставяць эксперымент нанава... А ёй ніколі не дазволяць вярнуцца да Цімі.

Нішто не магло ёй дапамагчы. Нішто, апрача натуральнага і прытым непапраўнага правалу эксперыменту.

І ў тыя імгненні, калі адлічваліся апошнія секунды, ёй заставалася толькі чакаць, напружана сачыць за кожным рухам на вялізным экране, уважліва ўзірацца ў твары занятых у доследзе супрацоўнікаў, калі то адзін, то другі з іх

трапляў у поле зроку; яна спадзявалася ўбачыць у іх позірках выраз неспакою і няўпэўненасці, як доказу ўзнікнення нечаканых цяжкасцей у ажыццяўленні эксперыменту, яна ні на секунду не адводзіла вачэй ад экрана...

Але яе надзеі не спраўдзіліся. Была адлічана апошняя секунда, і вельмі спакойна, без лішняга шуму дослед паспяхова быў завершаны!

У нядаўна пабудаваным новым памяшканні Стасіса стаяў барадаты сутулы селянін няпэўнага ўзросту, у падраным, брудным адзенні і драўляных сандалях; ён з тупым жахам азіраўся па баках, свядомасць яго не магла ўспрыняць такой раптоўнай, такой неверагоднай перамены.

І ў той момант, калі ледзь не ўвесь свет звар'яцеў ад захаплення, міс Фелоўз, скамянеўшы ад гора, стаяла адна нерухома сярод гэтае мітусні. Яе штурхалі, шпурлялі, ледзь не тапталі нагамі, а яна стаяла сярод натоўпу, які віраваў, трыумфаваў, і ўсё больш сціскалася пад цяжарам страчаных надзей.

І калі скрыпучы голас у дынаміку назваў яе імя, гэта дайшло да яе свядомасці толькі пасля трохразовага паўтору.

— Міс Фелоўз, міс Фелоўз, вас выклікаюць у Першую Секцыю Стасіса. Міс Фелоўз, міс Фелоўз...

— Прапусціце мяне!— задыхаючыся, крыкнула яна, а дынамік, ні на секунду не спыняючыся, усё паўтараў і паўтараў адну і тую ж фразу.

Сабраўшы ўсю сваю сілу, яна адчайна прабівалася праз натоўп, расштурхоўваючы людзей. Не спыняючыся ні перад чым, пусціўшы ў ход нават кулакі, раздаючы направа і налева кухталі, яна ўвесь час вязла ў людскім віры, але ўсё ж такі рухалася да выхаду.

* * *

Мэндзі Тэрыс рыдала.

— Я проста не магу сабе ўявіць, як гэта адбылося. Я адлучылася ўсяго толькі на адну хвілінку, каб зірнуць на той маленькі экран, які яны паставілі ў калідоры. І раптам, перш чым я паспела штосьці зрабіць... Вы самі сказалі мне, што яны нічога не наробяць, вы самі параілі мне пакінуць іх адных!— выкрыкнула раптам Мэндзі, пераходзячы ў наступленне.

— Дзе Цімі?— гледзячы на яе няўцямнымі вачыма, спыталася міс Фелоўз, не заўважаючы, як дрыжыць нервова ўсё яе цела.

Адна сястра працірала ў Джэры руку дэзінфіцыйнымі сродкамі, другая рыхтавала шпрыц з супрацьслупняковай сывараткай.

— Ён укусіў мяне, міс Фелоўз! — душачыся ад злосці, крыкнуў Джэры.— Ён *укусіў* мяне!

Але міс Фелоўз нават не звярнула на яго ўвагі.

— Што вы зрабілі з Цімі?— крыкнула яна.

— Я зачыніла яго ў ваннай,— адказала Мэдзі.— Я проста шпурнула туды гэтую маленькую пачвару і замкнула яе там.

Міс Фелоўз бягом рынулася ў лялечным домік. Яна замарудзілася каля дзвярэй ваннай, здавалася, што прайшла цэлая вечнасць, пакуль ёй удалося, нарэшце, адчыніць дзверы і знайсці ў кутку свайго вырадлівага хлапчука.

— Не біце мяне, міс Фелоўз,— прашаптаў ён. Вочы яго пачырванелі, губы дрыжалі.— Я не хацеў гэтага.

— О Цімі! Чаму ты думаеш, што я буду цябе біць?— падхапіўшы дзіця на рукі, яна моцна прытуліла яго да сябе.

— Яна сказала, што вы адлупцуеце мяне доўгай вяроўкай. Яна сказала, што вы будзеце мяне біць, біць, біць...

— Ніхто цябе не будзе біць. Вельмі нядобра было ёй так гаварыць. Але што здарылася? Што здарылася?

— Ён назваў мяне хлопчыкам-малпай. Ён сказаў, што я не сапраўдны хлопчык, што я — жывёліна.

З вачэй у Цімі паліліся слёзы.

— Ён сказаў, што не хоча больш гуляць з малпаю. А я сказаў, што я не малпа. Я не малпа! Потым ён сказаў, што я вельмі смешны, што я жахліва пачварны. Ён паўтарыў гэта многа-многа разоў, і я ўкусіў яго.

Цяпер яны плакалі абое.

— Але ж ты ведаеш, Цімі, што гэта няпраўда,— усхліпваючы, сказала міс Фелоўз,— і ты сапраўдны хлопчык. Ты самы сапраўдны і самы харошы хлопчык на свеце. І ніхто, ніхто ніколі цябе ў мяне не адбярэ.

* * *

Цяпер ёй лёгка было адважыцца, яна, нарэшце, ведала, што трэба рабіць. Але дзейнічаць трэба было хутка, Хоскінс не будзе больш чакаць, пацярпеў жа яго сын...

Гэта павінна адбыцца ноччу, сёння ноччу, калі амаль усе служачыя Стасіса будуць альбо спаць, альбо весяліцца ў сувязі з паспяховым ажыццяўленнем «Праекта Сярэднявечча».

Яна вернецца ў Стасіс у нязвычны час, але ж гэта здаралася і раней. Ахоўнік добра ведае яе, і яму нават у галаву не прыйдзе патрабаваць ад яе нейкіх тлумачэнняў. Ён і ўвагі не зверне на тое, што ў яе ў руках будзе чамадан. Яна разоў колькі прарэпетыравала гэтую такую простую фразу «Гульні хлопчыкам», а ўслед за ёй спакойную ўсмешку.

І ён паверыў.

Калі яна зноў паявілася ў памяшканні доміка, Цімі яшчэ не спаў, і яна, як магла, старалася паводзіць сябе так, як заўсёды, каб не перапалохаць яго. Яна пагаварыла з ім пра яго сны і выслухала яго роспыты пра Джэры.

І потым яе ўбачаць нямногія, і нікому не будзе ніякай цікавасці да таго клунка, які яна будзе несці. І Цімі будзе паводзіць сябе вельмі спакойна, а потым усё астатняе стане fait accompli [1]. Задуманае здзейсніцца, і які толк спрабаваць выправіць тое, што ўжо адбылося. Ёй дадуць магчымасць жыць. Ім абаім будзе падаравана жыццё.

Яна адчыніла чамадан і выцягнула з яго паліто, шарсцяную шапку з навушнікамі і яшчэ сёе-тое.

— Міс Фелоўз, чаму вы надзяваеце на мяне ўсе гэтыя рэчы?— устрывожыўшыся, спытаўся Цімі.

— Я хачу вывесці цябе адсюль, Цімі. Мы адправімся ў краіну тваіх сноў,— адказала яна.

— Маіх сноў?— яго твар засвяціўся радасцю, але ён яшчэ не мог цалкам пазбыцца страху.

— Не бойся, ты будзеш са мной. Ты не павінен баяцца, калі ты са мной. Праўда, Цімі?

— Праўда, міс Фелоўз,— ён прытуліўся да яе галоўкай, і, абняўшы яго, яна адчула пад рукою біццё яго маленькага сэрца.

Надышла поўнач. Міс Фелоўз узяла Цімі на рукі, выключыла сігналізацыю і асцярожна адчыніла дзверы.

І тут з яе грудзей вырваўся крык жаху — яна апынулася тварам у твар з Хоскінсам, які стаяў на парозе.

* * *

З ім былі яшчэ двое, і, убачыўшы яе, ён быў ашаломлены не менш, чым яна сама.

Міс Фелоўз апомнілася на нейкую долю секунды раней за яго і паспрабавала хуценька праскочыць каля яго, але, нягледзячы на гэты выйгрыш у часе, ён усё-такі апярэдзіў

---

[1] Споўненым фактам.

яе. Ён груба схапіў яе і адштурхнуў назад у глыбіню пакоя да шафы. Ён знакам загадаў астатнім увайсці ў пакой і сам стаў каля выхаду, засланіўшы дзверы.

— Гэтага я не чакаў. Вы зусім звар'яцелі?

Калі Хоскінс штурхануў яе, яна паспела павярнуцца так, што ўдарылася аб шафу плячом, і Цімі амаль не ўдарыўся.

— Што здарыцца, калі я вазьму яго з сабой, доктар Хоскінс?— як малітву вымавіла яна.— Няўжо страта энергіі вам даражэй за чалавечае жыццё?

Хоскінс рашуча вырваў у яе з рук Цімі.

— Страта энергіі ў такіх памерах прывяла б да страты многіх мільёнаў долараў у кішэнях укладчыкаў. Гэта катастрафічна затармазіла б работы, якія вядзе акцыянерная кампанія «Стасіс Інкарпарэйтэд». Гэта азначала б, што ўсім і кожнаму стала б вядомая гісторыя жаласлівай медсястры, якая прычыніла каласальныя страты кампаніі ў імя ўратавання хлопчыка-малпы.

— Хлопчык-малпа!— у бяссільным адчаі ўсклікнула міс Фелоўз.

— Пад такім прозвішчам ён фігураваў бы ў апісаннях гэтае падзеі.

А тым часам адзін з тых, хто прыйшоў з Хоскінсам, пачаў працягваць праз адтуліны ў верхняй частцы сцяны нейлонавы шнур. Міс Фелоўз успомніла шнур, што вісеў на вонкавай сцяне камеры з абломкам каменя прафесара Адэмеўскага, той шнур, за які некалі таргануў Хоскінс.

— Не!— закрычала яна.

Але Хоскінс апусціў Цімі на падлогу і, асцярожна зняўшы з яго паліто, сказаў:

— Заставайся тут, Цімі, з табою нічога не здарыцца. Мы толькі выйдзем на хвілінку з пакоя. Добра?

Цімі збялеў, яму заняло мову, аднак ён знайшоў у сабе сілы сцвярджальна кіўнуць галавой. Хоскінс вывеў міс Фелоўз з лялечнага доміка, трымаючыся на ўсякі выпадак ззаду. На нейкі міг міс Фелоўз страціла здольнасць супраціўляцца. Яна тупа сачыла за тым, як замацоўвалі на сцяне канец шнура.

— Мне вельмі шкада, міс Фелоўз,— сказаў Хоскінс,— я ахвотна пазбавіў бы вас гэтага відовішча. Я хацеў гэта зрабіць ноччу, каб вы даведаліся пра ўсё ўжо пасля.

— І ўсё з-за таго, што перапала вашаму сыну, які замучыў гэтае дзіця так, што яно ўжо не змагло авалодаць сабой?

— Паверце мне, што не ў гэтым прычына. Мне зразумела, што тут сёння адбылося, і я ведаю, што ва ўсім вінаваты Джэры. Але гэтая гісторыя ўжо набыла розгалас, ды інакш і быць не магло пры такой колькасці карэспандэнтаў, якія сабраліся тут у такі дзень. Я не магу рызыкаваць і дапусціць, каб ілжывыя чуткі пра нашу неахайнасць і так званых «дзікіх неандэртальцаў» трапілі ў друк і прынізілі значэнне поспеху «Праекта Сярэднявечча». Так ці інакш Цімі ўсё роўна павінен неўзабаве знікнуць, дык чаму б яму не знікнуць цяпер, стрымаўшы тым самым імпэт ахвотнікаў да сенсацый і зменшыўшы тую колькасць бруду, які яны на нас пастараюцца выліць.

— Але ж гэта не тое самае, што адправіць у мінулае асколак каменя. Вы заб'яце чалавека.

— Гэта не забойства. Ён нічога не адчуе, ён проста зноў стане хлопчыкам-неандэртальцам і трапіць у сваё звыклае асяроддзе. Ён не будзе больш чужынцам, асуджаным на вечнае зняволенне. Ён будзе жыць свабодным жыццём...

— Якое ж гэта жыццё? Яму ўсяго сем гадоў, і ён прывык, каб яго кармілі, адзявалі, аберагалі. Ён будзе адзінокі, за гэтыя ж чатыры гады яго племя магло пайсці з таго месца, дзе ён яго пакінуў. А калі нават племя яшчэ там, дзіця ніхто не пазнае, ён вымушаны будзе сам пра сябе клапаціцца, а яму ж не было дзе навучыцца гэтаму.

Хоскінс бездапаможна пахітаў галавою.

— О божа, няўжо вы лічыце, міс Фелоўз, што мы не думалі пра гэта? Хіба вы не разумееце, што мы вызвалі з мінулага дзіця толькі таму, што гэта была першая чалавечая ці, дакладней, паўчалавечая істота, якую нам удалося зафіксаваць, і мы баяліся адмовіцца ад гэтага, бо не былі ўпэўнены, што нам удасца так жа вось удала паўтарыць тую спробу? Як вы думаеце, няўжо мы трымалі б Цімі так доўга, калі б нас не бянтэжыла неабходнасць адаслаць яго назад у мінулае?! Мы робім гэта цяпер таму,— у яго голасе загучала рашучасць адчаю,— што мы не можам больш чакаць. Цімі можа паслужыць прычынай той шуміхі, якая скампраметуе нас. Мы цяпер на парозе вялікіх адкрыццяў, і мне вельмі шкада, міс Фелоўз, але мы не можам дапусціць, каб Цімі перашкодзіў нам. Не можам. Я вельмі шкадую, міс Фелоўз, але гэта так.

— Ну што ж,— журботна вымавіла міс Фелоўз.— Дазвольце мне хоць развітацца з ім. Дайце мне пяць хвілін, я больш нічога не прашу.

— Ідзіце,— пасля пэўнага вагання сказаў Хоскінс.

* * *

Цімі кінуўся ёй насустрач. Апошні раз ён падбег да яе, і яна апошні раз прытуліла яго да сябе.

Нейкае імгненне яна моўчкі туліла яго, сціскала ў абдымках. Потым падсунула нагою да сцяны табурэтку і села.

— Не бойся, Цімі.

— Я нічога не баюся, калі вы са мною, міс Фелоўз. Гэты чалавек вельмі злуецца на мяне, той, што застаўся за дзвярыма?

— Не. Ён проста нас з табою не разумее... Цімі, ты ведаеш, што такое маці?

— Гэта як мама ў Джэры?

— Ён расказваў табе пра сваю маці?

— Зрэдку. Мне здаецца, што маці — гэта жанчына, якая пра цябе клапоціцца, якая да цябе добра ставіцца і робіць табе шмат добрага.

— Правільна. А табе калі-небудзь хацелася мець маці, Цімі?

Цімі адкінуў галаву, каб убачыць яе твар. Ён паволі працягнуў руку і пачаў гладзіць яе па шчацэ і валасах, як некалі даўным-даўно, у першы дзень яе з'яўлення ў Стасісе, яна сама гладзіла яго.

— А хіба ты не мая маці?— спытаўся.

— О Цімі!

— Вы злуецеся, што я так спытаўся?

— Не, што ты, вядома, не.

— Я ведаю, што вас завуць міс Фелоўз, але... іншы раз я сам сабе заву вас мамай. У гэтым няма нічога кепскага?

— Не, не! Я ніколі не пакіну цябе, і з табой нічога не здарыцца. Я заўсёды буду з табой, заўсёды буду клапаціцца пра цябе. Скажы мне: «Мама». Але так, каб я чула.

— Мама,— задаволена вымавіў Цімі, прытуліўшыся шчакой да яе твару.

Яна паднялася і, не выпускаючы яго з рук, узлезла на табурэтку. Яна ўжо не чула шуму і крыку за дзвярыма. Свабоднай рукой яна схапілася за працягнуты ў сцяне шнур і ўсім цяжарам павісла на ім.

Стасіс быў прарваны. Пакой апусцеў.

# ЛІНО АЛЬДАНІ

# МЕСЯЦ ДВАЦЦАЦІ РУК

— Дэвід Портленд, да дошкі!— сказаў настаўнік Крупэн, падняўшы вочы ад класнага журнала.

Дэвід чамусьці адсунуў кнігі і сшыткі і нарэшце вылез з-за парты.

— Ты вывучыў урок па астраноміі?

— Вядома, пан настаўнік.

— Выдатна. Скажы, колькі прыродных спадарожнікаў у планеты Сатурн?

— Дзесяць, пан настаўнік.

— Добра. Назаві іх і скажы ў храналагічным парадку, калі яны былі адкрыты.

— Тытан,— няўпэўнена пачаў Дэвід,— Япет, Рэя, Дыёна, Тэфія, Энцэлад, Мімас, Гіперыён...— Тут ён запнуўся і, пачырванеўшы ад напружання, утаропіўся ў наскі чаравікаў.

— Добра, далей,— падбадзёрыў яго настаўнік.— Не хапае яшчэ двух: Феба і ?..

— Феба і Тэміс.

— Правільна. Ну, а цяпер другое пытанне. Як яшчэ называюць Тытан?

— Тытан? Яго называюць «Месяцам дваццаці рук».

— Растлумач чаму?

— Не ведаю, пан настаўнік.

— А трэба было б ведаць, Дэвід,— з папрокам сказаў настаўнік.— Я задаў на сёння прачытаць урывак з дадатку да падручніка. Калі б ты яго прачытаў, дык змог бы адказаць на маё пытанне.

— Так, пан настаўнік, але я... не захацеў яго чытаць.

— Чаму ж?

Дэвід Портленд завагаўся, але потым глянуў на настаўніка і выпаліў:

— Бо я не люблю астраноміі.

У класе зрабілася вельмі ціха. Здзіўленыя позіркі вучняў быццам былі прыкаваныя да твару Дэвіда. Настаўнік Крупэн паблажліва ўсміхнуўся.

— Праўда, не люблю,— больш смела паўтарыў Дэвід.— Цярпець яе не магу. І потым... навошта яна мне, гэтая астраномія? Касманаўтам быць я не збіраюся. Я хачу быць хірургам, як і мой бацька. І не на нейкай планеце, а тут, на Зямлі.

Настаўнік зноў усміхнуўся:

— Ці не ранавата ты выбраў сабе прафесію? Раптам перадумаеш?

Дэвід крыху разгубіўся. Пад уважлівым позіркам настаўніка ён прыкрыў далонню вочы.

— Дай мне тваю кнігу, Дэвід.

Настаўнік узяў падручнік, зазірнуў у змест, хутка пагартаў старонкі.

— Вось, трымай,— сказаў ён, працягваючы Дэвіду разгорнутую кнігу.— Прачытай вось тут. Гэта апавяданне невядомага аўтара дваццаць першага стагоддзя. Чытай больш уважліва. Я выклічу цябе яшчэ раз.

Дэвід нізка апусціў галаву і пад хіхіканне сяброў паплёўся на месца. Ён цяжка ўздыхнуў, скрывіў з'едлівую морду адразу ўсяму класу і паглыбіўся ў чытанне.

Ці знаёма вам, хоць у агульных рысах, будова аднаклетачнага арганізма? Дык вось, касмічны карабель «Ібіс» быў падобны на такі арганізм. Ён не быў зманціраваны ці сабраны па частках, яго абшыўку не зварвалі і не змацоўвалі балтамі. Адным словам, ён зусім не нагадваў механізма, у якім асобныя часткі можна зняць і замяніць. Не, корпус «Ібіса» быў цэльны, і, ствараючы яго, вучоныя строга прытрымліваліся прынцыпаў навейшай тэорыі малекулярных сіл. Знешне «Ібіс» нічым не адрозніваўся ад сучасных касмічных караблёў, хіба толькі быў крыху меншы і не такі ходкі. Не спрачаюся, у яго канструкцыі былі нейкія дэфекты, але шэсцьдзесят гадоў назад, калі «Ібіс» накіраваўся ў свой першы палёт і праект Крузіўса і Благовіча стаў рэальнасцю, усе славілі новы цуд тэхнікі.

У «Ібіса» было электрамагнітнае кіраванне. Крузіўс і Благовіч бліскуча даказалі на практыцы, што касмічным караблям для міжпланетных падарожжаў больш не трэба рэактыўнае паліва. Асобы паскаральнік «антыграў»— генератар антыгравітацыйнага поля — дазваляў караблю лёгка пераадольваць любыя прасторы па гравітацыйных

лініях, якія пранізвалі космас. Гэта было сапраўды геніяльнае адкрыццё, сапраўдны пераварот у тэхніцы.

Дзве тысячы дваццаць пяты год азнаменаваў сабою канец атамнай і пачатак электрамагнітнай эры. Але, на жаль, гэты год стаў адным з самых трагічных у гісторыі чалавецтва. Ледзь толькі «Ібіс» бліскуча закончыў трэці пробны пералёт Зямля — Марс — Зямля, як на нашай планеце нечакана для ўсіх успыхнула страшная эпідэмія жоўтай чумы.

Цяпер, відаць, толькі самыя старыя людзі помняць пра тыя кашмарныя дні. Аднак, я ў гэтым не ўпэўнены, вядома ж, што падзеі, якія адрозніваюцца асаблівай жорсткасцю, міжвольна выклікаюць абарончую рэакцыю ў чалавечым мозгу, і амаль заўсёды ўступае ў дзеянне закон падсвядомага аптымізму, які прымушае нас забыць усё непрыемнае. Так ці інакш, але няма ніводнай кнігі па гісторыі і медыцыне, у якой не ўпамінаўся б той злашчасны год. Падлічана, што за паўгода эпідэмія забрала паўтара мільярда людзей — амаль палавіну насельніцтва Зямлі. І калі другой палове пашчасціла ўцалець, то гэтым зямляне абавязаны ксемедрыну, які здабывалі на Тытане, і касмалёту «Ібіс», які з нечуванай хуткасцю даляцеў да шостага спадарожніка Сатурна.

Палёт не быў небяспечны. Дагэтуль чалавек ужо не раз ступаў на паверхню спадарожнікаў Сатурна. Больш таго, ён пранік на планету Уран, змог абляцець і дасканала вывучыць усю Сонечную сістэму — і ўсё гэта на цяпер ужо ўстарэлых атамных караблях.

Адным словам, «Ібісу» не пагражала сур'ёзная небяспека. Не было падстаў баяцца і якіх-небудзь нечаканасцей.

На самай справе, трыццацідзённы палёт праходзіў вельмі добра. Але пры пасадцы на Тытан здарылася невялікая аварыя — быў пашкоджаны антыграў.

Толькі праз двое сутак камандзіру карабля Арнэ Лагерсану і інжынеру-пілоту ўдалося выявіць, што, хоць індыкатар стаіць на адзнацы «нармальна», каштоўная энергія антыгравітацыйнага ўстройства катастрафічна памяншаецца.

— Мы часам падобныя на паганятага вярблюдаў у пустыні, які вельмі спакойна ідзе на чале каравана і не заўважае, што ў яго дзіравы бачок з вадой,— сказаў Арнэ Лагерсан.

У навігацыйны салон, дзе сабраўся камандны састаў карабля, увайшоў борт-інжынер Аляксей.

— Я ўмацаваў злучальныя кабелі і агледзеў увесь комплекс антыграва, цяпер усё ў парадку,— далажыў ён і паглядзеў на свае перапэцканыя ў масле рукі.— Падумаць толькі! Двое сутак мы спакойна спалі і елі і нават не здагадваліся, што ў кандэнсатарах уцечка. Я гатовы сам сябе адлупцаваць.

— Перастань,— сказаў другі пілот Фултан.— Я ўсё думаю, як гэта магло здарыцца?

Арнэ Лагерсан адышоў і прымасціўся ў кутку. Ён нерухома глядзеў проста перад сабою, раз-пораз ціха пахрустваючы пальцамі. Да яго падсеў Фултан.

— Магчымасць уцечкі энергіі ў антыграве прыкладна адна тысячная,— сказаў ён.— Улічы таксама, што сапсаваўся ахоўны клапан. Мала таго, адмовіў і аварыйны клапан. Гэта ўжо занадта.

Лагерсан у адказ толькі паціснуў плячамі.

— Нічога не разумею,— працягваў Фултан.— Тысяча, памножаная на мільён, дае мільярд. Чуеш, Арнэ? Імавернасць была адна мільярдная. Пашанцавала, няма чаго сказаць!

— Твае разлікі недакладныя,— сказаў Лагерсан.— Пасадка была не вельмі ўдалая, і многія клапаны выйшлі з строю. Што ж у гэтым дзіўнага? Так ужо здарылася, і цяпер нам даводзіцца туга. А што паказвае індыкатар антыграва?

— Мала суцяшальнага. Пакуль шэсцьсот пяцьдзесят кілаграмаў ніжэй крайняй нормы. Але калі ўлічыць, людзі і механізмы важаць тысячу шэсцьсот кілаграмаў, то няцяжка падлічыць. На караблі дзевяцьсот пяцьдзесят кілаграмаў лішняга грузу.

Лагерсан да болю закусіў губу і з жалем пакруціў галавой:

— Дрэнь нашыя справы, Фултан.

— Ды ўжо горш няма куды.— Фултан агледзеўся па баках, быццам толькі адным поглядам хацеў акінуць усё навокал.

— Нялёгка будзе скінуць гэтыя лішнія дзевяцьсот кілаграмаў.

Лагерсан склікаў усіх афіцэраў.

Не чакаючы спецыяльнага запрашэння, да іх далучыліся Аляксей, Ірына і доктар Паўльсэн.

— Прашу вас усё, што здарылася, трымаць у тайне,— сказаў камандзір карабля.— Няма чаго наперад трывожыць экіпаж.

Ён падняўся на камандны мосцік і павольна пайшоў у сваю рубку, адчуваючы сябе смяротна стомленым і блізкім да непрытомнасці. «Старэю,— падумаў ён.— Хутка сорак. Мнагавата, мнагавата для такой работы».

Ён закурыў цыгарэту і зірнуў у плексігласавы ілюмінатар.

Адсюль Тытан здаваўся безжыццёвай раўнінай, скаванай ледзяным панцырам. З расколін у сіняв珍ых ледзяных глыбах тонкімі чырвонымі струменьчыкамі выцякаў ксемедрын, рассцілаючыся над самай паверхняй планеты. Лагерсан не раз бываў на Тытане. Упершыню ён прыехаў сюды ў дзве тысячы адзінаццатым годзе, калі рабіў здымкі мясцовасці, а потым другі раз, роўна пра дзесяць гадоў, калі рабіў новыя, перыядычныя. І вось цяпер ён трапіў сюды трэці і баяўся, ці не апошні раз.

Прыкладна за трыста метраў ад карабля з-за ледзянога ўзгорка паказаліся касманаўты. У груваcткіх касмічных скафандрах яны рухаліся павольна, адзін за адным, несучы на плячы балоны з ксемедрынам, які сабралі з расколін за доўгія гадзіны цяжкай працы. Лагерсан пазнаваў сваіх людзей па хадзе. Не ўсіх вядома: на караблі было некалькі навічкоў, але кожнага, з кім яму даводзілася лётаць раней, ён, не вагаючыся, пазнаў бы і за тысячу метраў.

Ён у знямозе прылёг на ложак.

Дзевяцьсот кілаграмаў! Іх трэба выкінуць любой цаной. Але Лагерсан не мог засяродзіцца на гэтай думцы. Ён думаў пра ірацыянальнасць свету і самой гісторыі — сапраўды, недарэчна, калі свет аганізуе ад нейкай нікчэмнай, невядомай дагэтуль бактэрыі, а выратавальныя лекі можна здабыць толькі за мільёны кіламетраў ад Зямлі! А, зрэшты, магчыма, у гэтым ёсць свая логіка і нават шчаслівая заканамернасць. Ксемедрын! Калі шмат гадоў назад на Тытане праводзіліся першыя здымкі мясцовасці, хто б мог падумаць, што рэдкія чырвоныя струменьчыкі газу прынясуць ратунак чалавецтву? А ўрач з Гамбурга! Гэта ж ён здагадаўся, што ў барацьбе з бактэрыяй можна выкарыстаць толькі ксемедрын. Ён выпадкова знайшоў гэта, вывучаючы ўсялякія каталізатары для атрымання супрацьэпідэмічнай сывараткі. Але ці была гэта вападковасць, ці заканамернасць?

Лагерсан паспрабаваў уявіць, што здарылася б, калі б эпідэмія ўспыхнула на год раней, калі праект Крузіўса і Благовіча існаваў толькі на паперы. Звычайнаму касмічнаму караблю на атамным паліве спатрэбілася б каля года, каб даляцець да Тытана. За гэты час чалавецтва паспела

б вымерці. «Няхай будуць блаславёны «Ібіс» і цудадзейны ксемедрын»,— падумаў ён.

Ён нявесела ўсміхнуўся: самы ж убогі філосаф з поўным правам можа абвінаваціць яго ў голым практыцызме.

Цыгарэта патухла, і Лагерсан паглыбіўся ў трывожны сон. Ён імкліва нёсся кудысьці на лёгкім воблачку. Раптам ногі ў яго наліліся свінцом, ён зваліўся ўніз, і яго паглынула бездань.

Яго разбудзіла слабае стракатанне званка. Ён выверыў свой хранометр з двума цыферблатамі — для зямнога і «дарожнага» часу. «Час абедаць». Умыўшыся, ён спусціўся ўніз.

Абед праходзіў у поўным маўчанні. Доктар Паўльсэн не хаваў сваёй заклапочанасці, Фултан стараўся трымацца як мага спакайней, Ірына і Аляксей час ад часу абменьваліся загадкавымі позіркамі. Знізу, дзе абедалі астатнія члены экіпажа, чуўся прыглушаны гул галасоў.

— Колькі сёння сабралі ксемедрыну?— спытаў Лагерсан.

— Дванаццаць кілаграмаў,— адказаў Фултан.— Яшчэ два выхады, і мы збяром неабходныя шэсцьдзесят кілаграмаў.

— Трэба абысціся адным выхадам.

— Чаму? Усё роўна паляцець мы зможам не раней чым праз двое сутак.

— Ведаю,— буркнуў Лагерсан.— Але я хачу, каб усе члены экіпажа былі ў наяўнасці, калі спатрэбіцца памяншаць вагу карабля. Складзіце спіс, без чаго, па-вашаму, можна абысціся на караблі,— звярнуўся ён да Ірыны.— Укажыце вагу кожнага прадмета. Вы, Аляксей, падрыхтуйце спіс прадметаў не самай першай патрэбы. А вы, доктар... Падлічыце мінімальны харчовы рацыён і крайні запас кіслароду. Баюся, што нам прыйдзецца тужэй зацягнуць рамяні і напружыць лёгкія.

Ён устаў і накіраваўся да выхаду.

— Ага, ледзь не забыў,— сказаў ён.— Заўтра, калі закончыце збор ксемедрыну, забяры зброю ва ўсіх членаў экіпажа.

— Выверні кішэні, Джон.

Джон сярдзіта чмыхнуў.

— Табе кажуць, выверні кішэні!— Камандзір павысіў голас.

На стол упалі цыгарэты, запальнічка, пілка для пазногцяў, ражок-амулет.

— А дзе бумажнік?— зароў Лагерсан.

— Вось, трымайце,— буркнуў Джон, выцягнуўшы бумажнік з задняй кішэні штаноў.— Камандзір,— хрыплым, умольным голасам сказаў ён.— Тут толькі фатаграфіі жонкі. Яны і ста грамаў не важаць.

— Маўчаць! — загадаў Лагерсан.— Кладзі ўсё. І гадзіннік таксама.

Джон згроб усё сваё дабро ў кучку і панура паплёўся на месца. На стале ўжо высілася груда разнастайных рэчаў, глянуўшы на якія сэрца ў старызніка забілася б ад радасці: тут былі вечныя ручкі, шпількі для гальштука, запісныя кніжкі, ланцужкі, каляровыя алоўкі.

— Наступны.

Да стала падышоў чалавек гадоў сарака з ускудлачанымі рыжымі валасамі. Гэта быў навічок.

— Кліфт Івенс, камандзір,— далажыў ён.

— Выверні кішэні, Кліфт.

— Ужо зроблена, камандзір,— сказаў Кліфт і паказаў вывернутыя кішэні ў штанах.

— Выдатна.

Кліфт хацеў ужо ісці, але Лагерсан вярнуў яго.

— Здымі пярсцёнак, Кліфт.

— Я ўжо спрабаваў, камандзір. Нічога не атрымліваецца.

— Намыль палец. А калі і тады не дапаможа, прыйдзецца табе расстацца з пальцам.

Экіпаж у поўным складзе сабраўся ў навігацыйным салоне. Усе стаялі тварам да сцяны карабля.

— Выкіньце ўсё гэта, і хутчэй,— загадаў Лагерсан, як толькі закончыўся агляд.

Чацвёра людзей паднялі брызент з сабранымі рэчамі і накіраваліся ў шлюзавую камеру. Пяць хвілін праляцелі ў напружаным, панурым маўчанні. Нарэшце загарэлася зялёнае вочка, потым чырвонае і зноў залёнае.

— Што паказвае індыкатар?

— Дзвесце пяць кілаграмаў лішку, камандзір.

Арнэ Лагерсан разгублена правёў рукой па твары. Выкінуты ўсе сталы, канапы, кухонныя інфрапліты, засцерагальныя рамяні, посуд. Яны засталіся без усяго, што стварае пэўны камфорт, вызваліліся ад таго, што не з'яўляецца прадметам крайняй неабходнасці. Ад чаго ж яшчэ можна адмовіцца?

— Фултан! — сказаў камандзір.— Колькі засталося аварыйных клапанаў скафандраў?

— Пяць.

— Тры выкінуць. Доктар Паўльсэн, хадземце са мною. Нам трэба абмеркаваць пытанне аб рацыёне.

Як толькі доктар і камандзір карабля падняліся наверх, касманаўты ўсхваляваныя і занепакоеныя тым, што здарылася, разбрыліся па зале. Адны селі проста на падлогу і, сціснуўшы галаву рукамі, застылі нерухома з заплюшчанымі вачыма; другія, стараючыся не думаць аб трагічнай перспектыве, спрабавалі жартаваць і смяяцца.

Боба Арджытая, дзевяностакілаграмовага бамбізу і здаравяка, акружала невялікая група людзей.

— І што гэта такое — сіла цяжару?— штучна-наіўным тонам спытаў Боб.

— Адразу відаць, што ты асёл. Зараз я табе растлумачу, дурань.— Яго сябра Джо, які стаяў побач, закасаў рукавы.— Уяві сабе, што ты сядзіш у сябе ў небаскробе, на сорак першым паверсе. Дык вось, я бяру цябе за шкірку і выпіхваю ў акно. А потым знянацку адпускаю. Ну што, зразумеў? Што тады здарыцца, га?

— Гэта ты дарма, Джо,— сказаў нехта.— Нічагуткі не здарыцца. Боб з духу пярэчання возьме ды на злосць табе не ўпадзе.

Нехта засмяяўся, нехта злосна паціснуў плячамі, а тыя, каму абрыдла слухаць няўдалыя жарты, адышлі.

— Смех смехам, сябры,— сказаў Боб,— але я і праўда не разумею гэтага. Няма чаго строіць з сябе разумных — вы ведаеце роўна столькі, колькі і я. Індыкатар паказвае, што ў нас дзвесце пяць лішніх кілаграмаў. Дык няўжо, каб іх чорт узяў, з-за нейкіх там нікчэмных двухсот кілаграмаў мы павінны тарчаць на гэтым Тытане? Паспрабуй тут разбярыся.

— Ну, ці ж не асёл ты?— усклікнуў Джо.— Так і быць, паспрабую растлумачыць табе больш наглядна. Уяві, што ў цябе ёсць шалі з чашамі. На адной чашы сядзіш ты, а на другой ляжыць груз, дзевяноста кілаграмаў. Што здарыцца, калі ты таксама важыш дзевяноста кілаграмаў?

— Разумнейшага нічога не прыдумаў?!— усклікнуў Боб.— Зразумелая рэч, шалі застануцца ў раўнавазе.

— Вось іменна,— згадзіўся Джо.— Чашы шаляў не апусцяцца і не падымуцца, але калі ты вымеш з кішэні ручку і выкінеш яе, то чаша з грузам апусціцца, а цябе злёгку падыме. Зразумеў?

— Дурань!— усклікнуў Боб.— Як дзейнічаюць шалі я з пялёнак ведаю.

— Але антыграў працуе на гэтым жа прынцыпе,— сказаў Джо.— Розніцы ніякай.

— Ціха вы, Фултан ідзе.

Фултан падышоў да групы касманаўтаў.

— Вось што, хлопцы,— дружалюбна сказаў ён.— Прыйдзецца нам выкінуць усё лішняе адзенне.

Боб Арджытай зарагатаў.

— Цудоўна!— з штучным энтузіязмам ускліінуў ён.— Камандзір, відаць, вырашыў адправіць нас дадому ў адных трусіках...

— Хопіць выскаляцца,— абарваў яго Фултан.— Здымайце чаравікі, кашулі, бялізну.

— Загад пашыраецца на ўсіх без выключэння?— спытаў Боб.

Фултан кіўнуў.

— І да дзяўчыны наверсе ён таксама адносіцца?

— Зразумела.

— Выдатна, выдатна!— Боб Арджытай стаў радасна паціраць рукі.— Спадзяюся, інжынер Аляксей Платаў не разазлуецца, калі яго нявеста разок-другі спусціцца сюды, да нас.

— Крэтын!— раззлаваўся Фултан.

Усе засмяяліся.

— Гэта я так, пажартаваў,— апраўдваўся Боб,— каб хлопцаў падбадзёрыць.

Фултан разгублена паглядзеў на яго, потым сціснуў яго за локаць і лёгенька ляпнуў па плячы, павярнуўся і, чаканячы крок, пайшоў да дзвярэй.

Да адлёту заставалася васемнаццаць гадзін. Лагерсан, Фултан, доктар Паўльсэн, Аляксей і Ірына сабраліся наверсе, у галоўным салоне.

— Дык вось,— сказаў камандзір.— Улічыце, што ксемедрын чапаць нельга. Мне загадалі здабыць шэсцьдзесят кілаграмаў, і я прывязу роўна шэсцьдзесят кілаграмаў, ні грама меней.

Усе згодна кіўнулі.

— Нічога не зробіш,— уздыхнуў урач.— Цяпер на індыкатары антыграва лішнія шэсцьдзесят чатыры кілаграмы. У нас васемнаццаць гадзін, каб знайсці лішняе і...

— Нам яго не знайсці,— сказаў Аляксей.— На караблі няма больш нічога лішняга.

Лагерсан уважліва паглядзеў на сяброў, а тыя глядзелі на яго так, нібы вырашэнне праблемы залежала толькі ад яго аднаго.

Знізу чуўся глухі гоман касманаўтаў, ніхто больш не смяяўся. Нездаволенасць расла з кожнай секундай.

— Чаго вы ад мяне чакаеце?— са злосцю спытаў Лагерсан.— Вядома, прасцей за ўсё сабраць усіх і сказаць: «Сябры, адзін з нас лішні. Давайце кінем жэрабя, і той, каму не пашанцуе, павінен памерці. У адзіноце, як кінуты сабака».

Чацвёра афіцэраў не адрывалі ад яго позірку, і ў іх у вачах чыталася разгубленасць і нямы дакор.

— А некаторыя з вас лічаць, што я павінен добраахвотна пакінуць «Ібіс», так? Вядома ж, я камандую караблём, а камандзір абавязаны паказваць прыклад!

— Ніхто гэтага не кажа,— адазваўся Фултан.

— Смешна — звычайна ў выпадку небяспекі капітан пакідае карабель апошні. А я, па-вашаму, павінен пакінуць яго першы.— І Лагерсан ненатуральна засмяяўся.

— Паслухай, Арнэ, у час пасадкі індыкатар антыграва быў блакіраваны. Можа, ён проста сапсаваны?— сказаў Фултан.

— Што ты гэтым хочаш сказаць?

— Ён паказвае шэсцьдзесят чатыры кілаграмы лішняй вагі, але, магчыма, гэта памылка. Чаму б нам не паспрабаваць узляцець?

Лагерсан на секунду задумаўся.

— Я згодзен,— сказаў ён.— Паспрабуй.

Праз дваццаць хвілін Аляксей націснуў кнопку, корпус касмічнага карабля ўздрыгнуў і завібраваў. Лагерсан не адрываў позірку ад альтыметра. Пятнаццаць секунд праляцелі ў напружаным чаканні.

— Ноль!— злосна крыкнуў Лагерсан.— Мы не ўзняліся ні на сантыметр!

Усе зноў сабраліся ў цэнтры салона. Камандзір звярнуўся да Паўльсэна:

— Ну, а што вы прапануеце, доктар?

— Э, нам застаецца толькі сесці на самую жорсткую дыету. Праз тры-чатыры дні мы парадкам пахудзеем і зможам узляцець.

— Немагчыма.

— Не бачу іншага выйсця, камандзір. Альбо паляцім без ксемедрыну, альбо пачакаем, пакуль народ не пахудзее.

— Доктар, вы забываеце, што курс і час палёту былі разлічаны загадзя. Калі мы адкладзём палёт на некалькі

дзён, то наткнёмся ў дарозе на воблака В-36, а гэта — пэўная гібель. Значыць, ляцець трэба ці праз васемнаццаць гадзін, ці праз дваццаць дзён, калі нам ужо не будзе пагражаць сустрэча з смертаносным воблакам.

— А хіба нельга адхіліцца ад курса?

— Не, тады трэба ўзняцца па нармалі да арбіты планеты, а гэта звязана са значнай стратай хуткасці. Мы спознімся на дваццаць дзён, не кажучы ўжо пра дадатковую рызыку. А вы ўяўляеце сабе, што значыць спазніцца на дваццаць дзён?

— Ведаю!— крыкнуў урач.— На Зямлі кожную гадзіну памірае ў сярэднім трыццаць тысяч чалавек. Вы гэта ўжо не раз паўтаралі. Але што я магу зрабіць? Хіба мая віна, што ўспыхнула эпідэмія?

— Змоўкніце!

— І не падумаю! Вы самі цікавіліся маёй думкай.

Лагерсан павярнуўся да яго спінай. Апусціўшы галаву, ён хадзіў уздоўж сценкі карабля, раз-пораз у злосці стукаючы рукою па абшыўцы.

— Добра, паспрабуем скараціць дзённы рацыён удвая,— сказаў ён.

— Нічога не атрымаецца, Арнэ,— спакойна заўважыў Фултан.— Ты ўжо двойчы зніжаў норму, апрача таго, у нас засталося ўсяго некалькі кілаграмаў канцэнтрату.

— Значыць, трэба выліць шэсцьдзесят чатыры літры вады!

— Арнэ,— у голасе Фултана пачуліся змрочныя ноткі.— Паглядзі, колькі ў нас засталося вады. Нам і так прыходзіцца берагчы кожную кроплю. Яшчэ раз урэзаць запас вады і кіслароду — значыць асудзіць палёт на няўдачу.

— Розуму не дабяру, што рабіць,— прамармытаў Лагерсан. Ён у адчаі паглядзеў вакол.— Няўжо з карабля больш нічога нельга зняць?

У камандзірскай рубцы знялі ўсе пульты, частку рубільнікаў замянілі пробкамі. Усе прыборы, што не былі ўманціраваны ў корпус, выкінулі.

— Пракляты карабель!— крыкнуў Лагерсан.— Суцэльнаскроеная пачвара. Нічога нельга дэманціраваць, падтачыць, выразаць. Будзь ты пракляты!

Ён, нібы звер у клетцы, забегаў па салоне, потым раптам замёр і бяссільна прыхіліўся да сцяны.

Яго позірк упаў на Ірыну, на яе густыя доўгія валасы. Ён уявіў сабе, як вострыя ножніцы зразаюць тонкія пасмы адну за другой... Не, гэта не выйсце з становішча. Нават

калі пагаліць усіх, больш за дзвесце — трыста грамаў не набярэцца. Але туманная думка пра нажніцы выклікала ў Лагерсана страшную, але спакуслівую карціну... У галаве гўчалі жорсткія словы: «Намыль палец. Калі і тады не дапаможа, прыйдзецца расстацца з пальцам».

— Доктар,— звярнуўся ён да Паўльсэна.

— Слухаю, камандзір.

— Доктар...— Лагерсан змоўк у нерашучасці і дрыжачай рукой пацёр падбародак.— Доктар, колькі важыць чалавечая рука?

Паўльсэн уздрыгнуў.

— Па-рознаму,— ціха сказаў ён.— У сярэднім тры-чатыры кілаграмы.

Лагерсан не змог стрымаць задаволенай усмешкі.

— Баюся, што нам спатрэбіцца ваша дапамога, доктар.

Паўльсэн кінуў на астатніх умольны позірк, нібы просячы ратунку.

— Вы зможаце зрабіць дваццаць ампутацый?

Доктар гнеўна пацінуў плячамі.

— Я пытаюся, вы зможаце гэта зрабіць?

— Вядома, магу, але ў такіх абставінах я ніколі гэтага не зраблю!

— А я гавару — зробіце!— закрычаў Лагерсан. Ён выхапіў прамянёвы пісталет і навёў яго на Паўльсэна. Той міжвольна адступіў назад.

— Вы не маеце права мяне прымушаць. Паўтараю, я ніколі не зраблю гэтага!

— Паслухайце, Паўльсэн,— умольна сказаў Лагерсан,— я знайшоў апошнія шэсцьдзесят чатыры кілаграмы. Ваша задача — зняць іх з карабля. Калі вы адмовіцеся, я павінен буду ўжыць сілу.

— Божа, хто вы — пачвара ці авантурыст, які шукае таннай славы?— усклікнуў Паўльсэн.— Вы што думаеце, вам пасля вяртання помнік паставяць? Ды за такія выбрыкі вас будуць судзіць...

— Ну хопіць! — перабіў яго Лагерсан. Фултан, Аляксей і Ірына накіраваліся былі да яго.

— Ні з месца!— крыкнуў Лагерсан.

— Вы чуеце?— сказаў Паўльсэн.— Ён з глузду з'ехаў, ён хоча адрэзаць руку кожнаму з вас!

Ірына пабялела і міжвольна прыціснулася да Аляксея. Лагерсан зноў падняў прамянёвы пісталет.

— Паслухайце, людзі,— сказаў ён стомленым голасам.— Паслухайце мяне, сябры... не ведаю ўжо, як вас называць... Можа, я і сапраўды крыху не ў сабе. А можа,

доктар мае рацыю, і я сапраўды шукаю славы альбо вялікіх непрыемнасцей. Але ўсё гэта пустыя размовы, і мы толькі дарма трацім час. Зразумейце, «Ібісу» небяспека не пагражае. Вашаму жыццю таксама. Калі б гаворка ішла толькі аб спазненні на дваццаць дзён, праблема вырашалася б вельмі проста: крыху гімнастыкі, крыху менш калорый, і мы вельмі б спакойна ўзляцелі б з гэтага праклятага Тытана. Але ж вы ведаеце, што цяпер любое прамаруджванне падобна да смерці — на карту пастаўлена жыццё мільёнаў людзей. Я ведаю, ад вас патрабуецца нечуваная самаахвярнасць. Вы можаце настойваць, каб я ахвяраваў сабой. Але гэта несправядліва. Чаму іменна я, а не хто іншы? — Ён памаўчаў.— Даю вам паўгадзіны на роздум; я дастаткова паламаў галаву, цяпер ваша чарга. Калі вы не хочаце ахвяраваць рукой, знайдзіце спосаб зняць лішнія шэсцьдзесят чатыры кілаграмы. Але калі хутка іншага выйсця не будзе, прыйдзецца рабіць ампутацыю.

Ён абцёр з твару халодны пот і знясілены апусціўся на падлогу. Павекі зрабіліся цяжкімі і зліпаліся, перад вачыма расплываўся туман. «У мяне гарачка»,— падумаў ён.

Фултан прыхіліўся да стойкі індыкатара і застыў, як статуя. Паўльсэн нервова хадзіў з кутка ў куток, мармычучы нешта сабе пад нос. Ірына і Аляксей стаялі моўчкі, цесна прыціснуўшыся адно да аднаго.

— Я ведаю, пра што вы цяпер думаеце,— сказаў Лагерсан.— Спадзеяцеся, што хто-небудзь з членаў экіпажа не вытрымае, у шаленстве кінецца на мяне, і я яго прыстрэлю. Тады ўсе цяжкасці вырашацца самі сабой, ці не праўда? Але ж хто захоча цягаць для нас каштаны з агню? Не, дарагія сябры, на гэты раз кожнаму з нас прыйдзецца рабіць гэта самому.

Лагерсан усё гаварыў, гаварыў... Яго ліхаманкавая, бязладная гаворка то збівалася на праклёны, то перамяжоўвалася горкімі нараканнямі.

— Фултан! — слаба паклікаў ён.— Ты здольны добраахвотна памерці адзін-аднюткі на гэтым чортавым Тытане?

Другі пілот нахмурыўся і нічога не адказаў.

— Дык што, Фултан? — не сунімаўся Лагерсан.

— Не ведаю, Арнэ. Можа, і не.

— Тады ж чаму вы глядзіце на мяне з такім дакорам? Мы ж не пчолы і не мурашкі. І нават не насякомыя. Мы, што яшчэ горш, вартыя жалю, баязлівыя людзі.

У яго перад вачыма паўставалі жахлівыя відовішчы: перапоўненыя бальніцы, хворыя ляжаць у калідорах і нават у дварах. А па вуліцах у бяссільнай злосці, праклінаю-

чы сваю бездапаможнасць, бегаюць урачы. Па дарогах імчацца саставы з трупамі. З печаў крэматорыяў чадзіць дым... Усё чалавецтва паступова ператвараецца ў воблака попелу.

Лагерсан паглядзеў на хранометр.

— Дык вось,— сказаў ён,— ваш час скончыўся.

І ўсіх адразу прыгняла панурая цішыня, кожны ў думках упаў на самае дно роспачы і адчуў жах.

— Добра,— разарваў цішыню доктар Паўльсэн.— Мы доўга абражалі адзін аднаго. Час прымацца за справу. Патрэбны бінты, сказаў ён, шмат бінтоў і медыкаментаў, якія ўжо паспелі выкінуць за борт. І яшчэ яму патрэбен памочнік. Выклікалі Джо, які некалі вучыўся на медыцынскім факультэце.

Джо з'явіўся разам з Бобам Арджытаем.

— Джо, вы ўмееце рабіць укол у вену?

— Даводзілася, доктар.

— Надзень скафандр, Боб,— загадаў Лагерсан.— Каля карабля ў кучы іншых рэчаў валяюцца дзве-тры скрынкі з бінтамі. Знайдзі іх. Спытайся ў доктара, што яшчэ яму трэба.

Боб у страшэннай разгубленасці ўтаропіўся на камандзіра. Яму зрабілася страшна, страшна, што, як толькі ён пакіне карабель, дзверы зачыняцца і яго пакінуць аднаго ў ледзяной пустыні.

Лагерсан, відаць, зразумеў яго стан. Ён ужо хацеў паўтарыць свой загад, але яго перабіў Фултан.

— Я пайду,— сказаў ён.

Твар у Лагерсана прасвятлеў.

— Значыць, ты са мною згодзен, Фултан?

— Як заўсёды, Арнэ.

Камандзір уздыхнуў з палёгкай. Ён адчуў, як думкі ў яго праясніліся, кроў хутчэй пацякла па венах і ў яго зноў з'явілася звыклая бадзёрасць. Працягваючы хадзіць па салоне, ён энергічна аддаваў распараджэнні і сачыў за іх выкананнем.

Калі Фултан вярнуўся з бінтамі, Лагерсан загадаў усім сабрацца ў навігацыйным салоне. Размова была вельмі кароткая. Людзі слухалі ў абсалютным маўчанні, страціўшы дар слова ад здзіўлення. І раптам Кліфт Івенс заплакаў. Дарослы мужчына плакаў, хлюпаючы носам, як хлапчук, якога пакаралі без дай прычыны.

— Але чаму,— крыкнуў ён,— чаму нельга выкінуць ксемедрын? Выкінем яго к чорту ці пачакаем дзён з дваццаць!

— У цябе ёсць жонка, Кліфт?

Кліфт кіўнуў галавой.

— А дзеці?

— Двое, камандзір.

— Тады паспрабуй зразумець мяне, Кліфт. Мы пакінулі Зямлю больш за месяц назад. А раптам за гэты час твая жонка і дзеткі таксама захварэлі?

Кліфт выцер рукавом нос і ўзняў галаву. Але сёй-той глядзеў на камандзіра панура і злосна, грозна сціснуўшы кулакі, нібы чакаючы толькі сігналу, каб кінуцца на яго. Гэта не ўнікла ўвагі Лагерсана. Ён ускінуў прамянёвы пісталет і навёў яго на сцяну. Паступова твары людзей праясніліся, гнеўныя агеньчыкі ў вачах патухлі.

— Першы буду я,— сказаў Лагерсан,— апошні — Фултан. Гэта не таму, што я не давяраю вам. Хоць, урэшце... Словам, я хачу пазбегнуць магчымых беспарадкаў. Напэўна, адразу пасля аперацыі... мне будзе даволі кепска. На гэты час камандаванне прыме Фултан. Перш чым падыдзе яго чарга, я ўжо буду на нагах. Астатнія васемнаццаць чалавек кінуць жэрабя, каму за кім ісці на аперацыю. І апошняе. Магчыма, караблю ўдасца ўзляцець да таго, як будзе закончана апошняя, дваццатая аперацыя. Дык вось, я хачу, каб вы ясна зразумелі — на гэта разлічваць няма чаго. І калі нам суджана страціць руку, то праз гэта пройдуць усе, за выключэннем, зразумела, доктара. І толькі калі дваццаць рук будуць выкінуты за борт, я націсну кнопку. Пасля гэтага я выкіну і пісталет. Вось і ўсё.

Аляксей і Ірына стаялі паводдаль, моцна трымаючыся за рукі. Лагерсан падышоў да іх.

— Паверце, мне вельмі шкада, Ірына. Вы і Аляксей...— Ён замоўк.

Аляксей нічога не адказаў. Ірына таксама маўчала. Яны глядзелі на камандзіра сумна, але спакойна.

Лагерсан пайшоў далей, узіраючыся ў твары касманаўтаў.

— Доктар,— сказаў ён дрыготкім голасам.— Я гатовы. Можаце пачынаць.

— Дэвід,— паклікаў настаўнік.— Ты скончыў?

Дэвід устаў, узяў кнігу і пайшоў да дошкі, залажыўшы пальцам разгорнутую старонку. Вочы ў яго блішчалі, а шчокі зрабіліся пунсовыя.

— Цяпер ты зразумеў, чаму Тытан называюць яшчэ і «Месяцам дваццаці рук»?

— Ага, пан настаўнік.

— Дык вось, Дэвід... Пасля рэйса «Ібіса» прайшло чатыры стагоддзі. З таго часу кожны касманаўт лічыць для сябе за найвышэйшы гонар, калі пасля многіх гадоў спадзвіжніцкай працы і самаахвяравання яго ўзнагароджваюць ордэнам «Пурпуровай рукі». Табе гэта зразумела?

— Вядома, пан настаўнік... А што... што сталася з доктарам Паўльсэнам?

— А, з доктарам «Ібіса»,— уздыхнуў настаўнік.— Ён таксама быў удастоены мноства ўзнагарод і высокіх ушанаванняў. Ну, а потым... Паводле адных крыніц, неўзабаве пасля гэтага ён загінуў у аўтамабільнай катастрофе, другія сцвярджаюць, быццам ён скончыў самагубствам.

— Самагубствам?! Але чаму?

— Не ведаю, дружа. Можа, таму, што толькі яму ніхто не мог тады ампутаваць руку...

Дэвід панурыўся. Настаўнік пачаў расказваць пра бязмежнасць і прыгажосць космасу, пра незнаёмыя светы, дзе не ведаюць зямных нягод, светы, якія бясконца далёкія і неабсяжныя...

Дэвід сеў на месца, а настаўнік працягваў урок. Яго злёгку гугнявы голас разносіўся па класе. Вучні сядзелі моўчкі і як зачараваныя лавілі кожнае настаўнікава слова.

І толькі Дэвід быў у сваіх думках. Заўтра ён як след вывучыць заданне. І больш не будзе балбатаць і не слухаць настаўніка на ўроках астраноміі. Але сёння ён не можа слухаць. Ён думае пра тое, што бацька, відаць, моцна засмуціцца. Але ён не хоча больш быць хірургам: зямны шар для яго цяпер вельмі малы. Ён уздымае вочы, і пагляд яго прыцягваюць зорныя карты, якія вісяць на сцяне. Паступова абрысы навакольных прадметаў знікаюць, і Дэвід застаецца адзін, зачараваны мігаценнем далёкіх свяцілаў.

# ФРЭДЭРЫК БРАЎН

# АРЭНА

Карсан расплюшчыў вочы і ўбачыў над сабой цьмяна мігатлівы блакіт.

Было горача. Ён ляжаў на пяску. Яму ў спіну ўпіваўся востры камень з пяску. Карсан павярнуўся на бок, потым сеў, упіраючыся рукамі ў пясок.

«Я звар'яцеў,— падумаў ён.— Ці памёр. Ці яшчэ штонебудзь...»

Пясок быў блакітны. Ярка-блакітны. А блакітнага пяску няма ні на Зямлі, ні на адной з планет.

Блакітны пясок.

Блакітны пясок пад блакітным купалам,— ні небам, ні столлю, а нейкай замкнёнай паверхняй. Карсан чамусьці ведаў, што яна замкнёная і канечная, хоць і не мог гэтага бачыць.

Ён набраў жменю пяску, які заструменіў паміж яго пальцамі. Струменьчыкі заказыталі яго голую нагу.

Голую? Ён быў зусім голы, і яго цела пакрылася ўжо густым потам ад знясільнай гарачыні і таксама стала блакітнае там, дзе наліп пясок.

Але ў астатніх месцах яно было белае. «Значыць, гэты пясок сапраўды блакітны,— падумаў ён.— Калі б ён толькі здаваўся блакітным у блакітным святле, то і я быў бы блакітны. Але я белы,— значыць, пясок блакітны. Блакітны пясок. Блакітнага пяску не бывае. І такое такой не бывае, як гэтая».

Пот сцякаў яму ў вочы. Было горача, як у пекле. Толькі пекла павінна быць дачырвана распаленае, а не блакітнае.

А калі гэта не пекла, то што гэта? З усіх планет такі гарачы толькі Меркурый, але гэта не Меркурый. І потым, Меркурый застаўся прыкладна за чатыры мільярды міль ззаду ад...

І тут ён успомніў, дзе ён быў толькі што. У маленькім аднамесным касмалёце, што нёс патрульную службу за

арбітай Плутона, на адлегласці мільён міляў ад фланга зямной арматы, пастроенай у баявы парадак, каб сустрэць Прышэльцаў.

Ён успомніў той раптоўны, рэзкі, трывожны званок, калі сістэмы сачэння зарэгістравалі набліжэння ворага...

Ніхто не ведаў, хто такія Прышэльцы, як яны выглядаюць, з якой далёкай галактыкі яны прыйшлі,— ведалі адно, што яна дзесьці ў кірунку Плеяд.

Першыя разрозненыя налёты на далёкія калоніі і апорныя пункты Зямлі. Асобныя сутычкі паміж зямнымі патрулямі і невялікімі групамі касмічных караблёў Прышэльцаў: сутычкі, у якіх зямляне часам перамагалі, часам цярпелі паражэнне, але дагэтуль ні разу не змаглі захапіць касмалёта праціўніка. Не засталося жывога і ніводнага жыхара калоній, на якія рабіліся налёты,— расказаць хоць што-небудзь пра Прышэльцаў не было каму.

Спачатку пагроза здавалася не вельмі сур'ёзнай — налёты былі нячастыя і прычынялі не так многа шкоды. Іх касмалёты як быццам злёгку ўступалі зямным ва ўзбраенні, хоць крышачку пераўзыходзілі іх у хуткасці і манеўранасці. Якраз настолькі, што Прышэльцы, калі толькі яны не былі акружаныя, маглі выбіраць — уступіць ім у бой ці ўцячы.

І ўсё-такі Зямля рыхтавалася да рашучай бітвы. Быў пабудаваны небывала магутны касмічны флот. Чакаць давялося доўга. Але цяпер генеральная бітва набліжалася.

Разведчыкі выявілі вялізны флот Прышэльцаў за дваццаць мільярдаў міль ад Зямлі. Гэтыя разведчыкі так і не вярнуліся, але іх паведамленні былі атрыманы. І вось зямная армада, усе дзесяць тысяч касмалётаў і паўмільёна касманаўтаў размясціліся ў чаканні за арбітай Плутона, гатовая змагацца насмерць.

Бітва мелася быць роўная для абодвух бакоў — аб гэтым можна было меркаваць па рапартах перадавых патрулёў, якія ахвяравалі жыццём, але перад тым, як загінуць, перадалі звесткі пра колькасць і сілу флоту праціўніка.

Пры роўнасці сіл лёс Сонечнай сістэмы магла вырашыць самая нязначная выпадковасць. І рашэнне было б канчатковым — у выпадку паражэння Зямля і ўсе яе калоніі апынуліся б у поўнай уладзе Прышэльцаў...

О так, цяпер Боб Карсан усё ўспомніў.

Праўда, гэта не мела дачынення да блакітнага пяску і мігатлівага блакіту над галавой. Ды ён памятаў, як пра-

гучаў гэты рэзкі званок трывогі, як ён кінуўся да панелі кіравання, як у ліхаманкавай спешцы прышпіліўся да крэсла, як перад ім на экране расла светлая кропка.

Як у яго перасохла ў горле. Як ён з жахам зразумеў — пачалося! Для яго, прынамсі: асноўныя сілы ўдзельнікаў бітвы былі яшчэ за межамі дасягальнасці адзін для аднаго.

Менш як праз тры секунды ён або застанецца пераможцам, або ператворыцца ў жменьку попелу. Тры секунды — столькі доўжыцца бой у космасе. За гэты час можна не спяшаючыся злічыць да трох, а пасля гэтага ты або пераможаш, або будзеш мёртвы. Аднаго пападання зусім дастаткова для маленькага, аднаменснага, лёгка ўзброенага і слаба браніраванага патрульнага касмалёта.

Машынальна шэпчучы перасохлымі губамі «Раз!», ён ліхаманкава круціў ручкі на пульце, каб кропка, што ўсё большала, заставалася ў перакрыжаванні ліній на экране. Правая нага яго замерла над педаллю спуска. Адзіны смяротны залп — ці ён пацэліць, ці не. На другі стрэл часу ўжо не застанецца.

«Два!» Ён зноў не чуў, як у яго гэта вырвалася. Кропка на экране перастала быць кропкай. Размешчаны за некалькі тысяч міль варожы касмалёт быў відаць так, нібыта да яго некалькі соцень метраў. Гэта быў лёгкі, хуткі патрульны касмалёт амаль такога самага памеру, як і ў Боба.

Варожы патрульны касмалёт.

«Тр...» Яго нага дакранулася да педалі...

І раптам Прышэлец слізгануў па экране ўбок і выйшаў з перакрыжавання. Карсан ухапіўся за ручкі, каб пусціцца ў пагоню. Нейкую долю секунды праціўніка не было відаць, потым карабель Карсана павярнуўся, і той зноў з'явіўся на экране — Карсан убачыў, як ён крута зніжаецца да зямлі.

Да зямлі?

Нейкая аптычная ілюзія, не іначай. Гэтай планеты, што цяпер займала ўвесь экран, не магло быць тут. Проста не магло. Навокал не было ні адной планеты бліжэй, чым Нептун, а ён быў за тры мільярды міль. Плутон знаходзіўся па другі бок Сонца, якое віднелася адсюль малюсенькай кропкай.

А як жа сістэмы сачэння? Яны не выяўлялі ніякага прадмета памерам хоць бы з астэроід. Сігналы маўчалі і цяпер.

Гэтага не магло быць — таго, да чаго ён набліжаўся і што было ўжо за некалькі соцень міляў пад ім.

Раптоўная пагроза катастрофы прымусіла яго забыцца нават на праціўніка. Ён уключыў парэднія тармазныя ра-

кеты і, павіснуўшы на рамянях з усяе сілы наваліўся на штурвал аварыйнага павароту, ведаючы, што толькі поўная магутнасць рухавікоў уратуе яго ад катастрофы і што ад такіх перагрузак ён зараз страціць прытомнасць.

А цяпер ён сядзеў на гарачым блакітным пяску, зусім голы, але цэлы і здаровы. Навокал не было ніякіх слядоў яго касмалёта, ды і самога космасу. Гэтая паверхня над галавой ніяк не магла быць небам.

Ён, хістаючыся, стаў на ногі. Сіла цяжару была крыху большая за зямную. Ненамнога.

Навокал распасціраўся роўны пясок. Дзе-нідзе купкамі раслі нейкія мізэрныя кусцікі. Яны таксама былі блакітныя, але розных адценняў — адны святлейшыя, чым пясок, другія цямнейшыя.

З-пад бліжэйшага куста выбегла маленькая жывёліна, падобная на яшчарку, толькі ў яе былі не чатыры нагі, а куды болей. Яна таксама была блакітная — светла-блакітная. Убачыўшы Карсана, яна зноў схавалася пад куст.

Боб зноў паглядзеў угору, спрабуючы ўцяміць, што ж там такое. Гэта не было падобна на дах, аднак мела форму купала. Яно мігцела, і глядзець на яго было цяжка. Ды яно напэўна з усіх бакоў даходзіла да самай зямлі — да блакітнага пяску.

Боб стаяў недалёка ад цэнтра купала. Да бліжэйшай сцяны — калі гэта сцяна — было метраў сто. Над плоскай паверхняй пяску як быццам было перакулена нейкае блакітнае паўшар'е метраў 250 у акружнасці.

І ўсё было блакітнае, акрамя аднаго прадмета. Каля далёкага боку круглай сцяны ляжала нешта барвовае. Гэта быў амаль правільны шар дыяметрам каля метра. Ён быў занадта далёка, каб яго можна было ясна разгледзець у гэтым блакітным мігценні. І ўсё-такі Карсан чамусьці здрыгануўся.

Ён выцер пот з ілба тыльным бокам рукі.

Што гэта, кашмар? Гэтая гарачыня, гэты пясок, гэтае цьмянае адчуванне жаху пры адным позірку на барвовы шар?

Сон? Не можа быць: у час касмічнага бою не засынаюць.

Смерць? Немагчыма: калі бяссмерце і існуе, то ў ім не можа быць гэтага недарэчнага блакітнага пяску, блакітнай гарачыні і барвовага жаху.

І тады ён пачуў голас.

Ён пачуў яго не вушамі — голас загучаў усярэдзіне яго галавы. Ён ішоў ніадкуль і адусюль.

«Падарожнічаючы ў прасторы і часе,— звінела ў яго ў мозгу,— я выявіў дзве цывілізацыі, гатовыя пачаць вайну, якая б знішчыла адну з іх і настолькі аслабіла б другую, што яна непазбежна рэгрэсіравала б і ўжо ніколі не выканала б свайго прызначэння, а распалася б і вярнулася ў пыл, з якога яна ўзнялася. Ды гэтага не павінна здарыцца».

«Хто... ты?»— Карсан не сказаў гэтага ўголас, але пытанне ўзнікла ў яго ў мозгу.

«Ты не зможаш гэтага правільна зразумець. Я...— голас замоўк, як быццам шукаў у мозгу Карсана слова, якога там не было, якога ён не ведаў.— Я — вынік эвалюцыі цывілізацыі такой старажытнай, што яе ўзрост нельга выказаць зразумелымі табе словамі. Цывілізацыі, што злілася ў адзінае цэлае, якім можа стаць і твая прымітыўная цывілізацыя...— зноў паўза, падшукванне слова,— праз доўгі час. Такім могуць стаць і тыя, каго ты называеш Прышэльцамі. Таму я і ўмяшаўся перад пачаткам бітвы, гэткай роўнай, што вынікам яе будзе знішчэнне абедзвюх цывілізацый. Адна з іх павінна выжыць. Выжыць, каб развівацца далей». «Адна,— падумаў Карсан.— Мая ці...» «У маіх сілах спыніць вайну, паслаць Прышэльцаў назад, у сваю галактыку. Але яны ўсё роўна вернуцца або вы рана ці позна іх знойдзеце. Толькі пастаянным умяшаннем мог бы я прадухіліць узаемнае знішчэнне, але я не магу застацца. Таму я вырашыў умяшацца цяпер. Я цалкам знішчу адзін флот без ніякіх страт для другога. Так адна з цывілізацый зможа выжыць».

«Кашмар. Вядома, гэта кашмар»,— падумаў Карсан. Але ён ведаў, што гэта не кашмар.

Усё гэта было занадта бязглузда, занадта неверагодна, каб не адбывацца на самай справе.

Ён не адважыўся задаць пытанне — які? Але яго думкі задалі гэтае пытанне самі.

«Выжыве мацнейшы,— сказаў голас.— Гэтага я не магу — і не стаў бы — мяняць. Я проста ўмешваюся, каб гэта была сапраўдная, а не...— зноў паўза,— а не Пірава перамога, каб цывілізацыя, што пераможа, не была ёю зламана.

Я выбраў двух індывідуумаў — цябе і Прышэльца. Я бачу, што ў вашай старажытнай гісторыі, гісторыі міжнацыянальных войнаў, вядомыя паядынкі паміж прадстаўнікамі плямёнаў, якія вырашалі зыход барацьбы.

Табе і твайму праціўніку трэба будзе вытрымаць паядынак. Абодва вы голыя і бяззбройныя, абставіны аднолькава незнаёмыя абодвум, аднолькава непрыемныя абодвум.

Час не абмежаваны — тут няма часу. Адзін з вас пераможа. Яго цывілізацыя выжыве».

— Але...— Карсан сам не ведаў, што ён хацеў сказаць, але голас адказаў:

«Гэта справядліва. Умовы такія, што вырашыць не выпадковая фізічная перавага. Паміж вамі бар'ер. Ты зразумееш. Розум і мужнасць будуць важнейшыя за сілу. Асабліва мужнасць — воля да жыцця».

— Але пакуль гэта будзе адбывацца тут, нашы касмалёты...

«Не, вы ў іншым часе, іншай прасторы. Пакуль вы тут, у вядомым вам свеце час стаіць на месцы. Я бачу, ты думаеш, ці на самай справе ўсё гэта існуе. І так і не. Але для цябе цяпер гэта існуе сапраўды. І калі ты памрэш, ты памрэш сапраўды. А твая смерць будзе канцом усёй вашай цывілізацыі. Цяпер ты ведаеш дастаткова».

І голас змоўк.

Карсан зноў застаўся адзін. Не, не адзін — ён узняў вочы і ўбачыў, што той барвовы прадмет, той страшны шар, які, як ён цяпер ведаў, і ёсць Прышэлец, коціцца да яго.

Коціцца.

У яго як быццам не было ні рук, ні ног, ніякіх вонкавых прыдаткаў. Ён каціўся па блакітным пяску, як кропля ртуці. А перад ім нейкім чынам шырылася, паралізуючы, хваля галавакружнай, дурманлівай, страшнай нянавісці.

Карсан азірнуўся. За некалькі футаў ад яго ў пяску ляжаў камень — адзінае, што магло сысці за зброю. Камень быў невялікі, але з вострымі краямі, як у асколка крэменю. Ён і падобны быў на блакітны крэмень.

Карсан схапіў камень і прыгнуўся, гатовы адбіць напад. Праціўнік набліжаўся — ён рухаўся хутчэй, чым мог бы бегчы Карсан.

Не было калі думаць пра тое, як змагацца з ім, ды і як можна было загадзя ўявіць сабе змаганне з істотай невядомай сілы, невядомай будовы, з невядомымі прыёмамі барацьбы?

Дзесяць метраў. Пяць. І тут яно спынілася.

Правільней, яго штосьці спыніла. Яго пярэдняя частка раптам стала пляскатай, нібыта яно наткнулася на невідочную сцяну. Яно нават адскочыла назад.

Потым яно зноў пакацілася ўперад, ды ўжо павальней, асцеражней. І ў тым самым месцы зноў спынілася. Паспрабавала ў іншым месцы — і таксама спынілася.

Паміж імі быў нейкі бар'ер. І Карсан успомніў: «Справу вырашыць не выпадковая фізічная перавага. Паміж вамі бар'ер».

Гэта, вядома, нейкае сілавое поле. Не поле Нетцы, вядомае на Зямлі: яно свяцілася і патрэсквала. Гэтае было невідочнае і не выдавала ніякіх гукаў.

Бар'ер ішоў ад аднаго краю перакуленага паўшар'я да другога. Карсану не давялося самому ў гэтым пераканацца — гэта зрабіў Прышэлец. Ён бокам пракаціўся ўздоўж бар'ера і не знайшоў праходу.

Карсан ступіў паўтузіна крокаў уперад, выцягнуўшы перад сабой левую руку, і нарэшце дакрануўся да бар'ера. Ён быў гладкі, пругкі, падобны болей на гуму, чым на шкло. Цёплы навобмацак, але не цяплейшы за пясок пад нагамі. І ён быў зусім нябачны, нават зблізку.

Ён кінуў камень і налёг на бар'ер абедзвюма рукамі. Бар'ер як быццам крыху падаўся. Але не больш, нават пасля таго, як Карсан наваліўся на яго ўсёй сваёй вагою. Гэта было падобнае на сталь, пакрытую слоем гумы. Да нейкай мяжы — пругкасць, а далей — несакрушальная цвёрдасць.

Ён прыўзняўся на наскі, але там, куды ён мог дацягнуцца, быў бар'ер.

Прышэлец, дакаціўшыся да краю арэны, вяртаўся. У Карсана зноў закружылася галава, яму стала моташна, і ён адступіў ад бар'ера. Але Прышэлец не спыніўся.

А ці далёка ідзе бар'ер уніз. Карсан устаў на калені і пачаў раскопваць пясок. Пясок быў лёгкі, рыхлы, капаць яго было лёгка. Ён выкапаў яму глыбінёй на два футы,— і бар'ер там усё яшчэ быў.

Прышэлец зноў каціўся да яго. Відавочна, ён нідзе не знайшоў праходу.

Але ж павінен быць спосаб пранікнуць праз бар'ер, падумаў Карсан. Мы павінны неяк дабрацца адзін да аднаго. Інакш уся гэтая дуэль не мае сэнсу.

Але не трэба спяшацца. Спачатку трэба паспрабаваць што-колечы яшчэ. Прышэлец ужо вярнуўся і спыніўся з таго боку бар'ера, усяго за нейкіх метраў два ад Карсана. Здавалася, ён разглядае яго, хоць Карсан ніяк не мог выявіць у яго якіх бы там ні было органаў пачуццяў. Нічога падобнага на вочы, вушы, нават на рот. Зрэшты, цяпер ён убачыў на паверхні з дзесятак выемак, і якраз у гэты час з дзвюх такіх выемак раптам высунуліся два шчупальцы, якія пагрузіліся ў пясок, быццам спрабуючы ягоную шчыльнасць. Шчупальцы былі каля цалі дыяметрам і фута

паўтара даўжынёй. Яны ўбіраліся ў выемкі, калі ў іх не было патрэбы — напрыклад, калі Прышэлец каціўся. Да яго спосабу перамяшчэння яны, відавочна, не мелі дачынення. Наколькі Карсан мог меркаваць, Прышэлец перакочваўся, неяк змяняючы размяшчэнне свайго цэнтра цяжару, хоць як ён мог гэта рабіць, Карсан не меў нават далёкага ўяўлення.

Яшчэ раз паглядзеўшы на Прышэльца, ён здрыгануўся. Гэта была істота, да жудасці чужая ўсяму зямному, усім формам жыцця, выяўленым на іншых планетах Сонечнай сістэмы. І ён інстынктыўна адчуў, што розум, якім надзелена гэтая істота, гэтаксама чужы ўсяму зямному, як і ягоны арганізм.

Ды паспрабаваць трэба было. Калі гэтая істота не мае тэлепатычных здольнасцей, спроба асуджана на няўдачу. Але Карсану здалося, што такія здольнасці ў Прышэльца ёсць. Ва ўсякім разе, ён пасылаў вакол сябе амаль адчувальную хвалю адчування — адчування нянавісці. А калі гэтак, то, мабыць, ён зможа і чытаць думкі.

Карсан падняў камень — сваю адзіную зброю, потым дэманстратыўна шпурнуў яго на зямлю і ўзняў перад сабою пустыя рукі далонямі ўперад. Ён загаварыў, хоць і ведаў, што яго словы будуць незразумелыя гэтай істоце,— але ён падумаў, што гэтак яму будзе лягчэй засяродзіцца на думках, якія ён хацеў перадаць.

— А можа, мы заключым мір?— сказаў ён, і ягоны голас дзіўна прагучаў у абсалютнай цішыні.— Нам сказалі, што адбудзецца, калі нашы цывілізацыі будуць ваяваць адна з адной: знішчэнне адной і аслабленне і рэгрэс другой. Зыход бітвы залежыць ад таго, чым скончыцца справа ў нас. Ці не заключыць нам мір. Вы застаяцеся ў сваёй галактыцы, мы — у сваёй?

Карсан адключыў усе свае думкі, каб атрымаць адказ.

І адказ прыйшоў — ён абрынуўся на яго амаль фізічна, аж Карсан пахіснуўся. Ён нават адступіў на некалькі крокаў, жахаючыся ад сілы і глыбіні той нянавісці, той прагі забіваць, якія адкрыліся перад ім у перададзеных Прышэльцам вобразах. Не ў членападзельных словах, як перадаваліся яму думкі Адзінай Істоты, а ў хвалях дзікага шаленства. Нейкі момант, што здаўся яму вечнасцю, ён змагаўся з сілай гэтай нянавісці, каб ачысціць ад яе свой розум і адагнаць чужыя думкі, якія ён дапусціў сабе ў галаву. Яго занудзіла.

Ягоны розум памалу вызваліўся, як чалавек, ачуняўшы ад кашмару, пакрысе разрывае ніці трызнення, якімі быў

аблытаны. Карсан яшчэ задыхаўся і чуў слабасць, але ён ужо мог думаць.

Ён стаяў, разглядаючы Прышэльца. Той не кратаўся з месца, пакуль ішла гэтая дуэль, якой ён ледзь не выйграў. Цяпер ён адкаціўся на некалькі футаў убок, да бліжэйшага блакітнага куста. З выемак паказаліся тры шчупальцы і пачалі абмацваць куст, галінка за галінкай.

— Што ж,— сказаў Карсан,— вайна дык вайна.

Яму ўдалося нават крыва ўхмыльнуцца.

— Калі я правільна цябе зразумеў, мір цябе не задавальняе.

І, не могучы ўстрымацца ад прыгожай фразы, дадаў:

— Вайна — не на жыццё, а на смерць!

Ды ў гэтай абсалютнай цішыні яго словы прагучалі недарэчна,— нават ён сам гэта адчуў. І тут ён зразумеў, што вайна будзе сапраўды не на жыццё, а на смерць. І яго смерць — ці смерць гэтай круглай істоты — будзе смерцю цэлай цывілізацыі. Калі ён пацерпіць паражэнне, гэта прывядзе да пагібелі чалавецтва.

Падумаўшы гэтак, ён раптам адчуў страх. Ён жа ведаў гэта напэўна, без ніякага сумнення. Ён чамусьці ведаў, што той, хто наладзіў гэты паядынак, гаварыў праўду пра свае намеры і магчымасці. Не абдурваў.

Будучыня чалавецтва залежыць ад яго. Пра гэта было страшна падумаць, і ён адагнаў гэтую думку. Трэба было падумаць пра пільныя справы.

Павінен жа быць які-небудзь спосаб пранікнуць праз бар'ер — ці забіваць праз бар'ер.

З дапамогай тэлепатыі? Ён спадзяваўся, што не, таму што тэлепатычныя здольнасці Прышэльца яўна перавышалі чалавечыя. А можа, не перавышалі? Змог жа ён выгнаць з свайго розуму думкі Прышэльца. А Прышэлец? Калі ў яго мацней развіта здольнасць перадаваць свае думкі, ці не робіць гэта яго больш уразлівым для чужых?

— Памры,— падумаў ён.— Ты зараз памрэш. Ты паміраеш. Ты...

Ён спрабаваў некалькі разоў, у розных варыянтах, спрабаваў перадаваць вобразы. Пот выступіў у яго на лбе, ён увесь калаціўся ад напружання. Але Прышэлец працягваў абмацваць куст — усё гэта зрабіла на яго не большае ўражанне, чым калі б Карсан расказваў табліцу множання.

Значыць, нічога не выйшла.

Ад гарачыні і страшнага напружання думкі ён зноў адчуў слабасць і галавакружэнне. Ён прысеў на пясок адпачыць і заняўся пільным вывучэннем Прышэльца. Магчыма,

так ён зможа выявіць яго моцныя і слабыя бакі, даведаецца пра што-небудзь такое, што можа спатрэбіцца, калі справа дойдзе да рукапашнай.

Прышэлец абломваў галінкі. Карсан уважліва сачыў за ім, спрабуючы вызначыць, якіх гэта патрабуе ад яго намаганняў. Трэба будзе знайсці такі самы куст на маім баку, падумаў ён, самому зламаць такія самыя галінкі і параўнаць сілу маіх рук і гэтых шчупальцаў.

Галінкі адломваліся з цяжкасцю; ён бачыў, што Прышэльцу даводзілася з кожнай парадкам паваждацца. Кожнае шчупальца на канцы раздвойвалася, утвараючы два пальцы з кіпцюром на кожным. Кіпцюры выглядалі не надта небяспечнымі. Не больш небяспечнымі за чалавечыя пазногці, калі даць ім крыху падрасці.

Не, увогуле з ім не так цяжка будзе справіцца. Вядома, калі гэтыя кусты не вельмі моцныя. Карсан азірнуўся вакол і ўбачыў якраз такі самы куст побач з сабой. Ён працягнуў руку і адламаў галінку. Яна аказалася крохкай і нетрывалай. Вядома, Прышэлец мог наўмысна хаваць сваю сілу, але наўрад ці.

З другога боку, дзе яго ўразлівыя месцы? Як, уласна, можна яго забіць, калі выпадзе такая мажлівасць? Ён зноў пачаў вывучаць праціўніка. Яго вонкавая абалонка выглядала даволі моцнай. Спатрэбіцца якая-небудзь вострая зброя. Карсан зноў падняў камень. Ён быў цаляў 12 у даўжыню, вузкі і з адным досыць вострым краем. Калі б ён шчапаўся, як крэмень, з яго можна было б зрабіць зусім прыстойны нож.

Прышэлец працягваў даследаваць кусты. Ён падкаціўся да бліжэйшага куста іншай разнавіднасці. З-пад куста выскачыла блакітная шматногая яшчарка — якраз такая самая, якую Карсан бачыў на сваім баку.

Шчупальца Прышэльца кінулася, схапіла яе і падняло ў паветра. Другое шчупальца пачало абрываць ёй ногі — спакойна і абыякава, як быццам гэта былі галінкі. Яшчарка сутаргава білася, вішчала рэзкім віскам — першы гук, які Карсан пачуў тут, калі не лічыць свайго голасу.

Карсан здрыгануўся, яму захацелася адвесці вочы. Але ён прымусіў сябе глядзець — усё, што ён дазнаецца пра Прышэльца, можа аказацца карысным. Карысна нават бачыць гэту непатрэбную жорсткасць. Будзе проста прыемна прыкончыць гэту істоту, калі гэта ўдасца.

Менавіта таму ён стрымліваў агіду і працягваў глядзець, як Прышэлец ірве яшчарку на кавалкі.

Але ён узрадаваўся, калі яшчарка, у якой была ўжо адарвана палова ног, сціхла, перастала біцца і вісела мёртвая ў Прышэльцавых шчупальцах.

Той не стаў адрываць ёй астатніх ног і пагардліва адкінуў яе цела ў бок Карсана. Мёртвая яшчарка ўпала ля самых яго ног.

Яна мінула бар'ер! Бар'ера болей няма!

Карсан імгненна ўсхапіўся, моцна сціскаючы ў руцэ нож, і скочыў уперад. Зараз ён з ім расправіцца! Калі бар'ера няма...

Але бар'ер быў. Ён пераканаўся ў гэтым на горкім вопыце, наляцеўшы на яго галавой і ледзь не страціўшы прытомнасць ад удару. Яго адкінула назад, і ён упаў.

Калі ён зноў сеў, трасучы затуманенай галавой, ён заўважыў, што ў яго бок нешта ляціць, і, каб ухіліцца, распластаўся на пяску. Ён убярог сваё тулава, але адчуў раптоўны востры боль у левай лытцы.

Не зважаючы на боль, ён адкаціўся назад і падняўся на ногі. Цяпер ён бачыў, што ў яго папаў камень, а Прышэлец ужо падняў другі, захапіўшы яго двума шчупальцамі, і замахнуўся.

Камень паляцеў у Карсана, але ён лёгка ўхіліўся. Прышэлец, відавочна, не мог кідаць камяні моцна і далёка. Першы камень папаў у яго толькі таму, што ён сядзеў і не бачыў, што ён ляціць.

Ухіліўшыся ад слаба кінутага другога каменя, Карсан запусціў у Прышэльца сваім каменем, які ўсё яшчэ быў у яго ў руцэ. Ён раптам узрадаваўся, падумаўшы: калі камяні могуць пераляташ праз бар'ер, то варта гэтым заняцца. Чалавек з дужай рукой і дакладным вокамерам...

З чатырох метраў ён не мог прамахнуцца па трохфутавай мішэні, і ён не прамахнуўся. Камень праляцеў дакладна і моцна — у некалькі разоў хутчэй, чым камяні, кінутыя Прышэльцам. Ён трапіў у самую сярэдзіну, ды, на няшчасце, трапіў плазам, а не вострым канцом.

Тым не менш ён трапіў — пачуўся цяжкі ўдар, і Прышэлец яўна яго адчуў. Ён гэтым часам шукаў яшчэ каменя, але цяпер перадумаў і адкаціўся назад. Да таго часу, як Карсан падрыхтаваўся да новага кідка, Прышэлец быў ужо за сорак метраў ад бар'ера і працягваў каціцца назад.

Другі раз Карсан прамахнуўся на некалькі футаў, а трэці камень не даляцеў. Прышэлец быў па-за межамі дасягальнасці — ва ўсякім разе, для досыць цяжкага каменя, які мог бы зрабіць яму шкоду.

Карсан усміхнуўся. Гэты раунд ён выйграў. Калі не лічыць...

Ён нагнуўся, каб паглядзець, што ў яго з нагой, і ўсмешка знікла з яго губ. Востры край каменя нанёс яму даволі глыбокую рану на некалькі цаляў даўжынёй. З яе моцна ішла кроў, хоць артэрыя, хутчэй за ўсё, закранута не была. Калі кроў спыніцца сама, усё будзе ў парадку. А калі не, справы дрэнь.

Але трэба было заняцца чымсьці важнейшым за гэту рану. Будовай бар'ера.

Ён зноў падышоў да бар'ера, выцягнуўшы ўперад рукі. Ён знайшоў бар'ер і, упіраючыся ў яго адной рукой, кінуў у яго жменю пяску. Пясок праляцеў наскрозь, а яго рука — не.

Арганіка і неарганіка? Не, таму што праз бар'ер праляцела мёртвая яшчарка, а яшчарка, нават мёртвая,— гэта ўсё роўна арганіка. А расліна? Ён адламаў сучок і торкнуў ім у бар'ер. Сучок прайшоў наскрозь, але калі да бар'ера дакрануліся яго пальцы, якія сціскалі сучок, яны не прайшлі.

Значыць, Карсана бар'ер не прапускае, і Прышэльца таксама. А камяні, пясок, мёртвую яшчарку...

А жывая яшчарка? Ён пачаў паляваць на іх пад кустамі і хутка злавіў адну. Ён асцярожна кінуў ёю ў бар'ер, і яна адляцела назад і пабегла прэч па блакітным пяску.

Наколькі можна было меркаваць, гэта быў канчатковы адказ. Бар'ер перагароджваў шлях жывым істотам. Нежывое і неарганічнае рэчыва маглі пранікаць праз яго.

Высветліўшы гэта, Карсан зноў паглядзеў на сваю параненую нагу. Кроў ішла слабей — гэта значыла, што яму не трэба думаць пра турнікет. Але трэба было знайсці крыху вады, каб абмыць рану.

Пры думцы пра ваду ён зразумеў, што страшна хоча піць. Калі схватка зацягнецца, рана ці позна неабходна будзе знайсці ваду.

Накульгваючы, ён пачаў абход сваёй палавіны арэны. Кранаючыся бар'ера адной рукой, ён дайшоў да паўкруглай сцяны. Яна была бачная — зблізку яна здавалася шэра-блакітнай — а навобмацк была акурат такая, як і бар'ер.

Карсан на ўсякі выпадак кінуў у яе жменю пяску,— пясок прайшоў наскрозь і знік з вачэй. Значыць, паўкруглая сцяна — гэта таксама сілавое поле. Але суцэльнае, а не празрыстае, як бар'ер.

Ён пайшоў уздоўж сцяны, пакуль не вярнуўся да бар'ера, а потым уздоўж бар'ера да таго месца, з якога пачаў.

Вады не было і следу.

Занепакоены, ён пачаў хадзіць улукаткі паміж бар'ерам і сцяной, уважліва разглядаючы прастору паміж імі.

Вады не было. Блакітны пясок, блакітныя кусты, невыносная гарачыня. І болей — нічога.

«Напэўна, мне толькі здаецца, што я так ужо пакутую ад смагі»,— сказаў ён сабе. Колькі прайшло часу? Вядома, на меркі яго прасторы-часу — нічолькі. Яму ж было сказана, што пакуль ён тут, там час стаіць на месцы. Але жыццёвыя працэсы ў яго арганізме ідуць і тут. Колькі ж прайшло часу, калі вымяраць яго гэтымі працэсамі? Верагодна, тры-чатыры гадзіны. Ва ўсякім разе, не так доўга, каб пачаць сур'ёзна пакутаваць ад смагі.

І ўсё-такі ён моцна ўсмяг. У горле ў яго перасохла. Можа, ад гарачыні. А было сапраўды горача! Напэўна, градусаў 55. Сухая гарачыня без руху паветра.

Ён моцна кульгаў і быў знясілены да таго часу, як скончыў безвыніковы абход сваіх уладанняў.

Ён паглядзеў на нерухомага Прышэльца і падумаў: спадзяюся, што і яму гэтаксама пагана. Вельмі можа быць, што так і ёсць. Нам жа сказалі, што абставіны тут аднолькава незнаёмыя і аднолькава непрыемныя нам абодвум. Можа, на планеце Прышэльцаў нармальная тэмпература — градусаў 90. Можа, тут, дзе Карсан марудна падсмажваецца, Прышэлец замярзае.

А можа, паветра тут занадта шчыльнае для Прышэльца, як яно занадта разрэджанае для Карсана. Пасля прагулянкі ён проста задыхаўся. Цяпер ён сцяміў, што паветра тут не шчыльнейшае, чым на Марсе.

І ніякай вады.

Гэта азначала, што для барацьбы пастаўлена мяжа — ва ўсякім разе, для яго. Калі ён не знойдзе спосабу пранікнуць праз бар'ер або забіць ворага, застаючыся з гэтага боку,— рана ці позна яго заб'е смага.

Ён зразумеў, што трэба спяшацца. Ды ўсё-такі ён прымусіў сябе прысесці, каб трохі адпачыць і падумаць.

Што рабіць? Нічога. І тым не менш спраў шмат. Вось, напрыклад, розныя віды кустоў. Яны выглядаюць не вельмі шматабяцальна, але трэба ўважліва іх вывучыць. Потым нага: з ёю нешта трэба зрабіць, хоць і без вады. Падрыхтаваць боепрыпасы ў выглядзе камянёў. Знайсці камень, з якога можна было б зрабіць добры нож.

Нага да таго часу моцна разбалелася, і ён вырашыў пачаць з яе. На адным з кустоў расло лісце або нешта накшталт лісця. Ён сарваў жменю лісця і вырашыў рызыкнуць. Лістамі ён сцёр пясок, гразь і запечаную кроў, потым зрабіў кампрэс з свежага лісця і прывязаў яго да нагі вусікамі з таго самага куста.

Гэтыя вусікі аказаліся нечакана моцнымі. Яны былі тонкія, але затое гнуткія і пругкія, і ён не мог іх пераламаць, як ні стараўся. Давялося адпілоўваць іх вострым краем блакітнага каменя. Тыя вусікі, што былі таўсцейшыя, у даўжыню дасягалі цэлага фута, і ён на ўсякі выпадак запомніў, што, калі іх звязаць па некалькі штук, атрымаецца даволі добрая вяроўка. Можа, вяроўка яму спатрэбіцца.

Ён працягваў даследаваць кусты. Заставалася яшчэ тры разнавіднасці. Адны кусты былі без лісця, сухія, крохкія, падобныя да сухіх перакаці-поле. Другія былі мяккія і крышыліся, амаль як гніляк. Падобна было, што з іх выйдзе цудоўны трут для агню. Трэція былі больш чым астатнія падобныя да дрэў. У іх было далікатнае лісце, якое згортвалася пры дотыку, а сцяблы былі хоць і кароткія, але трывалыя і моцныя.

Было горача. Невыносна горача.

Моцна кульгаючы, Карсан падышоў да бар'ера і памацаў, ці тут ён яшчэ. Бар'ер усё яшчэ быў тут.

Нейкі час ён стаяў і глядзеў на Прышэльца. Той трымаўся на бяспечнай адлегласці ад бар'ера і там нешта рабіў, рухаючыся ўзад і ўперад. Што ён рабіў, Карсан разгледзець не мог.

Адзін раз ён спыніўся, крыху наблізіўся і як быццам утаропіўся на Карсана. І зноў Карсану прыйшлося змагацца з прыступам млосці. Ён шпурнуў у Прышэльца каменем, той адступіў і працягваў займацца сваёй незразумелай справай.

Прынамсі, Карсан мог трымаць яго на адлегласці.

«Вельмі многа з гэтага карысці»,— падумаў ён з горыччу. Тым не менш наступныя дзве гадзіны ён правёў, збіраючы камяні патрэбнай велічыні і складаючы іх у акуратныя кучкі паблізу ад бар'ера.

Горла ў яго гарэла. Ён амаль ні пра што не мог думаць, акрамя вады.

Але яму даводзілася думаць. Пра тое, як пранікнуць праз бар'ер, як дабрацца да гэтай істоты і забіць яе, пакуль гарачыня і смага не забілі яго самога.

Бар'ер з абодвух бакоў даходзіў да сцяны. А зверху і знізу?

Некаторы час у Карсана ў галаве стаяў нейкі туман, і ён ніяк не мог даўмецца, як яму гэта высветліць. Седзячы нерухома на блакітным пяску (а як ён сеў — гэтага ён не памятаў), ён бязмэтна глядзеў, як блакітная яшчарка перабягае ад аднаго куста да другога.

Карсан усміхнуўся ёй. Можа, у яго ў галаве штосьці было не ў парадку, бо ён раптам успомніў старыя балачкі марсіянскіх каланістаў: «...Хутка табе робіцца так адзінока, што ты пачынаеш загаворваць з яшчаркамі, а потым настае час, калі яны пачынаюць табе адказваць...»

Вядома, яму трэба было думаць пра тое, як забіць Прышэльца, але замест гэтага ён усміхнуўся яшчарцы і сказаў:

— Прывітанне!

Яшчарка зрабіла некалькі крокаў да яго.

— Прывітанне!— адказала яна.

Карсан здранцвеў ад здзіўлення, а потым апамятаўся і зарагатаў. І смяяцца яму было не балюча — не настолькі ўжо ў яго перасохла ў горле.

А чаму і не? Чаму б істоце, якая вынайшла гэтае кашмарнае месца, не мець пачуцця гумару? Гаваркія яшчаркі, якія адказваюць табе на тваёй мове,— хіба гэта не міла?

Ён усміхнуўся яшчарцы і сказаў:

— Ідзі сюды.

Але яшчарка павярнулася і ўцякла, перабягаючы ад куста да куста, пакуль не схавалася з вачэй.

Ён зноў адчуў смагу.

І потым трэба штосьці рабіць. Ён не можа перамагчы, проста седзячы тут і аддаючыся роспачы. Трэба штосьці рабіць. Але што?

Пранікнуць праз бар'ер. Але ён не можа прайсці праз яго, не можа і пералезці. А калі падлезці пад яго знізу? І да таго ж, каб знайсці ваду, капаюць калодзежы. Адным стрэлам двух зайцаў...

Пераадольваючы боль, Карсан падышоў да бар'ера і пачаў капаць пясок голымі рукамі. Гэта была марудная, цяжкая праца: пясок асыпаўся, і чым глыбей ён капаў, тым шырэй даводзілася рабіць яму. Ён не ведаў, колькі гадзін прайшло, але на глыбіні чатырох футаў ён упёрся ў скалу. Скала была зусім сухая — ніякіх прыкмет вады.

А сілавое поле даходзіла да скалы. Усё дарэмна. І вады няма. Нічога.

Ён выпаўз з ямы і лёг на пясок, задыхаючыся. Потым ён падняў галаву, каб паглядзець, што робіць Прышэлец. Павінен жа ён нешта рабіць.

Так і ёсць. Ён штосьці майстраваў з галінак кустоўя, звязваючы іх тонкімі вусікамі. Дзіўнае збудаванне вышынёй футы чатыры і амаль квадратнае. Каб разгледзець яго лепш, Карсан узлез на кучу пяску, якую ён выкапаў. Ззаду з машыны тырчалі два доўгія рычагі, адзін з іх заканчваўся паглыбленнем накшталт кубка. «Падобнае на нейкую катапульту»,— падумаў Карсан.

І праўда — Прышэлец паклаў у кубак важкі камень, адным шчупальцам парухаў угору-ўніз другі рычаг, потым крыху павярнуў машыну, нібы цэлячыся, а потым рычаг з каменем ірвануўся ўгору і ўперад.

Камень праляцеў за некалькі метраў над галавой Карсана, так далёка, што ён нават не стаў нагінацца, але ён прыкінуў, на якую адлегласць паляцеў камень, і аж свіснуў. Ён не мог бы кінуць камень такой вагі далей, чым на палову гэтай адлегласці. І калі нават ён адступіць да задняй сцяны сваіх уладанняў, гэтая машына дастане да яго, калі Прышэлец прысуне яго да самага бар'ера.

Над ім праляцеў яшчэ камень — ужо бліжэй.

«Гэта можа быць небяспечна»,— вырашыў ён. Трэба нешта рабіць.

Рухаючыся ўздоўж бар'ера, каб катапульта не магла ўзяць яго ў вілку, ён запусціў у яе дзясяткам камянёў. Але ён убачыў, што з гэтага не будзе ніякага толку. Так далёка ён мог кідаць толькі невялікія камяні. І калі яны траплялі ў машыну, яны адскоквалі ад яе, не зрабіўшы ніякай шкоды. А Прышэлец на такой адлегласці лёгка ўхіляўся ад тых камянёў, якія падалі каля яго.

Акрамя таго, у яго моцна стамілася рука. Ад знямогі ў яго балела ўсё цела. Калі б толькі ён мог крыху адпачыць і не ўхіляцца кожныя трыццаць секунд ад снарадаў катапульты...

Ён, хістаючыся, адышоў да задняй сцяны. Але і гэта яго не ратавала. Камяні даляталі і туды, толькі радзей, як быццам даводзілася даўжэй заводзіць механізм катапульты.

Ён зноў зморана пацягнуўся да бар'ера. Некалькі разоў ён падаў і з цяжкасцю падымаўся на ногі. Ён ведаў, што яго сілы канчаюцца. І ўсё-такі ён не мог спыніцца, пакуль не выведзе са строю гэту катапульту. Варта яму задрамаць, і болей ён не прачнецца.

Першы пробліск ідэі з’явіўся ў яго пасля чарговага стрэлу катапульты. Яе снарад трапіў у адну з кучак камянёў, якія ён назбіраў ля бар’ера, і ад удару выскачыла іскра.

Іскра. Агонь. Першабытныя людзі здабывалі агонь, высякаючы іскры. А калі выкарыстаць гэтыя сухія крохкія кусты як паліва...

На шчасце, адзін такі куст аказаўся якраз каля яго. Ён зламаў яго, паднёс да кучы камянёў, а потым узяўся цярпліва стукаць каменем аб камень, пакуль адна іскра не папала на драўніну, падобную на трут. Дрэва занялося так хутка, што полымя абпаліла яму бровы, і ператварылася ў попел за некалькі секунд.

Але цяпер ён ужо ведаў, што рабіць, і праз некалькі хвілін пад аховай горкі пяску, які ён выкапаў з ямы, гарэла маленькае вогнішча. На распалку ён узяў мяккія галінкі, а агонь можна было падтрымліваць голлем другога куста, якое таксама гарэла, але марудней.

Моцныя вусікі, падобныя да дроту, амаль не гарэлі — з іх дапамогай было лёгка рабіць запальныя снарады. Пучкі галля з маленькім каменем усярэдзіне — для вагі, абвязаныя вусікамі з пятлёй, каб мацней замахнуцца.

Ён назапасіў паўтузіна такіх снарадаў, потым запаліў і кінуў першы. Ён не трапіў у цэль, і Прышэлец паспешліва пачаў адступаць, цягнучы за сабою катапульту. Але ў Карсана было гатова яшчэ некалькі снарадаў, і ён кінуў іх адзін за адным. Чацвёрты засеў у машыне, і гэтага было дастаткова. Прышэлец дарэмна спрабаваў патушыць полымя, якое распаўзалася, закідваючы яго пяском,— кіпцюрыстыя шчупальцы не маглі захапіць яго памногу. Катапульта згарэла.

Прышэлец адкаціўся на бяспечную адлегласць ад агню і зноў засяродзіў сваю ўвагу на Карсане. Зноў Карсан адчуў хвалю нянавісці і млосці. Але ўжо слабей: ці сам Прышэлец аслабеў, ці Карсан ужо навучыўся бараніцца ад такога нападу.

Ён паказаў Прышэльцу нос і адагнаў яго каменнем на значную адлегласць. Прышэлец адкаціўся да задняй сцяны сваёй палавіны і зноў пачаў збіраць голле. Напэўна, ён збіраўся зрабіць яшчэ адну катапульту.

Карсан соты раз праверыў, ці дзейнічае яшчэ бар’ер, і раптам выявіў, што сядзіць ля самага бар’ера на пяску, занадта аслабеўшы, каб устаць. Параненую нагу тузала ўсё мацней, і смага мучыла яго яшчэ болей. Але ўсё гэта адступала на другі план перад поўнай знямогай.

І гарачынёй.

Вось гэта, напэўна, і ёсць пекла, падумаў ён. Пекла, у якое верылі ў старажытнасці. Ён з усяе сілы стараўся не заснуць, хоць і не бачыў у гэтым асаблівага сэнсу: усё роўна ён нічога не можа зрабіць, пакуль бар'ер застаецца непраходным і Прышэлец трымаецца далёка ля задняй сцяны.

Але ж павінен быць які-небудзь спосаб! Ён паспрабаваў прыпомніць, што ён чытаў у кнігах па археалогіі пра тое, як ваявалі калісьці, да з'яўлення металу і пластыкаў. Першай зброяй быў як быццам камень для кідання. Ну, гэта ў яго ўжо было. Адзіным удасканаленнем гэтай зброі была катапульта, накшталт той, якую змайстраваў Прышэлец. Але Карсан ніколі не зможа такой зрабіць: кусты маглі даць толькі малюсенькія галінкі, даўжынёй не болей як фут. Ён, вядома, мог бы прыдумаць што-небудзь і з іх, ды на гэта спатрэбілася б некалькі дзён, а ў яго ўжо мала сілы.

Некалькі дзён? Але ж Прышэлец яе збудаваў. Няўжо прайшло некалькі дзён? Але тут ён успомніў, што ў Прышэльца шмат шчупальцаў і што ён, несумненна, можа працаваць хутчэй.

Акрамя таго, катапульта не вырашае зыходу барацьбы. Трэба прыдумаць што-небудзь лепшае.

Лук і стрэлы? Не! Ён неяк спрабаваў страляць з лука і ведаў, што ў яго нічога не выйдзе. Нават з сучасным спартыўным сталёвым лукам дакладнага бою. А з прымітыўнага спартыўнага лука, які ён мог бы змайстраваць тут, ён наўрад ці зможа страляць далей, чым кідае камяні, і напэўна ўжо не так трапна.

Кап'ё? Гэта ён можа зрабіць. Яго будзе нязручна кідаць, але яно можа спатрэбіцца ў рукапашнай — калі справа дойдзе да рукапашнай.

І потым гэта дасць яму хоць нейкі занятак. Адцягне яго ад вар'яцкіх думак, якія ўжо лезуць у галаву. Ён ужо час ад часу мусіў рабіць намаганне, каб успомніць, навошта ён тут, навошта яму трэба забіць Прышэльца.

На шчасце, ён ляжаў паблізу ад адной з нарыхтаваных кучак камення. Ён перабраў іх, пакуль не знайшоў адзін асколак, які формай нагадваў наканечнік кап'я. Другім, маленькім, каменем ён пачаў абчэсваць яго, стараючыся надаць яму такую форму, каб ён, уткнуўшыся ў цела, не мог выйсці назад.

Што-небудзь накшталт гарпуна? У гэтым нешта ёсць, падумаў ён. Для гэтай вар'яцкай бойкі гарпун лепей, чым

кап'ё. Калі б прабіць ім Прышэльца і калі да гарпуна будзе прывязана вяроўка, ён зможа прыцягнуць Прышэльца да бар'ера — і тады нават калі яго рукі не змогуць пранікнуць на той бок, гэта зробіць каменнае лязо нажа.

Дрэўка было цяжэй зрабіць, чым наканечнік. Але расталоўшы ўздоўж і злучыўшы самыя тоўстыя ствалы чатырох кустоў і абвязаўшы сучляненні тонкімі, але моцнымі вусікамі, ён зрабіў трывалае дрэўка футы на чатыры даўжынёй і да канца яго прывязаў каменны наканечнік. Выйшла нязграбна, але надзейна.

Цяпер вяроўка. З тонкіх, моцных вусікаў ён сплёў вяроўку футаў на дваццаць даўжынёй. Вяроўка была лёгкая і здавалася слабой. Але ён ведаў, што яна лёгка вытрымае яго вагу. Адзін канец яе ён прывязаў да дрэўца гарпуна, а другі абвязаў вакол правага запясця. Цяпер, кінуўшы гарпун праз бар'ер, ён ва ўсякім разе зможа выцягнуць яго назад, калі прамахнецца.

Калі ён зацягнуў апошні вузел і не ведаў, што рабіць далей, ён адчуў, што гарачыня, стома, боль у назе і страшная смага сталі раптам у сто разоў мацнейшыя.

Ён паспрабаваў устаць, каб паглядзець, што робіць Прышэлец, і ўбачыў, што не можа падняцца на ногі. З трэцяй спробы ён ухітрыўся ўстаць на карачкі і зноў упаў на пясок.

«Трэба паспаць,— падумаў ён.— Калі зараз дойдзе да схваткі, я нічога не змагу зрабіць. Ён мог бы цяпер падысці і забіць мяне, калі б ён ведаў. Трэба крыху адпачыць».

Пераадольваючы боль, ён з цяжкасцю папоўз прэч ад бар'ера.

Нешта ўдарылася аб пясок побач з ім і абудзіла яго ад жахлівага, заблытанага сну да яшчэ больш жахлівай рэальнасці. Ён расплюшчыў вочы і зноў убачыў блакітнае міганне над блакітным пяском.

Колькі часу ён спаў? Хвіліну? Дзень?

Побач упаў яшчэ адзін камень, ужо бліжэй. Яго абсыпала пяском. Ён упёрся рукамі, сеў, павярнуўся і ўбачыў Прышэльца за дваццаць ярдаў ад сябе, ля самага бар'ера.

Як толькі Карсан сеў, Прышэлец паспешліва пакаціўся прэч і спыніўся ля задняй сцяны.

Карсан зразумеў, што заснуў занадта рана, калі быў яшчэ ў межах дасягальнасці для камянёў, кінутых Прышэльцам. А той, убачыўшы, што ён ляжыць нерухома, адважыўся падысці да бар'ера і пачаў кідаць у яго камянямі. На шчасце, Прышэлец не ведаў, наколькі Карсан аслабеў — інакш ён бы застаўся тут і кідаў камяні.

Ці доўга ён спаў? Напэўна, не, бо адчуваў сябе зусім гэтак, як і раней. Сілы ў яго не прыбавілася, смага не памацнела,— ніякай розніцы. Можа, прайшло ўсяго некалькі хвілін.

Ён зноў папоўз, гэты раз прымушаючы сябе паўзці далей і далей, пакуль бясколерная, непразрыстая сцяна арэны не была ўсяго за метр ад яго. Тады ён зноў заснуў...

Калі ён прачнуўся, нічога навокал не змянілася, але на гэты раз ён ведаў, што спаў доўга.

Першае, што ён адчуў, была сухасць у запечаным роце. Язык распух.

Паволі ачуньваючы, ён зразумеў: нешта нядобра. Ён ужо не адчуваў такой стомленасці — знямога прайшла. Але ён адчуваў вельмі моцны боль. І калі ён паспрабаваў павярухнуцца, ён зразумеў, што крыніца яго — нага.

Ён падняў галаву і паглядзеў. Нага ніжэй калена страшэнна распухла, і пухліна дайшла да палавіны бядра. Вусікі раслін, якімі ён прывязаў да раны кампрэс з лісця, цяпер глыбока ўпіліся ў распухлую нагу. Прасунуць пад іх нож аказалася немагчыма. На шчасце, апошні вузел быў над косцю галёнкі, спераду, дзе дуддзе ўпілося не так глыбока. Сабраўшы ўсю сілу, ён развязаў вузел.

Зірнуўшы пад павязку, ён убачыў самае горшае, што толькі магло быць. Заражэнне — вельмі моцнае, і яно паўзе ўгору.

І не маючы лякарстваў, не маючы бінтоў, не маючы нават вады, ён нічога не мог з гэтым зрабіць.

Хіба што памерці, калі заражэнне ахопіць усё цела.

Цяпер ён зразумеў, што надзеі няма. Ён пераможаны.

І разам з ім — чалавецтва. Калі ён памрэ тут, там, у яго свеце, памруць усе яго сябры, усе людзі. Зямля і яе калоніі на планетах стануць вотчынай чужых усяму зямному Прышэльцаў. Кашмарных, нялюдскіх стварэнняў, якія атрымліваюць задавальненне, разрываючы на часткі жывых яшчарак.

Гэтая думка надала яму мужнасці, і ён папоўз уперад, амаль нічога не бачачы ад болю, уперад, да бар'ера. Цяпер ужо не на карачках, а паўзком, адштурхоўваючыся нагамі і падцягваючыся на руках.

Заставаўся адзін шанц з мільёна, што, калі ён дабярэцца да бар'ера, у яго хопіць сілы адзін-адзінюткі раз кінуць свой гарпун і трапіць, калі — яшчэ адзін шанц з мільёна —

Прышэлец таксама апынецца каля бар'ера. Або калі бар'ер знікне.

Яму здалося, што спатрэбіліся гады, каб дапаўзці да бар'ера. Бар'ер быў на месцы. Такі самы непраходны, як і тады, калі ён упершыню яго намацаў.

А Прышэльца ля бар'ера не было. Прыўзняўшыся на локцях, Карсан убачыў яго ў задняй частцы той палавіны арэны — ён быў заняты пабудовай драўлянай рамы, якая была напалову гатовай копіяй знішчанай Карсанам катапульты.

Рухі Прышэльца былі павольныя — несумненна, ён таксама аслабеў. Але Карсан падумаў, што наўрад ці Прышэльцу спатрэбіцца другая катапульта. Ён падумаў, што памрэ раней, чым той яе скончыць.

Калі б завабіць яго да бар'ера, пакуль ён жывы...

Карсан замахаў рукой і паспрабаваў крыкнуць, але яго запечаныя губы не маглі вымавіць ні гука. Або каб пранікнуць праз бар'ер...

На яго, напэўна, найшло нейкае зацьменне, бо ён выявіў, што ў дарэмнай лютасці стукае кулакамі па бар'еры. Ён прымусіў сябе спыніцца, заплюшчыў вочы, спрабуючы супакоіцца.

— Прывітанне,— вымавіў нейкі тоненькі голас. Ён быў падобны на голас...

Карсан расплюшчыў вочы і павярнуўся. Гэта сапраўды была яшчарка.

«Адыдзі,— хацеў сказаць Карсан.— Адыдзі. Цябе папраўдзе няма, а калі ты тут, дык ты не можаш гаварыць. Мне зноў мроіцца».

Але ён не мог вымавіць ні слова — яго рот і горла зусім высахлі. Ён зноў заплюшчыў вочы.

— Баліць,— сказаў голас.— Забі. Баліць. Забі. Ідзі.

Ён зноў расплюшчыў вочы. Дзесяціногая блакітная яшчарка была яшчэ тут. Яна прабегла крыху ўздоўж бар'ера, вярнулася, зноў прабегла, зноў вярнулася.

— Баліць,— сказала яна.— Забі. Ідзі.

Зноў яна адбегла, зноў вярнулася. Яна відавочна хацела, каб Карсан пайшоў за ёй уздоўж бар'ера.

Ён зноў заплюшчыў вочы. Голас не змаўкаў. Усё тыя самыя тры бязглуздыя словы. Кожны раз, як ён расплюшчваў вочы, яна адбягала і вярталася.

— Баліць. Забі. Ідзі.

Карсан застагнаў. Праклятае стварэнне не пакіне яго ў спакоі, пакуль ён не рушыць за ім. Ён папоўз следам за

яшчаркай. Да яго данёсся іншы гук — тонкі віск. Ён рабіўся мацнейшы.

На пяску нешта ляжала, вывіваючыся і курчачыся. Нешта маленькае і блакітнае — падобнае да яшчаркі і тым часам...

Тут ён зразумеў, што гэта такое — гэта яшчарка, у якой Прышэлец адрываў ногі. Гэта было так даўно... Але яна была жывая; яна апрытомнела і цяпер з віскам курчылася ў агоніі.

— Баліць,— сказала другая яшчарка.— Баліць. Забі. Забі.

Карсан зразумеў. Ён выцягнуў з-за павязкі каменны нож і забіў знявечанае стварэнне. Жывая яшчарка хутка шмыгнула прэч.

Карсан павярнуўся да бар'ера. Прыпаўшы да яго рукамі і тварам, ён глядзеў, як удалечыні Прышэлец майструе катапульту.

«Калі б дабрацца туды,— думаў ён.— Калі б трапіць на той бок. Я б яшчэ мог перамагчы. Здаецца, ён таксама аслабеў. Я мог бы...»

Зноў на яго насунулася чорная безнадзейнасць; яго воля адступіла перад болем, і ён падумаў, што лепей было б памерці. Ён пазайздросціў яшчарцы, якую толькі што забіў. Яна не будзе болей пакутаваць. А яму давядзецца. Можа, гадзіны, можа, дні — пакуль ён не памрэ ад заражэння крыві.

Калі б можна было самога сябе гэтым нажом...

Ды ён ведаў, што не зможа гэтага зрабіць. Пакуль ён жывы, ёсць хоць адзін шанц з мільёна...

Ён з усіх сіл націскаў рукамі на бар'ер, як быццам хацеў адштурхнуць яго ад сябе. Ён заўважыў, якімі тонкімі і касцістымі сталі яго рукі. Напэўна, ён тут ужо доўга, ужо шмат дзён.

Колькі ж засталося яму жыць. Колькі часу ён яшчэ можа трываць гарачыню, смагу і боль?

Нейкі час ён быў блізкі да істэрыкі, але потым прыйшоў глыбокі спакой і з ім — ашаламляльная думка.

Яшчарка, якую ён толькі што забіў. Яна перасекла бар'ер, калі была яшчэ жывая! Яна была на баку Прышэльца; той абарваў ёй ногі і пагардліва адкінуў сюды, і яна праляцела праз бар'ер. А ён падумаў — гэта таму, што яна мёртвая.

Але яна была жывая! Яна была ўсяго толькі без прытомнасці.

Жывая яшчарка не можа перасекчы бар'ер, але калі

яна непрытомная — гэта магчыма. Значыць, бар'ер непраходны не для жывой матэрыі, а для матэрыі, якая мысліць.

І з гэтай думкай Карсан папоўз уздоўж бар'ера, каб зрабіць апошнюю адчайную стаўку. Надзея была такая мізэрная, што толькі паміраючы можна ўхапіцца за яе.

Няма сэнсу ўзважваць шанцы на поспех. Таму што калі ён адмовіцца ад гэтай спробы, яны амаль роўныя нулю.

Ён дапоўз да кучы пяску вышынёй футы на чатыры, якую ён накапаў, спрабуючы — колькі дзён назад гэта было?— падкапацца пад бар'ер або знайсці ваду.

Куча была ля самага бар'ера — адзін яе схіл напалову заходзіў на той бок.

Узяўшы камень з суседняй кучы, ён залез на пагорак, мінуў яго вяршыню і ўлёгся, абапёршыся на бар'ер, так, што, калі б бар'ер раптам знік, ён скаціўся б па схіле на варожую тэрыторыю.

Ён праверыў, ці на месцы нож, ці зручна ляжыць у яго левай руцэ гарпун і ці моцна прывязана да яго і да яго запясця вяроўка.

Потым ён падняў правай рукой камень, якім зараз ударыць сябе па галаве. Давядзецца паспадзявацца на шанцаванне: удар павінен быць настолькі моцны, каб ён страціў прытомнасць, ды не настолькі, каб гэта было надоўга.

Ён адчуваў, што Прышэлец сочыць за ім, што той убачыць, як ён скоціцца праз бар'ер, і абавязкова наблізіцца, каб высветліць, у чым справа. Карсан спадзяваўся, што той прыме яго за мёртвага — ён спадзяваўся, што той прыйшоў да такога самага вываду пра бар'ер, як у свой час і ён. Але Прышэлец будзе асцярожны і падыдзе не адразу. Няшмат часу ў яго будзе.

Ён нанёс удар...

Ачуняў ён ад болю. Ад раптоўнага рэзкага болю ў бядры, не падобнага на тузанне ў галаве і ў назе.

Але, абдумваючы ўсё перад тым, як аглушыць сябе, ён прадбачыў менавіта гэты боль, нават спадзяваўся на яго і падрыхтаваўся ачуняць, не выдаючы сябе ніякім рухам.

Лежачы нерухома, ён ледзь расплюшчыў вочы і ўбачыў, што яго здагадка апраўдалася. Прышэлец набліжаўся. Ён быў футаў за дваццаць, і боль, ад якога Карсан апрытомнеў, прычыніў яму кінуты Прышэльцам на ўсякі выпадак камень.

Ён ляжаў нерухома. Прышэлец набліжаўся. За пятнаццаць футаў ён спыніўся. Карсан затаіў дыханне.

Ён з усяе сілы стараўся, каб у яго ў галаве не было ні

адзінай думкі,— інакш тэлепатычныя здольнасці ворага падкажуць яму, што Карсан пры памяці. Ды тут на яго мозг з ашаламляльнай сілай абрынуліся Прышэльцавы думкі.

Ён адчуў дзікі жах ад гэтых зусім чужых, інакшых думак, якія ён адчуваў, але не мог ні зразумець, ні выказаць, бо ні ў адной зямной мове не знайшлося б для іх слоў, ні ў адной зямной душы — уяўленняў. Ён падумаў, што думкі павука, ці багамола, ці марсіянскай пясчанай змяі, калі б яны набылі розум, здаліся б у параўнанні з гэтым роднымі і мілымі.

Ён цяпер зразумеў, што тая таямнічая істота мела рацыю. Чалавек або Прышэлец — ва ўсім сусвеце было месца толькі аднаму з іх. Яны былі далей адзін ад аднаго, чым бог і д'ябал,— паміж імі не магло быць нават раўнавагі.

Бліжэй. Карсан чакаў, пакуль ён наблізіцца на некалькі футаў, пакуль ён працягне да яго свае шчупальцы...

І тут, забыўшыся пра ўсе свае пакуты і сабраўшы астатнія сілы, ён сеў, занёс гарпун і кінуў яго.

Прышэлец, з глыбока ўваткнутай у яго зброяй, пакаціўся прэч. Карсан паспрабаваў устаць, каб кінуцца наўздагон, ды не змог. Ён упаў і папоўз услед за праціўнікам.

Вяроўка разматалася і пацягнула Карсана за руку. Яго працягнула яшчэ некалькі футаў, потым нацяжэнне аслабла. Карсан усё рухаўся наперад, падцягваючыся рукамі па вяроўцы.

Прышэлец спыніўся, размахваючы шчупальцамі і дарэмна спрабуючы выцягнуць гарпун. Здавалася, ён задрыжаў, а потым, відаць, зразумеўшы, што яму не ўцячы, пакаціўся назад да Карсана, працягнуўшы да яго кіпцюрыстыя шчупальцы.

Карсан сустрэў яго з нажом у руцэ. Ён наносіў удар за ўдарам, а гэтыя жахлівыя кіпцюры рвалі яго скуру і мяса.

І раптам Прышэлец застыў нерухома.

Зазваніў званок. Карсан расплюшчыў вочы, але не адразу сцяміў, дзе ён і што з ім. Ён быў прышпілены да сядзення свайго касмалёта, і на экране перад ім не было нічога, акрамя касмічнай пустаты. Ніякага праціўніка, ніякай неймавернай планеты.

Званок выкліку працягваў звінець — нехта хацеў, каб ён адказаў. Чыста рэфлекторным рухам Карсан працягнуў руку і перакінуў тумблер.

На экране з'явіўся твар Брандэра — капітана суднабазы «Магелан». Ён быў бледны, а вочы ў яго ўзрушана ззялі.

— Карсан! Я —«Магелан»,— гаркнуў ён.— Адбой. Усё кончылася! Мы перамаглі!

Экран патух — Брандэр выклікаў астатніх патрульных.

Паволі Карсан вывеў свой карабель на зваротны курс. Паволі, не верачы сваім вачам і вушам, ён адшпіліўся ад крэсла і пайшоў да крана напіцца. Чамусьці ён адчуваў страшную смагу. Ён выпіў шэсць шклянак.

Потым ён прыхінуўся да сцяны, збіраючыся з думкамі.

Ці было ўсё гэта на самай справе? Ён цэлы і здаровы. Смага была хутчэй уяўнай, чым сапраўднай: горла ў яго зусім не перасохла. Нага...

Ён задраў штаніну і паглядзеў на лытку. Там быў доўгі белы шрам, але ён даўно загоіўся. Раней ніякага шрама тут не было. Ён расшпіліў маланку на куртцы і ўбачыў, што яго грудзі і жывот пасечаны малюсенькімі, амаль незаўважнымі і таксама зусім загоенымі шрамамі.

Гэта было на самай справе.

Аўтапілот ужо ўводзіў яго касмалёт у трум базы. Захваты паклалі яго на месца, і праз імгненне зумер паведаміў, што шлюз запоўнены паветрам. Карсан адчыніў люк і выйшаў вонкі праз падвойныя дзверы шлюза.

Ён накіраваўся проста ў кабінет Брандэра, увайшоў і аддаў чэсць.

Брандэр выглядаў крыху ашалелым.

— Прывітанне, Карсан,— сказаў ён.— Ты такое прапусціў. Вось гэта была карціна!

— Што здарылася, сэр?

— Добра не ведаю. Мы далі адзін залп, і ўвесь іх флот рассыпаўся на пыл! Штосьці такое імгненна перакінулася з карабля на карабель — нават на тыя, у якія мы не цэліліся і якія былі за межамі нашага агню. Увесь флот быў знішчаны на нашых вачах, а ў нас ніводнай драпіны. Мы нават не можам прыпісаць сабе гэты гонар. Напэўна, у іх метале была нейкая нестабільная састаўная частка, і наш прыстрэлачны стрэл выклікаў рэакцыю. Ух, што было! Шкада, што ўсё абышлося без цябе.

Карсану ўдалося ўсміхнуцца. Гэта было вартае жалю падабенства ўсмешкі — толькі праз шмат дзён ён перажыве ўсё, што адбылося,— але капітан не глядзеў на яго і нічога не заўважыў.

— Так, сэр,— сказаў ён. Здаровы сэнс, а не сціпласць падказаў яму, што ён навек праславіцца як самы апошні лгун ва ўсім космасе, калі прагаворыцца хоць словам.— Так, сэр, шкада, што ўсё абышлося без мяне.

# РЭЙ БРЭДБЕРЫ

# ПРА ВАНДРОЎКІ ВЕЧНЫЯ І ПРА ЗЯМЛЮ

Семдзесят гадоў запар Генры Уільям Філд пісаў апавяданні, якія ніхто не друкаваў, і вось аднойчы а палове дванаццатай ночы ён падняўся і спаліў дзесяць мільёнаў слоў. Занёс усе рукапісы ў падвал свайго змрочнага асабняка, у кацельню, і шпурнуў у печ.

— От і ўсё,— сказаў ён і ў роздуме пра сваю марную працу і загубленае жыццё вярнуўся ў спальню, поўную ўсялякіх дзівосных і рэдкасных рэчаў, і лёг у пасцель.— Дарэмна я стараўся паказаць наш вар'яцкі, ашалелы свет, гэта была памылка. Год 2257, ракеты, атамныя цуды, падарожжы да чужых планет і падвойных сонцаў. Каму гэта па сіле! Спрабавалі, праўда, усе. Ды ні ў аднаго сучаснага аўтара нічога не выйшла.

Космас занадта неабсяжны, думаў ён, міжзорныя караблі занадта хуткія, адкрыцці атамнай навукі занадта нечаканыя. Але іншыя сяк-так з грахом папалам усё ж друкаваліся, а ён, багаты, бяздзейны і гультаяваты, усё жыццё патраціў марна.

Цэлую гадзіну ён мучыўся такімі думкамі, а пасля паплёўся праз пустыя пакоі ў бібліятэку і запаліў ліхтар. Сярод кніг, да якіх паўстагоддзя ніхто не дакранаўся, ён наўздагад выбраў адну. Кнізе мінула тры стагоддзі, старонкі пажоўклі ад часу, але ён упіўся ў гэтую кнігу і прагна чытаў да самага досвітку...

У дзевяць гадзін раніцы Генры Уільям Філд выбег з бібліятэкі, гукнуў слуг, выклікаў па тэлевізары юрыстаў, сяброў, вучоных, літаратараў.

— Прыязджайце зараз жа!— крычаў ён.

Не мінула і гадзіны, як у яго сабралася чалавек дванаццаць. Генры Уільям Філд чакаў у кабінеце — ускудлачаны, непаголены, аж непрыстойна ўзбударажаны, ахоплены нейкай незразумелай ліхаманкавай весялосцю. Высахлымі

рукамі ён сціскаў тоўстую кнігу і, калі з ім віталіся, толькі смяяўся ў адказ.

— Глядзіце,— сказаў ён нарэшце,— вось кніга, яе напісаў волат, гігант, які нарадзіўся ў Эшвілі, штат Паўночная Караліна, у тысяча дзевяцісотым годзе. Ён ужо даўно спарахнеў, а калісьці надрукаваў чатыры вялізныя раманы. Ён быў як ураган. Ён узнімаў горы і ўбіраў у сябе вятры. Пятнаццатага верасня тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмага года ён памёр у Балтыморы, у бальніцы Джона Гопкінса, ад калісьці страшнай хваробы — пнеўманіі, і пасля яго застаўся чамадан, напакаваны рукапісамі,— і ўсе напісаны алоўкам.

Усе, хто сабраўся ў кабінеце, паглядзелі на кнігу.

«Азірніся на дом, анёл».

Стары Філд вылажыў на стол яшчэ тры кнігі. «Пра час і пра раку», «Павуціна і скала», «Табе ўжо не вярнуцца дадому».

— Іх напісаў Томас Вулф,— сказаў ён.— Тры стагоддзі ён спачывае ў зямлі Паўночнай Караліны.

— Дык няўжо вы паклікалі нас толькі для таго, каб паказаць кнігі нейкага нябожчыка?— здзівіліся сябры.

— Не, не толькі! Я паклікаў вас, бо зразумеў: Том Вулф — вось хто нам трэба! Вось чалавек, які быў створаны для таго, каб пісаць пра вялікае, пра Час і Прастору, пра галактыкі і касмічную вайну, пра метэоры і планеты. Ён любіў і апісваў усё нешта такое, велічнае і грознае. Проста ён нарадзіўся занадта рана. Яму патрэбны быў матэрыял сапраўды грандыёзны, а на Зямлі ён нічога такога не знайшоў. Яму трэба было нарадзіцца не сто тысяч дзён назад, а сёння.

— А вы, баюся, крыху спазніліся,— падкалоў прафесар Боултан.

— Ну не!— абсек яго стары.— Хто-хто, а я не дам сучаснасці абакрасці мяне. Вы, прафесар, ставіце доследы з падарожжамі ў часе. Спадзяюся, вы ўжо ў гэтым месяцы даведзяце да ладу сваю машыну. Вось вам чэк, суму паставіце самі. Калі спатрэбяцца яшчэ грошы, скажыце толькі слова. Вы ж падарожнічалі ўжо ў мінулае, праўда?

— Падарожнічаў, на некалькі гадоў назад, але не на стагоддзі...

— А мы даб'ёмся стагоддзяў! І вы ўсе,— ён абвёў прысутных няўрымслівым, гарачым позіркам,— будзеце дапамагаць Боултану. Мне патрэбен Томас Вулф.

Усе ахнулі.

— Менавіта так,— пацвердзіў стары.— Вось што я задумаў. Вы даставіце мне Вулфа. Сумесна мы выканаем вялікую задачу, палёт з Зямлі на Марс будзе апісаны так, як здольны гэта зрабіць адзін толькі Томас Вулф!

І ўсе разышліся, а Філд застаўся са сваімі кнігамі, ён гартаў старыя старонкі і, ківаючы, мармытаў сам сабе:

— Так, так, вядома! Том — вось хто нам трэба. Том — якраз той самы хлопец для гэтай справы.

Марудна цягнуўся месяц. Дні ўпарта не хацелі развітвацца з календаром, бясконца доўжыліся тыдні, і Генры Уільям Філд гатовы быў завыць ад роспачы.

Пад канец месяца ён аднойчы прачнуўся апоўначы. Званіў-надрываўся тэлефон. Філд у цемры працягнуў руку.

— Слухаю.

— Гаворыць прафесар Боултан.

— Што скажаце?

— Я выпраўляюся праз гадзіну.

— Выпраўляецеся? Куды? Вы што, кідаеце работу? Гэта немагчыма!

— Даруйце, містэр Філд. Выпраўляюся — гэта значыць выпраўляюся.

— Дык вы і праўда выпраўляецеся?

— Праз гадзіну.

— У тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмы? Пятнаццатае верасня?

— Так.

— Вы дакладна запісалі дату? Раптам вы з'явіцеся, калі ён ужо будзе мёртвы? Глядзіце, не спазніцеся! Пастарайцеся трапіць туды загадзя, скажам, за гадзіну да яго смерці.

— Добра.

— Я так хвалююся, ледзьве трымаю ў руках трубку. Шчасліва, Боултан! Дастаўце яго сюды цэлага і жывога.

— Дзякуй, сэр. Да пабачэння.

У трубцы пстрыкнула.

Генры Уільям Філд ляжаў без сну, ноч адлічвала хвіліны. Ён думаў пра Тома Вулфа як пра даўно страчанага брата, якога трэба падняць ані не пашкоджаным з-пад халоднага надмагільнага каменя, вярнуць яму плоць і кроў, палымянасць слова. І кожны раз яго прабіралі дрыжыкі пры ўспаміне пра Боултана — пра таго, каго вецер Часу нясе назад, да зусім іншых календароў, да зусім іншых людзей.

«Том,— у дрымоце думаў ён з бяссільнай пяшчотай - так стары бацька звяртаецца да любага, даўно страчанага сына,— Том, дзе ты цяпер? Прыходзь, мы табе дапаможам, ты абавязкова павінен прыйсці, ты нам гэтак патрэбен! Мне гэта не па сіле, Том, і нікому з нас, цяперашніх, не па сіле. Калі я ўжо сам не магу з гэтым справіцца, дык хоць памагу табе. У нас ты можаш жартам забаўляцца з ракетамі, Том, вось табе зоркі — прыгаршчы каляровых шкельцаў. Бяры ўсё што душа пажадае, у нас усё ёсць. Табе будуць да густу наша гарэнне і нашы вандроўкі — яны створаны для цябе. Мы, цяперашнія,— нікчэмныя пісакі, Том, я ўсіх перачытаў, і ніводзін не варты цябе. Я адолеў вялікае мноства іхніх твораў, Том, і нідзе ні на момант не адчуў Прасторы — для гэтага нам патрэбен ты! Дай жа старому тое, да чаго ён імкнуўся ўсё жыццё, бо, бог таму сведка, я заўсёды чакаў, што або сам я, або хто другі напіша нарэшце сапраўды вялікую кнігу пра зоркі,— і чакаў дарэмна. Які ты ні ёсць сёння ўночы, Том Вулф, пакажы, на што ты здольны. Гэтую кнігу ты рыхтаваўся стварыць. Крытыкі кажуць — гэтая цудоўная кніга ўжо склалася ў цябе ў галаве, але тут жыццё тваё абарвалася. І вось трапіўся выпадак, Том, ты ж яго не прапусціш? Ты ж паслухаешся і прыйдзеш да нас, прыйдзеш сёння ўночы і будзеш тут раніцай, як я прачнуся? Гэта ж праўда, Том?»

Павекі Філда стуліліся; замоўк язык, які ліхаманкава лепятаў усё тую ж настойлівую просьбу-мальбу; заснулі губы.

Гадзіннік прабіў чатыры.

Ён абудзіўся ясным цвярозым ранкам і адчуў у грудзях прыліў хвалявання, якое ўсё нарастала і нарастала. Ён баяўся міргнуць — раптам тое, што чакае яго дзесьці ў доме, кінецца наўцёкі, грукне дзвярамі і знікне назаўсёды. Ён прыціснуў рукі да худых старэчых грудзей.

Удалечыні... крокі...

Адны за другімі адчыняліся і зачыняліся дзверы. У спальню ўвайшлі двое.

Філд чуў іхняе дыханне. І ўжо распазнаваў хаду. У аднаго дробныя акуратныя маленькія крокі, нібы ў павука,— гэта Боултан. Поступ другога выдае чалавека рослага, мажнага, грузнага.

— Том?— усклікнуў стары. Ён яшчэ не расплюшчваў вачэй.

— Гэта я,— пачуў ён нарэшце.

Ледзь толькі Філд убачыў Тома Вулфа, вобраз, што быў створаны яго ўяўленнем, лопнуў па ўсіх швах, як занадта цесная апратка на вялікім не па ўзросту дзіцяці.

— Дай я на цябе пагляджу, Том Вулф!— зноў і зноў паўтараў Філд, вылазячы з пасцелі. Яго калаціла.— Ды падыміце ж шторы, дайце на яго палюбавацца! Том Вулф, няўжо гэта ты?

Вялізны, тоўсты Том Вулф пазіраў на яго зверху ўніз, растапырыўшы цяжкія рукі, каб не страціць раўнавагі ў гэтым незнаёмым свеце. Ён паглядзеў на старога, абвёў вачамі пакой, губы яго ўздрыгвалі.

— Ты якраз гэтакі, як цябе апісвалі, Том, толькі большы.

Томас Вулф засмяяўся, зарагатаў на ўсё горла — парашыў, мабыць, што звар'яцеў або бачыць нейкі недарэчны сон; ступіў крок да старога, дакрануўся да яго, азірнуўся на прафесара Боултана, абмацаў свае плечы, ногі, асцярожна пакашляў, прыклаў далонь да лоба.

— Гарачкі болей няма,— сказаў ён.— Я здаровы.

— Вядома, здаровы, Том!

— Ну і ночка!— сказаў Том Вулф.— Цяжка мне давялося. Я думаў, ніводнаму хвораму на свеце не бывала гэтак кепска. Раптам адчуваю — плыву — і падумаў: ну і гарачка ў мяне. Адчуваю — мяне кудысьці нясе — і падумаў: усё, паміраю. Падыходзіць да мяне чалавек. Я падумаў — пасланец божы. Узяў ён мяне за рукі. Чую — электрычнасцю пахне. Узляцеў я некуды ўгору, бачу — медны горад. Ну, думаю, з'явіўся. Вось яно, царства нябеснае, а вось і брама! Адубеў я з галавы да пят, быццам мяне трымалі ў снезе. Смех бярэ, трэба мне нешта рабіць, а то зусім рашу, што з глузду з'ехаў. Вы ж не пан бог, га? З выгляду нешта не падобны.

Стары засмяяўся.

— Не-не, Том, я не бог, толькі прыкідваюся. Я Філд.— Ён зноў засмяяўся.— Гэта ж трэба! Я гавару так, нібыта ён можа ведаць, хто такі Філд. Том, я Філд, фінансавы туз — кланяйся ніжэй, цалуй у руку. Я Генры Філд, мне падабаюцца твае кнігі. Я перанёс цябе сюды. Падыдзі бліжэй.

І стары пацягнуў Вулфа да шырознага люстранага акна.

— Бачыш у небе агні, Том?

— Ага, сэр.

— Феерверк бачыш?

— Бачу.

— Гэта зусім не тое, што ты думаеш, сынку. Сёння не чацвёртае ліпеня. Не як у твой час. Цяпер у нас кожны дзень — свята незалежнасці. Чалавек абвясціў, што ён вольны ад Зямлі. Улада зямнога прыцягнення даўным-даўно скінута. Чалавецтва перамагло. Вунь тая зялёная «рымская свечка» ляціць на Марс. А той чырвоны агеньчык — ракета з Венеры. І яшчэ — бачыш, колькі іх?— жоўтыя, блакітныя. Гэта міжпланетныя караблі.

Том Вулф глядзеў на ўсе вочы, быццам хлапчук-велікан, зачараваны шматкаляровымі агнявымі цудамі, што зіхацяць і кружаць у ліпеньскім змроку, і загараюцца, і разрываюцца з аглушальным трэскам.

— Які цяпер год?

— Год ракеты. Глядзі!— Стары дакрануўся да нейкіх раслін, і ў яго пад рукою яны раптам расцвілі. Кветкі былі нібы белае і блакітнае полымя. Яны палалі, іскрыліся халаднаватымі падоўжанымі пялёсткамі. Чашачкі іхнія былі футы два ўпоперак і холадна сінелі, быццам асенні месяц.— Гэта кветкі з Месяца,— сказаў Філд.— З таго боку Месяца.— Ён злёгку дакрануўся да іх, і яны асыпаліся сярэбраным дажджом, пырснулі белыя іскры і расталі ў паветры.— Год ракеты. Вось табе адпаведная назва, Том. Вось чаму мы перанеслі цябе сюды: ты нам патрэбны. Ты адзіны чалавек, які здольны саўладаць з Сонцам і не ператварыцца ў нікчэмную жменьку попелу. Мы хочам, каб ты забаўляўся з Сонцам, як з мячыкам,— з Сонцам, і з Зоркамі, і з усім, што ўбачыш па дарозе на Марс.

— На Марс?— Томас Вулф азірнуўся, схапіў старога за плячо, нахіліўся, недаверліва ўзіраючыся яму ў твар.

— Так. Ты ляціш сёння ў шэсць.

Стары ўзняў ружовы білецік, які, здавалася, аж трапятаў у паветры, і чакаў, калі Том здагадаецца яго ўзяць.

Было пяць гадзін.

— Так-так, вядома, я вельмі цаню ўсё, што вы зрабілі!— усклікнуў Томас Вулф.

— Сядзь, Том. Перастань бегаць з кутка ў куток.

— Дайце дагаварыць, містэр Філд, дайце мне закончыць, я павінен выказаць усё да канца.

— Мы ўжо столькі гадзін спрачаемся,— зняможана прамовіў Філд.

Яны прагаманілі ад ранішняга сняданка да полудня і ад полудня да вячэрняга чаю, пераходзілі з аднаго пакоя ў другі (а іх было тузін) і ад аднаго доваду да другога

(а іх было дзесяць тузінаў); абодвум рабілася то горача, то холадна, то зноў горача.

— Усё зводзіцца вось да чаго,— сказаў нарэшце Томас Вулф.— Я не магу тут заставацца, містэр Філд. Я мушу вярнуцца. Гэта не мой час. Вы не мелі права ўмешвацца...

— Але...

— Мая работа была ў самым разгары, а сваю лепшую кнігу я яшчэ не пачынаў — і раптам вы хапаеце мяне і пераносіце на тры стагоддзі наперад. Паклічце прафесара Боултана, містэр Філд. Няхай ён пасадзіць мяне ў сваю машыну, якая яна там ні ёсць, і адправіць назад у тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмы год, там мой час і маё месца. Больш мне ад вас нічога не трэба.

— Няўжо ты не хочаш пабачыць Марс?

— Яшчэ як хачу! Але я ведаю, гэта не для мяне. Уся мая работа пойдзе прахам. На мяне наваліцца лавіна ўражанняў, якія я не здолею змясціць у мае кнігі, калі вярнуся дадому.

— Ты не разумееш, Том, ты проста не разумееш.

— Цудоўна разумею, вы эгаіст.

— Эгаіст?— перапытаў стары.— Так, вядома, і яшчэ які! Дзеля сябе і дзеля іншых.

— Я хачу вярнуцца дадому.

— Паслухай, Том...

— Паклічце прафесара Боултана!

— Том, я вельмі не хацеў табе казаць... Я спадзяваўся, што не давядзецца, што ў гэтым не будзе патрэбы. Але ты не пакідаеш мне выбару.

Стары працягнуў руку да завешанай сцяны, адсунуў заслону і адкрыў вялікі белы экран, потым пачаў круціць дыск і набіраць нейкія лічбы; экран замігцеў, ажыў, агні ў пакоі павольна згаслі — і перад вачамі ўзніклі могілкі.

— Што вы робіце?— рэзка спытаў Вулф, зрабіў крок уперад і ўтаропіўся на экран.

— Я зусім гэтага не хацеў,— сказаў стары.— Глядзі.

Могілкі ляжалі перад імі ў яркім святле летняга поўдня. З экрана дыхнула гарачым пахам летняй зямлі, разагрэтага граніту, свежасцю ручая, што цурчаў дзесьці непадалёку. У голлі дрэва пасвіствала нейкая птушачка. Сярод надмагільных камянёў пакалыхваліся пунсовыя і жоўтыя кветкі, экран рухаўся, неба паварочвалася, стары круціў дыск, усё павялічваючы і нібы набліжаючы малюнак... і вось пасярод экрана вырасла змрочная гранітная глыба — яна расце, набліжаецца, запаланяе ўсё, яны ўжо нічога больш не бачаць і не адчуваюць, і ў цемнаватым пакоі

Томас Вулф, узняўшы вочы, чытае высечаныя на граніце словы — раз, другі, трэці, і, задыхнуўшыся, перачытвае зноў, бо гэта яго імя:

*ТОМАС ВУЛФ*

і дата яго нараджэння і дата смерці, і ў халодным пакоі пахне духмянай зялёнай папараццю.

— Выключце,— сказаў ён.

— Даруй, Том.

— Выключце, ну! Не веру я гэтаму.

— Гэта праўда.

Экран пачарнеў, і пакой накрыў паўночны купал неба; пакой зрабіўся склепам, ледзь адчувалася апошняе дыханне кветак.

— Значыцца, я ўжо не прачнуўся,— сказаў Томас Вулф.

— Так. Ты памёр тады, у верасні тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмага.

— І не дапісаў кнігу.

— Яе надрукавалі другія, яны паставіліся да яе вельмі беражліва, зрабілі за цябе ўсё, што трэба.

— Я не дапісаў сваю кнігу, не дапісаў!

— Не бядуй гэтак.

— Вам лёгка казаць!

Стары ўсё не запальваў святла. Яму не хацелася бачыць Тома гэтакім.

— Сядзь, сынку.

Маўчанне.

— Том?

Ніякага адказу.

— Сядзь, сынку. Хочаш чаго-небудзь выпіць?

Уздых, потым сцяты рык, быццам застагнаў паранены звер.

— Гэта несправядліва, несумленна! Мне трэба было яшчэ столькі зрабіць!

Ён глуха зарыдаў.

— Перастань,— сказаў стары.— Паслухай. Выслухай мяне. Ты яшчэ жывы — так? Тут, зараз — ты жывы? Ты дыхаеш і ўсё адчуваеш, праўда?

Томас Вулф адказаў не адразу:

— Праўда.

— Дык вось,— у цемры Філд падаўся ўперад.— Я перанёс цябе сюды, Том, я даю табе яшчэ адну магчымасць. Лішні месяц ці недзе каля гэтага. Думаеш, я цябе не аплакваў? Я прачытаў твае кнігі, а пасля ўбачыў надмагільны

камень, які трыста гадоў тачылі вецер і дажджы, і паду маў — гэткага таленту не стала! Гэтая думка проста не давала мне жыць, павер. Не давала жыць! Я не шкадаваў грошай, абы толькі знайсці нейкую дарогу да цябе. Ты атрымаў адтэрміноўку — праўда, кароткую, дужа кароткую. Прафесар Боултан кажа, што, калі вельмі пашанцуе, мы здолеем пратрымаць каналы Часу адкрытымі два месяцы. Ён будзе трымаць іх для цябе два месяцы, але не даўжэй. За гэты час ты павінен напісаць кнігу, Том, тую кнігу, якую марыў напісаць,— не-не, сынку, не тую, якую ты пісаў для сучаснікаў, яны ўсе памерлі і ператварыліся ў прах, гэтага ўжо не зменіш. Не, цяпер ты створыш кнігу для нас, для тых, хто жыве цяпер, яна нам вельмі-вельмі патрэбна. Ты пакінеш яе нам дзеля самога ж сябе, яна будзе ва ўсіх адносінах вышэйшай і лепшай за твае ранейшыя кнігі... ты ж напішаш яе, Том? Можаш ты на два месяцы забыцца пра той камень, пра бальніцу — і пісаць для нас? Ты напішаш, праўда, Том?

Пакой павольна запоўніла святло. Том Вулф стаяў і глядзеў у акно — вялізны, масіўны, а твар бледны, стомлены. Ён глядзеў на ракеты, што праносіліся ў нняркім вячаровым небе.

— Я спачатку не зразумеў, што вы для мяне зрабілі,— сказаў ён.— Вы мне даяце яшчэ крыху часу, а час для мяне даражэй і патрэбней за ўсё, ён мой сябар і вораг, я заўсёды з ім ваяваў, і аддзякаваць вам я, мабыць, магу толькі адным спосабам. Хай будзе па-вашаму.— Ён запнуўся.— А калі я скончу работу? Што тады?

— Вернешся ў бальніцу, Том, у тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмы год.

— Інакш немагчыма?

— Мы не можам змяніць Час. Мы ўзялі цябе ўсяго на пяць мінут. І вернем цябе на бальнічны ложак праз пяць мінут пасля таго, як ты яго пакінуў. Такім чынам, мы нічога не парушым. Усё гэта ўжо гісторыя. Тым, што ты жывеш зараз з намі, у будучым, ты нам не пашкодзіш. Але калі ты адмовішся вярнуцца, ты пашкодзіш мінуламу, а значыцца, і будучаму, там шмат што перакруціцца, будзе хаос.

— Два месяцы,— сказаў Томас Вулф.

— Два месяцы.

— А ракета на Марс ляціць праз гадзіну?

— Ага.

— Мне патрэбны папера і аловак.

— Вось яны.

— Трэба збірацца. Да пабачэння, містэр Філд.

— Шчасліва, Том.

Шэсць гадзін. Заходзіць сонца. Неба чырванее, нібы віно. У прасторным доме цішыня. Горача, але старога прабіраюць дрыжыкі, і вось нарэшце з'яўляецца прафесар Боултан.

— Ну як, Боултан? Як ён сябе адчуваў, як трымаўся на касмадроме? Ды гаварыце ж!

Прафесар усміхаецца.

— Ён проста асілак — гэтакі велікан, любы скафандр для яго занадта малы, давялося тэрмінова рабіць новы. Шкада, вы не бачылі, што гэта было: ён усё-ўсё абышоў, усё абмацаў, да ўсяго прынюхваецца, нібы вялізны сабака, гаворыць несціхана, а вочы круглыя, ненажэрныя, і ад усяго прыходзіць у захапленне — ну сапраўдны хлапчук, дый годзе!

— Дай бог, дай бог! Боултан, а вы і праўда пратрымаеце яго тут два месяцы?

Боултан насупіўся.

— Вы ж ведаеце, ён не належыць нашаму часу. Калі энергія тут хоць на момант аслабне, Вулфа адразу прыцягне назад у мінулае, як папяровы мячык на гумцы. Паверце, мы ўсімі спосабамі стараемся яго ўтрымаць.

— Гэта неабходна, зразумейце! Нельга, каб ён вярнуўся, не закончыўшы кнігі! Вы павінны...

— Зірніце!— перабіў Боултан.

У неба ўзляцела серабрыстая ракета.

— Гэта ён?— спытаў стары.

— Ён,— сказаў прафесар.— Гэта Вулф ляціць на Марс.

— Брава, Том!— загарланіў стары і затрос кулакамі над галавой.— Дай ім перцу!

Ракета патанула ў вышыні, яны праводзілі яе вачамі.

К апоўначы да іх дайшлі першыя старонкі.

Генры Уільям Філд сядзеў у сябе ў бібліятэцы. Перад ім на стале гудзеў апарат. Апарат паўтараў словы, што былі напісаны далёка з таго боку Месяца. Ён выводзіў іх чорным алоўкам, дакладна аднаўляючы паспешлівыя каракулі Тома Вулфа, якія ён нагрымзоліў за мільён міляў адгэтуль. Ледзьве дачакаўшыся, каб на стол лёг стосік папяровых лісткоў, стары схапіў іх і ўзяўся чытаць, а Боултан і слугі стаялі і слухалі. Ён чытаў пра Прастору і Час, і пра палёт, пра вялікага чалавека ў вялікай дарозе, пра доўгую

поўнач і пра холад космасу, і пра тое, як згаладалы чалавек з прагнасцю паглынае ўсё гэта і патрабуе яшчэ і яшчэ. Ён чытаў, і кожнае слова было поўна гарэння, і грому, і тайны.

Космас як восень, пісаў Томас Вулф. І гаварыў пра пустэльны змрок, пра адзіноту, пра тое, які маленечкі закінуты ў космасе чалавек. Гаварыў пра вечную восень, якая ніколі не канчаецца. І яшчэ пра міжпланетны карабель, пра тое, як пахне метал і які ён навобмацак, і пра пачуццё высокага лёсу, пра няўрымслівае захапленне, з якім нарэшце адрываешся ад Зямлі, пакідаеш за сабою ўсе зямныя задачы і журботы і імкнешся да задачы куды больш цяжкай, да журбы куды больш горкай. Сапраўды, гэта былі цудоўныя старонкі, і яны гаварылі тое, што абавязкова трэба было сказаць пра Сусвет і чалавека і пра яго малюпасенькія ракеты, якія згубіліся ў бязмежжы космасу.

Стары чытаў, пакуль не ахрып, за ім чытаў Боултан, потым астатнія — да глыбокай ночы, калі апарат перастаў пісаць і ўсе зразумелі, што Том ужо ў пасцелі, там, у ракеце, якая ляціць на Марс... мабыць, ён яшчэ не спіць, не, яшчэ доўга ён не засне, так і будзе ляжаць без сну, быццам хлапчук напярэдадні адкрыцця цырка: яму ўсё не верыцца, што ўжо збудаваны вялізны, чорны, увесь аздоблены каштоўнымі камянямі балаган, і паказ пачынаецца, і дзесяць мільярдаў зіхатлівых акрабатаў гайдаюцца на туга напятых дратах, на нябачных трапецыях Прасторы.

— Ну вось!— выдыхнуў стары, беражліва адкладваючы апошнія старонкі першага раздзела.— Што вы пра гэта скажаце, Боултан?

— Гэта добра.

— Якое там добра!— загарланіў Філд.— Гэта цудоўна! Прачытайце яшчэ раз, сядзьце і прачытайце яшчэ раз, каб вас чорт забраў!

Так яно і ішло, дзень пры дні, па дзесяць гадзін запар. На падлозе расла куча жаўтаватай спісанай паперы — за тыдзень яна зрабілася вялізнай, за два тыдні — не ведаеш, як яе і назваць, пад канец месяца — і ўявіць немагчыма.

— Вы толькі паслухайце!— крычаў стары і чытаў уголас.

— А што?!— гаварыў ён.

— А вось яшчэ раздзел, Боултан, а вось аповесць, яна толькі што перададзена, называецца «Касмічная вайна», цэлая аповесць пра тое, як яно — ваяваць у космасе. Ён размаўляў з рознымі людзьмі, распытваў салдат, афіцэраў,

ветэранаў Прасторы. І пра ўсё напісаў. А вось яшчэ раздзел, называецца «Доўгая поўнач», а гэты — пра тое, як негры засялілі Марс, а во нарыс — партрэт марсіяніна, яму проста цаны няма!

Боултан адкашляўся.

— Містэр Філд...

— Пасля, пасля, не перашкаджайце.

— Кепскія навіны, сэр.

Філд ускінуў сівую галаву.

— Што такое? Што-небудзь з Элементам Часу?

— Перадайце Вулфу, няхай спяшаецца,— лагодна прамовіў Боултан.— Магчыма, на гэтым тыдні сувязь з Мінулым абарвецца.

— Я дам вам яшчэ мільён долараў, толькі падтрымлівайце яе.

— Справа не ў грошах, містэр Філд. Цяпер усё залежыць ад самай звычайнай фізікі. Я зраблю ўсё, што ў маіх сілах. Але вы яго папярэдзьце на ўсякі выпадак.

Стары скурчыўся ў крэсле, зрабіўся зусім маленькі.

— Няўжо вы зараз адбераце яго ў мяне? Ён так цудоўна працуе! Каб вы толькі бачылі, якія эскізы ён перадаў усяго гадзіну назад — апавяданні, накіды. Во, во — гэта пра касмічныя плыні, а гэта пра метэарыты. А вось пачатак аповесці пад назвай «Пушынка і полымя»...

— Нічога не зробіш...

— Але калі мы зараз страцім яго, можа, вы здолееце даставіць яго сюды яшчэ раз?

— Бязмернае ўмяшанне ў Мінулае занадта небяспечна.

Стары быццам акамянеў.

— Тады вось што. Зрабіце так, каб Вулф не траціў часу на важданіну з алоўкам і паперай — няхай друкуе на машынцы або дыктуе, адным словам, паклапаціцеся пра якую-небудзь механізацыю. Абавязкова!

Апарат стракатаў не ведаючы стомы — за поўнач і пасля да світання і ўвесь дзень без перадыху. Стары правёў бяссонную ноч; толькі ён змружыць павекі, як апарат зноў ажывае — і ён страпянецца, і зноў касмічныя прасторы, і вандроўкі, і неабсяжнасць быццэ плывуць да яго, пераўтвораныя думкай другога чалавека.

*«...бязмежныя зорныя лугі космасу...»*

Апарат запнуўся, уздрыгнуў.

— Давай, Том! Пакажы ім!

Стары застыў у чаканні.

Зазваніў тэлефон.

Голас Боултана:

— Мы болей не можам падтрымліваць сувязь, містэр Філд. Яшчэ хвіліна — і кантакт Часу сыдзе на нішто.

— Зрабіце што-небудзь!

— Не магу.

Тэлетайп уздрыгнуў. Быццам зачараваны, пахаладзелы ад жаху, стары сачыў, як складваюцца чорныя радкі:

*«...марсіянскія гарады — дзівосныя, неправўдападобныя, быццам камяні, што знесены з горных вяршынь нейкай імклівай, невераґоднай лавінай і застылі нарэшце зіхатлівымі россыпамі...»*

— Том!— крыкнуў стары.

— Усё,— прагучаў у тэлефоннай трубцы голас Боултана.

Тэлетайп памарудзіў, адстукаў яшчэ слова і змоўк.

— Том!!!— у роспачы закрычаў Філд.

Ён пачаў трэсці тэлетайп.

— Дарма,— сказаў голас у трубцы.— Ён знік. Я адключаю Машыну Часу.

— Не-не! Пачакайце!

— Але ж...

— Чулі, што я сказаў? Пачакайце выключаць! Магчыма, ён яшчэ тут.

— Яго больш няма. Гэта дарма, энергія траціцца марна.

— Няхай сабе траціцца!

Філд шпурнуў трубку.

І павярнуўся да тэлетайпа, вярнуўся да незакончанага сказа.

— Ды ну, Том, не могуць яны вось так ад цябе адкараскацца, не паддавайся, сынку, ану, давай далей! Дакажы ім, Том, ты ж малайчына, ты большы, чым Час і Прастора і ўсе гэтыя праклятыя механізмы, ты маеш такую сілу, такую жалезную волю. Том, дакажы ім усім, не давай адсылаць цябе назад!

Пстрыкнуў клавіш тэлетайпа.

— Том, гэта ты?!— сам не свой ад здзіўлення замармытаў стары.— Ты яшчэ можаш пісаць? Пішы, Том, не здавайся, пакуль ты не апусціў рукі, цябе не могуць адаслаць назад, не могуць!!!

*«У»,*— стукнула машына.

— Яшчэ, Том, яшчэ!

*«Дыханні»,*— адстукала яна.

— Ну, ну?!

*«Марса»,*— надрукавала машына і спынілася. Кароткая цішыня. Шчаўчок. І машына пачала зноў, з новага радка:

*«У дыханні Марса адчуваеш водар карыцы і халодных рэзка пахучых вятроў, тых вятроў, што ўзнімаюць лятучы пыл, і абмываюць нятленныя косці, і прыносяць пылок даўным-даўно адцвілых кветак...»*

— Том, ты яшчэ жывы!

Замест адказу апарат яшчэ дзесяць гадзін запар выбухаў ліхаманкавымі прыступамі і адстукаў шэсць раздзелаў «Уцёкаў ад дэманаў».

— Сёння ўжо мінула паўтара месяца, Боултан, цэлыя паўтара месяца, як Том паляцеў на Марс і на астэроіды. Глядзіце, вось рукапісы. Дзесяць тысяч слоў у дзень, ён не дае сабе перадыху, не ведаю, калі ён спіць, ці паспявае паесці, ды гэта для мяне ўсё роўна, і для яго таксама, для яго адно важна — дапісаць, ён жа ведае, што час не чакае.

— Недаступна розуму, незразумела,— сказаў Боултан.— Нашы рэле не вытрымалі, энергія панізілася. Мы зрабілі для галоўнага канала новыя рэле, якія забяспечваюць надзейнасць Элемента Часу, але ж на гэта пайшло тры дні — і ўсё-такі Вулф пратрымаўся! Відаць, гэта залежыць яшчэ і ад яго асобы, тут дзейнічае нешта такое, чаго мы не прадугледзелі. Тут, у нашым часе, Вулф жыве — і, аказваецца, Мінулае не можа так лёгка яго вярнуць. Час не такі падатлівы, як мы думалі. Мы карысталіся няправільным параўнаннем. Гэта не гумка. Гэта болей падобна на дыфузію — узаемапранікненне вадкіх пластоў. Мінулае нібы прасочваецца ў Сучаснае... Але ўсё роўна давядзецца адаслаць яго назад, мы не можам яго пакінуць тут: у Мінулым утворыцца пустата: усё перамесціцца і пераблытаецца. Па сутнасці, яго зараз утрымлівае ў нас толькі адно — ён сам, яго страсць, яго работа. Дапісаўшы кнігу, ён выслізне з нашага часу гэтак жа натуральна, як выліваецца вада са шклянкі.

— Мне напляваць, што, як і чаму,— запярэчыў Філд.— Я ведаю адно: Том заканчвае сваю кнігу! У яго ўсё той жа талент і натхненне і ёсць штосьці яшчэ, штосьці новае, ён шукае каштоўнасцей, якія вышэй за Прастору і Час. Ён напісаў псіхалагічны эцюд пра жанчыну, якая застаецца на Зямлі, калі адважныя касманаўты накіроўваюцца ў Невядомасць,— гэта цудоўна напісана, праўдзіва і тонка; Том назваў свой эцюд «Дзень ракеты», ён апісаў усяго толькі адзін дзень самай звычайнай правінцыялкі, яна жыве ў сябе дома, як жылі яе прабабкі — вядзе гаспадарку, гадуе дзяцей... небывалы росквіт навукі, грукат касмічных ракет,

а яе жыццё амаль гэтакае ж, якое было ў жанчын у каменным веку. Том праўдзіва, старанна і пранікнёна апісаў яе парыванні і расчараванні. Або во яшчэ рукапіс, называецца «Індзейцы», тут ён піша пра марсіян: яны — індзейцы космасу, іх выцеснілі і знішчылі, як даўней індзейскія плямёны — чарокаў, іракезаў, чарнаногіх. Выпіце, Боултан, выпіце!

На зыходзе другога месяца Том Вулф вярнуўся на Зямлю.

Ён вярнуўся ў полымі, як у полымі і адлятаў, крокамі волата ён перасек космас і ўвайшоў у дом Генры Уільяма Філда, у бібліятэку, дзе на падлозе грувасціліся стосы жоўтай паперы, скрэмзанай алоўкам або спярэшчанай радкамі машынапісу; стосы гэтыя трэба было падзяліць на шэсць частак, з іх складаўся шэдэўр, створаны з неймавернай хуткасцю нечалавечай упартай працай, з пастаянным усведамленнем няўмольна мінаючых хвілін.

Том Вулф вярнуўся на Зямлю, ён стаяў у бібліятэцы Генры Уільяма Філда і пазіраў нааграмадзіны, што былі спароджаны яго сэрцам і яго рукою.

— Хочаш усё гэта прачытаць, Том?— спытаў стары.

Але ён пакруціў масіўнай галавою, шырокай далонню адкінуў назад грыву цёмных валасоў.

— Не,— сказаў ён.— Баюся пачынаць. Калі пачну, захочацца ўзяць усё гэта з сабою. А мне ж няможна забраць гэта дадому, праўда?

— Няможна, Том.

— А вельмі хочацца.

— Нічога не зробіш, нельга. У той год ты не напісаў новага рамана. Што напісана тут, павінна тут і застацца, што напісана там, павінна застацца там. Нічога нельга змяніць.

— Разумею.— Вулф цяжка ўздыхнуў і апусціўся ў крэсла.— Стаміўся я. Страшэнна стаміўся. Нялёгка гэта было. Але і здорава! Каторы гэта сёння дзень?

— Шасцідзесяты.

— Апошні?

Стары кіўнуў, і нейкі час абодва маўчалі.

— Назад у тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмы, на могілкі, пад камень,— сказаў Том Вулф і заплюшчыў вочы.— Не хочацца мне. Лепей бы я пра гэта не ведаў, страшна ведаць такое...

Голас яго замёр, ён уткнуўся тварам у шырокія далоні, ды так і застыў.

Дзверы адчыніліся. Увайшоў Боултан з бутэлечкай у руцэ і спыніўся за крэслам Тома Вулфа.

— Што гэта ў вас?— спытаў стары Філд.

— Даўно знішчаны вірус,— адказаў Боултан.— Пнеўманія. Вельмі старажытная і надзвычай лютая хвароба. Калі містэр Вулф прыбыў да нас, мне, само сабой зразумела, давялося яго вылечыць, каб ён мог справіцца са сваёю работай; пры нашай сучаснай тэхніцы гэта было зусім лёгка. Культуру мікроба я захаваў. Цяпер, калі містэр Вулф вяртаецца, трэба будзе зноў прышчапіць яму пнеўманію.

— А калі не прышчапіць?

Том Вулф узняў галаву.

— Калі не прышчапіць, у тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмым годзе ён ачуняе і паправіцца.

Том Вулф падняўся.

— Дык як гэта? Папраўлюся, падымуся на ногі — там, у сябе,— буду здаровы, і магільшчыкі застануцца з носам?

— Правільна.

Том Вулф утаропіўся на бутэлечку, рука яго сутаргава тарганулася.

— Ну, а калі я знішчу гэты ваш вірус і не дамся вам?

— Гэтага ніяк нельга!

— Ну... а калі?

— Вы ўсё разбурыце.

— Што — усё?

— Сувязь рэчаў, ход падзей, жыццё, усю сістэму таго, што ёсць і што было, што мы не маем права змяніць. Вы не можаце ўсё гэта парушыць. Безумоўна адно: вы павінны памерці, і я мушу пра гэта паклапаціцца.

Вулф паглядзеў на дзверы.

— А калі я ўцяку і вярнуся без вашай дапамогі?

— Машына Часу ў нас пад кантролем. Вы не можаце выйсці з гэтага дома. Я вымушаны буду сілком вярнуць вас сюды і зрабіць прышчэпку. Я прадбачыў, што пад канец ускладненняў не мінуць, і зараз унізе напагатове пяць чалавек. Варта мне гукнуць... самі бачыце, гэта бескарысна. Ну от, гэтак лепей. Вось так.

Вулф адступіў, азірнуўся, паглядзеў на старога, у акно, абвёў позіркам прасторны пакой.

— Даруйце мне. Вельмі не хочацца паміраць. Ох, як не хочацца!

Стары падышоў да яго, сціснуў яму руку.

— А ты паглядзі на гэта так: табе ўдалося небывалае — выйграць у жыцця два месяцы звыш тэрміну, і ты напісаў яшчэ адну кнігу — апошнюю, новую кнігу! Падумай пра гэта — і табе будзе лягчэй.

— Дзякуй вам за гэта,— сур'ёзна сказаў Томас Вулф.— Дзякуй вам абодвум. Я гатовы.— Ён закасаў рукаў.— Давайце вашу прышчэпку.

І пакуль Боултан рабіў сваю работу, Вулф вольнай рукою ўзяў аловак і на першым лістку першай часткі рукапісу вывеў два радкі, потым зноў загаварыў:

— У адной маёй старой кнізе ёсць такая мясціна,— ён нахмурыўся, прыгадваючы:—«...пра вандроўкі вечныя і пра Зямлю... Хто валодае Зямлёю? І навошта нам Зямля? Каб вандраваць па ёй? Ці для таго нам Зямля, каб не ведаць на ёй спакою? Кожны, каму трэба Зямля, будзе мець яе, застанецца на ёй, супакоіцца на маленькім шматку і будзе ў цесным куточку яе вечна...»

Вулф хвіліну памаўчаў.

— Вось яна, мая апошняя кніга,— сказаў ён потым і на чыстым жоўтым лістку вялікімі чорнымі літарамі, моцна націскаючы алоўкам, вывеў: *Томас Вулф — пра вандроўкі вечныя і пра Зямлю.*

Ён схапіў стос спісаных лісткоў, на момант прыціснуў да грудзей.

— Хацеў бы я забраць яго з сабою. Быццам расстаешся з родным сынам!

Ён адклаў рукапіс, пляснуў па ім далонню, спехам паціснуў руку Філду і пакрочыў да дзвярэй; Боултан падаўся за ім. На парозе Вулф спыніўся, асветлены перадвячэрнім сонцам, вялізны, велічны.

— Бывайце!— крыкнуў ён.— Бывайце!

Грукнулі дзверы. Том Вулф знік.

Нарэшце яго знайшлі, ён плёўся па бальнічным калідоры.

— Містэр Вулф!

— Га?

— Ну і напужалі вы нас, містэр Вулф, мы ўжо думалі, вы зніклі!

— Знік?

— Дзе вы прападалі?

— Дзе? Дзе прападаў?— Яго вялі начнымі калідорамі, ён пакорліва ішоў.— Ого, каб я і сказаў вам, дзе... вы ўсё адно не паверыце.

— От і ваш ложак, дарэмна вы падняліся.

І ён апусціўся на белую смяротную пасцель, ад якой ішлі слабыя чыстыя павевы ўгатаванага яму канца, блізкага канца, што пахнуў бальніцай; ён толькі дакрануўся да гэтай пасцелі — і яна паглынула яго, ахутала бальнічным пахам і халоднай бальнічнай белізной.

— Марс, Марс,— шаптаў волат-асілак у цішы ночы.— Мая найлепшая, самая лепшая, сапраўды цудоўная кніга, яна яшчэ будзе напісана, будзе надрукавана, у зусім іншы год, праз тры стагоддзі...

— Вы занадта ўзбуджаны.

— Вы так думаеце?— прамармытаў Томас Вулф.— Дык гэта быў сон? Магчыма... Харошы сон...

Яго дыханне абарвалася. Томас Вулф быў мёртвы.

Мінаюць гады, на магіле Тома Вулфа зноў і зноў з'яўляюцца кветкі. І здавалася б, што ў гэтым дзіўнага, бо нямала ж народу прыходзіць яму пакланіцца. Але гэтыя кветкі з'яўляюцца кожную ноч. Нібы з неба падаюць. Вялізныя, колеру асенняга месяца, яны палымнеюць, іскрацца халаднаватымі падоўжанымі пялёсткамі, яны быццам белае і блакітнае полымя. А ледзь толькі павее перадранішні ветрык, яны асыпаюцца серабрыстым дажджом, пырскаюць белыя іскры і растаюць у паветры. Мінула ўжо многа, многа гадоў з таго дня, як памёр Том Вулф, а кветкі з'яўляюцца зноў і зноў...

# А. Э. ВАН-ВОГТ

# ПАЧВАРА

На вышыні чвэрці мілі вялізны зоркалёт павіс над горадам. Унізе ўсё насіла сляды касмічнай спустошанасці. Павольна апускаючыся ў энергетычнай гандоласферы, Інэш заўважыў, што будынкі ўжо пачалі развальвацца ад часу.

— Ніякіх слядоў ваенных дзеянняў. Ніякіх слядоў...— штохвілінна паўтараў нежывы механічны голас.

Інэш перавёў настройку.

Дасягнуўшы паверхні, ён адключыў поле сваёй гандолы і апынуўся на акружаным сценамі зарослым участку. Некалькі шкілетаў ляжала ў высокай траве перад будынкам з абцякальнымі імклівымі лініямі. Гэта былі шкілеты доўгіх двухрукіх і двухногіх стварэнняў; чэрап кожнага трымаўся на верхнім канцы тонкага спіннога хрыбта. Усе касцякі яўна належалі дарослым асобінам і здаваліся цудоўна захаванымі, але, калі Інэш нагнуўся і крануў адзін з іх, цэлы сустаў рассыпаўся ў парахню. Выпрастаўшыся, ён убачыў, як Ёал прызямляецца паблізу. Пачакаўшы, пакуль гісторык выберацца з сваёй энергетычнай сферы, Інэш папытаўся:

— Як па-вашаму, варта паспрабаваць наш метад ажыўлення?

Ёал здаваўся заклапочаным.

— Я распытваў усіх, хто ўжо спускаўся сюды ў зоркалёце,— адказаў ён.— Нешта тут не так. На гэтай планеце не засталося жывых істот, не засталося нават насякомых. Перш чым пачынаць якую-небудзь каланізацыю, мы павінны высветліць, што тут адбылося.

Інэш змоўчаў. Падзьмуў слабы ветрык, зашасцеў лістотай у кронах гайка непадалёк ад іх. Інэш зірнуў на дрэвы. Ёал кіўнуў.

Так, раслiннасць не пацярпела, аднак расліны, як правіла, рэагуюць зусім інакш, чым актыўныя формы жыцця.

Іх перапынілі. З прыёмніка Ёала прагучаў голас:

— Прыкладна ў цэнтры горада выяўлены музей. На яго даху — чырвоны маяк.

— Я пайду з вамі, Ёал,— сказаў Інэш.— Там, магчыма, захаваліся шкілеты жывёлін і разумных істот на розных стадыях эвалюцыі. Дарэчы, вы не адказалі мне. Ці збіраецеся вы ажыўляць гэтыя істоты?

— Я пастаўлю пытанне на абмеркаванне савета,— павольна прамовіў Ёал,— але, мне здаецца, адказ не выклікае сумненняў. Мы абавязаны ведаць прычыну гэтай катастрофы.— Ён апісаў няпэўны паўкруг адным з сваіх шчупальцаў і як бы сам сабе дадаў:— Зразумела, дзейнічаць трэба асцярожна, пачынаючы з самых ранніх ступеняў эвалюцыі. Адсутнасць дзіцячых шкілетаў паказвае, што гэтыя істоты, відаць, дасягнулі індывідуальнага бяссмерця.

Савет сабраўся на агляд экспанатаў. Інэш ведаў — гэта пустая фармальнасць. Рашэнне прынята — яны будуць ажыўляць. Апроч усяго іншага, яны былі заінтрыгаваныя. Сусвет бязмежны, палёты праз космас доўгія і нудныя, таму, спускаючыся на невядомыя планеты, яны заўсёды з хваляваннем чакалі сустрэчы з новымі формамі жыцця, якія можна ўбачыць на свае вочы, вывучыць.

Музей быў падобны на ўсе музеі. Высокія скляпеністыя столі, прасторныя залы. Пластмасавыя фігуры дзіўных звяроў, мноства прадметаў — іх было занадта многа, каб усе агледзець і зразумець за такі кароткі час. Эвалюцыя невядомай расы была пададзена паслядоўнымі групамі рэліквій. Інэш разам з усімі прайшоў па залах. Ён з палёгкай уздыхнуў, калі яны нарэшце дабраліся да рада шкілетаў і мумій. Схаваўшыся за сілавым экранам, назіраў, як спецыялісты-біёлагі дастаюць мумію з каменнага саркафага. Цела муміі было перабінтавана палосамі матэрыі ў некалькі столак, але біёлагі не сталі раскручваць сатлелую тканіну. Рассунуўшы яе, яны, як звычайна рабілася ў такіх выпадках, узялі пінцэтам толькі абломак чарапной каробкі. Для ажыўлення прыдаецца любая частка шкілета, аднак найлепшыя вынікі, самую дасканалую рэканструкцыю даюць некаторыя ўчасткі чэрапа.

Галоўны біёлаг Хамар растлумачыў, чаму яны выбралі менавіта гэтую мумію:

— Для захавання цела яны скарысталі хімічныя рэчывы, якія сведчаць пра зародкавы стан хіміі. Разьба ж на саркафагу гаворыць пра прымітыўную цывілізацыю, незнаёмую з машынамі. На гэтай стадыі патэнцыяльныя магчымасці нервовай сістэмы наўрад ці былі асабліва раз-

вітыя. Нашы спецыялісты па мовах прааналізавалі запісы гаворачых машын, устаноўленых ва ўсіх раздзелах музея, і, хоць моў аказалася вельмі многа — тут ёсць запіс гутарковай мовы нават той эпохі, калі гэтая істота была жывая,— яны без цяжкасці расшыфравалі ўсе паняцці. Цяпер універсальны перакладчык настроены імі так, што перакладзе любое наша пытанне на мову ажыўленай істоты. Тое самае, зразумела, і з адваротным перакладам. Але, выбачайце, я бачу, першае цела ўжо падрыхтавана!

Інэш разам з астатнімі членамі савета пільна сачыў за біёлагамі: тыя замацавалі клямарамі вечка ўваскрашальніка, і працэс пластычнага аднаўлення пачаўся. Ён адчуў, як усё ўсярэдзіне ў яго напружылася. Ён ведаў, што зараз адбудзецца. Ведаў напэўна. Пройдзе некалькі хвілін, і старажытны жыхар гэтай планеты падымецца з уваскрашальніка і стане перад імі твар у твар. Навуковы метад уваскрашэння просты і безадмоўны.

Жыццё ўзнікае з процьмы бясконца малых велічынь, на мяжы, дзе ўсё пачынаецца і ўсё канчаецца, на мяжы жыцця і нежыцця, у той цьмянай вобласці, дзе вібравальная матэрыя лёгка пераходзіць з старога стану ў новы, з арганічнай у неарганічную і назад. Электроны не бываюць жывымі або нежывымі, атамы нічога не ведаюць пра адушаўлёнасць або неадушаўлёнасць. Але калі атамы злучаюцца ў малекулы, на гэтай стадыі дастаткова аднаго кроку, самага малога кроку да жыцця, калі толькі жыццю суджана зарадзіцца. Адзін крок, а за ім цемра. Або жыццё.

Камень або жывая клетка. Крупінка золата або травінка. Марскі пясок або такія самыя незлічоныя малюсенькія жывыя істоты, што насяляюць бяздонныя глыбіні рыбінага царства. Розніца паміж імі ўзнікае ў цьмянай вобласці зараджэння матэрыі. Там кожная жывая клетка набывае ўласцівую ёй форму. Калі ў краба адарваць нагу, замест яе вырасце такая самая новая. Чарвяк выцягваецца і хутка падзяляецца на двух чарвякоў, на дзве аднолькавыя страўнікавыя сістэмы, такія самыя пражорлівыя, дасканалыя і ані не сапсаваныя гэтым падзелам. Кожная клетка можа ператварыцца ў цэлую істоту. Кожная клетка «памятае» гэтае цэлае ў такіх найдрабнейшых падрабязнасцях, што для іх апісання проста не хопіць сілы.

Але вось што парадаксальнае — нельга лічыць памяць арганічнай! Звычайны васковы валік запамінае гукі. Магнітная стужка лёгка ўзнаўляе галасы, якія замоўклі стагоддзі назад. Памяць — гэта філалагічны адбітак, сляды, пакінутыя на матэрыі, якія змянілі будову малекул; і калі

яе абудзіць, малекулы ўзновяць тыя самыя вобразы ў тым самым рытме.

Квадрыльёны і квінтыльёны абуджаных вобразаў-формаў накіраваліся з чэрапа муміі ў уваскрашальнік. Памяць, як заўсёды, не падвяла.

Вейкі ўваскрэшанага ўздрыгнулі, і ён расплюшчыў вочы.

— Значыцца, гэта праўда,— сказаў ён гучна, і машына адразу пераклала яго словы на мову гэнейцаў.— Значыцца, смерць — толькі пераход у іншы свет. Ды дзе ж усе мае прыбліжаныя?

Апошнюю фразу ён вымавіў разгубленым, жаласным тонам.

Уваскрэшаны сеў, потым выбраўся з апарата, вечка якога аўтаматычна паднялося, калі ён ажыў. Убачыўшы гэнейцаў, ён задрыжаў, але гэта доўжылася нейкае імгненне. Уваскрэшаны быў ганаровы і валодаў своеасаблівай высакамернай мужнасцю, якая цяпер яму спатрэбілася. Неахвотна апусціўся ён на калені, упаў ніц, але тут сумненні адолелі яго.

— Вы багі Егіпта?— папытаўся ён і зноў устаў.— Што за вырадкі! Я не пакланяюся невядомым дэманам.

— Забіце яго!— сказаў капітан Горсід.

Двухногая пачвара сутаргава тарганулася і растала ў полымі прамянёвай стрэльбы.

Другі ўваскрэшаны падняўся, дрыжучы і бляднеючы ад жаху.

— Госпадзі божа мой, каб я яшчэ калі-небудзь дакрануўся да праклятага зелля! Падумаць толькі, дапіўся да ружовых сланоў...

— Гэта што за «зелле», пра якое ты ўспомніў, уваскрэшаны?— з цікаўнасцю папытаўся Ёал.

— Пяршак, сівуха, атрута ў фляжцы з задняй кішэні, малако ад шалёнай кароўкі,— чым толькі не пояць у гэтым прытоне, госпадзі божа мой!

Капітан Горсід запытальна паглядзеў на Ёала.

Ці варта працягваць?

Ёал, счакаўшы, адказаў:

— Пачакайце, гэта цікава.

Потым зноў звярнуўся да ўваскрэшанага:

— Як бы ты рэагаваў, калі б я табе сказаў, што мы прыляцелі з іншай зоркі?

Чалавек утаропіўся на яго. Ён быў яўна зацікаўлены, але страх аказаўся мацнейшы.

— Паслухайце,— сказаў ён.— Я ехаў па сваіх справах. Дапусцім, я кульнуў пару лішніх чарак, але ва ўсім вінавата гэтае паскудства, якім цяпер гандлююць. Клянуся, я не бачыў другой машыны, і, калі гэта новы спосаб караць тых, хто п'е за рулём, я здаюся. Ваша ўзяла. Клянуся, да канца сваіх дзён болей не вып'ю ні кроплі, толькі адпусціце мяне.

— Ён водзіць «машыну», але ён пра яе зусім не думае,— прамовіў Ёал.— Ніякіх такіх «машын» мы не бачылі. Яны не паклапаціліся захаваць іх у сваім музеі.

Інэш заўважыў, што ўсе чакаюць, калі хто-небудзь яшчэ задасць пытанне. Адчуў, што, калі ён сам не загаворыць, кола маўчання замкнецца. Інэш сказаў:

— Папрасіце яго апісаць «машыну». Як яна дзейнічае?

— Вось гэта іншая справа!— узрадаваўся чалавек.— Скажыце, куды вы хіліце, і я адкажу на любое пытанне. Я магу нарэзацца так, што ў вачах задваіцца, але ўсё роўна машыну павяду. Як яна робіць? Проста. Уключаеш старцёр і нагой даеш газ...

— Газ,— умяшаўся тэхнік-лейтэнант Віід.— Матор унутранага згарання. Усё ясна.

Капітан Горсід падаў знак ахоўніку з прамянёвай стрэльбай.

Трэці чалавек сеў і нейкі час уважліва глядзеў на іх.

— З зорак?— нарэшце папытаўся ён.— У вас ёсць сістэма ці вы трапілі да нас чыста выпадкова?

Гэнейскія саветнікі, што сабраліся пад купалам залы, наёмка закруціліся ў сваіх гнуткіх крэслах. Інэш сустрэўся вачыма з Ёалам. Гісторык быў моцна ўзрушаны, і гэта ўстрывожыла метэаролага. Ён падумаў: «Двухногія пачвары валодаюць ненармальна хуткай прыстасавальнасцю да новых умоў і занадта вострым пачуццём рэчаіснасці. Ніводзін гэнеец не можа дараўняцца да яго ў хуткасці рэакцый».

— Хуткасць думкі не заўсёды з'яўляецца прыкметай перавагі,— прамовіў галоўны біёлаг Хамар.— Істоты з марудным, грунтоўным мысленнем займаюць у радзе асобін, якія мысляць, ганаровыя месцы.

«Справа не ў хуткасці,— міжволі падумаў Інэш,— а ў правільнасці і дакладнасці думкі». Ён паспрабаваў уявіць сябе на месцы ўваскрэшанага. Ці змог бы ён вось так адразу зразумець, што навокал яго чужыя істоты з далёкіх зорак? Наўрад ці.

Усё гэта імгненна вылецела ў яго з галавы, калі чалавек устаў. Інэш і астатнія саветнікі не спускалі з яго вачэй.

Чалавек хутка падышоў да акна, выглянуў на двор. Адзін кароткі пагляд, і ён павярнуўся да іх.

— Усюды тое самае?

Зноў гэнейцаў здзівіла хуткасць, з якой ён усё зразумеў.

Нарэшце Ёал наважыўся адказаць:

— Але. Спустошанне. Смерць. Руіны. Вы ведаеце, што тут адбылося?

Чалавек падышоў і спыніўся перад сілавым экранам, за якім сядзелі гэнейцы.

— Магу я агледзець музей? Я павінен прыкінуць, у якой я эпосе. Калі я быў жывы, мы валодалі некаторымі сродкамі разбурэння. Якія з іх былі прыменены — залежыць ад таго, колькі часу мінула.

Саветнікі глядзелі на капітана Горсіда. Той замяўся, потым загадаў ахоўніку з прамянёвай стрэльбай:

— Сачы за ім!

Потым зірнуў чалавеку ў вочы.

— Нам зразумелыя вашы намеры. Вам хочацца выкарыстаць становішча і забяспечыць сваю бяспеку. Хачу вас папярэдзіць: ніводнага лішняга руху, і тады ўсё кончыцца для вас добра.

Невядома, паверыў чалавек у гэтую ману ці не. Ні адным паглядам, ні адным жэстам не паказаў ён, што заўважыў аплаўленую падлогу там, дзе прамянёвая стрэльба спаліла і ператварыла ў нішто двух яго папярэднікаў. З цікаўнасцю падышоў ён да бліжэйшых дзвярэй, уважліва паглядзеў на другога ахоўніка, які сачыў за ім, і хутка накіраваўся далей. Следам прайшоў ахоўнік, за ім рушыў сілавы экран і, нарэшце, усе саветнікі адзін за адным.

Інэш пераступіў парог трэці. У гэтай зале былі выстаўлены мадэлі жывёл. Наступная прадстаўляла эпоху, якую Інэш для прастаты назваў сам сабе «цывілізаванай». Тут захоўвалася мноства апаратаў аднаго перыяду. Усе яны гаварылі пра досыць высокі ўзровень развіцця. Калі гэнейцы праходзілі тут першы раз, Інэш падумаў: «Атамная энергія». Гэта ж зразумелі і іншыя. Капітан Горсід з-за яго спіны звярнуўся да чалавека:

— Нічога не чапаць. Адзін няправільны крок — і ахоўнік спаліць вас.

Чалавек спакойна спыніўся пасярод залы. Нягледзячы на пачуццё трывожнай цікаўнасці, Інэш залюбаваўся яго самавалоданнем. Ён павінен быў разумець, які лёс яго чакае, і ўсё-такі ён стаіць перад імі, пра штосьці глыбока задумаўшыся... Нарэшце чалавек упэўнена загаварыў:

— Далей ісці няма чаго. Можа, вам удасца вызначыць больш дакладна, які прамежак часу ляжыць паміж днём майго нараджэння і вось гэтымі машынамі. Вось апарат, які, калі меркаваць па табліцы, лічыць атамы, што ўзрываюцца. Калі іх лік дасягне мяжы, аўтаматычна выдзяляецца пэўная колькасць энергіі. Перыяды разлічаны так, каб прадухіліць ланцуговую рэакцыю. У мой час існавалі тысячы грубых прыстасаванняў для запавольвання атамнай рэакцыі, але для таго, каб стварыць такі апарат, спатрэбіліся дзве тысячы гадоў з пачатку атамнай эры. Вы можаце зрабіць параўнальны разлік?

Саветнікі запытальна глядзелі на Віида. Інжынер быў разгублены. Нарэшце ён наважыўся і загаварыў:

— Дзевяць тысяч гадоў назад мы ведалі мноства спосабаў прадухіляць атамныя выбухі. Але,— дадаў ён ужо больш павольна,— я ніколі не чуў пра прыбор, які адлічвае для гэтага атамы.

— І ўсё ж яны загінулі,— прамармытаў ледзь чутна астраном Шуры.

Запанавала маўчанне. Яго перапыніў капітан Горсід:

— Забі пачвару!— загадаў ён бліжэйшаму ахоўніку.

У гэта імгненне ахоплены полымем ахоўнік рухнуў на падлогу. І не ахоўнік, а ахоўнікі! Усе адначасова былі змецены і паглынуты блакітным віхрам. Полымя лізнула сілавы экран, адскочыла, ірванулася яшчэ люцей і зноў адскочыла, разгараючыся ўсё ярчэй. Праз вогненную заслону Інэш убачыў, як чалавек адступіў да далёкіх дзвярэй. Апарат, што лічыць атамы, свяціўся ад напружання, ахутаны сінімі маланкамі.

— Пазачыняць усе выхады!— прабрахаў у мікрафон капітан Горсід.— Паставіць ахову з прамянёвымі стрэльбамі! Падвесці баявыя ракеты бліжэй і расстраляць пачвару з цяжкіх гармат!

Нехта сказаў:

— Думкавы кантроль. Нейкая сістэма кіравання думкай на адлегласці. Навошта толькі мы ў гэта ўблыталіся!

Яны адступалі. Сіняе полымя шугала да столі, спрабуючы прабіцца праз сілавы экран. Інэш апошні раз зірнуў на апарат. Мабыць, ён усё яшчэ працягваў адлічваць атамы, таму што навокал яго клубіліся пякельныя сінія віхры.

Разам з астатнімі саветнікамі Інэш дабраўся да залы, дзе стаяў уваскрашальнік. Тут іх прыкрыў другі сілавы экран. З палёгкай схаваліся яны ў індывідуальныя гандолы, вылецелі вонкі і паспешліва падняліся ў зоркалёт. Калі вялізны карабель узняўся ўгору, ад яго аддзялілася атам-

ная бомба. Вогненная бездань раскрылася ўнізе над музеем і над усім горадам.

— А мы ж так і не даведаліся, чаму загінула раса гэтых істот,— прашаптаў Ёал на вуха Інэшу, калі грукат выбуху замёр удалечыні.

Бледна-жоўтае сонца паднялося над гарызонтам на трэцюю раніцу пасля выбуху бомбы. Пайшоў восьмы дзень іх жыцця на гэтай планеце. Інэш разам з астатнімі спусціўся ў новы горад. Ён вырашыў запрацівіцца ўсякай спробе рабіць уваскрашэнні.

— Як метэаролаг,— сказаў ён,— я абвяшчаю, што гэтая планета зусім бяспечная і прыдатная для гэнейскай каланізацыі. Не бачу ніякай неабходнасці яшчэ раз рызыкаваць. Гэтыя істоты праніклі ў тайны сваёй нервовай сістэмы, і мы не можам дапусціць...

Яго перапынілі. Біёлаг Хамар насмешліва сказаў:

— Калі яны ведалі гэтак многа, чаму ж не перасяліліся на іншую зорную сістэму і не выратаваліся?

— Думаю,— адказаў Інэш,— яны не адкрылі нашага метаду вызначэння зорак з планетамі.

Ён абвёў хмурным паглядам кола сяброў.

— Мы ўсе ведаем, што гэта было унікальнае, выпадковае адкрыццё. Справа тут не ў мудрасці,— нам проста пашанцавала.

Па выразе твараў ён зразумеў: яны ў думках адхіляюць яго довад. Інэш адчуваў сваё бяссілле прадухіліць непазбежную катастрофу. Ён уявіў сабе, як гэтая вялікая раса сустрэла смерць. Мабыць, яна настала хутка, але не гэтак хутка, каб яны не паспелі зразумець. Занадта многа шкілетаў ляжала на адкрытых месцах, у садах цудоўных дамоў. Здавалася, мужы выйшлі з жонкамі на двор; каб сустрэць гібель свайго народа пад адкрытым небам. Інэш спрабаваў апісаць саветнікам іх апошні дзень многа-многа гадоў назад, калі гэтыя істоты спакойна глядзелі ў твар смерці. Аднак выкліканыя ім зрокавыя вобразы не дасягалі свядомасці яго супляменнікаў. Саветнікі нецярпліва заварушыліся ў крэслах за некалькімі радамі ахоўных сілавых экранаў, а капітан Горсід папытаўся:

— Растлумачце, Інэш, што менавіта выклікала ў вас такую эмацыянальную рэакцыю?

Пытанне прымусіла Інэша замоўкнуць. Ён не думаў, што гэта была эмоцыя. Ён не ўразумеў прыроды наслання — так неўпрыкмет яно авалодала ім. І толькі цяпер ён раптам зразумеў.

— Што іменна?— павольна прамовіў ён.— Ведаю. Гэта быў трэці ўваскрэшаны. Я бачыў яго праз заслону энергетычнага полымя. Ён стаяў там, ля далёкіх дзвярэй, і глядзеў на нас, пакуль мы не ўцяклі. Глядзеў з цікавасцю. Яго мужнасць, спакой, спрыт, з якім ён нас абдурыў,— у гэтым уся справа...

— І ўсё гэта прывяло яго да пагібелі,— сказаў Хамар.

Усе зарагаталі.

— Паслухай, Інэш!— дабрадушна звярнуўся да яго Мэярд, памочнік капітана.— Не хочаце ж вы сказаць, што гэтыя істоты храбрэйшыя за нас з вамі або што нават цяпер, ужыўшы ўсе меры перасцярогі, нам усім трэба баяцца адной уваскрэшанай намі пачвары.

Інэш змоўчаў. Ён адчуваў сябе пагана. Яго ашаламіла адкрыццё, што ў яго могуць быць эмоцыі. Да таго ж не хацелася выглядаць упартым. Тым не менш ён зрабіў апошнюю спробу.

— Я хачу сказаць толькі адно,— злосна прабурчаў ён.— Мне здаецца, што высвятляць, што здарылася з загінуўшай расай, не так ужо абавязкова.

Капітан Горсід падаў знак біёлагу.

— Пачынайце ажыўленне!— загадаў ён.

І, звяртаючыся да Інэша, прамовіў:

— Хіба ты можаш вось так, не скончыўшы ўсяго, вярнуцца на Гэйну і параіць масавае перасяленне? Уявіце сабе, што мы чагосьці не высветлілі тут да канца. Не, мой друг, гэта немагчыма.

Довад быў стары, але цяпер Інэш чамусьці з ім адразу згадзіўся. Ён хацеў нешта дадаць, але забыўся пра ўсё, бо чацвёрты чалавек падняўся ў уваскрашальніку.

Ён сеў і знік.

Настала мёртвая цішыня, поўная жаху і здзіўлення. Капітан Горсід хрыпла прамовіў:

— Ён не мог адсюль выйсці. Мы гэта ведаем. Ён недзе тут.

Гэнейцы вакол Інэша, устаўшы з крэслаў, узіраліся ў пустату пад энергетычным каўпаком. Ахоўнікі стаялі, бязвольна апусціўшы шчупальцы з прамянёвымі стрэльбамі. Бакавым зрокам Інэш убачыў, як адзін з тэхнікаў, што абслугоўвалі ахоўныя экраны, нешта шапнуў Вііду, які адразу пайшоў за ім. Вярнуўся ён, прыкметна спахмурнеўшы.

— Мне сказалі,— прамовіў Віід,— што, калі ўваскрэшаны знік, стрэлкі прыбораў скокнулі на дзесяць дзяленняў. Гэта ўзровень унутрыядзерных працэсаў.

— У імя першага гэнейца!— прашаптаў Шуры.— Гэта тое, чаго мы заўсёды баяліся.

— Знішчыць усе лакатары на зоркалёце!— крычаў капітан Горсід у мікрафон.— Знішчыць усе, вы чуеце?

Ён павярнуўся, бліскаючы вачамі, да астранома.

— Шуры, яны, здаецца, мяне не зразумелі. Загадайце сваім падначаленым дзейнічаць! Усе лакатары і ўваскрашальнікі павінны быць неадкладна знішчаны.

— Хутчэй, хутчэй!— жаласна пацвердзіў Шуры.

Калі гэта было зроблена, яны перавялі дух. На тварах з'явіліся панурыя ўсмешкі. Усе адчувалі змрочнае задавальненне. Памочнік капітана Мэярд прамовіў:

— Ва ўсякім разе, цяпер ён не знойдзе нашу Гэйну. Вялікая сістэма вызначэння зорак з планетамі застанецца нашай тайнай. Мы можам не баяцца адплаты...

Ён спыніўся і ўжо павольна закончыў:

— Пра што я кажу?.. Мы нічога не зрабілі. Хіба мы вінаватыя ў тым, што здарылася з жыхарамі гэтай планеты?

Але Інэш ведаў, пра што ён падумаў. Пачуццё віны заўсёды ўзнікала ў іх у падобныя моманты. Прывіды ўсіх знішчаных гэнейцамі рас; бязлітасная воля, якая натхняла іх, калі яны ўпершыню прызямляліся; рашучасць знішчыць тут усё, што ім перашкодзіць; цёмныя прорвы маўклівага жаху і нянавісці, што раскрываліся за імі паўсюль; дні страшнага суду, калі яны бязлітасна абпраменьвалі жыхароў мірных планет, якія нічога не падазравалі, смертаноснай радыяцыяй,— вось што таілася за словамі Мэярда.

— Я ўсё ж не веру, што ён мог уцячы,— загаварыў капітан Горсід.— Ён тут, у будынку, ён чакае, калі мы здымем ахоўныя экраны, і тады ён сумее пайсці. Няхай чакае. Мы гэтага не зробім.

Зноў запанавала маўчанне. Яны чакальна глядзелі на пусты купал энергетычнай аховы. Толькі бліскучы ўваскрашальнік стаяў там на сваіх металічных падстаўках. Акрамя гэтага апарата, там не было нічога — ніводнага пабочнага бліка, ніводнага ценю. Жоўтыя сонечныя прамяні пранікалі ўсюды, асвятляючы пляцоўку з такой яркасцю, што схавацца на ёй было проста немагчыма.

— Ахова!— загадаў капітан Горсід.— Знішчыце ўваскрашальнік. Я думаю, што ён вернецца, каб яго агледзець, таму не варта рызыкаваць.

Апарат знік у хвалях белага полымя. Разам з ім знікла і апошняя надзея Інэша, які ўсё яшчэ верыў, што смерта-

юсная энергія прымусіць двухногую пачвару з'явіцца. Спадзявацца болей не было на што.

— Але куды ён мог дзецца?— папытаўся Ёал.

Інэш павярнуўся да гісторыка, збіраючыся абмеркаваць з ім гэтае пытанне. І тут ён убачыў — пачвара стаіць крыху воддаль пад дрэвам і ўважліва іх разглядае. Мабыць, яна з'явілася менавіта ў гэтае імгненне, таму што ўсе саветнікі адначасова разявілі раты і адскочылі. Адзін тэхнік, выяўляючы найвялікшую знаходлівасць, імгненна ўстанавіў паміж гэнейцамі і пачварай сілавы экран. Істота павольна набліжалася, яна была кволая і несла галаву, злёгку адкінуўшы назад. Вочы ў яе ззялі, нібы асветленыя ўнутраным агнём.

Падышоўшы да экрана, чалавек выцягнуў руку і дакрануўся да яго пальцамі. Экран асляпляльна ўспыхнуў, потым затуманіўся пералівамі фарбаў. Хваля фарбаў перайшла на чалавека: колеры сталі ярчэйшыя і ў імгненне разліліся па ўсім яго целе, з галавы да ног. Радужны туман рассеяўся. Абрысы сталі нябачныя. Яшчэ імгненне — і чалавек прайшоў праз экран.

Ён засмяяўся — гук быў дзіўна мяккі — і адразу пасур'ёзнеў.

— Калі я абудзіўся, сітуацыя мяне пацешыла,— сказаў ён.— Я падумаў: «Што мне цяпер з вамі рабіць?»

Для Інэша яго словы прагучалі ў ранішнім паветры мёртвай планеты прысудам лёсу. Маўчанне парушыў голас, настолькі здушаны і ненатуральны голас, што Інэшу спатрэбіўся час, каб пазнаць голас капітана Горсіда.

— Забіце яго!

Калі выбухі полымя апалі знясіленыя, істота, як і раней, стаяла перад імі. Яна павольна рушыла наперад і спынілася крокаў за шэсць ад бліжэйшага гэнейца. Інэш апынуўся ззаду ўсіх. Чалавек нетаропка загаварыў:

— Напрошваюцца два рашэнні: адно — заснаванае на ўдзячнасці за маё ўваскрашэнне, другое — на сапраўдным стане рэчаў. Я ведаю, хто вы і што вам трэба. Так, я вас ведаю — у гэтым ваша няшчасце. Тут цяжка быць міласэрным. Але паспрабую. Дапусцім,— працягваў ён,— вы адкрыеце тайну лакатара. Цяпер, паколькі сістэма існуе, мы больш ніколі не пападзёмся так неразумна, як той раз.

Інэш увесь напружыўся. Яго мозг працаваў так ліхаманкава, спрабуючы ахапіць магчымыя вынікі катастрофы, што здавалася, у ім не засталося месца ні для чога больш. І тым не менш нейкая частка свядомасці была адцягнена.

— Што ж адбылося?— папытаўся ён.

Чалавек пацямнеў. Успаміны пра той далёкі дзень зрабілі яго голас хрыплым.

— Атамная бура,— прамовіў ён.— Яна прыйшла з іншага, зорнага свету, захапіўшы ўвесь гэты край нашай галактыкі. Атамны цыклон дасягаў у дыяметры каля дзевяноста светлавых гадоў, куды болей за тое, што нам было даступна. Ратунку не было. Мы не мелі патрэбы да гэтага ў зоркалётах і нічога не паспелі пабудаваць. Да таго ж Кастар, адзіная вядомая нам зорка з планетамі, таксама быў закрануты бурай.

Ён змоўк. Потым вярнуўся да перапыненай думкі.

— Дык вось, сакрэт лакатара... У чым ён?

Саветнікі вакол Інэша ўздыхнулі з палёгкай. Цяпер яны не баяліся, што іх раса будзе знішчана. Інэш з гонарам адзначыў, што, калі самае страшнае засталося ззаду, ніхто з гэнейцаў нават не падумаў пра сябе.

— Значыць, вы не ведаеце тайны?— ліслівa прамовіў Ёал.— Вы дасягнулі вельмі высокага развіцця, аднак заваяваць галактыку зможам толькі мы.

З усмешкай змоўшчыка ён абвёў вачыма ўсіх астатніх і дадаў:

— Панове, мы можам з поўным правам ганарыцца вялікімі адкрыццямі гэнейцаў. Прапаную вярнуцца на зоркалёт. На гэтай планеце нам болей няма чаго рабіць.

Яшчэ нейкі момант, пакуль яны не схаваліся ў сваіх сферычных гандолах, Інэш з трывогай думаў, што двухногая істота паспрабуе іх затрымаць. Але, азірнуўшыся, ён убачыў, што чалавек павярнуўся да іх спіной і нетаропка ідзе па вуліцы.

Гэты вобраз застаўся ў памяці Інэша, калі зоркалёт пачаў набіраць вышыню. І яшчэ адно ён запомніў: атамныя бомбы, кінутыя на горад адна за адной, не ўзарваліся.

— Так проста мы не адмовімся ад гэтай планеты,— сказаў капітан Горсід.— Я прапаную яшчэ раз перагаварыць з пачварай.

Яны вырашылі зноў спусціцца ў горад — Інэш, Ёал, Віід і камандзір карабля. Голас капітана Горсіда прагучаў у іх прыёмніках:

— Мне здаецца...— Пагляд Інэша ўлоўліваў праз ранішні туман бляск празрыстых гандол, якія апускаліся вакол яго.— Мне здаецца, мы прымаем гэтае стварэнне зусім не за тое, што яно ёсць у сапраўднасці. Успомніце, напрыклад — яно абудзілася і адразу знікла. А чаму... Таму што спалохалася. Ну вядома ж! Яно не было гаспадаром становішча. Яно само не лічыць сябе ўсясільным.

Гэта гучала пераканаўча. Інэшу довады капітана прыйшліся па душы. І яму раптам здалося незразумелым, чаму гэта ён так лёгка паддаўся панікы! Цяпер небяспека паўстала перад ім у іншым святле. На ўсёй планеце ўсяго адзін чалавек. Калі яны сапраўды наважаць, можна будзе пачаць перасяленне каланістаў, быццам яго зусім няма. Ён успомніў, як ужо рабілася ў мінулым не раз. На шмат якіх планетах невялікія групкі карэнных жыхароў пазбегнулі дзеяння смертаноснай радыяцыі і схаваліся ў аддаленых абласцях. Амаль усюды каланісты паступова вылавілі іх і пазнішчалі. Аднак у двух выпадках, наколькі ён памятае, тубыльцы яшчэ ўтрымлівалі за сабой невялікія часткі сваіх планет. У абодвух выпадках было вырашана не вынішчаць іх радыяцыяй — гэта магло пашкодзіць самім гэнейцам. Там каланісты прымірыліся з уцалелымі аўтахтонамі. А тут і тым больш — усяго адзін жыхар, ён не зойме шмат месца!

Калі яны яго знайшлі, чалавек рухава падмятаў ніжні паверх невялікага асабняка. Ён паклаў венік і выйшаў да іх на тэрасу. На ім былі цяпер сандалі і свабодная туніка з нейкай асляпляльна бліскучай матэрыі. Ён ляніва паглядзеў на іх і не сказаў ні слова.

Перамовы пачаў капітан Горсід. Інэш толькі дзівіўся, слухаючы, што той гаворыць механічнаму перакладчыку. Камандзір зоркалёта быў гранічна шчыры: так вырашылі загадзя. Ён падкрэсліў, што гэнейцы не збіраюцца ажыўляць іншых мерцвякоў гэтай планеты. Падобны альтруізм быў бы процінатуральны, бо орды гэнейцаў, якія ўсё ўзрастаюць, увесь час маюць патрэбу ў новых светах. І кожнае новае значнае павелічэнне насельніцтва ставіла адну і тую праблему, якую можна вырашыць толькі адным шляхам. Але ў гэтым выпадку каланісты добраахвотна абавязуюцца не замахвацца на правы адзінага ўцалелага жыхара планеты.

У гэтым месцы чалавек перапыніў капітана Горсіда:

— Якая ж была мэта такой бясконцай экспансіі?

Здавалася, ён быў шчыра зацікаўлены.

— Дапусцім, вы пазасяляеце ўсе планеты нашай галактыкі. А што далей?

Капітан Горсід абмяняўся неўразумелым паглядам з Ёалам, потым з Інэшам і Віідам. Інэш адмоўна пахістаў тулавам з боку ў бок. Ён адчуў жаль да гэтага стварэння. Чалавек не разумеў і, напэўна, ніколі не зразумее. Старая гісторыя! Дзве расы, жыццяздольная і гаснучая, трымаліся

супрацьлеглых пунктаў погляду: адна імкнулася да зорак, а другая схілялася перад немінучасцю лёсу.

— Чаму б вам не ўстанавіць контроль над сваімі інкубатарамі?— настойваў чалавек.

— І выклікаць падзенне ўрада?— з'іранізаваў Ёал.

Ён прамовіў гэта паблажліва, і Інэш убачыў, як усе астатнія таксама ўсміхаюцца — з наіўнасці чалавека. Ён адчуў, як інтэлектуальная бездань паміж імі робіцца ўсё шырэй. Гэтая істота не разумела прыродных жыццёвых сіл, што кіруюць светам.

— Добра,— зноў загаварыў чалавек.— Калі вы не здольныя абмежаваць сваё размнажэнне, гэта зробім за вас мы.

Настала маўчанне.

Гэнейцы пачалі касцянець ад лютасці. Інэш адчуваў гэта сам і бачыў тыя ж прыкметы ў іншых. Яго пагляд пераходзіў з твару на твар і вяртаўся да двухногага стварэння, якое так і стаяла ў дзвярах. Ужо не першы раз Інэш падумаў, што іх праціўнік выглядае зусім безабаронным.

«Зараз,— падумаў ён,— я магу абхапіць яго шчупальцамі і раздушыць!»

Разумовы кантроль над унутрыядзернымі працэсамі і гравітацыйнымі палямі, ці спалучаецца ён са здольнасцю адбіць чыста механічны, макракасмічны напад? Інэш думаў, што спалучаецца. Сіла, праяўленне якой яны бачылі дзве гадзіны назад, вядома, павінна была мець нейкія межы. Але яны гэтых межаў не ведалі. І тым не менш усё гэта цяпер не мела значэння. Мацнейшыя яны або слабейшыя — няважна. Фатальныя словы былі вымаўлены: «Калі вы не здольныя абмежаваць, гэта зробім за вас мы!»

Гэтыя словы яшчэ гучалі ў вушах у Інэша, і па меры таго, як іх сэнс усё болей даходзіў да яго, ён адчуваў сябе ўсё менш ізаляваным і адчужаным. Да гэтага часу ён лічыў сябе толькі гледачом. Нават пратэстуючы супраць далейшых уваскрашэнняў, Інэш дзейнічаў як незацікаўленая асоба, што назірае драму збоку, але не ўдзельнічае ў ёй. Толькі цяпер ён з гранічнай яснасцю зразумеў, чаму ён заўсёды ўступаў і ў канчатковым выніку згаджаўся з іншымі. Вяртаючыся ў мінулае, да самых далёкіх дзён, цяпер ён бачыў, што ніколі па-сапраўднаму не лічыў сябе ўдзельнікам захопу новых планет і знішчэння чужых рас. Ён проста прысутнічаў пры гэтым, раздумваў, разважаў пра жыццё, якое не мела для яго значэння. Цяпер гэтае паняцце канкрэтызавалася.

Ён болей не мог, не хацеў працівіцца магутнай хвалі пачуццяў, якія яго захліснулі. Цяпер ён думаў і адчуваў заадно з неабдымнай масай гэнейцаў. Усе сілы і ўсе жаданні расы бушавалі ў яго крыві.

— Слухай, двухногі!— зароў ён.— Калі ты спадзяешся ажывіць сваё мёртвае племя — пакінь гэту надзею!

Чалавек паглядзеў на яго, але змоўчаў.

— Калі б ты мог нас усіх знішчыць,— працягваў Інэш,— то даўно знішчыў бы. Ды ўся справа ў тым, што ў цябе не хапае сілы. Наш карабель пабудаваны так, што на ім немагчымая ніякая ланцуговая рэакцыя. Усякай часцінцы патэнцыяльна актыўнай матэрыі супрацьстаіць антычасцінка, якая не дапускае ўтварэння крытычных мас. Ты можаш зрабіць выбухі ў нашых рухавіках, але гэтыя выбухі застануцца таксама ізаляванымі, а іх энергія будзе звернута на тое, для чаго рухавікі прызначаны,— пераўтворыцца ў рух.

Інэш адчуў дотык Еала.

— Пасцеражыся!— шапнуў гісторык.— У гарачцы ты можаш выбалбатаць адзін з нашых сакрэтаў.

Інэш строс яго шчупальцы і злосна агрызнуўся:

— Хопіць наіўнічаць! Гэтай пачвары дастаткова было зірнуць на нашы целы, каб разгадаць амаль усе тайны нашай расы. Трэба быць дурнем, каб думаць, быццам яна яшчэ не ўзважыла сваіх і нашых магчымасцей у гэтай сітуацыі.

— Інэш!— зароў капітан Горсід.

Пачуўшы металічныя ноткі ў яго голасе, Інэш адступіў і адказаў:

— Слухаюся.

Яго лютасць астыла гэтак хутка, як і ўспыхнула.

— Мне здаецца,— працягваў капітан Горсід,— я здагадваюся, што вы меліся сказаць. Я цалкам з вамі згодзен, але як найвышэйшы прадстаўнік улады Гэйны лічу сваім абавязкам прад'явіць ультыматум.

Ён павярнуўся. Яго рагатае цела навісла над чалавекам.

— Ты адважыўся вымавіць словы, якім няма даравання. Ты сказаў, што вы паспрабуеце абмежаваць рух вялікага духу Гэйны.

— Не духу,— перапыніў яго чалавек. Ён ціхенька рассмяяўся.— Зусім не духу!

Капітан Горсід пакінуў без увагі яго словы.

— Таму,— працягваў ён,— у нас няма выбару. Мы лічым, што з часам, сабраўшы неабходныя матэрыялы і вырабіўшы адпаведныя інструменты, ты здолееш пабудаваць

уваскрашальнік. Паводле нашых разлікаў, на гэта спатрэбіцца сама меней два гады, нават *калі ты ведаеш усё*. Гэта незвычайна складаны апарат, і сабраць яго адзінаму прадстаўніку расы, якая адмовілася ад машын за тысячагоддзе да таго, як была знішчана, будзе вельмі і вельмі няпроста.

Ты не паспееш пабудаваць зоркалёт. І мы не дамо табе часу сабраць уваскрашальнік. Магчыма, ты зможаш прадухіліць выбухі на нейкай адлегласці вакол сябе. Тады мы палящім да іншых мацерыкоў. Калі ты перашкодзіш і там, значыць, нам спатрэбіцца дапамога. Праз шэсць месяцаў палёту з найвышэйшым паскарэннем мы дасягнем кропкі, адкуль бліжэйшыя каланізаваныя гэнейцамі планеты пачуюць наш заклік. Яны пашлюць вялізны флот: яму не змогуць супрацьстаяць усе твае сілы. Скідаючы па сотні або па тысячы бомбаў у мінуту, мы знішчым усе гарады, так што ад шкілетаў твайго народа не застанецца нават пылу.

Такі наш план. І гэтак яно і будзе. А цяпер рабі з намі што хочаш — мы ў тваёй уладзе.

Чалавек паківаў галавой.

— Пакуль я нічога не буду рабіць,— сказаў ён і падкрэсліў: — Пакуль нічога.

Памаўчаўшы, дадаў задумліва:

— Вы разважаеце лагічна. Вельмі. Зразумела, я не ўсемагутны, але мне здаецца, вы забыліся пра адну маленькую дэталь. Якую, не скажу. А цяпер бывайце Вяртайцеся на свой карабель і ляціце куды хочаце. У мяне яшчэ шмат спраў.

Інэш стаяў нерухома, адчуваючы, як лютасць зноў разгараецца ў ім. Потым, зашыпеўшы, ён скочыў, растапырыўшы шчупальцы. Яны ўжо амаль дакрануліся да кволага цела, як раптам нешта адкінула яго...

Апрытомнеў Інэш на зоркалёце.

Ён не памятаў, як апынуўся ў ім, ён не быў паранены, не адчуваў ніякага ўзрушэння. Ён турбаваўся толькі пра капітана Горсіда, Віida, Ёала, але ўсе трое стаялі побач з ім такія ж здзіўленыя. Інэш ляжаў нерухома і думаў пра тое, што сказаў чалавек: «Вы забыліся пра адну маленькую дэталь...» Забыліся? Значыць, яны яе ведалі! Што ж гэта такое? Ён усё яшчэ раздумваў над гэтым, калі Ёал сказаў:

— Неразумна спадзявацца, што нашы бомбы хоць што-небудзь зробяць!

Гэта была праўда.

———

Калі зоркалёт аддзяліўся ад Зямлі на сорак светлавых гадоў, Інэша выклікалі ў залу савета. Замест прывітання Ёал сумна сказаў:

— Пачвара на караблі.

Яго словы як громам ударылі Інэша, але разам з іх грукатам на яго найшло раптоўнае азарэнне.

— Дык вось пра што мы забыліся!— здзіўлена і гучна прамовіў ён нарэшце.— Мы забыліся, што ён пры жаданні можа перамяшчацца ў касмічнай прасторы ў межах...— як гэта ён сказаў?.. у межах дзевяноста светлавых гадоў.

Інэш зразумеў. Гэнейцы, якім даводзілася карыстацца зоркалётамі, вядома, не падумалі пра такую магчымасць. І дзівіцца тут не было чаго. Паступова рэчаіснасць пачала страчваць для яго значэнне. Цяпер, калі ўсё адбылося, ён зноў адчуў сябе змучаным і старым, ён зноў быў адчайна адзінокі.

Для таго каб увесці яго ў курс справы, спатрэбілася ўсяго некалькі мінут. Адзін з фізікаў-асістэнтаў па дарозе ў кладоўку заўважыў чалавека ў ніжнім калідоры. Дзіўна толькі, што ніхто з шматлікай каманды зоркалёта не ўбачыў пачвары раней.

«Ды мы ж, зрэшты, не збіраемся спускацца або набліжацца да нашых планет,— падумаў Інэш.— Такім чынам, ён зможа нас выкарыстаць, толькі калі мы ўключым відэа?..»

Інэш спыніўся. Ну, вядома, у гэтым уся справа! Ім прыйдзецца ўключыць накіраваны відэапрамень, і, як толькі кантакт будзе ўстаноўлены, чалавек зможа вызначыць патрэбны кірунак.

Рашэнне Інэш прачытаў у вачах сваіх супляменнікаў — адзінае магчымае ў гэтых умовах рашэнне. І ўсё ж яму здавалася, што яны нешта ўпусцілі, нешта вельмі важнае. Ён павольна падышоў да вялікага відэаэкрана, устаноўленага ў канцы залы. Карціна, адлюстраваная на ім, была такая яскравая, такая велічная і цудоўная, што непрывычны розум уздрыгваў перад ёй, як ад успышкі маланкі. Нават Інэша, хоць ён бачыў гэта не раз, ахоплівала здранцвенне перад неймавернай, недаступнай розуму безданню космасу. Гэта было адлюстраванне часткі Млечнага Шляху. Чатырыста мільёнаў зорак ззялі, быццам у акуляры гіганцкага тэлескопа, здольнага ўлоўліваць нават міганне чырвоных карлікаў, аддаленых на трыццаць тысяч светлавых гадоў. Відэаэкран быў дыяметрам дваццаць пяць ярдаў — такіх тэлескопаў проста не існавала нідзе, і да таго ж у іншых галактыках не было стольКіх зорак.

І толькі адна з кожных двухсот тысяч зіхатлівых зорак мела прыдатныя для засялення планеты.

Менавіта гэты факт каласальнага значэння прымусіў іх прыняць фатальнае рашэнне. Інэш стомлена абвёў усіх вачыма. Калі ён загаварыў, голас яго быў спакойны:

— Пачвара разлічыла цудоўна. Калі мы паляцім далей, яна паляціць разам з намі, завалодае ўваскрашальнікам і вернецца даступным ёй спосабам на сваю планету. Калі мы пакарыстаемся накіраваным прамянём, яна рушыць уздоўж праменя, захопіць уваскрашальнік і таксама вернецца да сябе раней за нас. У любым разе, перш чым нашы караблі даляцяць да планеты, двухногі паспее ажывіць дастатковую колькасць сваіх супляменнікаў, і тады мы будзем бяссільныя.

Ён скалануўся ўсім целам. Разважаў ён правільна, і ўсё ж яму здавалася, што недзе ў яго думках ёсць прабел. Інэш павольна гаварыў далей:

— Цяпер у нас толькі адна перавага. Якое б рашэнне мы ні прынялі, без машыны-перакладчыка ён пра яго не даведаецца. Мы можам выпрацаваць план, які застанецца для яго тайнай. Ён ведае, што ні мы, ні ён не можам узарваць карабель. Нам застаецца адзінае выйсце. Адзінае.

Капітан Горсід парушыў цішыню:

— Дык вось, я бачу, вы ведаеце ўсё. Мы ўключым рухавікі, узарвём прыборы кіравання і загінем разам з пачварай.

Яны абмяняліся паглядамі, і ў вачах ва ўсіх быў гонар за сваю расу. Інэш па чарзе дакрануўся шчупальцамі да кожнага.

Праз гадзіну, калі тэмпература ў зоркалёце адчувальна паднялася, Інэшу прыйшла ў галаву думка, якая прымусіла яго рушыць да мікрафона і выклікаць астранома Шуры.

— Шуры!— крыкнуў ён.— Успомні, Шуры, калі пачвара абудзілася і знікла... Ты памятаеш? Капітан Горсід не мог адразу прымусіць тваіх памочнікаў знішчыць лакатары. Мы так і не папыталіся ў іх, чаму яны марудзілі. Папытайся ў іх! Папытайся цяпер!..

Маўчанне, потым голас Шуры слаба данёсся праз грукат перашкод:

— Яны... не маглі... пранікнуць... адсек... Дзверы... былі замкнёныя.

Інэш мяшком асеў на падлогу. Вось яно! Значыць, яны ўпусцілі не толькі адну дэталь! Чалавек ачуняў, усё зразумеў, стаў нябачны і адразу рушыў на зоркалёт. Ён адкрыў тайну лакатара і тайну ўваскрашальніка, калі толькі не аг-

ледзеў яго ў першую чаргу. Калі ён з'явіўся зноў, ён ужо ўзяў у іх усё, што хацеў. А ўсё астатняе спатрэбілася толькі для таго, каб штурхнуць іх на гэты акт адчаю, на самазабойства.

Цяпер, праз некалькі імгненняў ён пакіне карабель у цвёрдай упэўненасці, што хутка ні адна чужая істота не будзе ведаць пра яго планету, і ў такой жа цвёрдай упэўненасці, што яго раса адродзіцца, будзе жыць зноў і больш ужо ніколі не загіне.

Узрушаны Інэш захістаўся, чапляючыся за рыклівы прыёмнік, і пачаў выкрыкваць у мікрафон апошняе, што ён зразумеў. Адказу не было. Усё заглушаў роў неверагоднай, ужо некіроўнай энергіі. Гарачыня пачала размякчаць яго браніраваны панцыр, калі Інэш, запінаючыся, паспрабаваў дабрысці да сілавога рэгулятара. Насустрач яму рванулася барвовае полымя. Крычучы і ўсхліпваючы, ён кінуўся назад да перадатчыка.

Некалькі хвілін пасля ён усё яшчэ нешта пішчаў у мікрафон, калі магутны зоркалёт ныркуў у жудасны горан беласіняга сонца.

# САКЁ КАМАЦУ

# СМЕРЦЬ БІКУНІ

## 1

Цяжкія свінцовыя хмары сцерлі з неба сінь, апусціліся нізка-нізка над пачарнелым ледзяным морам, і здавалася, што на свеце нічога няма, апрача гэтых хмар і вострага, як лязо кінжала, ветру, які ўзнікаў з бездані і рваў чалавечую плоць. Вецер шалеў, гнаў з мора пырскі, застылыя ў ледзяны шрот, уздымаў з зямлі халодны калючы пясок. Хмары раслі і шырыліся, клубіліся, залівалі гарызонт чарнатою. Грукат хваль і выццё ветру, заглушаючы адно аднаго, прадвяшчалі блізкую снежную буру.

Па гэтым сумным свеце, дзе жылі і варагавалі толькі тры колеры, народжаныя холадам,— белы, чорны і шэры, павольна рухалася адзінокая маленькая фігурка, такая ж чорна-белая, як і ўсё навакольнае. Дзоры, абутыя на боса, пакідалі ледзь прыкметныя сляды на прыбярэжным пяску, а хвалі, прагныя і шпаркія, злізвалі іх доўгім языком і, ашчэрыўшы белапенныя зубы, таропка адбягалі назад. Мора і вецер ганяліся за дарожнікам, яны з радасцю паглынулі б яго, падралі б на шматкі, развеялі б яго прах, але ён смела ішоў далей і далей уздоўж крывога выгіну пясчанага берага, аддаючы на волю стыхій толькі чорнае кімано, у якога матлялася крыссе, і берагі белай тканіны, якая прыкрывала галаву. І раптам, разрываючы заслону белага снегу і шэрага туману, удалечыні паказаліся чорныя цені. Было іх шмат. Яны выходзілі адзін за адным з імжы і рухаліся насустрач дарожніку. І вось на сярэдзіне выгіну цені і адзінокі дарожнік сустрэліся.

Тыя, што ўзніклі з імжы і ішлі цяпер ланцужком, былі моцныя і дужыя людзі. Але неадольная стома сагнула ім спіны. Хада ў іх была цяжкая, ногі глыбока загрузалі ў пяску. Здалёк яны здаваліся воінамі, закаванымі ў цёмныя панцыры, а зблізку панцыры аказаліся звычайным адзеннем вандроўных манахаў: башлыкі, грубыя рынкенаўскія расы. У руках кашы з святымі сутрамі і акаваныя

жалезам посахі пілігрымаў. Твары, пацямнелыя ад нягод і холаду, папяліста-шэрыя, з абведзенымі чорнымі кругамі вачыма, не неслі на сабе адбітка міласэрнасці гасподняй.

Яны павольна ішлі наперад, моцна абапіраючыся на посахі, а ўчэпісты пясок раз-пораз хапаў іх за ногі, быццам не хацеў пускаць далей.

Адзінокі дарожнік, параўняўшыся з вандроўнікамі, злёгку пакланіўся і хацеў ісці сваёй дарогаю. На тварах манахаў адбілася разгубленасць, потым здзіўленне. Яны адказалі на паклон, і вялізны, як вежа, дзяцюк, што ішоў наперадзе, сказаў гучным голасам:

— Дазволь пагаварыць з табой!..

— Калі ласка...

Голас прагучаў сярэбраным званочкам. Вецер наляцеў з мора і адкінуў з ілба дарожніка канцы белага пакрывала.

З-пад белага шоўку, які трапятаў, на манахаў глядзела жанчына. Маладая, гадоў дваццаці, не болей. Холад распісаў пяшчотна-ружовымі фарбамі яе па-дзявочы гладкія шчокі. Вочы былі ясныя, як у дзіцяці.

Яны глядзелі на жанчыну разявіўшы рот.

— Наша дарога была доўгая і цяжкая. Самую блізкую заваліла абвалам, і давялося ісці ў абход, па бездарожжы. Тутэйшых мясцін мы не ведаем. Ці не скажаш ты, сястра, ёсць тут дзе-небудзь паблізу сяло або хоць бы адзінокая хаціна, каб нам схавацца на ноч ад непагадзі?..— Манах гаварыў вельмі пачціва, стараючыся прыцішыць свой гучны голас.— Ужо вечарэе. Скора на зямлю ляжа начная імжа. Ці паспеем мы дабрацца да жытла?

— Бедныя, як жа вы, мусіць, натаміліся!— У сярэбраным голасе прагучала спагада.— Але хутка канец вашым пакутам. Бачыце вунь той мыс? За ім рыбачы пасёлак. А калі пойдзеце да гор, там прыкладна праз два з паловай ры будзе будысцкі храм.

— Дзякуй, сястра — усклікнуў каржакаваты, невысокі манах, які стаяў побач з падобным на вежу.— Чулі, браты, нядоўга нам мучыцца. Яшчэ крыху, і нас чакаюць цяпло і сон. Наперад!

— Удачы вам у дарозе. Хай дапаможа вам усявышні!

Жанчына крыху схіліла галаву і пайшла далей. Але яе дагнаў голас манаха, які быў падобны на вежу.

— Высокашаноўная пустэльніца, няўжо ў такі холад і ў буру ты ідзеш адна?

Манахіня ўсміхнулася, прыкрыўшы рот краем рукава:

— Не трывожцеся, браты. Жыву я тут доўга, тутэйшыя мясціны добра ведаю. Ды і келля мая недалёка...

І, яшчэ раз пакланіўшыся, яна пайшла. І манахі кланяліся ёй, і яна адказвала кожнаму. Але калі жанчына параўнялася з апошнім, з выгляду ўбогім манахам, галаву якога прыкрываў глыбокі саламяны капялюш, насунуты да самых брывоў, яе вочы раптам расшырыліся.

— Даруй мне... Ці не ты гэта, пане?— сказала яна, міжволі ступіўшы крок да жабрака-манаха.

Ланцужок шэрых рас застыў на імгненне, а потым па ім прайшло ледзь прыкметнае калыханне. Магчыма, вецер наляцеў у гэта імгненне з новай сілай... Сёй-той з манахаў схапіўся за мячы, схаваныя пад адзеннем багамольцаў.

Але манахіня, прыкмеціўшы, што апошні ў ланцужку яшчэ глыбей нацягнуў на твар саламяны капялюш, каб не сустракацца з ёю позіркам, зноў пакланілася і паглядзела на чалавека, падобнага на вежу, што сачыў за ёю вачыма, у якіх гарэў нядобры агонь.

— Малюся і спадзяюся на міласэрнасць усявышняга. Няхай спадарожнічае яна вам на вашым цяжкім шляху. Даруйце, калі што не так сказала...— Яе тонкія пальцы маліто́ўна перабіралі выцягнуты з-за пазухі ружанец.

Калі меладычны, падобны на летнюю прахалоду голас даляцеў да першага манаха, яна ўжо павярнулася і са складзенымі рукамі пайшла прэч у снежную імжу.

— Здагадалася! Пазнала!— прастагнаў каржакаваты манах, падобны на краба.— Месца бязлюднае, засячы, каб бяды не здарылася?

— Змоўкні, Сабура,— сказаў падобны на вежу.— Мы ж манахі, хоць і не па добрай волі. Да таго ж яна ўсё-такі жанчына.

— А калі данясе?.. Прыйдзем у сяло, а там нас чакае засада...

— Кінь, Сабура,— хрыпла сказаў убогі манах і павярнуўся да падобнага на вежу.— Усе стаміліся, Бенкей. Трэба спяшацца.

Падобны на вежу патрос посахам.

— Чуў, Сабура? Вось і пан наш гаворыць... Мяркуючы па тым, як жанчына пажадала нам добрай дарогі, не будзе яна даносіць, нават калі здагадалася, хто мы такія. Ну, пайшлі, чаго стаяць на холадзе.

Атрад крануўся. Касы вецер наляцеў з мора і апёк шчокі людзей калючымі ледзянымі пырскамі.

— Незразумела мне,— сказаў Сабура таму, каго ўбогі манах назваў Бенкеем,— як гэта адважылася жанчына ісці ў дарогу па гэтай пустыні адна-аднюткая ды яшчэ ў такі

ўраган. Нават калі дом яе непадалёк. Вунь і рыбакоў не відаць, мабыць, усе пахаваліся ў хацінах...

— Ага... Цуды!— рыкнуў Бенкей.— І ні дарогі ж, ні сцежкі паблізу. Мы знарок выбралі самую доўгую і самую бязлюдную дарогу, каб падмануць пагоню. Вось і наконт абвалу зманілі.

— Не разумею ўсё-такі я,— не сунімаўся Сабура,— як гэта маладая прыгажуня стала бікуні-пустэльніцай. Ты заўважыў, якія ў яе вочы, якія бровы? Нездарма гавораць, што ў паўночных правінцыях шмат прыгажунь... Але тут, у такой глухамані, і раптам — пяшчотная вясенняя кветка... Слухай, можа, яна і не пустэльніца зусім, а пярэварацень? Снежная дзева?

Бенкей раптам спыніўся. Словы Сабура нагадалі яму легенду, якую ён даўно чуў ад тутэйшых жыхароў.

— Ты чаго спыніўся?— спытаў Сабура, здзіўлена гледзячы на Бенкея.— Пайшлі... І ўсё ж цікава, дзе гэтая пустэльніца магла бачыць нашага пана Ёсіцунэ?..

## 2

Муж у яе памёр. На сорак дзевяты дзень Хама адслужыла паніхіду па нябожчыку і вярнулася да будзённых спраў — спраў свайго дома. Яе рукі і вочы былі занятыя, але памяць жыла сваім, асаблівым жыццём. Памяць вяртала Хаму ў далёкія, цяпер ужо далёкія часы.

І ўспомнілася ёй бура на ўзбярэжжы і выпадковая сустрэча, сведкамі якой былі мора, холад і вецер... Толькі праз дзесяць гадоў Хама даведалася, што сустрэлася тады з атрадам Ёсіцунэ. Так, не ведала яна ў тое імгненне, што за людзі гэтыя вандроўныя манахі. Толькі адзін быў ёй знаёмы — той у адзенні жабрака, у глыбока насунутым на вочы саламяным капелюшы. Памяць падказала ёй, хто ён, свавольнік-хлапчук, смуглы, скуласты, раскудлачаны, з падзёртымі да крыві каленямі... Ага, той самы хлопчык, які часцяком — у яшчэ больш далёкія часы — прыбягаў напіцца ў яе келлю каля сталіцы Кіота.

А потым хлопчык — Ёсіцунэ стаў першым военачальнікам з роду Мінамота і праславіўся ў баях пры Сіме і Дан-но-Ура. А потым лёс адвярнуўся ад яго і ператварыў яго ў героя трагедыі. А потым людзі пачалі расказваць цуды пра яго подзвігі. Хіба магла Хама загадзя прадбачыць усё гэта, калі ён прыбягаў напіцца ў яе келлю?..

Гады ішлі. Хама ўжо ведала пра гібель Ёсіцунэ і яго сяброў. І аднойчы ў глухім горным храме яна сустрэла-

ся — зноў выпадкова — з чалавекам, які прыняў манаскі сан і называўся Дзанму. І быў гэты манах не хто іншы, як чалавек Ёсіцунэ, які насіў некалі імя Сабура. Дзанму-Сабура, да глыбіні душы ўражаны сустрэчай з жанчынаю, спытаўся ў яе, ці яна гэта была на марскім беразе, ці яна паказала атраду дарогу да чалавечага жытла, і, пачуўшы сцвярджальны адказ, назваў сваё імя, ранейшае і цяперашняе, і расказаў сумную гісторыю Ёсіцунэ. Яна маўчала, ён замоўк таксама і ўсё глядзеў на яе разявіўшы рот, што зусім ужо не да твару служыцелю Буды, бо чалавек, блізкі да бога, не павінен здзіўляцца, а потым загаварыў зноў, і ў голасе ў яго чуўся боль за свайго пана Ёсіцунэ і крыўда і гнеў супраць старэйшага брата Ёсіцунэ — Ерытама. Не, не адмовіўся манах ад зямных спраў, не стаў сапраўдным слугою боскім, а так і застаўся ў сэрцы сваім васалам былога пана.

Слухаючы такія яго словы, Хама здзівілася — як жа гэта, калі Ёсіцунэ загінуў у Хірайдзуке, яго слугі выратаваліся ўцёкамі, і толькі адзін з дванаццаці, Бенкей, падобны на вежу, біўся з пагоняй і сустрэў смерць грудзьмі...

Але ёй было ўсё адно, і яна прамаўчала.

Толькі адзін успамін адгукнуўся ў ёй пякучым сумам: хлопчык з пабітымі каленямі, мурзаты, віхрасты, урываецца ў яе келлю і просіць: «Матушка, напіцца!»— і яна падае яму ваду, і ён прагна п'е, абціраючы далоняй кропелькі поту з крутога, бруднага лба... хлапчук, які сустрэўся ёй пазней убогім манахам на змучаным бурай узбярэжжы... Хама маўчала і перабірала ружанец — супакой божа душу яго.

Манах Дзанму настойліва прасіў яе адкрыцца яму, і расказаць усё пра сябе, і, калі гэта магчыма, дапамагчы ў складанні жыццяпісу яго пана Ёсіцунэ. Яна ўхілілася ад адказу. Яе жыццё было яе жыццём, і мужчыны, якія ўрываліся часам у гэта жыццё, былі не больш чым абломкамі іншых жыццяў, якія былі занесены выпадкова і ненадоўга ветрам смутнага часу.

Пасля гібелі Ёсіцунэ смуты не заціхалі, і ўсе Хаміны мужчыны, воіны і бунтары, паміралі, адзін за адным.

У канцы трынаццатага стагоддзя, у той дзень, калі ў наваколлі Эцідзен-Канагасакі яшчэ кіпела славутая бітва, якая ўвайшла ў летапіс, у яе келлю прынеслі воіна ў багатых даспехах, відаць, вялікага военачальніка. Ён ледзь дыхаў. Хама даглядала яго дваццаць дзён. За дваццаць дзён ён не сказаў ніводнага слова, а на дваццаць першы памёр.

Усе яны паміралі. І Хама ўсіх іх выдатна помніла.

Аднойчы, калі князь Сіба Ёсіёры пайшоў вайною на князя Асакура Такакагэ, да яе зайшоў лютага выгляду воін, таксама цяжка паранены. Гэтага яна выхадзіла. Ноччу, перад тым як пакінуць яе келлю, ён згвалціў яе. А потым сказаў:

— Даруй мне, пустэльніца. Я ж не ведаю, што чакае мяне заўтра. Шмат грахоў на маім сумленні. Не раз я падымаў меч супроць пана майго, а цяпер паўстаў на цябе, прыслужніца Буды вялікага... і з гэтага часу прызначана мне простая дарога на самае дно пекла...

Яна хацела суцешыць яго, сказаць, што няма ніякага пекла ў Буды, што пекла і рай у свеце чалавечым, толькі рай вельмі ўжо далёкі і знайсці яго цяжка... Хацела яна сказаць, але... прамаўчала.

Воін, Такэда было яго імя, пайшоў, а потым вярнуўся. Кінуў даспехі і застаўся ў яе келлі. Нярэдка ў тыя часы, у часы смуты і міжусобіц, манахіні-пустэльніцы служылі ўцехай воінам, але ўсё ж Хама адчувала боль, калі ў вёсках, куды яна хадзіла жабраваць, на яе паказвалі пальцамі і гаварылі: «Глядзіце, вось гэтая рабыня Буды завяла сабе мужчыну і трымае яго ў сваёй келлі!» І пагарда людзей была вялікая, а міласціна іх — малая. Зімой давялося ёй разам з Такэдам, каб падмануць голад, сёрбаць поліўку з гліны, прыпраўленую драўнянай карой.

Але як толькі насталі цёплыя дні, пачала яна выкопваць маладыя парасткі каранёў бамбука, які рос за хацінай, ды вырошчваць сякую-такую гародніну на маленькім, з кошчын лоб, агародзіку. Яна старалася дагадзіць мужчыну, нават валасы адпусціла сабе на голенай галаве...

— Падумаць толькі, як мы з табою жывём — ціха ды непрыкметна... І гэта ў наш час, і ў нашым смутным свеце...— гаварыў Такэда, гледзячы на яе з галерэі. І позірк у яго быў мяккі і задумлівы, зусім не такі, як у тую першую ноч.— Магчыма, падобнае жыццё і ёсць ісціна. Такая ж ісціна, як сама старажытнасць. Мудрасць вучняў Буды вартая здзіўлення.

І Хама ў такія хвіліны смяялася. Весела, як дзяўчынка. І прыкрывала рот запэцканай агароднай зямлёю рукой, і камячкі плоднай зямлі прыліпалі да яе ружовых вуснаў.

— Мудрасць вучэння Буды тут ні пры чым,— адказвала яна.— Гэта мудрасць самога чалавека, якая ўвайшла ў яго яшчэ ў тыя далёкія часы, калі Сак'я-Муні яшчэ не нарадзіўся. Чалавек вучыўся, як трэба жыць, каб не крыўдзіць іншых і самому не быць пакрыўджаным. А потым недарэчная сквапнасць і звярыная ненасытнасць прымусілі

яго забыцца на першародную мудрасць. І не людзям вучыцца ў Буды веры і праведнасці і спакою душэўнаму. Буда сам запазычыў з душы чалавечай дадзены ёй спрадвеку светлы спакой, які ўсім дапамагае і ўсіх вылечвае ад непатрэбных пакут.

— Хто ведае, хто ведае...— задуменна ківаў галавой мужчына.— Магчыма, надыдуць такія часы, калі нават з цябе не злітуецца бурлівы паток часу. І навакольны свет уварвецца ў тваю келлю ў абліччы здзічэлага разбойніка, які падобна зверу блукаў па дарогах...

— Няхай... Ці звяры, ці разбойнікі — што мне да іх?— яе голас спяваў, як сярэбраны званочак, а пальцы яе абрывалі ліставую капусту.— Калі знойдуць у маёй келлі што ўзяць — няхай бяруць. Я і сама аддам. А жыццё будуць патрабаваць, таксама аддам, не шкада. Усё роўна ж памру калі-небудзь. Не павінен чалавек скупіцца на падарункі. Табе я падарыла лона сваё, а іншаму, можа, падару жыццё...

І тады мужчына ўстаў, і працягнуў рукі, і павёў яе ў келлю. А на галерэю, якая караблём плыла ў сонечным патоку, прыляцелі птушкі нябесныя, збегліся малпы з бліжняга лесу і раскідалі насенне ліставой капусты, пакуль іх не напалохаў вокліч радасці Хамы.

А мужчына з сумам думаў, што сіла яго сыходзіць, што ён старэе...

І меў ён рацыю, калі гаварыў пра неспакойнасць смутнага часу. Міжусобіцы не сціхалі, правіцелі падаўлялі народ, народ бунтаваў, і кожны — крыўдзіцель і пакрыўджаны караў ні ў чым не вінаватую зямлю агнём і мячом. Вёскі гарэлі, і сяляне, якія ўзняліся з выгаралай зямлі, ішлі бадзяцца па дарогах.

Аднойчы натоўп здзічэлых людзей, якія выпадкова праходзілі міма, уварваўся ў хаціну і збіў мужчыну да смерці, таму што ён не хацеў аддаць дзве дзяругі, што закрывалі ўваход у келлю.

Мужчына, некалі магутны воін, нядоўга супраціўляўся: быў ён ужо не малады і сіла яго згасла. Труп яго, раздзеты дагала, кінулі ў снег.

А Хамы не было — яна пайшла ў сяло па міласціну...

## 3

А потым...

Хама ўспамінала. Яе пальцы, якія прывыклі перабіраць ружанец, цяпер перабіралі пажоўклыя лісты паперы — памятныя нататкі пра былое.

А потым насталі ўжо зусім страшныя часы. Ода Набунага напаў на князя Асакуру. Услед за гэтым Тоетомі Хідэесі пайшоў уціхамірваць паўночныя правінцыі. Як жа любяць мужчыны займацца забойствам, войнамі і праліваць кроў. Хіба ёсць у гэтым сэнс — адбіраць адзін у аднаго па чарзе зямлі і плаціць сваім жыццём за чужое жыццё?..

У памятных запісах было шмат імёнаў — усё, што засталося ад людзей, якія былі некалі цёплай і жывой плоццю. Добра, хоць імёны захаваліся — як бы іначай яна памінала іх у сваіх малітвах?

Кім яны былі, гэтыя людзі, што ўрываліся ў ціхую душу Хамы, падобна парывам ураганнага ветру? Военачальнікі і простыя воіны, майстры чайнай цырымоніі і простыя падарожныя, якія збіліся з дарогі. Іх прыводзіў да яе выпадак, і выпадак час ад часу выкрадаў яе са сцен келлі і пераносіў у які-небудзь замак, дзе яна рабілася чарговай наложніцай князя.

А потым на замак ішоў вайною другі князь і забіваў гаспадара, і Хама вярталася ў сваю келлю.

Былі і незвычайныя сустрэчы.

Аднойчы ў келлю прыйшоў чалавек, які таксама, як і Хама, прыняў манаства і насіў чорную расу і саламяны капялюш. Яны сядзелі на галерэі, і свет быў сярэбраны ад месяца і звонкі ад спеваў цыкад.

І гутарка ў іх была поўная і чароўная, як круглявы месяц, які каціўся па небе. Манах, надзіва дасведчаны ў майстэрстве вершаскладання, гаварыў павольна і спакойна, але ў яго голасе і ў позірку заўважалася нешта, што прымушала думаць, быццам пеpажыў ён глыбокае ўзрушэнне і ўбачыў на свае вочы зменлівасць свету. Сапраўды, чалавечы лёс не больш чым воля рукі гасподняй!

І Хама адчула каханне да мужчыны — гэта здаралася з ёю рэдка, вельмі рэдка,— і пры расставанні папрасіла што-небудзь на памяць. Ён сумна ўсміхнуўся, сказаў: «Ну што ж...» і напісаў на памінальнай таблічцы вершы ў стылі «дзеку», а пад імі дату і сваё імя.

— Прашу цябе, нікому не паказвай,— сказаў ён, і яны рассталіся. Прайшло многа-многа гадоў. На свеце настаў мір. І так было ціха і спакойна навокал, што ў вёсцы ля падножжа гары сярод заможных сялян завялося нямала аматараў чайнай цырымоніі і нават паэзіі. Адзін такі аматар часта падымаўся на гару і прыходзіў у келлю Хамы на чайную цырымонію. Можа, пустэльніца абуджала ў ім невыразную цікаўнасць, а можа, ён і праўда глыбока паважаў

яе хатні алтар — хто ведае, але толькі аднойчы гэты чалавек, асцярожна перабіраючы Хаміны рэліквіі, выпадкова знайшоў таблічку з вершамі невядомага манаха. Ён уважліва прачытаў і перачытаў вершы і здзіўлена ўсклікнуў:

— Не можа быць! Подпіс без сумнення належыць Акэці Міцухіда! Без сумнення... Паважаная пустэльніца, прашу вас, скажыце, як апынулася тут гэтая таблічка? Але дзіўна... Дата... на тры гады пазней, як Міцухіда загінуў у Хонадзі... Што? Вандроўны манах напісаў?.. Ха-ха-ха! Ну і спрытнюга! Ашукаў вас, пані пустэльніца, гэты багамолец Буды!

Ёй было ўсё роўна, ці наведаў яе келлю Акэці Міцухіда, ці вандроўны манах, які паставіў яго подпіс, ці яшчэ нехта. Якое гэта мела значэнне? Хіба не было той дзіўнай ночы і дзвюх душ, якія зліліся разам у сярэбраным і звонкім свеце, дзе ўладарылі месяц, цыкады і духмяныя начныя травы?..

А потым... Што ж было потым?.. Ды шмат рознага.

Быў багацей з Эда, вялікі аматар жаночага цела, які пратаптаў сцяжынку да яе келлі. Доўга ён угаворваў Хаму ўступіць яго страсці і нарэшце ўсё ж такі звёз яе ў Эда і падарыў ёй дом.

Быў цясляр, прастадушны чалавек. Пажылі яны з ім сям'ёю як мае быць.

Але мужчыны рана ці позна памiралі. І кожны раз, адслужыўшы хаўтуры, Хама вярталася ў сваю келлю.

Ішлі гады. Змяняліся эпохі. Змянялася жыццё. Толькі адна Хама заставалася ранейшай.

— Пані...— ад саду да галерэі падышоў слуга.— Дыліжанс каля варот.

— Зараз іду...

Хама схавала ў маленькі скрутак памятныя запісы — маёмасць, з якой яна некалі прыйшла ў гэты дом і з якой цяпер адыходзіла, яшчэ раз, набожна склаўшы рукі, пакланілася таблічцы з імем нябожчыка і ўстала.

Гэты апошні яе муж быў вельмі багаты. Ён атрымаў у спадчыну ад бацькі цэлую флатылію, якая хадзіла ў кабатажнае плаванне, а з надыходам эпохі Мейдзі яшчэ больш разбагацеў на гандлі рысам. Хама спадабалася яму. Згвалціўшы яе, ён прымусіў яе пераехаць у Токіо, а калі ў яе адраслі валасы, зрабіў пустэльніцу сваёй афіцыйнай палюбоўніцай і падарыў асабняк.

У гэтага багацея было яшчэ шэсць палюбоўніц, і ў кожнай — свой асабняк. Законная жонка жыла ў раскошным доме, які называўся палацам, дзень і ноч аплакваючы здрадніка-мужа. Так яна і памерла — у слязах і ў раскошы. Дзве яго ўтрыманкі, прыхапіўшы каштоўнасці, збеглі з маладымі хлопцамі, і тады ён афіцыйна ажаніўся з Хамай. Вяселле, праўда, было сціплае, ніякіх гасцей не запрашалі.

Яго дачка ад першага шлюбу атрымала ў спадчыну бацькаву ліхую кроў — і аднойчы збегла з рыкшам і з таго часу пайшла па благой дарозе. Сын бадзяўся па прытонах і ўрэшце, згаварыўшыся з некалькімі гулякамі і гульцамі, якія праматалі ўсё, скончыў самагубствам. Аднак памёр толькі ён, тыя выжылі. Хамін муж і сам дрэнна скончыў: за хабар чыноўнікам сеў у турму, праз тры гады вярнуўся дадому паралізаваны, у каросце. За гэты час усё яго багацце сплыло, захаваўся толькі асабняк, які некалі называўся палацам, а цяпер ператварыўся ў сапраўдны дом з прывідамі.

З чэлядзі засталіся толькі двое — слуга і служанка. Хама самаахвярна даглядала агіднага старога — таксама, як і ўсіх.

## 4

— Значыць, так...— сказаў начальнік будаўніцтва, які толькі што вярнуўся з сталіцы.— Давядзецца тужыцца і закончыць усе работы на два тыдні раней тэрміну. Я атрымаў ад міністра добры наганяй. Уся справа ў іншаземцах. Дэлегацыя пажадала прыехаць раней, чым было дамоўлена, і неадкладна агледзець будоўлю.

— Нічога не атрымаецца,— галоўны інжынер пацiснуў плячамі.

— Павінна атрымацца. Нам даюць дадаткова некалькі дзесяткаў звышмагутных экскаватараў і атамных лапат,— начальнік зірнуў на наручны гадзіннік.— Па-мойму, міністр гарыць жаданнем устанавіць новы рэкорд у шасэйным будаўніцтве. Напэўна, у гэту самую хвіліну ў аэрапорце ўжо прызямляюцца транспартнікі-цыклопы. А ўжо адтуль абсталяванне нам як бачыш даставяць. На верталётах «Самсон».

— Дарэмна. Спешка тут не дапаможа,— запярэчыў адзін майстар.— Пракапаць тунель не жарт. Праходчыкі ідуць з двух бакоў, насустрач адзін аднаму, але ўсё роўна менш чым у дзесяць дзён не ўкладуцца. Гара, а не які-не-

будзь узгарачак. Ды дні чатыры на абліцоўку, бетанаванне, мантаж электроннага абсталявання.

— А мы не будзем капаць!— начальнік акінуў прысутных пераможным позіркам.— У праект унесены істотныя папраўкі. Не марнаваць жа столькі часу на тунель! Дык вось, тунеля не будзе! Мы ўзарвём гару!

— Што? Узрыў?.. Дык гэта ж...— галоўны інжынер пачаў быў гаварыць, але спалохана змоўк.

На роўным, як стол, полі недалёка ад будаўніцтва сеў верталёт. З яго гарохам пасыпаліся ўзброеныя салдаты.

— Вось якраз...— сказаў начальнік будаўніцтва, кісла жмурачыся ад яркага сонца і нясцерпнага металічнага бляску верталёта.— Узрыў... Гэта...— ён махнуў рукой.— Усё зробяць за нас. Вадародная бомба, бамбакрошка... Тэхніка на мяжы фантастыкі — пякельная машына для патрэб будаўніцтва. Гара знікне як дым... Радыяцыі не будзе, а калі нават і будзе, справу завершаць не людзі, а будаўнічыя аўтаматы.

Галоўны інжынер мімаволі зірнуў на гару. Прыгожая гара, цудоўная, дзіўная. Царыца сярод іншых гор. Уся пакрытая рэліктавымі соснамі. Ахоўвалася да гэтага часу як помнік культуры. І вёска каля яе падножжа — таксама помнік. Вёска, якая захавалася з старажытных часоў... У гэтую гару цяпер упіралася стужка скараснай шасэйнай дарогі. Зручная дарога. Шырыня сто метраў...

Блакітная стужка цягнулася здалёк. Ад аэрапорта далёка на поўдні, перасякаючы раўчукі і рэкі... А па ёй з мінімальнай хуткасцю трыста кіламетраў паімчацца аўтамабілі з электроннымі аўтавадзіцелямі...

Каля падножжа гары, парослай векавымі лясамі, цяпер варушыліся цыклапічныя экскаватары, узвышаліся вежавыя краны. І ўся гэтая машынерыя скрыгатала, хрыпела і раніла цішыню бяздушнымі механічнымі галасамі.

І раптам завыла сірэна. Як блізкая зарніца, сіняву неба прачарціў чырвоны сцяг. І тут жа машыны пачалі адступленне — адыход ад пазіцый, якія нядаўна заваявалі. Машыны саступалі месца другім, яшчэ больш магутным і дасканалым. Грукат выбухаў змоўк. У наступ пайшлі салдаты-мурашкі, адзетыя ў уніформу колеру хакі. А наперадзе арміі павольна рухаўся цягач, увенчаны ярка-чырвоным, як свежая кроў, цыліндрам. Ён поўз проста да дзіркі нядаўна пракапанага тунеля.

— Увага! Увага!— загаварыў гучнагаварыцель на цягачы.— Камандзір асобай ударнай групы просіць пацвердзіць, што вакол гары нікога не засталося...

— Навакол нікога няма,— адказаў начальнік будаўніцтва ў мікрафон.— Мясцовыя жыхары эвакуіраваны яшчэ да пачатку будаўнічых работ.

— Пан начальнік!— усклікнуў раптам адзін малады інжынер. У хлопца ліхаманкава блішчалі вочы. З-за спіны выглядвала некалькі сялян, усе — вельмі старыя.— Людзі гавораць, што не ўсе эвакуіраваліся!

— Што? Як гэта не ўсе?— начальнік пабялеў.

— Адзін чалавек застаўся... Жанчына... Яна сказала, што тунель яе не цікавіць. Ну... ніякай ёй справы няма да тунеля... Яна жыве тут. Даўно ўжо. Цяпер перабралася яшчэ вышэй, амаль на самую вяршыню гары. Пра яе ніхто і не ведаў. Вось толькі гэтыя старыя помнілі, што жыве тут, на гары жанчына. Яны спрабавалі ўгаварыць яе перабрацца куды-небудзь, ды яна заўпарцілася...

— Яна што, вар'ятка? — начальнік будаўніцтва прыцмокнуў языком і націснуў на кнопку сігналу трывогі.

— Не ведаю... Мажа, і вар'ятка. Але кажуць, маладая, прыгожая... Манахіня... здаецца...

— Так, так...— начальнік нахмурыўся.— Манахіня, маладая... Ударны атрад!— крыкнуў ён у мікрафон.— Увага! Прашу пачакаць, пакуль я не знайду гэтую жанчыну... Што? Ага, вядома... Сапёры кажуць, што могуць чакаць не болей дзвюх гадзін, інакш уся будоўля выйдзе з графіка.

У галаве маладога інжынера маланкай бліснулі схемы і планы, дыяграмы, графікі. ЭВМ распрацавала ў далёкай сталіцы графік будоўлі дакладна і падрабязна, як дыспетчар — расклад руху цягнікоў...

...Цік-так... цік-так... Гадзіннік цікаў. Хранометр адлічваў секунды і долі секунды. Незлічоныя шасцерні круціліся і цягнулі бясконцую стужку блакітнай дарогі — далей, далей, у нетры гары. З поўдня на поўнач. Ад цывілізаваных раёнаў — у глуш, у глухамань. Кіламетр за кіламетрам, крок за крокам. А цяпер стары графік ушчыльнены да мяжы. Старыя метады паляцелі к чорту. Тэрмін перасунуўся, праглынуўшы два тыдні. Шасцерні круціліся з вар'яцкай хуткасцю...

У начальніка пачырванеў твар. Гэта не жарты, чалавечае жыццё! Праклятая ўпартая баба! Будзь яна хоць тройчы манахіня, усё роўна ўзляціць на паветра разам з сваёй гарой, калі спрацуе вадародная бомба — перайначаная на новы лад пякельная машына старажытнасці...

— Усім верталётам — узлёт!— хрыпеў начальнік.— Знайдзіце яе! Звярніцеся да яе па радыё! Гучнагаварыцелі, гук! Рабочыя і служачыя, якія не прымаюць непасрэднага

ўдзелу ва ўзрыўных работах, неадкладна ў гару! Мабілізаваць усе ўсюдыходы... Часу ў абрэз. За трыццаць хвілін да выбуху прагучыць сірэна, і тады ўсім адразу ж эвакуіравацца!..

Людзі кінуліся да ўсюдыходаў. Завылі маторы. Маленькія, вёрткія машыны з крайняй хуткасцю памчаліся па горных схілах.

А над гарою бязвоблачнае блакітнае неба. І ў ім віселі верталёты — сучасныя серабрыстыя стракозы з дзюралю. І голас іх гучнагаварыцеляў быў пранізлівы і трывожны, зусім не такі, як шалясценне празрыстых крылаў сапраўдных стракоз.

Паўтары гадзіны прайшлі. Яны былі бясконца доўгія і вокамгненныя, як уздых. Таму што трывога расцягвае час да бясконцасці і сціскае стагоддзі да секунды.

Завыла сірэна. Апошняя перад выбухам. Магчыма, гэтая злавесная птушка смерці — стары груган — крычала і плакала, прадракаючы бяду?..

Пошукавы атрад вярнуўся. Без вынікаў.

Начальнік, чырвоны, як вараны краб, расшпіліў каўнер кашулі.

— Можа, яна сама эвакуіравалася?.. Не чакаючы паўторнага запрашэння?.. Спадзяюся, ніхто з пасланых не застаўся на гары?

— Адзін...— сказаў нехта.— Але ён таксама вяртаецца...

З гары спускаўся інжынер. Нібы падганяючы яго, яшчэ раз заплакала сірэна. Звярынае выццё лягло непасільным грузам на чалавечыя плечы — пятнаццаць хвілін да выбуху. І яшчэ адзін крык — дзесяць хвілін да выбуху.

— Эге-ге!— крыкнуў начальнік.— Спяшайся! Давай хутчэй у сховішча!— потым ён угледзеўся ў твар маладога інжынера.— Што з табою?

Той плакаў.

— Ты бачыў яе? Знайшоў?— Начальнік схапіў яго за руку.— Кажы!

Малады інжынер апусціўся на падлогу. Халодны бетон. Шэрыя сцены сховішча. І слёзы на запаленых чырвоных вачах.

— Я знайшоў яе,— сказаў ён.

— Ну і?.. Чаму ты не прывёў яе?— спазма сціснула горла начальніку.— Яна ж цяпер не паспее! Ды як жа мы?! Знайсці чалавека і не вывезці?! Ты адкажаш за гэта!

Інжынер пакруціў галавой.

— Не атрымалася, нічога не атрымалася... Гара загіне, і яна разам з ёй...

— Эх, вы!.. Моладзь зялёная!— адзін майстар са злосцю плюнуў.— Не маглі ўгаварыць... Сілаю прывялі б. Па мордзе надавалі б, ці што, але прывялі... Людзі што скажуць...

Інжынер апусціў галаву.

— Яна... Я знайшоў яе амаль на вяршыні... У келлі. Маленькая-маленькая келля. З бамбукавых жэрдак... А вакол — лес. І кветкі ў агародчыку. Дзівосныя, такіх і няма больш на свеце... І проста ў келлі, з падлогі, б'е крыніца. Яна пачаставала мяне чаем. Пустэльніца, дачка гары, з тварам прыгожым і маладым, як кветка сакуры... Колькі ёй гадоў... Можа, дваццаць, а можа, трыццаць, але ўжо ніяк не болей... Яна сядзела каля маленькага століка для сутраў. Мы пілі чай...

— Які дурань!— прастагнаў начальнік.— Падумаць толькі — яны пілі чай! І гэта ў такі час!.. Мы тут павар'яцелі, а ён...

— Яна вельмі доўга жыла,— працягваў інжынер, не звяртаючы аніякай увагі на начальніка.— Вы чулі калі-небудзь легенду пра Хапяку-бікуні, пустэльніцу, якая пражыла восемсот гадоў на свеце. Вельмі старая легенда. Яна нарадзілася на поўначы Японіі... Маладая дзяўчына з'ела рыбу, але гэта была не рыба, а русалка. І русалка падарыла ёй сваю вечную маладосць. І яна назаўсёды засталася маладой і стала пустэльніцай.

— Ты што — звар'яцеў?— майстар паглядзеў на маладога інжынера з адкрытай насмешкай.— Ці не хочаш ты сказаць, што гэтая ненармальная і ёсць сястрыца Хапяку-бікуні? Трэба ж, вучоны, а верыць у падобнае глупства! Ды калі Хапяку і жыла калі-небудзь на свеце, то ўжо даўным-даўно памерла...

— Вы нелагічныя!— раздражнёна запярэчыў інжынер.— І калі не верыце ў Хапяку-бікуні, як жа вы можаце гаварыць, што яна памерла?.. Гэтая пустэльніца незвычайная жанчына. Яна расказвала мне пра падзеі пяцісотгадовай даўнасці так, быццам гэта было толькі ўчора. І намякнула, што яна і ёсць Хапяку-бікуні. Не верыце? А чаму? Хіба няма людзей, што вельмі доўга жывуць на свеце? Колькі хочаце прыкладаў, і не толькі ў Японіі, але і ва ўсім свеце. Якая, па сутнасці, розніца — сто гадоў пражыць ці восемсот...

— Добра, дапусцім, усё так і ёсць,— сказаў нехта.— Але калі яна пражыла так доўга, чаму б ёй яшчэ не пажыць? А цяпер, выходзіць, яна вырашыла памерці.

— Чаму?— малады інжынер на хвілінку змоўк. У яго

апусціліся плечы.— Яна сказала чаму. Праўда, жыла яна доўга, і жыццё не было ёй цяжкае. Калі б ёй надакучыла, яна магла б у любы час пакончыць з сабою. Але... Бікуні сказала: «Жыццё маё было цяжкае, але не было цяжарам. Людзі знікалі. Усе мае мужчыны паміралі адзін за адным. Свет мяняўся. Але свет дагэтуль захоўваў мудрасць. А яшчэ яна сказала, што цяпер сама стала часткаю мінулага, бо не засталося на свеце нічога нязменнага і прырода памірае і не хоча больш клапаціцца пра сваіх сяброў. Навошта жыць, калі памяць вяне, як кветка восенню, і жывая плоць робіцца легендай?

— Так...—начальнік глыбакадумна хмыкнуў.— А час ідзе.

Малады інжынер уздрыгнуў і ўзняў галаву.

— Скажыце мне, хіба няма на свеце нічога такога прыгожага, што трэба было б захаваць? Ці так ужо патрэбна нам гэтая дарога? Што яна такое — бяздушная даніна часу звышхуткасных аўтамабіляў, уступка пасажырам, якія марацца імгненна перанесціся з аднаго пункта ў другі... Заплюшчыш вочы — і няма поўдня, ты на поўначы... А далей што? Моднае ж старэе. Пройдзе дзесятак гадоў, і гэтая дзіўная дарога, цуд сучаснай тэхнікі, стане вельмі старой бабулькай. На яе ніхто і глянуць не захоча... Хіба нельга правесці дарогу ў абход гары?.. Горы ж гэта плоць прыроды, адна з яе частак, прыгожых і велічных. Нашы прадзеды любілі гэтую гару і прапрадзеды, прапрадзеды іх прапрадзедаў... Дык навошта ж, навошта? Што гэта — вартыя жалю ўступкі ЭВМ? Даніна прымітыўнай геаметрыі, якая не выносіць хвалістай лініі?..

Грымнуў выбух, і столь сховішча свінцовай хмарай навісла над людзьмі. Нехта войкнуў. Шэры вецер прайшоў над галовамі, быццам мора ўсхвалявалася недзе, быццам з чорнай бездані ўзняўся ўраган і заплакаў над чалавечым лёсам.

Гара разбухла, на імгненне павялічылася ў два разы і абвалілася ў бяздонне барвовага кіпячага катла.

І ў клубах дыму мільгануў марскі бераг, і калючы, узняты на дыбкі бурай, пясок, і край чорнага кімано, які мог паспрачацца сваёй чарнатой з горам навакольнага свету, і кончык белай хусткі, белай, як сон і забыццё. І пяшчотныя пялёсткі ружы, якая не вяне нават у непагадзь, мільганулі ў іх. Ці ружа была гэта ці раптоўны блік святла на шчацэ маладой дзяўчыны — хто ведае?..

А экскаватары ўжо ўгрызаліся ў мёртвае цела зямлі, і вежавыя краны ўзнімалі над ім свае халодныя сталёвыя іклы.

# СТАНІСЛАЎ ЛЕМ

# ЗДАРЭННЕ

Анэль не вярнуўся а чацвёртай, але ніхто таго нібыта і не заўважыў. Каля пяці пачаў церушыцца змрок, і Піркс, не так заклапочаны, як здзіўлены, хацеў спытаць у Круля, што гэта можа азначаць. Аднак устрымаўся — ён не быў кіраўніком групы, і такое пытанне, хоць і справядлівае і цалкам бяскрыўднае, магло выклікаць сапраўды ланцуговую рэакцыю ўзаемных папрокаў. Ён добра ведаў падобныя сітуацыі, бо паўтаралася гэта не раз, асабліва калі калектыў быў такі вось выпадковы, як гэты. Тры чалавекі зусім розных прафесій — у самым сэрцы гор на нікому не патрэбнай планеце выконвалі заданне, якое, бадай, усе, як і ён сам, лічылі бязглуздым. Іх прывезлі сюды на малым старым гравістаце, які мусіў тут і застацца, бо варты быў ужо толькі на злом; разам даставілі і разборны алюмініевы барак, крышку прыбораў і радыёстанцыю, настолькі зношаную, што больш было з ёй клопату, чым карысці. За сем тыдняў яны павінны былі зрабіць «агульную рэкагнасцыроўку», нібы гэта было мажліва. Піркс не стаў бы гэтым займацца, разумеючы, што справа ідзе толькі пра павелічэнне радыуса даследаванняў разведвальнай групы ды яшчэ пра адну лічбу ў рапартах, якімі нашпігоўвалі інфармацыйныя машыны на Базе, што магло мець нейкае значэнне хіба што пры дзяльбе сродкаў, людзей і магутнасцей на наступны год. Вось дзеля таго, каб на стужках памяці з'явілася гэта разбітая на дзірачкі лічба, яны сядзелі амаль пяцьдзесят дзён у пустынным месцы, якое пры іншых абставінах, мажліва, і было б зваблівым, хоць бы як мясцовасць, прыдатная пад альпінізм. Аднак альпінісцкія раскошы былі сурова забаронены, і самае большае, што мог дазволіць сабе Піркс, гэта падчас сейсмічных і трыянгуляцыйных замераў маляваць у сваім уяўленні першыя трасы альпіністаў.

Планета не мела нават сваёй назвы, акрамя як Ёта дроб 116, дроб 47 Праксімы Вадалея. З усіх тых, якія Піркс калі-небудзь бачыў, яна была найбольш падобная на Зямлю: з малым, жоўтым сонцам, салёным акіянам, бурачкова-зялёным ад працавітых водарасцяў, што насычалі атмасферу кіслародам, і вялікім, трохлапым кантынентам, пакрытым першабытнай расліннасцю. Планета была б прыдатная пад каланізацыю, калі б не тая акалічнасць, што сонца яе было тыпу новаадкрытай разнавіднасці УП, няўстойлівае, з нераўнамерным выпраменьваннем, а паколькі астрафізікі наклалі сваё вета, то хоць чарговая ўспышка на Новай магла адбыцца толькі праз сто мільёнаў гадоў, розныя планы асваення гэтай зямлі запаветнай даводзілася закрэсліць.

Піркс часам шкадаваў, што дазволіў сябе ўгаварыць на гэту экспедыцыю, але не было тое шкадаванне цалкам шчырае. Так альбо інакш, а ён мусіў бы тырчаць на Базе тры месяцы, бо трапіць у Сонечную сістэму раней было немагчыма; ён меў перспектыву адседжвацца ў кліматызаваных падземных садах Базы і да дурноты ў галаве глядзець тэлеперадачы (былі гэтыя забавы дзесяцігадовай даўніны), таму ён ахвотна згадзіўся на прапанову начальніка, які рады быў, што можа ўслужыць Крулю — не было ніводнага свабоднага чалавека, а інструкцыя забараняе пасылаць у экспедыцыю толькі дваіх. Такім чынам Піркс зваліўся касмографу нібы з неба. Зрэшты, Круль не выявіў захаплення ні адразу, ні пазней; спачатку Піркс думаў нават, што той ацэньвае яго ўчынак як «вялікапанскі капрыз», калі ён з камандзіра карабля згадзіўся стаць звычайным разведчыкам; падобна было, што Круль адчуваў затоеную крыўду. Але гэта не была крыўда, проста Круль, адмераўшы ўжо палову жыцця (яму пераваліла за сорак), стаў зласлівы, нібы яго нічым іншым, акрамя палыну, ніколі не кармілі. А паколькі ў такім ізаляваным ад свету калектыве нічога нельга схаваць і людзі з усімі сваімі заганамі і вартасцямі робяцца адразу празрыстымі, як шкло, Піркс хутка зразумеў, адкуль бралася тая задзірыстасць у характары Круля, увогуле вытрыманага, нават цвёрдага чалавека, бо ён меў ужо звыш дзесяці гадоў пазазямной службы. Проста Круль стаў не тым, кім хацеў, а тым, кім мусіў стаць, бо для выпеставанай у марах работы не падыходзіў. А ў тым, што калісьці ён хацеў быць не касмографам, а інтэлектронікам, Піркс пераканаўся пазней, назіраючы, якім катэгарычным станавіўся Круль у размовах з Масенам, як толькі гаворка заходзіла пра інтэлектрон-

ныя тэмы («інтэлектральныя»— казаў Круль у адпаведнасці з прафесійным жаргонам).

Масену не хапала, на жаль, паблажлівасці, а мажліва, проста матывы Круля яго зусім не цікавілі, ва ўсякім разе, калі той настойваў часам на нейкім памылковым рашэнні, Масена не абмяжоўваўся толькі пярэчаннем, а з алоўкам у руцэ раскладваў Круля на лапаткі з дапамогай бездакорных матэматычных разлікаў і дабіваў Круля з такім задавальненнем, нібы стараўся даказаць не сваю праўду, а тое, што Круль — самаўпэўнены асёл. Але гэта было не так. Круль быў не самаўпэўнены, а толькі занадта ўражлівы, як і кожны, хто мае больш амбіцый, чым здольнасцей.

Піркс, які быў міжвольным сведкам такой размовы — зрэшты, цяжка было ім не быць, бо яны ўтрох жылі на сарака квадратных метрах, а гукаізаляцыя перагародак была чыстай фікцыяй,— ведаў, чым гэта скончыцца. І сапраўды: Круль, які не смеў паказаць Масене, як моцна падзейнічала на яго паражэнне, усю сваю непрыязнасць перанёс на Піркса, зрэшты, у даволі своеасаблівай форме. Круль перастаў размаўляць з Пірксам, акрамя выпадкаў, калі гэта было неабходна.

Толькі адзін Масена застаўся пасля гэтага блізкі яму — бо і сапраўды з гэтым чорнавалосым і светлавокім халерыкам можна было пасябраваць — але Пірксу заўсёды было нялёгка з халерыкамі, бо глыбока ў душы ён не надта ім давяраў. З Масенам вечна штосьці здаралася: ён патрабаваў заглядваць сабе ў горла, заяўляў, што будзе змена надвор'я, бо ў яго косці ломіць (ніякіх змен не адбывалася, але ён працягваў іх прадказваць), даводзіў, што мучыцца ад бяссонніцы і штовечар дэманстратыўна шукаў таблеткі, якіх, бадай, ніколі не глытаў — проста клаў іх на ўсякі выпадак побач з ложкам, а раніцай кляўся Пірксу, які вельмі позна чытаў і добра чуў яго храпенне, што нават вока не заплюшчыў (у што, здаецца, і сам свята верыў). Калі не браць гэтага пад увагу, то быў ён выдатны спецыяліст і бліскучы матэматык, меў талент арганізатара, яму даручалі бягучае праграмаванне аўтаматычнай, а больш дакладна, бязлюднай разведкі. Адну такую праграму ён прыхапіў з сабой для распрацоўкі ў «вольную часіну», а Круль пакутаваў, бо Масена выконваў тое, што яму даводзілася, вельмі хутка і якасна, так што ў яго і сапраўды заставалася шмат вольнага часу, а таму не было падстаў для абвінавачвання, нібыта ён не выконвае як след сваіх абавязкаў. Масена падыходзіў ім яшчэ і таму, што — як гэта ні парадаксальна — у іх планеталагічнай мікраэкспе-

дыцыі не было ніводнага сапраўднага планетолага, бо і Круль таксама ім не з'яўляўся. Дзіўна ўсё ж, як няўдала могуць скласціся адносіны трох нармальных, звычайных людзей у такой скалістай пустыні, якой было Паўднёвае плато Ёты Вадалея. І нават без спецыяльных намаганняў з чыйго-небудзь боку.

Была ў гэтым калектыве яшчэ адна асоба, хоць і не чалавек — ужо названы вышэй Анэль, або Аўтамат Нелінейны, адна з найноўшых мадэляў, якія выпускаліся на Зямлі для даследаванняў з высокай ступенню самастойнасці. Масена быў з імі — у якасці кібернетыка — выключна як даніна старой традыцыі, бо рэгламент патрабаваў, каб там, дзе ёсць аўтамат, абавязкова быў яшчэ нехта, хто мог бы ў выпадку неабходнасці яго адрамантаваць. Рэгламенту было ўжо добры дзесятак гадоў — як вядома, інструкцыі мяняюцца не так часта,— але Анэль, як не раз казаў сам Масена, мог бы пры патрэбе адрамантаваць нават яго самога. І не толькі таму, што быў абсалютна безадмоўны, але і таму, што меў самыя неабходныя медыцынскія веды. Піркс ужо даўно заўважыў, што часта чалавека лепш зразумець па яго адносінах да робатаў, чым да іншых людзей. Яго пакаленне жыло ў свеце, неад'емную частку якога складалі не толькі касмічныя караблі, але і аўтаматы, аднак сфера аўтаматыкі была пазначана нейкім асаблівым адценнем ірацыяналізму. Некаторым лягчэй было палюбіць звычайную машыну, скажам, уласны аўтамабіль, чым машыну разумную, якая думае. Перыяд шырокага эксперыментавання канструктараў ужо набліжаўся да свайго фінішу — прынамсі, здавалася, што гэта так. Ствараліся аўтаматы толькі двух тыпаў: вузка спецыяльныя і універсальныя. Толькі невялікай групе універсальных надавалі формы, падобныя на цела чалавека, і то толькі таму, што з усіх апрабаваных канструкцый запазычаная ў прыроды аказалася найбольш бездакорнай у цяжкіх умовах планетнай бездаражы.

Інжынеры былі не ў вялікім захапленні, калі іх дзіця пачало праяўляць такую самастойнасць, якая міжволі наводзіла на думку пра духоўнае жыццё. У прынцыпе лічылася, што аўтаматы мысляць, але «не маюць індывідуальнасці». Сапраўды, ніхто не чуў пра аўтамат, які гневаўся б, натхняўся, смяяўся альбо плакаў; усе яны былі надзвычай ураўнаважаныя, як гэтага хацелі канструктары. Аднак паколькі іх мазгі стваралі не на мантажным канвееры, а ў працэсе паступовага вырошчвання монакрышталёў, дзе мае месца статыстычны роскід, які не паддаецца кіраван-

ню, то нават мікраскапічныя зрухі малекул выклікалі такія выніковыя адхіленні, што практычна не існавала двух зусім аднолькавых аўтаматаў. І ўсё ж, значыць, індывідуальнасці? Не, адказваў кібернетык, вынік імавернага працэсу; гэтак думаў сабе Піркс, як і кожны, хто меў да іх дачыненне, хто цэлымі гадамі мог адчуваць побач з сабой іх маўклівую, заўсёды мэтанакіраваную, заўсёды лагічную дзейнасць. Вядома, усе яны былі падобныя адзін на аднаго больш, чым людзі, але ж і яны мелі свой нораў, свае схільнасці, а былі і такія, што пры выкананні загадаў арганізоўвалі нешта накшталт «маўклівага супраціўлення»— прызнак, які, калі ён працягваўся доўга, заканчваўся капітальным рамонтам.

У Піркса, ды, напэўна, не толькі ў яго, у дачыненні да гэтых своеасаблівых машын, якія так дакладна і часам надзвычай творча выконвалі заданні, было не зусім чыстае сумленне. Пачалося гэта мо яшчэ тады, калі ён камандаваў «Карыяланам»; дастаткова сказаць, што тую сітуацыю, калі чалавек стварыў орган, які мысліць, па-за сваім целам і зрабіў яго залежным ад сябе, Піркс лічыў не зусім нармальнай. Вядома, ён не мог бы сказаць, адкуль бярэцца гэты ледзь улоўны неспакой, нейкае адчуванне няспраўджанага абавязку, невыразная думка пра тое, што рашэнне прынята памылковае, ці проста, груба кажучы, адбылося свінства. Было нейкае вытанчанае вераломства ў тым халодным спакоі, з якім чалавек запіхваў здабытыя пра сябе самога веды ў бяздушныя машыны, пільнуючы, каб у іх было адушаўлёнасці не больш, чым патрэбна, каб яны не сталі канкурэнтамі свайму стваральніку ў пазнанні шчодрасцей свету. Максіма Гётэ: «in der Beschränkung zeigt sich erst der Mensch» (толькі ў абмежаванні выяўляецца майстар) у стасунку да мудрых канструктараў набывала нечаканы сэнс пахвалы, якая пераходзіла ў з'едлівы дакор, бо не сябе ж вырашылі яны абмежаваць, а справу рук сваіх, і то з жорсткай дакладнасцю. Зразумела, што Піркс ніколі не адважваўся выказаць гэту думку ўголас, бо добра разумеў, як смешна яна прагучала б; аўтаматы не былі абяздоленымі, не былі яны аб'ектам і нястрымнай эксплуатацыі, усё было прасцей і адначасова горш: з маральнага пункту гледжання складаней для крытыкі, іх магчымасці абмежавалі яшчэ раней, чым яны з'явіліся,— на чарцёжных лістах.

У той перадапошні дзень іх побыту на планеце праца была ўжо, уласна кажучы, скончана. Аднак, калі пачалі пералічваць стужкі, на якіх былі засведчаны вынікі экспе-

дыцыі, аказалася, што адной не хапае. Перш за ўсё праверылі машынную памяць, пасляператрэслі ўсе схованкі і скрынкі, пры гэтым Круль двойчы раіў Пірксу, каб ён лепей пераглядзеў уласныя рэчы, што падобна было на зласлівасць, бо Піркс увогуле не меў ніякага дачынення да зніклай стужкі, ды і не хаваў бы ён яе ў чамадане. У Піркса аж язык свярбеў — так яму хацелася даць здачы, тым больш што дагэтуль ён звычайна адмоўчваўся і стараўся знаходзіць любыя апраўданні задзірлівым, нават зневажальным паводзінам Круля. Але і на гэты раз ён стрымаўся і замест вострага слоўка зазначыў, што калі трэба паўтарыць назіранні, то ён ахвотна зробіць гэта сам, узяўшы за памочніка Анэля.

Аднак Круль вырашыў, што дапамога Піркса Анэлю не будзе патрэбна, таму наўючылі яны на робата апарат, касеты з фотаплёнкай і, склаўшы ў кабуры пояса рэактыўныя патроны, паслалі Анэля да вяршыні горнага масіву.

Робат выйшаў а восьмай раніцы — Масена голасна выказаў упэўненасць, што ён справіцца са сваімі справамі да абеду. Аднак мінула другая, трэцяя, пасля чацвёртая гадзіна, нарэшце апусціўся змрок, але Анэль не вяртаўся.

Піркс сядзеў у кутку барака пад насценнай кадміевай лямпай і чытаў надта растрапаную старую кніжку, якую пазычыў яшчэ на Базе ў нейкага пілота, але сэнс яе, бадай, да яго не даходзіў. Сядзець было не надта зручна. Рыфлёная алюмініевая сценка ціснула на плечы, з падушкі-надзіманкі ўцякло ўсё паветра, і ён адчуваў, як у ягадзіцы ўпіваюцца праз прагумаваную тканіну вострыя гайкі канструкцыі. Нягледзячы на гэта, ён не мяняў пазіцыі, паколькі нязручная поза дзіўным чынам гарманіравала з набіраючай моц злосцю. Ні Круль, ні Масена дагэтуль нібы не заўважалі адсутнасці Анэля. Круль, які ўвогуле не быў жартаўніком і нават не спрабаваў жартаваць, невядома чаму з самага пачатку называў робата Анёлам або нават Жалезным Анёлам, інакш да яго і не звяртаўся, і такая па сутнасці дробязь ужо колькі разоў раздражняла Піркса, што за адно гэта ён знелюбіў касмографа. Масена меў да робата адносіны прафесійныя: усе інтэлектронікі ведаюць, а дакладней, робяць выгляд, што ведаюць, якія малекулярныя працэсы і токі выклікаюць тыя ці іншыя рэакцыі або адказы аўтамата, і таму адмаўляюць любыя меркаванні пра якую-небудзь разумнасць іх як абсалютнае глупства. Тым не менш да Анэля ён адносіўся гэтак жа, як добры механік да свайго дызеля: не дазваляў перагружаць, любіў за выканальнасць і клапаціўся пра яго як мог.

А шостай гадзіне цярпенне ў Піркса лопнула, бо ў яго здранцвела нага, і ён пачаў пацягвацца так, што аж косці затрашчалі, кратаў ступнёй і згінаў нагу ў калене, каб паскорыць кровазварот, а пасля стаў хадзіць з кута ў кут барака, добра ведаючы, што нічым больш не здолее дапячы Крулю, які заглыбіўся ў праверку падлікаў.

— Маглі б ужо і цішэй!— сказаў нарэшце Круль, звяртаючыся да іх абодвух, нібы не бачыў, што ходзіць адзін Піркс, а Масена са слухаўкамі на вушах уважліва слухае нейкую перадачу, разваліўшыся на пнеўматычным крэсле, выраз твару ў яго быў смешны, задуменны. Піркс адчыніў дзверы, якія рвануў моцны заходні вецер, і калі вочы трохі прывыклі да цемры, прыхінуўся плячыма да сцяны з ліставога алюмінію, якая дрыжала ад моцнага ветру, і пачаў углядацца ў той бок, адкуль павінен быў з'явіцца Анэль. Ён бачыў толькі рэдкія зоркі, дрыготкія ў паветры, парывы ветру халоднымі хвалямі студзілі яго галаву, блыталі валасы, а ноздры і лёгкія аж раздуваліся ад ветру — хуткасць яго была метраў сорак у секунду. Ён пастаяў, а калі стала холадна, вярнуўся ў барак, дзе Масена, пазяхаючы, здымаў з галавы слухаўкі і пальцамі расчэсваў валасы, Круль жа, зморшчаны, сухі, цярпліва складваў паперы ў папкі, пастукваючы кіпамі аркушаў, каб выраўняць іх.

— Няма яго!— сказаў Піркс і сам здзівіўся, як гэта прагучала — амаль як выклік. Круль і Масена, відаць, заўважылі, якім тонам гэта было прамоўлена, бо Масена кінуў позірк на Піркса і заўважыў:

— Гэта нічога, патрафіць, хоць і цёмна, вернецца на інфрачырвоным...

Піркс паглядзеў на яго, але нічога не адказаў. Праходзячы міма Круля, ён падняў з крэсла пакінутую там кніжку і ўсеўся ў сваім кутку, прытварыўся, што чытае. Вецер мацнеў. Зааконныя гукі нарасталі, уздымаліся да высцця. Аднойчы штосьці мякка стукнулася ў сцяну, нібы невялічкая галінка, і зноў пацягнуліся хвіліны маўчання. Масена, які, напэўна, чакаў, што Піркс, як заўсёды падатлівы, возьмецца гатаваць вячэру, нарэшце ўстаў сам і пачаў адчыняць кансервы з самагрэючымі патронамі, уважліва чытаючы спачатку назвы на этыкетках, нібы спадзяваўся знайсці сярод запасаў нейкія невядомыя дагэтуль прысмакі. Пірксу не хацелася есці. Дакладней, ён быў галодны, але не хацелася кранацца з месца. Паступова яго пачало разбіраць нядобрае, халоднае шаленства, ён бог ведае чаму ўзбурыўся супроць абодвух таварышаў, якія ўвогуле былі

не горшыя з магчымых. Ці лічыў Піркс, што нешта здарылася з Анэлем? Што робат, скажам, быў атакаваны «таямнічымі жыхарамі» планеты, стварэннямі, у якіх не верыць ніхто, акрамя казачнікаў? Калі б існаваў хоць адзін шанц на сто тысяч, што планету насяляюць нейкія істоты, то яны, безумоўна, не сядзелі б вось так, занятыя сваімі дробнымі справамі, а неадкладна прынялі б усе магчымыя захады, прадугледжаныя правіламі ў пунктах другім, пятым, шостым і сёмым васемнаццатага параграфа, а таксама трэцім і чацвёртым раздзеламі правілаў спецыяльных паводзін. Але такога шанцу не было, не было наогул ніякіх шанцаў. Ужо хутчэй узарвалася б няпэўнае сонца Ёты. Так, гэта было больш верагодна. Дык што ж магло здарыцца з Анэлем?

Піркс адчуваў, што спакой у бараку, які дрыжаў ад парываў ветру, толькі ўяўны. Але не толькі ён рабіў выгляд, што чытае і не хоча вячэраць, забыўшыся пра ўсё. Астатнія два таксама ўключыліся ў гульню, спачатку непрыкметную, але з кожнай хвілінай усё больш відавочную.

Анэль па лініі тэхнічнай абслугі быў у падпарадкаванні ў Масены як інтэлектроніка, а Круль, будучы начальнікам групы, камандаваў ім як членам экспедыцыі. Так што магчымую віну мог падзяліць кожны з іх. Мо Масена нечага недагледзеў, а мо Круль недакладна вызначыў трасу, па якой павінен быў пайсці Анэль? Урэшце, высветліць гэта было не надта складана і не гэта было прычынай агульнага маўчання.

Круль з самага пачатку нібы знарок задзіраўся з робатам, надзяляў яго зняважлівымі мянушкамі і не раз даваў яму даручэнні, ад чаго астатнія члены групы ўстрымліваліся хоць бы таму, што універсальны робат — не лёкай. І рабіў ён гэта, відаць, таму, каб, зневажаючы Анэля, тым самым насаліць Масене, адкрыта зачапіць якога не адважваўся.

Зараз адбывалася барацьба нерваў, і той, хто першым выявіць занепакоенасць лёсам Анэля, тым самым як бы прызнае сябе пераможаным. Зрэшты, Піркс адчуваў, што і ён сам быў уцягнуты ў гэта маўклівае спаборніцтва, такое дурное і адначасова такое напружанае. Піркс разважаў, што зрабіў бы ён сам, калі б быў кіраўніком групы. Напэўна, няшмат, бо такой ноччу нельга было рушыць на пошук. Так ці інакш, заставалася адно — чакаць раніцы, а зараз можна было б хіба што паспрабаваць устанавіць радыёсувязь, хоць, праўда, з мінімальным шанцам на поспех, бо радыус сувязі на ультракароткіх хвалях у моцна перасеча-

най горнай мясцовасці быў невялікі. Да гэтага дня яны ніколі не пасылалі Анэля аднаго, тым больш што правілы хоць і не забаранялі гэтага, але абумоўлівалі падобны крок шматлікімі параграфамі, поўнымі агаворак. Зрэшты, д'ябал з імі, з параграфамі! Піркс лічыў, што Масена, замест таго, каб злосна выкалупваць з бляшанкі рэшткі падгарэлага мяса, мог бы ўсё ж паспрабаваць выклікаць робата па радыё. Разважаў, што было б, калі б ён сам гэта зрабіў. Урэшце, нешта ж здарылася. Ці можа робат зламаць нагу? Нічога падобнага на гэты конт ён ніколі не чуў.

Ён устаў, падышоў да стала і, адчуваючы на сабе прыхаваныя пад маскай абыякавасці погляды таварышаў, пачаў уважліва вывучаць карту, на якой ранкам Круль сваёй рукой вычарціў маршрут Анэля. Ці не можа гэта выглядаць так, што ён кантралюе кіраўніка? Піркс рэзка ўзняў галаву, сустрэў погляд Круля, які яўна хацеў яму штосьці сказаць, бо ўжо нават разявіў рот. Але калі халодны позірк Піркса ўпаў на яго, ён толькі кашлянуў і, згорбіўшыся, працягваў сартаваць свае паперы. Відаць, Піркс, сам таго не ўсведамляючы, здорава ўздзейнічаў на яго сваім позіркам; проста ў падобныя хвіліны ў ім прачыналася штосьці такое, што на борце ракеты яго слухаліся і паважалі, нават крыху пабойваліся.

Ён адклаў карту. Маршрут даходзіў толькі да вялікай скалістай сцяны з трыма нібы падмытымі патокам уцёсамі і далей абмінаў іх. Ці мог робат не выканаць задання? Гэта было немагчыма.

«Але можна звіхнуць нагу нават у малой шчыліне!»— падумаў Піркс. Не, гэта нонсенс. Такі робат, як Анэль, можа вытрымаць падзенне нават з саракаметровай вышыні. І не з такога становішча яны выходзілі цэлыя, бо матэрыял, з якога яны зроблены, мацнейшы, чым крохкія чалавечыя косці. Дык што ж здарылася, ліха яго ведае?

Ён выпрастаўся і з вышыні свайго росту зірнуў спачатку на Масену, які дзьмухаў і крывіўся, п'ючы надта гарачы чай, пасля перавёў позірк на Круля, нарэшце, дэманстратыўна адвярнуўшыся, выйшаў у маленькую спальню, дзе занадта рэзка рвануў са сцяны свой складны ложак, чатырма звыклымі рухамі сцягнуў з сябе адзенне і залез у спальны мяшок. Ён ведаў, што яму наўрад ці ўдасца заснуць, але сядзець з таварышамі ўжо не было сілы. Зрэшты, хто ведае, ці не нагадаў бы ён ім што-кольвечы не надта прыемнае, калі б застаўся разам, бо раніцай яны мелі ўжо расстацца на борце «Ампера»; з той хвіліны, як

яны ўвойдуць у карабель, аператыўная група Ёты Вадалея спыніць сваё існаванне.

Яго пачалі адольваць розныя мроі; нейкія срабрыстыя ручайкі сцякалі з-пад вейкаў, пушыстыя светлячкі хілілі на сон, ён перавярнуў падушку на другі, халаднейшы бок — і раптам нібы на вочы ўбачыў перад сабой Анэля — такога, якім бачыў яго апошні раз таго дня, за колькі хвілін да васьмі. Масена прыладжваў яму звязку ракетных патронаў, дзякуючы якім можна было нібы насуперак гравітацыі хоць некалькі хвілін планіраваць у паветры; між іншым, гэта прыстасаванне ўжывалі ўсе, зразумела, у абставінах, якія былі прадугледжаны суровымі, але прадбачлівымі інструкцыямі. Дзіўная гэта была сцэна, як і заўсёды, калі чалавек нечым дапамагаў робату, бо звычайна бывае наадварот. Аднак Анэль не змог дацягнуцца рукой да кабур, замацаваных пад наладаваным, нібы горб, рукзаком. Ён нёс груз, дастатковы для двух чалавек. Праўда, гэта не шкодзіла яму, урэшце ж ён быў проста машына, і ў выпадку патрэбы, дзякуючы мікраскапічнай стронцыевай батарэі, якая замяняла яму сэрца, мог развіваць магутнасць у шаснаццаць конскіх сіл. Аднак зараз Піркс у соннай дрымоце ўсё гэта разам узятае, відаць, не вельмі спадабалася; ён усёй душой быў на баку маўклівага Анэля і схіляўся да думкі, што той, як і сам Піркс, зусім не такі спакойны па натуры, а толькі прыкідваецца спакойным, робіць выгляд, што так і трэба. Перад тым як канчаткова заснуць, Піркс падумаў яшчэ пра што-кольвечы. Гэта былі тыя глыбока інтымныя мроі, якім толькі можа ўвогуле аддавацца чалавек, напэўна, таму, што пасля таго, як прачнецца, звычайна пра іх не помніць, і тое, што заўтра ён не будзе помніць нічога, апраўдвае сёння ўсё. Ён уявіў сабе тую казачную, міфічную сітуацыю, якая — ён ведаў гэта даўно не горш за іншых — была цалкам неверагодная: бунт робатаў. І адчуваючы ў глыбіні душы ўпэўненасць, што тады ён абавязкова аказаўся б на іх баку, хутка заснуў, нібы з палёгкай на душы.

Прачнуўся ён рана, і невядома чаму першае, аб чым падумаў, было тое, што сціх вецер. Пасля ўспомніў Анэля і свае развагі перад сном; яго крыху занепакоіла, як падобнае наогул магло прыйсці яму ў галаву. Яшчэ колькі хвілін ён паляжаў, пакуль не прыйшоў да супакойвальнай высновы, што тыя перадсонныя, невыразныя вобразы наведалі яго не наяве, але — насуперак сну, які сніцца сам,— вымагалі нязначнай, амаль без удзелу свядомасці яго дапамогі. Такія псіхалагічныя развагі былі яму невядомыя,

таму ён дзівіўся, навошта забівае імі галаву, крыху прыўстаў на локці і прыслухаўся: панавала абсалютная цішыня. Адсунуў штору на маленькім акенцы ля галавы. Праз мутнае шкло ўбачыў ранішні змрок і толькі тады зразумеў, што давядзецца ісці ў горы. Саскочыў з ложка, каб зазірнуць у агульны пакой. Робата не было. Тыя два ўжо ўставалі. За снеданнем Круль між іншым, нібы гэта было вырашана яшчэ ўчора, заўважыў, што яны мусяць выйсці неадкладна, бо надвячоркам прыбудзе «Ампер», а зборка барака і пакаванне рэчаў зоймуць самае малое паўтары гадзіны, калі не болей. І сказаў аб гэтым знарок такім тонам, каб не было зразумела, ці то трэба ісці галоўным чынам з-за недахопу дадзеных, ці то з-за Анэля.

Піркс еў за трох, але моўчкі. Калі астатнія яшчэ дапівалі каву, ён устаў, пакорпаўся ў сваім мяшку і дастаў маток белай нейлонавай вяроўкі, малаток і крукі. Падумаў і дадаў да рукзака яшчэ альпінісцкія чаравікі — на ўсякі выпадак.

Выйшлі на двор, калі толькі пачынала шарэць. На бясколерным небе зорак ужо не было відаць. Цяжкая фіялетавая шэрань на зямлі, на тварах, у самім паветры была нерухомая і марозная, горы на поўначы здаваліся чорнай масай, застылай у цемры, а паўднёвы хрыбет, той, што быў бліжэй, стаяў нібы высветленая зверху невыразная маска з яркай паласой аранжавага святла над вяршынямі. Гэты водбліск, далёкі і нерэальны, рабіў бачнымі ў паветры клубы пары, што вырывалася з вуснаў трох чалавек. Хоць атмасфера была больш разрэджанай, чым на Зямлі, дыхалася лёгка. Прыпыніліся на краі раўніны. Астраўкі травы, што цямнелі ў змешаным паўзмроку знікаючай ночы і напаўзаючага з-за гор дня, засталіся ззаду. Перад імі раскінулася ледніковая марэна, кучы камення, здавалася, прасвечвалі праз ваду, якая рухалася. Яшчэ колькі сот метраў уверх — і з'явіўся вецер; ён налятаў кароткімі парывамі. Людзі крочылі, лёгка пераскоквалі праз невялікія камяні, падымаліся на вялікія; часам скальная пліта суха стукалася аб іншую, часам кавалачак каменя выстрэльваў з-пад чаравіка і каціўся па схіле пад акампанемент каменнага розгаласу, нібыта ўнізе нехта прачынаўся. Часам рыпеў наплечны рэмень, скрыгаталі падкоўкі на чаравіках; гэтыя скупыя гукі надавалі паходу бачнасць згоды і дакладнасці, нібы рухалася з'яднаная адзіным імкненнем альпінісцкая група. Піркс ішоў другі за Масенай. Было ўсё яшчэ надта цёмна, каб як след разгледзець рэльеф далёкіх схілаў; Піркс напружана ўглядваўся ўдалечыню, раз і другі не

надта ўдала ступіў нагой, аднак усё ж углядваўся, нібы хацеў уцячы не толькі ад тых, хто быў побач, але і ад самога сябе, ад сваіх разваг. Ён зусім не думаў пра Анэля, а толькі механічна шнарыў поглядам па тых завалах спрадвечных скал, якія застылі ў поўнай абыякавасці, дзе толькі ўяўленне чалавека магло ўбачыць пагрозу і выклік.

Планета мела добра прыкметныя поры года. Экспедыцыя прыбыла ў канцы лета, а зараз горная восень, уся ў чырвані і жаўцізне, ужо згасала ў далінах, але, нібы не зважаючы на лісце, што імчала ў пеністых горных патоках, сонца было ўсё яшчэ цёплае і ў бязвоблачныя дні на гэтым пласкагор'і нават прыпякала. Толькі туманы штораз гусцелі і напаміналі аб набліжэнні снегу і маразоў. Але тады на планеце не павінна было заставацца ўжо нікога; і гэта збялелая каменная пустыня, якую ўявіў сабе Піркс, раптам здалася яму асабліва жаданай.

Здавалася, убачыць зрокам, што цемра радзее, было немагчыма, аднак з кожнай хвілінай позірк адкрываў усё новыя абрысы наваколля. Неба ўжо зусім збялела — яшчэ не дзень, але ўжо і не ноч, ніякіх зорак, дзень пачынаўся так чыста і спакойна, нібы ўвесь ён быў схаваны ў шар з ахалоджанага шкла. Крыху вышэй яны трапілі ў паласу малочнага туману, які чапляўся гнуткімі шчупальцамі за грунт, а калі мінулі яго, Піркс заўважыў яшчэ не асветленую сонцам, але прыкметную ўжо ў ранішнім святле мэту іхняга шляху. Гэта быў скалісты слуп, які прымыкаў да галоўнага горнага ланцуга, а над гэтым слупам, некалькі сот метраў вышэй, чарнела двухгаловая вяршыня, самая высокая з усіх. На падобнай на булаву вяршыні гэтага слупа Анэлю патрэбна было зрабіць апошнія замеры. Дарога ў абодва канцы была лёгкая — ніякіх неспадзевак, шчылін, нічога, акрамя аднастайнага шэрага асыпку, дзенідзе перасечанага палосамі цвілі зеленавата-жоўтага колеру. Піркс усё яшчэ лёгка пераскокваў з адных гулкіх валуноў на другія, упіраўся ў зусім чорную на фоне неба сцяну і, можа, таму, што ні аб чым іншым не хацеў думаць, уявіў сабе, што гэта звычайнае ўзыходжанне, як і на Зямлі. І адразу ж іншымі вачыма ўбачыў скалы — сапраўды, можна было падумаць, што мэтай іх экспедыцыі было пакарэнне вяршыні, калі яны ідуць проста да хрыбта, які цяжка выступае з масы асыпку. Асыпак уздымаўся ля сцяны на адну трэць яе вышыні і канчаўся там навалам заклінаваных пліт, а ўжо адтуль вялізная плоскасць ішла ўгару; яна нібы застыла, ускінуўшыся ў неба; нейкіх сто метраў вышэй сцяну пераразала іншая горная парода —

гэта выходзіў на паверхню дыябаз — чырванаваты, святлейшы за граніт, ён стужкай неаднолькавай шырыні наўскасяк працінаў усё крыло абрыву.

На нейкі час вяршыня прыкавала позірк Піркса сваёй патэтычнай лініяй, але варта было ім наблізіцца, як з ёй адбылося тое, што звычайна адбываецца з гарой: перспектыва знікла, распалася на асобныя ўчасткі, якія засланялі адзін аднаго, пры гэтым падножжа страціла сваю пакатасць, высунулася адгор'е, і позірку адкрыліся бясконцыя тэрасы, падобныя на паліцы выступы, шчыліны, якія заканчваліся тупіком, хаосам старых трэшчын, а над усім гэтым бязладдзем блішчала сама вяршыня, пазалочаная першымі прамянямі сонца, з дзіўна мяккім контурам; але нарэшце і яна знікла, яе засланілі іншыя; Піркс ужо не мог адвесці вачэй ад калоса — так, нават на Зямлі гэтая сцяна была б вартай увагі і намаганняў, асабліва з-за добра бачнага дыябазавага вала. Ад яго да вяршыні, залітай сонечным святлом, дарога здавалася кароткай і лёгкай, аднак пэўную цяжкасць уяўлялі казыркі, асабліва самы вялікі, які знізу блішчаў ад вільгаці або лёду, ён быў хутчэй чорны, чым чырвоны, нібы кроў, што запяклася.

Піркс даў волю фантазіі. Магла ж гэта быць не безыменная вяршыня пад чужым сонцам, а гара, уславленая альпінісцкімі ўзыходжаннямі, якую не раз штурмавалі, на якой цярпелі паражэнне, гара, якая будзіць у альпініста своеасаблівае пачуццё, падобнае на тое, якое адчуваеш, калі бачыш добра знаёмы твар, дзе кожная маршчынка і кожны шрам маюць сваю гісторыю. Невялікія, ледзь прыкметныя змейкі трэшчын, цёмныя ніці выступаў-палічак, дробныя вышчарбіны — кожная з іх магла стаць меткай, якой дасягаеш падчас чарговага штурму, месцам працяглых прыпынкаў, маўклівага роздуму, бурнага націску і змрочных адступленняў, паражэнняў, атрыманых нягледзячы на тое, што ўсе тактычныя і тэхнічныя хітрыкі былі выкарыстаны,— гара з-за гэтага настолькі злілася з лёсамі людзей, што кожны альпініст, якому яна не паддалася, вяртаўся да яе зноў і зноў з тым самым запасам надзеі і веры ў перамогу і пры новым штурме прымерваў да гладкай скалістай паверхні вынашаны ў думках маршрут. Гэтая гара магла б мець багатую гісторыю: абходныя ўзыходжанні, розныя варыянты яе пакарэння, хроніка поспехаў і ахвяр, фатаграфіі, пазначаныя пункцірамі трас і крыжыкамі, што азначалі самыя высокія з дасягнутых мясцін; Піркс умудрыўся ўявіць сабе гэта з найвялікшай

лёгкасцю, больш таго: яму здавалася дзіўным, што гэта не так.

Масена, крыху згорбіўшыся, ішоў першы. Штораз мацнейшае святло дня не пакідала больш ніякіх ілюзій наконт «лёгкіх мясцін» сцяны — гэта зманлівае адчуванне лёгкасці і бяспекі было выклікана блакітнаватай смугой далечы, якая так спакойна абдымала кожны ўчастак бліскучай скалы. Дзень, ясны і чысты, дабраўся ўжо да падарожнікаў, іх доўгія рухомыя цені дасягалі вяршыні асыпку. Ад каменнай сцяны да асыпку вялі два вялікія жалабы, у якіх яшчэ стаяла ноч; застылы паток гравію ўздымаўся там і нечакана знікаў, паглынуты моцнай цемрай.

Даўно ўжо нельга было ахапіць масіў адным поглядам. Прапорцыі змяніліся, сцяна, якая з адлегласці нічым не адрознівалася ад іншых, уяўляла непаўторную індывідуальнасць формаў, а наперадзе нібы вырастаў з-пад рассыпанай картачнай калоды пляскатых пліт вялізны слуп — павялічваўся, пашыраўся, рос, пакуль нарэшце не адпіхнуў і не засланіў усё іншае і застаўся адзін у халодным, змрочным цяні ніколі не асветленых сонцам мясцін. Яны якраз узышлі на ўчастак вечнага снегу, пакрыты пырскамі злятаючых зверху камянёў, калі Масена запаволіў крок, пасля спыніўся, нібы прыслухоўваючыся. Піркс, які падышоў да яго першы, зразумеў — Масена паказаў пальцам на сваё вуха, у якім тырчаў шарык-масліна мікрафона.

— Ён быў тут?

Масена толькі кіўнуў галавой і паднёс да бруднай, спрасаванай паверхні снегу металічны пруток індыкатара радыеактыўнасці. Падэшвы чаравікаў Анэля былі насычаны радыеактыўным ізатопам, і індыкатар выявіў яго след. Робат прайшоў тут учора, невядома толькі — ішоў угару ці ўжо вяртаўся. Ва ўсякім выпадку яны знайшлі яго маршрут. З гэтага месца пайшлі ўжо не спяшаючыся.

Здавалася, што цёмны скалісты слуп зусім побач, але Піркс ведаў, што ацэнка адлегласці ў гарах бывае памылковая. Яны ішлі далей, мінулі ўжо лінію снегу і валуноў і былі на пляскатай грані. Пірксу здавалася, што ў поўнай цішыні ён чуе папіскванне слухавак Масены, хоць і было гэта немагчыма. Масена час ад часу спыняўся, вадзіў канцом алюмініевага прута, апускаў яго, амаль дакранаючыся да скалы, выводзіў ім у паветры петлі і васьмёркі, нібы старадаўні чараўнік, пасля адшукваў след і зноў ішоў далей. Яны былі ўжо недалёка ад таго месца, дзе Анэль павінен быў закончыць замеры; Піркс уважліва разглядаў скалу, нібыта шукаў сляды зніклага.

Але скала была пустая. Самая лёгкая частка дарогі была пройдзена — перад імі тырчалі з-пад асновы слупа нахіленыя пад рознымі вугламі пліты, нібыта нехта зрабіў вялізны разрэз скальных парод і крыху прыадкрыў каменнае чэрава, агаліўшы сарцавіну гор, старадаўнія слаі, якія месцамі патрэскаліся ад неверагоднай вагі ўсёй гэтай скалы, якая на цэлыя кіламетры ўскінулася ў неба. Яшчэ сто, сто пяцьдзесят крокаў — і далей прайсці было немагчыма.

Масена хадзіў, здавалася, па кругу і вадзіў перад сабой апушчаным канцом індыкатара, вочы ў яго былі прыжмураны, цёмныя акуляры ссунуты на лоб, твар абыякавы. Гэтак кружыўся ён без ладу і складу, пасля раптам спыніўся за некалькі метраў ад астатніх і сказаў:

— Ён быў тут. І досыць доўга.

— Адкуль ты ведаеш?— спытаў Піркс.

Масена паціснуў плячыма, дастаў з вуха шарык-масліну і падаў яго Пірксу разам з тонкай ніткай провада і прутком індыкатара. Піркс пачуў патрэскванне і папіскванне. На паверхні скалы не было ніякіх адбіткаў, ніякіх слядоў, нічога — толькі гэты гук, які аддаваўся ў галаве пранізлівым звонам, сведчыў, што Анэль мусіў на самай справе даволі доўга тут таптацца, бо амаль кожны метр паверхні выдаваў яго прысутнасць. Паступова з бязладдзя гукаў Піркс здолеў нават выявіць нейкі сэнс — Анэль прыйшоў, відаць, па той жа дарозе, што і яны, расставіў трыногу апарата і хадзіў вакол яго, пакуль рабіў замеры і здымкі, пасля некалькі разоў перасоўваў трыногу, шукаючы найбольш удалае дляназірання месца. Так, малюнак праясняўся. Але што ж адбылося пасля?

Піркс пачаў абыходзіць гэта месца штораз шырэйшымі кругамі, па спіралі, каб адшукаць след, які выходзіў з цэнтра, след вяртання, але такога следу не было. Атрымлівалася, нібы Анэль вяртаўся дакладна па сваіх жа слядах, што выглядала зусім непраўдападобна. У яго ж не было адчувальнага да радыяцыі індыкатара і ён не мог ведаць, дзе ступаў раней, ды яшчэ з дакладнасцю да сантыметра; Круль нешта гаварыў Масене, але Піркс не зважаў на іх, працягваў кружыць, ажно пакуль не здалося яму, што слухаўка піскнула адзін раз, коратка, але выразна. Ён адступаў назад надзвычай асцярожна. Так, гэта было тут. Ён азірнуўся, расплюшчыў прыжмураныя вочы, каб усю ўвагу аддаць сігналам індыкатара. Знойдзены след быў каля сцяны, нібы робат павярнуў не да лагера, а наадварот, рушыў да каменнага слупа.

Гэта было дзіўна. Што яму там было трэба?

Піркс шукаў яшчэ хоць бы адзін след, але скалы маўчалі, і ён мусіў праверыць усе патрэсканыя пліты, згрувашчаныя ля падножжа калон; цяжка было прадбачыць, на якую з іх Анэль паставіў нагу. Нарэшце Піркс знайшоў след, аддалены ад папярэдняга на пяць метраў; няўжо Анэль скокнуў так далёка? Але навошта? Ён яшчэ адступіў і праз хвіліну зноў знайшоў згублены след — робат пераскокваў з каменя на камень. Раптам Піркс, які плаўна вадзіў прутком па каменні, здрыгануўся, бо ў яго галаве нібы гахнуў разрыўны патрон; слухаўкі адазваліся такім гукам, што Піркс аж скрывіўся — было вельмі балюча. Ён зірнуў на каменную пліту і аслупянеў. Заклінаваны паміж двух камянёў, на дне натуральнага неглыбокага калодзежа ляжаў цэлы, непашкоджаны апарат, а побач — фотакамера. На другім баку пліты да каменя быў прыхінуты рукзак Анэля — з развязанымі шнуркамі, але спакаваны як мае быць. Піркс паклікаў астатніх. Яны прыбеглі і здзівіліся, як і Піркс, такой знаходцы. Круль праверыў касеты — падобна было, што ўсе замеры выкананы. Не трэба было паўтараць работу. Заставалася толькі высветліць лёс Анэля. Масена прыклаў далоні да рота і некалькі разоў гучна крыкнуў, але толькі далёкае, працяглае рэха адбілася ад скал. Піркс нават здрыгануўся, бо гэты крык нагадваў яму сітуацыю, нібыта шукалі чалавека, які заблудзіўся ў гарах. Праз хвіліну інтэлектронік дастаў з кішэні пляскатую касету перадатчыка, прысеў і пачаў выклікаць робата, перадаючы яго сігнал, але было відаць, што робіць гэта ён хутчэй з абавязку, чым з пераканання. Тым часам Піркс усё шукаў сляды. Здавалася, што робат даволі доўга таптаўся на адным месцы — столькі ледзь чутных піскаў выдавала слухаўка. Такая вялікая колькасць слядоў дарэшты збіла Піркса з панталыку. Нарэшце ён прыблізна акрэсліў граніцу раёна, за якую робат напэўна не выходзіў, і пачаў пільна абыходзіць яе, каб знайсці новы след, які падказаў бы напрамак далейшых пошукаў.

Зрабіў чарговы круг і вярнуўся да скалы. Паміж каменным выступам, на якім ён стаяў, і зусім вертыкальнай скалой, якая ўздымалася ўверх, зеўрала амаль паўтараметровая шчыліна; дно яе было ўсыпана дробнымі, вострымі абломкамі, што падалі зверху. Піркс сумленна даследаваў і гэтае месца, але слухаўка маўчала. Ён апынуўся перад незразумелай загадкай: было падобна, што Анэль нібы растварыўся ў паветры. Масена і Круль ціхенька раіліся за яго спіной, а ён паволі ўзняў галаву і ўпершыню з такой блізкай адлегласці зірнуў на слуп, які ўзвышаўся

над ім. Неадольнай была сіла выкліку, якую адчуў ён у каменным спакоі скалы; дакладней, гэта быў нават не выклік, а хутчэй нешта падобнае на працягнутую адкрытую руку — у Піркса з'явілася пэўнасць, што трэба гэты жэст прыняць, што гэта пачатак дарогі, па якой ён павінен пайсці. Зусім міжволі шукаў вачамі першую зачэпку; было ўсё ясна. Адным доўгім, дакладным скачком можна было пераскочыць шчыліну і адразу апынуцца на невялікім, але ёмкім выступе; пасля без усякага сумнення патрэбна было рухацца наўскасяк, уздоўж правільнай геаметрычнай формы трэшчыны, якая крыху вышэй паглыблялася і станавілася неглыбокай цяснінай. Не ведаючы толкам, навошта ён гэта робіць, Піркс падняў індыкатар, выцягнуўся як толькі мог і паднёс яго да каменнага выступу на другім баку шчыліны. Слухаўка адгукнулася. Для пэўнасці Піркс паўтарыў гэту аперацыю яшчэ раз, з цяжкасцю трымаючы раўнавагу, бо мусіў адхіляцца ад сцяны як мага больш, і зноў пачуў кароткі піск. Цяпер ён ужо не сумняваўся. Вярнуўся да Масены і Круля.

— Анэль пайшоў наверх,— спакойна сказаў Піркс, паказваючы на каменны слуп.

Круль, здавалася, не зразумеў, а Масена паўтарыў:

— Пайшоў наверх? Навошта? Дзеля чаго наверх?

— Не ведаю. Туды вядзе след,— адказаў Піркс з прытворнай абыякавасцю.

Масена быў схільны лічыць, што Піркс памыліўся, але адразу ж сам пераканаўся, што гэта праўда. Анэль адным шырокім крокам пераскочыў праз шчыліну і пайшоў уздоўж каменнага завалу — кіраваўся на слуп. Узнікла збянтэжанасць. Круль лічыў, што пасля таго, як замеры былі зроблены, робат, відавочна, з-за нейкіх непаладак распраграмаваўся; Масена заставаўся пры думцы, што гэта немагчыма, бо Анэль пакінуў усе апараты і рукзак зусім так, нібы абдумана рыхтаваўся да цяжкага ўзыходжання, і, значыць, нешта павінна было прымусіць яго зрабіць менавіта так.

Піркс маўчаў. Ён вырашыў, што пойдзе на слуп, нават калі б ніхто з іх не пайшоў разам; Круль усё роўна не мог бы ісці, бо гэта патрабавала альпінісцкіх навыкаў, і не абыякіх. Ад Масены ён чуў яшчэ раней, што той хадзіў многа і, здаецца, нядрэнна ведаў тэхніку ўзыходжання на круках; і калі настала маўчанне, Піркс проста сказаў, што мае намер ісці — ці гатовы Масена стаць яго спадарожнікам?

Круль адразу ж запярэчыў. Інструкцыя забараняе рызыкаваць жыццём людзей; у поўдзень прыляціць па іх

«Ампер»; яшчэ трэба сабраць барак і спакавацца; замеры зроблены; робат, відаць, трапіў у аварыю, значыць, трэба проста згадзіцца, што ён загінуў, гэта значыць выкласці ўсе акалічнасці ў канчатковай справаздачы.

— Ці азначае гэта, што мы павінны пакінуць яго тут, а самі паляцець?— спытаўся Піркс.

Яго спакой, здавалася, дражніў Круля, які, ледзьве стрымліваючы сябе, адказаў, што ў справаздачы вычарпальна выкладзе ўсе падзеі, не забудзецца прывесці думкі ўсіх членаў групы і найбольш праўдзіва растлумачыць здарэнне: пашкоджанне мнестронаў памяці ці кіраўнічага контуру матывацыйнага, альбо дэсінхранізацыя...

Масена заўважыў, што ні першае, ні другое, ні трэцяе немагчыма, бо ў Анэля ўвогуле няма ніякіх мнестронаў, а толькі аднафазная монакрышталічная сістэма, развітая малекулярна з пераахалоджаных дыямагнітных раствораў, узбагачаных ізатопнымі элементамі...

Было бачна, што ён хацеў укалоць Круля, паказаць яму, што ён гаворыць пра рэчы, у якіх наогул нічога не разумее; Піркс перастаў слухаць. Адвярнуўшыся, ён зноўку змераў позіркам аснову слупа, але ўжо інакш, чым раней,— уяўнае стала рэальным, і хоць яму было крыху непамысна, ён адчуваў пэўнае задавальненне, што можа распачаць адзінаборства з гэтай гарой.

Масена вырашыў ісці з Пірксам, можа, дзеля таго, каб такім чынам канчаткова супрацьпаставіць сябе Крулю. Да Піркса пятае праз дзесятае даходзіла іх размова: што загадку трэба абавязкова высветліць, бо калі яны проста вернуцца, то, магчыма, будзе ўпушчана штосьці такое ж важнае, як і таямнічае, якое выклікала такую нечаканую рэакцыю ў робата, і калі б было толькі пяць шанцаў са ста, што гэта «штосьці» адбылося, рызыка ўзыходжання будзе цалкам апраўдана.

Круль, гэта варта прызнаць, палічыў сябе пераможаным і не траціў больш марна слоў. Запанавала маўчанне. Масена пачаў здымаць са спіны апараты, а Піркс, які тым часам падрыхтаваў ужо вяроўку, малаток, крукі і змяніў цяжкія чаравікі на туфлі, пазіраў на яго крадком. Масена быў трохі знерваваны, Піркс бачыў гэта. І не так ад спрэчкі з Крулем — гэта было звыклым, як таму, што ён, відаць, дарма ўліп у сітуацыю, з якой няма ўжо выйсця. Піркс падумаў, што Масена, калі б яму прапанавалі застацца, то, хто ведае, мо і згадзіўся б, хоць тут і быў закрануты гонар. Піркс, аднак, не сказаў нічога, бо хоць спачатку ўзыходжанне абяцала быць лёгкім, невядома, як будзе вышэй,

асабліва там, дзе значную частку каменнай сцяны засланялі казыркі. Ён жа нават не вывучыў сцяну праз бінокль, бо не збіраўся штурмаваць яе. Але ўсё ж захапіў вяроўку і кру-кі — навошта? Замест таго каб аналізаваць гэтыя супярэчнасці, ён стаяў і чакаў Масену. Пасля разам яны рушылі няспешна да падножжа скалы.

— Я пайду першы,— сказаў Піркс,— адразу на ўсю вяроўку; пасля паглядзім.

Масена кіўнуў галавой. Піркс азірнуўся яшчэ раз, каб убачыць, што робіць Круль, з якім расста197ся моўчкі. Круль стаяў там, дзе яго пакінулі, ля складзеных рукзакоў. Піркс і Масена былі ўжо так высока, што за паўночнымі горнымі хрыбтамі маглі ўбачыць маслінавую пляму далёкіх нізін. Аснова камяністага насыпу была яшчэ зацемнена, толькі вяршыні гор сляпуча блішчалі, і гэты бляск рассеяным німбам высвечваў шчарбіны сцяны, якая ўздымалася над імі высока ў неба.

Піркс зрабіў вялікі крок, намацаў нагой выступ, адштурхнуўся і лёгка пайшоў уверх. Першыя метры былі сапраўды не складаныя. Ён рухаўся мерна, нібы ляніва, перад самымі вачыма праплывалі шурпатыя слаі скалы, няроўныя, з упадзінамі цямнейшага колеру. Ён напружваўся, падцягваў цела, перамяшчаўся ўверх, адчуваючы нерухомае, марознае датыкненне ночы, якое ішло ад каменнага масіву. Сэрца стукала шпарчэй, але дыхалася свабодна, ад працы мускулаў прыемная цеплыня разлівалася па целе. За ім цягнулася вяроўка, і ў чыстым паветры добра было чуваць яе шастанне, калі яна церлася аб скалы; перш чым вяроўка скончылася, Піркс знайшоў добрае месца для страхоўкі. Некага іншага ён мо проста выцягнуў бы наверх, але Піркс хацеў пераканацца, чаго варты Масена. Ён стаяў, уціснуты ў шчыліну, якая ішла наўскасяк праз увесь слуп, і мог, чакаючы Масену, разгледзець вялікую цясніну, якую яны абыходзілі, рухаючыся паралельна ёй — тут яна якраз пашыралася: шэры каменяпад утварыў амфітэатр увагнутай нішы; знізу гэтае месца здавалася зусім нецікавым, пляскатым, і толькі тут ва ўсім прыгостве выявілася паверхня скалы. Пірксу было так добра тут аднаму, што ён нібы войкнуў, калі заўважыў побач Масену; потым яны адразу рушылі далей. Гэтак яно паўтаралася штораз, рытмічна і спакойна, і на кожным прыпынку Піркс правяраў індыкатарам, ці не засведчыць сігнал у слухаўцы прысутнасць Анэля — толькі адзін раз згубіў яго і адмовіўся ад зручнай расколіны, бо Анэль падняўся тут па сцяне, хоць і не быў альпіністам; Піркс лёгка адгадваў усе яго наступ-

ныя рашэнні, настолькі — калі так можна сказаць — адназначнай, настолькі лагічнай была гэтая дарога ў скале, якая давала магчымасць хутчэй дасягнуць вяршыні. Ва ўсякім разе было ясна, што Анэль сапраўды падняўся. Піркс ні на хвіліну не задумваўся над тым, чаму робат зрабіў менавіта так. Ён прывучыў сябе не разважаць дарэмна. Паволі ён знаёміўся са скалой — сваім працаўнікам; у яго памяці ўсплылі, здавалася б, забытыя спосабы і прыёмы, ён беспамылкова прадбачыў, што і калі трэба рабіць; нават тое, што яму даволі часта даводзілася вызваляць адну руку, каб знайсці індыкатарам радыеактыўны след, не дадавала яму ніякага клопату. Аднаго разу, трымаючыся за камень, які, аднак, моцна сядзеў у скале, нібы замураваны, Піркс зірнуў уніз. Яны былі ўжо даволі высока, хоць і ішлі нібыта павольна; Круль стаўся ўжо маленькай плямкай зеленаватага камбінезона на пляскатым шэрым асыпку, Піркс нават не адразу адшукаў яго на дне гэтай паветранай студні, якая зеўрала ля самых ног.

Далей пачынаўся малы траверс; ісці станавілася цяжэй, але і Піркс з кожнай хвілінай аднаўляў ранейшыя навыкі, а яны былі такога ўзроўню, што часам было больш бяспечна даверыцца інтуіцыі, чым свядома разважаць над выбарам прыёмаў; а ў тым, што дарога стала цяжэйшай, Піркс пераканаўся ў той момант, калі, як і раней, хацеў вызваліць правую руку, каб узяць звісаючы з пояса індыкатар,— і не змог гэтага зрабіць. У яго быў толькі адзін пункт апоры для левай рукі і штосьці вельмі невыразнае пад наском правага туфля; адхінуўшыся як толькі можна ад скалы, ён шукаў апору другой назе і не мог знайсці. Тады ён адмовіўся ад індыкатара, бо вышэй было нешта падобнае на невялікую прыступку.

Яна была пакрыта ледзяным наростам і нахілена да прорвы, але ў адным месцы лёд быў сарваны з каменя нібы моцным ударам. Піркс сваім туфлем гэтага ніколі б не зрабіў, яму прыйшло ў галаву, што гэта быў Анэлеў чаравік — бо робат важыў амаль чвэрць тоны. Масена, які ішоў да гэтага вельмі добра, зараз пачаў адставаць.

Яны набліжаліся да вяршыні каменнага слупа. Скала, па-ранейшаму шурпатая, пачынала паступова, а чым вышэй, тым больш, нахіляцца да бездані, і ісці без добрай апоры было цяжка; праз некалькі метраў шчыліна, да гэтага даволі шырокая, скончылася, у Піркса заставалася яшчэ метраў пяць свабоднай вяроўкі, але ён сказаў Масене сцягнуць яе, каб агледзецца. Бо робат жа прайшоў тут — без крукоў, без вяроўкі і без страхоўкі. «Значыць, і я гэтак

здолею»,— падумаў Піркс. Ен пачаў абмацваць скалу над сабой; у костачцы правай ступні, заклінаванай у апошнім звужэнні шчыліны, па якой ён да гэтага ішоў, кальнула ад рэзкага павароту, аднак гэта не спыніла яго. Самымі кончыкамі пальцаў ён намацаў ліштвачку, меншую, чым падушачкі пальцаў; трымаючыся за яе, можна было падцягнуцца, але што далей?

Гэта было ўжо суперніцтва не толькі са скалою, але як бы і з Анэлем, ён жа тут прайшоў, і прытым адзін. Праўда, пальцы ў яго сталёвыя... Піркс пачаў ужо вызваляць ступню са шчыліны, калі пры гэтым руху нейкі невялічкі каменьчык выскачыў з-пад падэшвы і паляцеў уніз. Піркс выразна чуў свіст паветра, і праз некалькі доўгіх-доўгіх хвілін — рэзкі, дакладны ўдар. «Ну што ж, сітуацыя зразумелая»,— падумаў ён. Піркс вырашыў не падцягвацца і пачаў шукаць месца, каб забіць крук. Аднак у скале не было нават прыкмет трэшчыны; Піркс, як толькі здолеў, нахіліўся ў абодва бакі, аднак нічога не знайшоў.

— Што там?— пачуўся знізу голас Масены.

— Нармальна, вывучаю,— адказаў ён.

Нага напаміна́ла пра сябе, ён ведаў, што доўга ў такой пазіцыі не прастаіць. Эх, каб можна было знайсці іншы шлях! Але варта толькі згубіць след робата, і яго ўжо не знойдзеш на гэтай кіламетровай сцяне. Стараўся знайсці што-небудзь над сабой. Пад слізгаючым позіркам сцяна здавалася ўсыпанай трэшчынамі, аднак на самай справе гэта былі ўпадзіны меншыя, чым далонь; разлічваць можна было толькі на тую ліштвачку. Калі ён падцягнуўся на абедзвюх руках і вызваліў ступню са шчыліны, у яго мільганула думка, што адступлення ўжо няма; скала адразу нібы адапхнула яго, ён вісеў, і наскі туфляў адсунуліся ад скалы сантыметраў на трыццаць. Вышэй, наверх! Штосьці мільганула ў яго над галавою. Трэшчына? Але да яе трэба было дацягнуцца. Яшчэ трохі? Праз імгненне ён страціў здольнасць разважаць; трэба было адпусціць левую руку, завіснуць на кончыках чатырох пальцаў правай і дацягнуцца левай да трэшчыны ці шчыліны невядома якой глыбіні. «Гэтага нельга было рабіць!»— прамільгнула ў яго ў галаве, калі ён, адчуваючы, што мускулы амаль лопаюцца, раптам апынуўся на два метры вышэй, прыціскаючыся да скалы; ён цяжка дыхаў і крыху злаваўся на сябе; цяпер ён абедзвюма нагамі стаяў на ліштвачцы і мог забіць крук, нават два — для пэўнасці, бо першы ўвайшоў не вельмі глыбока. Так і зрабіў, з прыемнасцю ўслухоўваючыся ў чысты, звонкі высокі гук, які нарэшце сціх. Вяроўка

ўскочыла ў карабін, Піркс ведаў, што давядзецца дапамагчы Масене; нельга сказаць, што гэта была чыстая работа, але ж гэта не Альпы; ва ўсякім разе становішча яго было зараз даволі пэўнае.

Над ліштвачкай была вузкая, надта ёмкая трэшчына; Піркс узяў кароткі прэнт індыкатара ў зубы, бо баяўся ўдарыць ім аб скалу — прэнт тырчаў з-за пояса; вышэй колер пароды мяняўся.

Сцяна не была ўжо чарнаватая, з падцёкамі карычневай, нібы надта старой шэрасці. Яе змяніла рудая, з карычнева-чырванаватымі адценнямі, бліскучым зблізку дыябазам. Яшчэ колькі метраў — і гэта дарога колераў скончылася; Піркс убачыў над сабой новы казырок, які нельга было адолець з такой малой колькасцю крукоў, ды яшчэ без прыступкі пад нагамі; але ж у Анэля не было зусім нічога; Піркс праверыў сітуацыю індыкатарам: робат туды не пайшоў. Значыць? Заставалася толькі рухацца па траверсе.

Калі Піркс вывучаў гэты шлях, то здаўся ён спачатку не вельмі складаным або небяспечным. Слуп нібы зноўку набываў страчаную ў пластах дыябазу форму; Піркс стаяў на вузкай, але прыдатнай прыступцы, якая даходзіла да павароту і там канчалася; нахіліўшыся, убачыў далейшы яе працяг за пукатасцю скалы — усяго праз нейкіх паўтара метра, двух-то не было, гэта дакладна. Значыць, трэба было абвіцца целам вакол выступу, які адпіхваў, і, страціўшы апору для правай нагі, адштурхнуцца левай так, каб, перасекшы паветра над безданню, правай абаперціся на працяг прыступкі. Пашукаў месца, куды можна было б забіць крукі, з падстрахоўкай было б гэта не так складана. Але шкадлівая сцяна і тут была зусім без трэшчын; зірнуў уніз: з таго месца, якое мог заняць Масена, страхоўка была поўнай фікцыяй. Сарваўшыся, ён падаў бы сама мала пятнаццаць метраў; рыўком магло вырваць нават добра забітыя крукі. А індыкатар аднак гаварыў, што робат пераадолеў гэты шлях — адзін! «Што ж гэта азначае, д'ябал яго ведае?— сказаў ён сам сабе.— На другім баку ёсць прыступка! Толькі адзін добры крок! Наперад, няўклюда!» Але працягваў стаяць. Калі б удалося хоць вяроўку нацягнуць — але дзе там! Нахіліўся і некалькі секунд глядзеў на прыступку, больш не мог — пачалі дрыжаць мускулы. А калі падэшва пакаўзнецца? У Анэля былі сталёвыя падэшвы. На прыступцы нешта блішчала — раскрышаны лёд. Слізка, чорт яго вазьмі. Трэба было захапіць з сабой вібрамы...

— І напісаць запавет,— прамармытаў бязгучна Піркс.

Вочы яго прыжмурыліся, позірк знерухомеў. Прыгнуўшыся, раскінуўшы рукі, шукаючы апоры ў шурпатасці скалы, ён абвіў яе целам і зрабіў той крок, які столькі яму каштаваў. Калі апынуўся на другім баку, не адчуў нават задавальнення, бо ўбачыў, як уліп. Прыступка на тым баку была ніжэй, значыць, па дарозе назад давядзецца скакаць уверх. Ды яшчэ з такім фортэлем — гэта было ўжо не ўзыходжанне і нават не акрабатыка, а чорт ведае што! Спуск на вяроўцы? Бо калі не...

Ён разумеў, што гэта ўжо поўны крах, але ішоў далей, пакуль было магчыма. Пра яго стан і сітуацыю сведчыла тое, што ён зусім забыўся пра Анэля; было не да яго. Вяроўка, крыху нацягнутая, калыхалася над ім, яна была надзвычай выразна бачная, па-здрадніцку блізкая і канкрэтная, яна была відаць на фоне асыпку, які невыразна ўяўляўся ў блакітнай смузе ля падножжа сцяны цьмянай плямай. Прыступка скончылася, і не было далей дарогі ні ўверх, ні ўніз; вяртання назад таксама не было. «Ніколі яшчэ не бачыў нічога больш гладкага»,— падумаў ён з нейкай асаблівай заспакоенасцю, якая, аднак, была зусім іншая, чым раней: бо горш, чым ёсць, быць не магло — і нервавацца не мела ніякага сэнсу. Ён агледзеўся. Пад нагамі — чатырохсантыметровы выступ, а далей нічога — аж да невыразнай, цёмнай плямы шчыліны, якая, здавалася, клікала да сябе; Піркса аддзялялі ад яе чатыры метры па сцяне, такой моцнай, такой стромай, якую толькі можна сабе ўявіць. «І гэта называецца граніт?!»— са шкадаваннем падумаў ён. Відаць, часам тут сцякала вада — відаць былі яе сляды, ад якіх сцяна пацямнела, ён бачыў нават асобныя кроплі; Піркс узяў індыкатар у правую руку і пачаў вадзіць ім, шукаючы слядоў робата. Пачулася ціхенькае папіскванне. Значыць, Анэль прайшоў тут. Але як? Раптам ён заўважыў маленькую плямку шэрага, як скала, моху. Садраў яго. Маленькае паглыбленне, не большае, чым пазногаць. Крук не хацеў залазіць больш чым напалавіну, але і гэта было збавенне. Ён турзануў за колца — як сядзіць? Неяк трымаецца. Так, зараз левай рукой за круг і асцярожна, як толькі можна... Адхіліўшыся напалову ад скалы, ён выпадкова адвёў вочы ад шчыліны, якая вабіла да сябе, нібы створаная стагоддзямі дзеля аднаго адзінага імгнення, якое павінна было наступіць; пасля яго позірк каменем паляцеў уніз — аж да блакітна-нябеснай іскры на замружаным шэрым фоне асыпку.

Вырашальны крок так і не быў зроблены.

— Што там?!— пачуўся голас Масены.

— Зараз! Хвілінку!— адгукнуўся Піркс, перакідваючы вяроўку праз карабін.

Яму трэба было як след разгледзецца. Зноў адхіліўся, на тры чвэрці цяжару павіс на круку, нібы спрабаваў вырваць яго са сцяны, але мусіў абавязкова паглядзець уніз, праверыць...

Так, гэта быў Анэль. Нішто іншае не магло б гэтак блішчаць, ды яшчэ так далёка ўнізе. Дарога ўжо даўно адхілілася ад вертыкалі, і Піркс быў цяпер метраў за трыста ў баку ад месца, з якога яны пачалі ўзыходжанне. Пашукаў якіх-небудзь больш адметных арыенціраў там, унізе. Вяроўка дужа сціскала яго, было непрыемна, адчуваў сябе блага, цяжка стала дыхаць, і кроў стукала ў скронях. Як мог стараўся запомніць прыкметы мясцовасці; той вялізны валун — яго ўдасца пазнаць, хоць зараз ён бачны пад іншым вуглом. Калі нахіліўся назад да сцяны, яго білі дрыжыкі. «Трэба будзе з'язджаць»,— сказаў сам сабе і неяк зусім бяздумна ўзяўся за крук, які адразу вырваўся са скалы, нібы сядзеў у масле; яму зрабілася дзіўна, але схаваў крук у кішэню і пачаў разважаць, як яму адсюль выбрацца. Гэта ўдалося, хоць і не зусім гладка: Масена панабіваў на сваім прыпынку столькі крукоў, колькі здолеў, падкараціў вяроўку, а Піркс проста праляцеў метраў з восем каля пліты і павіс; крыху ніжэй была іншая шчыліна і адтуль ужо з'язджалі яны па чарзе; калі Масена спытаў, чаму яны вяртаюцца, Піркс адказаў:

— Я знайшоў яго.

— Анэля?

— Так. Ён упаў. Ляжыць там, унізе.

Спуск заняў не менш як гадзіну; Піркс без жалю расставаўся з крукамі; наогул, гэта было цікавае пачуццё — думаць, што ніколі ўжо не паставяць тут свае нагі ні ён, ні нейкі іншы чалавек, а ў гэтай скале будуць тырчаць кавалкі жалеза, апрацаванага на Зямлі, і што гэта будзе ўжо на стагоддзі — а магчыма, назаўсёды.

Круль падбег да іх, калі яны, стаўшы нагамі на роўнае, зрабілі некалькі няўпэўненых крокаў, нібы адвыклі ад звычайнай хады; Круль здалёк закрычаў, што знайшоў непадалёку кінутыя Анэлем рэактыўныя кабуры; робат зняў іх знарок, перш чым узысці на сцяну, што было яўным доказам яго аберацыі, бо толькі яны ў выпадку падзення маглі яго выратаваць.

Масена, здавалася, наогул не звяртаў увагі на гэтыя адкрыцці Круля — ён не збіраўся хаваць, чаго каштавала яму гэтая дарога; наадварот — дэманстратыўна ўсеўся на

валун, шырока расставіў ногі і нібы раскашаваў ад адчування цвёрдага грунту, занадта старанна выціраў хустачкай твар, лоб і шыю.

Піркс сказаў Крулю, што Анэль упаў; праз некалькі хвілін яны пайшлі яго шукаць. Пошукі былі кароткія. Ён падаў сама меней з вышыні трыста метраў. Панцыр яго разляцеўся на кавалкі, металічны чэрап таксама, і яго монакрышталічны мозг стаў дробнымі шклянымі асколкамі, раскіданымі ва ўсе бакі — яны блішчалі на белаватых каменнях нібы слюда. На шчасце, Круль не аказаўся дробязным і не пачаў даказваць, што ўзыходжанне было цалкам непатрэбным. Ён толькі не без задавальнення паўтараў, што Анэль распраграмаваўся — пакінутыя кабуры стопрацэнтны доказ. На Масену ўзыходжанне паўплывала не лепшым чынам; ён не спрабаваў нават пярэчыць, і ўвогуле здавалася, што ён будзе тым больш задаволены, чым хутчэй іх група будзе расфарміравана і яны па-добраму расстануцца. Таму вярталіся моўчкі, тым больш што Піркс не лічыў патрэбным дзяліцца з таварышамі сваімі ўражаннямі аб здарэнні. Ён быў перакананы, што Анэль разбіўся не ад непаладкаў, а тое, што адбылося, не мела нічога агульнага з нейкімі монакрышталямі або мнестронамі, бо хіба ж ён, Піркс, таксама «распраграмаваўся», што так настойліва хацеў пакарыць гэтую сцяну? Проста Анэль больш быў падобны на сваіх канструктараў, чым ім гэтага хацелася. Калі ён выконваў сваё заданне, у яго заставалася яшчэ шмат часу — бо ён быў надта кемлівы і акуратны выканаўца. Ён не толькі бачыў, але і разумеў наваколле; ён быў створаны для вырашэння складаных задач, гэта значыць для гульні, а там спатрэбілася гульня не абы-якая — а з найвышэйшай стаўкай. Піркс не мог стрымацца ад усмешкі, калі падумаў пра слепату Круля і Масены; тое, што яны знайшлі свядома адкладзеныя Анэлем рэактыўныя патроны, узялі за доказ — да таго ж цалкам — бяспрэчны,— што робат распраграмаваўся. Але кожны чалавек зрабіў бы менавіта так, у іншым выпадку справа ўвогуле не мела б сэнсу, а ператварылася б у разнавіднасць гімнастыкі. О не, гаворка не пра тое. І ніякія вывады, ураўненні, ніякія крывыя не здолелі б яго пераканаць. Піркса здзіўляла толькі адно — што Анэль не ўпаў раней, бо ён ішоў адзін, без навыкаў, без трэніроўкі — гэтага ён не ведаў, бо яго стварылі не дзеля таго, каб ён змагаўся са скаламі. Што было б, калі б ён вярнуўся? Піркс зноў, невядома чаму, быў перакананы, што яны ніколі не даведаліся б пра гэта. Ва ўсякім разе ад Анэля. А ў тым месцы, не маючы ні

крукоў, ні напарніка, а можа, нават не ведаючы пра іх існаванне наогул, ён адважыўся скокнуць. Што ён тады думаў? Напэўна, нічога, як і сам Піркс. Ці дакрануўся ён, хоць на імгненне, да краю расколіны? Калі так, то там павінен застацца след, шчопці радыеактыўных атамаў, якія будуць пакрысе распадацца, аж пакуль не выпарацца і не знікнуць.

Піркс ведаў яшчэ адно: ён нікому пра гэта не скажа. Кожны на яго месцы настойліва прытрымліваўся б гіпотэзы дэфекту, найбольш простай і найбольш натуральнай, адзінай, якая не змяняла карціны свету.

Да стаянкі дайшлі пасля поўдня. Іх выцягнутыя цені жвава рухаліся падчас працы; яны паспешна збіралі барак, які знікаў цэлымі секцыямі, аж пакуль ад яго не засталася ўтаптаная чатырохвугольная пустка; плылі хмары, а Піркс пераносіў скрынкі, згортваў лісты — рабіў усё тое, што павінен быў рабіць Анэль; на гэтай думцы, калі ён яе ўсвядоміў, Піркс затрымаўся, перш чым перадаў груз у працягнутыя рукі Масены.

# ЭРЫК ФРЭНК РАСЕЛ

# НЕБА, НЕБА...

Ён шырока расчыніў літыя чыгунныя дзверцы, загледзеўся ў вогнетрывалае чэрава печы, што адкрылася перад ім, і ўздыхнуў на поўныя грудзі. Быццам узіраешся ў машынны адсек касмічнага карабля. Тут, за дзверцамі, павінны быць полымя і грукат, а з таго боку агню — зоркі. Падлога пад нагамі ўздрыгвае. На куртцы ў яго сярэбраныя гузікі, на каўняры і пагонах — маленькія сярэбраныя каметы.

— Ну вось,— грымнула над вухам.— Зноў ты як адчыніў дзверцы, дык адразу і аслупянеў. І што ўжо там такога незвычайнага ў гэтай печы?

Куртка з сярэбранымі гузікамі і каметамі знікла, застаўся толькі засалены белы халат. Падлога пад нагамі больш не ўздрыгвала, адно рыпелі маснічыны. Зоркі пагаслі, нібыта іх ніколі і не было.

— Нічога, мсье Траба.

— Тады ўвага! Распалі агонь, як цябе вучылі.

— Зараз, мсье Траба.

Ён схапіў ахапак пахучага хваёвага галля, сунуў яго ў печ і доўгай жалезнай качаргой запхнуў як мага глыбей. Потым другі ахапак, трэці. Пасля падабраў з падлогі дзесятак маленькіх, клейкіх ад смалы хваёвых шышак і па адной закінуў туды ж, у самую сярэдзіну. І задуменна паглядзеў на ўсё, што зрабіў сваімі рукамі. Ракета, зараджаная хваёвымі шыпулькамі і шышкамі. Ото дурнота!

— Жуль!

— Зараз, мсье Траба.

Ён хуценька хапаў хваёвыя галінкі, сучкі і маленькія паленцы і соваў іх у печ, пакуль не напхаў колькі можна было. Ну вось, усё гатова.

Цяпер, каб узляцець, караблю патрэбна адна толькі іскра. Хтосьці на самым версе павінен пільна сачыць, каб разбеглася ўся наземная каманда, каб не трапіў ніхто пад

полымя, што зараз вырвецца з соплаў. Вось умелая шматвопытная рука ледзь прыкметна кранула пурпуровую кнопку. І адразу ж недзе пад нагамі выццё, шалёны дрогат і пад'ём, спачатку павольны, потым усё хутчэйшы і хутчэйшы...

— Ото гора маё! Зноў ён нібы скамянеў! І завошта толькі, за якую віну лёс паслаў мне такога разяву!

Траба рынуўся паўз яго да печы, сунуў у яе запалены жмут паперы і з бразгам зачыніў дзверцы. Потым павярнуўся да свайго памочніка, грозна ссунуў калматыя чорныя бровы.

— Жуль Рыу, табе ўжо шаснаццаць. Так?

— Ага, мсье Траба.

— Значыцца, ты ўжо дарослы і павінен разумець: каб хлеб спёкся, у гэтым пекле павінна быць па-сапраўднаму горача. А на гэта патрэбен агонь. А каб быў агонь, яго трэба запаліць. Правільна я кажу?

— Ага, мсье Траба,— сарамліва згадзіўся ён.

— Дык чаму ж ты прымушаеш мяне паўтараць табе ўсё гэта тысячу разоў?!

— Я абэлтух, мсье Траба.

— Калі б ты быў проста абэлтух, усё было б зразумела і я табе дараваў бы. Пан бог на тое і стварае дурняў, каб людзям было каго шкадаваць.

Траба сеў на даверху насыпаны, прыпарушаны мукою мех, валасатай рукою прыгарнуў да сябе хлапчука і даверліва загаварыў зноў:

— Твае думкі блукаюць, як у закаханага, якога сяброўка прагнала прэч,— дзесьці далёка-далёка. Скажы мне, дружа, хто яна?

— Яна?

— Ну але, гэтая дзяўчына, гэтае нябеснае стварэнне, якое задурыла табе галаву.

— Ніякай дзяўчыны няма.

— Няма?— Траба шчыра здзівіўся.— Ты пакутуеш, перажываеш, і тут не замешана дзяўчына?

— Не, мсье.

— Дык пра што ж ты марыш?

— Пра зоркі, мсье.

— Сто тысяч чарцей!— Траба бездапаможна развёў рукамі і з нямою мальбою ўтаропіўся ў столь.— Пекарчук! І пра што ж ён марыць? Пра зоркі!

— Я нічога не магу з сабою зрабіць, мсье.

— Вядома, не можаш. Табе ўсяго шаснаццаць.— Траба пацiснуў плячамі.— Я задам табе два пытанні: як жыць

людзям, калі ніхто не будзе пячы хлеб, і як ляцець да зорак, калі на свеце не застанецца людзей?

— Не ведаю, мсье.

— Сярод зорак лятаюць касмічныя караблі,— разважаў далей Траба.— А чаму? Ды толькі таму, што на Зямлі ёсць жыццё.— Ён нагнуўся і падняў даўжэзны цудоўна ўпечаны хлеб з залацістай скарыначкай.— А жыццё падтрымліваецца вось гэтым!

— Праўда, мсье.

— Думаеш, мне не хацелася б паблукаць сярод зорак? — спытаў Траба.

— Вам, мсье?— Жуль вылупіў на яго вочы.

— Само сабой зразумела. Але я ўжо стары і сівы і ў сваёй справе таксама праславіўся. Шмат ёсць такога, чаго я рабіць не ўмею і ніколі ўжо не навучуся. Але я стаў майстрам: я пяку цудоўны хлеб.

— Гэта праўда, мсье.

— І не забудзься,— Траба пагразіў пальцам,— гэта не якая-небудзь размазня машыннага замесу ў безансонскай электрычнай пякарні. Не, гэта самы сапраўдны хлеб, ад душы прыгатаваны жывымі чалавечымі рукамі. І я пяку яго старанна, пяку з любоўю — вось у чым сакрэт. У кожную выпечку я ўкладваю часцінку свае душы. Таму вось я і майстар. Ты зразумеў?

— Зразумеў, мсье.

— Дык вось, Жуль: людзі прыходзяць сюды не проста купіць хлеба. Канечне, на шыльдзе над маім акном сказана: «П'ер Траба, пекар». Але гэта, як і належыць, усяго толькі сціпласць. Бо што вылучае майстра, што для яго характэрна? Сціпласць!

— Так, мсье Траба.

— Я толькі адчыню печ, па ўсёй вуліцы паплыве дух гарачага хлеба,— і ўжо з усіх бакоў да мяне спяшаюцца людзі са сваімі кашолкамі. А ведаеш чаму, Жуль? Таму, што яны маюць цудоўны густ і іх ажно нудзіць ад гэтых сырых цаглін, якія выдае электрычная пякарня. І яны ідуць сюды купіць плён майго майстэрства. Праўду я кажу?

— Праўду, мсье.

— Тады радуйся: у свой час і ты станеш майстрам. А пакуль што забудземся на зоркі: яны не для нас з табою.

Тут Траба ўстаў з меха і пачаў пасыпаць ацынкаваны стол мукою.

Жуль моўчкі пазіраў на дзверцы печы: там унутры штосьці гуло, трашчала, сіпела. Пах ад палаючых хваёвых

дроў напоўніў пякарню і заструменіў па вуліцы. Праз нейкі час Жуль адчыніў дзверцы, і ў твар яму дыхнула гарачынёй, раз'юшанай і ўдушлівай, як полымя, што вырываецца з ракеты.

*Неба, неба, я прайду з краю ў край, я прайду з краю ў край неба, неба...*

Палкоўнік Піне бліснуў манаклем, перагнуўся цераз прылавак і тыцнуў пальцам у напалову схаваны ліст бляхі.

— І, калі ласка, адзін такі.

— Гэтыя хлебцы не прадаюцца, пане палкоўнік,— абвясціў Траба.

— Чаму гэта?

— Гэта ўсё прамашкі Жуля: яшчэ хвілінка — і яны перагарэлі б на вугалі. Я прадаю толькі сапраўдны тавар. Каму ахвота есці вуголле?

— Мне,— паведаміў Піне.— Тут у мяне з жонкай ніяк не супадаюць густы. Вечна ў яе ўсё недасмажана і недапечана. Хоць бы раз у жыцці паласавацца чым-небудзь гэтакім, што было б прапечана да храбусцення! Так што ўжо дазвольце, калі ласка, мне адчуць асалоду ад адной з прамашак Жуля.

— Але, мсье...

— І не спрачайцеся!

— Мадам нізавошта не возьме гэтакі жахлівы хлеб.

— У мада́м спатканне з цырульнікам, і яна даверыла мне ўсе пакупкі,— растлумачыў палкоўнік.— І ўжо тут я распараджуся, як мне хочацца. Ды зразумейце ж, шаноўны Траба, не магу я прапусціць гэткі зручны выпадак. Дык што, зробіце вы такую ласку і прадасце мне гэты апетытны вугалёк ці мне давядзецца ісці ў электрычную пякарню?

Траба ўздрыгнуў нібы ад болю, насупіўся, выбраў на лісце бляхі найменш падгарэлы хлеб, старанна загарнуў яго, каб схаваць ад занадта цікаўных вачэй, і нязграбна падаў палкоўніку.

— Божа збаў, гэты Жуль знайшоў мне аднаго пакупніка, але сто іншых я праз яго страчу.

— Ён вас засмучае? — пацікавіўся Піне.

— З ім адны пакуты. Ні на хвіліну не зводзь з яго вока. Толькі павярнуўся спіной, вось так,— Траба паказаў менавіта як,— і на́ табе! Ён ужо забыўся пра сваю работу і лунае дзесьці сярод зорак, нібы той паветраны шарык, што адарваўся ад ніткі.

— Сярод зорак, кажаце?

— Ну але, пане палкоўнік. Мой Жуль — заваёўнік космасу і прыкаваны да Зямлі толькі нешчаслівым збегам абставін. І з такога вось цеста я павінен зрабіць пекара.

— Якія ж гэта абставіны?

— Маці яму сказала: «У пякарні Траба патрэбен чаляднік. Лепшага выпадку ў цябе не будзе. Кідай школу, станеш пекарам». І ён прыйшоў да мяне. Разумееце, хлопец ён паслухмяны, ды рэдка калі не лунае ў воблаках.

— Ох, ужо гэтыя маці...— сказаў Піне. Ён працёр свой манокль і зноў уставіў яго ў вока.— Мая матуля хацела, каб я стаў сабачым цырульнікам. Яна казала, што гэта вельмі высакародны занятак і да таго ж даходны. У яе свецкіх сяброўак з пудзелямі ды балонкамі я, вядома, буду нарасхват.— Яго доўгія гнуткія пальцы быццам стрыглі і завівалі сабачую поўсць, а на твары з'явілася агіда.— І я спытаў сам у сябе: хто ж я такі, што ж я такое, калі згаджуся рабіць педыкюр сабакам? Завербаваўся ў Касмічны корпус, і мяне паслалі служыць на Марс. Калі мая матуля даведалася пра гэта, яе ледзь не разбіў паралюш.

— Дзіва што,— паспачуваў Траба.

— А сёння яна ганарыцца, што яе сын афіцэр і на пагонах у яго чатыры каметы. Маці ўсе такія. Ніякага і следу логікі.

— Бадай што, гэта нават і лепей,— заўважыў Траба.— Бо інакш некаторыя з нас ніколі б і на свет не нарадзіліся.

— Пакажыце мне гэтага зорнага летуценніка,— загадаў Піне.

— Жуль!— гукнуў Траба, павярнуўся да пякарні і прыставіў далоні рупарам да рота:— Жуль, хадзі сюды!

Ніякага адказу.

— Бачыце?— Траба бездапаможна развёў рукамі.— Проста не ведаю, што і рабіць.— Ён пайшоў у пякарню, і адтуль даляцеў яго гучны, нецярплівы голас:— Я цябе клікаў. Чаму ты не абзываешся? Пан палкоўнік хоча цябе зараз жа бачыць. Прыгладзь валасы ды паспяшайся.

З'явіўся Жуль, ішоў ён нехаця, нага за нагу, валасы і рукі ў муцэ. Ясныя шэрыя вочы яго глядзелі прама і шчыра і не апусціліся пад выпрабавальным позіркам палкоўніка.

— Значыцца, ты сумуеш па зорках,— сказаў Піне, з цікавасцю разглядаючы юнака.— Чаму б гэта?

— Чаму чалавеку чаго-небудзь хочацца?— адказаў Жуль і няўцямна паціснуў плячамі.— Мабыць, так я ўжо створаны.

— Цудоўны адказ,— ухваліў Піне.— Так ужо чалавек створаны. Тысячы людзей кожную гадзіну давяраюць сваё жыццё аднаму-адзінаму пілоту. І нічога кепскага з імі не здараецца. А чаму? Ды таму, што так ужо ён створаны — пілотам.— Палкоўнік павольна агледзеў Жуля з ног да галавы.— І ўсё-такі ты пячэш хлеб.

— Павінен жа нехта і хлеб пячы,— умяшаўся Траба.— Не ўсім жа лятаць да зорак.

— Маўчаць!— загадаў Піне.— Вы ўступаеце ў змову з жанчынай, каб забіць жывую душу,— значыцца, вы забойца. Зрэшты, гэтага трэба было чакаць. Вы ж ураджэнец берагоў Роны, а там забойцаў процьма.

— Пане палкоўнік, я зняважаны...

— Хочаш ты і надалей служыць гэтаму забойцу?— спытаў палкоўнік у Жуля.

— Мсье Траба быў гэтакі добры да мяне. Вы мне даруйце...

— А як жа яму не быць добрым,— перабіў Піне.— Ён хітрун. Усе Траба заўсёды былі хітрыя.— Ён весела падміргнуў пекару, Жуль гэта прыкмеціў, і ў яго адразу зрабілася лягчэй на душы.— Але ад усіх навабранцаў абавязкова патрабуецца адно,— гаварыў далей палкоўнік ужо больш сур'ёзным тонам.— Паспрабуй здагадацца, што менавіта.

— Кемлівасць, пане палкоўнік?— рызыкнуў Жуль.

— Так, безумоўна, але адной кемлівасці мала. Патрабуецца, каб навабранец усёй сваёй істотай ірваўся ў космас.

— Дык гэтак жа і ва ўсім,— зноў умяшаўся Траба.— Калі любіш сваю работу, працуеш як мага стараннеей і чым найлепш. От узяць хоць бы мяне: калі б мне было ўсё адно, што хлеб, што не хлеб, я, мусіць, жаваў бы цяпер тытунь у электрычнай пякарні і рук бы ніколі не мыў.

— Кожны год у Касмічны каледж паступаюць дзесяць тысяч юнакоў,— сказаў Піне Жулю.— І болей за восем тысяч яго не заканчваюць. Ім не хапае пораху вытрымаць чатыры гады ўпартай працы і засяродзіць усе свае думкі і ўсе сілы душы на адным. Так што шмат хто кідае на паўдарозе. Сорам і ганьба! Ты згодзен?

— Згодзен, пане палкоўнік, сорам і ганьба,— пацвердзіў Жуль і насупіў бровы.

— Ха!— сказаў Піне, вельмі задаволены.— У такім выпадку давай пазбавім гэтага крывапіўца Траба яго здабычы. Мы знойдзем яму другога хлопца, які створаны для таго, каб стаць пекарам.

— Але, мсье...

— Я дам табе рэкамендацыю ў Касмічны каледж і ўзамен прашу ў цябе толькі аднаго.

У Жуля заняло дух.

— О пане палкоўнік! Чаго ж?

— Заўсёды будзь такі, каб мне не было за цябе сорамна!

Ён сядзеў у сябе ў кабіне, вочы ў яго запалі і пачырванелі ад стомы, а «Прывід» імкліва праразаў прастору. За дваццаць напружаных, пакутлівых гадоў ён збудаваў цэлую лесвіцу і прыступка за прыступкай падняўся да чына капітана. Цяпер ён славіўся як адзін з самых дасведчаных, спрактыкаваных камандзіраў касмічнай службы. І ўсё гэта непарушна грунтавалася на адной запаведзі, якая падтрымлівала яго ў самыя цяжкія хвіліны: *«Заўсёды будзь такі, каб мне не было за цябе сорамна!»*

Яго маці і палкоўнік Піне даўно памерлі, але да апошняй сваёй часіны яны ім ганарыліся: ён жа стаў капітанам.

Ён быў штурманам, другім пілотам, потым першым, і месца яго было на носе карабля, як ён заўсёды марыў, і ён сапраўды акунаўся ў неабсяжны зорны свет, які гэтак любіў. Мерна чаргаваліся гадзіны, што былі адведзены на сон, адпачынак і работу, і, калі ён працаваў, яго ўвесь час перапаўняла неаслабнае захапленне перад тым, што яму даводзілася бачыць, назіраць, вывучаць.

А цяпер ён прамяняў усё гэта на добраахвотнае зняволенне ў нетрах карабля, і навокал ужо нічога не было — адны толькі цьмяныя сцены са сплаву тытану ды завалены паперамі стол.

У любую хвіліну работы, у любую хвіліну адпачынку, а нярэдка і перарываючы сон ён адказваў на пытанні, прымаў рашэнні, рабіў запісы ў спецыяльных кнігах, запаўняў тысячы дзелавых бланкаў. Як кажуць, спрэс адна пісаніна...

Праз гадзіну пасля вячэры:

— Прашу прабачэння, капітан. Гэты таўстун з Дзюсельдорфа зноў напіўся да зялёных чорцікаў. Выцяў сцюарда, які спрабаваў яго ўціхамірыць. Прашу дазволу замкнуць яго на гаўптвахце.

— Дазваляю.

Або сярод неспакойнага чуйнага сну хтосьці рашуча трасе яго за плячо:

— Прашу прабачэння, капітан. У дзесятай і адзінаццатай дзюзах раскалолася пракладка. Прашу дазволу адключыць энергію на дзве гадзіны, пакуль будзе праводзіцца рамонт.

— Дазваляю. Няхай дзяжурны штурман паведаміць мне пра каардынаты, як толькі здолее весці далей палёт.

Праз дзве гадзіны зноў тармосяць за плячо:

— Прашу даравацьза турботы, капітан. Рамонт закончаны. Вось нашы каардынаты.

Пытанні.

Запаўненне бланкаў.

Просьбы, даклады, запатрабаванні, здарэнні, рашэнні, адказы, распараджэнні, загады. Ні хвіліны спакою.

І зноў паперы.

— Прашу прабачэння, капітан. Двое пасажыраў, Уільям Арчэр і Мэрыён Уайт, хочуць пажаніцца і аформіць шлюб. Калі вам будзе зручна правесці абрад.

— Медыцынскі агляд прайшлі?

— Прайшлі, капітан.

— Пярсцёнак у жаніха ёсць?

— Няма, капітан.

— Даведайцеся дакладны памер і выдайце яму пярсцёнак з карабельных запасаў па звычайнай цане — дваццаць долараў.

— А калі будзе абрад, капітан?

— У чатыры склянкі. Паведаміце мне, ці задавальняе іх гэты час.

І зноў паперы. Два пасведчанні аб нараджэнні і іх копіі, два пасведчанні аб эміграцыі, дзве медыцынскія даведкі, два дазволы на ўезд. Пасведчанні аб шлюбе ў трох экземплярах — для ўрада Зямлі, для ўрада Сірыуса і для Уліковага аддзела Кіраўніцтва касмічнай службы. І адзін арыгінальны экземпляр для маладой.

І гэтак без канца, усе справы, якія толькі можна ўявіць, вялікія і малыя, у любы час дня і ночы, без усякага перадыху. Калі карабель пасля доўгага палёту нарэшце прызямляўся, адзін толькі капітан спускаўся ўніз па трапе няўпэўненымі крокамі, галава ў яго кружылася ад пастаяннага нервовага напружання і недасыпання, і гэта нікога не здзіўляла, як быццам так і трэба. Часам яго адольвала спакуса падаць рапарт з просьбай панізіць яго ў чыне, але ж...

*«Заўсёды будзь такі, каб мне не было за цябе сорамна!»*

«Прывід» зрабіў пасадку ў Баталбары, на планеце Дэйсед сістэмы Сірыуса. Палёт працягваўся дзвесце восемдзесят пяць зямных сутак.

Калі былі скончаны ўсе фармальнасці, што звязаны з пасадкай, капітан Жуль Рыу сышоў з карабля і нібы ў тумане паплёўся да гасцініцы матулі Крэчмер. Так было заведзена, і так раілі рабіць самыя лепшыя псіхолагі.

Камандзіру карабля патрэбен глыбокі асвяжальны сон, прытым сон доўгі і непрабудны. Але перш за ўсё яму трэба назусім пазбыцца ўсякіх думак пра карабель, пра палёт і пра ўсё, што з гэтым звязана. Ён павінен настроіць сябе так, каб заснуць спакойным, як у дзіцяці, сном і праспаць сама менш суткі. Для гэтага трэба найперш выкінуць з галавы ўсе нядаўнія клопаты і схавацца ў сваім куточку раю нябеснага.

Матуля Крэчмер, паўнагрудая гаспадыня гасцініцы родам з Баварыі, па-сяброўску яму кіўнула:

— Гер капітан Рыу. Я душа рата. Патаць фам фсё, як звышайна?

— Ага, калі ласка, мадам Крэчмер.

Ён прайшоў у пакой за барам. У рэстаране, вялікім, людным і шумным, сядзелі камандзіры караблёў, якія прызямліліся ўжо некалькі дзён назад і паспелі зусім акрыяць. А пакойчык ззаду быў гуканепранікальны, у заваленых падушкамі шэзлонгах распасцерліся ў паўзабыцці яшчэ тры гэтакія ж, як і ён, капітаны. Ён з імі не загаварыў. І яны з ім не павіталіся, мабыць, нават не заўважылі яго прыходу. Яны ўжо стукаліся ў дзверы раю.

Неўзабаве матуля Крэчмер прынесла яму шклянку чыстага моцнага рому, крыху падагрэтага і прыпраўленага некалькімі кроплямі алею з карыцы. Жуль Рыу адкінуўся ў шэзлонгу, прымасціўся зручней і аддаўся доўгачаканаму спакою.

Ад прыпраўленага рому ўнутры разлілося цяпло і трошкі кружылася галава. Цішыня стуліла яму павекі. Павольна, вельмі павольна ён аддаліўся ад свае непамернай стомы і ўвайшоў у той, іншы свет.

Шыракатварыя румяныя сялянкі ў карункавых каптурыках, у руках кашолкі. Доўгія бляхі слізгацяць па духмяным хваёвым попеле і выплываюць з печы, нагружаныя хлебам — доўгімі, пляскатымі, фігурнымі, плеценымі выпечкамі.

Звонкі шчэбет галасоў жанчын, што перабіраюць усе вясковыя навіны, і невыказны водар ад спаленых смалістых дроў і свежага хлеба.

Неба, неба!

# РОБЕРТ ШЭКЛІ

# БІТВА

Вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр імкліва ўвайшоў у апаратыўную залу і грымнуў:

— Вольна!

Тры яго генералы паслухмяна сталі па камандзе вольна.

Фетэрэр зірнуў на гадзіннік і сказаў:

— Лішняга часу ў нас няма. Паўторым яшчэ раз папярэдні план бою.

Ён падышоў да сцяны і разгарнуў гіганцкую карту Сахары.

— Паводле найбольш дакладнай тэалагічнай інфармацыі, якую мы атрымалі, Сатана мае намер вывесці свае сілы на паверхню вось у гэтым пункце.— Ён тыцнуў у карту тоўстым пальцам.— У першай лініі будуць д'яблы, дэманы, суккубы, інкубы і ўсе іншыя гэтага ж класа. Правым флангам камандуе Веліял, левым — Вельзевул. Яго Сатанінская Вялікасць узначаліць цэнтр.

— Папахвае сярэднявеччам,— прамармытаў генерал Дэл.

Увайшоў ад'ютант генерала Фетэрэра. Яго твар свяціўся шчасцем пры думцы пра Абяцанае Зверху.

— Сэр,— сказаў ён,— там зноў святар.

— Зрабіце ласку стаць смірна,— строга сказаў Фетэрэр.— Нам яшчэ трэба будзе біцца і перамагчы.

— Слухаю, сэр,— адказаў ад'ютант і выцягнуўся. Радасць на яго твары крышку прыгасла.

— Святар, гм?— Вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр задуменна павару шыў пальцамі.

Пасля Прышэсця, пасля таго, як стала вядома, што наперадзе Апошняя Бітва, працаўнікі на сусветнай ніве рэлігій зрабіліся сапраўднай карай боскай. Яны перасталі грызціся паміж сабою, што само па сабе было пахвальна, але, апрача таго, яны спрабавалі забраць у свае рукі вядзенне вайны.

— Ганіце яго,— сказаў Фетэрэр.— Ён жа ведае, што мы распрацоўваем план Армагедона.

— Слухаю, сэр,— сказаў ад'ютант, аддаў чэсць, павайсковаму павярнуўся і выйшаў, крочачы як на парадзе.

— Пойдзем далей,— сказаў вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр.— У другім эшалоне Сатаны будуць уваскрэшаныя грэшнікі і размаітыя стыхійныя сілы зла. У ролі яго бамбардзіровачнай авіяцыі выступяць анёлы, што ў свой час былі зрынуты з неба. Іх сустрэнуць робаты-перахватчыкі Дэла.

Генерал Дэл панура ўсміхнуўся.

— Пасля ўстанаўлення кантакту з праціўнікам аўтаматычныя танкавыя карпусы Мак-Фі рушаць на яго цэнтр пры падтрымцы робатапяхоты генерала Онгіна,— гаварыў далей Фетэрэр.— Дэл будзе кіраваць вадароднай бамбардзіроўкай тылоў, якая павінна быць праведзена максімальна масіравана. Я па меры неабходнасці буду ў розных пунктах уводзіць у бой механізаваную кавалерыю.

Вярнуўся ад'ютант і выцягнуўся па стойцы «смірна».

— Сэр,— сказаў ён,— святар адмовіўся ісці адсюль. Ён кажа, што павінен абавязкова пагаварыць з вамі.

Вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр хацеў быў сказаць «не», але завагаўся. Ён успомніў, што гэта ўсё-такі Апошняя Бітва і што праціўнікі на ніве рэлігій сапраўды маюць да гэтага бою нейкія адносіны. І ён рашыў выкраіць святару пяць мінут.

— Папрасіце яго зайсці,— сказаў ён.

Святар быў адзеты ў звычайныя пінжак і штаны, якія сведчылі, што ён з'явіўся сюды не прадстаўніком нейкай канкрэтнай рэлігіі. Яго стомлены твар дыхаў рашучасцю.

— Генерал,— сказаў ён,— я прыйшоў да вас як прадстаўнік усіх працаўнікоў на сусветнай ніве рэлігіі — патэраў, равінаў, мул, пастараў і ўсіх іншых. Мы просім вашага дазволу, генерал, прыняць удзел у Бітве Божай.

Вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр нервова забарабаніў пальцамі па сцяне. Ён лічыў бы за лепшае захаваць добрыя адносіны з гэтай браціяй. Што ні кажы, а нават яму, вярхоўнаму галоўнакамандуючаму, не пашкодзіць, калі ў патрэбны момант за яго замовяць добрае слова...

— Зразумейце маё становішча,— тужліва прамовіў Фетэрэр.— Я — генерал, мне трэба будзе кіраваць бітвай...

— Ды гэта ж Апошняя Бітва,— сказаў святар.— У ёй трэба ўдзельнічаць людзям.

— Але ж яны ў ёй і ўдзельнічаюць,— адказаў Фетэрэр.— Цераз сваіх прадстаўнікоў, вайскоўцаў.

Святар паглядзеў на яго. Фетэрэр гаварыў далей:

— Вы ж не хочаце, каб гэтая бітва была прайграна, хіба не так? Каб перамог Сатана?

— Зразумела, не,— прамармытаў святар.

— У такім разе мы не маем права рызыкаваць,— заявіў Фетэрэр.— Усе ўрады згадзіліся з гэтым, праўда? Так, вядома, было б вельмі прыемна ўвесці ў Армагедон масіраваныя сілы чалавецтва. Даволі сімвалічна. Але ці маглі б мы ў гэтым выпадку быць упэўнены ў перамозе?

Святар паспрабаваў штосьці запярэчыць, але Фетэрэр паспешліва загаварыў зноў:

— Нам жа невядома сіла сатанінскіх полчышчаў. Мы павінны кінуць у бой усё лепшае, што ў нас ёсць. А гэта азначае — аўтаматычныя арміі, робаты-перахватчыкі, робаты-танкі, вадародныя бомбы.

Святар меў вельмі разгублены выгляд.

— Але ў гэтым ёсць штосьці амаральнае,— сказаў ён.— Няўжо вы не маглі б уключыць у свае планы людзей?

Фетэрэр абдумаў гэтую просьбу, але выканаць яе было немагчыма. Дэталёва распрацаваны план бою быў дасканалы і забяспечваў верную перамогу. І калі ўвесці ў бітву кволы чалавечы матэрыял, гэта магло б толькі ўсё сапсаваць. Ніякая жывая плоць не вытрымала б грукату гэтай атакі механізмаў, высокіх энергій, што пранізваюць паветра, усёпаглынаючай сілы агню. Любы чалавек загінуў бы яшчэ за сто міль ад поля бою, так і не ўбачыўшы ворага.

— Баюся, гэта немагчыма,— сказаў Фетэрэр.

— Шмат хто,— сурова прамовіў святар,— лічыць, што было памылкай даручыць Апошнюю Бітву вайскоўцам.

— Прабачце,— бадзёра запярэчыў Фетэрэр,— гэта паражэнчая балбатня. З вашага дазволу...— Ён паказаў на дзверы, і святар засмучана выйшаў.

— Ох, ужо гэтыя цывільныя,— уздыхнуў Фетэрэр.— Такім чынам, панове, вашы войскі гатовы?

— Мы гатовы біцца за Яго,— горача прамовіў генерал Мак-Фі.— Я магу паручыцца за кожнага аўтаматычнага салдата пад маім началам. Іх метал зіхаціць, іхнія рэле абноўлены, акумулятары поўнасцю зараджаны. Сэр, яны літаральна рвуцца ў бой.

Генерал Онгін выйшаў з задумення.

— Наземныя войскі гатовы, сэр.

— Паветраныя сілы гатовы,— сказаў генерал Дэл.

– Цудоўна,— падвёў вынікі генерал Фетэрэр.— Астатнія падрыхтаванні закончаны. Тэлевізійная перадача для насельніцтва ўсяго зямнога шара забяспечана. Ніхто,

ні багаты, ні бедны, не будзе пазбаўлены відовішча Апошняй Бітвы.

— А пасля бітвы...— пачаў генерал Онгін і змоўк, як толькі глянуў на Фетэрэра.

Той насупіўся. Ён не ведаў, што павінна адбыцца пасля бою. Гэтым, відаць, зоймуцца рэлігійныя ўстановы.

— Магчыма, будзе наладжаны ўрачысты парад або яшчэ што-небудзь накшталт гэтага,— няпэўна адказаў ён.

— Вы маеце на ўвазе, што мы будзем адрэкамендаваны... Яму?— спытаў генерал Дэл.

— Дакладна не ведаю,— адказаў Фетэрэр,— але магчыма. Усё ж такі... Вы разумееце, што я хачу сказаць.

— Але як мы павінны будзем адзецца?— разгублена спытаў генерал Мак-Фі.— Якая ў такіх выпадках прадпісана форма адзення?

— Што носяць анёлы?— пацікавіўся Фетэрэр у Онгіна.

— Не ведаю,— сказаў Онгін.

— Белае ўбранне?— выказаў здагадку генерал Дэл.

— Не,— рашуча адказаў Фетэрэр.— Надзенем парадную форму, але без ордэнаў.

Генералы кіўнулі.

І вось прыйшоў час.

У прыгожых баявых уборах сілы Пекла рухаліся па пустыні. Верашчалі пякельныя флейты, бухкалі пустацелыя барабаны — пасылалі наперад прывіднае воінства. Уздымаючы клубы пяску, танкі-аўтаматы генерала Мак-Фі рынуліся на сатанінскага ворага. І тут жа бамбардзіроўшчыкі-аўтаматы Дэла з візгатам пранесліся ў вышыні, звальваючы бомбы на легіёны пагіблых душ. Фетэрэр мужна кідаў у бой сваю механічную кавалерыю. У гэты хаос рушыла робатапяхота Онгіна, і метал зрабіў усё.

Орды пякельных сіл уразаліся ў строй, раздзіраючы на шматкі танкі і робаты. Аўтаматычныя механізмы паміралі, мужна абараняючы шматок пяску. Бамбардзіроўшчыкі Дэла падалі з неба пад ударамі анёлаў цемры, якіх вёў Мархозій; яго крылы закручвалі паветра ў тайфуны.

Пашкуматаная шарэнга робатаў стрымлівала націск гіганцкіх злых духаў, якія крышылі іх і наганялі жах у сэрцы тэлегледачоў ва ўсім свеце, тэлегледачоў, якія не зводзілі зачараваных вачэй з экранаў. Робаты біліся як мужчыны, як героі, яны як мага стараліся адагнаць сілы зла.

Астарот пракрычаў загад, і Бегемот цяжка рушыў у атаку. Веліял на чале кліна д'яблаў наваліўся на левы фланг генерала Фетэрэра. Метал віскатаў, электроны вылі ў агоніі, бо не вытрымлівалі гэтага націску.

За тысячу міль ад фронту генерал Фетэрэр выцер дрыготкай рукою спацелы лоб, але ўсё гэтак жа спакойна і непарушна аддаваў распараджэнні, якія кнопкі націснуць і якія ручкі павярнуць. І цудоўныя арміі не падвялі яго. Смяротна пашкоджаныя робаты падымаліся на ногі і не пераставалі змагацца. Разбітыя, знявечаныя, разнесеныя на шматкі выючымі д'ябламі, робаты ўсё-такі ўтрымалі сваю пазіцыю. Тут у контратаку быў кінуты Пяты корпус ветэранаў, і варожы фронт быў прарваны.

За тысячу міль ад лініі агню генералы кіравалі праследаваннем.

— Бітва выйграна,— прашаптаў вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр і адарваўся ад тэлевізара.— Віншую, панове.

Генералы стомлена ўсміхнуліся.

Яны зірнулі адзін на аднаго і радасна загарланілі. Армагедон быў выйграны і сілы Сатаны пераможаны.

Але на іх тэлевізійных экранах штосьці адбывалася.

— Як! Гэта ж... гэта...— пачаў генерал Мак-Фі і змоўк.

Бо па полі бою паміж грудамі знявечанага, патрушчанага металу велічна ступала Ласка Боская.

Генералы маўчалі.

Ласка Боская дакранулася да знявечанага робата.

І робаты заварушыліся па ўсёй пустыні, якая ўсё яшчэ курэла і дымілася пасля бою. Пакарабачаныя, абгарэлыя, аплаўленыя кавалкі металу абнаўляліся.

— Мак-Фі,— прашаптаў вярхоўны галоўнакамандуючы Фетэрэр.— Націсніце на што-небудзь — няхай яны хоць укленчаць, ці што.

Генерал націснуў, але дыстанцыйнае кіраванне не працавала.

А робаты ўжо ўзнімаліся на неба. Іх акружалі анёлы боскія, і робаты-танкі, робатапяхота, аўтаматычныя бамбардзіроўшчыкі ўзнімаліся, узносіліся ўсё вышэй і вышэй.

— Ён бярэ іх жыўцом у рай!— істэрычна ўсклікнуў Онгін.— Ён бярэ ў рай робатаў!

— Адбылася памылка,— сказаў Фетэрэр.— Хутчэй! Пашліце афіцэра сувязі... Не, мы паедзем самі.

Як бачыш падалі самалёт, і яны памчаліся да поля бітвы. Але ўжо было позна: Армагедон скончыўся, робаты зніклі, і пан Бог са сваім воінствам вярнуўся да сябе дадому.

## ЗМЕСТ

*С. Саладоўнікаў, У. Цвяткоў.* «Пасткі» тэхналагічнай цывілізацыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3

*П'ЕР БУЛЬ*

Планета малпаў. Раман. *Пераклаў з французскай Алесь Асташонак* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 9

*АЙЗЕК АЗІМАЎ*

Выродлівы хлапчук. *Пераклаў Генадзь Шупенька* . . . 139

*ЛІНО АЛЬДАНІ*

Месяц дваццаці рук. *Пераклала Ірэна Дабрыян* . . . . . 186

*ФРЭДЭРЫК БРАЎН*

Арэна. *Пераклала Ліна Каўрус* . . . . . . . . . . . . . . . . . 202

*РЭЙ БРЭДБЕРЫ*

Пра вандроўкі вечныя і пра Зямлю. *Пераклаў Сяргей Міхальчук* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 227

*А. Э. ВАН-ВОГТ*

Пачвара. *Пераклала Ліна Каўрус* . . . . . . . . . . . . . . 245

*САКЁ КАМАЦУ*

Смерць Бікуні. *Пераклала Ірэна Дабрыян* . . . . . . . . . . 264

*СТАНІСЛАЎ ЛЕМ*

Здарэнне. *Пераклаў з польскай Максім Валошка* . . . . 279

*ЭРЫК ФРЭНК РАСЕЛ*

Неба, неба... *Пераклаў Сяргей Міхальчук* . . . . . . . . . 305

*РОБЕРТ ШЭКЛІ*

Бітва. *Пераклаў Сяргей Міхальчук* . . . . . . . . . . . . . 314

Замежная фантастыка/Уклад. і прадм. С. Саладоў-
З-26 нікава, У. Цвяткова; Пер. А. Асташонка і інш.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 319 с.
ISBN 5-340-00278-0 (беларус.).
Зарубежная фантастыка.

У зборніку публікуюцца творы сучасных пісьменнікаў-фантастаў розных краін у жанры мастацкага апавядання і раман П. Буля «Планета малпаў».

ББК 84.4(0)

З $\frac{4703000000—024}{М 302(03)—90}$ 148—89

*Литературно-художественное издание*

**ЗАРУБЕЖНАЯ ФАНТАСТИКА**

*Составители*
*Солодовников Станислав Васильевич,*
*Цветков Владимир Николаевич*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ЗАМЕЖНАЯ ФАНТАСТЫКА**

*Укладальнікі*
*Саладоўнікаў Станіслаў Васільевіч,*
*Цвяткоў Уладзімір Мікалаевіч*

Рэдактар В. С. Сёмуха
Мастак В. А. Губарау
Мастацкі рэдактар А. І. Цароў
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар І. М. Паланейчык

ІБ № 3113

Здадзена ў набор 20.01.89. Падп. да друку 20.11.89. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 2. Гарнітура тып Таймс. Высокі друк з ФПФ. Ум. друк. арк. 16,80. Ум. фарб.-адб. 17,55. Ул.-выд. арк. 18,90. Тыраж 90 000 экз. Зак. 2185. Цана 3 р., у тым ліку 80 к.— нацэнка.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Фотанабор і вёрстка выкананы з выкарыстаннем аўтаматызаванай сістэмы перапрацоўкі тэкставай інфармацыі АККОРД, распрацаванай у УНДІПП, г. Львоў.